# *Васілъ* ЯКАВЕНКА



# Надлом



Раман

Мінск
«Беллітфонд»
2003



Радзіме,
высокім парыванням продкаў,
вольнаму духу зямлі
прысвячаю

*Аўтар*

## Пралог

Восень. Мяккі супакой у шызым сыраватым паветры, і дастаткова лёгкага подыху ў навакольнай прасторы, каб заварушыліся сцішаныя, дрымотныя галінкі дрэў і, сарваўшыся, паляцела на зямлю з клёнаў і ліп вільготнае лісце, яркае, бы выштукаванае з чыстага золата; ад мяккага, чыстага водсвету яго на душы ў прахожых рабілася ўрачыста, утульна. Разам з тым, чамусьці наварочваўся сум.

Па сталічным бульвары, засыпаным жаўталісцем, ішлі двое, калі не лічыць аўтара гэтых радкоў. Высокі, станісты, з вусамі, на якія зверху навісала хрыбціна носа, чытаў свайго вырабу лірычныя, вершы.

Залатая завіруха
Замятае маю скруху,
Ды сцяжынкі замятае,
І лісцё на дрэвах тае.

Другі ж, ніжэйшы і таксама зграбны, не быў ні філосафам, ні паэтам, а толькі, як і першы, меў цікаўнасць да ўсяго — працаваў у навуковай установе геолагам. Абодва — мае прыяцелі; навуковец, праўда, гаварыў па-руску ў адрозненне ад паэта.

— Калі прыкінуць, колькі разоў на вяку во гэтак ахвяравальна адгарае лістота, лік падасца не такім і значным. Бо што такое сто разоў лісце апала або — нават пяцьсот! — казаў зварушліва першы, яго звалі Лявонам. — Пяцьсот ліставеяў ад жыцця нашых продкаў у сярэднявеччы! Мо сем, мо дзесяць пакаленняў адсыпалася. А там жа ў дзяржаве быў росквіт і, як вядома, прававой мудрасці — больш, чым нам на долю прыпала.

— Але ж, але ж, — пагаджаўся прыяцель, які, што казаць, не так багата і ведаў з мінулага краіны, у якой нарадзіўся, як што ў гады ягонай асветы, узмужання не было прынята корпацца ў радаводзе, у гісторыі сваёй зямлі, сваіх продкаў.

Ды Лявон шырыў тэзу:

— Здзіўляе, браце, не столькі розніца ў мысленні, хоць і гэта важна, колькі тое, што адбылося ў характары цывілізацыі наогул. Раней дзяржава дзяржаву гвалтавала — дзялілі і ніяк не маглі падзяліць тэрыторыі. Ці ж не на Гітлеры эпоха падзелу скончылася?

— Не, бадай... Яшчэ не-не, дый назіраюцца рэцыдывы ў Злучаных Штатах, — заўважыў навуковец Максім.

— Магчыма... Толькі ж цяпер час якасна іншага імпэту, які завецца глабалізацыяй. Над усімі дзяржавамі пачынаюць браць верх ліхвяры, мульцібанкіры, узброеныя навейшымі інфармацыйнымі і іншымі тэхналогіямі. Цяпер кампаніі здзіраюць скальп з народаў.

— Удакладнім: скальп з якіх народаў?

— З усяго чалавецтва.

— Дапусцім...

— Час чырвонаскурых індзейцаў прайшоў. Толькі для транснацыянальных кампаній усе людзі — індзейцы з прэрый!

— Так, згодзен, і мы не выключэнне! Мы нават свядома пэцкаем сябе ў чырвоны колер — героі! — адрэагаваў на высокай ноце спадар геолаг. — Я, між іншым, колькі тыдняў нашу з сабой газету. У ёй інфармацыя з амерыканскіх крыніц. Дзейнічае сусветны, так бы мовіць, урад — клуб Бельдэрбергераў, дзе за некаранаванага караля — трылліянер Барух. Клуб валодае львінай доляй багаццяў на нашай планеце, здратаванай хцівымы гаспадарамі. У клубе 63 залатыя галавы і сярод іх адна рыжая — з Расіі. Як вам гэта падабаецца?

— Эй-ей! Мяркую, аднак, што гэта толькі для нас навіна, а там, за акіянам, — сакрэт палішынеля. Тары-бары!.. Бачыце, у які бок свет пайшоў. Цяпер кампаніям, якія трымаюць грашовую плынь у сваіх руках, наогул не трэба валодаць калоніямі. Ім дастаткова ў той ці іншай краіне выклікаць крызісную сітуацыю і ўжо, «дапамагаючы», завалодаць прадпрыемствамі, нетрамі, шляхамі зносін, трубаправодамі... Сюды, на Беларусь, ужо цягнуцца шчупальцы спрутаў, з усходу...

— Шаноўныя! — слухаючы заўзятую шчырую гаману, я ўставіў у размову свой грош: — Ад шкодніцы-глабалізацыі, бадай, ёсць адзін паратунак — з’яднаны народ, яго пракаветная сацыякультурная або духоўная спадчына! Не выпадкова ж ЮНЕСКА прыняла Усеагульную Дэкларацыю аб культурнай разнастайнасці, якая спрыяе абароне кожнай краінай сваёй са-

мастойнасці, самавітасці — культуры, мовы, калі хочаце, нацыянальнага характару.

— Спрыяе... — Лявон уставіўся на мяне сваім асціста-выправавальным паглядам: — Спрыяе... Яно добра, калі ёсць каму спрыяць! А нам, пасля ўсяго, што прарабілі з нашым народам, патрэбна сур'ёзная рэканструкцыя храма духоўнай культуры або, як мовяць палякі, направа быту, чым мы з нашымі маргіналамі ад культуры ніяк не можам заняцца.

І, звяртаючыся да Максіма, паэт прадэкламаваў:

У хворым асляпленні
Мы йдзём да выраджэння.
І скажуць, як аб прусах,
Пра зніклых беларусаў.

— Ці ж не так?.. — спытаўся ён.

— Пэўна... — пагадзіўся я.

— У мяне ёсць кніга Гумілёва, — Максім прыпыніў крок, разглядаючы яркі, захапляючы, сатканы з апалай лістоты дыван. — Гумілёў піша пра старажытныя плямёны ды не абмінае ўвагай і нас. У беларусах ён бачыць самавітае старажытнарускае, варта толькі падкрэсліць — не расейскае, а наша племя, якое, мала змяніўшыся, сягнула ажно ў XXI стагоддзе. Яго не закранулі, прынамсі, не згвалцілі і не разубожылі ні орды з поўдня, ні нямецкія рыцары, якіх разбілі пры Грунвальдзе. Я думаю, дарэчы было б сказаць, што і палякі яго не растварылі...

— Так-так! Расейцы таксама! — жыва падтрымаў нітку размовы Лявон.

— Але ж Гумілёў карыстаецца тэрмінам «пасіянарнасць», што азначае высокі дух, нацыянальны ўздым, перыяд актыўнай творчай рупнасці. Ён падводзіць да думкі, што Беларусь дажыла да сваёй мемарыяльнай фазы як старажытнарускі запаведнік.

— Адным словам, ад народа, дзяржавы, культуры застаўся гістарычны рэлікт?..

— Але ж... Пасіянарнасць згасла, як згасае гук закранутай, піша ён, струны.

— Не паверу! — катэгарычна заявіў Лявон. — Яна мо прыціхла? Пэўна! Дый то не сама па сабе. Бо колькі разоў ліхадзеі, ворагі нашы, рэзалі, рвалі тонкія струны, а яны ж узнаўляліся і гучалі па-новаму. Прыгадайце пачатак дваццатага стагоддзя, асабліва парэвалюцыйныя і савецкія гады, дый не толькі...

Навуковец Максім глядзеў на паэта ўніклівым позіркам. Ён, пэўна, радаваўся Лявону і спачуваў, спачуваў і зайздросціў, бо, калі шчыра, сумаваў таксама па нацыянальнай направе, па мове, з якой знаўся ў дзяцінстве і ад якой потым у рускамоўных вучэльнях адвык ды больш не насмельваўся да яе вярнуцца, як і багата хто з беларусаў, прычым пачуваў Максім сябе

ніякавата, не тут будзь сказана, бы ў скуры здрадніка. Гэтакае адчуванне ўзрасло, узмацнілася, калі ён вычытаў у Гумілёва, што у слова «нацыя», уласна, паходзіць ад лацінскага — нараджэнне, у літаральным сэнсе: нараджэнне мовы і тэрыторыі. От што ёсць нацыя! Таму цяпер, так ці інакш адмаўляючыся ад роднай мовы, ён здраджвае сваёй зямлі, сваёй нацыі, ператвараецца ў маргінала. Гэткае ўяўленне ў яго ішло з падсвядомасці.

Я разумеў сваіх дружбакоў, аднаго і другога, і, калі Лявон, шукаючы лагоды ў душы, чытаў свае вершы, мне раптам легла на думку, што тэма нашай гутаркі заўжды была блізкай і зразумелай багата каму з беларусаў, хвалюючай і балючай. Нездарма ж вядомы ваявода і дзяржаўны дзеяч сярэднявечча, а яшчэ публіцыст і, пры ўсім, староста Оршы Кміта-Чарнабыльскі ў сваіх лістах да суайчыннікаў закранаў уласцівае ім прастадушша, памяркоўнасць, залішнюю даверлівасць і недаацэнку небяспекі з боку хіжых людзей. Уважаючы на гэта, ён ускліквау: «Ото, государю пане, от таковых бед люди топятса! Ото с таковых нендз давятся! Ото с того в неволю даются!»

Тэма нязжытая, нязношаная, яна хвалявала і будзе хваляваць у пэўнай меры і герояў рамана «Надлом». Яна па-свойму адлюстроўваецца ў мастацкай тканіне твора і, спадзяюся, не пакіне раўнадушнымі чытачоў. Няхай бы!

А Лявон тым часам чытаў:

Бывае, што неспадзяванку
Ці то ўвечар, ці то ўранку
Боль ціха сэрца працінае
І сэрца весці пачынае
З табою даўнюю гаворку.
І мне тады бывае горка...
.................................
Зямлі маёй крыжы і крылы,
Вас столькі многа, што хапіла б
На больш вялікія дзяржавы!..
Хто сёння мы? Дзе наша слава?



## Частка першая

### 1

Ёй апладзіравалі, і не паспеў твар жанчыны асвяціцца радасцю, як аднекуль знутры ў яе ўзнялася новая, гарачая хваля, напоўніла сэрца, ахапіла ўсю. Пачуцці змяшаліся, і акуратная сцішаная зала людзей, што належалі да ўплывовай суполкі Rotary Club, паплыла перад вачыма.

— Ах, дзедусь, дзедусь...

Не ведаючы сама, ці то на поўны голас, ці толькі ў думках прамовіла яна:

— Ах, дзедусь-дзедусь, каб жа ты мог пабачыць, якая доля выпала тваёй унучцы, якога гонару выстрачыла ёй!

Узрушэнне ад нечаканага наплыву гаркаты, неспатоленай крыўды, узноўленай абразы ды замілавання сабой было такім моцным, што зазнаўшая поспех спадарыня не стрымала слёз, а яе самаздаволеныя слухачы, якіх у гэтай чужой ёй краіне цяжка было чым-небудзь расчуліць, ажывіліся, паўставалі з месцаў, рушылі да невысокай трыбуны, за якой яна выцірала вочы хусцінкай. Даклад «Аб прафілактыцы сардэчна-сасудзістых захворванняў» і пытанні, якія ёй задалі, бадай, былі вычарпаны. Дакладчыца глыбока валодала тэмай і выявіла ў сабе добрага кардыёлага. Ім жа, спрактыкаваным у жыццёвым гармідары піцбуржцам, цікавымі падаліся думкі наконт найбольш распаўсюджаных прычын захворванняў і іх магчымага папярэджвання ў гэтай акрузе. Аднак не былі б яны, бадай, сапраўднымі амерыканцамі, калі б не ўбачылі ў ёй дзіўную асобу, прастата, шчырасць і пранікнёнасць якой, пэўна, пераходзілі ў чуллівасць. Таму і слёзы , загадкавыя слёзы, што перапоўнілі чашу экзальтаванай жаночай душы.

Марыя Дзямковіч гаварыла па-ангельску з няпэўным славянскім акцэнтам у голасе:

— Прабачце... Найшло... У вас такая адметная і вольная краіна! А я... я згадала сваю і не стрымалася... Зразумейце мяне.

— О'кэй! — сказаў ёй, усміхаючыся, кіраўнік клуба, высокі лысаваты мужчына з чорнай бародкай. — О'кэй, доктар Дзямковіч, сэнк'ю!

Ён галантна схіліўся і пацалаваў ёй руку. Той-сёй з ягоных калег зрабіў тое самае. Ушанаваная дакладчыца страчвала рэальнасць, бо ўсё цяпер нагадвала сон. Жанчыны стараліся даўжэй затрымацца каля яе, каб найлепей разгледзець і словам-паўсловам аддзячыць або выклікаць на нейкую новую гаворку. Некаторыя звалі яе проста: доктар Марыя, або яшчэ прасцей — Мэры...

Марыя Дзямковіч нарэшце справілася са сваёй расчуленасцю, млявасцю, што конча апанавала ёй у нейкую хвіліну, і таму не кінулася прэч адсюль, з вачэй адукаванай публікі, як у роспачы хацелася зрабіць, каб не паказаць сваіх слёз, сваёй слабасці, — усміхалася пакаянна, зычліва. Урачы бачылі на энергічным і прытомленым твары сваёй калежанкі водсвет трапяткога агню; больш за тое, таму, хто хоць раз сустрэўся з ёй позіркам, рабілася ўтульна і хораша — як пасля прычасця.

— Доктар Марыя, — прагучаў голас спагадлівай місіс няпэўнага веку, пра якую Дзямковіч ведала, што яна псіхіятр, — нам сказалі, што ты прыехала з Польшчы, там застаўся родны дом. О, ён заўсёды цяплейшы за астатнія... Праўда?

— Шур! — нейк машынальна адказала яна, што на іхняй мове азначала: «пэўна!» Я ў Польшчы вучылася, і там засталіся мае маладыя гады. А цяпер — не схлушу — мне і тут добра. Сэнк'ю! Я ўдзячная вам, удзячная гэтай краіне. А ўвогуле мой родны кут, пра які вы кажаце, яшчэ трошкі далей — на ўсход ад Польшчы.

— Рашэн... Русь... Расія? — выказалі слухачы здагадку, і мала хто, акрамя псіхіятра, напэўна, мог заўважыць, што па мяккім і вабным твары місіс Дзямковіч прамільгнуў цень.

— Но-о, — пахітала яна галавой і прамовіла пасля паўзы з пэўным напружаннем у голасе: — Белая Русь... Не ведаеце?.. Беларусь — мая радзіма.

Разыходзіліся. Ніхто са слухачоў, сярод якіх былі і жанчыны-дакторкі, не задумваўся лішне, чаму ў іх не

ўзнікла адмоўных пачуццяў, напрыклад, зайздрасці, рэўнасці да місіс Дзямковіч, пры яе такім поспеху ў калег ды вабнай паставе, гожым абліччы...

А яна сваім сэрцам угадвала гэты агульны мілажальны настрой, прыхільнасць да сябе, і сэрца соладка замірала. Толькі ж калі прыехала да свайго невялічкага муру ў два паверхі, паставіла машыну ў гараж пад домам і паднялася ў пакой — ад святла ўвесь інтэр'ер, лад пакаёвы зайгралі і ўразілі, яшчэ раз падкрэсліваючы яе самавітасць; успамін таго дня вярнуўся і вярнуў Марыю ў далёкую вёску, дзе прайшло дзявочае дзяцінства і дзе пад дзедавымі ласкавымі далонямі ўпершыню праклюнулася і пайшло ў рост каліўца яе годнасці, гонару. Там не было межаў марам ды волі вольнай. Там усё цвіло, і яна пачувала сябе так добра. На сэрца зноў нахлынула хваля, ад якой днём яна ледзь-ледзь не захлынулася.

— Ах, дзедусь-дзедусь, каб жа ты быў жывы і паглядзеў на мяне!

Прабегшы міма вялікай шкляной рэчы — трумо, спадарыня Марыя кінула туды вокам і заўважыла ў ім сябе і як бы не сябе нават, а свой цень, які незалежна ад яе мільгануў воддаль. Уткнулася ў падушку і заплакала горка, наўсхліп. Ды не заўважыла, як і заснула і апынулася далёка-далёка адсюль, на зямлі або, хутчэй, над зямлёй, якая ляжала зялёным дыванам паміж Польшчай і Расеяй. Улетку тая зямля вабіла, захапляла, чаравала кветкамі, духмяніла імі, буяла імі, а ўзімку спачывала пад белым пульхным покрывам, ахутвалася ў серабрысты іней, убіралася ў такія адмысловыя строі да самых апошніх галінак дрэў, да вільчыкаў хат і пела, пела; яна пела звонка і тужліва ў трыснягах над возерам і пад стромкімі палазамі саней.

Марыі трызніўся дух дзеда Пятра, які належаў цяпер і гэтай зямлі і так званаму Космасу ў аднолькавай меры. Ён як бы растварыўся ў шырокай і бясконцай прасторы, якая насіла ў сабе адкрытыя звесткі пра ўсё малое ў вялікім і — наадварот. Тым часам ягоны дух існаваў і сам па сабе, адрозна, адасоблена. Ён меў звычай набліжацца ўсутык да зямнога асяродку і свайго былога котлішча, нават апускаўся на грэшную зямлю, калі чуў, што там дзеецца нешта лёсавызначальнае, азоранае, боскае, што адпавядала ягонаму разуменню, нахілу, рытму, характару. Дух дзеда любіў назіраць, як творыцца нанова жыццё, якое

ён таксама тварыў, атабарыўшыся ў целе селяніна Пятра. Некалі яму, духу, пашэнціла на гэткае зграбнае цела, у якім кожная жывая кропелька пасылала імпульсы ўсведамленню, душы, і, можа, дзякуючы такому сугуччу ў органах, у арганізме Пятра не было ні сучка, ні задзірынкі — кроў па жылах ішла — аж звінела. І яму, духу, які так гарманічна быў спалучаны з целам і меў свой пракаветны інтарэс да добрага ладу ў жыцці, нахіл да сялянскае працы, вельмі ўцешна рабілася ад шчырага ўпыну Пятра — працы рук, сэрца, розуму, якая прыносіла задавальненне і някепскі прыбытак, надавала акрасу зямлі. Усцешна рабілася духу, бо ў стоме цела Пятра Рамановіча адчувалася слодыч. У сваёй стараннасці, рупнасці, зрэшты, абагачаўся не толькі ён, селянін, носьбіт духу, але і сам дух, які атрымліваў і зашыфроўваў у коды ўсю інфармацыю для ўжытку яе ў іншай прасторы.

Калі ж нечакана, з прычыны гвалтоўных абставін, самавітаму селяніну Пятру давялося развітацца з душой, ён зашыфраваў і перадаў кудысьці ў адзіную кропку Сусвету трывогу — трывогу за творцу, за чалавека, яго жыццё, ягоную сялянскую рупнасць, без якой зямля страчвала шмат у сваёй жывой матэрыяльнай і надматэрыяльнай красе. Але ж падобнай інфармацыяй Космас поўніўся і без таго ад краю да краю. Там ужо выспявала парадыгма пэўных змен акалічнасцей праз настрой, учынкі, парыванні людзей.

Пятроў дух быў абражаны і ўзбураны адначасова. З гэтым непамысным і страхалюдным для сябе набыткам ён падоўгу стаяў на тым самым месцы, дзе абарвалася нітка жыцця і цела асунулася, і там, на мотальскіх кладах, ля зямнога грудка — стаяў і стаяў нябачны, самотны і разам з тым неадрынуты зямлёй, сваякамі і іншымі жыхарамі мястэчка. Стаяў і стаяў не раўнуючы, як салдат у ганаровай варце.

У яго, вядома, не было аніякай ахвоты пакідаць куток, дзе жывы, зямны, адліты з плоці Пятро самахоць (і так хараша) разгарнуўся ў працы. Ён шкадаваў Пятра, шкадаваў зямлю, на якую Пятро ўпаў, не развітаўшыся ні з сям'ёй, ні з аколіцамі. Пэўны час яшчэ дух бадзяўся па полі, у дуброве, на пасецы і, вядома ж, каля хаты, у самой хаце, змайстраванай умелымі, дужымі і спрактыкаванымі рукамі Пятра. Ад гаспадара скрозь там нешта-такі заставалася і з ім спалучалася.

Неаднаразова і настойліва ён уваходзіў у свядомасць жывых. Ён з'яўляўся ў снах да сваёй жонкі Аксінні, мала таго, завінуў да яе на другі ж дзень пасля хаўтур разам з Паўлюком, іхнім сынам, таксама нябожчыкам, цела якога, як і яго цела, знайшло свой апошні прытулак пад адным грудком. Аксіння, якую не пакідалі роспач і страх, не ведала ўжо да якіх сцен прытуліцца, бо свой дом для яе ўсё болей атаясамліваўся з дамавінай. Аксіння ўспрыняла сон як знак увагі з боку мужа і сына — нябожчыкаў, — як позву туды ж, у іншы свет. Прыбітая горам, яна і рада б да іх сторч галавой кінуцца. Ды — як, і — навошта?.. Людзі раяць уцякаць адсюль, з роднага сяла, дзе брат брата не памятае і сам д'ябал, відаць, навучае пілаваць адзін аднаго. Хто ведае, што яшчэ лёсам наканавана ёй? І, тоячыся ад лішніх вачэй, Аксіння пайшла ў царкву, паставіла свечку на спачын душы Пятра, свайго чалавека, потым свечку за душу Паўлюка-сына, потым яшчэ сваякоў, Паўла і Мікалая Міховічаў. Шкадуючы, памянула іх ды слязьмі ўмылася, просячы супакаення, спачыну вечнага іхнім душам. Няма што радня, а нягожа мёртвым падоўгу затрымлівацца каля жывых, углядацца і спрабаваць нешта ўцяміць — перажываць. На тым свеце павінен быць вечны спачын і толькі. Інакш ні тут, ні там не будзе ратунку.

Зусім інакш аднеслася да з'яўлення свайго дзеда ўнучы яна — вясковая ластаўка, па словах бабулі, — чарнавалосая трынаццацігадовая Марыя (дома яе звалі Маняй). Маня прачнулася радасная, бы вясельны гармонік, лёгкая, бы пушынка, -— здавалася, каб маці падзьмула на яе — узляцела б угору! Узнёсласць Маніных пачуццяў тлумачылася тым, што да яе завітаў дзедусь, а разам з ім — і светлае-прасветлае, шчаслівае дзяцінства, якое было ўлятучылася ў ліхую гадзіну.

Вядома, святочныя пачуцці і мроі Мані былі зманлівымі і нядоўгімі, яны неўзабаве змяніліся іншымі пачуццямі, супрацьлеглымі тым — крыўдай даўкай, сумам, слязьмі. І ўсё ж Маня была ўсцешаная, бо пасля таго жахлівага растання да яе з'явіўся дзед-нябожчык і, як бывала раней, паклікаў яе на сваё поле, дзе рос лён, павёў па знаёмай сцяжыне на пасеку.

## 2

Для гожай маталянкі падзеі ў яе родным кутку бытта спыніліся на тым трагічным моманце, калі зямля раптам рушыла са сваіх асноў, з векавечнага свайго падмурку і пайшла з-пад ног у людзей, не пакідаючы ўжо ні ёй уласна, ні радзіне нічога ні для тагачаснага дня, ні для будучыні. Тады ўсё-ўсё ў бурнай плыні неслася кудысьці ў мінуўшчыну.

Дзеўка, між тым, помніла сваю зямлю, сваю згубленую ў віры вайны Атлантыду і аднаўляла ў памяці найбольш яркія малюнкі жыцця. Унутраным зрокам яна аналізавала местачковы побыт, перажывала карціны па-новаму і старалася тут жа забыць іх, бо душу агортваў жах — зноў і зноў... І праз гэты страхалюдны набытак яна ітавала свой лёс з лёсам роднай зямлі і міжволі скіроўвала да яе свае думкі.

Дзед Пятро на векі вякоў асталяваўся там, і ад таго, бадай, нарасталі яе роспач, адчай. Яна глядзела на жыццё вачыма свайго дзеда. О, як тут ні дзівіцца, але гэта было іменна так... Адным жыццём жылі. Урэшце, іх вачыма зямля-матухна глядзела на сябе, бо ў гэтых іхніх удумлівых, добрых, немітуслівых вачах было ўсведамленне сябе і зямлі як адзінага цэлага.

Яна і ён, унука і дзед — як пачатак і канец, — памяталі багата чаго з таго, што ў свой час ім на вочы трапляла. Зямля ж памятала ўсё, што дзеелася з ёй і з людзьмі; у яе памяці фіксавалася кожная кропля энергіі, асабліва калі тая энергія штосьці значыла, калі ўтварала і тварыла, калі ўзварушвала і кратала з месца што-небудзь.

Местачковец, земляроб Пятро Рамановіч, або як яго звалі яшчэ — Пісарчук, чытаў кнігі і разумеў іх карысць у назапашванні ведаў. Адначасова ён усведамляў, што чалавеку не ўсё дадзена ў спасціжэнні свету, і адзін пранікае ў таямніцы глыбей, цяміць больш, другі — менш. Нехта ж надзяляе людзей здольнасцямі, ды не ў аднолькавай меры.

Пятро Рамановіч здагадваўся аб наканаванасці жыцця, аб існаванні, так бы мовіць, інфармацыйнай карты падзей, якую ці не сам Усявышні трымае ў сваіх руках. Молячыся ў царкве і дома, ён прасіў Бога аб ласцы даць яго сэрцу і розуму сілы, каб спасцігнуць сутнасць рэчаў глыбей, дайсці да першапрычыны. «Даруй мне, Госпадзі, калі ў тым мой грэх», — казаў ён і пільна ўглядваўся ў свет навакольны.

Зямля глядзела на сябе вачыма Пісарчукоў, вачыма маталянцаў, а яны — народ даходжы, дапытлівы, кемны і за вялікую ўдачу для сябе лічаць тое, што ў часы ўтрапёнага сярэднявечча, недзе блізка 1518 года іх заўважыла найвыдатная жанчына Бона Сфорца, якая брала што сваёй прыгажосцю, што абыходлівасцю і розумам. Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы Жыгімонт I перадаў ёй, каханіцы, ёй, мілавіцы Боне, пінскія і тураўскія землі, вядома, разам з Моталем, што варушыўся між Пінскам і Яновам.

Што ведаў пра гэта яе дзед Пятро Рамановіч?

А ён ведаў, канешне, што ў маёнтку пана Канстанціна Скірмунта, таго самага пана, які пэўны час працаваў міністрам замежных спраў Польшчы і амбасадарам у Лондане, захоўваліся два наўздзіў яскравыя і важныя дакументы. Іх спадар Скірмунт рэдка выцягваў з архіва, каб пахваліцца каму-нікаму, але ж аднойчы выцягнуў і паказаў руплівцу Пятру Рамановічу, які ў чарговы раз прыехаў да яго ў маёнтак — прывёз прачытаныя кнігі і прасіў новыя. Зрэшты, дзед Пятро меў таксама бібліятэку, толькі ж яе не параўнаць было з панскай, дзе шмат чаго траплялася па прыродазнаўству і гісторыі.

Дык у адным дакуменце дэкляраваліся правы на вольнасць, якімі «Гаспадар Вялікага княства Літоўскага» надзяляў маталянаў. Згодна з гэтым дакументам Моталь належаў непасрэдна вялікаму князю, меў сваю самаўправу і паншчыны не адрабляў, выплочваў адно падатак Гаспадару. Такім чынам, маталяне набывалі пэўную незалежнасць, як што вызваляліся: ад феадальных павіннасцяў, ад суда, ад улады ваяводаў і старастаў, у цэлым — ад варункаў і жарсцей прыгонніцкага ладу, уціскаючага навакольныя вёскі. З тых часоў, займеўшы столькі гонару, тутэйшыя местачкоўцы-шэльмы перасталі нават сялянамі сябе называць.

Магдэбургскае права, якім па пратэкцыі каралевы Боны быў надзелены Моталь, спрыяла развіццю ў мястэчку рамесніцтва і грашова-таварнага абмену, ажыў, як ніколі, кірмаш. Людзі, няйначай, спаборнічалі паміж сабой ва ўменні жаць, прасці, ткаць, вырабляць скуры, класці печы, будаваць што заўгодна, хутка і хораша, ды яшчэ і співаць свае песні.

У другім манускрыпце была засведчана адна з паездак каралевы Боны ў Літву (Беларусь). Відавочна, ездзіла яна, кіруючыся не столькі ўласнымі, колькі вышэйшымі

дзяржаўнымі клопатамі. Яна падарыла мотальскай праваслаўнай царкве абразы «Маці Боскай» і «Нараджэння Хрыстова».

Па дарозе назад, у Варшаву, высокая пані спынілася начаваць у мотальскай карчме, робячы гонар тубыльцам. Напэўна, і потым, падарожнічаючы па ўсходніх землях, дзе жылі беларусы, яна заязджала ў Моталь — шляхі ж дазвалялі і мястэчка яе вабіла, захапляла майстэрствам, імпанавала ёй нават знешнім абліччам людзей. На той час маталяне абуваліся не ў пасталы, як сяляне навакольных вёсак, а ў чобаты і чаравікі, і гэта дадавала ім самавітасці, годнасці. Паводле таго ж дакумената, каралева Бона пасяліла тут, сярод маталянаў, некалькі сем'яў сваіх суайчыннікаў з Італіі (сама італьянка). Адсюль і выводзяцца прозвішчы Палто, Кульбеда, Шыкалай ды іншыя, якіх нідзе ў навакольных вёсках больш не пачуеш. А ўвогуле ўсе прозвішчы мотальскага люду канчаюцца на іч: Данілевіч, Мацукевіч, Міховіч, Райкевіч, Стасевіч, Жыховіч, Рамановіч... Выключэнні рэдкія.

У гісторыю краіны пані Бона Сфорца ўвайшла як апякунка вялікакняскай казны, у якую яна перадала нават свой гардэроб (дакладна: 28 сукенак з парчы і 18 з аксаміту, 96 чэпчыкаў, увітых залатымі пазументамі і каштоўнымі камянямі). Праз суд яна адабрала ў магнатаў і перадала таксама ў казну незаконна прысвоеныя імі землі. Па яе ініцыятыве ў Вялікім княстве Літоўскім была праведзена зямельная рэформа, што атрымала назву «Устава на валокі».

Як прыкмету і досвед тых далёкіх часоў, калі амаль казачная каралеўская дама кіравала тутэйшымі землямі і мела зносіны з Моталем, рыначная плошча доўгі час захоўвала назву: Пляц крулевы Боны. І яшчэ да нядаўніх часоў настаўнік, пачынаючы першы ўрок у першым класе мотальскай адукацыйнай школы, дэманстраваў вучням Грамату аб наданні Моталю Магдэбургскага права ды распавядаў ім пра каралеву Бону, пра гонар і славу іхніх продкаў.

## 3

А час валок за сабой чараду падзей, дакладней, ён крочыў падзеямі, і чалавек імкнуўся заўжды ці то ўхіліцца ад іх, калі яны неслі яму штосьці пагрозлівае, ці то

прынаровіць іхні ход да сваіх патрэб, унесці ў жыццёвы калаўрот часцінку сваю.

У далейшым руху падзей у Моталі немалаважную ролю адыгрываў Манін бацька — Барыс Рамановіч, сын Пятра і Аксінні, іх першынец. Барыс рос кемлівым і дужым хлопцам, праўда, той пракаветнай прыцягальнай сілы і ўлады, якую зямля-матухна мела над Пятром, яго бацькам, ён чамусьці не зведаў; зямля не займала аніякага месца ў сэрцы і думках местачковага урвіса, блазна, які глядзеў паверх галоў сваіх аднавяскоўцаў. Але ж і ён час ад часу мусіў дапамагаць бацькам упраўляцца з гаспадаркай, асабліва калі хадзіў кавалерам. Араў, сеяў... Свой абавязак перад бацькамі выконваў спраўна, як і малодшы брат Паўлюк — гэткі пеўнік, гарачы, задзірлівы. Адным словам — браты, толькі замесу неаднолькавага.

Зрэшты, тут патрабуецца тлумачэнне. Пракаветны сялянскі лад і рытм у сям'і, а дакладней, у мотальскай сядзібе Рамановічаў, быў рана парушаны вайной, што атрымала назву Першай Сусветнай, а потым — эвакуацыяй у глыб Расеі. Сыны Пятра і Аксінні, на малалецтва якіх выпалі тыя прыгоды і выпрабаванні, як вядома, не пасвілі кароў, не таптаралі голымі пяткамі раллі і не атрымалі паўнацэннага сялянскага выхавання.

Пісарчукі-Рамановічы вярнуліся ў Моталь ажно ў 1922 годзе, калі заходняя Беларусь ужо была пад Польшчай.

Іх сям'я не належала да жабрацкіх. Пятро Рамановіч служыў у царскай арміі і за службу атрымліваў золатам. Пад час падзей 1917 года і Грамадзянскай вайны працаваў на дробных промыслах недзе ў Ніжнім Паволжы, пра што больш дакладных звестак у нашчадкаў не захавалася. Сям'я мела грошы, і старэйшы сын Барыс вучыўся ў гімназіі. За ім пацягнуўся і малодшы.

Там, у Расеі, нягледзячы на свае маладыя гады, Барыс успрыняў ідэі бальшавікоў і стаў прыхільнікам сацыялізму. Пераезд сям'і на Радзіму з Паволжа не столькі цешыў, колькі засмучаў хлопца. Ён шкадаваў гімназію, рэарганізаваную ў школу, і потым неаднойчы папікаў бацькоў за тое, што не дазволілі яму завяршыць навучанне. У Моталі ж учарашні гімназіст знайшоў сабе аднадумцаў, сярод якіх асаблівым імпэтам вызначаліся былыя салдаты, франтавікі, у іх ліку і Пятро Мінюк, былы камісар спецатрада Чырвонай Арміі. Разам стварылі камуністычную спулку (суполку), у якой Барыс выконваў абавязкі казна-

чэя. Іхняя групоўка фармальна ўваходзіла ў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, якая на той час з'яўлялася дахам для многіх падобных суполак. Людзі шукалі сувязяў з падпольнымі групамі навакольных вёсак і далей — у Янове, Пінску. Рухала імі жаданне выпрацаваць адзіную тактыку дзеянняў супраць польскіх уладаў і дамагацца ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй, камуністычнай.

Нашай Беларусі ў набліжэнні да дваццатых гадоў, мусіць, самі планеты прадвызначалі стаць цэльнай і суверэннай дзяржавай, а сталася наадварот. І свет адно з гэтага мог спачуваць беларусам.

Тутэйшым патрыятычным сілам паспрыяў II з'езд Камуністычнай партыі Польшчы, які адбыўся ўвосень 1923 года і прызнаў правы беларусаў (таксама, як і ўкраінцаў) на вызваленне з-пад улады польскага каланіяльнага рэжыму. Гэты з'езд, да гонару камуністаў-палякаў, блаславіў уз'яднанне нацыянальных зямель. Адначасова была ўтворана Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Такім чынам, польскія камуністы кінулі выклік сваім самаўпраўным панам-заваёўнікам, якія праглі вялікай дзяржавы.

Барысу гэта не магло не легчы на душу. Гэта дадавала штосьці істотнае да справы, якой ён самахоць займаўся ў камуністычай спулцы, з'яднанай і дружнай.

Камуністы наважваліся справядліва і шчыра вырашыць найперш нацыянальнае пытанне і выбавіць народ ад прыгнёту польскіх паноў, затым яны дакляравалі нямала такога, на што проста адгуквалася спакутаваная сялянская душа, і ў ёй запальваўся агеньчык надзеі.

Барыс бачыў, як мяняецца выраз твару ў сялян-местачкоўцаў, калі Мінюк, ці хто іншы з суполкі, чытаў ім улётку «Далоў акупантаў-грабежнікаў!», і хоць той лісток быў выдрукаваны далёка-далёка, у знаным горадзе Вільні, яго ны змест браў кожнага за жывое, як што ў Крэсах людзі скрозь жылі аднолькава і за хлеб уважалі мякіну. Праўда, каб не браць грэх на душу,— маталянаў крыху выручала рамесніцтва і гарт, набыты з часоў Магдэбургскага права. Аднак і гэта не ўсім грэла душу.

*Пяты год стогне наш край. Пяты год наёмныя наезнікі гвалтуюць, рабуюць працоўны народ Заходняй Беларусі.*

*— Прадай усё, што маеш!*

*Хіба, можа, праўда, дабраахвотна аддаць сваю карову, каня і ўвесь свой убогі скарб, адракаючыся ад свае гаспадаркі і, адзеўшы торбу, ісьці на паноў, біць іх, паліць іх, катаваць іх?*

*А падаткі тым часам сыплюцца і сыплюцца, як град на галаву, дзень за днём павялічваюцца і канца-краю не відаць.*

*Бяднейшыя сяляне і работнікі, а разам з імі і сярэдняе сялянства ўсё больш і больш пераконваюцца, што няма іншага выйсьця як толькі рашучая, бязлітасная барацьба з акупантамі.*

*Але як яе весьці, як бараніцца ад цёмнае хмары грабежнікаў?*

*І вось пачаўся стыхійны байкот падаткаў. Цэлыя вёскі і гміны перасталі плаціць!*

*— Ня можам плаціць, ня будзем плаціць, ня хочам плаціць!*

*— Бо нават, каб і «хацелі», то няма з чаго.*

У той жа час асаблівай увагай у паняволеных сялян Крэсаў Усходніх карысталіся аповесці, легенды і байкі пра чыннасць саветаў, пра эканамічную і культурную палітыку, што звалася на тым баку НЭПам. Маталяне нярэдка атрымлівалі важную інфармацыю амаль з першых рук — ад сваіх хадакоў у Савецкую Беларусь. Хведар Філіновіч, напрыклад, некалькі разоў пераходзіў польска-савецкую мяжу і прыносіў пракламацыйную літаратуру. Тое ж рабілі Ян Мацукевіч і іншыя.

З афіцыйных крыніц вынікала, што за саветамі сяляне павялічылі надзелы на чвэртку і што серадзнякі, якім належыла да 60 працэнтаў фермаў і блізка 70 працэнтаў ворнай зямлі, абрасталі дабром. Колькасць іх множылася, і яны ўтваралі асноўную сілу ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Абкладвалі іх падаткамі мякка, у адрозненне ад польскай дзяржавы, дзе выплочваць даводзілася як не за кожнае курынае яйка. Гэтак саветы стымулявалі працу сялян.

І яшчэ паведамлялі хадакі: у сталіцы Беларусі — Менску і іншых гарадах утвараліся нацыянальныя ўстановы культуры. Дарэчы, разам з беларускімі, казалі, працуюць польскія і яўрэйскія школы. Вучацца таксама дарослыя... Словам, навідавоку было: як воля ў працы і выбары шля-

ху, так і культурнае і ўсялякае там іншае адраджэнне на землях, якія ляжалі на ўсход ад новай польскай мяжы.

Вядома, усё гэта разам абуджала ўяўленне, шыхтавала эмоцыі і аб'ядноўвала свядомых прыхільнікаў нацыянальнай вызвольнай ідэі і камуністычнага руху, клікала іх на мітынгі, дэманстрацыі, вяло багата каго далей — у турмы і на шыбеніцы.

Але пра тое, што насіў тады ў сваёй душы Барыс Рамановіч, нельга было сказаць адназначна, маўляў, юнацкая рэвалюцыйная эйфарыя, уласцівая паплечнікам у камуністычнай спулцы.

У Барыса былі палітычныя, з дазволу сказаць, апаненты, прычым, непасрэдна ў сям'і, у сваім атачэнні. Можа, таму ён часцей, чым хто з сяброў камуністычнага гуртка, корпаўся ў сумненнях сваіх і тых зазвычай негатыўных меркаваннях, якія выказваліся ягоным бацькам; той не меў аніякай прыязнасці да бальшавікоў. Дый маці Аксіння — таксама.

Пятро Пісарчук вярнуўся з Расеі ні белым, ні чырвоным, ён наогул стараўся трымацца далей ад палітыкі. Праўда, і адасобіцца ад яе, назолы, няможна было, бо яна самахоць уточвалася ці то ў сямейныя, ці то ў гаспадарчыя справы, якія рупілі і вымагалі ад яго пэўнага стаўлення.

Шчыра кажучы, на пачатку ён, адукаваны чалавек, проста не даверыў ідэі прагнага камуністычнага кіравання жыццём і, ігнаруючы яго, нават не адрозніваў партыйныя камітэты, створаныя бальшавікамі, ад саветаў: яму здавалася, што гэта — два бакі аднаго медаля, прынамсі, сплаў брыдоты з дзікунствам. І ён меў рацыю. Але ж пасля падарожжа з Самары — цераз галодную Украіну — дадому пачаў шырэй і выразней уяўляць сабе рэчы. Гэтаму спрыялі і працяглыя гутаркі з мотальскім святаром Георгіем Раздзялоўскім, які меў сваякоў на Украіне, ездзіў туды і быў сведкам некаторых падзей, што тычыліся грамадзянскай і так званай сялянскай войнаў.

Уся справа ў тым, што бальшавікі на самым пачатку дзяржаўнага перавароту, учыненага імі ў кастрычніку 1917 года ў Петраградзе, дамагаліся перадачы зямлі сялянам, а ўлады — саветам народных дэпутатаў. Таму іхнія лозунгі аднолькава вабілі сялян і рабочых, і была ў тым сіла, уга якая! Але ж саветы ўтварыліся ў Екацярынаслаўскай губерніі, у сяле Гуляй-Поле, яшчэ да кастрычніцкага пера-

вароту, і там жа 25 верасня 1917 года старшыня Гуляйпольскага савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў, рэвалюцыянер-анархіст, былы вязень царскіх турмаў Нестар Махно падпісаў дэкрэт савета аб нацыяналізацыі ўсёй зямлі ва ўездзе ды размеркаванні яе паміж сялянамі. Перакроілі зямлю ціха, мірна, без крыві. Выкананне дэкрэта прынесла славу Махно. Але рэвалюцыйныя заваёвы трэба было бараніць, і трыццацігадовы чалавек аскетычна-сувораўскага крою, чарнявы, прыгожы, узначальвае адначасова і Камітэт выратавання рэвалюцыі. Уважаючы на ягоную хуткую папулярнасць у Гуляй-Полі і бездакорны рэвалюцыйны імпэт, за ім пацягнуліся мясцовыя сяляне, матросы з патопленых караблёў, былыя афіцэры... Вайсковым атрадам колькасцю ў 40 тысяч чалавек ён раптоўна абрушыўся на нямецкія пасты і фарміраванні. Скрышыў іх. А ў славы хуткія крылы, і неўзабаве з Кіева, каб далучыцца да Махно, выйшаў атрад анархістаў.

У снежні наступнага 1918 года армія бацькі Махно захапіла горад Екацярынаслаў і ў далейшым стала як не асноўнай стрымліваючай і балансіруючай сілай на Паўднёвым фронце ў барацьбе бальшавікоў з Урангелем.

— Богу было заўгодна, — расказваў Пісарчуку святар Раздзялоўскі, — каб Нестар Махно быў надзелены выдатнымі якасцямі атамана, ваяра ды меў вострае палітычнае чуццё. Ён адразу ўлавіў блюзнерства, падман, фальш у строі думак і дзеяннях бальшавікоў. Варагуючы з немцамі, пятлюраўцамі, нарэшце — Урангелем, Махно лічыў вялікімі шкоднікамі рабоча-сялянскай рэвалюцыі таксама і бальшавікоў. Іменна таму ён усяляк агароджваў вызваленыя ім тэрыторыі ад чырвоных, ад іхніх вірлавокіх пасланцоў — камісараў, чэкістаў, як і ад гвалтуючых насельніцтва харчовых атрадаў. Уяві сабе, як усё гэта калола ў нос шэльме Троцкаму, куратару фронта, які бачыў у беспартыйных саветах і іхнім заступніку — атамане Махно — пагрозу бальшавіцкаму рэжыму.

Пятро Пісарчук быў ўзрушаны тым, што пачуў, і ў ягоных вачах зайграў водсвет уласнага інтарэсу.

— Ці не божы промысел, бацюшка, — гэтая вайна сялян? Выходзіць, аднак, што атаман Махно не адмысловы дурань і анархіст, не бандыт з вялікай дарогі, якім яго распісвалі ў расейскіх газетах. Ён абараняў інтарэсы сялян і тут быў жорсткі і паслядоўны. Я правільна разумею?

— Так, браце Пятро. Тыя людзі, якія стаялі поплеч з Махно і багата чаго ведалі, якіх я, дарэчы, прычашчаў і спавядаў, згадвалі мне, што ён, Нестар Махно, як на духу, адкрыта, бескампрамісна, адчайна пісаў у тэлеграмах на адрас Троцкага ў Маскву: маўляў, заяўляю вам, што мой фронт застаецца нязменна адданым рабоча-сялянскай рэвалюцыі — толькі ёй, рэвалюцыі, а не ўсялякім інстытутам ды ўстановам гвалту, што ўвасабляюць вашыя камісары або надзвычайныя камісіі, тройкі і скрозь чыняць здзек.

Інтарэс Пісарчука да асобы Махно і спрычыненых ягонай дзейнасцю эпізодаў тым часам узрастаў, і ён, паціраючы рукі ад задавальнення, не ўтрымаўся зазначыць:

— Ойча, бачыць Бог, калі б надарылася і мне быць там і давялося выбіраць, з кім ваяваць, я пайшоў бы за такім павадыром! Я адстойваў бы акурат такую савецкую ўладу!

— Вось як?.. Але ж небарака Пятро не стаў ваяром! Ці шкадаваць нам аб гэтым? У Бібліі ж сказана: «...і спазнаеце ісціну, і ісціна зробіць вас вольнымі». Не думаў я, шчыра кажучы, што цябе, чыннага хрысціяніна, земляроба, лёгка ўвесці ў спакусу. Ёсць бо, ёсць і ў тваёй душы порах!

— Ёсць... ёсць мо нейкае каліва. Я мужык. Я прырос да зямлі. Як і кожны, хто ўлягае ў працу, люблю справядлівасць. Не мне гаварыць вам, што справядлівасць усталёўвае лад у душы. А што да спакусы, дык яна ж не д'ябальская, прабачце.

— То я так, для понту, як кажуць у Жытоміры.

— Шкада, што мне на свае вочы не давялося пабачыць Нестара Махно...

— Са слоў паплечнікаў, ён нагадваў хутчэй не палкаводца, а дробненькага манастырскага служку, які добраахвотна замарыў сябе пастамі. Сухі як ражон.

— Але ж такія людзі нярэдка надзелены моцнай сілай духу.

— Так. Вынослівы. Стойкі, бы табе Сувораў. Бог надзяліў яго незвычайнымі вачыма. Бацька Махно меў учэпісты і востры позірк, які не мяняўся ні калі ён смяяўся, ні калі аддаваў самыя жорсткія загады. Вочы ў яго існавалі як бы самі па сабе. Яны і вызначалі знешне ягоны характар, асобу ўвогуле. Савет яго арміі сфармуляваў сваё палітычнае крэда, згодна з якім у камуністычнай партыі і ўсім маскоўскім урадзе сядзяць адны штукары, контррэвалюцыянеры і юды; яны захапілі ўладу ў Расеі

хлуснёй і па зменліваму шляху вядуць рэвалюцыю да пагібелі.

— А калі гэта і сапраўды так? Га?.. Што вы думаеце, ойча Георгій?

— Я не выключаю гэтага, — Раздзялоўскі зрабіў паўзу. — Прага да ўлады губіць чалавечыя душы.

— І што далей?..

— Пры ўзяцці чырвонымі Перакопа войскі атамана Махно былі кінуты на самы цяжкі ўчастак; яны ў лоб бралі Турэцкі вал і мелі найвялікшыя страты. Засталося пяць тысяч герояў штурму, і іх з тылу подла і жорстка расстралялі. Па загадзе таго ж паплечніка Леніна — Троцкага. Ваяр Махно страціў нагу, але ўратаваўся. Пасля гэтага, унікаючы камуністычнай галгофы, ён па-новаму сабраў войска і пачаў рэйды помсты па Украіне і па Расеі. Цяпер ужо без усялякай літасці распраўляўся з камісарамі, чэкістамі, кіруючымі партыйнымі і савецкімі работнікамі. Як злы дэман, ён пакідаў пасля сябе адмысловы крывавы след. Ужо летам 1921 года, камандуючы рэшткамі сваёй рэгулярнай арміі, Махно сумеў выскачыць з пасткі і ўцячы за мяжу, нібыта ў Румынію... Так чуў... Казалі, у 22-м годзе яго бачылі ў Польшчы. Адсюль нібыта ён падаўся ў Парыж. Не выключана, што там і цяпер жыве.

Пятро Пісарчук доўга маўчаў, уражаны такім драматычным і трагічным канцом гэтай рэвалюцыйнай, з дазволу сказаць, гісторыі.

— О, Божа, — не то вымавіў, не то прастагнаў ён, і яшчэ глыбакадумна: — Божа-Божа! Чые шляхі і чый лёс выпрабоўваеш?

— А гэта тайна вялікая ёсць! — па-біблейску цнатліва адказаў Раздзялоўскі і праз нейкі момант працягваў: — Я, браце Пятро, не даў веры той показцы, якую прынёс мне аднойчы, уцякаючы з Расеі, манах — не манах, дваранін і думскі дзеяч — Георгій Шачкоў. Пакуты пачаліся ў яго з Пецярбургу пасля лютаўскай рэвалюцыі, калі, сумуючы па цару, які адрокся ад прастола, ён пешы выйшаў са сталіцы і падаўся ў Валынцава Курскай губерні. Неўзабаве надарыўся кастрычніцкі пераварот і заставацца ў сваім маёнтку было небяспечна, таму ён развітаўся са стогадовымі дубамі любімага парку і рознымі спосабамі дастаў да Кіева, спыніўся ў роднай сястры. Што пережыў там, Божа літасцівы! — бацюшка пахітаў кудластай сваёй галавой: — Бамбардзіроўку горада бальшавікамі на праця-

гу 11 дзён, уцёкі пятлюраўцаў, якія абаранялі горад, экзекуцыі, расстрэл бальшавікамі тысяч людзей, павальныя рабункі, зноў табе Пятлюра разам з немцамі, і ўлада гетмана Скарападскага, калі люд адпачыў трохі; а тады — па новаму заходу — пятлюраўцы, Лук'янаўская турма для яго, бальшавікі, дзянікінцы... З дзянікінцамі, нарэшце, адступае далей на поўдзень, імкнучыся ў Адэсу. Напалоханы, стомлены, змучаны душой і целам гэты «недабіты буржуй» паўшэптам прамаўляў ці то Богу, ці мне: «Бальшавізм, апанаваўшы Расею, ёсць не што іншае, як барацьба з Богам і хрысціянствам...»

— І дзіва няма, ойча Георгій, усё на тое паказвае, — Пісарчук палічыў, што святар Раздзялоўскі ўжо скончыў распавядаць яму пра мінуўшчыну, не такую і далёкую, каб не брала за сэрца, і прыўзняўся ў крэсле, наважваючыся развітацца, але ж той доўжыў расказ:

— Я пацікавіўся ў Шачкова, абабітага жыццём чалавека, ці доўга яшчэ бальшавікі з народам у рожкі будуць хадзіць?

— І што ж ён адказаў? — Пятро зноў нагастрыў слых.

— Мардаванню рускага народа канца-краю не прадбачыцца... — пры гэтым Шачкоў выцягнуў з кішэні пакамечаныя паперчыны, чытайце, маўляў... Тут была прамова Лейбы Давідавіча Бранштэйна-Троцкага недзе перад зборняй сваіх. Прачытаў я з дзіўньм пачуццём, што ў мяне з-пад ног паплыў кудысьці ў далеч рэальны свет або я жыву ў сапраўдашнім свеце, але гэтага не можа быць, ніколі! Ад завароту пачуццяў мне хацелася толькі плакаць. І часам думаю: ці было тое наяве, ці мне толькі прыснілася?

— А што ж у той прамове так уразіла вас, бацюшка?

— Я перакажу... «Мы — а гэта «мы» нібы належыць Троцкаму, — павінны ператварыць Расею ў пустыню, населеную белымі неграмі. Калі мы выйграем рэвалюцыю, парушым Расею, то на агідных руінах яе ўмацуем уладу сіянізму і станем такой сілай, перад якой увесь свет упадзе на калені. Шляхам тэрору, крывавых лазняў мы давядзем рускую інтэлігенцыю да поўнага атупення, да ідыятызму, да жывёльнага стану. А пакуль нашы юнакі ў скураных куртках — сыны гадзіннікавых спраў майстроў з Адэсы, Воршы, Гомеля, Вінніцы — ого, як выдатна ўмеюць яны ненавідзець і знішчаць усё рускае!» — Цьфу, нячыстая сіла! — бацюшка Георгій вылаяўся.

Пісарчук вяртаўся ад святара дадому ацяжараны новымі неспакойнымі думкамі і пачуццямі, толькі первавала ўсё-ткі радасць, што ён пакінуў урэшце Расею і якніяк цяпер вольны гаспадар сабе. Няхай і брыдка, што за Пілсудскім беларусаў таксама ўціскаюць, што лічаць Усходнія Крэсы за калонію, але ж, калі там, у Расеі — ліха, то тут — меншае, і за тое можна дзякаваць Богу.

Як заўсёды, пасля сустрэчы і шчырай, ці не сяброўскай гутаркі з айцом Георгіем, Пятро адчуваў сваю душу і розум адкрытымі перад людзьмі і Богам, прасветленымі. Ён пачынаў значна больш разумець у палітыцы, у падзеях, якія мелі месца і якія яшчэ рыхтавала на зямлі славян прышласць. І, вядома, яго меркаванні не мог не ўлічваць і сябра камуністычнай спулкі — сын Барыс.

## 4

Як ні дзіўна, на светапогляд Барыса, на ўспрыняцце ім рэчаіснасці, акрамя бацькоў, свой пэўны ўплыў рабіў таксама і памешчык Раман Скірмунт, дабрадзей, дзівак і, бадай, непапраўны рамантык, які жыў паблізу, у вёсцы Парэчча.

Пра Скірмунтаў у гэтым кутку Беларусі сама зямляматухна распавядае чалавеку, як ён толькі народзіцца. Бо радавод Скірмунтаў ідзе ад часоў гістарычнай беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і сваімі каранямі сягае недзе аж да яцвягаў. Гербам прадаветнага радаводу быў разгалісты дуб.

А цяпер галіны гэтага дуба засталіся ў Моладаве і ў Парэччы. Тыя і гэтыя Скірмунты між сабою даводзіліся стрыечнымі братамі і сёстрамі.

Дзед Рамана Скірмунта Аляксандр быў буйным магнатам. Ён заснаваў у 1836 годзе ў маёнтку Парэчча над Ясельдай рэдкую для тагачаснай феадальнай краіны фабрыку, дзе выраблялі сукно. Праз два-тры дзесяцігоддзі фабрыкант Скірмунт пабудаваў яшчэ і цукровы завод. Меў ён таксама сыраварную вытворчасць, паравы млын... Такім чынам, пракаветная вёска Парэчча ператварылася ў прамысловы цэнтр і рабілася ўзорам у развіцці капіталізму на гэтай блаславёнай славянскай зямлі. Пісарчукоў сын — Барыс, дарэчы добра ведаў, што такія багатыя і прыкметныя асобы, як Аляксандр Скірмунт або ягоны сын Аляксандр, а потым і ўнук Раман, іншыя яго сыны і ўнукі

ў Савецкай Расеі былі не ў пашане і лічыліся найпершымі ворагамі. Там буржуі ліквідаваны як клас. Не толькі яны, вунь уся царская сям'я палегла. Барыс ведаў пра гэта. Але ў душы ён не адчуваў ні жалю, ні болю за тыя ахвяры. Нібы самі сябе яны асудзілі на смерць, і чынны шпаркі ход падзей не пакідаў ім аніякага іншага выйсця. Такія жорсткія ўмовы прадвызначала людзям камуністычная ідэалогія, да якой ён таксама схіляўся.

От толькі дзед Рамана — Аляксандр Сымонавіч памёр сваёй смерцю якраз у тым годзе, калі нарадзіўся Ленін. Тады яму было 72 гады, і ён пакінуў пасля сябе 6 сыноў, 2 дачкі.Ён падзяліў паміж імі фартуну: бацьку зусім яшчэ малога Рамана — Аляксандру — дастаўся маёнтак Парэчча, а бацьку Канстанціна і Генрыка — Генрыку — маёнтак Моладава... Раман выйшаў у людзі акурат на вяршыні гарту парачанскай вытворчасці сукна, аднак вытворчасць яго не так захапляла, як палітыка, дый пасля 1915 года, які пакінуў усяго толькі разваленыя сцены ад фабрыкі, Раман больш не бачыў магчымасці яе аднавіць. І тут справядлівым будзе зазначыць, што вядомасць у сваім краі і ў супольнасці тутэйшых людзей, а ён любіў называць сябе тутэйшым, Раман Скірмунт набыў ужо дзякуючы не столькі парачанскаму спадчыннаму капіталу, колькі ўдзелу ў грамадскім і палітычным жыцці. Дастаткова сказаць, што ў Моталі яго ведалі як сябра (члена) 1-й Дзяржаўнай думы Расеі.

Яшчэ са студэнцкіх гадоў у Пецярбурзе ён шукаў дружбы ў нацыянальна свядомых беларусаў, а неўзабаве і сам групаваў вакол сябе тых, хто ставіў за мэту ў вялікай палітыцы дабіцца калі не самастойнасці, то аўтаноміі для Беларусі. Скірмунт, вядома ж, нямала зрабіў і для падрыхтоўкі Першага Усебеларускага з'езду, скліканага па нацыянальных пытаннях у снежні 1917 года і разагнанага бальшавікамі. Аднак гэты з'езд пакінуў пасля сябе Раду і дэлегаваў Радзе свае паўнамоцтвы, надаючы тым самым ёй годнасць адмысловай Дзяржаўнай Думы. І 25 сакавіка 1918 года Рада абвясціла ўсяму свету аб утварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі, што ў неспрыяльных умовах ваеннага часу мела пэўнае палітычнае значэнне, але не дазволіла трапяткому дзяржаўнаму зародку разгарнуцца ў дзяржаву.

Багата што з памянёнага ляжала ў памяці мясцовага люду, у памяці прасветленай і пакуль яшчэ не зачэрхлай

ад часу. Зрэдку з нейкай там нагоды гісторыя ўзварушвалася рознымі дзеячамі, выклікаючы неадназначныя меркаванні і спрэчкі ў цікаўных маталянаў, пераважна яўрэяў, якія вызначаліся адмысловай палітычнай дасведчанасцю. Размовы пра гістарычныя падзеі вяліся і ў бацькавай хаце, найчасцей — пры ўдзеле Лазара ці Абка, што жылі на адной з Пісарчукамі вуліцы. Канешне ж, увага і прыцэл мясцовых, так бы мовіць, гісторыкаў быў найперш да памешчыка Скірмунта, бо, як вядома, пры ўсіх сваіх палітычных узлётах і няўдачах, можа, нават падзеннях, Раман Скірмунт заставаўся іхнім земляком і суседам. Таму і выказваліся пра яго шмат, прычым мотальскі люд дзівавала тое, што са сваёй прыслугай і сялянамі знатны ў свеце пан заўжды размаўляў на беларускай мове, якой іншыя паны цураліся. Ён быў просты і адкрыты для ўсіх.

У дзень перад Спасам, асядлаўшы каня, Барыс Рамановіч падаўся ў аколіцы і адтуль — на дарогу, што тонкай ніткай прашывала і лес, і Моладава, вілася ўздоўж Ясельды, а потым цераз новы лясок выводзіла на Парэчча. Як бытта нашаму купцу-малайцу Барысу рупіла паглядзець у бліжэйшых вёсках на крамы, ацаніць тавар, параўнаць асартымент і цэны з мотальскімі цэнамі. Бацька ж, акрамя таго, прасіў Барыса наведаць у Парэччы перакупшчыка Клямку ды пацікавіцца ў яго ўмовамі, на якіх ён бярэ мёд для вывазу на пінскі рынак і далей, у Польшчу. Сам гаспадар Пятро не меў асабліва часу, каб ездзіць ды вывучаць рынак, дый, па праўдзе, не любіў ён гандлярскага занятку.

Конь пад Барысам ішоў то машыстым крокам, то лёгка трусіў, і думкі хлопца скакалі, пераносячы яго штораз на вечаровую мотальскую зборню. Там, у асяродку бойкіх жаніхоў ды харашунь-нявест, было ўдосталь вясельнага клёку.

У прыпеўках і песеньках, з якімі дзяўчаты завіхаліся ў танцах, чулася імітацыя жальбы, скрухі, а разам і цнатлівая гарэзлівасць. Барыс карыстаўся не абыякой увагай маталянак і таму многае, пра што яны спявалі, здавалася скіраваным проста да ягонага сэрца, кранала мілагучнасцю, шчырасцю:

Ой, скакала на таку,
Ды на беленькаму,
Выплакала чорны вочы
Ды па міленькаму.

Ад пільнай увагі дзяўчат ягоны настрой нявесціўся і злёгку кружыў яму голаў.

Пры пад'ездзе да Парэчча Барыса нагнала пралётка. Яна выскачыла порсткай рысцой з гаю. Наш купец збочыў і прыпыніў свайго гнядога, каб прапусціць пралётку; сам ён не надта спяшаўся, дый цікава было паглядзець, што за важная птушка ездзіць па ўзбярэжжы Ясельды на рэсорным вазку. Глянуў — па целе прайшла і шыбанула ў твар гарачая хваля: па ўсіх прыкметах сядзеў на рэсорах сам Раман Скірмунт. Так, гэта ён, адукаваны і дасціпны чалавек, гаспадар маёнтка, як і ўсёй навакольнай аблады.

Расказвалі пра яго, што вось так нечакана, толькі не на вазку, а пешы з'явіўся ён аднойчы за спіной у мужыка, які, забрыўшы ў панскі гай, стаяў каля пня і палкай адбіваў губку для красала. Пан знянацку хапіў яго за плечы, прыўзняў і шпурнуў у бок:

— Прэч адсюль! Не палохай сваім стукам коз...

Такая акалічнасць, аднак, не доўга бянтэжыла хлопца, наадварот, яна надала яму вясёлай энергіі:

— Дзень добры, паночку!

Пан прыпыніўся.

— А чаму гэта малады чалавек так утаропіўся на мяне?

— Дзіва ж! Хіба не?.. Бачу яснавяльможнага пана, у якога мой бацька неяк эліту ячменю купляў.

— А хто у цябе бацька?

— Пятро Пісарчук... З Моталя...

— А-а, гэта які вярнуўся з Расеі? Помню... Твой бацька — селянін дасведчаны, учэпісты. Ён і цяпер пчалярыць? І поспех мае?

— Мае... А вы, баяць людзі, у Варшаве, палітыкай займаецеся. Ніяк не чакаў сустрэць вас тутака.

— Сапраўды, у сваім маёнтку цяпер рэдка бываю, на жаль, — пан уздыхнуў. — А ты, вісус, куды едзеш?

— Нявесту шукаю, — адказаў акурат у тон пану.

— То злазь ды сядай побач. Разам паедзем нявестаў шукаць. Я ж у халасцяках засядзеўся таксама.

Барыс ведаў, што Скірмунту ўжо каля шасцідзесяці, але на выгляд ён быў маладжавы і меў энергічны позірк, вострый, дапытлівы. Толькі ж і на твары Барыса — тая ж дапытлівасць. На ласкавае запрашэнне пана ён не прымусіў сябе доўга чакаць, саскочыў з каня, падвёў яго да пралёткі і зачапіў павадок аброці за дужку пралёткі, сеў побач. Той торгнуў лейцы:

— Дык як жыве здавён-даўна вольны мотальскі люд у крэсах польскіх? Славіць Бога?..

— Пан дазваляе сабе жартаваць? Э-эх... Пакутуе люд. Волі мала, зямлі мала, грошай мала. А падаткаў — зашмат. Я не столькі за свой двор — за сядзібу бацькоўскую кажу. Наогул... Цяпер багата хто глядзіць на ўсход, дзе ўсяго болей. Бальшавікі ўтварылі вольную рэспубліку. Вось і нам палучыцца б з ёй!

— Тп-пру! — спыніў пралётку памешчык: — Шо ты чаўпеш?

Пан шокаў зазвычай.

— На шо маніць? На крыві ўчынена, на слязах замешана твая новая рэспубліка! Хм, калі ты нарадзіўся?

— У год, калі Расея ваявала з Японіяй.

— Х-хм... Вісус! Правільней было б казаць: бальшавікі захапілі вольную народную рэспубліку!.. Шэльмы! Аднак, адкуль табе ведаць, якога колеру іхні іудзейскі інтэрнацыяналізм?..

— Чаму ж, я ведаю, пры вашым, пане, удзеле была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка — буржуазная, як пісалася ў савецкіх газетах. Яна для буржуяў... М-да, — і Барыс замяўся, чуючы штосьці штучнае і несамавітае ў сваіх меркаваннях.

— Буржуазная?.. Але ж гэта не ёсць аргумент і не ёсць вызначэнне сутнасці. Мана!.. План быў іншы. Урад БНР і цяпер дзейнічае ў эміграцыі. Ён адзіна законны ўрад Беларусі. Но! — зноў торгнуў лейцы пан. — Паехалі... Калі на тое, малады чалавек, я павінен табе растлумачыць, шо на час кастрычніцкага перавароту ў Пецярбурзе на Беларусі жылі ў асноўным сяляне і ніякіх камуністаў, бадай, не было, больш за тое, у горадзе сярод грамадзян пераважалі не люмпены і зноў жа не беларусы, а тыя, хто сюды набрыў, прывалокся, багата яўрэяў. Горад мала думаў пра нашы нацыянальныя клопаты. Пра гэта заўжды дбае карэнны народ або ягоная інтэлігенцыя, вылюднелая, дасведчая, абагачаная далучэннем да культуры свету. Зыходзячы з нацыянальных каштоўнасцей, інтэлігенцыя і мае дбаць пра ўласную годнасць, ахоўваць і ўзбагачаць спадчынныя набыткі, сярод якіх і яе светласць мова.

Каштоўнасць уяўляюць не толькі нейкія там гмахі ды золата, — доўжыў размову памешчык Скірмунт, — але і сам лад і парадак думак, каларыт жыцця. На жаль, у на-

шай гісторыі склалася так, шо ка-рэн-нае насельніцтва не робіць ніякай палітыкі. У той жа час толькі яно, карэннае, захоўвае нацыянальныя традыцыі і мае патрэбу ў сваёй абароне. Першымі, чуеш, за беларускую справу ўзяліся, калі не казаць пра пецярбужскія гурткі, — Беларуская сацыялістычная грамада і газета «Наша ніва», дзе групавалася наша інтэлігенцыя — інтэлігенцыя як субстанцыя, або тое, што спалучае мазгі і сэрца народа. Колькі спрэчак было... Хісталіся, блукалі, рабілі пралікі. Дзіва... Стукаліся мы лоб аб лоб, як шо псіхалагічна былі прывязаныя хто да расейскага, хто да польскага боку. Вельмі баяліся выпрастаць спіну. Самастойнасці баяліся. От шо было! А ведаеш, пачынаючы з 1906 года, колькі разоў я спрабаваў стварыць беларускую дэмакратычную партыю? Тады яе краёвай называлі... Сацыялісты стаялі ў баку. І кожны раз кіраўніцтва ёю перахоплівалі палякі. Нашай мэтай, панебраце, якраз і было ўваскрэснуць, вылепіць сапраўды народную незалежную дзяржаву, якой даўно мы пазбыліся. Па семнаццатым годзе і зляпілі. І тады ўжо не немцы, а бальшавікі абрынуліся на нас, безабаронных, мятых, змучаных вайной.

Ён зрабіў паўзу, перш чым перайсці да наступнага моманту ў сваіх рэмінісцэнцыях. Барыс уважліва слухаў.

— Мы ж не Фінляндыя, шо недзе з краю Расеі, збоку прыпёку. А Фінляндыя вырвала незалежнасць... Мы ў самым цэнтры матухны Еўропы, у зручным для ліхадзеяў месцы, таму і інтарэс у расейцаў да нас воўчы. Таму і ездзяць па нашай хрыбціне. Жалю варта. Але ж у семнаццатым годзе мы мелі гонар, чуеш... Заварушыліся... На нашым баку быў закон, была справядлівасць, якой вымагала гісторыя. Адно, братка, не выстарчыла сілы, каб абараніцца ад варвараў паноўленага веку. Не склалася... А цяпер, вісус, ці можаш ты мне сказаць, шо ў той нашай палітычна і культурна самавітай рэспубліцы селяніну жылося б горш, чым жыве ён за саветамі? Не думаў пра гэта?..

— Не, светлы пане, вашы думкі для мяне зусім новыя. Шчыра кажучы, я камуніст.

— Віншую! Не чакаў, аднак, шо і ты з імі. Э-ей... Камунізм — не шо іншае, як псіхічная містэрыя. Яна запаланіла Расею, і не толькі Расею... Бальшавікі нацкавалі рабочы клас на буржуяў, а потым і на палітычную

апазіцыю — так званых белых. Вайну супраць спрадвечнага нацыянальнага ўкладу жыцця і духу народа назвалі пралетарскай рэвалюцыяй. А які ж буржуй з заможнага селяніна ці святара? Іх таксама амаль знішчылі... Вось я буржуй. Па ўсіх канонах! Так... Але ж ці ведаеш ты, шо мой дзед, перш чым стаць капіталістам, доўга вучыўся ў Еўропе, набыў тое, шо завецца еўрапейскай культурай, набыў веды інжынера, тэхнолага. Ён прывёз у Парэчча разам з тэхнікай, станкамі, машынамі інтэлектуальны капітал, найперш — яго, і адкрыў суконную фабрыку. А на думку марксістаў, адно, чым Скірмунт займаўся, — дык гэта эксплуатаваў рабочых. Спрошчаны і вульгарны падыход, малады чалавек! Аляксандр, сын Сымона, Скірмунт, выступаючы арганізатарам вытворчасці, стварыў рабочыя месцы для сялян, якіх папярэдне вывучыў. Дарэчы, Аляксандр Скупеўскі, калі хочаш ведаць, з сялян. Ён працаваў фарбоўшчыкам, а затым вырас у тэхнолага і стаў кіраваць усім прадпрыемствам! Прыкладаў шмат... А Скірмунт як-ніяк даў дзяржаве найлепшае ў свеце сукно. Скірмунт, нарэшце, плаціў падаткі і таму, можна сказаць, пастаянна дзяліўся прыбыткам з дзяржавай, мацуючы яе эканоміку. І рабочых не крыўдзіў, разам з імі ёнператварыў завод у акцыянернае таварыства, дзе кожны атрымліваў долю ад прыбытку. Па сённяшні дзень у Парэччы працуюць бясплатныя лякарня і народнае вучылішча... Без падтрымкі буржуяў іх не было б.

Барыс маўчаў, уражаны. Так бы ўразіла яго, напэўна, калі б пан Скірмунт раптам дастаў з-пад сядзення пралёткі і пачаў рваць тоўстую кнігу, на якую камуністы моляцца, — «Капітал» Маркса. На шырокім і гладкім ілбе ў Барыса выступілі кропелькі поту. Ці сведчылі яны пра пэўны заварот чалавечых уяўленняў, пачуццяў, ранейшых і сённяшніх, пра тое, што пачуцці ў сярэдзіне супярэчылі адно аднаму, скрыжоўваліся, ламаліся?.. Хто ведае.

Пралётка неўзабаве прывезла іх да маёнтка — велічнага гмаха ў два паверхі. Пры маёнтку быў парк. Скірмунт перадаў пралётку ў рукі прыслугі і прапанаваў госцю невялікую прагулку па парку:

— Я мушу закончыць гаворку. Мне зразумелыя памкненні, настроі ўсіх беларусаў Крэсаў Усходніх, іх мары пра лучнасць. Калі па жывому раздзёрта краіна, каму не баліць? Але ж я буржуй і маё месца, даруй, пане-браце, пад лаўкай — там, каб баяць байкі і трызніць гісторыяй. Та-

кое ў мяне новае становішча, хоць я і палітык. Цяпер я адначасова — дома і ў эміграцыі.

У словах пана пачувалася ўдаўнелая горыч.

— Цяпер прабіў час такіх палітыкаў, як Браніслаў Тарашкевіч — вучоны, не эксплуататар, не чужак, малады, таленавіты, выдаў першую граматыку беларускай мовы. Ты што-небудзь чуў пра яго?

— А як жа! Тарашкевічам заснаваны Беларускі пасольскі клуб у польскім сейме... Сябры клуба моцна крытыкуюць урад за парушэнні асноўных законаў дзяржавы, адстойваюць правы беларусаў. Да Моталя тое-сёе даходзіць. Польскія газеты чытаем.

— То і добра. У кожнага месца ёсць свой дух. І я там штаны праціраю, — пажартаваў Скірмунт з ранейшай сумнай усмешкай: — Не давялося, аднак, паслужыць сваёй зямлі, свайму народу, ну, скажам, так, як таго хацелася б, — і ў наступны момант сенатар падаў яму руку на развітанне: — Паклон Пісарчукам! Скажы бацьку, шо я шкадую сялян і зычу ўсім-усім поспеху, і табе, вісусу, — таксама, толькі не ў разбурэнні жыцця. Тым часам!

Барыс вяртаўся дадому з багатымі ўражаннямі ад новых знаёмстваў у Парэччы, з яго жыццём, купцамі і крамамі, а найбольш — ад сустрэчы твар у твар з тыповым «класавым ворагам», які, тым не менш, даў яму ўрок прастаты і вытанчанасці, аб'ёмнага бачання грамадскіх з'яў і працэсаў, да якіх ён самахоць спрабаваў далучыцца ў Расеі.

## 5

Мінула нешта ці не тры гады пасля той выпадкам дараванай яму сустрэчы са Скірмунтам; Барыс колькі разоў успамінаў яе з асаблівай выразнасцю, задавальненнем і сумам.

Першы раз, бадай, калі даведаўся пра арышт польскай дэфензівай у студзені 1927 года Браніслава Тарашкевіча і ягоных паплечнікаў, пасloў польскага сейму. Іхняя дзейнасць у Варшаве, нягледзячы на забарону беларускага друку, рабілася ўсё больш вядомай, калі не сказаць скандальнай. Іх дзейнасць выклікала ўхвалу, удзячнасць, падтрымку ў насельніцтва Крэсаў Усходніх.

Камуністычная партыя Заходняй Беларусі звярнулася да сваіх землякоў рабочых і сялян з улёткай:

*Далоў фашыстоўскую самаволю!*

*Неадкладна вызваліць усіх палітычных вязняў!*

*Далоў правакацыйныя пляны Пілсудскага супроць рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі!*

Некаторыя абзацы ўлёткі Барыс перачытваў для сябе і асобных сваіх слухачоў з мотальскай спулкі па некалькі разоў. І кожны раз у яго замірала сэрца пры ўяўленні агульнай карціны таго, што дзеялася на паняволенай зямлі беларусаў.

*Азвярэлы польскі фашызм становіцца ўсё больш жорсткім... Хваля дзікіх рэпрэсыяў перакатваецца па ўсім краі. Масавыя арышты і вобыскі, арышт пяці паслоў — прадстаўнікоў ад радыкальных сялянскіх арганізацыяў, нялюдскія катаванні і здзекі над арыштаванымі, разгром беларускіх культурна-асьветных і каапературыўных устаноў — вось вынік «успакаення крэсаў» крывавымі наезьнікамі Пілсудскага.*

*...Некалькім арыштаваным пракуратура дамагаецца сьмяротных прысудаў. Шмат арыштаваных сыйдуць у магілу, ня вытрымаўшы катаванняў і турэмнага рэжыму.*

*Клясавая ненавісьць буржуазіі ня мае граніц.*

*Таварышы, рабочыя і сяляне!*

*Нэндза даводзе масы да роспачы; эканамічнае, палітычнае і нацыянальнае прыгнечванне акупантаў, катаванні дэфензывы нястрымана піхаюць іх на крывавую клясавую помсту. Аднак, таварышы, час расплаты яшчэ ня прыйшоў. Усялякі ўзбройны выступ у сучасны момант, адарваны ад супольнага выступлення з рабочымі і сялянамі Польшчы і Заходняй Украіны, засуджаны на няўдачу, будзе лёгка патоплены ў крыві, сыграе на руку Пілсудскаму, які гэтага і чакае, да гэтага і імкнецца.*

*Таварышы, рабочыя і сяляне!*

*Мы павінны праціпаставіцца пагромам фашыстоўскага ўраду, мы можам не дапусьціць да далейшых рэпрэсіяў толькі праз паўторныя масавыя палітычныя выступы рабочых, сялян і ўсіх працоўных — ня толькі Заходняй Беларусі, але і Заходняй Украіны і ўсяе Польшчы.*

*Па ўсіх фабрыках, заводах, у варштатах і прафсаюзах, ва ўсіх вёсках, маёнтках, тартаках, усе гурткі Грамады, школы, усе культурныя гурткі, гмінныя рады склікайце па колькі разоў масоўкі, сходы і мітынгі, выносьце самыя вострыя пратэсты супроць белага тэрору, патрабуйце вызвалення ўсіх палітычных вязняў, арыштаваных пас-*

*лоў, якія нават згодна з польскай канстытуцыяй лічацца недатыкальнымі, адначасна выказвайце сваю салідарнасьць з імі, пратэстуйце супраць зламаных правоў рабоча-сялянскіх арганізацыяў.*

*Склікайце дзеля пратэсту масавыя вулічныя мітынгі...*

*Стварайце на прадпрыемствах камітэты барацьбы з фашызмам, а на вёсках — сялянскія камітэты...*

*Кожны рабочы і селянін паасобна і ўся маса працоўных цалкам...*

*У нашай масавасьці і арганізаванасьці наша сіла, бо супроць масавага руху бяссільны паліцыя і фашысты, бо фашыстоўскаму ўраду ня хопіць сілаў пераарыштаваць мільёны працоўных.*

*На дэманстрацыях арганізуйце масавую рабоча-сялянскую самаабарону...*

*Далоў белы тэрор!*

На пасяджэнні спулкі Пятро Мінюк паставіў пытанне аб правядзенні масавай акцыі ў Мотал ў падтрымку ахвяраў і тэрору.

— Якой акцыі? — спытаў брат Васіль.

— Давайце абмяркуем...

— Па-першае, — выказаўся Барыс Рамановіч,— нам варта выкарыстаць належным чынам легальныя формы. Таму я прапаную наладзіць сход гуртка Сялянска-работніцкай грамады.

— Правільна! — ухваліў Мінюк, у хаце якога праходзіла пасяджэнне партыйцаў.

— І зрабіць сход пашыраным...

— І прыняць адозву пратэсту, — унёс прапанову Язэп Палто.

— Гэта мы зробім...

— А яшчэ, калі зіма сыйдзе, наладзім маёўку, — падаў Хведар Філіновіч.

— То доўга чакаць!..

— Чаму ж? Час, які ёсць, мы выкарыстаем на яе падрыхтоўку.

— Хведар мае рацыю... Папрацуем разам з камсамольцамі. Як, таварыш Кузюр?— звярнуўся Мінюк да сакратара камсамольскай арганізацыі, які прысутнічаў на пасяджэнні камуністаў.

— Але ж... Я згодны, — адказаў Сцяпан Кузюр. — Мы цяпер пад выглядам удзелу ў вясковых зборнях правядзем сходы, падрыхтуем моладзь.

— Правільна... Дзеля гэтай справы Філіновіч дасць вам яшчэ неабходнай літаратуры. А я даю ўлётку, якую Барыс тут зачытаў нам. Усяго дзесяць асобнікаў — мала?.. Давядзецца перапісваць.

— Такой бяды! Гэта мы ўмеем рабіць. А калі доўгі тэкст, карацейшым зробім...

— Вясёлая ў вас праца, аднак, пане сакратар камсамола, — пажартаваў Барыс Рамановіч:— Ходзіце да дзевак, танцуеце з імі, за цыцкі іх лапаеце, паперкі засоўваеце за пазуху, а лічыцца, што праводзіце масавую палітычную работу!

— То калі спадару Барысу зайздросна,— з усмешкай парыраваў Сцяпан,— проша пане, разам з намі ў падарожжа па вёсках.

— Во, гэта было б дарэчы,— засмяяўся Пятро Мінюк.— Улёткі ж Барыс ужо на памяць ведае. Падымі сярод ночы — як ойча наш прачытае! Ды годзе... Час разысціся.

То быў цяжкі год, калі багата людзей галадала і, шукаючы як выбавіцца ад галечы і нэндзы, не адна сялянская сям'я пакінула сваю радзіму — паехалі на край свету: у Злучаныя Штаты Амерыкі, Канаду, Аўстралію.

З надыходам вясны пагроза ад галоднай смерці павялічвалася, і, бадай, гэтая акалічнасць не ў апошнюю чаргу паспрыяла таму, што на мітынг пад Моталем, у зялёным гайку, сабраліся некалькі соцень тутэйшых.

— Таварышы!— звярнуўся да іх Пятро Мінюк: — Жніво галоднай смерці па беларускіх вёсках павялічваецца. Паелі насенне, бульбу, жывёліну і многія жывуць дрывеснай карой, адыходамі, а то і проста жабруюць. І застаюцца палі незасеянымі, пагражае яшчэ большы недарод, затым — паўсюдны голад, масавае выміранне. А хто віноўнік усёй гэтай злыбяды, усё ўзрастаючай нястачы і голаду?

Натоўп ажыў, пачуліся воклічы:

— Паны і абшарнікі!

— Фашыстоўскі ўрад...

— Бяспраўе і здзек...

— Няма змогі з-за падаткаў.

— Таварышы! Дзе выхад?.. А выхад ёсць! Ён у нашай супольнай барацьбе, у тым, каб паказаць усім панам, што мы ёсць людзі і што нам не канешне жыць у Крэсах на правах рольнічага быдла.

Да локця Барыса дакрануўся юнак, танклявы і энергічны ў рухах:

— Спадар Барыс, зусім не выключана, што за намі сочыць не адна пара вачэй шпекаў, пагэтаму рэзалюцыю мітынгу, якую вы падрыхтавалі, няхай зачытае нехта іншы. Як вы лічыце? Магу я гэта зрабіць...

— Меціш у героі, Сцяпане?

— Ды не-е, — пачырванеў Кузюр.

— Я чалавек не горды! — і Барыс перадаў камсамольцу сагнуты ў чатыры столкі ліст.

У лютым 1928 года пачаўся доўгі — закончыўся ажно ў маі — судовы працэс, узбуджаны дыктатарскім рэжымам Юзэфа Пілсудскага супроць 56-ці дзеячаў што патрыятычнага, што пракамуністычнага руху, пераважна актыву Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Патрапіла на кручок дэфензівы і мотальская спулка. Арыштавалі Пятра Мінюка, а неўзабаве і ягонага брата — Васіля. Далей пры вобыску ў доме Мікалая Мінюка, аддаленага родзіча тых Мінюкоў, знайшлі паказальныя лісты і шыфраграмы, якія вывелі следчых на сакратара камсамольскай ячэйкі Сцяпана Кузюра.

У абвінаваўчым акце, складзеным пракурорам Драгічынскага павета, значылася:

*«Мінюка арыштавалі ў чэрвені 1927 года. Ён прызнаўся, што быў сябрам камуністычнай арганізацыі, у якую яго ўцягнулі Кузюр Сцяпан і Рамановіч Барыс (псеўданім Пісарчук). Іх ячэйка падпарадкоўвалася падрайкаму ў Крывіцах, а калі Мінюк быў у войску, райкам перабазіраваўся ў Моталь. Мінюк заявіў, што пасля службы «адышоў ад палітыкі». Рамановіч Барыс на допыце не прызнаўся, што належаў да партыі.*

*Мінюк Мікалай Фёдаравіч, 23 гады, і Рамановіч Барыс Пятровіч, 23 гады, за прыналежнасць да КПЗБ абвінавачваюцца па арт. 102 ч. 1 КК і на аснове артыкулаў 208 і 523 КПК. Гэту справу належыць разглядзець у Пінскім акруговым судзе».*

Рамановічу, праўда, не давялося доўга пакутаваць. Яму дапамог выпадак. Калі ён сядзеў у Пінску ў казённым памяшканні перад дзвярыма следчага і чакаў сваёй чаргі на допыт, у пакой зайшла пані, як потым высветлілася, жонка следчага. Выхаваны ў лепшых традыцыях былога, паламанага ўшчэнт свету, Барыс устаў, пакланіўся ёй і адчыніў дзверы ў пакой начальніка. Пані была ўражана

высакароднымі манерамі арыштанта і папрасіла мужа адпусціць яго на волю, што муж і зрабіў.

Лёс быў літасцівы да маладых людзей — да Барыса, як зрэшты, і да зняволенага Сцяпана Кузюра. Нейкі іншы шчаслівы выпадак дазволіў Спяпану ўцячы з пастарунка проста ў наручніках. Пэўны час ён хаваўся ў знаёмых, а калі паліцыя напала на след, яшчэ раз уцёк, цяпер ужо за мяжу — туды, дзе саветы.

Прысуд над зняволенымі не прымусіў сябе доўга чакаць: Тарашкевічу далі дванаццаць гадоў турэмнага зняволення, Мінюкам — па пяць... Іншым — таксама турма.

І цяпер Барыса непакоіла тое, што чалавек, на якога паказаў яму Скірмунт як на цэнтральную фігуру ў легальным беларускім руху і на якога той — спрактыкаваны палітык і сенатар — таксама ўскладваў свае спадзяванні, аказаўся за кратамі. Гэта ўвогуле быў жорсткі рэпрэсіўны ўдар пілсудчыкаў па беларусах, па іх самавітым духу, паняволеных ды незламаных пакуль душах, жывому слову — па абумоўленых усім гэтым разліках на будучыню.

Не ўсе арыштаваныя, праўда, з годнасцю выйшлі з гэтага антыбеларускага працэсу, наколькі буфанаднага, настолькі ж аблуднага. Пасля хадзіла пагудка, што нехта Радзіслаў або Радаслаў Астроўскі, які ачольваў у Вільні Беларускі Кааперацыйны банк і колькі гадоў фінансаваў камуністычны рух у Крэсах Усходніх, памяняў погляды, выракся сваіх сяброў, стаў выступаць за супрацоўніцтва беларусаў з санацыяй. Усе дзівіліся таму...

Абезгалоўлены камуністычны рух прыціх і месцамі рассыпаўся, часткова падаўся ў падполле. Тлела да пары да часу агорнутае шэрым попелам вуголле і ў Моталі. Барыс адчуваў яго, але ладу ў думках больш не было, дый ішлі тыя думкі ўжо трохі іншым парадкам.

Неяк у бацькавай бібліятэцы знайшоў ён тоненькую, бы налісні́к, брашуру. Уласна, бацька ж і параіў яму яе пачытаць... На вокладцы было пазначана: А. Бяроза. «Расейска-польскі баль і беларускае пахмелле». Яна была выдадзена ў Пінску ў друкарні «Hasto» ў 1921 годзе.

«У даўно мінулыя часы жорсткіх войнаў, — чытаў Барыс, — калі адно з дзікіх плямёнаў перамагала другое слабейшае племя, тагды пераможцы на полі бітвы святкавалі сваю перамогу: усім палонным скручвалі вяроўкамі рукі і ногі, раскладалі іх па зямлі і клалі на іх дошкі, пакрывалі тыя дошкі каберцамі, а затым садзіліся самі, пялі

песні, пілі хмельны напітак і, напіўшыся п'янымі, танцавалі на гэтых дошках. Стогны і крыкі бяздольных палонных, ляжачых пад дошкамі, яшчэ больш весялілі падгуляўшых пераможцаў і заглушаліся музыкай, смехам, п'янымі крыкамі...».

І далей невядомы Барысу аўтар перакідваў масток ад пляменаў у бліжэйшыя гады і сучаснасць, калі ўжо цэлыя народы, якія лічылі сябе культурнымі, перамогшы ў вайне слабейшых за сябе, святкавалі перамогу, акурат як тыя дзікія плямёны, толькі замест дошак яны накладвалі на пераможаны народ і яго зямлю іншы прэс — свае дзяржаўныя ўстановы, сваю чужацкую культуру, мову і рэлігію. Гэтак рабіла Расея ў дачыненні да Польшчы і Беларусі. «Расейскія чыноўнікі, — чытаў Барыс, — зусім не разумелі мясцовай — ні польскай ні беларускай — мовы і ва ўсіх установах пісалі і гутарылі толькі на расейскай мове, нават забаранялася зварочывацца да чыноўнікаў на польскай ці беларускай мове».

Брашура захапіла Барыса настолькі, што асобныя старонкі яе ён перачытваў па некалькі разоў.

Аўтар выказваў сваё крайняе здзіўленне тым, што Польшча, толькі што вырваўшыся з расейскіх ціскоў і нямецкай акупацыі, толькі крышачку набраўшыся моцы, пачынае паўтараць ганебны прыклад сваіх расейскіх прыгнятальнікаў. Польскі ўрад пад выглядам барацьбы з бальшавікамі заняў амаль усю Беларусь, кажучы сабе і ўсяму свету, што польскія войскі займаюць не беларускія землі, а «ўсходнія» землі Польшчы. Ён крычыць на ўвесь свет: «Нема жаднэй Бялорусі. Ёсьць толькі вялікая ад можа да можа Польшча!» З другога боку савецкі ўрад, лічачы Беларусь «заходняй вобласцю Расеі», таксама пхае сваю Чырвоную Армію на беларускія землі.

Аўтар яскрава высвечваў самае вялікае ліха тутэйшых і быццам цвікі забіваў у свядомасць Барыса, ставячы адно за адным пытанні:

«Якім чынам Польшча з прыгнечанай зрабілася прыгнятаючай?

Чаму польская ўлада ў 1919 годзе разагнала беларускі ўрад у Менску і сяброў яго кінула ў турму?

З якой прычыны зачынены ў Гародні беларускі Нацыянальны камітэт і польскія жандары арыштавалі беларускіх дзеячаў?

Чаму арыштоўваюць беларускіх вучыцеляў і высылаюць у канцэнтрацыйныя лагеры?

Чаму польская ўлада так перашкаджае адчыняць беларускія школы і польскія жандары збіваюць сялян, якія патрабуюць адкрыць у іхніх вёсках беларускія школы?

Чаму, урэшце, польская ўлада зачыняе беларускія газеты і, наогул кажучы, не дае свабодна развівацца нацыянальным беларускім арганізацыям і не хоча існавання незалежнай Беларусі...»

Усе гэтыя пытанні неаднойчы сабе задаваў Барыс, але яны не выклікалі такой выразнай трывогі і болю, пакуль не былі прачытанымі ў кніжцы. Друк прыдаваў ім як бы законны статус, сілу, яскравасць.

Расейскі гнёт над польскім народам узгадаваў у яго асяродку, асабліва ў польскай арыстакратыі, што ачольвае цяпер польскую палітыку, страшэнны шавінізм — сляпую нянавісць да ўсяго расейскага і наогул усяго няпольскага. І от беларускі народ ляжаў цяпер пад «культурным» прэсам, пад тоўстымі дошкамі Польшчы, а паны балявалі, седзячы зверху.

Выразна, жыва паўстала ў ягоным ўяўленні сустрэча са Скірмунтам, калі ён зноў ехаў у Парэчча — вёз мёд у бідонах да купца Клямкі. Гэта быў прысадзісты, з агністарыжай бародкай і шырокай пляшынай на макаўцы гном, іменна так ён успрымаўся. А прозвішча — Клямка — далі яму, пэўна, з-за шырокага пляскатага носа, якім ён прынюхваўся да ўсяго.

Клямка ўзважыў мёд, зазірнуўшы пры гэтым у бідоны, запісаў вагу, падлічыў, колькі ён будзе вінен грошай і даў Барысу распіску. Не выключана, што рахуба абяцала яму добры прыбытак. Уткнуўшыся на момант невялікімі мітуслівымі вочкамі ў Барысаў пагляд, глыбокі і доўгі, ён усміхнуўся:

— Мёд — скарб спрадвечны. Проша, пане, у хату!

Яны селі за стол, накрыты белым абрусам, узялі па келіху:

— За здароўе пчаляра селяніна Пятра Рамановіча! — абвясціў Клямка.

— Дзякуй, пане дабрадзею! Такіх людзей, як мой бацька, сапраўды мала, і яны мацуюць падмурак, на якім мы сядзімо.

— Ото ж, ото ж, святая праўда!

Закусвалі хлебам з салам, пахучым мёдам з салёнымі агуркамі.

— Такія людзі — як дойліды. Не тое, што мы з вамі!

— А што — мы?..
— Бы тыя вусені на капусце! — пацвельваючы, сказаў Барыс.
Вочы ў Клямкі пашыралі:
— Гм... Бачу, млоды пан не знайшоў для сябе вартага занятку ў польскай дзяржаве?
— Напэўна... Толькі мне хацелася б зразумець, пане Клямка: што такое «варты занятак»? І ці вартым жыцця, скажам, было тое, чым займаліся тут, у Парэччы, паны Скірмунты, дзед і бацька яснавяльможнага пана Рамана?
— То Скірмунты стварылі вытворчасць, якую парушыла вайна. Суконная фабрыка вывезена.
— Так, але ж я ўдакладню пытанне: ці варта мне, скажам, нажываць дабро і быць панам сабе і людзям, быць, напрыклад, памешчыкам Скірмунтам?
— О-о, пся маць, чаго захацеў млоды хлоп, а? Цікава ж, якая планіда прадвызначае твой шлях у жыцці?
— Я пра гэта не ведаю... Але ў той мой прыезд сюды, пане дабрадзею, я меў сустрэчу з панам Раманам Скірмунтам, і пасля працяглай размовы з ім у мяне ўзніклі пытанні...
— Да яго?.. Не, ён цяпер у Варшаве. Маёнткам правіць ягоная сястра.
— Пане а пане, пытанне да вас: ці варты чалавечай годнасці ваш занятак? Як купец вы шукаеце свой інтарэс і на тым спакваля нажываеце сабе капітал? Добра гэта ці не? І ці мае чалавечую годнасць памешчык Скірмунт, на якога працуюць сяляне? Як лічыце?
У Клямкі вочы яшчэ больш акругліліся і ён прашаптаў:
— Свента Марыя! Што я чую: ты камуніст?..
Барыс вытрымаў яго дапытлівы позірк:
— Вас цікавіць мой светапогляд? Калі так, адкажу. Жывучы ў Расіі, я сустракаў камуністаў. Я слухаў іхнія прамовы. Але мне не прыходзіла ў голаў, што трэба выслухаць яшчэ і процілеглы бок. Цяпер я спрабую кампенсаваць свой пралік і, вядома ж, з вашага дазволу, стаўлю пытанні.
— Не тшэба! — усклікнуў устрывожаны Клямка. — У Польшчы, дзе правіць маршал Пілсудскі, такія пытанні нікому не дазволена ставіць! Дый хто можа вызначыць годнасць чалавека, апроч самога пана Бога? Або не?.. На памешчыка Рамана Скірмунта сяляне моляцца. Пан Ра-

ман пераняў ад сваіх продкаў найлепшыя прыкметы і стаў дбайным гаспадаром. А яшчэ ён людзяны. Ён добры для сваёй абслугі і тутэйшых сялян — не адной пажылой і нямоглай асобе ў вёсцы памог, прывёз, парэзаў і пакалоў дровы зімою. Няхай сабе і з дапамогай блізкіх людзей. Або вясною, калі ў каго выходзіць належны запас, падсыпле зерня ў сялянскую засеку. Грэх, вялікі грэх, пся маць, ставіць пад сумненне чалавечую годнасць Скірмунтаў.

Толькі, слухаючы палкую тыраду пана Клямкі, Барыс Рамановіч стрымана і патаемна ўсміхаўся. Ён папрасіў купца не крыўдаваць на яго і, вяртаючыся дадому, наўмысля праехаў міма панскага маёнтка, каб зазірнуць у парк. А пасля падаўся цераз той гай ужо з апалым лісцем, адкуль тады, як цуд, было выскачыла панская пралётка.

На душы, праз якую прайшлі чарадой успаміны, ляжаў светлы сум і захапленне памешчыкам, грамадзянінам, палітыкам, адным словам — асобай, якая па кропельках сабрала ў сабе і ўвасабляла яскрава ўсё адметнае, пракаветнае, бацькоўскае, беларускае, знаёмае, блізкае — як не саму Айчыну.

Але ж паціху адышлі кудысьці далей, упарадкаваліся, няйначай, леглі на дно, у запас і гэтыя ўражанні, уяўленні, успаміны. Жыццё рухалася незалежна ад волі аднаго чалавека — імя якому ці то Барыс, ці Пятро, ці Раман... Жыццё ўводзіла ў новыя лабірынты і патрабавала волі, энергіі, каб у іх разабрацца, а маладосць — ліхадзейка, яна брала сваё. І неўзабаве гарачае бунтарскае сэрца Барыса перайшло на іншыя рытмы. Яно гарнулася ўжо, бадай, не столькі да палітыкі, колькі да дзевак.

Пасля праведзеных пэўным чынам агледзін, выбару і выбракоўкі нявест на зборнях, ён спыніўся на Ганне, гожай дзяўчыне, дачцы Пятра і Параскевы Міховічаў. То была сялянская сям'я, самавітая, дружная, у якой шмат працавалі і, займеўшы ўдачу, купілі сячкарку і выбудавалі млын, у якім вецер выступаў у якасці рухавіка. Пісарчукі тым часам прыдбалі не менш хітрую рэч — малатарню для абмалоту збажыны. Яны сябравалі і, калі Пятро Міховіч заўчасна памёр, Пятро Рамановіч навучыў яго сыноў, Мікалая і Паўла, пчалярскай справе, каб яны ўзбіліся на поспех таксама. Была ў іх сястра Ганна... Юная і юркая Міхавічанка Ганна неўзабаве аформілася і выспела гожай, шчырай сялянкай, безадказнай у працы. Маючы пэўнае ўяўленне аб дзявочай годнасці, яна нявесцілася і

кідала на хлопцаў доўгі дапытлівы позірк. Барыс ацаніў у ёй, напэўна, дакладнасць рухаў, гібкасць, спрыт у танцах, своеасаблівы тэмбр, напеўнасць голасу, як і лёгкае, часам перарывістае і хвалюючае дыханне.

Дай ужэ ж вэсна,
Дай ужэ ж красна,
Дай з стрэх вада капле,
Дай з стрэх вада капле,
Дай з стрэх вада капле.
Маладому плесарыку
Быстра рычка пахне,
Быстра рычка пахне,
Быстра рычка пахне.

Улетку яны з Ганнай заплывалі на возера; іх яно цешыла шырокай прасторай, лёгкімі хвалямі, якія ледзь-ледзь гойдалі човен. Вабілі вока спакойныя плёсы, трыснягі і дзівосна свежыя лілеі... Ім здавалася, што вадзяны водар і хараство лілей нельга перадаць на словах. Уражанні заставаліся ў сэрцы. Хараством і спакоем быў напоўнены іх унутраны свет. Адпачывалі на невялікай зялёнай і мурожнай выспе. У прыродзе наогул усё было такое дзівосна цнатлівае, новае і заўсёднае, вечнае, што ім таксама здавалася, што яны на чоўне прастуюць у вечнасць і што ніколі не скончыцца для іх ніводнае шчаслівае імгненне.

Пасля прагулкі па Мотальскім возеры з твару Ганны доўга не знікала патаемная і шчасная ўсмешка, у яе голасе была сама мілагучнасць. Якраз у адну з такіх хвілін ёй пад сэрца і пастукалася сваім сэрцайкам Маня.

Барыса Рамановіча вось-вось павінны былі прызваць на службу ў гжэчнае польскае войска, а гэта значыла, што ён часова мусіў развітацца як з бацькоўскай хатай, так і з асяродкам усіх уцех, летуценняў. Дома захваляваліся, асабліва Аксіння-маці, якой стала вядома пра ягоны вялікі грэх перад Ганнай Міхавічанкай. І, каб улагодзіць падзеі, Барыс за дзень да свайго ад'езду ў бок Варшавы знайшоў на пагулянцы сваю мілаху, вядома, замружаную, сумную, хоць і бойкую (не хацела выгляду падаваць, што ёй блага), павёў да бацькоўскае хаты. Але Ганна, як толькі даведалася пра намер Барыса ў гэты дзень, у гэты момант назваць яе перад Пятром і Аксінняй Пісарчукамі сваёй жонкай, надта збянтэжылася. Яна адчула сорам і страх у

душы ды заўпарцілася на самым падворку. Тады Барыс падхапіў яе на рукі. Ганна ж, нягледзячы на свой зняважаны гонар, а можа якраз і таму, гарнулася да гожага хлопца і зблізку прыцягвала яго да сябе, бы магнітам. Ён унёс яе ў хату, паставіў побач з сабой. Ганна не ведала, куды вачэй дзяваць. А ў Аксінні пры ўсведамленні гэтакай дзеі сэрца закалацілася ад непакою.

— Мама, глядзі Ганну, каб не збэсцілася, і не давай нікому ў крыўду. А я... я тым часам д'яблу гэтаму служыць буду. Чаго ўтаропілася? Я кажу пра Пілсудскага.

— Добра, сынку...

На наступны ж дзень і паехаў. Яго чакаў кавалерыйскі полк.

А вакол сонца па нябачнай спіралі ў прасторы і часе раскручваўся ўжо 1929 год...

## 6

Нарадзілася Маня акурат у зімовую сцюжу, пасля вадохрышча, калі Зямля круцілася-вярцелася і сціху выстройвала чалавечыя лёсы пад знакам Вадалея. Польскія паны ўсё яшчэ ўладарылі ў Пінску, Янове, Моталі. Па тым часе яны ўладарылі на ўсе бакі ад Моталя, гміннага мястэчка Драгічынскага павету Палескага ваяводства. Ёй жа спадобілася мець бацькамі карэннага беларуса, фацэтнага сына Пятра Рамановіча — Барыса, высокага, спраўнага, круглатварага дзецюка, у пары з Ганнай Міховіч, мясцовай прыгажуняй, якая станам, гнуткім і ладным, паглядам, лагодным і ўніклівым, пасавала яму.

Маня — першая завязь, а на вочы дзеда — першая ягадка іхняга, Барыса і Ганны, кахання. Звычайнае немаўлятка, яна адразу зрабілася лялькай, ад якой чакалі Бог ведае чаго, і — што дзіўна — Маня апраўдвала самыя лепшыя спадзяванні бацькоў, усёй радзіны ў Моталі і нават далей у вёсках, дзе жылі сваякі. Дзяўчынка актыўна смактала пругкія Ганніны грудзі, забаўлялася цішай і назіраннем розных прадметаў, калі яе пакідалі адну. Вадалей-небарака, мусіць, наклаў-такі добры адбітак на яе паводзіны, бо глядзела Маня-золатка што на матчын твар, што на іншыя твары і рэчы наўкруг учэпіста, намагаючыся, пэўна, спасцігнуць нейкую важную для яе патаемасць.

Яшчэ не споўнілася года, як Маня стала на ножкі, пайшла, смеючыся і радуючыся акурат з гэтакай сваёй пра-

вы болей за бацькоў. Мурашка зусім, яна часам залазіла пад стол, каб падслухваць, пра што вядуць у застоллі рэй знаёмыя і незнаёмыя дзядзькі і маладзіцы.

Іх сям'я жыла ў дзедавай хаце, займаючы два пакоі, якія былі спальняй і кухняй, а яшчэ яны мелі асобныя сені. Ці трэба казаць, што для малечы Мані, калі яна, стаўшы на ножкі, пачала бегаць, воля была не толькі тут, але і на дзедавай палавіне. Дзед наогул меў вялікую прыхільнасць да ўнучкі. Маючы двух сыноў, ён сумаваў па дачцы, але дачку яму Аксіння так і не нарадзіла. Відаць, Маня запаўняла ў ягонай душы патаемны куточак. Па крайняй меры, унучка заўжды гарнулася да дзеда і потым з усёй непасрэднасцю цікавілася ягоным гаспадарчым заняткам, а ён адорваў яе ўвагай і ласкай. У такім сугуччы і нараджалася ў іх вышэйшая еднасць, што цешыла ўсіх.

А праца на сялянскім подворку, як і ўвогуле на зямлі, ішла наплывам, мянялася спраку веку, бы вада ў віры. Гэты калаўрот, праўда, захапляў больш Маню, унучку Пятра, чым яе бацьку — Барыса, які пасля службы жаўнерам у Войску Польскім вярнуўся на бацькоўскі падворак.

У мястэчку, дзе ўсім было цеснавата, шырыўся гандаль, рамесніцтва, адыходныя промыслы. Сяляне ўладкоўваліся на працу па найму, утваралі брыгады цесляроў і сталяроў, рабіліся плесарамі, гэта значыць, плытагонамі на Ясельдзе і іншых водных шляхах. Ім, дзецям прыроды, з нейкага часу мроіліся вандроўкі, прыгоды і капейка, зразумела, капейка, здабытая сваім мазалём. Дзяўчаты, дарэчы, больш трымаліся спрадвечнага — разам з мацяркамі і бабулямі працавалі ў сядзібах, у полі, апрацоўвалі і пралі лён, воўну, спявалі за прасніцамі, ткалі шыкоўныя посцілкі, прасціradлы, рушнікі, абшывалі сябе і радзіну.

У адвольным замесе сялянскіх традыцый і вольных рамесніцкіх ды рынавых веянняў Барыс Рамановіч шукаў сваё месца і, нарэшце, знайшоў.

У гмінным мястэчку акурат стваралася пажарная служба. Узначальваў яе пан Юргенсон. От Барыс і аддаў ёй перавагу — стаў стражнікам. Гэтай падзеяй, а калі больш яскрава — пажарнай каланчой у Моталі, можна сказаць, і было адзначана дзесяцігоддзе польскай акупацыі ў гэтым самавітым мястэчку заходняй часткі Беларусі, што, паводле Рыжскага польска-расейскага «мірнага дагавору» 1921 года, стала калоніяй Польшчы.

Сярод цывільнага люду пажарнікі мелі адметнасць — зашпільваліся на адмысловыя казённыя гузікі. Барыс, праўда, бачыў у польскім мундзіры нешта большае, чым наданне годнасці стражнікам. Актывізавалася палітыка польскіх паноў па прышчэпліванні сваёй нацыянальнай акрасы зямлі беларусаў; іх клопат быў зразумелы. Урад Пілсудскага непакоіла нарастанне бальшавіцкіх і наогул вызваленчых настрояў у жыхароў шматлікіх гмін і паветаў. На іхні настрой Барыс Рамановіч глядзеў як на спробу няшчаснага люду вылезці з-пад дошак (на якіх паны балявалі) на свет белы. Пры гэтым вызначалася цяга мужыкоў на ўсход, да аб'яднання з той часткай Беларусі, дзе, як лічылася, справядлівасць ходзіць пад чырвонымі штандарамі саветаў.

З інфармацыі, якой часам пан Юргенсон дзяліўся са стражнікамі, Барыс цяміў, што, насуперак волі ўладаў, спакваля расхістваецца ды расхістваецца акупацыйны рэжым у Крэсах Усходніх. Гэтаму спрыялі выступленні сялян: Косаўскае, Сташынскае, а неўзабаве і Кобрынскае ўзброенае... Канечне, там недзе пратэст быў больш рашучы і смелы, чым у маталянаў, аднак жа і ў Моталі спакой час ад часу парушалі ўлёткі, якія распаўсюджвалі мясцовыя прыхільнікі ўз'яднання і панаднага камунізму; так што водсвет тых бліскавіц, як бы далёка яны ні зіхалі, пэўным чынам даходзіў і сюды.

*Да ўсіх працоўных Заходняй Беларусі!*

*У апошні час у капіталістым сьвеце, а асабліва ў фашыстоўскай Польшчы, разгарнулася шалёная антысавецкая кампанія. Рымскі папа, рабіны і папы, буржуазія і сацыял-фашысты адкрыта прапаведуюць новы крыжовы паход супроць краіны саветаў.*

*У гэтай ганебнай рабоце актыўна дапамагаюць фашыстоўскай дыктатуры яе сацыял- і нацыянал-фашыстоўскія агенты(ППС, Бунд, Вызваленне, Стронніцтво Хлопске, беларускія хадэкі, Сельсаюз, Луцкевіч, Астроўскі і інш.), прыкрываючыся ілжыва-апазіцыйнай фразай.*

*У сейме яны галасуюць за ваенны бюджэт і як пілсудчыкаўскія сабакі накідваюцца на камуністычных дэпутатаў, якія смела і адкрыта заклікаюць працоўных да рэвалюцыйнай барацьбы, на абарону СССР. Разам з паліцыяй яны расстрэльваюць дэманстрацыі рабочых і сялян. Разам з фашыстамі яны зрываюць забастоўкі і душаць іх.*

*Уся лепшая і значная (больш паловы) зямля знаходзіцца ў руках невялічкай купкі абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў...*

*Голад на Віленшчыне і паўсюдны неўраджай сталі бытавым з'явішчам. Зямельная і крэдытная палітыка фашыстоўскага ўраду ставіць сабе за мэту ўзмацненне і пашырэнне абшарніцка-кулацкай гаспадаркі і далейшае паняволенне і руйнаванне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.*

*Непасільным падаткавым ярмом, памножанымі штрафамі, нядоімкамі, страхавымі ўзносамі, акцызамі, мытамі, шарваркамі і іншымі формамі акупацыйнага грабяжу і кабалы ў цэлым пілсудчыкі выматваюць з працоўнага люду ўсе сілы.*

*Гэтак далей жыць нельга! Гэтак далей пакутаваць і цярпець ужо ня хочуць і ня могуць нашы працоўныя. Свае пратэсты і абурэнні ўсё больш і часцей яны выяўляюць у форме забастовак рабочых і хваляваннях сялян. Забастоўкі рабочых у Вільні, Пінску, Гародні, крывавыя сутычкі бядняцка-серадняцкіх мас з паліцыяй і кулакамі ў Лідскім, Каматлоўскім і Тэраспальскім раёнах, дэманстрацыі беспрацоўных у Вільні, Пінску, узмацнёны рост рэвалюцыйных настрояў у арміі, адыход людзей ад абшарніцка-кулацкіх, фашыстоўскіх ваенных і гаспадарчых арганізацый — гэта найбольш яскравыя рэвалюцыйныя дзеі за апошні час.*

*Ні граша ўраду Пілсудскага-Бартэля, ураду тэрору, голада і вайны! Рашуча байкатуйце ўплату падаткаў, не плаціце ніякіх узносаў у крывавы фонд тэрору і вайны. Адмаўляйцеся ад усялякіх павіннасцяў. Ганіце прэч паліцыю саквэстратараў!*

*Вільня. Сакавік. 1930г.*

Усё, што ляцела весткай, гучала, крычала, усё спараджала ў сялян спадзяванні на змены ў жыцці. У лепшы бок. Бо ў горшы — ужо не было куды!

Тым часам, каб заняць хлопаў ды ўцягнуць іх у татальныя асіміляцыйныя працэсы і ўмацаваць сваё палітычнае становішча, хіжы ўладны рэжым пачаў арганізоўваць розныя дапаможныя каманды з мясцовага люду. У Мотал створылі службу «шчэльцаў», або больш дакладна, «стшчэльцаў» — стральцоў,— арганізацыю вайсковага характару з ліку добраахвотнікаў, куды ішлі ў асноўным дзецюкі, не маючы пэўнага жыццёвага занятку. У прагра-

му навучальна-выхаваўчай падрыхтоўкі шчэльцаў, апроч палітыкі і вайсковых заняткаў, уваходзілі фізічныя практыкаванні і спартыўныя гульні. У Доме людовым час ад часу наладжваліся і шчэльцаўскія забавы з гармонікам. Нярэдка яны заканчваліся бойкамі, у якіх супраць шчэльцаў выступалі мясцовыя патрыёты, інакш кажучы, хлопцы з пракамуністычнай або камсамольскай рошчынай у душы.

Барыс па-свойму перажываў падзеі. Як бы там ні было, але той пажарнай каланчой, узнятай над мястэчкам, паны дужа дагадзілі маталянам, бо іхнія хаты ў мінулым неаднойчы гарэлі. Хаты стаялі шчыльна, страха да страхі — на вальнейшае рассяленне людскога муравейніку тут не хапала месца. З гэтай прычыны пажар, няўрокам кажучы, асвойтаўшыся ў нейкай бядачай халупе, мог лёгка злізаць цэлую вуліцу.

Паны дагадзілі, напэўна, і Барысу, які займеў сталы занятак, пры тым, што меў шмат вольнага часу і ўзбіўся на нядрэнны заробак, на сіні мундзір. Цяпер ён дэфіляваў па местачковых вуліцах, гаманкіх ды зыркіх, у дыхтоўным мундзіры з бліскучымі гузікамі, — ладны, станісты, спанатраны на гумары і блюзнерстве, лавіў на сабе доўгія позіркі мясцовых дзяўчат, маладзіц... У вольныя ад дзяжурства гадзіны, калі Ганна мела адхланне ад працы ды ласку да яго, стражнік Барыс, праўда, бавіўся з ёй.

Часам яму ставала імпэту лавіць рыбу на возеры, але ж вуды не прызнаваў і аддаваў перавагу рышоўцы. Рыбаліў не адзін — шукаў хеўру, з якой, як кажуць, і бацьку добра біць. Разам выбіралі месца і час, каб употай ад спадароўарцельшчыкаў, якія арандавалі ў пана Юргенсона возера, закінуць снасць.

З большай ахвотай, праўда, Барыс лавіў ракаў. Ракі, як тыя стражакі падводнага царства, насялялі грывы ракі і само возера. Штораз ён прыносіў іх дадому па поўнаму вядру. Адно разумеў: рыба, ракі для яго — забава і толькі. Ён не быў лайдаком, але ў душы выношваў іншае, наважваўся заняцца сур'ёзнай справай па мену, продажы. Ён меў намер урасці ў гандаль, камерцыю, каб лавіць не столькі шчупакоў і ракаў, колькі злотыя, якія натуральна слізгалі б па чалавечых далонях.

Барыс Рамановіч цяпер, чуецца, не той гімназіст а 17 гадах, які прыехаў з Расеі, — жыццё, сям'я год за годам усё больш адцінала яго ад юначых захапленняў. І прычыны таму былі розныя. Іх падпольная спулка, на жаль, не

мела істотнай падтрымкі ад іншых падобных асяродкаў на Брэстчыне. Практычна яна страціла жывую зваротную сувязь і з Усходняй Беларуссю, дзе за НЭПам будавалі запаветны лад жыцця. Туды больш не пускалі. Разам з тым, местачкоўцаў не на жарт напалохалі арышты польскай дыфензівай камуністаў-падпольшчыкаў, іх катаржнае ўтрыманне ў турэмных засценках.

Паводле сведчанняў, якія пакінулі нам удзельнікі тых падзей, у верасні 1935 года польскія ўлады наладзілі паляванне на патрыятычна настроеных беларусаў з камуністычнай спулкі, дзе пераважала моладзь. Актывісты раскідвалі ўлёткі, сваім зместам скіраваныя супраць польскіх уладаў, развешвалі чырвоныя сцягі. Дык палякі высачылі амаль усіх і ўчынілі арышты. Дзяўчат, праўда, пасля допыту адпусцілі, а хлопцаў трымалі за кратамі ажно два тыдні, трымалі і выхоўвалі тумакамі ў духу пачцівасці да польскай дзяржавы. Кіраўніка ж спулкі Яна Мацукевіча па прозвішчы Самарака моцна пабілі, потым звязанага ўскінулі на воз і — у павятовы горад Драгічын на допыт, на суд, адтуль — у Пінскую турму тэрмінам на чатыры гады. На волі застаўся адзін падсвістыч — гэтак зваў спаважны люд Іллюка Дубовіча, які ленаваўся абрабляць свой гарод, — на падсвістыча-шэльму ў палякаў не хапіла ўлік.

Але толькі для выхавання сапраўднай пачцівасці, на думку карнікаў, учыненага імі пярэпалаху было мала, і праз колькі дзён яны вярнуліся.

Акурат мружылася нядзельная раніца. І гэту раніцу, і ўвесь дзень азмрочыла зграя паліцыянтаў. Яны зганялі мужыкоў з Моталя і з вёсак гміны да хат удзельнікаў камуністычнага руху,— да хат бацькоў юных бунтароў і прымушалі дарослых грамадзян, паважных, сумленных, чыніць грэх — здзіраць саламяныя стрэхі з хат.

У вачах селяніна, рамесніка гэта было дзікунствам.

Дый стрэхамі акцыя не абмяжоўвалася. Паліцыянты вышуквалі прыхаванае ў свірнах ды каморах збожжа, рассыпалі яго па зямлі, распорвалі і выкідвалі з пакояў падушкі, а таксама палатно, распускалі і шпурлялі пад ногі снапы неабмалочанага жыта, пшаніцы, аўса, прымушалі людзей усё гэта мяшаць у кучу і таптаць, таптаць разам з зямлёй. У адмысловай панскай крыві, пэўна, кіпела столькі разбуральнай энергіі, што яна прыводзіла іх у стан раз'юшанасці і шаленства.

Зразумела, пасля такога пагрому замест пачцівасці і спагады да сябе палякі выклікалі моцны дакор, агіду,

нянавісць. Барыс Рамановіч хадзіў у гэтыя дні пахмурны. Ці не з роспачы і пратэсту ён спрабаваў заехаць на кані ў расчыненыя дзверы польскага рэстарана? На такое свавольства ў Мотալі мог рашыцца хіба толькі ён, Барыс. Таму здзіўленыя, ураженыя і пацешаныя адначасова местачкоўцы пры выпадку ківалі Пятру Пісарчуку:

— Ото ж і сын у цябе — зух!

— Шэльма галайдакаваты! Га?

— Ой-ё-ёй!..

— Уга!..

— Эвой!

А Маня, мала што разумеючы ва ўчынках дарослых, пераймала ад бацькоў сваіх хіба што іхні настрой ды спачувала кожнаму, каго паны крыўдзілі.

Пасля пагрому ў Моталі становішча пракамуністычнага падполля яшчэ больш пагоршылася, і не толькі з-за жорсткай рэакцыі ўладаў. Хаваючыся ад праследу, Паўлюк Мінюк і два браты Валынцы падаліся ў Савецкі Саюз. Ім употай удалося перайсці мяжу і трапіць у сталіцу вольнай Беларусі. Аднак далей іх след згубіўся. Дайшлі чуткі, што на тым баку арыштоўваюць усіх перабежчыкаў і ніхто ім не дае веры, калі яны прадстаўляюцца сябрамі камуністычнага падполля. Да іх ставяцца як да шпіёнаў.

Барыс адчуваў скруху і няпэўнасць, бо недзе там у глыбіні душы ўсё яшчэ тлела неперагарэлым вуголлем цудоўная казка пра новы свет і сацыяльную роўнасць. Ён не пазбыўся расійскіх уражанняў і захапленняў. Але ж ім ужо амаль была страчана глеба, якая жывіла ягоны чалавечы інтарэс да новабудоўлі, што звалася сацыялізмам. На шэрае вуголле ў душы напластоўвалася іншае, як што пайшла паласа, дзе пераважалі сямейныя клопаты. Ён дбаў цяпер пра ўласную годнасць у местачковым жыцці, па-свойму дзелавым і крыху балаганным, дыханне і дынаміку якому надаваў капітал.

Зрэшты ім па-ранейшаму кіравалі матывы сумлення, толькі цяпер ягоны імпэт шукаў іншыя крыніцы і сродкі самарэалізацыі, натхнення.

Аднойчы бацька прынёс ад паноў і даў яму прачытаць гісторыка-этнаграфічную працу «Сяляне мястэчка Моталь і іхнія песні», напісаную і выдадзеную ў 1888 годзе членам імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства Марыяй Саковіч, ураджэнкай суседняй вёскі Моладава. І тады Барыс як бы збоку паглядзеў на сябе, на сваіх местачкоўцаў, сялян і яўрэяў, занесеных сюды нейкім вет-

рам. Асобныя старонкі раскрывалі для яго вытокі сённяшніх з'яў. Яны ўражвалі значнасцю і драматызмам таго, што рабілася на гэтай зямлі.

У ніклыя гістарычныя часы Моталь трапляў пад уладу і апекаванне розных дзяржаў, у асноўным Польшчы, Масковіі... Мясцовыя жыхары лічылі сябе грамадзянамі Вялікага княства Літоўскага, і пагатоў — за польскай каралевай Бонай яны набылі права мяшчанства, што практычна рабіла іх вольнымі людзьмі, так бы мовіць, прадпрымальнікамі; за імператрыцай Кацярынай сталі дзяржаўнымі сялянамі, плацілі падаткі, ды зноў жа ўнікалі прыгону, і таму яны адрозніваліся ад прыгонных сялян навакольных вёсак нават знешнім выглядам. Ці варта казаць, што маталяне мелі светлы розум, смеласць у зносінах з уладным светам і вызначаліся добрым норавам, кемлівасцю.

Праўда, далей болей пагаршалася матэрыяльнае становішча тутэйшага люду, і ўжо на вачах у даследчыцы М.Саковіч многія гібелі, не маючы зямлі, гаспадаркі — перабіваліся выпадковымі заробкамі. Прычым, пісала Саковіч, *«яўрэі да такой ступені эксплуатавалі іх, што некаторых загналі ў кабалу на ўсё жыццё. У селяніна, напрыклад, у сярэдзіне зімы выходзіць хлеб — трэба купляць, а грошай няма; ідзе да камісіянера, які наймае рабочых на сплаў лесу, бярэ грошы пад вялікія працэнты і бярэ абавязацельства адпрацаваць з надыходам вясны; цягне лямку небарака, ды за адзін раз усяго, што павінен, не адпрацуе і даводзіцца яму ісці на наступны год рабіць ужо задарма, а цяжкое становішча прымушае зноў пазычаць, працэнты растуць і такім чынам селянін заблытваецца... Апошнім часам маталяне да того збяднелі, што яўрэі не выдаюць ім грошай пад вексалі, а замест працэнтаў бяруць або засевы, або што-колечы з дамашняй скаціны — каня ці карову, а пад заклад выдадзенай ім сумы патрабуюць дамы ці іншыя збудаванні. Рэдкі моталец вольны ад кабальных пазык... і жыды,* — зазначала яна, — *давёўшы справу да гвалту, прадаюць усю маёмасць з малатка. Маталяне да гэтага прызвычаіліся так, што словы «пышы на мні» (гэта значыць, запісвай у лік маёй пазыкі) увайшлі ў пагаворку. Лепшую частку мястэчка яўрэі прысвоілі сабе. Яны пасяліліся часткова ў жылых дамах сялян, пацясніўшы іх за даўгі на самы край паселішча. Былога калісьці дабрабыту анізвання, і нельга не пашкадаваць гэтых людзей, што спакон веку прывыклі*

*да матэрыяльнай незалежнасці, да свабоды, высакародны знак якой на сабе і цяпер носяць; ён жа выяўляецца ў шырокай чыннай натуры мотальца, асабліва ранейшых, лепшых часоў».*

То ці мог Барыс Рамановіч адвярнуцца ад падобнай гісторыі? Ён пачуваў у сваёй душы пратэст і абавязак нітаваць мінулае з сучасным у жыцці маталянаў, клапаціцца не толькі пра сваю сям'ю. А ў свядомасці не раз паўставаў малюнак з дошкамі над паняволеным людам, тымі дошкамі, на якіх балююць чужакі, палякі, яўрэі, і такі шырокі клопат нітаваўся ў яго, бадай, з ідэямі камуністычнага ўладкавання жыцця, дзе кожны дбае не толькі пра сябе. Таму і выспела, выразна акрэслілася думка: стварыць канкурэнцыю мясцовым гандлярам, якія, маючы манаполію ў торгу, трымалі цэны ў сваіх руках. Яны, як тыя крумкачы, групаваліся вакол сінагогі на рынку і жылі адасоблена сваёй абшчынай — па вуліцах Берасцейскай і Пінскай. Яны мелі ласку ад улад выбіраць собскага солтыса, каб не падпарадкоўвацца хрысціянскаму солтысу — свінячаму, як выказваліся між сабою.

Асэнсоўвалася большае: у той час, пра які акурат апавядала ў сваім даследаванні Марыя Саковіч, на становішча солтыса ў маталян таксама ўплішчваліся яўрэі. Найперш — Озер Вайцман, круты, неардынарны, стаpанны чалавек — мяркуючы ўжо хоць бы па тым, што разам з Рахеляй, а па-мотальску — Рохляй, нагалубілі ажно адзінаццаць дзяцей; наступным, пасля Вайцмана, быў солтыс Абрагам Маталянскі, пра якога, праўда, мала якіх ведамак і захавалася, апроч таго, што ён вучыў яўрэйскай мове сына Рохлі і Озера — Хаіма, як што апошні прагна цягнуўся ў людзі.

Вяршэнства яўрэяў у мястэчку, на думку адукаванага люду, і абумоўлівала павуціну, іх нелюдзяны, іх жорсткі ўціск і кабалу.

У душы Барыса Рамановіча, безумоўна, таіўся зух прабеглы, і яму ўласцівы быў імпэт гульні, дзе спакваля крок за крокам ён вызначаў свой шлях да мэты. Думкі пра ўласную краму ды гандаль акурат і захапілі яго магчымасцю сапраўднай і вольнай чалавечай гульні на полі, якое трымалі ў сваіх руках іншыя людзі. Праз новую і пакуль яшчэ таямнічую для яго прызму гандлю Барыс глядзеў цяпер у будучыню, дзе мроілася яму шчасце сям'і і палёгка народу, да якога ён не быў абыякавы.

## 7

Пад час службы Барыса ў войску польскім у Моталі здарылася такая прыгода: адзін з ягоных, Барысавых, прыяцеляў — Андрэй Палто — атрымаў шыфраванае пісьмо, аўтарам якога быў не хто іншы, як ён, капрал Рамановіч... Вестка нейкім чынам абляцела ўвесь Моталь. Асаблівую ж вастрыню ёй надавала тое, што небараку Палто пачала цягаць на допыты дыфензіва.

Местачковаму абывацелю гэты выпадак падаваўся цікавым перш-наперш як выява штукарства Барыса. Усе ведалі, што ён пісьменны і, бадай, самы адукаваны пасля пана Юргенсона і свайго бацькі чалавек, што ён валодаў як рускай, так і польскай каліграфіяй ды надта прыгожа пісаў. Літары і словы на паперы кладліся шчыгульна і вольна, не раўнуючы, як пракос у добрага касца. Багата хто з малапісьменных і непісьменных жыхароў Моталя прасілі яго памагчы ў напісанні ліста, заявы ці якога-небудзь іншага дакумента, і ён нікому не адмаўляў — пісаў і тлумачыў, што рабіць далей. Грошай за паслугі не браў. А калі даводзілася разлічвацца з тым ці іншым за аказаную паслугу яму, сыпаў у жменю грошы, не лічачы. Шчодрай, невымерна шчодрай душы быў чалавек.

Ніхто не думаў, што малады і дасціпны атожылак Пісарчука здольны на такое штукарства — крыптаграмы, або шыфраваныя лісты, што наогул рабіла яго чалавекам адметным, загадкавым і рызыкоўным. Партыйная спулка, напэўна, магла б ганарыцца канспіратыўнымі здольнасцямі свайго сябрука.

Але ж гэта не спадабалася бацьку, які не падзяляў захапленняў Барыса палітыкай. Селянін Пятро Рамановіч наогул цяпер не любіў палітыку, а калі больш дакладна — нахабнага духу бальшавікоў, таго духу, які адчуў у Расеі, — не ўспрымаў пераробкі грамадства на апраметны камуністычны капыл, — і тым больш, калі там пачалася калектывізацыя.

У тым пралетарскім хаўрусе яго багата што насцярожвала і, слухаючы часам ад Барыса або ягоных прыяцеляў мілагучныя досведы з паноўленай Беларусі, ён ігнараваў іх; яго непакоіла празмернае захапленне мясцовых сялян падзеямі і ладам жыцця там, куды ніхто з іх цяпер не меў вольнага доступу і пра што меркавалі з няпэўных і суб'ектыўных паданняў, улётак, агітацыйных лісткоў.

Праўду казаць, не цешылі душу Пятра таксама і пілсудчыкі, іх гвалт, уціск, здзек з простага люду Крэсаў Усходніх. Праз сівыя стагоддзі доўжыцца палітыка польскіх паноў па апалячванні беларусаў, і няма на іх упыну.

Пятро хацеў працаваць і не ведаць зусім палітычнага шалу, але ж сын міжволі ўцягваў яго ў прастору, дзе нараджаліся і бурапенілі грамадзянскія хвалі.

Яшчэ не забыўся часовы арышт Барыса, і зноў — праява, гэтая шыфроўка, за якой у сям'ю магло пацягнуцца немаведама што. Пятро Пісарчук напісаў сыну ў войска ўсчувальны ліст, на які Барыс адказаў, што гісторыя з шыфроўкай не вартая выедзенага яйка, бо ў ёй ніякіх сакрэтных звестак не ўтрымліваецца. І бацьку з таго вальней на душы стала. Яму заставалася думаць адно, што за той шыфроўкай да Андрэя была гульня сынава, не болей, трэніроўка здольнасцей...

Але ж трывога не пакідала Пятра і тады, калі сын вярнуўся са службы ў войску і пачаў па-новаму штукаваць у камерцыі і вытворчасці. Ён заснаваў разам з прыяцелямі спулдзельню, у якой рабілі і прадавалі местачкоўцам дахоўку і пустакі — гэта значыць пустацелыя будаўнічыя блокі. У краме таварыства, адчыненай імі таксама, прадавалі ўсё, і тавараў было нікольki не меней, чым у крамах яўрэяў. Адно гандаль тут улічваў попыт і здольнасці пакупнікоў з мясцовага атачэння. Багата хто браў тавар у крэдыт, і менавіта цераз рукі Барыса Рамановіча праходзілі ўлік і ўсялякая іншая пісьмовая аздоба — ён працаваў за бухгалтара.

Часам прыходзіў да Барыса селянін і бедаваў, што трэба пакрыць хату, а грошай няма на дахоўку. Барыс высвятляў абставіны глыбей і, нарэшце, суцяшаў бедака:

— Не журыся. Талан не ў грашах, а ў кемнасці. Бяры картку для ўліку... Пішы. Бяры дахоўку, а як будуць грошы, аддасі.

Пісарчук-старэйшы ганарыўся дзелавым спрытам сына і разам з тым імкнуўся засцерагчы Барыса ад далейшых памылковых поглядаў, меркаванняў, што тычыліся, бадай, аднаго — практычнага ўвасаблення сацыялізму ў Моталі. Пра сацыялізм у Савецкай Беларусі найгоршыя прадчуванні Пятра такі спраўджваліся. Неслі праўду адтуль асобныя рызыкоўныя і адважныя людзі, каму ўпотайкі ўдалося прабіцца праз мяжу і вярнуцца назад.

З адным такім вандроўнікам Пісарчука пазнаёміў той самы Андрэй — сын Кузьмы Палто, — які атрымліваў ад

Барыса крыптаграмы. Займеўшы спадчынную палоску зямлі і трохі грошай, ён сумеў разгарнуць гаспадарку і завёў дружбу з Пісарчукамі.

З Андрэем Палто жыў малодшы брат Ладзя, але ў таго сваёй зямлі не было і ён не ведаў, за што рукі зачапіць, каб пачаць ладкаваць жыццё, набыць сваю чалавечую годнасць ды, нарэшце, сям'ю. Ладзя наведваў маладзёжную групоўку, якая сваім калектыўным нутром хінулася да штандараў камунізму; там штодня баялі пра заможнае жыццё ў камуніі, дзе няма бедных і багатых і дзе для ўсіх усяго ўдосталь. Ладзя пачаў марыць пра гэтакую незвычайную зямлю, пра тую краіну і аднойчы знік на цэлых два гады. Ён быў там. Аднак у тое, што ён перажыў і пра што распавядаў потым, ніхто чамусьці не хацеў даваць веры.

Пятро Пісарчук наважыўся бліжэй пазнаёміцца з небаракам і цераз Андрэя Палто наказаў Палто-малодшаму, каб той заскочыў да яго надвячоркам.

Пісарчук паклікаў сыноў — Барыса, Паўла, і яны разам сустрэлі невысокага, хударлявага юнака. У Ладзевых рухах, калі ён адчыняў дзверы і заходзіў у хату, можна было заўважыць нерашучасць. Ён прывітаўся і акінуў сям'ю крыху разгубленым і таму мітуслівым позіркам.

— Праходзь-праходзь, браце, госцем будзеш! — падняўся з канапы і падаў яму руку старэйшы, сухі, жылісты, а за ім і астатнія Пісарчукі.

Уважаючы на лагодны тон прысутных, Ладзя пасвятлеў тварам, палагоднеў і сам, прысеў, чакаючы, пра што пойдзе гаворка.

Нейкі момант яго моcць уважліва разглядалі — як дзіва. Асабліва доўгі і засяроджаны позірк быў у Барыса — няма што, два гады блазен падарожнічаў па Савецкай Расеі! Якога ж ён цяпер колеру?.. Гэтая думка, бадай, цікавіла ўсіх.

— Не чырвоны — ніякі, хутчэй за ўсё — бледны, — жартуючы, першым кінуў Ладзю Паўлюк.

— Здарожыўся? — як бы ў апраўданне хлопцу спытаў гаспадар і запрасіў усіх да стала, на які спагадлівая Аксіння паставіла самавар.

— У Мотале столькі плявузгалі наконт вашых з Пінчуком і Балаганам уцёкаў, — пацягнуў далей нітку бяседы Пятро Пісарчук: — У пастарунку з ног збіліся, шукаючы вас, асабліва Пінчука...

— О! Ён — шэльма! Без перабольшвання я вам скажу: хцівы чалавек! У гэтым мы яшчэ раз перакаваліся там, у расейскім турэмным лагеры.

— Як? — няўцямна прыўзняўся Барыс: — За замах на жыццё Зусмана вы ўсе ўтрох сядзелі ў турме?

— Ды не, — Ладзя пачырванеў, збянтэжаны, і адсунуў ад сябе шклянку з гарбатай. — Калі вы хочаце ведаць, Зусман тут ні пры чым. Усё было не так... Не так ад самага пачатку!

— То ты, браце, раскажы, як яно там было, — прапанаваў Пісарчук, на каленях у якога ўжо круцілася і штораз спаўзала пад стол трохгадовая ўнучка Маня.

— А было вось як...

І Ладзя Палто паведаў гісторыю, пра якую ў Моталі, бадай, усе збольшага ведалі, але ніхто не чуў яе ад пачатку да канца і не ведаў праўды. Дзіва што... Два гады таму ён, Палто, падгаварыў свайго аднагодка і прыяцеля Івана Філіновіча, па-вулічнаму — Балагана, пакінуць Моталь і папхнуцца ў запаветную далеч — камунію. Праблема была ўсяго толькі ў пошуку патаемнага месца для пераходу мяжы. Наконт гэтага Ладзя і прыйшоў да Пінчука, бывалага і абабітага польскай турмой чалавека, якому трохі перавышала за 50... Чатыры гады ён адседзеў за неаднаразовы пераход усходняй мяжы і, пэўна ж, ведаў яе дасканала.

Аляксей Пінчук пашкроб патыліцу сваёй чорнай, парэпанай рукой:

— Шкада... Шкада, што я пад наглядам, такую мацьі... Мне забаронена з Моталя адлучацца. Зрэшты... каб што прыдумаць, га?..

Ён утаропіўся на Ладзю сваім цыганкаватым вокам. Ладзя ўмольна і прагна глядзеў на яго.

— А што, калі знайсці прычыну-лучыну? Скажам, я еду ў Пінск на кірмаш. Дакладваю ў пастарунак, што адтуль грабуся дадому, а сам разам з вамі — да мяжы. Правяду і — айда назад! Сапраўды!.. Вам камунія, а мне — конь. Такая ўмова вас задаволіць?

Праз некалькі дзён Ладзя прыехаў да Пінчука і перадаў яму каня з возам. Той, як належнае, прыняў падарунак і загадаў Уладзіміру чакаць дома, пакуль ён не пакліча іх у дарогу.

Да Пінчука тым часам з'явіўся местачковец Зусман — яшчэ адзін кліент акурат з такой жа просьбай. Заўжды Зусман спаў і бачыў у сне камунію. Ён прасіў правесці

яго на той бок; за паслугу гатоў быў аддаць дзвесце злотых. А па тым часе, да прыкладу, усяго два злотых каштаваў пуд жыта і 70 злотых — карова... Як што Пінчуку свяціў шанец нажыцца, ён, нядоўга думаючы, поцемкам пасадзіў Зусмана на калёсы ды павёз яго на кірмаш.

Шляху ладнага — каля 40 кіламетраў. Дарога сухая, бо ўжо падмарозіла. Снегу яшчэ не было. Бавячы час на калёсах, Пінчук-шэльма прыкідваў, як найхутчэй перакласці тыя злотыя Зусмана ў сваю кішэню, і хутка распрацаваў план аператыўных дзеянняў.

Згодна з тым планам, па прыездзе ў Пінск праваднік пакінуў каня з возам на падворку ў знаёмага. Адыходзячы, дастаў з-пад саломы і засунуў за пояс сякеру, з якой рэдка калі разлучаўся. А ў Зусмана за спіной быў хатуль.

Яны выйшлі з горада і падаліся ў замглёную запаветную далеч — на ўсход. Вось і Ясельда... Пераходзілі цераз раку па тонкім лёдзе, і, каб не валачыся далей, да самай мяжы, а хутчэй вярнуцца дадому з грашыма, Пінчук на крок адстаў ад Зусмана, выцягнуў сякеру і... гах! Не?.. Божа праведны! Небараку Зусману ў той момант собіла якраз азірнуцца, і, павёўшы корпусам у бок, ён падставіў пад сякеру не шыю, а ўсяго толькі плячо. Адскочыў паранены і кінуўся прэч з усім маладым і адчайным імпэтам. Хутчэй-хутчэй — да людзей! За небаракам ветру не ўгнацца...

А Пінчук, агорнуты жахам, таксама паджгаў чорнымі сцежкамі ў Моталь. Пёр пешы — цяпер яму было не да каня, якога пакінуў у Пінску. Пёр, стараючыся абагнаць нядобрую вестку аб падзеі на Ясельдзе, да якой прычыніўся так страхалюдна. Яго маглі ў любы момант схапіць і тады ўжо не выратавацца ад пакут... Турма — да скону дзён! І гэтая думка, бы той востры бізун, сцёбала па ім і гнала яго. От, нарэшце, і Моталь. Змардаваны пакутлівым шляхам і бояззю, ён дапяў да сваёй хаты. Аддыхаўся і паслаў жонку па Ладзю Палто. Ладзя прымчаў як бачыш. Пінчук вывеў яго на вуліцу:

— Калі добра сцямнее, пакліч Балагана і прыходзьце вунь на той ускраек лесу, — паказаў рукой. — Пойдзем, не адкладваючы, такую мацы. Лёс-пёс гатовы здрадзіць мне, але я вам потым пра ўсё раскажу...

Сустрэліся ў дамоўленым месцы і рушылі. Ішлі тымі ж чорнымі, як казаў Пінчук, сцежкамі амаль усю ноч. Іх праваднік, які цяпер ужо не меў намеру вяртацца назад, горача і ўзрушана распавядаў пра надарэнне з Зусманам.

Ён, блазен Зусман, нібыта праг таксама перайсці мяжу і дамовіўся з Пінчуком пра паслугу. Пінчук павёў новага кліента. Але ж Зусман паспеў данесці на яго ў паліцыю, і два паліцыянты селі ім на хвост. За здраду, чуеце, Пінчук хацеў засекчы Зусмана, але, такі-гэтакі правакатар Зусман уцёк.

На самай мяжы, каля невялікага гаю, які прытуліў іх на дзень, яны пасунуліся наперад крадком, бы здані. Тым не менш, калі ім ужо свяціла прастора і воля, перад імі вырас памежнік са зброяй:

— Стаяць! Рукі ўгору!

Дапытвалі маталянаў моцна і ні ў якія іхнія роспаведзі, тлумачэнні наконт уціску паноў і цяжкога жыцця ў Польшчы не давалі веры. Іх утрымлівалі спачатку ў Мінскай турме, а потым выслалі на Урал, у горад Перм, дзе, жывучы ў лагеры і галадаючы, яны будавалі баракі для сем'яў рабочых. Дзень у дзень. Два гады...

Ладзя апавядаў пра перажытае ў экзатычнай савецкай краіне, так бы мовіць, камуніі — разгарачыўся, і тое адчуванне сваёй нягеглясці, несамавітасці, скутасці ў доме Пісарчукоў зусім прайшло. Наадварот, цяпер хлопцу — вандроўніку па няволі — імпанавала ўвага, з якой яго слухалі. Тут госця перапыніла гаспадыня, увесь выгляд якой выяўляў дабрыню:

— Валодзька, то чаму ж ты нічога не бярэш?.. І вы, мужыкі, нешта сядзіцё, як на хаўтурах! Ешце... Стане з вас гаманы!

— І сапраўды мы заслухаліся, — сказаў гаспадар. — То бяры, Ладзя, што па густу: тварог, масла, сала і — да ўсяго — мёд.

— Дзякуй, я з задавальненнем паспытаю, чым вы людзей частуеце, але найперш скажу: у Пярмі і Златавусце, дзе мы потым працавалі, я нічога больш смачнага за падсмажанае лушпінне ад бульбы не еў. Яго мы збіралі на сметніку і смажылі на грубцы буржуйцы...

— Госпадзі-прамілы! — перахрысцілася Аксіння, відаць, адчуўшы на сэрцы ндобрае. — Як жахліва, калі людзям няма чаго есці! Пятро, помніш... На Украіне людзі пухлі з голаду.

Пятро кіўнуў: пра голад ён помніць.

— Я шкадаваў, што не ведаў сакрэту прыгатавання такой ежы раней, калі быў яшчэ тут, у Моталі.

— Божа! Які грэх мы на душу бярэм! — Аксіння асеклася. — І чаму ў нас не кожын мае хлеба кавалак?

Мужыкі адчулі ніякаватасць.

— Але хацелася б увогуле ведаць пра жыццё там, — уступіў у размову Барыс: — Лагічна дапусціць, што , калі ў Пярмі ёсць лушпінне, то ёсць у некага і бульба... Як на волі людзі жывуць?

— Адкажу. Прадуктаў харчавання скрозь не хапае. У Савецкай Беларусі — таксама. Можа, таму, — Уладзімір вытрымаў паўзу і паглядзеў па кутках, нібыта жадаючы пераканацца, што яго ў гэтым доме ніхто, апроч Пісарчукоў, не слухае, — можа, таму, што ў сялян адабралі зямлю. Адным словам, нястача.

Закончылася пяцігодка калектывізацыі. Многіх, хто меў зямлю, сеяў і прадаваў збожжа, іншы харч, хто ўмеў рабіць, як вы тута робіце, многіх, паўтараю, збэсцілі. Назвалі кулакамі і — у Сібір ды іншыя месцы. З некаторымі я сустракаўся ў лагеры, і яны рады былі той жа лушпіне... Парушаны адвечны лад. А пакуль карчаваннем заможных сялян займаліся, багата зямлі запусцела. У газетах пішуць, што калгасы неўзабаве накормяць дзяржаву. Можа, і накормяць. Толькі ж сёння на тым баку голад. І якія мы сляпыя былі, калі ішлі туды і думалі, што там ў вёсках скрозь каўбасы на плоце вісяць. Гора скрозь — не каўбасы! Калгасы, а не каўбасы.

Патрэскваў кнот у лямпе-васьмілінейцы. Было ціха. У бяседзе зноў утварылася гнятлівая і даўкая паўза. Ладзя размешваў лыжачкай мёд у шклянцы з гарбатай.

Слухаючы перабежчыка, браты Барыс і Павел перажывалі розныя пачуцці, і таму адзін сядзеў пахмурны, другі — бяспечна вясёлы, гарэзлівы. Паўлу падабалася, што ў гісторыі з Палто шмат павучальнага для ягонага старэйшага брата Барыса, — удачлівага і ганарыстага шэльмы-сацыяліста. Ён жа, Павел, калі шчыра, часам зайздройсціў Барысу ў жыцці і мог парадавацца з ягонага промаху.

Пятро Пісарчук адправіў унучку з Аксінняй у ложак і цяпер быў вольны. У ціхім роздуме, мнучы ў пальцах вус, амаль нягучна спытаў:

— А як жа ты, браце, вярнуўся з палону?

— У Златавусце разам з намі быў яшчэ адзін беларус — Віктар Корань. Яго вёска акурат пры мяжы, што праходзіць ля Стоўбцаў. Дамовіліся мы з ім уцячы. Звалі з сабой і Філіновіча-Балагана, але ў Івана не было грошай на білет да Менска і ён застаўся. Мы, дарэчы, атрымлівалі за працу ў лагеры па 60 рублёў у месяц, а білет на цягнік

каштуе 130, і яму не ставала. Адно Іван папярэдзіў: трымаць нашу змову ў сакрэце ад Пінчука, бо той стукач — данясе. Ён даносіў начальству на ўсіх, хто таіў штосьці ў душы.

Так і зрабілі. Селі ў цягнік. На нас — рабочыя камбінезоны, і гэта непакоіла. Але ж потым, як мы агледзеліся, дык амаль увесь люд, што ехаў разам, быў апрануты абы як, абы ў што. На некаторых такое рыззё, што глядзець страшна. Расея... Спазналіся людзі з жабрацтвам. У Менску мы нырнулі ў натоўп, каб згубіцца, і выскачылі ў глухую вулку, а там сустрэлі старога яўрэя і папрасілі ў яго лахманы, каб пераапрануцца.

Беларусь! Зноў Беларусь, але мы вольныя!..

— Ну і што было на Беларусі? — думаючы цяпер пра нешта сваё, пацікавіўся гаспадар.

— А нічога больш страшнага не было, калі не лічыць прыгод з братам Віктара Кораня.

І Ладзя Палто расказаў наступную гісторыю.

У Кораня ў Менску жыў і настаўнічаў брат Нупрэй. То Віктар знайшоў свайго брата, але той пры сустрэчы спалохаўся так, што аж спалатнеў, аж затросся. Справа ў тым, што ў гэтых двух братоў недзе дома, у памежжы, яшчэ былі браты. І двое з тых памежных склалі ды нейкім чынам перадалі Нупрэю ў Менск ліст, у якім выказвалі гонар за яго, сталічнага настаўніка роднай мовы, і пісалі, што неўзабаве таксама пакінуць родны кут і прыб'юцца да Менску; яны спадзяваліся на Нупрэеву дапамогу ў сталіцы пры ўладкаванні на працу.

Прачытаўшы той ліст, настаўнік Нупрэй зразумеў усю небяспеку: як толькі прыйдуць браты, яму не мінаваць ГПУ і ён загрыміць на Салаўкі або ў Сібір разам з братамі, такімі вумнякамі. Іх палічаць за польскіх агентаў. Абавязкова! І гэта было настолькі відавочным, што настаўніка ахапіў жах. Многія з ягоных знаёмых зазналі арышт і ссылку па нейкіх падазрэннях, пустапарожных даносах і, наогул, невядома, як і па чым.

Сустрэча з Віктарам, які ўцёк з лагера, была яшчэ больш небяспечнай, і таму, крыху авалодаўшы духам, ён прастагнаў:

— Братове! Я хачу жыць, а вы ляціце сюды, як матылькі на агонь! Ды святло ж зманлівае! Пасля вашых візітаў мяне ў момант абкруцяць, аблытаюць павуцінай ілжы, і ўсе мы патрапім туды, куды Макар цялят не ганяў. Не-не, аднак, я не магу больш, я не магу жыць у страху і вучыць

дзяцей веры, якой сам не маю. Сапраўдны святар павінен несці людзям святло, а не ўцягваць нявінныя душы ў полымя!

І пасля такой тырады Нупрэй паспешліва забегаў па пакоі, збіраючы свае дробныя халасцяцкія рэчы ў пацёрты салдацкі мяшок.

— Не-не, баста! Не магу! — стагнаў ён як не ўсхліпваючы. — Апошняя кропля! Чуеце? Твой прыход, Віктар, — апошняя кропля! Я не віню цябе, не, і тых сваіх не віню, бо яны сляпыя. Не, не кажыце, усе мы абманутыя, а жыццё аднойчы чалавеку даецца... Так, аднойчы! І таму няхай выбачае мне Мікалай Астроўскі, гэты святы, гэты баян рэвалюцыі, а я іду з вамі!

Падобна, што за сталом у Пісарчукоў вандроўнік па пакутах Уладзімір Палто выказаў усё, што было на душы. Таму ён адчуваў адначасова палёгку і ўтому. Яму не хацелася больш гаварыць, і калі Паўлюк з усепераможнай усмешкай яшчэ спытаў у яго пра Нупрэя — настаўніка, ці ж вярнуўся ён у вёску да сваёй радзіны, як хацеў, — той адно кіўнуў галавой.

Барыс разумеў хітры ход бацькі з запрашэннем у свой дом брата Андрэя, які ўцёк з камуніі, і нервова барабаніў пальцамі па стале: нешта не так, зусім не так у марахлетуценнях уяўлялася яму камунія. Шкада! Цяжка даць веры... Тым часам у яго не было сумненняў, што Палто расказваў праўду. Толькі гэтая праўда ламала ўжо нешта ў падмурку ягонай душы. Распытваць уцекача адтуль, здаецца, не было больш пра што. Бадай, не было чаго і абмяркоўваць у сямейным коле. Хіба, каб лішні раз засведчыць, што бацька мае рацыю, калі ўсчувае яго за юнацкія захапленні?.. Святар міргаў і міргаў. Ці не скончылася ў ім газа?.. Святар міргаў, спакваля аддаляючыся ад яго, прынамсі, так здавалася. І рабілася сумна, ды ён пераадолеў сябе і нечакана спытаў:

— Тата, а вы ведаеце пра скандал у польскім сейме?

— Чуў, чуў ад Абко пагалоску пра Скірмунта...

— Сенсацыя! Памешчык Скірмунт прапанаваў праект закона, згодна з якім дзяржава пакідае панам, абшарнікам усяго па 50 дзесяцін зямлі, а астатнюю забірае і раздае сялянам. Што там было?! Уяўляеце, сейм проста ўзарвала і, калі Скірмунт выходзіў на вуліцу, у яго з другога паверху кідалі крэслы. Ледзь уратаваўся!

— Ух ты! — здзівіўся Павел.

— Дзівак!..

— Такіх людзей, як Скірмунты, на свеце вобмаль!

— А Тарашкевіча Саветы выцягнулі з турмы, — падаў яшчэ адну навіну Барыс. — Абмянялі на палонных палякаў, хаця які паляк з Аляхновіча...

— З агню — ды ў полымя! — уставіў Паўлюк.

І, як бы ў падмацаванне ягонай думкі, Палто паведаміў:

— У Менску шмат вучоных арыштавалі, асабліва якія дбалі пра беларускую культуру і адукацыю. Вой, а што пра Янку Купалу Нупрэй казаў!.. Ведаеце, яму таксама пагражаў арышт, турэмнае зняволенне, і ў знак пратэсту Купала палічыў за лепшае развітацца з жыццём — ён распароў сабе жывот нажом. Насілу выратавалі!

Толькі падобны паварот гутаркі ў дачыненні да Тарашкевіча падаўся Барысу надта змрочным і нават абразлівым, і ён падняўся з-за стала:

— Тарашкевіч — бунтар! Без яго тут магіла была б. А ў асобе Рамана Скірмунта практычна ўсе беларусы страцілі самага шчырага нацыянальнага волата, — сказаў, як звязаў напаследак.

Самавіты селянін Пісарчук быў усцешаны гутаркай за шырокім сямейным сталом. Праўда, зноў пачало смыліць на душы ад крыўды і горычы за рэпрэсіраваных людзей на тым баку, вучоных, паэтаў, за Янку Купалу. Купалу ён ведаў па вершах, якія чытаў у «Нашай ніве» за маладымі гадамі. Падшыўка газеты «Наша ніва» і цяпер захоўвалася на шафе ў ягоным пакоі. Адтуль у свой час ён багата чаго дазнаўся пра народ, да якога і сам належыў, пра народ, які меў сваю культуру і мову, пра народ, які цяпер мардавалі з аднаго боку палякі, а з другога — расейцы, бальшавікі. Трывога не пакідала яго, і напрыканцы гутаркі ён пацікавіўся ў бедака Уладзіміра Палто пра намер: што цяпер ён мае рабіць?

Ладзя пацiснуў плячыма і зноў пачырванеў, як бы яго спаймалі на нечым прыкрым. На самай справе ён губляўся ў здагадках, што рабіць, бо, як і да ўцёкаў у Саветы, у яго не было працы. Працы не было, і, калі ён вярнуўся ў Моталь, братава жонка, а жылі яны ў бацькавай хаце, адрэагавала на ягонае з'яўленне словамі, якія калолі яму ў самае сэрца:

— Бач, нідзе не ўдавіўся і зноў прыехаў на Андрэеў хлеб!

Дык што ж ён мае рабіць, куды кінуцца?..

Пісарчук усведамляў, у якую пастку нанова трапіў хлопец, але хацеў пачуць яго разважанні далей.

— Наогул, ні працы, ні веры мне ў Моталі няма. Камуністы думаюць, што я засланы адтуль, з Менску, і не ведаюць, як да мяне ставіцца. Амаль усе лічаць: там, за мяжой, на ўсходзе — рай, і калі я кажу, як у камуніі дрэнна, не вераць, бачыце, гэта я кажу дзеля таго, каб мяне не арыштавала паліцыя... А каб ведалі, што я не засланы і што вярнуўся адтуль самахоць, што я кажу праўду, пэўна, забілі б. Я нікому тут не патрэбны. Нікому!

Шкадуючы хлопца, Пісарчук паабяцаў яму схадзіць у гміну, каб даведацца пра магчымасць яго ўладкавання на працу. Ці хадзіў ён туды, невядома, але ж праз некалькі тыдняў Ладзю Палто прызвалі на службу ў польскае войска, і гэта для яго было як збавенне.

## 8

У сярэдзіне трыццатых Барыс Рамановіч, напэўна, меў усе падставы да гонару за свой чалавечы імпэт, бо ўсё, да чаго ён ні дакранаўся і ў што ні ўкладваў энергію рук або розуму, неўзабаве давала свой плён, і Маня часам магла дзівіцца з таго, што гаварылі пра бацьку. Аднойчы, напрыклад, у яе дзіцячую свядомасць уліпла яскравая фраза, кінутая дзядзькам Паўлам:

— Калі Барыс пасее нават на печы — збожжа прарасце і дасць ураджай!

Гэта — з ранішняй гутаркі дзеда Пятра з сынамі. Маня слухала іх сялянскую гаману праз дзверы, лежачы на сваім ложку, і яе ўражвала такая карціна: бацька сее на печы і там ідзе ў рост збажына...

Мужыкі звычайна збіраліся рана, яшчэ да ўзыходу сонца, і абмяркоўвалі надзённае — дзе і ў які тэрмін, на якім полі лепей сеяць жыта, лён, грэчку... Або садзіць бульбу. Або касіць... Або жаць... У ранішніх сямейных нарадах на прасторнай кухні час ад часу прымалі ўдзел і сябры, хаўруснікі Паўлюка — Пампулі, Малыцькі, — такія ж, як і ён, дужыя, спраўныя. Акрамя іх — яшчэ брат дзеда — Васіль Рамановіч. Яму, праўда, не шэнціла ў сваёй гаспадарцы, таму ён жыў беднавата. Калі запрашалі, Васіль ахвотна прыходзіў і дапамагаў ладкаваць справы ў сядзібе Пятра.

А што ж Маня?.. Варта зазначыць, што пры змене дня і ночы яна падпарадкоўвалася пэўнаму біялагічнаму рытму — спаць клалася рана і расплюшчвала вочы акурат

надасвецці, нагастрала слых... Маючы найвялікшую цікаўнасць да чынных праяў у акаляючым свеце, да размоў дарослых, яна лавіла на свае вушы як не кожнае слова ў дзедавай хаце. Вядома, дзяўчынка не магла зразумець усяго, пра што гаманілі, але інтуітыўна — хутчэй інтуітыўна, чым розумам — схоплівала асноўнае: пракаветны клопат сялян скіраваны на тое, каб дагадзіць зямлі і каб зямля ўрадзіла. Потым ужо, калі ніва выспее, — сабраць у свірны і іншыя сховы, накарміць жывёлу. Да гэтага зводзіўся сялянскі імпэт.

Маня не памятала, калі тое здарылася, але ж дзед Пятро выдзеліў са сваёй гаспадаркі Барыса і Паўла, маўляў, хлеб, самастойна здабыты, смачнейшы... Паўлу ён адшкадаваў ладны кавалак зямлі, а сам займаўся пчалярствам. Барысу перапала больш грошай. Толькі гэта не замінала ім усім рана збірацца, абмяркоўваць ды пыніць справы разам, напорыста, дружна.

Дзед Пятро, пэўна, мог пагадзіцца з Паўлам: у Барыса лёгкая рука ў працы, бадай, не толькі ў сялянскай... Як чалавек знаходлівы і маючы добры план душы, Барыс заснаваў і апекаваў спулдзельню і краму, у якой Маню заўжды частавалі цукеркамі. І зноў жа ўліпла ў дзіцячую душу дзея-падзея: на нейкае свята, няйначай у сёмуху, сабраліся каля гміны стражакі ў сініх мундзірах. У руках — музычныя інструменты. Начышчаныя трубы ззяюць на сонцы... І от тыя мундзіры выстраіліся пэўным парадкам, адзін за адным, а яе бацька — наперадзе; у яго ў руках доўгі і гладкі кій з кутасамі. Бацька ўзмахнуў ім — шаўкавістыя кутасы торгнуліся раз-пораз. У той жа момант штосьці стукнула-грукнула... Глуха і моцна. Гэта — барабан! І ўскінулася чароўная мелодыя духавога аркестра, паплыла над мястэчкам. Неўзабаве музыкі ў мундзірах, надзімаючы шчокі, зайгралі марш і лёгкім строем рушылі ўслед за Барысам Рамановічам па вуліцы, аздобленай прысадамі, кветнікамі, нібыта спрабуючы рассунуць хаты і пераўладкаваць вуліцы ў нейкі казачны горад.

Ад узрушэння Маня моцна трымалася за матчыну руку, шурпатую, цвёрдую, і Ганна, няма што дарослая, глядзела на аркестр як не з дзіцячым захапленнем. На ёй была белая вышываная блузка і белая ў кветкі спадніца, на шыі — мысюры, гэта значыць пацеркі... А Маня — у блакітнай фабрычнай сукенцы з карункавай тонкай аздобай на рукавах і каўнерыку.

— Ай артысты, ай артысты! — усміхалася Ганна. — Глядзі, доню, які ў цябе татка... Мастак!

Яны прайшлі, прасачыліся праз такі стракаты і квяцісты натоўп аднавяскоўцаў бліжэй да аркестра. Цяпер ім добра былі відны твары артыстаў, як іх назвала маці. Побач аказалася суседка — маладая, з гонкім станам жанчына, якую звалі Германкай.

— Ганя! — весела ўсклікнула яна і кіўком галавы паказала туды ж — на дырыжора: — Ці пазнаеш? О, бач, колькі самалюбства і гарту — як у шляхцюка!

— Не кажы!.. Цягнуў ён мяне: «Ганя, прыходзь абавязкова, паглядзіш, на што здольны тутэйшыя!» — маўляў, не ўсё палякам баль ладзіць — і мы сябе пакажам!

— То — пэўна, не абсеўкі ж мы, і не з гліны злеплены, — Германка дакранулася да акуратна прычэсанай Манінай галоўкі; рука ў яе, як і ў мацеры, была цупкая, бы з дроту: — І табе, малеча, уцеха-пацеха! Ото ж, глядзіш на ўсе вочы!

Але наўрад ці звяртала Маня ўвагу на яе словы. Бацька ж, яе бацька — мастак — быў блізка. Праходзячы міма з аркестрам, ён падміргнуў ёй, і яго круглявы твар асвяціўся вясёлай усмешкай. Для Мані гэта былі хвіліны ўтрапення, і быў гонар за бацьку. Пры гэтым усю яе дзіцячую істоту паланіла музыка; яна лілася і ўскідвалася ўгору каскадамі, дзівосная музыка медных труб!

Ад лагоды дзяўчынка заплюшчвала вочы. Напэўна, уяўлялася Мані, што яна лунае на мілагучных хвалях, нябачных і пругкіх, — над шатамі дрэў, над прасторай мястэчка.

Гэтую ўцеху з бацькавым аркестрам яна потым згадвала не раз, калі бегала паўз возера да яго ў спулдзельню з уражлівай навіной:

— Татка, шчупака спаймалі!

Назіраць з берагу, як рыбакі закідваюць, а потым выцягваюць з вады нерат, было яе любімым заняткам. Ад страшнай цікаўнасці да таго, што за дзіва трапіла ці трапіць у сетку з таямнічых глыбіняў, яе аж дрыжыкі прабіралі; і сама яна, не раўнуючы, як рыбіна, ставала на дыбкі і цягнулася ў брэдзень. Пры добрым улове мужыкі вясёлым і дапытлівым позіркам акідвалі дзіцячы натоўп на беразе, спыняліся найчасцей на ёй:

— Бяжы, Манька, па бацьку! Барджэй...

Барыс Рамановіч любіў купляць адборную рыбу і купляў найчасцей шчупакоў. Аднойчы ж прынёс вусатага сома,

ды такога вялікага, што дома не ведалі, які цабэрак для яго падабраць. Укінулі ў балею з вадой, і ён ажыў, баўтануўся ды ўвесь у пырсках выскачыў на падлогу, не на жарт напалохаўшы Маню, якая стаяла побач, назіраючы, як варушацца яго срэбныя плаўнікі і вусы...

Але за святамі і россыпам сямейных уцех была праца і былі буднія дні. Здарылася так, што Барыс, павялічыўшы свой капітал на вырабе чарапіцы, прыкупіў у пана Юргенсона яшчэ кавалак зямлі ў пойме Ясельды і цяпер меў заліўны луг. Яму, аднак, не ставала імпэту, каб чыніць сялянскія справы, і гаспадаркай правіла Ганна. Працавала яна шчыра, на думку Барыса, ажно праз меру шчыра, не супыняючыся ад ранняга ранку да ночы, і яму не хапала яе клёку, уласна, яе. Барыс часам папікаў Ганну ў той непамернай шчырасці і заюшанасці клопатамі па гаспадарцы і казаў ёй, што ён увогуле адзін здольны забяспечыць сям'ю і што яна магла б не рабіць. Яна адказвала:

— А што ж я — паняй буду? О-о-о!..

Яна дзівілася з такой гаманы чалавека і шчыравала далей.

Барыс сумаваў без яе вечарамі і ад суму часам апранаўся і ішоў на зборню да Парычанкі, адзінокай жанчыны, у вялікай хаце якой сабіраліся маладзіцы прасці кудзелю, а з імі і Ганна. А яшчэ там нярэдка Маня круцілася, пераймаючы ад маці пракаветны вопыт; яна вучылася вышываць. Дык бацька падсаджваўся да іх на лаўку і ў самоце даводзіў:

— Ганя, ты мяне пільнуй, а не кудзелю. Кудзеля нікуды не ўцячэ!

— Хіба што... Але ж дома да ночы нешта трэба рабіць.

— Знойдзем што, Ганя... Твой гладыш, мой таўкач — будзем біць масла!

Пры гэтым ён спрабаваў узяць маладзіцу на рукі, яна вырывалася:

— Ой, які ты бессаромны, Барыска, ну проста вар'ят!

Ганна ніяк не магла зразумець, што за мудрасць усялілася ў яе чалавека дый пракудуе ім. У тым жыццёвым калаўроце годнасць жанчыны вызначалася акурат увішнасцю ды плёнам у працы. Сяброўкі, суседкі Ганны, кпілі з яе чалавека: «Жарабец!..» Або яшчэ больш з'едліва: «Ад жарабка скура і на плоце гагоча!»

Таму Барыс найчасцей пакідаў зборню ўнураны, не ведаючы, на што крыўдзіцца, — ці то на лёс, ці на жонку. У

такую хвіліну яму на вока неяк і трапіла Хвілюсіха, якую звалі яшчэ Ёўдай, Еўдакіяй... Калі на тое, маталяне — вялікія майстры на вынаходніцтва імёнаў. Дзяўчына ж мела шмат чаго прывабнага, закладзенага проста ў яе стан прыродай, але не мела долі, шчасця, бо паходзіла з беднай сям'і. Барыс, мабыць, захапіўся ў сваіх свецкіх эратычных заляцаннях альбо, што можна дапусціць таксама, пашкадаваў нябогу і памкнуўся даць ёй хоць кроплю таго, на што ў душы сам быў багаты. Ці чакаў ён, аднак, што нехта адважыцца яго дакараць за гэты вольны і па-свойму добры ўчынак, вядома, апраметны, але ж, чуеце, і далікатны.

Аднойчы, калі ён на золку вяртаўся дадому, пэўна, яшчэ адчуваючы на сэрцы Хвілюсіхіна дыханне, са свайго падворку на вуліцу выглянула Алена Германка, бліснула на яго вачыма і збянтэжана войкнула:

— Барыс, шэльма, сораму на цябе няма! Толькі дамоў валачэшся? Ганьбу Ганне нясеш!..

— Дзеўка, а табе якая справа?

— А вось убачыш, якая будзе справа, калі мы з Ганнай звяжам цябе, бугая аблуднага, ды выражам ніжэй крэсла тую забаўку! Я памагу Ганне!

Барыс прыпыніў крок і, надзімаючы пагрозліва шчокі, вырак:

— Заб'ю!

— Ох, напалохаў!

Сапраўды, Алена, ягоная суседка, была не з палахлівых, наадварот, мела шмат ваяўнічай энергіі, порсткасці ды ініцыятывы. Такім палец у рот не кладзі! Яна і на самой справе магла б споўніць сваю пагрозу. З такой стане... Ай і трэба ж вырадзіцца блазну ў спадніцы! А галоўнае — на якую патрэбу?

Ні для каго не было сакрэтам прозвішча — Германка... З вуснаў у вусны ў мястэчку перадавалася легенда нітавання лёсаў людскіх падчас сусветнай зацятай бойні. Праўда, Барыса ў той далікатнай гісторыі ўражвала найперш існаванне нейкіх няпэўных, нябачных, нячутных, непадуладных органам дотыку ведамак, інфармацыйных ніцяў, каналаў, неспазнаных стасункаў у свеце...

Тры гады стаялі ў Моталі адборныя кайзераўскія войскі, салдаты — адзін у адзін — па два метры ростам. Мундзіры, каскі — бляск! Дзяўчаты аж млелі, гледзячы на іх на зборнях, і была любоў міравая. Адзін з юрлівых кайзе-

раўскіх ваяроў, высокі, ладны, як і ўсе, з саламяным чубам, прычасаным набок, захапіўся Германчынай маці Агапай, яшчэ калі яе, Алены Германкі, на свеце не было. Ён пачасту заходзіў у хату, дзе жыла прывада. Яна жыла разам з першай дачушкай сваёй ды свякрухай і свёкрам, а іхні сын Даніла (яе муж) тым часам карміў вошай на Мазурскіх балотах па другі бок фронту.

Час быў цяжкі — мышы і тыя не мелі каліва ў загажніку. Таму ў радасць было, калі той ваяка прыносіў на спажыву сям'і кансервы, хлеб ці іншы вайсковы правіянт; натуральна, ён меў да сябе прыхільнасць згаладалых людзей, асабліва Агапы, Германчынай маці, — Алены тады яшчэ не было...

Не вядома, аднак, на якіх там рубяжах, што займала расейскае войска, завітала да салдат цыганка. Аднаму за адным яна пачала тарочыць, што наспела яму і што ў яго дома. «А табе, Данілка, вось што скажу, — сказала Данілу. — Тваё шчасце, што цябе лёгка параніла. Ведай, табе была наканавана дамавіна. Толькі ж у цябе дома якраз у той момант нарадзілася дзіцё, і з-за яго ты жывым застаўся».

Даніла цыганцы: «Не можа быць, ты маніш! Але няхай... Я заплачу». А цыганка яму: «Калі ты не даеш веры таму, што я сказала, грошай у цябе не вазьму. Толькі ж я, Данілка, шчырую праўду адкрыла: у тваёй жонкі нарадзілася дзіцё якраз у хвіліну твайго ранення, а табе была наканавана магіла». І расказваў далей Даніла... Цыганка звярнулася да астатніх салдат: «Хоць вы і не з адной вёскі, але, калі пасля вайны пацікавіцеся, — да канца сваіх дзён помніць будзеце — я праўду сказала: у яго нарадзілася дзіцё, і таму ён застаўся сярод вас жывым».

Скончылася вайна — Даніла прыходзіць дадому, а ў хаце калыска вісіць і немаўля голас падае: «Уга-уга!»

Даніла колькі разоў спрабаваў усчуваць сваю жонку, ды ў крыўду нявестку не давала ягоная маці. Так і жылі... Алена падрасла, у шэсць гадоў ужо была падпаскам. Дарэчы, да Данілы яна ставілася надта ласкава, і ўсё лепятала: «Татачка, татачка!..» Ён нанач памые, акуратна вытра сухім ручніком і памажа вазелінам яе заўжды лёгкія на тупату ногі, паабітыя, парэпаныя, — у ложак яе занясе. Шкадаваў нават болей за старэйшую дачку. Ужо калі Алена выйшла замуж за Іосіфа, ён, слабы і змарнелы, дабіраючы свае апошнія дні, адпісаў ім усё, што меў з лепшага.

Наўздзіў гуманная гісторыя склалася ў гэтай сям'і, і цяпер Барыс, дзівячыся Алене Германцы, не ведаў, як льга дакапацца да крыніцы ведамак, пададзеных Данілу цыганкай, і як яна магла згадаць, што будзе і пра што Даніла ў свой час ахвотна распавядаў людзям. Адно той раман бравага немца зводдалек неяк, акурат у падсвядомасці, нагадваў сыну Пісарчука Барысу ягоны юр з Хвілюсіхай.

Неяк пад час сенакосу Барыс падахвоціўся завезці на луг абед, які згатавала Аксіння, ягоная маці. Там, на сенажаці, разам з Ганнай грэблі і складвалі ў копы сена яго брат Паўлюк, жонка Паўлюка — Зося, суседзі і прыяцелі, а ў іх гурце, вядома ж, і Германка, жывая і дзёрзкая маладзіца, без якой мала дзе і што ў Моталі абыходзілася.

Выпраўляючыся ў дарогу, ён пасадзіў на воз побач з сабой Маню. Узяць дачку падказала яму бацькоўская ласка. Толькі ж неўзабаве ён мог і пашкадаваць пра свой учынак, бо на лузе, куды яны прыехалі, усчаўся такі рэй, які дачцэ ніяк не можна было слухаць. Калёсы з абедам і самім паважным, самазадаволеным фурманам Барысам як бачыш абступілі жанкі і ўчынілі яму перакрыжаваны допыт, з'едлівы, езуіцкі, на розныя галасы — прынамсі, так ва ўспрыняцці Барыса.

— А ці ты гэта, Барыс?

— Барыс? Які гонар для нас!..

— А ведаеш, чалавеча, здалёк мы цябе і не пазналі — нешта схуднеў, знябыўся — можа, Ганя цябе дрэнна корміць?

— А няўжэж...

— То ці не Хвілюсіха гэтак цябе абсмактала?

— Жывы аб'едак!

— Барыс а Барыс! У цябе такая спраўная жонка і дачка — ну як чарнічка-сунічка лясная. То ці ёсць у цябе, таткі, сорам?

— Бач: антыхрыст! Нават вачэй не хавае!..

— Пабойся Бога, Барыс!

І далей, і далей — што называецца — пагналі храпку на Івана. Напор жаночых з'едлівых і па-свойму зычлівых пачуццяў быў настолькі вялікі, што яму ажно млосна зрабілася, і ў агульным тым хоры ён ужо не спрабаваў нават усвядоміць сабе, што чаўпе на яго найбольш агрэсіўная тут Германка. Барыс нешта спрабаваў тлумачыць і супакойваць жанчын:

— Ну што вы гэтак уз'еліся на мяне?

Маня ж слухала, што ён даводзіць, і тут жа забывала бацькавы словы — яны здаваліся ёй нязначнымі. Мані было вельмі сорамна, крыўдна і балюча за бацьку. А ўвогуле яна была ў стане здранцвення, калі ад страху замірае сэрца.

Адно толькі на фоне гэтага гармідару ёй бачылася суцяшальнаю і добраю — пастава дзядзькі Паўлюка. Ён стаяў збоку, назіраў за явішчам і ўсміхаўся, спакойна, нават весела. Ён чакаў, калі бура сунімецца, каб паабедаць.

А Маніна маці, усхваляваная і, мусіць, шчаслівая ад такога напору гурмы на яе чалавека, які пачаў хібіць, старалася схаваць свае пачуцці за звыклымі рухамі, працай — здымала з возу і адносіла да кустоў лазняку, дзе быў цень, кошыкі і глячкі з абедам.

Цётка Зося кінулася ёй памагаць, і неўзабаве ўвага жаночага корпуса да Барыса аслабла, пасыпаліся паблажлівыя жарты, скіраваныя на іншых асоб, і абед пераця́ў нарэшце тэму гаворкі.

Дадому з лугу, дзе віравала праца і затым віравалі вольныя і палкія пачуцці местачковай зборні, Барыс ехаў маўклівы, унураны. Мані падабалася, што бацька маўчыць.

Але ж праз дзень пасля гэтага надарэння Маня пачула ад бабы Аксінні, што ў іхнім доме збіраецца радзіна і што бацьку, яе бацьку Барыса, будуць біць. У наступны ж момант бабуля дадала пагрозліва:

— Калі сын становіцца блудлівым катом, то яго варта прагнаць з хаты!

Маня слаба ўяўляла сабе, якая гэта падзея блізіцца, але ў любым выпадку яна не магла яе прапусціць. Як потым яна будзе тлумачыць свае паводзіны ў малалецтве, у ейным мозгу было штосьці такое, што прымушала яе скрозь круціцца-вярцецца і прыслухоўвацца, прыглядацца да людзей, да іхняга хаўрусу, каб ўсё-ўсёсенькі ведаць. Таму пад той час, калі збіралася сям'я і ўжо прыйшла маці і браты Ганны Мікалай і Павел, малая залезла пад стол у вялікім пакоі і стаілася за краямі звісаючага абруса.

Боты дзеда Пятра, як бачылася ёй зтуль, зрабілі колькі крокаў па падлозе і спыніліся каля стала, ён, пэўна, перахрысціўся на абразы, якія віселі ў куце, і ціха прамовіў:

— Мы ўсе ва ўладзе Усявышняга, і няхай дасць благаславенне Айцец міласэрнасці нашай і ўсялякага суцяшэння, каб мы маглі самі суцешыць тых, каго напаткала няшчасце.

Такі ўступ надаваў загадкаваму і трывожнаму моманту нейкую ўрачыстасць.

— У нашай радзіне дагэтуль яшчэ не было распусты, — казаў далей дзед, — і мы з Аксінняй, здаецца, не давалі сваім дзецям прыкладу ў парушэнні божай запаведзі: не пралюбадзействуй!.. Тым не менш, наш сын Барыс, не саромеючыся ні людзей, ні бацькоў, не гаворачы ўжо пра жонку, пачаў любошчы з другой... Як гэта магло здарыцца? Нешта не ўцямлю...

На дапамогу бацьку прыйшоў малодшы сын — Паўлюк:

— А я, бацька, патлумачу: мы жывем з Богам, а Барыс — па веры сваёй — з камуністамі, а ў тых наперадзе — рай, які завецца камуніяй. У камуніі ж, кажуць, усе будуць пад адным радном — нават жонкі. Воля кожнаму: з кім хочаш спалучайся — хоць з валаамавай асліцай!..

— Брэшаш, Паўлюк! — як уджалены падскочыў Барыс.

— Я брашу, што ты з Хвілюсіхай злыгаўся?

— Чаму злыгаўся? Цынік! Там жабрацкая сям'я і дзеўкі пухнуць з голаду. Я ж памкнуўся было памагчы ім, бо, па тых жа боскіх запаведзях, любі бліжнягя свайго, як самога сябе!

— Дык для цябе Ёўда стала ўжо бліжэй за жонку? — здзіўленая, спытала Аксіння.

— А чаго маёй жонцы не хапае? Я ж не пакінуў яе і пакідаць не збіраюся!

— Во як! А ночы дзе ты прападаеш? — праз слёзы працадзіла Ганна — Маніна мацi.

— Я ж кажу, — пасведчыў зноў Паўлюк, — тут камуністычны ўплыў: усё агульнае і ніякай адказнасці!

— У-ох! Памаўчы, дурны!..

— Цішэй, ці-шэй! — узвысіў свой голас дзед: — Ты, Барыс, на вачах раздвоіўся, і ў тым твой грэх і бяда твая. Так што няма чаго кідацца на іншых.

— Сапраўды, — падала свой голас сваццця Параскева. — Абурацца няма чаго, калі на тое. Табе мала Ганны?.. З жыру бесішся!

— Прабачце, але ж гэта не так!

— Барыс, — тым жа строгім голасам сказаў дзед Пятро, — няма твайму ўчынку прабачэння, і калі ты не пакінеш Яўдоху, мы вымушаны будзем выдзеліць табе пэў-

ную долю і папрасіць пакінуць бацькоўскі дом. Ганна з Маняй застануцца ў нас. Я Маню вывучу...

— Не будзе гэтага!

— Будзе! — запэўніў дзед. — Чалавеку, калі жэніцца, патрэбна разуменне сям'і. У Бібліі што гаворыцца на гэты конт?.. Чалавек пакіне бацьку і маці і прылепіцца да жонкі сваёй, і будуць двое адною плоццю. Што Бог спалучыў пры згодзе вашых сэрцаў, тое чалавек не павінен разлучаць.

— Го! — Манін бацька пляснуў далонню аб лаўку, на якой сядзеў, і ўскочыў з яе ды манерна падышоў да жонкі:

— Ганя, я ж даўно хацеў, каб мы былі адною плоццю! Хто і што нас разлучае? Дурніца! — узяў яе пад руку. — Пайшлі!

Гэты жэст быў даволі артыстычным і, тым не менш, прымірыў радзіну.

Для Мані і яе сям'і тыя гады былі б, відаць, самымі спакойнымі, калі б не татава каханіца.

Праўда, з тагачасных моцных уражанняў ёй давялося перажыць неўзабаве яшчэ адно. Было гэта ў 1937 годзе і здарылася недзе пазней сакавіка, у якім маці нарадзіла ёй сястрычку Вольгу. Ужо адцвіла ружавата-белымі пялёсткамі вялізная яблыня каля хаты, пад абвіслымі галінамі якой Маня любіла гуляць з лялькамі. Лета...

У двор завітаў пан — Генрык Юргенсон. Ён звычайна быў падцягнуты, жвавы, з вусамі, што разыходзіліся ў бакі стрэламі. Нават, па Маніныхназіраннях, вусы ў пана Юргенсона былі куды больш вытанчаныя, чым у дзеда. Гэты пан з нейкіх часоў вадзіў хеўру з сям'ёй Пісарчукоў і прадаў ім 16 дзесяцін лугу, а ягоная жонка нават пагадзілася хрысціць у царкве Мішу, малога, народжанага ў сям'і Паўлюка і Зосі, і цяпер даводзілася таму хроснай маці, а бацькам — Паўлюку, Зосі — кумой. Вось такая радня.

Аднак выгляд у пана Юргенсона на гэты раз быў разгублены, рухі няпэўнымі, вусы і тыя абвіслі. Ён сказаў дзеду, што здарылася няшчасце і што ён хоча параіцца, як сябе паводзіць далей. Дзед сустрэў пана на вуліцы і пасля гэткага тлумачэння жэстам рукі запрасіў у хату. Маня маланкаю сіганула ў сталовую і заняла сваё патаемнае месца ў кутку пад сталом.

Пан Юргенсон момант цяжка і знясілена маўчаў, потым Маня пачула:

— Бачыць Бог, я не хацеў гэтага!

— А што, пане, здарылася?

— А тое, што я забіў чалавека...

— Як?! Пане Юргенсон, аберагай вас Бог! Што вы кажаце?

— Кажу... Я не хацеў гэтага... На досвітку іду са стрэльбай і бачу на палетку паміж карчоў бульбы штосьці чорнае. Я ўглядваюся... Варушыцца. Дзік, думаю, рые, ласуецца, шэльма, бульбяной завяззю. Стрэліў. Падыходжу, ажно там — ніц ляжыць чалавек.

— О Божа, пад сваю абарону прымі! Убіеннага душу ўпакой. Цяжкі грэх даруй пану... Пане Генрык, я вельмі шкадую, але ў такі змрочны і цяжкі для вас дзень, чым я магу быць вам карысны?

— Парайце, спадар Пятро, што мне рабіць далей? Пайсці ў гміну і ва ўсім прызнацца ці прыкусіць язык ды зрабіць выгляд, што нічога не ведаю?

— Раю, пан Юргенсон, вельмі раю не памнажаць грэх на грэх, бо ён і без таго вялікі. Найлепей, я думаю, пайсці ў гміну і расказаць, а потым, калі высветліцца, хто гэты чалавек, узяць сіроцкую сям'ю пад апеку. Бедныя ж людзі — няшчасныя людзі, памагай ім Госпадзі! Гэты, можа, ад голаду палез на чужы палетак мацаць ў карчах бульбу.

Дзед наліў небараку келіх гарэлкі і, калі яны выпілі і выйшлі, Маня вылезла з-пад стала, адчуваючы рэзкія і яркія фарбы летняга дня і чалавечае гора ды стомленасць. Усё гэта праяўлялася ў лёгкім галавакружэнні. Яна ўпершыню ўявіла, дакладней, паспрабавала сабе ўявіць забітага чалавека і ўпершыню так блізка, апасродкавана, праз перажыванні дзеда, перажыла гэты трагічны выпадак. Можна сказаць, што смерць упершыню з'явілася ў яе свядомасці і агарнула холадам сэрцайка. Разам з тым яна ўсведамляла сваю ўдачу ў выведванні тайнаў дарослых і хоць няпэўна, але адчувала цяжар ад гэтых ведаў.

Увесь комплекс перажыванняў у гэты момант перакрываўся наплывам яе лагоды і пашаны да дзеда: ён добры, ён мудры, як што з ім паны ладзяць і ў цяжкую хвіліну анічога перад ім не ўтойваюць. От які яе дзед!.. Ёй хацелася жыць толькі з дзедам.

## 9

Аднойчы напрыканцы дня дзед Пятро завітаў з нейкай нагоды на палавіну сына Барыса. Маня ўжо залезла пад коўдру на ложку ды перабірала ў памяці малюнкі мінулага дня.

Прысеўшы на зэдлік, дзед прыгарнуў малую да сябе, пагладзіў яе па галоўцы. Мані запомніліся ягоныя словы:

— Ты, унучка, думная — досціпам ды спрытам не ведаю ў каго і ўдалася. Давай жа сходзім з табой да настаўнікаў — няхай падвучаць. Настаўнікі ведаюць адказы багата на якія пытанні, што руняць табе. Чаму, напрыклад, сонца заходзіць? Або дзе вятры нараджаюцца?.. Яны ведаюць і добра тлумачаць. Ты згодная? Малайчына!..

І сапраўды, павёў дзед такую малечу ў школу. А Мані тады было ўсяго чатыры с паловай гадочкі. Бачыце, у дзіцяці рана праклюнулася семечка ведаў, і дзед, напэўна, як спрактыкаваны гаспадар, як сейбіт і назіральнік за ўсім жывым, што ў сялянскіх абладах з'яўлялася, пайшоў на эксперымент. Ён не хацеў упусціць зручнага моманту, каб перасадзіць тое семечка ведаў у глебу, дзе яно магло б замацавацца карэньчыкамі.

Але Мані вучоба не спадабалася — мо таму, што ў настаўніка не было чым забавіць дзіцячае ўяўленне, а веды — не забаўка. Куды больш цікавы занятак меў яе дзедусь, і яна лічыла за лепшае не разлучацца з ім, глядзець, што ён робіць, вучыцца ў яго, дапамагаць яму. І ён пагадзіўся: школа няхай пачакае, пакуль дзяўчо падрасце!

Неўпрыкметку прайшлі два гады і Маня ўжо не гублялася ў паўшэхнай (агульнаадукацыйнай для дзятвы) польскай школе, гаманкой, вясёлай. Адзінае, што наводзіла на яе жах на ўроках, дык гэта тоўстая лінейка ці нейкая іншая прылада ў руках настаўніка, якой ён час ад часу біў па далонях вучняў, каб тыя не ўтойвалі сваіх ведаў.

Перад сном, калі праца ў доме ўжо заціхала, дзед Пятро знаходзіў хвіліну, каб наведаць унучку. Ён ціха ўваходзіў у спальню, сядаў каля яе ложка:

— Маня, ты спіш?

Не-не... Нават, калі б і спала, Маня адчула б дзеда сваёй тонкай скурай, бо ён у гэтым доме быў найвышэйшай асобай, ён быў за добрага духа, апекаваў яе і тату з мамай таксама. Ад дзеда і мамы заўжды чуліся цяпло і лагода. Аксіння, тая стаяла трошкі далей, хоць і старалася дагаджаць унучцы. У будзённым жыцці яшчэ далей ад Мані стаяў яе бацька — Барыс, сын Пісарчукоў, у якога заўсёды былі дарослыя клопаты, шырокія, важныя, і не ставала ўвагі да такой малечы. Няма што шкадаваў і ён Маню, але, мусіць, лічыў, што з яе дастаткова цяпла і пяшчоты,

якой яе ахутваюць дома. Маня ж зусім не мела ўяўлення пра занятак бацькі за парогам хаты, сядзібы. Яна не ўяўляла бацьку ў асяродку вясковым, як уяўляла дзеда.

Толькі дзед Пятро ўносіў ва ўтрапёнае сэрцайка і свядомасць Мані штосьці цэласнае і аб'ёмнае — як не прастору і водар палёў, птушыны галас, надзею на доўгае і сталае жыццё ў вялікім свеце. Яна ўсміхалася:

— Я не сплю, дзедусь.

— Скажы, чаму ты навучылася сёння ў школе? — ціха, спаважна пытаўся добры дух, і дзяўчынка разумела, што спакойным голасам дзед гаворыць з ёй таму, што шануе цішыню, як шанаваў, напрыклад, дзень і ноч, дрэўца каля хаты і кветку ў полі.

— Ой, проста жахліва было, дзедусь! Мы рашалі: колькі вады ў Мотальскім возеры і за колькі гадоў Ясельда можа занесці яго мулам?

—І — што... Як?

— Выйшла: за 30 гадоў возера не стане... Гэта праўда, дзедусь?

— Ну — пэўна, калі мул не выбіраць. Але ж ты бачыла, як гаспадары чысцяць возера? Чалавек зазвычай хоча, каб вада ў возеры была чыстая і каб там пладзілася рыба. А Ясельда — рака, яна не ведае, што чалавеку трэба. У яе наогул клопат не пра возера, а пра сваё рэчышча, — дадзіў дзед Пятро. — Раней рака ішла цераз Зазерскае возера, адтуль — цераз невялікі перашыек — трапляла сюды. Мулу тут было мала. А ў мінулым стагоддзі, каб зрабіць карацейшым шлях для лодак, пракапалі канаву, якая злучыла раку з Мотальскім возерам напрасткі. Ясельда ўпадабала і прыняла канаву за галоўнае рэчышча.

— Дзедусь, — Маня глядзела на ягоную дужую руку, што ад працы сялянскай ды сонечнага ветру мела буры колер і ўзвышалася над яе рукой, як бугор, як Цобскі бугор, на якім раней, згодна з легендай, жылі маталяне. — А ты, дзедусь, возьмеш мяне заўтра на пасеку?

Ён чакаў ад яе гэтае пытанне і радаваўся яму, быццам добраму знаку жыцця ці мо блаславенню Усявышняга.

— Добра, дзетка — маміна кветка. Папоўдні адно, калі пчолкі вернуцца з поля, а ты — са школы. Дамовіліся?.. Так. А цяпер — спі!

Толькі сон да Мані прыходзіў не адразу. Яна адчувала сваё дачыненне да жаднага свету і ведала, што гэта шчас-

це мецъ такое жыццё, калі ўсё захапляе, ўсё-ўсё — ад бесклапотнага матылька на градках да руплівага і нястомнага ў працы дзеда, які, па праўдзе, падаваўся ёй часам асілкам. Яна цягнулася штодня на раллю. А дзед ставіўся да яе, як да дарослай — давер, і на гэта чуйна, у хвалюючай мелодыцы адгукваліся струны яе душы. Аднаго разу пасля заняткаў у школе яна доўга сядзела на кухні, разгарнуўшы на стале перад сабою кніжкі. Пісала, крэсліла і зноў пісала, не цямячы, пэўна, дзе ляжыць ключ да таямніцы ў задачцы. Сумная выйшла на вуліцу, дзе і сустрэла дзеда. Той распытаў у яе пра настрой, пра тую задачку. Ён высветліў з яе дапамогай некалькі пытанняў і вывеў на знаёмы ўжо для вучняў прыём у рашэнні.

Як высветлілася на наступны дзень, Марыя Раманавічанка аказалася адзінай у класе, хто рашыў і даў тлумачэнне рашэнню задачы. Гонару ў яе прырасло! Але, рана сталеючы, яна ганарылася зноў жа не столькі сабой, колькі сваім дзедам, працавітым, удалым. Яна таксама будзе вартаю дзеда — найлепшая вучаніца ў класе!

Сказаць шчыра, дык Мані яшчэ больш надавала значэння ціхая і разважлівая гутарка дзеда з яе маці Ганнай.

— Ганна, бачыш, з якім імпэтам Маня вучыцца? Яна здольная, і ёй нельга спыняцца на сямігодцы.

— Вы так думаеце, бацька?..

— Пэўна...

— Гэта добра, людзяна, што палякі прымусілі ўсіх у школу хадзіць. У мой жа час вучыліся адны хлопцы, дый то не ўсе.

— Так, усеагульнае навучанне па-польску адпавядае палітыцы польскай дзяржавы. На свой капыл хочуць нас перарабіць. Але ж веды нам не зашкодзяць, ты праўду кажаш, Ганна.

Аддаючы даніну сваёй павагі старэйшым, Маня шкадавала трохі, што яе маці непісьменная, зрэшты, як і баба Аксіння, як і ўсе жанкі сталага веку. Зусім непісьменныя, яны часам збіраліся ў дзедавай палавіне хаты, і дзед употайкі ад яе, Мані, чытаў ім энцыклапедыю, якая была прадметам яго асаблівага гонару, чытаў звесткі пра розныя жаночыя захворванні ды іх лячэнне. За тыя здольнасці чалавека ў навуцы і, пэўна, былы пісарскі занятак яму і прыклеілі прозвішча Пісарчук. Дзед даводзіў нявестцы Ганне:

— Маню трэба рыхтаваць на вучыцельку. А што ты, дочка, глядзіш?.. Так, плаціць давядзецца багата. Але ж грошы — у калошы. Дый вы з Барысам, свой пасаг атрымалі і сродкі маеце.

Ганна як бы праглынула пачутае і на ім папярхнулася. Для яе, местачковай майстрыцы, што ўмела прасці воўну, ткаць адмысловай прыгажосці ручнікі і абрусы, пыніць гаспадарку, сэнс слова «вучыцелька» быў такім жа высокім і недасягальным — не раўнуючы, як тая аблачына ў небе. Таму, скажыце, як яна магла ўявіць сваю дачку вывучанай ды — свет у сведкі — гожай настаўніцай? Дзед чакаў...

— То няхай, — няпэўна і разам з тым узрушана адказала яна. Прамовіла адышоўшы: «Дай Бог і нашаму цялятку ды воўка з'есці!»

## 10

Ці ведала Маня, што ёсць за абсягамі Моталя, у сіняй далечы, недзе такі ўладарны вір, у якім таемна закручваецца і бурапеніць адчайна жыццёвая плынь. Акурат адтуль, з нябачнага вадавароту, насланнём кацілася на чатыры бакі, трапляючы таксама і сюды, у Моталь, адмысловая панская палітыка.

Пра яе вялікасць Палітыку, што з'яўлялася зазвычай у жандарскіх мундзірах, маталяне гаварылі здаўна — Маня чула іхнія байкі як сябе помніць. І помніла Маня, што людзям Крэсаў Усходніх знялюбела яна, як можа знялюбець нядобрая, жорсткая і пыхлівая пані. Адно ўсё гэта ляжала ўлежна, ціхмяна недзе ў яе падсвядомасці, як што набытым досведам яна не карысталася. Вядома, дзяўчо бегала далёка ад дзяржаўнай палітыкі.

І вось, нарэшце, жыццё нейкай віхурнай каламуццю выпхнула на яе сцяжыну выбухова-скандальны, рэдкі ды па-свайму займальны выпадак.

Час, праўда, аддаляе тое, што здарылася, а гэта ж было як не на тым канцы лета, блізка Вялікадня.

У іхняй паўшэхнай, што адпавядала — *агульнасанацыйнай*, школе з'явілася раптам і пайшло па вуснах гуляць дзіўнае слоўца — байкот... Навобмацак яно было нейкім круглым, бы яйка, лёгка вымаўлялася, але чамусьці прыводзіла ў сцішаны трэпет настаўнікаў.

Напачатку вучням Манінага класа ніхто не мог растлумачыць, што здарылася, і Ніна Лук'янаўна, іх настаўніца, пасядзеўшы які момант замружаная, пачынала ўрок. А дзеці, нешта ўжо ведалі, адно не асмельваліся звярнуцца да яе з роспытамі пра сутнасць адмысловай падзеі. Сядзелі, як на іголках, нічога не слухаючы, іх разбірала цікаўнасць іншага кшталту.

У старэйшых класах вучні, дарэчы, страцілі сваю паслухмянасць ды пачалі супрацівіцца школе — эвой! Акалічнасць вельмі бянтэжыла пана дырэкта Стэфана Шымчака, і ён мітусіўся паўсюдна, не ведаючы, як справіцца з гэтай камуністычнай пошасцю, так меркаваў, ды ўрэшце рашыў павіжаваць за вучнямі, каб выведаць іхнія тайны. От як напіша неўзабаве Шымчак у пастарунак: *«Некалькі тыдняў назад у старэйшых класах даручанай мне школы заўважыў, што ў асяродку вучняў-хлопчыкаў вядзецца нейкая антышкольная кампанія, якая праявілася ў наступным: вучні наўмысна не жадаюць адказваць на ўроках, наведваць школу, спяваць польскія песні, варожа ставяцца да настаўнікаў, адмаўляюцца браць удзел у занятках школьных арганізацый «Харцэж», «Арляты» і ў школьным хоры.*

*Маючы на ўвазе вышэй сказанае, я пачаў весці назіранне за моладдзю з мэтай вызначыць ініцыятараў антышкольных выступленняў і прыйшоў да высновы, што вучні Жыховіч Антон, сын Сяргея, 13 гадоў, Мазко Ян, сын Яна, 12 гадоў, Ксёнда Міхаіл, сын Гаўрылы, 12 гадоў, Васілевіч Рыгор, сын Васіля, 12 гадоў, Філіновіч Аляксандр, сын Аляксея, 11 гадоў, і Міховіч Сцяпан, сын Фёдара, 13 гадоў — усе жыхары Моталя, вучні 5-га класа, за выключэннем Філіновіча Аляксандра, які з'яўляецца вучнем 3-га класа, забараняюць ім пад пагрозай збівання прымаць удзел у якіхнебудзь польскіх школьных арганізацыях».*

На справе ж яно было прасцей, як што многія вучні без усялякага прымусу далучаліся да небывалай і чыннай гульні — пратэсту супраць польскай палітыкі ў школе, і ўжо адно зацуглянае імі слова «байкот» несла кожнага, як добры скакун, у свет неспазнаных, высокіх і шчымлівых імгненняў.

Настаўніцу Ніну Лук'янаўну непакоіла, што эпідэмія вучнёўскага маўклівага бунту перакінецца і на яе клас, таму, адпускаючы дзяцей на перапынак, ціха і лагодна прасіла:

— Не пніцеся быць дарослымі, калі ў вас яшчэ мамчына малако на губах не абсохла. Не ідзіце на рызыку, пакуль не набраліся розуму, ведаў. Ну, а школу паважайце, якую Бог даў.

Апошнія яе словы патанулі ў галасе здзіўлення, нясмелых кпінаў, мяккай нязгоды. Толькі яе шкадавалі.

Маня Раманавічанка разам з сяброўкамі — кульмігам на вуліцу. Зазвычай тут, каля школы, утвараўся рэй, калі не сказаць своеасаблівы кірмаш вучнёўскай весялосці. Збіраліся невялікімі рухомымі купкамі — найчасцей аднагодкі, пад'юджвалі адзін аднаго або дзяўчатак, рагаталі, корчылі вясёлыя і сумныя міны. У гэты дзень усё было амаль так, як раней. Надвор'е спрыяла, да твараў ліпла мяккае красавіцкае сонейка. Адно нешта новае ўплялася ў шумную дзіцячую грамаду. За вуглом школы, каля старой грушы Маня пачула, як гуляюць у нейкую адмысловую маўчанку: адзін, выконваючы ролю настаўніка, гаворыць шмат ушчувальна-абразлівага і звяртаецца да іншых, а тыя ядуць яго вачыма і ні гу-гу. «У чым справа, нягоднікі, шэльмы?» — пытаецца той, гаваркі, а гэтыя, абступіўшы знячэўку «настаўніка», кладуць яму на голаў далоні выцягнутых рук і пад вокліч «Бай?.. Бай...» ціснуць разам зверху ўніз. Той крэкча, намагаючыся ўтрымацца на нагах, але не вытрымлівае, згінаецца; у гэтых жа — напашэўку новы радасна-пераможны вокліч: «... кот! Сукін кот! Во што знача, пан, байкот!»

Маню нехта пацягнуў за рукаў. Азірнуўшыся, яна ўбачыла Яна Кульбеду, які порстка шыбануў ад яе ўбок. Цыбаты хлапчук з русявым чубком на галаве, што пры бегу скакаў упрысядку, Янка часам наведваўся да іх у сядзібу, заходзіў у хату, зазвычай з нейкай справай да дзеда, справу яму даручалі бацькі. Цяпер Янка шмыгнуў туды, дзе, збіўшыся ў гурт, старэйшыя хлопцы заўзята штосьці абмяркоўвалі, і па іхніх анепакоена-засяроджаных тварах Маня здагадвалася, што гутарка ў іх мае весціся пра байкот. Неўзабаве аднекуль выслізнуў, прыпыняючы крок каля іх і прыслухоўваючыся, пан Шымчак, дырэктар. Вучні карцінна схілілі перад ім галовы, ён пашыбаваў далей у бок гміны. Маня, праўду казаць, мала задумвалася, чаму іх дырэктар апошнія дні такі сцяты, непрытомны, разгублены, не раўнуючы, як той «сукін кот» у жартоўнай гульні падлеткаў.

І ўсё ж нейкі цень ад злавеснай хмары не мог не закрануць Маніну душу. Яна адчула непакой, калі здагадалася пра патаемны палітычны змест з'явы, названай байкотам. Ніна Лук'янаўна, урэшце, зусім выразна сказала: «Не ідзіце на рызыку...» І Раманавічанцы хапіла розуму, каб знітаваць тое, чутае-перачутае раней пра арышты дэфензівай бунтаўшчыкоў, камуністаў, з гэтым няўцямным пакуль дзіцячым байкотам.

На школьным падворку яна кіўнула сваёй лепшай сяброўцы Мані Васілевіч: «Чакай!» і подбегам пусцілася да купкі хлопцаў. Але ж і Васілевіч ад яе не адстала. Хлопцы ўбачылі іх. Янка Кульбеда і Грышка Васілевіч ступілі некалькі крокаў ім насустрач. Грыша даводзіўся раднёй Мані Васілевіч.

— Хлопцы! — нягучна, як быццам захоўваючы правілы небяспечнай гульні, сказала Маня Раманавічанка. — Як гэта ўсчалося?

— Манька, не глядзі на мяне, — папярэдзіў яе Янка, весела ўсміхаючыся: — Я нічога не ведаю. Адно спяваць развучыўся. Настаўніца: «оо-о-о, по-о-ле», а я: «уу-у-у, во-о-ля», яна мне зрабіла заўвагу, а ў мяне тады і зусім голас прапаў. От няхай Грышка скажа.

— А што казаць?.. Трэба спяваць свае людныя песні, якія падабаюцца, а не чужыя, — па-даросламу адказаў той і прадэкламаваў:

Не кінем зямлю, скуль наш род,
Не дамо пахаваць мову,
Польскі мы народ, польскі люд...

— А я хто — вярблюд? Даруйце, а дзе наш люд, род? Чаму не беларускія песні, не беларуская школа? «Не дамо пахаваць мову». Да д'ябла яна нам, польская мова! Наогул, — прымірэнча зазначыў ён, — няхай перапрашае пані настаўніца, але пад прымусам можна толькі выць, а не спяваць.

Маня Васілевіч была вельмі здзіўлена пачутаму і пажадала ўдакладніць:

— І вы ўсе там вылі?! Як ваўкі?..

— Кіраўніца спеваў аж спалатнела, — дадаў Грышка і не стаў больш удакладняць, як там было.

Абедзве дзяўчынкі былі ўстрывожаны, а хлопцы глядзелі на іх з захапленнем. У Раманавічанкі быў чысты, бадай, яшчэ дзіцячы тварык і зусім не па-дзіцячаму ўніклівы позірк пад чорнымі шнуркамі броваў. Валасы ў

іх абедзвюх гладка прычасаны, от толькі ў Васілевіч — косы да самых каленяў. Увогуле круглавідая, бялявая, з гэтымі доўгімі залацістымі косамі, яна вельмі нагадвала ляльку.

— Янка, — сказала Раманавічанка, выказваючы ў голасе сардэчную скруху.

— Я маўчу!

— Грышка, — прамовіла яе сяброўка да хлопца, які ў гэты момант падцягваў штаны, з якіх вырас.

— Я глухі і нямы, як усе беларусы.

— І ўсё ж, — сказала Раманавічанка, — вы не баіцеся, што прыедуць паліцыянты да вашых бацькоў і стануць з хат дахі здзіраць?

Хлопцы маўчалі. Перапынак скончыўся, зазваніў званок. Грышка наском старога чаравіка падбіў каменьчык і рашуча пакрочыў у школу.

Янка момант яшчэ памарудзіў. Яму, напэўна, прыгадалася бацькоўская сядзіба і бацькі, якія шмат працавалі і нябедна жылі. Яны збіралі грошы, каб набыць на дах чарапіцу. Ён прамовіў як бы для самога сябе:

— А я што?.. Я нічога, словам — як усе. Толькі з паліцыянтаў таксама за гэтакі грэх, няхай святар скажа, — чэрці шкуру здзяруць! Свенты кшыж!..

Ён сплюнуў і перахрысціўся.

Хлопцам не здраджвала бадзёрасць, і Маня, гэтая ўлюблёніца дзеда Пятра, ідучы зноў на ўрок, упершыню нутром сваім адчула, што яна аказалася ў самым асяродку палітычнага клёку. Абставіны, відавочна, вымагалі і ад яе быць дарослай, чаго ёй у гэты момант меней за ўсё хацелася. На душу насоўваліся няпэўны сум і трывога.

## 11

Для Пятра Рамановіча, як і іншых мястэчкоўцаў, якія за свой асноўны занятак мелі земляробства, зямля атаясамлівалася з раллёй, сенажацямі, пашамі. У той жа час Пятро разумеў, што пад глебай, узнятай плугам, акурат і пачынаецца тое, што людзі маюць на ўвазе, гаворачы: «Прыйшлі мы з сырой зямелькі, у сыру зямельку і пойдзем».

Зямелька, такім чынам, усведамлялася дзедам Пятром, дый грамадой увогуле, аб'ёмна, бы той бохан хлеба. Аднак далей, абапіраючыся ў нейкай меры на звесткі, атрыма-

ныя з кніг, Пятрова фантазія магла маляваць тое, што прырода хавала ў нетрах сваіх.

Мястэчка Моталь стаяла на правым беразе палескай ракі Ясельды, якая выцякала недзе з Белавежскай пушчы. Ясельда несла адтуль свае дрыгвяныя бураватага колеру воды ў Мотальскае возера, а з яго — на паўднёвы ўсход — пад Пінск, дзе ўпадала ў Прыпяць.

Мястэчковыя вуліцы і завулкі ляжалі на так званай Загародскай раўніне, якая выступала з балотаў ні даць ні ўзяць — пірагом і падпірала сабой Ясельду на працягу 85 кіламетраў.

Дарэчы, мотальскай парэчнай старане раўніны выпала быць хвалістай, зрэдзь пасечанай, і яна часам распадалася на асобныя грады, пагоркі. Навука даводзіла, што ўсё гэта ўтварылася недзе блізка каменнага веку, калі, насунуўшыся з поўначы, пачаў таяць ледавік.

А яшчэ трохі далей, на поўнач ад Загародскай раўніны, на балотах блізка Ясельды было багата азёраў; некаторыя з іх рака літаральна нанізвала на сваё рэчышча.

Пазагістарычныя часы пакінулі пад нагамі ў Пятра Пісарчука пяскі ды сугліністыя наносы, а ў двух кіламетрах на поўдзень — гліны, добрыя пластычныя гліны, светла-шэрага колеру. Канешне ж, адтуль сяляне і ён з імі разам бралі гліну, калі рабілі цэглу і будавалі з яе новыя харобіны.

Адно калі б нейкі прыдумшчык, целепень, — а па мясцоваму — галайдакаваты моталец аднойчы мог апусціцца ў нетры больш як на 80 метраў, то ён, пэўна, прыкмеціў бы пераход супяшчаных водна-ледавіковых парод у так званыя марскія адклады — крэйду, мергель, а таксама гліну або сцэментаваны пясок.

Граніт і іншыя цвёрдыя пароды ляжалі пад Моталем, як і пад усёй Загародскай раўнінай яшчэ ніжэй, на глыбіні прыкладна 450 метраў. Іх ніхто і нішто яшчэ не трывожыла. Ляжалі і будуць ляжаць. От каб там было золата, то мотальскія гандляры, што мелі на яго добры нюх, даўно б да яго дакапаліся.

Камень і ўвогуле цвёрдыя пароды па-свойму ўплываюць на псіхічны стан і энергію чалавека, таму ёсць пэўная заканамернасць у фарміраванні характару беларуса, яго раўнавагі, спакою, тымі абставінамі, што крышталічны фундамент зямлі аддалены ад яго на сотні метраў і пера-

крыты асадкавай тоўшчай, фігуральна — падушкай больш позніх парод.

— Зямля ў нас, Манька, — паміраць не трэба! Спакойная, мяккая. Разам з астатнім улоннем, вадою, расліннасцю, яна дае чалавеку ўсё для жыцця.

Маня з дзедам ехалі на пасеку. Дзед трымаў у руках лейцы, а яна ж круціла перад сабою сцябліну піжмы з выспелым і таму пабурэлым суквеццем. Піжму сарвала на вуліцы, пры агарожы, проста дзеля забаўкі, але дзед нечакана даў ёй параду: пацерці піжмай рукі, каб на іх, чуеце, пчолы меней увагі звярталі. Го, ці не жарт?.. Не падобна, аднак... Дзедусь сёння сур'ёзны, засяроджаны, трохі нават пануры. Панурасць, напэўна, сядзела ў яго ных вусах, якія ён час ад часу абмацваў, можа, сам дзівячыся, з патаемнай занатуранай госці.

Ён зноў загаварыў пра зямлю:

— Столькі зямлі і такая ў ёй жыв ародная сіла — ткні калом — вырасце дрэва, ступі раз — тут табе ягада, другі раз — тут табе грыб!..

Пазней Маня сказала б, што яе дзед — тыповы прадстаўнік гэтай зямлі, і, мусіць, ён быў блаславёны ўсюдыісным энергетычным полем на тыя справы, якімі займаўся, на тое жыццё, якім жыў.

— Пры нашай зямлі, Манька, спакой і спакой патрэбны, а яшчэ — лад адпаведны, тады ўсім усяго хопіць. Жыццё магло б быць... А пакуль: ні ладу, ні складу! Э-геге... Адна варажнеча!

Неўзабаве выехалі з Мотоля. Пры гаі, што стаяў яшчэ ў зялёным уборы, дзе там-сям жаўцелі асобныя бярэзіны, — паказаўся пчаліны гарадок — усё квадратныя або, як іх звалі, рамачныя вуллі, пафарбаваныя пераважна ў сіні колер, а то і нефарбаваныя... Яны патаналі ў ранішняй смузе, аксамітнай і волкай.

Для Мані за гэтай смугой ляжала як не казачнае царства мядовых пахаў, ціхага верасовага гулу, гудзення...

На пасецы, каля адчыненага вулля, глыбокі пругкі водар прасякаў як не ўсю істоту дзяўчынкі. У ім, няйначай, было сабрана ў адзіны пук ці згустак усё-ўсё, што цвіло і цвіце ў наваколлі, на палетках і лясных галявінах, у садах і прысадах. А да сабранай тут духмянасці дамешваўся і моцны пах воску — рэчыва, якое нідзе больш, як у вуллі, не сустракалася. Воск рабілі пчолы, уласна, з гэтага іх рупная праца і пачыналася. З воску — соты, што ўяўлялі сабой калектыўнае дойлідства.

— Трымай, — казаў дзед, перадаючы ёй дымар, якім толькі што дзьмухаў на рамку з мёдам.

Маня ў момант перахоплівала з рук дзеда дымар — забаўную фацэтную рэч, якая — калі націскаць на яе зборку — пыхкала дымам.

Пчолы не любілі дымовай пачосткі. Ад густога гаркаватага дыму яны п'янелі і пачыналі адпаўзаць, адлятаць, пакідаючы соты ў руках пчаляра.

Маня ўважліва сачыла за кожным рухам дзеда і за паводзінамі крылатых стварэнняў. Назіраць за імі не замінала ёй нават сіцечка з тонкім-танюткага дроту, якім асланяўся твар.

Пчолы запячатвалі ў сотах мёд тым жа жаўтавата-матавым воскам, і Маня радавалася, калі на рамцы не было пустых ячэек. Замураваную вагавітую рамку дзед ставіў у скрынку, спецыяльна змайстраваную на гэты выпадак. Найчасцей, аднак, ён прывозіў на пасеку медагонку, што ўяўляла сабой сярэдніх памераў бочку з матавілам, у якое ўстаўляліся рамкі. Пры кружэнні з сотаў цягай гнала мёд, выганяла чыста, да кроплі.

Маня любіла каштаваць мёд у сотах, таму і здаваліся ёй найвялікшай каштоўнасцю соты ў рамках.

Рамкі былі цудам, ёю яшчэ не спасцігнутым.

Перш чым дастаць з вулля адну або некалькі рамак, дзед правяраў іх усе, падлічваў запас мёду, каб не ўзяць лішку, каб пакінуць у вуллі на зіму пэўную частку бурштынавага скарбу — лета ж было на сконе і для пчол заставаўся апошні верасовы ўзятак.

Дзедаў твар таксама хаваўся за сеткай. Адкрытымі, голымі ў яго былі толькі рукі, і калі Маня старалася трымаць свае рукі далей ад вулля, то дзед Пятро нікольні ад пчол не засцерагаўся — і пчолы вольна поўзалі па ягоных руках, нібы даследуючы, ці ёсць ім ад іх якая-небудзь пагроза.

Дзве рукі дзеда — заўжды галоўныя дзейныя асобы на пасецы, таму зрок Мані і быў прыкуты да іх: дужыя, з адметным цёплым адценнем, што нагадвала і вашчыну і мёд аднначасова, гэтыя рукі сімвалізавалі сабой як не ўсю існасць сяляніна-сейбіта, селяніна-творцы і, вядома ж, пчаляра.

На жаль, у гэты вераснёўскі дзень дзед мала чаго апавядаў ёй пра жыццё пчол і наогул быў маўклівы. Толькі зрэдку за пчалярскім сіцечкам варушыліся яго вусы, ко-

лерам небагата цямнейшыя, чым лёгкая даматканая світка, у якую ён быў апрануты.

— Дзе наша чага, Манька?

— А вунь, каля скрынкі...

— Вазьмі і падсып у дымар.

Яна была рада аказаць дзеду хоць якую паслугу. У момант засыпала ў дымар сухую, пакрышаную на дробныя кавалачкі чагу, зачыняла крышку і праз колькі хвілін падносіла дымар пчаляру. У руках дзеда ён пыхкаў з новаю сілай. Пчолкі ж, адведаўшы мяккай дымовай копаці, пачыналі гудзець як не ўсім роем.

— Спакойна-спакойна, — звяртаўся да іх гаспадар: — Ніхто вас крыўдзіць не будзе.

А тыя словы прамаўляліся дзедам як бы здалёку, спаважна, завучана. І слухаючы блізкага ёй чалавека як Бога, Маня ўсёй істотай, і, можа, хутчэй не па словах, ці не столькі па словах, колькі па ягоным дыханні, па запаволеных рухах, пачала разумець, што сам ён у думках не тут, а недзе далей... О-ё-ёй, — ёй як бачыш передаваўся дзедаў журботны настрой, і ў нейкі момант дзяўчынка ўцяміла, што трывожыць дзеда.

Яго сына Барыса, а яе бацьку, забралі з запасу на службу ў польскую армію. Здарылася тое ў сярэдзіне жніўня, а неўзабаве бацька вярнуўся ў начы, пастукаў у дзверы — маці адчыніла, запаліла лямпу. Яна, маці, не ведала, радавацца ці трывожыцца, гледзячы на яго. Толькі сказала, дзівуючыся:

— О-о, табе да твару вайсковы мундзір!

— Цяпер я нявольнік гэтага мундзіра, і таму, Ганя, у мяне мала часу — прыехаў развітацца.

— Чаму? — няўцям спытала яна, знерухомеўшы ўмомант. Але, не дачакаўшыся адказу, кінулася ладаваць вячэру.

Барыс падышоў да ложка, дзе сядзела, падабраўшы пад сябе ногі, Маня; яе вялізныя ў паўзмроку вочы выказвалі захапленне і цікаўнасць.

— А вось гэта табе і Вольцы, — ён высыпаў з мяшка на коўдру шакаладкі, вабныя, у яркай абгортцы, з якіх утварылася ладная горка.

За сталом гаворка ў бацькоў ішла паўшэпатам, але Маня разабрала асобныя бацькавы словы:

— Ганя, будзе вайна...

Праводзілі яго на наступны дзень. Праводзілі на шлях, які слаўся ў бок Пінска — там капрала польскай арміі

чакала чыгунка. Маці, развітваючыся, нейк нясмела перахрысціла яго і заплакала; бацька абняў і пацалаваў яе, пацалаваў Маню, Вольку — малая трымалася за падол мамінай спадніцы. У астатні момант Барыс змушана храбра, выбачліва і вінавата ўсміхнуўся, пры гэтым дадаў: «Маліцеся за мяне і не сумуйце!» Хваляванне перадавалася без слоў, і ад нечага Маніна сэрцайка сцялася.

Хто ведае, ці паспеў капрал Рамановіч вярнуцца ў сваю вайсковую часць, як немцы пайшлі, палезлі на Польшчу. Пра вайну гаварыў увесь Моталь, што Моталь — шырокі свет. Адно дарослыя — бацькі і настаўнікі — згадвалі пра тую падзею нягучна, як пра нейкае калашматае, бы хцівы звер, ліха, ад якога пацярпелі палякі, і калі называць яго ў поўны голас, можа дакаціцца і сюды.

Ад таго часу, як бацька пакінуў іх дом, у Манінвым атачэнні, бадай, нічога не змянілася, калі не лічыць, што на мястэчка з кожным днём усё больш і больш наплывала трывога. Аднойчы ж, ідучы з палатняным ранцам са школы, яна зайшла ў краму, якую лічыла сваёй, але крамшчык Кастусь паглядзеў на яе, як на незнаёмку, ён быў разгублены і паскардзіўся: маўляў, не паспелі яны з Барысам Рамановічам як след умовіцца пра лёс гандлёва-вытворчай спулкі, а варта было б на выпадак, калі і сюды дакоціцца ліха. Няхай яно ідзе на сухі лес!

Як і раней пры наведванні бацькавай крамы, Маня ўзяла з рук дзядзькі Косці цукерку з сакрэтам, як і раней, Косця запісаў яе кошт у сшытак; дзяўчынка любіла адкрываць у цукерках забаўкі — усялякія там фігуркі звяркоў і іншых істот, але ж на гэты раз, калі выйшла на вуліцу, пашкадавала, што зайшла туды, бо ўпершыню выразна адчула, што бацькі няма, і што без бацькі свет, у якім яна жыве, можа змяніцца. Ад таго і задумлівы на пасецы пасечнік Пятро Пісарчук.

Выпадак у краме свежым успамінам, шчымлівым і золкім, зноў дакрануўся да сэрцайка, і яна падумала, што дзед, толькі дзед і дзед, ён адзіны, хто застаўся, хто можа пашкадаваць яе, заступіцца за яе і за маці. Ён спрактыкаваны і мудры чалавек, а вайна — гэта нешта загадкавае і страшнае. І, пэўна, цяпер дзед быў ва ўладзе нядобрых згадак, што нітаваліся з выбухамі, разбурэннямі. Ён трывожыўся за лёс дарослых сыноў і роднай зямлі, сваёй сядзібы і гэтых вось безабаронных домікаў, населеных пчоламі.

— Дзедусь, скажы, а фашыстам не шкада рушыць дамы і забіваць людзей?

— Хм... хто ведае... У вайне рушацца і дамы, і дзяржавы.

Пятро Пісарчук хутчэй за ўсё не чакаў такога думнага пытання ад дзесяцігадовай унучкі і ў наступны момант адчуў, што яго адказ — не адказ і што малечы трэба яшчэ нешта сказаць.

Паладкаваўшы рамкі ў вуллі, пастаяў, падумаў і зачыніў вечка. Пчолы гойдаліся ў паветры на крылах, як на нябачных арэлях, але іх пагрозлівае гудзенне спакваля рассейвалася і ўрэшце аціхла. Ён зняў з твару сетку і прысеў на скрынку, пад вечкам якой адна да адной стаялі рамкі з мёдам.

Маня, разблытаўшы завязкі на шыі, таксама зняла маску. Адкрылася яе круглая галоўка з правым праборам у цёмна-русых валасах, кароткіх, пакручастых.

— Вось і воля галаве! — з усмешкай сказала яна, папраўляючы белы каўнер на лёгкай сукенцы.

Дзед прыгарнуў яе да сябе.

— Дык пытаеш, ці не шкада немцу рушыць паселішчы і забіваць людзей... Бачыш, Манька, якая тут справа. На вайне людзі ў ваўкоў ператвараюцца, звярэюць. Іх ставяць у такія ўмовы. Перад тым, як пачаць вайну, правіцелі рыхтуюць салдат да рабавання і здзеку. Не дай Бог з вайной знацца! Але ж твой бацька Барыс Рамановіч ужо там, у справе.

— Ён у конніцы? — вочы ў Мані былі выразныя, матчыны вочы.

— Пэўна, так. Ён з вінтоўкай на кані, а немцы — з пушкамі на танках ды на аэрапланах. Сітуацыя там — горш не прыдумаеш! — Дзед прыгладзіў свой зрэджаны і пасівелы чуб, які ўжо значную частку месца на галаве ўступіў залысінам: — Гэта навала можа дорага каштаваць палякам.

— А Моталь, дзедусь, бамбіць не будуць? Я баюся...

Па тым, як уважліва ўнучка глядзела ў твар яму, гэты абабіты жыццём чалавек зразумеў, што перад ім пастаўлена пытанне з пытанняў. І яно, відавочна, падказана дзяўчынцы агульнай трывогай у мястэчку.

— Ці ж можа хто прадбачыць, Маня, што нас чакае наперадзе?.. Тут патрэбен Мікіта Парыпа. Вось хто, бадай, ведаў бы, што табе адказаць.

Аднак бачачы, што ўнучка нічога не цяміць пра Парыпу, ён патлумачыў:

— Даўно, можа, дзвесце ці трыста гадоў таму, за Вялікім княствам Літоўскім, так звалася наша дзяржава, жыў у Моталі селянін Парыпа, які мог прадказваць падзеі. Машын тады не было і вялікай удачай, напэўна, здаваўся жалезны абруч або вобад на колах фурманкі. Але Мікіта Парыпа абяцаў людзям каменныя дарогі (шашу), потым, казаў ён, і вазы будуць бегаць самі. Сапраўды — прыдумалі чыгунку, стварылі аўтамабілі. «Адным матузком увесь свет павяжуць», — прадвызначаў ён. З'явіўся тэлеграф, тэлефон... «Паны будуць равы капаць, хлеба шукаць»... І да гэтага дайшло пасля кастрычніцкага перавароту ў Расеі. Урэшце, доўгі час маталяне ніяк не маглі знайсці ключ да такіх слоў Парыпы: «Будуць чорныя птушкі з жалезнымі дзюбамі лятаць, сэрцы кляваць». Дзіўнае прароцтва! Дарэчы, як і ўсе яго прадказанні... З чорнымі птушкамі яшчэ нядаўна ў Моталі атаясамлівалі яўрэяў і лічылі, што Парыпа, гаворачы пра жалезныя дзюбы, меў на ўвазе грошы і нечалавечы ўціск... Але ж войны — адна за адной — падказваюць іншае ўяўленне пра жалезных птушак, ліха на іх... Самалёты... У гэты час яны кружаць над Варшавай і Кракавам. Варшава гарыць. Толькі мы будзем спадзявацца на лепшае, — і дзед Пятро, паказваючы ўнучцы, што размова скончана, як вялікі заступнік і прыяцель пяшчотна цмокнуў Маню ў цемечка.

Вярталіся дадому. Конь цягнуў фурманку, і Маня, седзячы на возе побач з дзедам, назірала за голымі палеткамі, над якімі збіраліся ў кучы і кружылі вароны. А ўзбоч дарогі, над гаем, у паветры пырскалі-ценькалі дробныя птушачкі.

Сонца ўсё бліжэй хінулася да зямлі. Пахла свежым сенам. І ёй падумалася, што будзе несправядліва і балюча, калі вайна жалезнай дзюбай дастане сюды, закружыць віхурай, перакуліць фурманку з мёдам, і пераверне ўсё, што асталявалася ў яе жыцці ды жыцці яе радзіны ў Моталі. Ад такога ўяўлення ўсё яе цела здранцвела і супраціўлялася дрыжыкам.

## 12

Ганна даіла кароў на аціхлым падворку, і ёй памагала Маня. Гэта была вечаровая дойка і быў момант, калі сонца, завісшы за сінімі хмарамі, афарбоўвала ў мяккі пурпур

серабрыстыя краявіны. Пурпур пакідаў на душы захапленне і разам трывогу.

Насоўваліся прыцемкі. З возера чулася рэдкае спатоленае гагатанне гусей, якія збіраліся ў гурт і, валюхаючыся, кіравалі да сваіх падворкаў. І цурчэла малако. Струменіла і білася аб даёнкі. Малако — дарунак, які ўсе любяць, і Маня таксама, балазе з сырадоя ўтвараецца яшчэ вунь колькі ўсялякіх прадуктаў, наталяючых душу і страўнік.

Малако ў Ганны цурчэла доўгімі струменьчыкамі, у Мані — кароткімі. Маня старалася ўсё рабіць, як маці. Пагладзіўшы вымя ў Лыскі, яна абмыла цёплай вадою саскі, выцерла іх белым зношаным фартухом і, прысеўшы на дыбачкі так, што даёнка ўпакойвалася ў яе між каленяў, прыступала да асноўнага: хапала ў жменьку то адзін, то другі набрынялы малаком і пругкі сасок, сціскала жменьку, адначасова адцягваючы яе ўніз, — з-пад рукі ляцеў у даёнку белы струменьчык. Цыр-р-р, цыр-р-р, цыр-цыр... Пахла цёплым сырадоем. А Лыска ціха пахрумствала — жавала жуйку.

Мані хацелася б не адставаць ад маці, але ж у Ганны далоні шырэйшыя і кулак больш імпэтны: цыр-р-р, цыр-р-р... Бойка струменіла малако.

Мані нічога не заставалася, як упохапкі зацісквць у сваіх кулачках саскі: цыр-цыр, цыр-цыр...

— Не спяшайся, доню, — падала голас Ганна, — так і стаміцца нядоўга, дый Лыска любіць, калі з ёю спаважна абыходзішся.

— Я ведаю, мам...

А на зямлі, з боку ад Мані, ляжала свежая чорная пляма — дзед Пятро з сынам Паўлам надоечы смалілі вепрука.

Вогнішча ад саломы клубілася белым дымам і ў сваім асяродку было чырвоным і вабным таксама, як і гэтыя сінія хмары, падпаленыя сонцам. Гаспадары, бацька з сынам, сашкрабалі чорны нагар. З-пад яго ж спакваля вызвалялася падсмажаная шкурка залацістага колеру. Яна песціла вока і заўжды ўносіла нешта святочнае ў Манін настрой, ды, мусіць, і не толькі ў яе; адно, што ў гэты раз дамешвалася смуткам: на краіну пагрозлівай навалаччу насоўвалася вайна, і кабана закалолі, не чакаючы прымаразкаў.

Цыр-цыр, цыр-цыр... Цудоўная песня сядзібы! У Мані ўжо пачыналі нямець і паколваць іголачкамі ступні ног, бо сядзела дзяўчынка ў нязручнай позе.

Яна паварушылася, каб трохі размяць ногі, ды як бы незнарок спытала:

— Мам, а хто там сёння ў дзеда? Госці...

— Напэўна... А што табе рупіць?

— Дзедусь пазавешваў шторкамі вокны...

— Значыць, там у іх будзе патаемная вячэра. Цяміш? — маці ўсміхнулася: — Ну, каб у сінагозе не даведаліся, што яўрэі тут свініну ядуць і п'юць гарэлку...

— Вось табе і маеш!

Цыр-цыр, цыр-цыр... Які дзіўны свет! Некаму забараняецца есці свініну.

— А пра што яны гаварыць будуць? — спытала, млеючы ад цікаўнасці, Маня.

— Будуць... Пра нештачка... Я ўжо падаіла сваю, — Ганна адарвалася ад вымя і ўстала на ногі: — Цяпер табе памагу, бо ты ўсё роўна чыста не выдаіш. Ідзі ўжо — бачу, куды цябе цягне! Адчыні толькі варотцы шырэй, няхай гусі заходзяць.

Маня, адораная воляй, падскчыла ад радасці. Яна ў міг справілася з даручэннем, расчыніла варотцы, і ў наступны момант ужо была ў хаце.

Бабуля Аксіння ўвіхалася каля печы, палаючай вясёлым яркім агнём. Там на вялікай чыгуннай патэльні пражыліся тлустыя шкваркі з яечняй, узбітай на малацэ. На другой патэльні пухнаціліся і браліся зверху карычневым загарам бліны з грэцкай мукі. Дарэчы, на кухонным стале пад ручніком ужо высіўся ладны іх стос. Побач з бабуляй — Зося, нявестка, памочніца, яна мыла посуд і раскладвала на талеркі парэзаную гусяціну, каўбасу-крывянку і іншае; у Зосі выпіраў гарбузом жывот, як што маладзіца была цяжарная.

Бабуля спрытна ладавала ў печы вількамі і ёмкаю... Нарэшце яна выцягнуда адтуль на прыпек патэлью з яечняю, кінула ёмку ў куток...

— Манька, — пазвала ўнуку, ведаючы, што тая толькі і чакае ад яе прапановы: — Бяры бліны, бяры яшчэ штокольвек, а я патэльню панясу.

У сталовай, за шырокім сталом, пакрытым чыстай ільняной палаю, разам з дзедам Пятром сядзелі госці: сусед Абко, які быў вядомым у Моталі рымарнікам — шыючы хамуты і іншую вупраж, ён і сына спанатрыў шыць вуздэчкі для коней; з Абко поплеч — знаёмы гандляр газай, шклом для лямп, шклом для вокан — Борух, гэты,

апроч крамы, трымаў у сваёй сядзібе яшчэ карову, праўда, дзівак, кармы назапашваў не на ўгоддзях, як робяць сяляне, а па людзях — па сядзібах местачкоўцаў, прапануючы ім ўзамен кармоў свой тавар або іншыя якія-небудзь паслугі; трэці ж госць быў зусім незнаёмы Мані, ён сядзеў спіной да яе, таму яна зайшла збоку, прывіталася з ім, з усімі, падала на стол дзеду цёплыя бліны, загорнутыя ў ручнік, паставіла талерку з прадаўгаватымі кавалачкамі каўбасы, якая пахла часнаком. Аксіння тым часам усталявала пасярэдзіне стала шырокую патэльню з ячняй, якая ўсё яшчэ пыхкала жарам. На стале ў місках, дарэчы, стаяла пакуль не астыўшая бульба, разварыстая, сопкая, каля бульбы — агуркі з дзежкі, раней прыгатаваныя шкваркі, мёд, іншая закусь, і госці ўжо паспелі асушыць па келіху.

Непрызнаны Маняй хаўруснік павярнуў галаў, утаропіўшы на яе свае вялікія, быццам валовыя, вочы; у іх, змеціла Маня, глыбока-глыбока ляжалі ягоная кемнасць, увага і сум. А галава ў ягамосця — стаўбуном, як рэдка ў каго, адно яе аздаблялі высокая пакатая лысіна ды пэйсы, пацярушаныя срэбрам, яны адвольна спадалі, лахмаціліся і закручваліся на плячах.

— То бэндзе пенькна паненка! — пахваліў ён Маню, пры гэтым яго вусны расслабіліся, спрабуючы ўсміхнуцца, але да ўсмешкі нейк не дайшло.

— Дык што казаць, васпане Мэндаль, — кінуў яму дзед Пятро, відавочна, працягваючы перапыненую гутарку: — Польшчу рве паганы звер. Англія і Францыя — саюзніцы Польшчы — аб'явілі Германіі вайну. Ці спыніць гэта Гітлера?

Утварылася невялікая паўза.

Маня знарок прыпыніла крок ля дзвярэй у кухню — чакала і слухала. Падаў голас Борух:

— Англічане адвыклі ваяваць. А ў французаў, пры іх арыстакратычным імкненні ўплываць на ўсе падзеі ў Еўропе, няма яго вялікасці Напалеона...

— А ўсё ж гэта дзве магутныя дзяржавы! — не пагадзіўся Абко.

— Магутныя? — перапытаў Мэндаль. — Гм... стары свет... Ім не стае таго прагнага нацысцкага духу, які прэ з Германіі. Гэта, аднак, жахліва! — і ён, уцяўшы голаў у плечы, паёрзаў на месцы — яго, напэўна, пераследаваў страх.

Зноў памаўчалі.

Пісарчук, спаважна мнучы ў пальцах вус, пачаў распавядаць:

— У маёнтку Моладава жыве стары амбасадар Польшчы ў Лондане — Канстанцін Скірмунт. Дні са тры таму я меў з ім гутарку. Ён памылкай лічыць, што палякі не пайшлі на саюз з Расеяй. У Варшаве, кажа, дрэнна чыталі кнігу Гітлера «Mein Kampf». Асноўныя планы гэтага д'ябла ваявяць на ўсходзе. А туды шлях ляжыць цераз Польшчу. Цяпер, калі Польшча гіне, Савецкая Расея маўчыць, а менавіта яна можа скруціць галаву каму хочаш.

— На жаль, у Польшчы сваё бачанне Расеі, — шматзначна кінуў Мэндаль.

— Та-ак, і тым не менш...

Мані слухаць усё гэта — клопатна, але і цікава; яна пераступіла парог і ўжо на кухні спытала ў бабулі, хто гэты пэйсаты Мэндаль.

— Э-вой! — адгукнулася жыва Аксіння: — Бог яго ведае. Нейкі купец. Уцякач... Бежанец з Польшчы. Колькі іх ужо ў Моталь навалаклося — мо болей, чым сваіх! А гэты атабарыўся ў Боруха.

Вярнулася Маня ў сталовую, трымаючы ў руках белую мужчынскую кашулю і маток з каляровымі ніткамі. Кашуля належала гожаму хлопцу, які даводзіўся братам Манінай маці Ганне, значыць, ёй — дзядзькам, яго звалі Колем. Летам ён часта заходзіў да іх, хадзіў басанож і любіў, між іншым, строіць вясёлыя жарты. Яна вышывала на ягонай кашулі па каўняры і манішцы васількі і іншыя кветкі.

— То чаго мы, панове, забаўляемся гутаркай аб спасенні душы? Тут жа не сінагога і хлеб-соль на стале... Абко, — кіўнуў дзед кашчаваму суседу-рымару, — налівай сабе і іншым. Няхай абмінае ліха добрых людзей! А-а, глядзіце... во і сын мой малодшы, Паўлюк!..

— Нех бэндзе пахвалёны!

— Па векі вякоў!

— Смачнэга вам!

— Садзісь разам вячэраць, — запрасіў Пятро сына і, далей, гасцям: — А старэйшы мой на фронце. Дай бог яму быць жывым і здаровым!

Паўлюк прысеў, і ўсе паднялі келіхі за здароўе Манінага таткі Барыса.

— А ці ведаеце, што я пачуў, — прыкусваючы ўпохапкі і смеючыся сказаў Паўлюк: — У гміну нехта прынёс навіну. Кажуць, адзін змыслы літовец, прафесар дарэчы, звярнуўся да свайго ўрада: маўляў, давайце папросім знаную

краіну — Злучаныя Штаты Амерыкі, каб перасяліла нас, літоўцаў, на востраў Мадагаскар, дзе невялікая колькасць туземцаў. За гэта няхай Злучаныя Штаты забіраюць нашу літоўскую зямлю. Навошта яна нам?.. Надакучыла народу ваяваць, а яшчэ болей служыць посцілкай для заваёўнікаў, якія колькі стагоддзяў раз-пораз руйнуюць ды пляжаць зямлю.

— О-ёй, якія мудрыя ў Літве вучоныя! Чуеш, Борух? Ход канём і іхняе прыбалтыйскае племя — у райскіх шатах! Ку-ку, херр Гітлер!.. Мо і нам разам з імі сплюндрыць туды? — Мэндаль яшчэ больш развесяліў застолле: — Малайцы літоўцы! — і ён паляпаў Паўлюка па плячы, нібы гэты гладка паголены і чырвонашчокі малады чалавек акурат і быў тым літоўцам.

— Выдатныя словы! — падхапіў дзед Пятро; ён упрышчур глядзеў на сваіх гасцей, і ягоныя вочы ўсё болей аздабліваліся вясёлымі іскрынкамі: — Па праўдзе, шаноўныя, і вам туды, туды трэба — нідзе лепшага прытулку не знойдзеце! Дый чаго варты будуць літоўцы без вас! Хто ім хамут пашые?..

— І надзене на шыю! — выпаліў знячэўку Паўлюк.

Застолле на момант абмерла, асэнсоўваючы рэпліку Пісарчука-малодшага.

— Гэта — як? — ціха вымавіў Борух.

На твары Мэндаля чытаўся дакор. Толькі Абко, рымар, ацаніўшы досціп маладога сутрапезніка, весела пасміхаўся.

Дзед Пятро кінуў доўгі пагляд на сына, але вочы яго не перасталі іскрыцца.

— Нічога, — сказаў ён. — Там, дзе хлеб-соль, усялякі жарт прыстойны. А вы ешце, панове, не саромейцеся. Не кожную суботу і ў яўрэя шабаш.

— Дый ці ўся ісціна ў талмудзе? — зноў падаў Паўлюк, бачачы як госці ўплятаюць бліны з падсмажанай у печы свінінай.

— Сапраўды, забаронены плод салодкі! — прызнаў смакату стравы захмялелы Борух, на лбе ў яго, што навісаў над тварам, расслабіліся складкі.— Нашы продкі, відаць, неабачліва паставілі на свініне крыж.

— Вой-ёй! — Абко кульнуў келіх і паслаў за ім у шчарбаты рот скрылёк салёнага агурка з мёдам, захрумсцеў. — Яўрэям, напэўна, пашэнціла, што прарок Майсей заікаўся. Калі б ён гаварыў, як я, напрыклад, то строгіх правілаў і забаронаў у нас яшчэ пабольшала б!

Над сталом ярка гарэла лямпа-васьмілінейка, і Маня сядзела на відным, непадалёку ад дзеда, пачуваючы сябе адначасова і дарослай і малою дзяўчынкай, не вартай увагі, у чым, пэўна, перавагу мела, — спакойна корпалася іголкай у белым палатне — вышывала манішку ды слухала.

— А калі ўсё ж адкінуць жарты, — мовіў дзед, — то адкрыецца зрэбная і блытаная аснова таго, што тчэцца сёння між людзьмі. Уявіце: усім пагражае вайна, і літоўцы ў страху гатовы абмяняць зямлю сваю. Іншая справа — наколькі гэта сур'ёзна? Беларусы, якія спакон вякоў жывуць на бітых ваенных дарогах і ведаюць цану ліхалецця, якія зведалі ўжо і горыч разарванай на кавалкі краіны, таксама моляць Бога аб лепшым лёсе. Толькі Мадагаскар у Індыйскім акіяне ім, бадай, і не сніцца. Свет вялікі, а душу няма куды дзець. Астаецца жыць, дзе нарадзіўся, ды дзякаваць Богу за куток, які ёсць.

— Гэта значыць, упакорыцца лёсу?

— Так, пане Мэндаль... А хіба ваш уцёк з Хелма сюды — не пакора лёсу? Вы ж пакінулі дом, млын, краму, ды толькі — не страх, не трывогу, якая і дагэтуль азмрочвае ваша жыццё.

— Бачыць Бог! — пахітаў галавою Мэндаль.

— Свет напладзіў шмат заваёўнікаў, — зазначыў дзед Пятро. — Я маю ласку ад паноў Скірмунтаў чытаць сёетое — з іхняй бібліятэкі. Беларусы, напрыклад, маглі б налічыць дзесяткі, а мо і сотні Іванаў Жахлівых, Напалеонаў і розных Напалеончыкаў, ліха на іх, якія ішлі з захаду і ўсходу, з поўдня і поўначы, рабавалі, гвалцілі, спрабавалі прыгарнуць сабе літвінскія, тож бо нашыя землі. Усе яны дзейнічалі аднолькава, і ў Гітлера замашкі — будзьце пэўны! Але ж сваім сялянскім розумам я не дапну, чуеце, да адной дзіўнай рэчы.

Пятро Пісарчук пакратаў відэльцам на талерцы кавалачак каўбасы, як бы вагаючыся, гаварыць далей ці не, і сказаў:

— Прабачце, ну што гэта ў Гітлера за прыхамаць такая: каб, ваюючы з іншымі народамі з-за зямель, асобна зводзіць нацыю, якая не мае ні сваёй зямлі, ні краіны?..

Па тым, як госці пераглянуліся між сабой і лупавата ўставіліся на гаспадара, Маня зразумела, што гаворка менавіта пра іх; а яшчэ зразумела, што яе дзед Пятро Пісарчук паставіў рубам самае цікавае на гэты момант пытанне, яна адклала ўбок вышыўку.

## 13

— Азохунвэй! — усклікнуў Мэндаль і звярнуўся да Боруха: — А ці не цвяліць з нас гарпадар, а? — і да Пятра: — Увесь свет ведае пра ганенні на яўрэяў. Ці ж гэтага мала?

— Свет чуткамі поўніцца, і, канечне, васпане, тое-сёе даходзіць да нас, асабліва цяпер, разам з уцекачамі. Аднак я мушу ўдакладніць пытанне, бо вы не адказалі мне на яго. Дык вось, панове: якая ж карысць будзе Гітлеру, калі ён адлучыць яўрэяў ад жыцця ў грамадстве, збярэ іх, скажам, у гета?..

— Карацей кажучы, — не вытрываў Паўлюк, — чаму ён уз'еўся на жыдаву?

Цішыню, якая зноў выдавала ніякаватай, парушыў Абко:

— Вып'ем...

Чарка, безумоўна, неяк змякчала той напружаны момант, але не здымала пытання, і купец Мэндаль, пэўна, прыкідваючы, што адказаць, пабарабаніў пальцамі па стале; на безыменным яго сядзеў залаты пярсцёнак, тоўсты, пукаты, бы літы павук.

— У прынцыпе вялікай загадкі тут і няма,-— пачаў ён.

— Вой, ды ці варта пра гэта, а, Мэндаль... Ці мала што можа выдумаць якісьці вар'ят? — Борух выбачліва бліснуў з-пад ілба на гаспадара застолля, з якім часам рабіў дробны гешэфт.

— Не! — распрасцёр пальцы ў нязгодзе і, няйначай, асланіўся далоняй небарака Мэндаль. — Не-не... З павагі да вас, гаспадар Пятро, і да вашага ўніклівага розуму мушу адказаць больш разгорнута. Справа ў тым, што я, валодаючы нямецкай мовай, меў гонар асабіста праштудыраваць змест мярзотнай кніжкі «Mein Kampf» Гітлера. Я спаліў яе потым... Але ж многае помніцца. Нельга забыць трызненні нацыста, згубіцеля яўрэяў.

— Вазьміце толькі на ўвагу, — крывячы ва ўсмешцы плоскія, абмасленыя губы, казаў далей Мэндаль: — Яўрэй гаворыць дзеля таго, каб хаваць свае думкі. Каб іх вуаляваць. Так-так... Праўду выказанага ім трэба шукаць пад натрусам слоў... Гэта — з кнігі Гітлера.

— Выдатна! — адгукнуўся гарэзліва рымнік Абко.

— Яшчэ замалада Гітлер пачаў даследаваць памкненні і высілкі сацыял-дэмакратаў, іх мэты, метады дзеянняў. Ён быў уражаны, што сацыял-дэмакраты адмаўляюць нацыю, адмаўляюць Бацькаўшчыну, законы і нават існуючую традыцыйную школу. Гітлер стаў прыглядацца, пачаў чытаць выданні, якія належалі гэтаму руху, — брашуры, газеты, вывучаць іх аўтараў, выдаўцоў... Азохунвэй! Ды там адныя яўрэі!.. Стаў прыглядацца да правадыроў — за рэдкім выключэннем, таксама сыны абранага народа. Каго ні вазьмі — дэпутатаў рэйсхстага, сакратароў прафсаюзаў, старшынь мясцовых арганізацый, вулічных агітатараў — усе жыды. І жах яго ахапіў. Mein Gott! Mein Gott! Ён пачаў калупацца ў крыніцах, а адтуль, не ў гэтай хаце гаворачы, мурло Мардахея — Карла Маркса высоўваецца. Не дай рады... Яўрэйскае вучэнне марксізму падаецца яму суцэльнай бязглуздзіцай. Панове! Марксізм адмаўляе ў чалавеку духоўныя каштоўнасці і сілу, а на іх месца ставіць колькасны склад масы, яе ўтрупянелую вагу. Жахліва!.. Марксізм адмаўляе значэнне народнасці і расы, расы, чорт яе ўзяў бы! Марксізм, разам з астатнім яўрэйскім збродам, пляжыць нацыянальную культуру, школу, увогуле вядзе да разбурэння нацыі. Бачыце, колькі грахоў!

— Цяжка ўявіць, — сказаў Паўлюк да бацькі, — на чым жа трымаецца камуністычны Савецкі Саюз?

— А я, сынок, бачыў, на чым ён трымаецца. Як што чырвоным тэрорам той падмурак завецца! І Троцкі ці іншы д'ябал — наверсе!..

Маня пачала стамляцца слухаць сур'ёзную і далёкую ад яе дзявочага жыцця гаману, хоць клёк у застоллі і быў абумоўлены пачаткам трывожнай вайны, жорсткай, жахлівай...

Аб яе ногі цёрлася і лашчылася маладая кошачка Лёля. Яна ўзяла гэты жывы шэры камяк на рукі.

— Гаспадар Пятро, пэўна, бачыў многае наяве, калі жыў у рэвалюцыйным бедламе. Ну і Гітлер у сваёй кнізе даводзіць, што правіцелі сучаснай Расеі — злачынцы, на руках у якіх кроў мільёнаў спаважных інтэлігентных людзей. Уладыкі, піша, выйшлі з народа, рысы якога ўяўляюць сумесь звярынай жорсткасці і непамыснай ілжывасці. Гм... Наступны ў кнізе кляты сатанінскі момант: інтэрнацыянальнае яўрэйства, якое трымае ў сваіх руках усю Расею... Яно, бачыце, лічыць Германію не саюзніцай, а

краінай, якую павінен спасцігнуць той жа лёс, што і Расею. Фюрэр арыйскай расы Гітлер баіцца гэтага і не можа дапусціць, каб яўрэі дасягнулі сусветнага ўладарства.

Пятро Пісарчук уважліва, з нейкай нават адчайнай цікаўнасцю слухаў і слухаў з вуснаў дасведчанага купца тое, што давала магчымасць разумець большае:

— Васпане Мэндаль, а вы, чытаючы тую кнігу, выпадкам не прыйшлі да высновы, што асноўная прычына вайны Гітлера — знялюбеласць да жыдавы і рахунак, які ён спрабуе прад'явіць вашаму племю?

— Кніга сапраўды наводзіць на падобныя разважанні. Па крайняй меры, такую думку цяжка аспрэчваць, як і тое, што марксізм — разбуральная сіла. Там ёсць словы: «Калі б яўрэю з дапамогай яго марксісцкага сімвала веры ўдалося атрымаць перамогу над народамі свету, ягоная карона стала б вянцом на магіле ўсяго чалавецтва». Азохунвэй!

— Дык вунь куды чорная кабыла шэльму фюрэра занесла! — кінуў жартам Абко.

— А што вы думаеце? — на лбе ў Боруха ярусам пайшлі новыя складкі. — Гм... Мы залезлі ў самыя нетры палітыкі. Не ўсім яўрэям адно сніліся навуковыя вышукі і досведы Маркса!

— Вядома, — пагадзіўся з ім Мэндаль. — Я, напрыклад, бачу вялікую хібу, хлусню, злосны абгавор, калі хочаце, там, дзе балбатлівы фюрэр, пікіруючы на яўрэяў, даводзіць: маўляў, яны ўціраюцца ў асяроддзе іншых народаў, разлагаюць іх знутры і змагаюцца з тымі, хто стаіць на шляху, — падманам, паклёпам, ды проста ядам... Ну скажыце, якім чынам нейкі там Мэндаль у Хелме або, да прыкладу, Борух, Янкель, Абко ў Моталі, бэсцяць палякаў, крыўдзяць беларусаў? Азохун... вэй-вэй.

Пісарчукоў сын Паўлюк пры гэтым усміхнуўся загадкава, унікліва і паварушыўся на месцы, як бы штось яму муляла. А Мэндаль ужо з прыкметнай палёгкай сказаў:

— Дык вось вам і «Mein Kampf». Я неяк тут пераадолеў агіду і адкрыта, не таячыся, прадставіў вам думкі Гітлера і іншых нацыстаў дзеля таго, каб усе вы маглі зразумець, з кім маем справу. Фюфэр хоча, каб людзі прынялі яго ў вобразе і ролі новага месіі. А як жа інакш? І пагатоў ён пераконаны, што дзейнічае менавіта ў духу ўсемагутнага творцы — цьфу-у на цябе!.. «Змагаючыся за знішчэнне яўрэяў, я змагаюся за справу, Богам ухваленую». Як бы не так!

— Дзякуй, пане Мэндаль, што шмат расказалі нам пра гэтага вылюдка, — мовіў гаспадар застолля, калі бежанец з Хелма скончыў апавядаць. — Я нават не спадзяваўся на такую шчырасць і нязмушанасць гутаркі, якая, бадай, магчыма толькі перад страшэннай навалай ды судным днём.

— А ў лазні мы ўсе роўныя! — зазначыў Абко.

— Не забывайце аднак, што мы за накрытым сталом і гаспадыня любіць чысты посуд. Сілкуйцеся...

— Дзякуй гаспадыні! У яе залатыя рукі і шчодрая душа.

— У беларусаў шчодрасць на першым месцы.

— А я вам пра шчодрага яўрэя раскажу, — прапанаваў Абко: — За сталом яўрэй частуе госця: «Бярыце хлеб, намазвайце маслам». Госць: «Ды я намазваю». Гаспадар: «Не, гэта вы накладваеце, а не намазваеце».

Застолле адгукнулася рогатам.

— Калі па шчырасці, — сказаў Пятро Пісарчук, — тое, пра што паведаміў нам пан Мэндаль, наводзіць на глыбокі роздум аб лёсе вашага наўздзіў адметнага яўрэйскага народа і разам з тым паказвае, што яўрэі — не ягняты з боскіх пашаў, яны нярэдка выклікаюць дакор і нават больш моцныя пачуцці. Ці ж не так?

— Я вельмі шкадую, бацька, — падаў голас Павел,— што за гэтай пшыязнай размовай няма Барыса, от ён выказаўся б! Дарэчы, наш Хаім Вайцман — дойлід Сіёна!

— Ну — так... Галава, ліха матары, — сіяніст...

— Выбачайце, гаспадар Пятро, вы зацікавілі нас сваім закідам у наш агарод. Пасля Гітлера ўжо, можа, нам і варта пагадзіцца з чым-небудзь. Але ж вы гаварыце далей, мы слухаем вас, — папрасіў Борух.

— Я пасечнік, ведаеце, і пастаянна назіраю за пчалінымі сем'ямі. Сям'я пчол — гэта як крылатае грамадства, ды не абы якое, а, канешне, тое, што ўсвядоміла сябе супольнасцю, нацыяй. Цяпер уявіце сабе, што ў вулей убіваюцца восы або хоць бы пчолы нейкай іншай пароды. Як адрэагуе на іх з'яўленне рой?

— Ён дасць ім дыхту!..

— Так, чужакоў заб'юць і выкінуць. Законы прыроды жорсткія: не лезь не ў сваё радства! Гэта я да прыкладу... Цяпер давайце разгледзім іншую сітуацыю. У роя, скажам, не хопіць сілы, каб перамагчы чужынцаў, а тыя крадуць мёд і ўсталёўваюць у вуллі свае парадкі. Што будзе з нашым роем?.. Ён увесь загіне.

— Не крыўдуйце, панове, — казаў пасечнік Пятро Рамановіч далей, — але яўрэі — дальбог — тыя пчолы, якія

любяць залятаць у чужыя вуллі. І там атабарвацца... І калі ўжо яны атабарыліся, — будзе зноў два варыянты...

Маня з захапленнем глядзела ў самы рот дзеду, дзіва што — так хораша, проста і зразумела ён гаворыць пра пчол і яўрэяў, — пра самыя розныя і далікатныя рэчы. І тыя, пра каго ён баяў, слухалі яго, стаіўшы дыханне.

— Першы варыянт. Залётныя пчолы стараюцца не выдзяляцца ад тых, што гаспадарацаь у вуллі і спакваля ўключаюцца ў агульны рытм і лад жыцця сям'і. Рой у такім разе нічога не страчвае, а наадварот — мацнейшым становіцца.

Другі варыянт. Дзякуючы страчанай пільнасці роя, або па збегу нейкіх іншых абставін залётныя пчолы пралезлі, атабарыліся ў вуллі, але не схільны асімілявацца і жыць агульным жыццём, як што лічаць сябе нейкай асобнай пародай. Яны спрабуюць перахапіць шляхі зносін, дапасці да сотаў, адцяць іх пэўную частку і прымусіць рой служыць сабе.

Вынік таксама прадказаць не цяжка. Пчаліная сям'я, калі не вытурыць іх, страчвае свой ранейшы генетычны патэнцыял, гіне. Я не ведаю выпадкаў, каб у вуллі зажылі нейкія варагуючыя з роем насякомыя, — Пісарчук углядаўся ў твары гасцей, шукаючы гожае слова, — восы... чмялі... ці што іншае. Канешне, паважаючы кожнага з вас, я прывёў гэты прыклад.

— Дзякуй мондраму суседу! — шчэць на хударлявым твары Абко рассунулася, уступаючы месца светлай усмешцы; тут нешта наогул весяліла яго...

Паслужлівая Пятрова ўнучка Маня, абудзіўшыся ад утрапення, прыбрала са стала колькі пустых місак, талерак і панесла на кухню. Купец Мэндаль спытаў:

— Пане гаспадар, вы, пэўна, маеце нейкія ўласныя назіранні за паводзінамі нашай мосці ў Моталі?

— Назіранні?.. Не, не столькі яны... Уражанні мо з часоў Гедыміна складваліся ў мясцовага люду, і Саковіч, даследчыца з Моладава, дарэчы, пісала пра іх... Я не суддзя, дый палітык — не дай рады які. Адно мяркую: Усявышнім уведзены законы, якія што ў пчаліным, што ў чалавечым грамадстве павінны праяўляцца аднолькава. Таму, калі яўрэі ў Моталі чыняць з сябе эліту, адасабляюцца і выбіраюць собскага старасту, лічачы нашага за казла, прабачце, то гэта не можа не адбіцца на ўзаемаадносінах. Вайцмана ж ускарміла грудным малаком беларуска Агапа, так бо — у ягонай маці Рохлі не ставала малака.

Госці пачувалі сябе край несамавіта, нават уцякач Мэндаль не выгукнуў сваё ўлюблёнае «Азохунвэй!» — краксталі і лыпалі адзін на аднаго. Абко — у меншай меры; ён і вярнуў лагоду ў хаўрус:

— А ведаеце прытчу?.. Прыйшоў Хаім да Сары і кажа: «Сара, мне ўчора хацелі даць па мордзе!» Яна: «Адкуль ты знаеш?» Хаім: «Бо далі». Сара: «Чаму ж ты кажаш, што хацелі?» Хаім: «А то, каб не хацелі, хіба далі б?»

Неўзабаве нашы госці падняліся з-за стала. У хаце ажно тры гадзіны непрыкметна прайшлі, і быў ужо позні вечар. Развітваючыся з гаспадаром, Борух папрасіў Пятра аб ласцы — нарыхтаваць для ягонай каровы сечкі з саломы. Дзед Пятро кіўнуў у знак згоды:

— От Павел зробіць...

— Будзьце пэўны! — пацвердзіў Павел.

Абко ж зацікавіўся Манінай вышыўкай:

— Для каго, цурка, гэтакі цуд ствараеш?

Невядома чаму, але Маня пачырванела, перш чым выціснуць з годнасцю:

— Сакрэт...

Ды тут якраз падаспела маці:

— Во глядзі ты! — здзівілася адказу дачкі. — Як дарослая!..

І яна ж падтрымала жарт:

— У яе такі хлопец паглядны! Колем завуць...

— То бэндзе пенькна паненка!

За адным скрыпам госці выходзілі ў змрок на вуліцу.

## 14

Сны чалавечыя; як паказвае ўласны досвед Пятру, яны азначаюць адно гульню самавітага і вольнага ўяўлення, якому ні думка, ні воля не чыняць перашкод пад час свайго адпачынку, і не сочаць за ім, і не кантралююць яго. Адмысловы стан, чуеце, — воля!

І далей, масціў масток да ведаў назіральны і ясны розум Пятра, у снах адбываецца своеасаблівае адлюстраванне рэчаіснасці, якая выступае тут як гнутая, ломаная, мешаная-перамешаная і сяк-так сабраная нанова карціна жыцця. У яе іпастасі можа з'явіцца чортведама што.

Але ж селяніну Пятру столькі і клопату было б аб тых снах,калі б не спадчыннае яшчэ ўяўленне, што дзіўныя малюнкі і дзеі снуюцца на тым самым грунце, па якім

наўсцяж, віляючы, бяжыць кудысь таемная сцяжына лёсу. І ці доўгі той шлях? Ці шмат на ім радасцей? А колькі пакут?.. Бяжыць нябачная нікому сцяжына. От толькі малюнкі і надарэнні ў сне, нягледзечы на іх неверагоднасць, у нейкай меры адлюстроўваюць і саму пуцявіну. У гэты самы момант, і ў наступны... Яны прадвызначаюць і падказваюць, што чалавека чакае наперадзе.

Не абавязкова, канешне, каб усе малюнкі былі сімваламі і вымагалі сваёй расшыфроўкі, — не кожны сон у руку, кажуць, ды што зробіш, людзі ўважаюць на сны.

На гэты раз Пятро Пісарчук доўга сноўдаў з сякерай па лясных кутах, забіраўся ў нетры, якія часам рассоўваліся, утвараючы галявіны, працятыя аксамітнымі промнямі сонца. Сярод гонкіх сосен, што вабілі вока сваімі бронзавымі крамянымі камлямі, ён шукаў сухастоіны, каб спусціць іх на дровы. І дзяцел стукам сваёй дзюбы аб падатлівы луб нярэдка падказваў, дзе шукаць падобныя дрэвы... Пахла смалою. З невялікай замшэлай западзіны цягнула пахам багны, розныя пахі зліваліся ў адзін лясны водар, таму дыхалася чалавеку ўсмак, глыбока і роўна.

Усведамляючы, што гэты лес займае сотні вёрст — вунь сягае аж да Спораўскага возера і нават далей, што сваімі вершалінамі ён утварае зялёнае покрыва-мора, Пісарчук падумваў пра тыя мясціны, куды яшчэ не трапляў чалавек. Углыб іх нямала! Павага і гонар за лес як штосьці аграмаднае, адухоўленае, блізкае поўнілі ягонае сэрца.

Заняты сваімі ўявамі-думкамі, ён не заўважыў, як неба, што церушылася бляклай сінечай у баравую прастору, стала цямнець. Чалавек узяў на яго ўвагу толькі тады, калі над борам прагрукатала. Разважаючы, што ў такім разе належыць рабіць, Пятро стукнуў абухам сякеры, з якою хадзіў, па сухастоіне — знізу ўгору пайшоў сухі звон ды як бы рэхам аддаўся воддаль. Зноў угары моцна бухнула-трэснула, пакацілася куды немаведама, пасяляючы на гэты раз у грудзях Пятра — цёртага селяніна — трывогу. Ён ціха прысвіснуў і з размаху цюкнуў сякерай у ствол. Тут новы грукат страсянуў зямлю, і на момант падалося, што абрынулася неба. Сухастоіна затрашчала і імкліва пайшла на яго. Не паспеўшы перахрысціцца, ён адскочыў, спатыкнуўся, упаў. Зрок выхапіў і пакінуў у памяці, як з кустоў выскачыў заяц. Напалоханы шумам і грукатам, ён паімчаў міма яго.

Ціха. Нічога больш не грукоча. Нічога аніяк не баліць, дальбог. Ён пакратаў пальцамі рук, ног і са здзіўленнем адчуў, што жывы. Нейкім краем усведамлення адзначыў, што не спіць, а дакладней — абудзіўся ад сну і трызнення, але ненадоўга. Аксіння дыхала побач. Момант, і, ладу не дабраць чаму, ён зноў там... Расплюшчыў вочы і бачыць: на паваленай сухастоіне сядзіць нешырокі ў плячах чалавек, пыхкае трубкай. На ім форменны кіцель, боты блішчаць. Па аблічччы сваім ягамосць дужа знаёмы Пятру, як што ў расейскіх газетах яшчэ ў тыя гады, калі ён жыў там, неаднойчы друкавалі ягоныя карткі.

Невысокі пакацісты лоб, крутыя чорныя бровы, угору прычэсаны сіваватыя валасы, густыя, шчаціністыя, бы поўсць на воўку, вусы пажаўцелі ад дыму.

Пятро ніколі ў жыцці не спатыкаўся з уладаром адтуль, але ведаў: гэта ён!

— Устань, Пісарчук, падыды до мінэ.

Пісарчук успрыняў саму постаць, яе голас як належнае; нават тое, што лясны госць назваў яго мястэчковае прозвішча, яму не рабілася дзіўным. На нагах у Пісарчука таксама былі боты, толькі ялавыя. Пэўнае падабенства з кіцелем уладара мела і Пятрова куртка свайго сукна, якая высока, пад самую шыю, зашпільвалася на гузікі. Яны былі прыкладна аднаго веку і нейкая мужчынская роднасць заўважалася ў іхніх вусах. А што да валос, то тут, бадай, нельга было правесці абсалютна ніякага падабенства, як што ў Пятра валасы больш светлыя і больш мяккія і заставалася іх на галаве ўжо вобмаль.

Пісарчук устаў і пашукаў вачыма сякеру.

— Ты не думай, што здэсь я одын, — мовіў госць. — Здэсь багата маіх люды. Усе збіраюць мінэ грыбы. Здэсь за кожным дрэвам — мае вочы.

— А я тут самотны, — ці то падумаў, ці прамовіў з сумам Пятро. — То якім жа абставінам, васпане, я абавязаны гэтай сустрэчы?

— Сустрэча прызначана, ды не з табой, пчаляром. Твая роля тут, як ось гэтых соснаў... Уцяміў? Я маю сустрэцца з буйным чорным Шэршнем, э-вой! — І лясны госць усміхнуўся нейкім сваім спадзяваннем ды нецярпліва паглядзеў на гадзіннік: — Як думаеш, не пабаіцца ён сюды прыляцець?

Пісарчук, уцяміўшы, пра каго зайшла гутарка, адчуў востры непакой, трывогу і цікаўнасць да моманту:

— Аднак я хацеў бы на яго паглядзець.

Госць-вядзьмак разгарнуў на каленях карту, на якой у розных фарбах азначаліся краіны Еўропы, і, выказваючы сваё задавальненне, тыцнуў трубкай у Польшчу:

— Ось тут ён пакажа свае тактычныя здольнасці. Сваю сілу... А мы паглядым.

Польшчу на карце перацінала шырокая сіняя лінія.

— Там мой сын... Ён за капрала ў польскай арміі.

— Твой сын камуніст?

— Не ведаю...

— А ты беларус?

— Так...

— Мне неаднойчы чуць даводзілася, што беларусы — наўздзіў трывалы народ і што яны ў вадзе не тонуць і ў агні не гараць. Гэта праўда?

— То вам, васпане, нахлусіў хтосьці! Мы заўжды гарым.

— Няўжо?

Пятро Пісарчук не заўважыў, як і калі карта ў руках ведзьмака загарэлася, і ён паднёс яе пад крысо ягонай курткі.

— Ось мы і праверым...

— Ці варта, васпане?! Нас адвеку топяць у крыві...

Пятра працяў жах і ад жаху зрабілася горача, ён кінуўся бегчы — крок, два, але ж ногі-шэльмы не слухаліся — да брыдкага страху дадалося яшчэ і яшчэ; не толькі сэрца — усё нутро трымцела, і ён прахапіўся.

— О-о, госпадзі! Ох...

— Чаго ты стогнеш? — спыталася Аксіння, варушачыся побач.

— Брыда апанавала, — не адразу адказаў ён. — Такі сон, адным словам...

І, радуючыся, што насланнё адыходзіць, ён з палёгкай уздыхнуў. За вакном ужо сеялася і паціху выцінала морак з хаты святло. Заспявалі разам як не ўсе местачковыя пеўні.

Яшчэ трохі дрымоты, і зусім абудзілася сядзіба Пятра; нявесткі Ганна і Зося рупіліся на падворку ды ў сценах хлява, пыніліся з жывой гаспадаркай, даілі кароў, гатавалі корм для свіней і авечак, ім памагаў Паўлюк. Аксіння нашкраптала бульбы ды падпаліла ў печы дровы, паставіла два гаршкі — боб і лапшу на малацэ, якую асабліва любілі дзеці, тут жа пачала пекчы дранікі на сняданак, шкваркі да іх; намыла бульбу ў вялікі чыгун — гэта ўжо для тых, што ў хляве рохкалі.

Полымя ад печы абдавала жарам яе круглявы твар, ахінуты касынкаю, засяроджаны, задуменны; з ночы бабе перадалася трывога ад яе чалавека.

Пятро тым часам агледзеў малатарню, якая стаяла ў гумне, змазаў шківы і іншыя часткі, што круціліся і церліся ў працы. Сёння гаспадар з сынам будуць малаціць жыта... А цяпер Пятру аставалася яшчэ задаволіць у стайні надзённыя інтарэсы каня, як што яму выпадала ў лёгкай вупражы хадзіць пад павеццю па крузе — цягнуць прывад, круціць шэсцерню, ад якой перадаваўся рух на барабан і іншыя вузлы малатарні.

За працай і далей за сняданкам, потым зноў за працай на гумне Пятро ніяк не мог забыцца на сон, ад якога дагэтуль яшчэ знібела душа, і было прадчуванне нядобрага. Зрэшты, чаго добрага можна чакаць, калі ў дзверы грукоча вайна?

Час за працай прабег хутка. Папалудні, распрануўшыся па пояс, ён папрасіў Паўла паліць яму крыху злетненай вады на рукі, на карак; добра намыльваючыся, змыў з сябе ўсю пацяруху ды едкі цёмна-шэры пыл ад малатарні. Калі ўжо расціраў рушніком да чырвані вільготнае крамяное цела, Павел, гледзячы на бацьку збоку, усміхнуўся:

— Дык кажаш, бацька, той вядзьмак хацеў выпрабаваць цябе на вогнестойкасць?

— Табе, сынку, смех, а гэта ж не на жарт яно. Каб думаў калі, што я з гэтакім д'яблам нос к носу сутыкнуся! Хоць бы і ў сне... Цьфу! — сплюнуў.

— Хай яго хай!..

Пятро наважыўся зноўку з'ездзіць у Моладава, каб спаткацца і пагутарыць са знаным палітыкам, якім лічыў Канстанціна Скірмунта. Здавалася, каму і валодаць новай інфармацыяй пра вайну і спрычыненыя вайной падзеі ў свеце, як не яму, былому міністру замежных спраў Польшчы і затым амбасадару ў Лондане... Пятро не рабіў перад жонкай сакрэту з таго, што мае паехаць у панскі палац, каб, уведаўшы якія навіны, узяць іх за аснову, за ключ для разгадкі жахлівага сну.

Тым часам Маня, гуляючы на падворку, падскоквала на ўтравелай сцяжыне каля веснічак і сыпала жартаўлівыя словы і скорагаворкі, якія забаўлялі яе двухгадовую сястрычку Вольку:

— Чэпік, чэпік — доўгі нос, куды цябе чорт панёс, не падмазаўшы калёс!

Тая не ўсё, праўда, разумела з гэтакай эскапады, але рагатала з усёй дзіцячай адданасцю, як што ёй падабаліся вясёлыя скокі-падскокі і словы ў такт Маніным рухам; яна і сама ўжо дэкламавала, прысядаючы:

— Цепік, цепік...

Ды тут Маня заўважыла, як дзед выкаціўшы са сваіх сянец ровар, падаўся на вуліцу. Ён быў чыста, як па-святочнаму, апрануты. Яна дагнала яго.

— Дзедусь, а ты куды гэта?

— На Парыпавы горы! — і першы раз за дзень вочы ў дзеда засвяціліся ў лагоднай усмешцы. — Мо ты ведаеш, дзе іх шукаць?

— Не-е, — Маня не адразу ўцяміла, куды хіне яе дзед: — А што табе там?..

— Адтуль свет шырэй відзен.

Ёй бабуля ўжо расказала, што ад самае ночы трывожыла дзеда, і таму яна была рада: ён зноў вясёлы і нават жартуе.

Маня ўпершыню пры развітанні сказала яму словы, якія зазвычай гаварылі дарослыя, — баба Аксіння або маці — і пры гэтым зычліва памахала рукой:

— Добрым часам, дзедусь!

## 15

Ліпавая алея вяла да варот маёнтка. Кроны дрэў так паразрасталіся на волі, што стваралася ўражанне суцэльнага зялёнага калідора, трохі парудзелага, праўда, ды не менш прыгожага ўвосень, і па ім чалавек ехаў, пачуваючы на сэрцы палёгку ад таго, што ў старой вячыстай алеі, дзе вольна пырхалі птушкі, завяршаўся ягоны шлях да знаных паноў.

Кожная апора варот уяўляла сабой высокі чатырохгранны слуп з каменным шарам наверсе, а пры тым слупе — карацейшыя, па два з кожнага боку.

Вароты былі адчынены, і Пятро Рамановіч (тут ягоным прозвішчам Пісарчук менш карысталіся) укаціў на ровары ў двор пры палацы. Злева стаяла капліца, а па правую руку, за дрэвамі і дэкаратыўнымі кустамі, хаваліся гаспадарчыя будынкі.

Ён мінуў шырокі, як скінуць вокам, газон з кветкамі, і далей, за кветнікам, адкрываўся палац, які быў збудаваны і абжыты Сымонам Скірмунтам напрыканцы XVIII ста-

годдзя; месціўся ён непадалёку ад старога двара Агінскіх. Увогуле тут каранілася сівая гісторыя і, усведамляючы гэта, Пятро Рамановіч, нашчадак духу і велічы літвінскай зямлі, зараз перажываў непакой і хваляванне. Думалася: нешта ж павінна рабіцца з таго, што рабілася, інакш які сэнс быў лучыцца ў адзінай грамадзянскай супольнасці, у адзінай дзяржаве, сеяць, жаць, ствараць штосьці адмысловае ў архітэктуры, мастацтве, несці ў свет самавітасць. Усё, што пасеена тымі стагоддзямі, павінна б узысці, праклюнуцца нават праз мур, як праклёўваюцца парасткі на ўтаптанай глебе. Адно каб не войны і гвалт над народам!

А царкоўныя метрычныя запісы сведчылі, што у XVI-XVIII стагоддзях у Моладаве гнездаваў слынны ў Вялікім княстве род Войнаў, потым, як Вайнаўчанка Элеанора зайшла замуж за Казіміра Агінскага, маёнткі Моладава і Парэчча на працягу стагоддзя належалі роду Агінскіх. Але Агінскія наварочваліся ў сваю абладу толькі час ад часу, што не дазваляла ім як след чыніць справы на месцы, і Міхал Клеафас Агінскі, вядомы музыка, кампазітар, апошні з гэтага роду ўладар моладаўскага і парэцкага маёнткаў, абцяжараны гаспадарчымі клопатамі, прадаў іх урэшце, разам з зямлёй, Сымону Скірмунту. От той Сымон, маршал Брэсцкай зямлі і павета Пінскага, пасол сейма ў Рэчы Паспалітай, будучы ў шлюбе з Елізаветай Ажэшкай, даў новую галіну генеалагічнаму дрэву Скірмунтаў.

Пятро Рамановіч, няма што з сялян, уважаючы на добрую славу і гонар моладаўскіх уладароў, грунтоўна ведаў іх радавод. Сымон умеў гаспадарыць і панавіў земляробства, пасадзіў дрэвы на пясчанай глебе і пустках, пачаў закладваць парк.

Ягоны белы палац меў адмысловыя формы. Гэта быў падоўжаны прамавугольнік у адзін паверх, пасаджаны на высокія цокальныя лёхі. Казалі, што ён адпавядаў стылю ампір.

Цяпер пад чатырохскатным дахам палаца, крытым ацынкаванай бляхай, узвышаліся каміны; з двух каміноў курыліся ледзь прыкметныя дымкі — яны раствараліся ў паветры.

Сонца хілілася на той бок палаца, яно час ад часу хавалася за шэрай, напаўпразрыстай навалаччу ў небе, і тады на прастору двара падалі і беглі кудысь кудлатыя мітуслівыя цені.

Пакінуўшы за спіной зялёны газон, Пятро ўзняўся па прыступках на тэрасу, упрыгожаную чыгуннай дэкаратыў-

най агародкай. З тэрасы быў цэнтральны ўваход. Прыхінуўшы да калон ровар, госць хвіліну пастаяў, пераводзячы дыханне: заставаўся апошні крок, каб пастукацца ў панскія дзверы, і тут ён заўжды пераадольваў сваё хваляванне.

Сцяну палаца аздаблялі барэльефныя гірлянды над вокнамі. Яны ўвасаблялі сабой кветкі, перавязаныя стужкай. Дзве пары белых калон стаялі на цэнтральным ганку. Яны падпіралі прыдашак з трохкутным шчытом, на якім былі змешчаны гербы: родавы «Дуб» Скірмунтаў і родавы «Кораб» Ажэшкаў. У гербах жылі памяць і павага да продкаў, сіла і сямейная моц.

За калонамі на сцяне, вышэй дзвярэй, быў вымураваны круглы медальён з ініцыяламі заснавальнікаў палаца.

Госць зняў з галавы лёгкі капялюш — няйначай, з пашаны да гэтага медальёна. Але не паспеў ён пацягнуць за нітку званка, як дзверы адчыніліся і перад ім паўстала пані Марыя — гаспадыня, сястра Канстанціна і Генрыка Скірмунтаў; яны жылі разам, прычым ніхто з іх не меў сваёй уласнай сям'і, што нямала дзівіла Пятра, прызвычаенага да народных і сямейных традыцый.

— Дзень добры! Які гонар: сама пані ласкава сустрэла мяне.

— Так, я была тута, — кіўнула на сені. — Я заўважыла вас у вакно... Прошу мондрага госця праходзіць далей.

У голасе важнай кабеты з прывялым і напамажаным тварам прагучала штосьці гарэзлівае і як не кплівае нават...

— Пані Марыя смяецца з мяне, называючы мондрым?

— О не, ніколькі, ніколечкі! — сумныя і адначасова жывыя вочы пажылой Скірмуцянкі ўважліва вывучалі яго, таму Пятро на момант адчуў сябе несамавіта, так, нібы не выспеў у людскасці або быў са зрэбных нітак сатканы.

— А я вам скажу, — казала далей пані Марыя. — На тым тыдні, калі вы ў нас былі, пан Канстант меў задавальненне зазначыць: «Не панскага паходжання ягоная мосць, а іншы пан яму пазайздросціць! Чаму? Далягае да ксёнжак. Сваім розумам дастае да глыбіняў жыцця і гісторыі продкаў. Мондры... Дбайна вядзе гаспадарку».

— Хвала Богу і дзякуй васпану...

— Што ж вас прывяло да нас цяпер?

— А ўсе тое ж: трывога, няпэўнасць...

— Я вас правяду ў белы салон, дзе вы пачакаеце крыху, пакуль я знайду пана Канстанта. Добжа?

— Але ж.

Яны разам прайшлі шырокім калідорам, у ім была высокая столь і сцены ў светлых танах, і на сценах віселі рогі ласёў і аленяў, а ў кутку стаяў прыгожы куфар, завезены сюды разам з іншай мэбляй з Італіі. Дзверы з правага боку вялі ў сталовую залу, дзе стаяў вялікі дубовы стол, упрыгожаны разьбой, ды адпаведныя таму буфеты з дуба. Яны павярнулі налева і праз колькі крокаў адчынілі шыкоўныя дзверы з барэльефам на лакаваных панэлях, з разьбой і пазалотай, увайшлі ў вялікую залу, дзе светла-крэмавыя сцены ўвенчваліся купалам столі. Святло траппляла сюды цераз чатыры вакны і залівала ўсю пакаёвую прастору. У гэтай зале было трое дзвярэй, з якіх адны выводзілі на садовую тэрасу, другія — у бібліятэку. Яны павярнулі зноў налева, да трэціх дзвярэй, і, расчыніўшы іх, пані паказала на крэсла:

— Прошу, адпачніце...

Тут, у белым пакоі, як і ў іншых, Пятру ўжо даводзілася бываць. Два вакны, паркетная падлога, камін, бронзавая люстра з крыштальным абажурам, пісьмовы стол, вялікае люстэрка між вокнамі ў пазалочанай ракакокавай, так пан казаў, аправе. Цераз калідор сюды даносілася ціхая і журлівая музыка, удавала, што хтось самотны іграе на піяніна, мажліва — пан Генрык.

Уважаючы на ўтульную з пазалотай прастору пакоя, Пятро падумаў, што і гэтаму бляску пагражае вайна. Вайна пагражае палацу, як і Пятровай сядзібе, як і ўсяму свету, бо ніхто і нішто ад яе не застрахуецца.

Як мала значыць цяпер чалавек — ці то мужык, ці пан! Прыкладам — тая сусветная вайна, калі ўсё гарэла, бурылася, і немцы вывезлі з Парэчча ў Германію абсталяванне суконнай фабрыкі; усё, што было там, панішчылі, і больш не адрадзілася вытворчасць сукна, а яно ж на розных усерасейскіх і сусветных выставах неаднойчы атрымлівала сярэбраныя ды залатыя медалі.

Невядома чаму, але настрой, з якім Пятро ехаў сюды, пачаў псавацца; унутраны голас падказваў яму, што ў гэтай, адрэзанай ад свету глухамані, паны ведаюць мала чаго больш ад яго, што на Парыпава бачанне свету ўглыб, дакладней, на ягоныя прадказанні яны не здатныя, дарма што пан Канстанцін, або Канстант, як яго клічуць у гэтым бу-

дынку, — былы дыпламат і паплечнік Пілсудскага. Ды вось і ён сам падкаціў на калясцы, — прыслуга адчыняла яму дзверы.

— Вітаю госця!

Збянтэжаны госць паспяшаўся насустрач, каб паціснуць працягнутую яму руку, мяккую і, тым не менш, энергічную.

Пятро ведаў, што ў пана пасля нейкай хваробы заставалася анямелай нага. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, ён захаваў добрую форму, жвавасць, настрой і, каб не срэбра на галаве, ніколі б не даў яму 72 гады.

— Пані Марыя сказала, што вы край анепакоены нечым. Што здарылася?

— Уласна, нічога, і я прашу прабачэння ў пана за частыя візітаванні.

— Ну што вы, што вы! Хай гэта вас не бянтэжыць! — Вялікія шэрыя вочы спанатранага ў палітыцы чалавека праменілі прыязнасць. — А вы прыехалі якраз дарэчы, паколькі ў нас бавіць час мой стрыечны брат, а ваш прыяцель, як я разумею, Раман Скірмунт.

— Што вы кажаце! — абрадаваўся Рамановіч, хоць той Скірмунт, калі і быў ягоным прыяцелем, то чыста ўмоўна; яшчэ варта зазначыць, што з-за разыходжанняў з братам у палітычных поглядах на Беларусь і ролю Польшчы ў свеце памешчык Скірмунт з Парэчча рэдка наведваўся ў Моладава да сваёй радзіны, хоць жылі яны, лічы, побач. І от цяпер ён быў тут.

## 16

Яны прайшлі з белага салона ў вялікую залу. Пан Канстант, нязмушана і спрытна перабіраючы рукамі абадок, пры колах, вёў госця ў бібліятэку. Пятро, ідучы за ім, быў удзячны лёсу, які падараваў яму гэты выпадак.

На пане дыпламаце быў выдатны шэры з сіняватым адлівам касцюм і гальштук у тон. Усё адпавядала добраму густу, ён быў пры парадзе.

Нарэшце, новыя шыкоўныя дзверы і прасторны пакой, абсталяваны адмысловай мэбляю з чорнага дубу. Пан Канстант прапусціў госця паперадзе сябе; насустрач ім падняліся з крэслаў двое: сіваваты, моцны ў касці, жвавы мужчына з вусамі — па авале твару і вострым пранізлівым позірку з-пад цёмных броваў Пятро прызнаў у ім

Рамана Скірмунта, з якім даўней сустракаўся, а другі пан — тутэйшы — родны брат Канстанціна — Генрык, таксама ў веку, але яшчэ не страціў цёмнага колеру валасоў.

Прывіталіся і спаважна пачалі рассаджвацца. Парачанец Раман сеў у крэсла, пакрытае чырвонай крамнінай. На другое чырвонае крэсла пан Канстант паказаў госцю з Моталя. Астатнія крэслы былі пакрыты англійскім узорчатым паркалем.

— Даўно, шаноўны гаспадар, мы з табой не бачыліся, — сказаў Пятру памешчык Скірмунт. — Помню сына твайго, гожы хлопец, шляхцюком трымаўся, яго непакоіла сацыяльнае і палітычнае становішча люду паспалітага... Дзе ён цяпер?

— Гэта мой старэйшы, Барыс. Ён цяпер у войску і, напэўна, бярэ ўдзел у абароне Варшавы. Таму і баліць мая душа...

— Не абаранілі Варшаву! — з нечаканай горыччу зазначыў пан Канстант. — Я маю весткі, што ўрад пакінуў сталіцу яшчэ да яе абароны. Інакш кажучы, ганебна рэтыраваўся, і гэта быў нядобры знак. — Ён з горыччу ўздыхнуў: — Прападзе польскі люд без Пілсудскага!

Раман прыжмурыў вочы і тнуў кончыкамі пальцаў у стальніцу:

— Я не аспрэчваю ваяўнічасці пана Пілсудскага. Мір праху яго! Але ж хіба не ён заключыў у 34-м годзе пагадненне з Гітлерам аб мірным вырашэнні спрэчак?

— Дапусцім, ён... І, дапусцім, у сваіх разліках мы зрабілі памылку.

— А Польшчы здрадзілі не толькі Гітлер, але і іншыя яе саюзнікі — Англія, Францыя... Дзе іхнія войскі? — паставіў рубам пытанне Генрык, хоць, па сутнасці, гучала яно рытарычна.

Пятро Рамановіч з цікаўнасцю слухаў братоў. Падобныя дыялогі і сентэнцыі цяпер гучалі, бадай, па ўсёй Польшчы. Гутарку доўжыў Раман Скірмунт, ён шокаў:

— Уся справа ў тым, шо Юзэф Пілсудскі не мог не зрабіць памылкі, грунтуючыся на сваёй удаўнелай ідэімары — асобай місіі Польшчы на ўсходзе Еўропы. Я ж памятаю ягоныя планы ў 19-м годзе заваяваць Расею і стварыць максімальна шырокую федэрацыю пад гегеможніяй Польшчы, маўляў, польскі жаўнер будзе падаваць руку японскаму жаўнеру! Дык чым жа ў гэтых захопніцкіх

планах ён лепшы ад Гітлера? Я помню і тое, што ён казаў: «У так званай Беларусі будзе альбо польскасць, альбо расейскасць». Чаму, ну чаму, дазвольце спытаць, га? На тых жа падставах нехта можа сцвярджаць і, напэўна, сцвярджае, што так званая Польшча павінна быць або расейскай, або германскай. Зноў жа, чаму?.. Што, беларускі народ — не народ? Або ён не меў і не мае сваёй культуры? Не меў Вялікага Княства, дзе культура і правы былі за ўзор для ўсёй астатняй Еўропы?.. Вы паглядзіце на Вільню, сталіцу Княства, — якія выштукаваны гмахі, палацы, які парад вуліц! Панове Скірмунты! — з немалой доляй патэтыкі звярнуўся Раман да братоў. — Вы сёння польскія дзеячы, польская костка! А было ж інакш. У 16—17-м стагоддзях наш род гаварыў на той мове, на якой Сапега пісаў Статут Вялікага Княства Літоўскага. Пaглядзіце: чым не фатальнае супадзенне? Мова Статута — тая ж мова, якой і цяпер народ карыстаецца! На гэтай мове Янка Купала піша свае журботныя вершы. — І ён прадэкламаваў:

Невясёлая старонка
Наша Беларусь:
Людзі — Янка ды Сымонка,
Птушкі — дрозд ды гусь.

Або з таго, што мне даводзілася чытаць раней:

Праз што плачаш, мужычок?
— Праз людзей і неба.
Чаго хочаш, мужычок?
— Трохі солі, хлеба.

— Між іншым, — доўжыў размову Раман Скірмунт, — Пілсудскаму, Гітлеру ды, бадай што, і Сталіну законы не пісаныя. Але, калі ўважаць хоць на нейкую культуру і элементарную логіку, то дзе яны ў такой палітычнай заяве: у Беларусі павінна быць альбо польскасць, альбо расейскасць? Глум над светам, не болей!..

Расхваляваны Раман устаў і пачаў хадзіць між крэсламі. Канстант маўчаў, як што быў азадачаны эскападай стрыечнага брата. Падаў голас Генрык:

— Але ж я выхаваны на польскай культуры.

— Правільна! І я ўзгадаваны ў польскай культуры, але не ўважаю сябе за паляка. Я даўно ўжо казаў людзям пра гэта. Я не маю найменшай патрэбы залічваць сябе да народнасці, з якой лучыць толькі культура, тым больш навязаная сілай пры пэўных абставінах.

— Рамане! — звярнуўся да яго Канстант. — Не гарачыся, калі ласка, і не гневайся — жыццё, лічы, пражыта. І пражыта яно намі па-рознаму. Што зробіш?

— Костусь, усё гэта так. Але ж мы селі за гэты стол, каб асэнсаваць шо-колечы. Ты служыў рэжыму, які бачыў сваю асобую місію на ўсходзе ў тым, каб каланізаваць народы, і ў першую чаргу нас, беларусаў, ды распаўсюджваць польскасць. Царызм таксама бачыў свае вялікадзяржаўныя інтарэсы ў тым, каб душыць палякаў, беларусаў, украінцаў, пазбаўляючы іх найперш роднай мовы. Губернатар паняволенага краю Мураўёў, як і Пілсудскі потым, выразна ўяўляў сабе гэта: «То, что не доделал здесь русский штык, доделает русская школа». Вось таму мы, тутэйшыя, і ўзгадаваны ў польскай культуры, а іншыя — у рускай. Таму палякі і ўпусцілі шанц дамовіцца з Савецкай Расеяй аб супольнай абароне перад пагрозай фашызму. А Гітлер тым часам узяў у Сталіна індульгенцыю на адпушчэнне грахоў.

На стале ў цёмных бутэльках стаяла чырвонае віно, побач — невялікія празрыстыя шклянкі з крышталю. Стаяла таксама кава ў кафейніку і белыя кубкі на сподачках. На талерках ляжаў парэзаны сыр і асобна — пячэнне, бісквіты...

Раман падышоў да стала, наліў сабе ў шклянку віна і тым самым як бы падаў прыклад іншым.

— За правы і свабоднае развіццё для кожнага народа! Няхай згінуць каланісты і дыктатары, не пра нас будзь сказана!

Костусь пачуваў сябе ніякавата ад бунтарскага імпэту Рамана, але палічыў за лепшае паквітацца з ім жартам. Ён, праўда, перш звярнуўся да селяніна Пятра:

— Гаспадар Пятро, як гэта ў вас, мужыкоў, гавораць? Госць... А-а, вось: госць — не костка, за вароты не выкінеш!

Раман кінуў яму з іранічнай усмешкай:

— Дзякуй...

— Аднак, — сказаў ён, — нам добра было б паслухаць, што носіць у думках гаспадар Пятро. Моталь большы за Моладава і Парэчча, а дзе больш людзей, там, пэўна, і розуму болей. Так ці не?

— А я вем? — усміхнуўся ў вусы мудры моталец. — Я мог бы ў Бога спытаць — дык хадзіць далёка, але ж ...

Чырвоныя промні сонца, прабіваючыся скрозь вершаліны дрэў у садзе, падалі сюды і асвятлялі сваім неспакой-

ным святлом твары дыскутантаў. Пятро Рамановіч ацаніў пытанне, якое, на першы погляд, было вельмі простае, а на самой справе ўяўляла сабой загадку або задачку на кемлівасць. Паны з датклівай цікаўнасцю чакалі ад яго адказу. І, усцешаны іх ўвагай, Пятро паспрабаваў давесці ім свае думкі.

— За два тыдні, як пачалася вайна, насельніцтва ў нас прырасло. За кошт польскіх уцекачоў, найперш, яўрэяў. Ва ўправе зарэгістравана ўжо каля паўтары тысячы бежанцаў. От толькі наконт розуму ў грамадзе — няма на яго попыту. Дзіва што, светам правяць разлік і грубая сіла. Я думаў пра гэта, асабліва пасля гутаркі з купцом Мэндалем, уцекачом з-пад Хелма, — і Пятро ўсміхнуўся нейкім сваім успамінам...

— Мы слухаем, — нагадаў Раман.

— Гутарка была — так бы мовіць, без клею, за шыхаваным сталом. Мэндаль, як, зрэшты, і пан Костусь, чытаў «Майн кампф», і з ім цікава было абмеркаваць прэтэнзіі Гітлера. Яны вам добра вядомы: яўрэі ў свеце — найпершае зло, яны прыбіраюць да рук ключавыя пасады, яны прынеслі ў грамадства аблудлівы камуністычны рэжым і правяць баль у Расеі. Яны наважваюцца абрабаваць да споднікаў увесь свет... Таму Гітлер, як тое і належыць высакароднаму арыйцу, абрынуў на іх свой справядлівы гнеў, ён, чуеце, абараняе ад юда-камунізму свой народ і іншыя народы... Я проста аслупянеў, слухаючы Мэндаля, — прызнаваўся Пятро. — Няўжо, думаю, гэта і сапраўды так? Няўжо Гітлер з-за яўрэяў распачаў вайну?..

— Пытанне няпростае, — зазначыў у роздуме Раман Скірмунт. — З гэтым выбраным боскім народам, канешне, могуць быць праблемы скрозь, дзе ён, як пырэй, распаўсюджваецца. Толькі ж з яго асяроддзя выйшлі таксама выдатныя дзеячы асветы, культуры. У свой час я, напрыклад, захапляўся чаруюча дзіўнай прозай Змітрака Бядулі, які друкаваўся ў «Нашай ніве». Цікава, аднак, што мусіў сказаць табе, чалавеча, купец Мэндаль?

— Ён усё разумее, але што можа змяніць ардынарная яўрэйская душа? Мяркуе, што не столькі ў іх прычына, бо з кнігі відаць: Гітлеру патрэбны новыя тэрыторыі, якіх у яўрэяў няма. Яны ж самі іх шукаюць.

— Але ж, але ж... — дыпламат Канстант падаўся з каляскай да кніжнай паліцы. — У дыктатараў, заваёўнікаў — свая псіхалогія. Яе адметнасць у тым, што яны вызва-

ляюць сябе ад маральных абавязкаў перад чалавечай супольнасцю. Ім нібы ўсё дазволена Богам. Толькі ж не Бог, а нейкая іншая сіла кіруе іхнімі памкненнямі. Не выключана, што гэтая сіла ўплывала і на Пілсудскага, заснавальніка новай, незалежнай Польшчы, калі ён марыў, уласна, пра імперыю. Што тычыцца яўрэяў, паяднаных Вайцманам, а гэта сіяністы, то ў іх свае высілкі на экспансію, на закабаленне і падпарадкаванне сабе народаў. Яны рассыпаны геаграфічна, але Талмуд у іх за правадыра. Талмуд для іх — само сумленне. І ў гэтым таямнічасць і складанасць сітуацыі з іхняй экспансіяй. У мяне тут у адной ксёнжцы ёсць выказванні пісьменніка Вільгельма Мара, дарэчы, суайчынніка Гітлера, які жыў раней. Ён у нечым, кажуць, падобны да расейскага рэвалюцыянера-народніка Бакуніна. Мар, мусібыць, першым убачыў, хто стаіць каля стырна рэвалюцыйнага пралетарскага руху, хто арганізоўвае і накіроўвае яго, чые інтарэсы на самой справе адстойваюцца дагматам, дзе не павінна быць ані ўласнікаў, ані сямейных ці нацыянальных межаў... Панове, я вам зачытаю.

У гэты момант Генрык Скірмунт устаў і ціха выйшаў з пакоя. Калі дзверы за ім зачыніліся, пан Костусь пахітаў галавой:

— Перажывае... Хвалюецца небарака... Вайна моцна ўдарыла па ягоных творчых планах. У Варшаве ж наважваліся ставіць оперу па напісанай ім партытуры, і ўсё раптам абрушылася. Значыць — не лёс. — І, перавёўшы дыханне: — Паслухайце аднак, што пісаў Вільгельм Мар у 1879 годзе: «Я глыбока перакананы, што прыход яўрэйскага імперыялізму — пытанне ўсяго толькі часу... Гора пераможаным!.. Для мяне сумненняў няма, што не паспеюць прайсці чатыры пакаленні, як не застанецца ніводнай пасады ў дзяржаве, уключаючы самыя высокія, якія б не былі ў руках яўрэяў».

Пры гэтых словах пан Костусь сустрэўся з зацікаўленым паглядам Пятра Рамановіча і зазначыў: — Не выключана, што і Гітлер гэта чытаў. «А цяпер, — піша Мар, — сярод еўрапейскіх дзяржаў адна толькі Расея — апошні бастыён Еўропы, і менавіта супраць яе яўрэі рыхтуюць свой канчатковы ўдар. Яўрэйскія змоўшчыкі выклічуць у Расеі рэвалюцыю, якой свет яшчэ не бачыў... Пасля таго, як Расея будзе пераможана, ім ужо не будзе чаго баяцца.

Апошні час Еўропы настане самае позняе праз сто або сто пяцьдзесят гадоў».

Пан Костусь скончыў чытаць і загарнуў старонку кнігі. Нейкі момант усе маўчалі. Пятро Рамановіч зноў прыгадаў Парыпу, і калі Парыпа прадказваў прагрэс у тэхніцы, клалася на думку, то прадказальніка Мара занесла ў абсягі палітыкі. Сваё меркаванне выказаў Раман Скірмунт:

— Хацелася б адно мець спадзеў, шо мы слухалі байкі нейкага адмысловага баечніка, да прыкладу, Мюнхаўзена. Але ж мой брат Костусь не той человек, які здольны пераказваць байкі. Га?...

— І далей пайшло як па напісанаму. Племя Майсеева ўчыніла кастрычніцкі пераварот, інспірыравала рэвалюцыю і распачало тэрор — нечуваны ў гісторыі. Я чытаў, як у Адэсе і Харкаве здзіралі з жывых скуру, а недзе абварвалі кіпенем або выраблялі Бог ведае што з палавымі органамі. І гінула ўсё святое ды самавітае... У тым браў удзел і просты люд, натраўлены, абмануты бальшавікамі. Раней, у нееўрэйскіх войнах, падобнага не назіралася.

— Яны ж разагналі і Першы Усебеларускі Кангрэс, — уздыхнуў стрыечны брат.

— У цябе, Раман, свае згадкі і свой боль, — спакойна зазначыў на гэта дыпламат Костусь і, узяўшы з паліцы нейкі новы фаліянт, доўжыў нітку размовы: — Надта паказальны тэрор супраць царквы, хрысціян увогуле. Можа чулі, ёсць ці быў там у іх найпершы гуманіст, ідэолаг, наркам асветы Анатоль Луначарскі, яго бацькоўскае прозвішча Мандэльштам. Дазвольце дакладна перадаць ягоныя словы. Іх вы не знойдзеце ў Маркса, іх можна знайсці яшчэ хіба ў Талмудзе. Дык вось: «Мы ненавідзім хрысціян. Нават лепшыя з іх павінны быць прызнаны нашымі ворагамі. Яны прапаведуюць любоў да бліжняга і спачуванне, тое, што супярэчыць нашым прынцыпам. Хрысціянская любоў замінае развіццю рэвалюцыі. Далоў любоў к бліжняму! Тое, што нам патрэбна, — нянавісць. Мы павінны ўмець ненавідзець; толькі тады мы можам перамагчы сусвет», — і, скончыўшы фразу, Костусь спытаў з падначкай у голасе: — Ну, як вам падабаецца?..

Гаспадар Пятро перахрысціўся:

— Юда! Гэта Юда... Ён і Троцкі — двурушнікі, д'яблы, носьбіты самага глумлівага, што ёсць на свеце.

Раман Скірмунт злосна соп, да яго ўспамінам вярталася пражытае дваццаць гадоў таму.

— Каб толькі гэтыя двое, — нарэшце сцішана прамовіў ён. — Костусь валодае статыстыкай, і гэта — жах! Той Мар — вялікі правідца!

— А я нагадаю яшчэ пра аднаго прарока, — падаў гаспадар Пятро. — Калі вы, пане Раман, былі ў Расеі, маглі чуць пра манаха Авеля...

— Авель?.. Так, — кіўнуў Раман, — адзін час у Дзяржаўнай Думе шмат гаварылі пра чалавека, які ў даўніну даўнюю прадказаў лёс цару Паўлу I і кожнаму з ягоных пераемнікаў, у тым ліку Екацярыне II... І ўсё спраўджвалася. Даведаўшыся, аднак, пра акалічнасці сваёй смерці, Екацярына пасадзіла вешчуна Авеля, ураджэнца Васіля Васільева з Тульскай губерніі, у Шлісельбургскую крэпасць...

— То Авель больш чым за стагоддзе наперад прадказаў рэвалюцыю ў Расеі! — не ўтрымаўся, каб не выгукнуць Пятро Рамановіч.

— Але ж... І гэта ашаламляльна! Уявіць немагчыма, як глыбока можа сягнуць дух чалавека, — зазначыў Раман.

Утварылася шматзначная паўза, і пераканаўшыся, што яго слухаюць, Пятро Рамановіч доўжыў:

— Да мяне ў Паволжжа, калі я жыў там, прыязджаў брат Нічыпар, дыпламаваны юрыст... Не ведаю, з якіх крыніц ён дастаў, але паказваў мне паперу са словамі Авеля наконт рэвалюцыі. Я перакажу.

— Проша пане! — падахвоціў яго пан Костусь.

— Дык вось... Пачынаецца, як і ў прароцтвах Парыпы: «Вайна будзе, вялікая вайна, сусветная. Па паветры людзі, як птушкі, лятаць будуць, пад вадою, як рыбы, плаваць, смуроднаю сераю адзін аднаго нішчыць пачнуць... Рухне трон царскі, а здрада будзе расці і памнажацца... Мужык з сякераю возьме ўладу ў шаленстве, але і сам потым расплачацца. Наступіць сапраўдная кара егіпецкая. Кроў і слёзы натоляць зямлю. Брат на брата ўздымецца». І далей: агонь, меч, нашэсце чужынцаў, і ўнутранні вораг, улада бязбожная. «Будзе жыд скарпіёнам бічаваць Зямлю Рускую, рабаваць святыні яе, зачыняць Цэрквы Божыя, караць лепшых людзей рускіх». — Пятро скончыў пераказ. — Усё дакладна натарочана, як і пра цара Мікалая II...

— Фенаменальна! — ацаніў паведамленне і пан Костусь ды ўзяўся доўжыць нітку размовы: — На Захадзе з даверам паставіліся да ўспамінаў расейскага эмігранта

князя Мікалая Жэвахава. Што ўражвае: у зверскім, інквізітарскім, д'ябальскім здзеку нярэдка бралі ўдзел і жанчыны-яўрэйкі. Таму я лічу абгрунтаванымі і правільнымі словы Жэвахава, калі ён, падсумоўваючы ўсю гэту патарачу і гнюсь, піша: «З якіх бы мы пунктаў погляду ні разглядалі пададзеныя жахі, яны заўсёды будуць здавацца бязглуздзіцай... Іх здольна вытлумачыць толькі ідэя ахвяравання яўрэйскаму богу, выкананне патрабаванняў Яхве».

На момант у замружаным рухамі ценяў пакоі ўсталявалася цішыня.

Яе зноў перарваў пан Костусь:

— Прайшло дзве з паловай тысячы гадоў, як у Вавілонскім палоне іудзейскія кніжнікі стварылі «шэдэўр», і на Талмудзе пачаў фармавацца тып вечнага жыда. Яўрэі памяшаліся на сваёй выключнасці. Талмудызм папсаваў душу народа, у якога, мажліва, былі ўжо пэўныя задаткі да гэтага. Але ж... З фактам павінен быў лічыцца і польскі ўрад, прыняўшы абмежаванні ў правах для гэтай катэгорыі грамадзян. Толькі яўрэйская тэма ні ў якіх іншых варунках не прысутнічала ў польскай палітыцы, якую я меў гонар праводзіць, — патлумачыў брат-дыпламат. — Тым не менш, яна існуе і пульсуе пачашчаным пульсам у жыцці. Гітлер узняў яе да ўзроўню дактрыны. Мяркуючы па ўсім, ён заўзяты ігрок і спрабуе даць фору нават ідалу Яхве.

— Шаноўныя панове, даруйце, але мяне непакоіць іншае, — шчыра прызнаўся гаспадар Рамановіч. — У мяне з'явілася прадчуванне... Як бы вам давесці? Апошнім часам за мной сочыць нейкае чужое, варожае вока. Не дзівіцеся... Пасля гаманы з Мэндалем і іншымі мотальскімі яўрэямі пра вайну — кашмары ў сне проста не даюць спакою: то дрэва валіцца на мяне, то нейкі д'ябал, падобны на Сталіна, наважваецца спаліць жывым. Не тут бы мовіць пра гэта. Адсюль, аднак, пытанне бліжэйшых дзён. Польшча не ўтрымаецца, гэта ўжо зразумела. Немец прыйдзе сюды. Таму, што гэта ў Гітлера і Сталіна за дружба, калі адзін дазваляе другому падцягваць танкі да самай мяжы?

Вечаровая смуга ўжо ўбіралася ў сілу, але пан Костусь трываў і не клікаў прыслугу, каб запаліла свечкі. Аціхлы і прытоены ў суцемках белы палац зноў поўніла срэбная

музыка, яна жвірчэла і пераліваласяна сярэдніх актавах ды снавалася ў элегічны твор.

— Як дыпламат я ведаю, што ў палітыцы логіку цяжка шукаць. Тым не менш яе пастаянна шукаюць. Таму ўвесь свет цяпер збіты з панталыку пактам Молатава — Рыбентропа, заключаным тры тыдні таму. Я ведаю і тое, што пры заключэнні падобных пактаў нярэдка агаворваюцца асобыя ўмовы бакоў. Якія яны?.. Уявіце сабе шахматную дошку, за якую селі Сталін і Гітлер. У іншых краінах сядзяць назіральнікі... Гітлер робіць на Польшчы першыя хады. Што далей будзе?..

У бібліятэчны пакой, дзе яны сядзелі за кавай, асцярожна ўвайшла танклявая, з адкрытым энергічным тварам дзяўчына.

— Пане Канстант, — звярнулася яна, — калі хочаце, я запалю вам настольную лямпу. А можа — камін?

— Дзякуй, але толькі не варта. Мы пярэйдзем у сталовую...

Гамонячы, усталі з месцаў, і Пятро Рамановіч яшчэ раз кінуў вокам па пакоі, дзе неаднойчы бываў. У кутку стаяў такі ж, як і ў калідоры, куфар, набыты ў Італіі. У ім захоўваліся розныя гістарычныя, пераважна родавыя дакументы, якія аднойчы паны Генрык і Костусь паказвалі яму. Лініі розных прадметаў і карцін, якіх шмат вісела па сценах, скрадваліся паўзмрокам. Блізка кніжнай паліцы, на століку ляжала бясцэнным скарбам «настольная кніжка» Элізы Ажэшка. Гэта быў альбом з вершамі, цытатамі з розных крыніц, афарызмамі яе ўласнымі, выслоўямі іншых асоб, якія пашанотна яна ўпісала сюды. Вокладка альбома вабіла вока зялёнай скурай з пазалотай. Пад вокладкай — яе ўласнаручны надпіс. Гэту кнігу найвыдатная польская пісьменніца завяшчала Канстанту Скірмунту незадоўга да сваёй смерці. Яна неаднойчы бывала ў гэтым палацы і ў гэтай бібліятэцы. Зрэшты, не толькі яна. Яшчэ за маладымі гадамі братоў Канстанціна і Генрыка ў гэтых белых сценах палаца гасцяваў іншы слынны дзеяч паняволенага краю — Напалеон Орда, кампазітар, майстар выдатных графічных малюнкаў.

Светлы сум, непакой і горыч за нешта супольнае, блізкае, што было і не атрымала далейшага свайго развіцця або зусім страчана, напоўнілі сэрца Пятра.

Яны выйшлі ў сені, калі музычны матыў, што мякка сачыўся з кабінета Генрыка, змяніўся, ператвараючыся ў

наплыў ціхай журбы і пяшчоты, стаў міламжальным ды загучаў адкрыта, моцна і чыста. Генрык выконваў паланез Агінскага.

Пятро ехаў з палаца сам не свой — зачараваны, захоплены ўзвышальным светам людскасці ды мастацтва, мастацтва і людскасці. Ён адмовіўся вячэраць разам з панамі, бо час быў позні і выпадала ехаць упоцемкі. Скірмунты правялі яго на ганак з калонамі — пан Канстанцін узяў удзел у праводзінах, відаць, дзеля прагулкі. Развіталіся. Раман Скірмунт моцна сціснуў Пятрову руку і, упіраючыся скрушлівым позіркам у прадонне ягоных вачэй, мовіў:

— Не вядома, гаспадар Пятро, калі Бог дасць нам яшчэ сустрэцца, таму, уважаючы на тваю беларускасць, скажу. Няхай твой сын акажацца жывым і здаровым! І няхай твае дзеці і ўнукі не пройцуць абыякавымі па Бацькаўшчыне. Гонар і дух продкаў абавязваюць з'яднаць, аднавіць, адрадзіць літвінскі край беларусаў. Павек вякоў!

Дыпламат Канстанцін, седзячы ў калясцы, слухаў зычэнне стрыечнага брата з паважнай усмешкай, трохі паблажлівай і вясёлай.

— Добрым часам, пане-браце!

— Давідзэння!..

## 17

У Моталь прыйшлі неўзабаве не немцы, якіх усе баяліся, а расейцы, так іх звалі, дакладней — прыйшла Чырвоная Армія.

І здарылася гэта 21 верасня. Людская грамада захлынулася ад наплыву самых розных пачуццяў. Праўда, той асноўнай падзеі ў мястэчку папярэднічалі іншыя, што ніталіся між сабой. Як толькі сюды данеслася вестка, што Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу і пачала свой вызваленчы паход па землях Заходняй Беларусі, раніцай наступнага дня, гэта значыць 18 верасня, Андрэй Райкевіч,адзін з найбольш выпрабаваных лідэраў камуністычнага падполля, выкаціў свой ровар, узяў у рукі чырвоны флаг і, размахваючы ім, паехаў па вуліцах Моталя.

— Шаноўныя грамадзяне! Суайчыннікі, таварышы, браткі-беларусы! — выракаў ён, абмацваючы кожнае слова, шукаючы якое лацвей: — Да нас ідзе воля! Яе нясё

нам Чырвоная Армія. Канец панаванню, прымусу і здзеку! Няхай жыве адзіная і вольная Беларусь!

— Шаноўныя грамадзяне! — на новым адрэзку вуліцы выгукваў ён амаль тое ж. — З нас доўга і зацята вымотвалі душу, выбівалі дух, які мы пераняні ад продкаў. Выбаўлялі веры і мовы. Зневажалі і катавалі... Але дарэмна! Парвем ланцугі, зруйнуем турмы! Сонца шле нам свае промні з усходу...

Багата хто з местачкоўцаў выходзіў насустрач вестуну і слухаў і радаваўся, багата хто далучаўся да яго ды ішоў следам за флагам, у выніку ўтварылася ўрачыстая, можна сказаць, і выбуховая ў пэўнай меры працэсія.

Маня заўважыла натоўп местачкоўцаў, седзячы на яблыні, куды забралася, каб дастаць вялікія, налітыя шафраннай чырванню шлапакі, што ўсё яшчэ віселі на вецці і спакушалі дзіцячае вока. Яна кульмігам кінулася ўніз, на зямлю, і падворкам — на стайню, дзе даглядаў коней дзед: — Дзедусь, а дзедусь, ідзі паглядзі!

Чынны гаспадар Пятро Рамановіч выйшаў за веснічкі. Ён, пэўна, адчуваў хваляванне, бо яшчэ ўчора шэльма Абко прынёс яму навіну аб накаце войска з усходу, што, на яго цвярозы розум, магло карэнным чынам паўплываць на лад жыцця, да якога ён прызвычаіўся. І вось як падцвярджэнне — абвестка з вуснаў Райкевіча, чалавека, які быў прыяцелем яго сына Барыса.

— Браткі беларусы! Ідзе Чырвоная Армія! Ідзе прасветлая гадзіна! Яе нам ужо нядоўга чакаць. Цяпер наш ганаровы абавязак — абясшкодзіць панскіх прыхвастняў і сатрапаў!..

Каля Пісарчуковага дома ён прыпыніўся:

— Дзядзька Пятро, якія чуткі адтуль?..

— Няма чутак. Ад Барыса ніц нема.

— Шкада... Шкада, што сёння яго няма з намі!

— Што зробіш...

Працэсія рушыла далей, і тут з яе вылучыўся, ступіўшы колькі крокаў убок, невысокі чалавек з перавязанай рукой. Чарнявы, схудалы, ён быў у паношаным адзенні польскага жаўнера. Пісарчук здзіўлена глядзеў, як той крок за крокам набліжаецца да яго.

— Дзень добры спадару! Калі будзе ласка паслухаць, я маю вам штосьці сказаць, — пачаў ён, пераадольваючы пэўную нервовасць сваю.

— Кажы, ягамосць-ваяр, толькі праўду, — падбадзёрыў яго ўсмешкай дзед.

— Я вярнуўся адтуль, дзе грымоты, пажар... Мы былі разам з Барысам, служылі ў адным палку, стрымлівалі націск немцаў на Варшаву. Даруйце, пры адступленні я бачыў яго... Ён ляжаў... мёртвы... пад кустом вербалозу.

— Т-сс! — прыклаўшы палец да вуснаў, цыкнуў на яго дзед Пятро і адвёў далей ад Мані і Аксінні, якія стаялі непадалёку і слухалі; дармо, перасцярога дзеда была запозненай.

— Ён ляжаў мёртвы...

— Ой! Людцы родныя! — выгукнула Аксіння і, спатыкаючыся, кінулася ў хату, мо каб даць волю пачуццям і выплакацца, а Маня стаяла разгубленая, не ведаючы, як можна паверыць у такое няшчасце.

Дзед Пятро мусіць ад той жа разгубленасці, казаў штось не ў лад пра вайну і распытваў у былога жаўнера, чый ён, бо нешта не мог прызнаць яго сярод маталянаў, і ўдакладняў мясціну, дзе быў той апошні для Барыса бой.

Авалодаўшы сабой, Маня кінулася ў двор — шукаць маці. У яе было адчуванне, што ў мястэчковае жыццё раптоўна ўварвалася віхура і робіць нейкі свой заварот, заціхае жыццю, нездарма ж у школе часова адмянілі заняткі, як што настаўнікі пахаваліся, а некаторыя з іх нават паўцякалі ў Яноў. Туды ж далі цягу і паліцаі з мотальскага пастарунка.

Пра віхуру Мані нагадваў акурат і небывалы людскі ход, арганізаваны камуністамі. Калі калона выйшла на плошчу, свой чырвоны палымяны флаг Андрэй Райкевіч замацаваў на будынку апусцелага паліцэйскага пастарунка. Людскі галас, воклічы, смех — усё гэта надавала адметнасць святу.

Камуністы і камсамольцы — апошніх узначальваў Данік Плюнгер — арганізавалі ўзброеную групу самаахові і аператыўных дзеянняў. Хлопцы як бачыш раззброілі польскіх асаднікаў і ляснічых, праўда, тых было не багата, і, поўныя натхнення, яны пачалі шукаць, дзе б яшчэ прымяніць свае сілы і ваенную вывучку.

Неспакойны зрок сяброў гэтай і іншых рызыкоўных груповак найчасцей спыняўся на мястэчковых палякаў, якіх прымалі за чужынцаў, а яшчэ на яўрэях, уцёкшых з Польшчы, звычайна багатых, напалоханых і безабаронных. Да іх нахабна прыклейваліся, прыставалі ды розным манерам адцінялі дабро.

З гэтага дня, бадай, і пакінулі мястэчка Моталь спакой, калі ён яшчэ ў каго заставаўся, лад у думках, калі пэўныя думкі былі... Доўгія гады прыціску, несправядлівасці, здзеку, які чынілі польскія ўлады з тутэйшага люду, спарадзілі багата ў каго прагу да помсты, а сёй-той проста браў прыклад з ліхадзеяў. Ну хіба мог Данік Плюнгер, скажам, мець лагоду ў душы, умеркаваны розум, спакойны характар, калі, з-за ягонага камуністычнага імпэту жандары раз за разам успорвалі страху ў бацькоўскай хаце і глуміліся над іхнім набыткам? Дайшло да таго, што бацькі афіцыйна мусілі адмовіцца ад сына, гэта значыць, ад яго, Даніка... І не давядзі Божа каму перажыць такое. Не, не, ён, бадай, адплоціць свету і, найперш, панам за ўсе свае крыўды.

Так і іншыя. Цяпер кожны з пакрыўджаных і абражаных хацеў паказаць сваю сілу.

Дачуўшыся, што ў маёнтку Скірмунтаў у Моладаве сабралася шмат паліцыянтаў і іншых класава чужацкіх і сумніцельных элементаў з вясковага наваколля, мотальскія рэвалюцыянеры на чале з Плюнгерам паспяшаліся туды. Аднак высокія і тоўстыя сцены агароджы з бітым шклом наверсе рабілі маёнтак крэпасцю, а ў пэўнай меры — і пасткаю для палякаў. Разгневаныя асадай паліцыянты схапілі і замучылі Алеся Дзямковіча, парламянцёра, пасланага туды для перамоў. У перастрэлцы загінуў яшчэ адзін з апалчэнцаў — Герась Кузюр... Іх жа кроў — як тое масла ў агонь.

Таму, калі ноччу варожы хаўрус пакінуў маёнтак і рушыў у напрамку Янова, камуністычнае, так бы мовіць, апалчэнне ўварвалася ў панскія харомы і ўчыніла расправу над прыслугай, палічыўшы, пэўна, па нейкіх заломах класавай думкі, што прыслуга таксама мае віну перад камуністычным светам. Знайшлі і паноў — Генрыка Скірмунта і ягоную сястру Марыю, іх вывелі за сцены маёнтка і расстралялі. Толькі ўшанаванаму польскімі ўладамі дыпламату Канстанту Скірмунту ўдалося ўцячы разам з узброеным атрадам.

Выканаўцы гэтага рэвалюцыйнага акта не пакінулі для нашчадкаў сваіх візітовак. Фактам, аднак, застаецца тое, што ў карных экспедыцыях не ўдзельнічалі ні Андрэй Райкевіч, ні Ян Мацукевіч. Чаму? Прынцыпова пазбягалі самасуда?.. Невядома.

Цяпер кожын дзень прыносіў у дом Пісарчукоў жахлівыя і жудасныя весці, прымушаючыя трымцець і як не

ламацца самыя тонкія пачуцці ў душах што дарослых, што дзяцей, прычым, ніяк нельга было ад іх, тых навін, засцерагчыся — не было апірышча ў разняволенай грамадзе. У спадарстве, у людскім мурашніку не дзейнічалі больш ні закон, ні права, а камуністычная мараль, якую разам з тэрорам неслі мясцовыя ідэйныя хаўруснікі, здавалася даволі такі дзіўнай і дзікай.

Ты багаты?.. Мы зробім цябе бедным, бо гэта будзе адпавядаць прынцыпам роўнасці і братэрства... Ты маеш жыццё? Яно цяпер належыць нам, уладальнікам і ўладарам становішча, бо ўсталёўваецца дыктатура такіх, як мы, жабракоў, латруг, калек духам і целам. Зрэшты, цела тут ні пры чым.

Дзед Пятро і баба Аксіння часцей пачалі хадзіць у царкву і прасіць Бога пра міламжальнасць да іхняй сям'і, пра заступніцтва — Бог цяпер быў адзінай асобай, якая магла ахінуць іх сваім крылом і не дапусціць згубы, здзеку, вярнуць іхнім сэрцам спакой. А спакою ж — анізвання. І Барыс прапаў — хоць бы якая больш пэўная вестка пра яго. Дзе ён зложыў сваю галаву? І ці пахаваны добрымі людзьмі?

Паехаць туды, на месца бою, Пятру не ўяўлялася магчымым, бо там, за Гітлерам, невядома, якія парадкі. Ніхто не замінаў яму адно маліцца. І Маня таксама малілася, і яна прасіла Бога за бацьку, дабрадзея, які штодня частаваў яе цукеркамі з сакрэтам і быў яе гонарам. Аднойчы, калі дзед Пятро зайшоў у іхні пакой, дзяўчынка стаяла на каленцах перад абразом святой Марыі, маці Ісуса Хрыста (абраз вісеў на сцяне) і, абліваючыся гарачымі слязьмі, прасіла: «Маці Божая, вярні мне бацьку! Я не хачу быць багатай, калі гэта грэх, я не хачу і сіроцкі хлеб есці, бо гэта ж няшчасце, вярні мне бацьку. Маці ласкі Божай, маці беззаганная, маці найчысцейшая, маці наймілейшая, вярні мне бацьку!»

Дзед прымусіў яе ўстаць з каленак, сам сеў на ўслончык і яна, рыдаючы, прыхінулася да яго.

— Не плач, краска, — суцяшаў ён унучку. — На вайне ўсялякае бывае. Надараецца, што забіты паляжыць-паляжыць і атойдзе, ачомаецца. Дасць Бог, не застанешся без бацькі!

Ад ночы, што заўсёды ахутвала ў морак усё зямное і насылала сон, Маня прачыналася рана, ёй гэта ў звычку ўвайшло. Праўда, нярэдка яе будзіла цэнтрыфуга, на якой

бабуля Аксіння адганяла вяршкі малака. У іх жыццёвым побыце з наплывам чырвоных нічога, бадай, не змянілася, подумкі ішлі і кружыліся вакол працы, таму гаспадарчыя ўдачы ў значнай меры і спатольвалі душу. Увогуле нельга было прыдумаць больш дзейсных лекаў ад нэнзы, адчаю, чым працоўны занятак.

Паддаючыся таму ж працоўнаму рытму і сваім захапленням, Маня падхоплівалася з ложка і па першых праменьчыках сонца бегла на бераг, што самахоць скочваўся ў возера. На ім, зялёным і росным або пакрытым інеем, збірала ў прыпол гусінае пер'е. Больш ніхто, апроч яе, бадай, гэтакім глупствам не займаўся, нават дзеці з бяднейшых сем'яў не здагадваліся, чаго гэта варта. Яны не ведалі, бадай, якая росная радасць — збіраць гусіныя пярынкі, цудоўныя, бялюткія, нібы накрухмаленыя, вялікія і малыя... Скарб і скарб, рассыпаны навідавоку. Бо калі іх сабраць і дома паабдзіраць як след, то пухам можна панабіваць падушкі, на якіх добра спіцца.

Яна кружыла па лузе, які з надыходам восені ўжо трохі збуцвеў, таму па зялёным пайшоў жаўтавата-буры колер, і на гэтакім фоне яе вочы не адразу распазналі руку... Так, з зямлі тырчала чалавечая рука... І ад жаху захаланула яе сэрцайка. Яна зрабіла крок убок і, не помнячы сябе, закрычала. Крык вярнуў цяпло яе целу і напалохаў гусей, якія купкамі выходзілі з падворкаў на луг. Гусі разам загагаталі, а Маня, чапляючыся за грудкі і рыдаючы, абліваючыся чыстымі-найчыстымі слязьмі, подбегам — дадому.

— Мама!.. Дзедусь... Ой-ё-ёй!..

Што на тым лузе было? Мужыкі, узяўшы рыдлёўкі, раскапалі і дасталі з зямлі юнака, казалі, з ліку мотальскіх шчэльцаў. Напэўна, за шчэлецкія забавы ў палітычным процістаянні яму і памсціліся.

Знясіленая, сцішаная, самотная ў недзіцячых сваіх разважаннях, Маня грэлася на цёплай ляжанцы, калі на дзедавай палавіне хаты загучаў чужы голас, неспакойны, напорысты. Аднойчы яна ўжо чула яго:

— Псямаць, пане... Даруй, гаспадар Пісарчук. У жахлівы час мне спадобілася патрапіць да вас у Моталь — польскі дах абрынуўся!.. Польскі дах...

Маня саскочыла з ляжанкі — цікаўнасць узяла верх над стомай і ўсімі яе страхалюднымі пачуццямі, прывяла яе ў трапяткі стан. Зазірнула праз дзверы да дзеда, балазе

дзверы ніяк не рыпелі. Так і ёсць, на канапе ў сталовай — ягамосць Клямка, руды, як падпалены корч; ён заўжды з дзедам лагодзіў гандлёвыя справы.

— Дах быў моцны, ды падпоркі слабыя! — зазначыў гаспадар дома, уважаючы на словы Клямкі.

Голас дзеда гучаў годна, а разам з тым і квола, журботна:

— Толькі ж ці варта было панам гарод гарадзіць?..

— Вы разумны чалавек, спадар Пісарчук. Але чаму я тут? У Пінску фарысеі рыхтуюць падпоркі для новага даху і стварылі ўжо рабочую гвардыю, чуеце. Такім чынам дарога цераз Пінск для мяне перакрыта, таму я, псямаць, на ноч гледзячы, і паехаў гэтым шляхам — на Яноў. А заадно ж выпадае і грошыкі Вам перадаць, вось яны — рэшта, што вінен. Бярыце, гаспадар Пісарчук і не памінайце ліхам!

— Дзякуй, пане дабрадзей. Аднак гвардзейцаў, з дазволу сказаць, і тут хапае. Таму не спяшайцеся, вам лепей ехаць пад раніцу.

— Я меркаваў, што мой ад'езд палагодзіць ваш сын Барыс, сацыяліст... Ён дома?

Момант гнятлівай цішыні...

— Барыса няма... Загінуў, абараняючы ад фашыстаў Варшаву. А ўвогуле я не ведаю, кім ён паміраў — сацыялістам або не сацыялістам.

— Матка Боска! Няхай пухам яму зямля будзе! Цяпер, уласна, на Польшчу спадзеву няма, у краіне гаспадараць чужынцы. І куды мне папхнуцца?

— Там чужынцы, а ў нас, пад час безуладдзя, свае ліхадзеі чыняць расправы, зводзяць рахункі, — асабліва шчыруюць маладзейшыя, скажам так, падкамуністыя ацяробкі. Выразаюць і катуюць шчэльцаў... Чысты разбой! Можа, у Парэччы цішэй?

— Што вы! — усклікнуў купец і, пэўна, хапіўся за галаў, бо злёгку зарыпела пад ім канапа. — Які жах, які жах і здзек над сумленнем! Забілі ж Рамана Скірмунта...

— І яго?! Ай-я-яй! Госпадзі, ушануй і дай спачын душы яго! А ў Моладаве Генрыка адправілі на той свет.

І зноў — момант цішыні, і Маня ўявіла, як дзед хрысціцца і чыніць малітву дзеля спакою душы знаёмага, добрага, больш за тое — знакамітага чалавека, які жыў у Парэччы. Маня чула ад бацькі пра таго памешчыка. І тут жа, беручы пад увагу словы пра глум і здзек, прыгадала не-

жывую руку, што тырчала з зямлі на лузе. Прыгадала таксама жахлівую пагалоску, якая хадзіла сярод дзяцей пра тое, што маладых хлопцаў са шчэлецкім накропам камуністы лавілі і вывозілі за яўрэйскі могільнік пад Асаўніцу. Там яны сякерай адсякалі ім рукі, нажамі адразалі насы, вушы, языкі і іншыя органы, выколвалі вочы ды пакідалі іх у такім стане канаць.

У Мані болей сіл не ставала пра ўсё гэта слухаць. Прытупіўшыся, яе ўвага да гутаркі дзеда з напалоханым купцом Клямкам канчаткова згасла, і яна заснула.

Госць тым часам апавядаў дзеду пра падзеі ў Парэччы.

— Псямаць... Я вам скажу, шаноўны земляроб і пчаляр, шаноўны спадар Пісарчук: народ, які зводзіць пад корань такіх людзей, як Скірмунты, не заслугоўвае лепшага жыцця, чым быдлячае. Тож былі людзі, чыя культура і думкі сягалі за воблакі, але ж... Раман Скірмунт заўжды падкрэсліваў, што ён беларус, і дбаў пра сваё недалужнае племя. Даруйце, спадар Пісарчук, я не хачу абразіць вашы пачуцці... Але за Скірмунта і я абражаны. Ён меў зямлю?.. Так. Меў маёнтак?.. Вядома. Але ж той, хто ў ягоным маёнтку працаваў, адзін атрымліваў столькі, што забяспечваў усю сям'ю. Экс-плуа-татар?.. Псямаць! — Клямка сплюнуў. — Тым не менш камуністычная ячэйка, дзе нямала выблюдкаў, каб выслужыцца перад чырвонымі, бярэ і выцягвае з маёнтка Скірмунтаў — Рамана і Баляслава, апошні даводзіўся мужам Раманавай сястры Гелене... Вязуць эксплуатататараў нібыта ў Пінск, дзе іх чакаюць для перамоў... Мана, аднак. Завезлі ў каранёўскі лес і — рыдлёўкі ў рукі: «Капайце, панове, яму!..» Скірмунт ім: «Я на тое не жыў, каб сабе яму капаць».

Расправу чынілі Іван Цудзіла і Юстын Пархамчук. Цудзіла — малады, мае зямлю, але працаваць ленаваўся. Пархамчук — беззямельны. Пралетарый, значыцца?..

Баляслаў спрабаваў заступіцца за Скірмунта: «А вы ведаеце, каго на той свет рашылі адправіць? Ды ён жа, Раман — сын Аляксандра, а той — у ніжэйшым калене — сын Аляксандра таксама, дзеда Рамана, які заснаваў тут, на вашай зямлі, промыслы, суконную фабрыку, цукровы завод, адкрыў задарма школу, лякарню... Дзякуючы гэтаму роду ў Парэччы людзі паўтара стагоддзя гора не ведалі. І Раман быў для многіх у вёсцы за бацьку. А то не?» — «Маўчаць! — не вытрываў Іван Цудзіла. — Не канешне

слухаць нам контррэвалюцыйную прапаганду!» А Баляслаў яму: «Не крычы, каб не заняло табе духу! Гэты ж чалавек усе свае думкі, сэрца і душу аддаў служэнню такім, як вы, цёмным людзям, каб вывесці іх да лепшай долі. Ды гэты пан — легенда для ўсёй Беларусі!» Яны думалі, што з людзьмі гавораць. Ажно не... Адазваўся Юстын Пархамчук: «А ў Савецкай Беларусі закон такі: усіх паноў пад корань!»

Паднялі ружжы... Нешта ж мулка бальшавіцкім чынікам глядзець у вочы ахвярам, таму камандуюць: «Адвярніцеся!» А Раман Скірмунт ім: «Я ад людзей не адварочваўся ніколі і тут не буду. Я ўжо стары, мне — 75. Жыццё пражыў. А вы, паскуднікі, яшчэ маладыя, і я не раіў бы вам гэта рабіць. Вялікі грэх на душу бярэце!»

— У Цудзілы, — казаў Клямка, — рукі затрэсліся і ружжо выпала. Ён сам пра гэта вяскоўцам казаў... Псямаць. Не ўсведамляючы, асталопы ў гэтых людзях забілі тое, чаго самі не мелі і не маглі мець. Гніды! З-за іх праклён ляжа на ўсю вашу нацыю, калі яна яшчэ існуе. Але ж гэта, бадай, не мой клопат, спадар Пісарчук. Праўда? Мой клопат — лахі пад пахі ды далей адгэтуль!

І ўсё ж Пятро Рамановіч засцярог госця і выправіў яго пад раніцу, пры гэтым ён даў купцу адрас знаёмага чалавека дзесьці за Варшавай, на выпадак, калі пан Клямка па першым часе не знойдзе для сябе якога іншага прытулку.

Туды ж, пакінуўшы свой маёнтак у Зазер'і, колькі дзён таму паехаў і пан Генрык Юргенсон; ён, праўда, пабываў у палоне ў чырвоных і быў абменены ў палякаў на чырвонаармейцаў.

## 18

Вызваленчая армія наплывала на Усходнія Крэсы спакваля, расцякаючыся па ўсіх дарогах, што вялі на захад, даючы магчымасць польскаму войску адысці, ачысціць тэрыторыю Беларусі ад сваёй ляшай прысутнасці. Палякі ў бойку амаль не ўвязваліся. Тым не менш у чырвоных байцоў былі напагатове вінтоўкі і кулямёты, шаблі і штыкі, мінамёты і гарматы.

Амаль скрозь сустракалі іх хлебам-соллю і кветкамі.

У Моталі былыя падпольшчыкі дзеля сустрэчы з чырвонымі наладзілі святочную браму. Пры ўездзе ў мястэч-

ка, з пінскай стараны. А войска, рухаючыся адтуль, прашывала перш вёскі Парэчча і Моладава.

Чырвонаармейцы ішлі пеша, на фурманках жа месцілася зброя і боепрыпасы.

Гэта было невялікае падраздзяленне пераменнага асабовага складу. Інакш кажучы, байцоў тэрмінова прызвалі з запасу, адрываючы кожнага ад зямлі, станка ці варштата. Іх паставілі пад штык дзеля выканання імі найвысакароднай вызваленчай місіі. Фурманкі з коньмі былі таксама ўзяты ў сялян, аб'яднаных у калгасы, з умовай вяртання, як толькі мэта паходу будзе дасягнута.

І вось гэты «чырвоны» раўчук наплываў на Моталь. Ля брамы зайгралі, запілікалі гармонікі, дзяўчаты мелі прыветліва махаць хусцінкамі ці проста рукамі, а хлопцы, надзьмуўшы грудзі паветрам, голасна грымнулі: «Чырвонай Арміі слава! Ура!!!»

Сапраўднай радасцю, мо выпакутаванай у дзесяцігоддзях, свяціліся твары камуністаў, наперад выйшлі Ян Мацукевіч, Андрэй Райкевіч, Ілля Дубовіч, Данік Плюнгер — яны, а таксама іншыя, хто быў смелы, абняліся з камандзірам, станістым хударлявым лейтэнантам... Збоку з цікаўнасцю назіраў за гэтымі дзеямі і Пісарчукоў малодшы — Паўлюк.

Толькі не меней шчасця ад шумнай сустрэчы было і ў дзяцей, якіх круцілася тут процьма. Дзеці, а сярод іх і Маня, знайшлі, што чырвоныя байцы маюць колер зусім не чырвоны, не адпаведны таму, і што адзенне на іх запылена-шэрае, а на некаторых — з зеленаватым адценнем... Такія ж пілоткі.

Салдаты, напэўна, здарожыліся і былі стрыманыя ў выяўленні пачуццяў сваіх. Калі ж калона мінула браму і ўцягнулася ў мястэчка, адзін з чырвонаармейцаў, паджылы, сутулаваты, з іранічнай усмешкай на твары, шпурнуў ад сябе прэч букет кветак, якія ткнулі яму ў рукі жанчыны. Ад неспадзеўкі тыя жахнуліся і наперабой пачалі кпіць з мужыка. Маня ніяк не магла ўцяміць, што здарылася.

Частка фурманак з рознымі салдацкімі прыпасамі і кулямётамі размясцілася на прывал за Моталем, а астатнія былі размеркаваны па вуліцах мястэчка, адна ж спынілася якраз насупраць іхняга двара. Дзед Пятро як можна лагодней прывітаўся з гасцямі; сюды ж выйшлі і цікаў-

ны сусед Абко і іншыя суседзі. Абко, трохі пераігрываючы самога сябе ў шчырых інтанацыях, прадэкламаваў:

— Дарагія таварышы, слаўныя чырвонаармейцы, дзякуй вам, што вы вызвалілі нас ад польскага ярма!

Яму адказаў салдат, які выпрагаў коней:

— Ад ярма вызвалілі, а хамут надзенем!

Яго таварышы зарагаталі, аднак жарт атрымаўся акурат, як тыя цукеркі з сакрэтам, якія любіла Маня, у ім было штосьць нечаканае для большасці жыхароў Моталя.

Абко сумеўся і павёў галавой на сухаватай шыі ўлева-ўправа, нібы асцерагаючыся таго дакляраванага хамута.

— Хведар, няйначай, будуць праблемы, — сказаў ён другому суседу — Бушкевічу Хведару, ціхманаму і роўнаму на характар мужыку.

— Пажывем — пабачым...

— Э-во-ой! А хлопцы ж якія! — уварвалася ў гурт мужчын бойкая маладзіца — Германка: — Ці на доўга да нас?.. Го! А мо ажэнім каторага?

— Калі толькі сёння вяселле, то мы згодны!

— Пашукаем нявестаў... Скажыце, а як у вас людзі жывуць?

Салдаты адказвалі ў тым жа тоне, памагаючы адзін аднаму:

— Добра!

— Бо нічога не маюць...

— А калі нічога няма — няма і клопатаў!

— То, можа, тут, за панамі, жыццё было лепшае, га? — спытаў азадачана той жа Абко.

— Там лепей, дзядзька, дзе нас няма!

Калі гамана трохі страціла сваю вастрыню, дзед Пятро і бабуля Аксіння павялі салдатаў, як сыноў сваіх, у хату. І Маня, гордая такімі гасцямі, суправаджала і, суправаджаючы, разглядвала кожнага з іх, палівала на рукі, калі яны мыліся, дапамагала сваёй маці і бабулі накрываць стол.

Чырвонаармейцы дружна ўплятаці ежу, сала з бульбай і агуркамі, тварог са смятанай і, уважаючы на шчодрасць пачосткі, хвалілі гаспадароў:

— О, у вас тут малая Амерыка: каўбасы, залітыя шмальцам, шынка вэнджаная!..

— А яшчэ і мёд!

— А што, у калгасах у вас гэтага няма? — пацікавіўся дзед Пятро.

— У калгасах няма, а такія моцныя сяляне перавяліся.

І тут прыгадаўся Пятру Пісарчуку расказ Ладзя Палто, які колькі гадоў назад пабываў у камуністычным свеце, вярнуўся і быў рады лушпіне.

— Я не буду вас уводзіць у зман, — сказаў гаспадар. — Што маю — не хаваю. Але і ў нас не ўсе сем'і так заможна жывуць.

Салдаты заўважылі чорную хустку на галаве ў нявесткі Пятра — Ганны. У аздобе гэтай хусткі асаблівай бледнасцю вызначаўся яе твар, схудалы, але ўсё яшчэ прыгожы. Хтось з гасцей спытаў, ці не хворая яна.

— І так, і не, — быў адказ Ганны.

Нябога, яна пры гэтым ўсміхнулася, бадай, аднымі вуснамі:

— Хворая на мужа-нябожчыка...

Байцы выказалі сваё спачуванне.

Пры развітанні старшы з іх — сяржант Краўчук пажадаў гаспадару таго, што было для яго запаветным:

— Дай Бог, дзядзька Пятро, каб вас не чапалі!..

Нягледзечы на розніцу ў веку і жыццёвым вопыце ды палітычных стасунках, яны добра разумелі адзін аднаго, і, каб тыя словы сяржанта ды Богу ў вушы, яно можа і добра было б.

Селянін Пятро штодня прасіў Бога, каб ён адвёў ад яго гаспадаркі і сям'і зайздроснае вока, каб даў людзям мудрасці лічыцца з уласнасцю, як што набыта яна сваімі рукамі, сваім розумам, кемнасцю, спрытам... Прасіў Бога і пры гэтым дзівіўся, што да Усявышняга апелюе не толькі шчыры люд, аратыя, сейбіты, ай усялякія ацяробкі, хто не дбаў пра сваё і пазіраў на чужое. Усе-усе шукаюць ягонай увагі, разумення, блаславення, падтрымкі... Куды ўжо больш, калі Гітлер і той браў сабе ў памагатыя Бога, з яго імем распальваў жарсці вайны, ламаў і калечыў, забіваў і катаваў, маўляў, з намі Бог! Цьфу на гэтакую пачвару!.. Але ж чаму Бог церпіць усялякіх злыдняў?

Адчуваючы, што пры ўласнай кемлівасці яму такі не стае сіл і розуму, каб усё, што ведае, чуе і бачыць, спалучыць, упарадкаваць, Пятро аднаго разу прыцягнуў увагу святара Георгія Раздзялоўскага да гэтакіх акалічнасцей. З ім не складана было памеркавацца, балазе яны падтрымлівалі сяброўскія зносіны.

— На ўсё ёсць воля Божая, — адказаў святар завучана, сам адчуваючы нездавальненне падобным адказам, але ж і іншага тут не дадзена, бо каму яшчэ, акрамя Хрыста, да-

вялося пранікнуць у боскую канцылярыю, каб знайсці штосьці больш пэўнае. — Каму Бог даў волю ўладарыць над людзьмі, з таго і спытае. У Бібліі ж сказана: «...якою мераю мераеце, такою адмерыцца і вам».

— Ойча, я пра гэта ведаю, — засведчыў Пятро. — Але, калі меркаваць па тым жа свяшчэнным пісанні, Усявышні бласлаўляе людзей як на добрыя ўчынкі, так і на грахі. Сказана ж: «Ён добры і да няўдзячных і злых». А яшчэ: «Дабраслаўны чалавек, якому Бог не накануе граху».

У вачах айца Георгія з'явіўся агеньчык жывое думкі, і, пасмыкаўшы кудзелю сіваватай барады, ён хітра ўсміхнуўся:

— Вазьму на сябе смеласць прызнаць, што першы пастулат мудры. Іначай як бы ты прымусіў злых спавядацца? Бачыш... І не выстарчыла б святару адпускаць грахі, м-да...

— Як жа тады на зямлі могуць усталёўвацца парадак, мір, спакой, дабрачыннасць? Ці могуць быць узаемаразуменне і злагада між людзьмі, між намі і Богам? Даруй, Госпадзі, мне грэшныя думкі мае! — і ён перахрысціўся. — Не сплю я, ойча, начамі і ўсё думаю, і перад вачыма тая сухастоіна. Яна падае... А я трызню, уяўляю Барыса жывым. І ці божая то воля, каб ён загінуў ад рук ліхадзеяў, што ўздумалі напісаць на сваіх штандарах: «З намі Бог!» Прабач, Божа, і пакарай брыдоту! Як жа можна?

— Усё ў яго волі, браце Пятро. Маліся, прасі ў Бога мілаты, каб ён не адвярнуўся ад нас. Каб, прыняўшы ахвяры, даў нам і нашым сем'ям, а тож і ўсяму вялікаму свету спакой і збавенне. Няхай адорыць ён нас ласкай набожнасці, каб заўсёды мы мелі ў сэрцах сваіх любоў, развагу ў малітве.

— Развага — маці суцяшэння, бацюшка. Але ж тыя груганы, якія кружылі і, можа, дагэтуль кружаць над маім сынам, проста клюнулі ў маё сэрца, таму і баліць. Відаць, Богу было заўгодна таксама, каб Сталін вызваліў нас і каб вылюдкі ўчынілі расправу над Скірмунтамі. Ці ж не так?

— Магчыма... — сумеўся святар.

— Праўда, армія — толькі невад, які закінулі ў гэты бок бальшавікі. Што далей будзе, ойча?.. Ці не спасцігне нас ліха, з якім ваяваў раней Нестар Махно?

— Я разумею, чалавеча, тваю трывогу. І не толькі тваю... Я святар і, на жаль, не маю пэўнасці... Мы ж, як той гарох пры дарозе, вялікай і тлумнай. Мяты будзем? Вядома...

Але ж наша карэнне ў гэтай зямлі, і Бог нам адзіны заступнік.

У гутарцы з айцом Георгіем Пятро Пісарчук аблегчыў, але не спатоліў як след сваю душу — не ставала адказу на пытанні, якія мучылі ад пачатку вайны.

А ці быў той адказ наогул? І ці ведала яго зямля?..

Лагічна і проста ўжо следам за Чырвонай Арміяй насоўвалася савецкая ўлада. У Моталі для яе ўсталявання хапіла ўсяго некалькіх дзён. Утварылі Савет і народную міліцыю. Аднак пэўны час яшчэ не спыняла сваіх дзеянняў самаўладдзе, якое чынілі тыя, хто раней быў у камуністычным падполлі або хоць бы чуў пра яго, а цяпер даў сабе волю і на вуліцы з дапамогай нажа, сякеры, нагана наблізіць прышласць ды ўпарадкаваць на свой густ новы свет. Таму дзед Пятро, засцерагаючы Паўлюка, свайго малодшага сына, ад удзелу ў шалёнай віхуры, неаднойчы ківаў яму пальцам:

— Я бачу, трудна табе ў хаце ўтрымацца! Глядзі ж, не пакінь дзяцей сіротамі!

Паўлюк расказваў, што чуў і ў што нельга было не верыць: за тыдзень у Моталі мясцовыя пасобнікі камунізму знішчылі блізка сарака чалавек, і ўсё ў маладым веку. Ён, Паўлюк, праўда, неяк паблажліва глядзеў на гэтакі гвалт, а бацьку вусцішна рабілася.

Шчыруючы далей у сваіх рэвалюцыйных высілках, камуністы, а сярод іх баявым імпэтам акурат вылучаўся малады Данік Плюнгер, вылавілі былых гмінных служачых, настаўнікаў — па прыкмеце іх службы па ўмацаванні польскага рэжыму, — а таксама іншых, несімпатычных ім асоб, якія не паспелі ўцячы, — лікам пад восемдзесят. Іх колькі дзён трымалі пад арыштам у Моталі, а потым павезлі ў Пінск, каб перадаць савецкім уладам. Але ж улады адмовіліся ад паслугі заўзятых мотальскіх асенізатараў і ўсіх арыштантаў адпусцілі на волю, як што на той момант няшчасныя не таілі ў сабе небяспекі для новага ладу.

Разам з іншымі вярнуўся з Пінску дадому і Клім Кузюр, апошні местачковы солтыс, з якім сябраваў Паўлюк Рамановіч. Варта зазначыць пры гэтым, што ў свой час солтыс Кузюр быў у прыяцельскіх адносінах і з некаторымі падпольшчыкамі, не выдаваў іх, хоць ведаў багата якіх прыгод з падпольнага брыку.

Аднак цяпер у іхніх адносінах да Кліма Кузюра адбыліся пэўныя змены. А Сібір пакуль такіх, як ён, не прымала, бо была не гумавая.

Таму аднойчы вечарам Кузюра вывелі з хаты за пуню і выпусцілі яму ў патыліцу шэсць куль з рэвальвера.

Сведкам расправы быў сусед — стрыечны брат Кліма — Аксент Кузюр, які ў той момант стаяў каля сваёй пуні і ўсё, што рабілася, бачыў. Забойца прыклаў палец да вуснаў і пагразіў яму, каб трымаў язык за зубамі. І ён маўчаў.

Пятро Пісарчук даведаўся пра тое злачынства на наступны дзень, калі ездзіў на ровары ў краму. Надарэнне нейкім дурным рыкашэтам закранула і яго сям'ю, яго сядзібу. Узрушаны, ён вярнуўся дадому і знайшоў Паўлюка. Той, як ні ў чым не бывала, парадкаваў дровы ў прыстрэшшы хлява.

— Ты чуў навіну? — спытаў бацька. — Кліма Кузюра забілі...

— Як?!

— А так...

— Што ты кажаш, бацька? Я ж учора надвячоркам быў у яго.

— От і гавораць, што гэта тваіх рук справа!

— Як? — Паўлюк трымаў у руках бярозавае палена і не ведаў, што з ім рабіць. — Я Кліма забіў? Я забіў Клі-і-ма?!

Белыя і ружовыя плямы пайшлі па яго твары. У адчаі ён запусціў паленам у ворах колатых дроў.

— Ну і людзі!..

## 19

Забойства былога солтыса Кузюра, на дзіва прыстойнага і вабнага чалавека, які нікому не нарабіў шкоды, па ўсім відаць, перапоўніла чашу цярпення маладой, бы рдзяны парастак, савецкай улады і, уласна, бальшавікоў, што былі прысланыя сюды (ці то з Мінску, ці з Масквы), каб апекаваць гэту ўладу ды ўсталёўваць мірны лад жыцця.

Балазе забойствы надараліся як не кожын дзень. Таму, жадаючы спыніць бандытызм і анархію, бальшавікі арыштавалі пад Моталем, а дакладней — у суседняй вёсцы Тышкавічы юнака, якому спадобілася запэцкаць рукі крывёю; прылюдна яго расстралялі.

Паказальная карная акцыя ўладаў паймела такі належны ўплыў, і пра забойствы ў Моталі ад таго часу перастала чуваць, але ж цяпер наганялі страху на людзей арышты, аб прычынах якіх мала хто што якое і ведаў.

Калі двое міліцыянераў прыйшлі дадому да Ладзі Палто і прапанавалі яму прайсці ў іх суправаджэнні ў пастарунак — так, на стары лад, людзі звалі будынак са стражамі парадку, — сэрца ў яго ахапіла замаразкам, яно сцялася, прадчуваючы, што шлях ад роднага парога павядзе яго зноў за краты. Невядома чаму, але так вычварна пачаў віцца і плесціся, плесціся і віцца ягоны неміласэрны лёс. Жыццё ў скрут пайшло ад самага першага моманту іхняй з Балаганам і Філіновічам задумы па пераходзе ўсходняй, пярун яе пабі, савецкай мяжы. А ці было што злачыннае ў тым ягоным учынку, калі ён, Ладзя Палто, да прыкладу, шукаў на тым баку паратунку. Збавення ад голаду. Ад жабрацтва... Воля і шчасце там мроіліся. Толькі патрапіў у няволю. І цяпер тая гісторыя абярнулася для яго чыстым пракляццем. І для бацькоў... І для жонкі-красуні, якую зваў Аляксандрай. Ён толькі-толькі пачаў жыццё з ёю ладаваць ды яшчэ не намілаваўся, не нацешыўся, не выстарчыў для яе добрай долі. І от адарвалі... Яна ж у момант сабрала яму невялікі вандзэлак. І плакала, калі ён, здрабнелы, змарнелы, пакідаў сядзібу сваю.

Прадчуванне Ладзю не абманула, і следчы пачаў ставіць пытанні, што тычыліся іменна ранейшай вандроўкі ў Савецкі Саюз. Анічога ж не было ў тых прыгодах людскага, каб успомніць ды расказаць — адныя пакуты. Далібог! А следчы дамагаўся тым часам: скажы, якія мэты перад табою былі пастаўлены і хто іх ставіў?.. Чуеце? На артыкул кодэксу пра шпіянаж цягнуў скуралуп.

Пасля допыту Ладзю Палто пакінулі ў камяніцы, дзе быў астрог. Агледзеўся: ў камеры пяць чалавек, апроч яго, і ўсе сядзяць ціха, — не столькі панылыя, колькі стрыманыя, засяроджаныя на думках, вядомых ім адным. Яго з'яўленне не зрабіла на тубыльцаў асаблівага ўражання, адно Іван Баяба ўстаў з тапчана і падаў яму руку, пры гэтым панадна ўсміхнуўся:

— А цябе, верабей, за што сюды кінулі? Ці ты, як і я, эксплуатаваў сваю жонку, сям'ю? Або тваё багацце, што заўжды паміж ног трымаеш, калола камусьці ў вочы?

— Не вем... — адказаў сцішана, на запалым дыханні новы вязень Палто.

Калі шчыра, дык ён разгубіўся ад нечаканасці сустрэць тут, за кратамі, Баябу, сапраўдным прозвішчам якога было Мацукевіч; яго ўсе ў Мотале ведалі як заможнага гаспадара, жывога, пракідлівага, якому зямля штораз давала тое, што ён ад яе хацеў узяць. Палто лічыў Баябу ў местачковым жыцці чалавекам высокім і паважаў яго, таму, хоць і ведаў, што Баяба арыштаваны, але не спадзяваўся вось так, нос у нос, сустрэцца з ім, ды яшчэ ў адной ролі няволь-нікаў, вязняў, небяспечных для грамадства людзей, або і горш за тое — смецця, непатрэбнага ў хаце, якое выграбалі новыя ўлады.

Расчуліў Ладзю Палто знак увагі Баябы да яго і жарт, трохі колкі ды справядлівы. Яму імпанаваў высокі настрой гэтага начыненага прамяністай энергіяй чалавека. Іх прыяцельскае вітанне, падчас якога голас Баябы гучаў напорыста і густа, а голас Палто, наадварот, тонка і слаба, не раўнуючы, як у ягняці, — такое іх вітанне разварушыла астатніх вязняў.

— Дык, выходзіць, ты не веш сваёй віны? — дапытваўся Баяба.

— Не вем. Зрэшты, быў грэх, за які і ўчапіўся следчы: да сканчэння тэрміну я ўцёк з савецкай турмы.

— А-а?..

— Уга!

— Бачыш ты! — пасыпаліся з розных бакоў воклічы здзіўлення, захаплення, спагады. — Малады, а цёрты пасак! Ну сядай, расказвай, калі ведаеш, па чым фунт ліха.

І ўсяго ў некалькі кароткіх хвілін небарака Палто авалодаў сабой, набыў сваю годнасць і раўнавагу, як што пачуваў сябе роўным сярод роўных, балазе да ягонага пакутнага вопыту таварышы выявілі асаблівую цікаўнасць, павагу. Седзячы на невысокім тапчане і прытрымліваючы рукой свой вандзэлак, ён распавядаў пра той небяспечны шлях на ўсход, які скончыўся для яго і ягоных паплечнікаў выпраўленча-працоўным лагерам на Урале, дзе амаль не кармілі. З усяго ім пададзенага вынікала тое, што ў савецкай краіне не бяруць сабе за асаблівы клопат вызначэнне віны грамадзяніна або яго довады, калі ён не віноўны. Таму ў лагерах і адбываюць тэрмін тысячы і тысячы людзей, якія ніколі нікому нічога дрэннага не зрабілі, а дзяржаве — тым болей.

На жаль, выснова з апавядання Палто нікога з прысутных не радавала, як што ў кожным яна забівала надзею

на аб'ектыўнае следства і справядлівы прысуд. Настрой пачаў западаць, і тут крамяны і чырвонатвары вязень па прозвішчы Ляш пераключыў размову на іншае:

— Бачыш, — сказаў ён, паказваючы на вандзэлак Палто, — пры арышце табе хоць дазволілі хлеба з сабой узяць. Мусіць, іншыя міліцыянты былі! А мяне ж гэты пярэварацень Райкевіч, мацць яго, не тут будзь сказана, узяў на вуліцы, як дурня. І куды яго сумленне падзелася? Каня не даў распрэгчы, а я па дровы ездзіў, у хату не даў зайсці, з дзецьмі, з жонкай развітацца. Не даў, злыдзень, глынуць чаго якога, бо я ж не з гасцей прыехаў, а з лесу. Нічога з сабою не ўзяў... «Ты арыштаваны, кажа, і не спрабуй улізнуць, а то я пры зброі». Гад ён! Як выслужвацца пачаў! Га?..

— То чаму ж яму і не выслужвацца? — разважліва падаў Баяба. — Колькі гадоў ён гэту ўладу чакаў. Ад чакання, мо, сэрца высахла.

— Дзіва што! А добры ж быў чалавек. Мёду не шкадаваў нікому, — падтрымаў гутарку нехта з глыбіні камеры.

— Улада псуе чалавека...

— У такім разе, пане Ляш, трэба лічыць, што і ты сапсуты ўладай, — заявіў Баяба. — Хіба не? Працаваў жа солтысам ў Асаўніцы, збіраў даніну, уціскаў людзей... Не, скажаш?

— Не! — у экстазе адрэзаў Ляш. — Каго ж гэта я прыціснуў? Га? Можа скажаш, пане дабрадзей?.. Не, не маеш досведу? А-а... Тады скажы, у чым мая віна перад сінодам камуністаў, калі людзі са свайго асяродку вылучылі мяне солтысам?

— Віны няма, а кара ёсць, ціха ўставіў сваё меркаванне Ладзя Палто. — Гэтак амаль у кожным выпадку жыцця. Вунь мотальскага солтыса Кузюра нізавошта забілі. Ніякай шкоды людзям ён не зрабіў.

— Ходзіць пагалоска, што Кузюра забіў Паўлючок — Пісарчукоў сын, — прагучаў ужо знаёмы голас з цемры.

— Наплюй ты, Макар! — горача запярэчыў яму Баяба. — Пісарчукоў сын Паўлюк мне сваяком даводзіцца, і я гатоў галавой налажыць, што гэта не так.

І дадаў, памаўчаўшы:

— Правакацыя! Мяркую, тайна смерці Кузюра ў тым, што ён багата ведаў пра некаторых мясцовых хаўруснікаў новай улады. Ён ведаў, бадай, хто рабаваў панскі палац у Моладаве і хто рэквізаваў золата ў багатых яўрэяў у Мотлі — уцекачоў з Польшчы. Ён кантактаваў прак-

тычна з усімі. Усе шукалі ў яго ласкі, спагады. Таму, калі з першага разу, пад тую чырвоную замяць не ўдалося выслаць солтыса Кузюра на Сібір і ён вярнуўся з Пінску, яго ны лёс, бадай, быў прадвырашаны. Цяпер няхай пухам яму зямля будзе!

На гэтакай сумнай ноце і завяршылі няспешную ды прымхлівую гутарку. Уладкаваліся спаць — хто дзе, на тапчане ці ў кутку на падлозе. Супакоіліся пасля некалькіх мацюкоў, якімі той-сёй спрабаваў аблегчыць душу. Здаецца, усе спалі, толькі солтыс Ляш яшчэ пэўны час варочаўся. І бядак Палто праз сон, няйначай, чуў скрыгат Ляшавых зубоў. У чалавека, відаць, ляжала зло на сэрцы, і не мог ён дараваць злыдню Райкевічу тое, што пры арышце паставіўся да яго гэтак жорстка, не па-людску, пазбавіўшы яго і сямейнага развітальнага моманту, і кавалка хлеба.

Праспявалі местачковыя пеўні. Першыя... ці другія?.. Раніца ўспарола жыхароў вязніцы металічным бразгатам ключоў і рэзкім скрыпам дзвярэй. Вязні не паспелі прадраць ад здранцвелага сну, цяжкога і горкага, вочы, як у камеру ўпіхнулі аднаго за другім яшчэ двух мужыкоў, станістых, дужых і годных у паставе, дармо што ў першага цьмянеў сіняк пад вокам — пэўна, супраціўляўся арышту. Высакаваты лоб, які разам з носам утвараў амаль адну лінію, светлы чуб, прыручаны, мяккі, што ўсцілаў макаўку галавы злева направа, востры зірк вачэй, крыху разгубленых... І другі — маладзейшы, нечым быў падобны да першага. У вязняў, якія цікаўным позіркам акінулі навічкоў, ад неспадзеўкі ажно дыханне перахапіла, а солтыс Ляш у першы момант напэўна падумаў, што мае справу з галюцынацыяй, бо як было паверыць, што перад ім і ўсімі астатнімі ў цесным пакоі стаіць яго крыўдзіцель — Андрэй Райкевіч, былы падпольшчык, кіраўнік мясцовых камуністаў, апошнім часам — міліцыянт, а цяпер таксама вязень. О-ёй!.. За ім, амаль хаваючыся і жмурачы вочы на святло, якое падала зверху, з закратаванага акенца, стаяў ягоны брат Сяргей.

— Добрай раніцы...

Першым ачомаўся і паказаў прысутнасць духу гаспадар Баяба:

— Проша, паночкі... Сюды, да нас, заўсёды дарога адкрыта. Не высокія ў нас, праўда, пакоі, нават цьмяныя, што казаць, ды не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек

— месца. Ці не так? А ў нас, бачыце, лепшыя людзі акругі сабраліся. І вас мы гатовы прыняць.

Ці ўлавілі браты Райкевічы іронію ў голасе Баябы, цяжка сказаць. Наперад выйшаў асаўніцкі солтыс Ляш:

— Во, падла, які падарунак! Га?

Ён пільна і ўтрапёна разглядваў міліцыянта Райкевіча — менавіта гэтак, у сваёй апошняй ролі, ён успрымаўся тут. «Падарунак» кракатнуў і зрабіў крок наперад, маючы намер, пэўна, прысесці на бліжэйшы тапчан.

— Пастой! — папераджальна і пагрозліва спыніў Андрэя солтыс, яго твар перакасіўся і асклабіўся, рукі сцяліся ў кулакі: — Я ж Бога маліў, каб сустрэцца з табой і морду набіць! Бальшавіцкі халуй і нягоднік! Ага, пабялеў!.. Хтось табе ўжо навесіў ліхтар, ды гэтага мала, мала, аднак!..

Баяба схапіў Ляша за рукі і адціснуў яго сваёй грудзінай убок, прэч ад небаракі Райкевіча, які, пэўна, не ўсведамляў да канца сваёй віны перад солтысам, бо цягнуў нягучна і скрушліва:

— А за што... за што... за што ты?..

Падаў голас Макар, мажны, камлюкаваты купец з барадой:

— За што, пытаеш. А хіба не ты яго арыштоўваў?

— Я... Дык на тое загад быў!

— Загад?! — усклікнуў Ляш. — А хто табе загадваў, каб не даць дакрануцца мне рукамі да хлеба? Га? Падла? Гм...

Андрэй Райкевіч маўчаў. Дайшло... Забіўшыся ў куток, ён сеў і сядзеў, ахапіўшы галаў рукамі, — пэўна, спрабаваў уцяміць, што з ім здарылася, чаму няшчасці неспадзеўкі абрынуліся на яго. Але, як ні намагаўся, не мог зразумець, за што яго арыштавалі. Адзінае, што ўсвядоміў ён, дык гэта свой пралік і віну пры арышце Ляша. Аналізуючы кожын звіў сваіх паводзін у Асаўніцы, ён выразна перажыў яшчэ раз нецярпенне, трывогу, калі чакаў з лесу Ляша, а той, як знарок, бавіўся, падточваючы тым яго міралюбны настрой і злагаду. У Райкевіча таго дня ляжала на думцы раней трохі патрапіць дадому, як што захварэў падсвінак, і гэта вымагала ад яго пэўных дзеянняў. Ён спяшаўся і таму пачаў прыспешваць Ляша-дрывасека, калі той вярнуўся ў сядзібу. Але... Бачыш як чалавек устроены: яго не злаваў сам факт арышту, да арышту, можа, ён у думках ужо быў падтрыхтаваны, — злавала жорсткасць, няўвага да ўласна чалавечых патрэб у момант арышту. І

ці мала што ён хацеў жонцы сказаць... Не сказаў. З-за яго... А ці шмат змарнавалася б часу, калі б ён, здарожаны, змораны працай у лесе, сеў за стол ды паеў перад невядомай дарогай або схадзіў за хлеў па сваёй патрэбе. Не паеў, не схадзіў і нічога не ўзяў з сабою. З-за яго, шэльмы Райкевіча, якому д'ябал натарочыў часова стаць міліцыянтам. Знялюбеласць і нянавісць солтыса Ляша да сябе ён наклікаў справядліва, што асабліва выразна асэнсоўвалася цяпер, калі па нейкім дзіўным сабачым нахіле жыццё пакацілася. Яго арыштавалі ў пастарунку, калі з'явіўся на працу, а праз колькі хвілін прывезлі ў пастарунак і брата Сяргея. І гэта нягледзячы на тое, што яны ўсё сваё свядомае жыццё аддалі камуністычнай прапагандзе ды змаганню за ўласны Беларускі дом і савецкую ўладу. Арыштоўваючы, ім з братам таксама не далі магчымасці палагодзіць, паладкаваць дома справы, развітацца з блізкімі. Зрэшты, дай Божа яшчэ іх родным і блізкім застацца на волі!

Ладзя Палто з жалем назіраў за братамі Райкевічамі, за солтысам Ляшам, Баябам, Макарам і ўсімі астатнімі вязнямі, якіх сабралі ў гурт адно па нейкай жахлівай недарэчнасці. Яго востры жаль узмацніўся і зрабіўся нават гаркава-балючым, калі солтыс, трымаючы Баябу пад локаць, адышоў з ім да дзвярэй, а Палто сядзеў поблізу.

— Я не магу, я не ўберагуся і задушу гэтага гада ноччу! — у хваравітым узрушэнні шаптаў Ляш.

— Ты што, братка, беляны аб'еўся?! Астынь! — занепакоена адказаў Баяба. — Што людзі падумаюць: свой свайго пачаў душыць?.. Свет вар'яцее! Ганьбу толькі наклічаш на сябе, на свой род. Зацяты ж ты, як кныр. Атрасі рукі ад злосці!

Ляш прамармытаў штось мала зразумелае і мацярнае. Баяба выразна з хітраватай усмешкай паглядзеў на Палто, і Палто кіўнуў яму ў знак падтрымкі і згоды:

— Ну так... Але ж, але ж!

Толькі не ведаў Палто, седзячы ў вязніцы, якія думкі думаць далей, хоць яно і не цяжка было здагадацца, што яму пагражае, куды лёс зноў павядзе і дзе выкіне.

Як жыць яму ў гэтым небяспечным і кручаным свеце? Як жыць «ёй»?.. У кожным разе яго душу ўлагоджвалі згадкі, летуценні і мроі пра Аляксандру, Алесю, сваю жонку. Яна цяпер будзе для яго ў думках і парываннях апірышчам. А што выпадзе, уласна, ёй на долю без яго, паколькі яна засталася пры доме цяжарная?..

## 20

На снежныя гурбы ўдзень падалі і пражыліся і адлівалі сінечай сонечныя промні. Гурбы, зверху адтайвалі і пакрываліся шарпаком, чэрхлі; па іх вольна бегалі дзеці.

З дахаў хат і хлявоў спрабавалі спаўзаць ледзяшы, якія ў сукупнасці ўтваралі фантастычныя ледзяныя бароды. Да вясны, праўда, яшчэ подалек, і вераб'і, збіраючыся купкамі па дварах, абмяркоўвалі свае харчовыя пытанні. Яны скакалі каля абледзянелых кармушках, з якіх ў тым ці іншым двары сяляне карміл і жывёлу, або блыталіся, падскоквалі і перакочваліся мячыкамі ў саломе, натрэсенай ля хлявоў. Калі ж нешта ім пагражала, няўрокам кажучы, падкрадваўся драпежны кот, яны ўсе, па нейкай нячутнай нікому камандзе, лёгка і дружна ўспырхвалі ў паветра. Пакружыўшыся, купка вераб'ёў зноў пікіравала на кармушку; там у наледзі заўсёды знаходзілася што-небудзь пакляваць, а калі не — вераб'і мецілі прасачыцца дэсантам у хлеў да жывёлы.

Сінічкі, тыя ў хлеў рэдка заглядвалі, як што іх далікатнасць і гонар не дазвалялі ім гэта рабіць. Разам з тым яны лічылі прыстойным зазірнуць цераз шыбу ў дом чалавечы — нешта ім падказвала, што, калі не ў гэтай, то вунь у той будыніне чалавек расшчодрыцца і вынесе ім што-якое, каб замарыць чарвяка.

Маня ведала, на што спанатраны сінічкі, таму, каб дагадзіць ім, неаднойчы развешвала на галінках дрэва кавалачкі сала.

З раніцы яна хадзіла ў школу, куды завезлі новыя падручнікі і дзе дзяцей ужо вучылі на рускай мове. Увогуле ж, рускамоўнае навучанне ў мотальскай школе было найхутчэй выключэннем з правілаў, бо амаль паўсюдна на ўз'яднанай заходняй частцы Беларусі адчыняліся беларускія школы, што было свядомай палітыкай камуністаў, якія стараліся паказаць свой клопат аб развіцці нацыянальнай школы і культуры ў процівагу палякам. А ў Моталі руская пачала дзейнічаць хутчэй за ўсё па збегу абставін: не хапала беларускамоўных настаўнікаў... Інакш і быць не магло, бо ўз'яднанне звалілася на грамадства, як снежны ком на галаву.

Настаўнікі Мані падабаліся. Амаль усе яны былі маладыя, казалі, што іх накіравалі сюды па камсамольскіх пуцёўках; мо таму яны мелі ладны запас лагоды, цярпення і

не білі вучняў лінейкамі. Але ж і мясцовыя настаўнікі працавалі таксама, бо ўсім, мусіць, уцякаць не было як, а мо і не было куды.

Класнай у Мані стала тая ж настаўніца Ніна Лук'янаўна Бойка, муж якой лічыўся палякам і працаваў у краме. Яны жылі ў доме на два паверхі, пабудаваным з чырвонай цэглы.

Туды, у чырвоны мур, да Ніны Лук'янаўны, і паймелі ахвоту хадзіць Маня Раманавічанка разам са сваёй сяброўкай Маняй Васілевіч, як што абедзве яны былі выдатніцамі ў вучобе. Пазней сяброўкі памагалі Ніне Лук'янаўне правяраць вучнёўскія сшыткі. Яна сама запрашала дзяўчынак.

На пачатку вучобы, праўда, Раманавічанка зведала і засмучэнні — не было на чым пісаць. Увогуле з крамаў пазнікалі сшыткі, мыла, соль, запалкі, цукар, бо з Польшчы ўсё гэта перасталі завозіць, а з усходняй Беларусі, мусіць, не было як завезці. Таму, калі пэўную колькасць сшыткаў прывезлі ў школу і размеркавалі паміж вучнямі, ёй не далі. Сказалі, што яна з багатай сям'і, таму для яе няхай купяць. А купіць не было дзе, і Маня разам з дзедам мусілі рэзаць на кавалкі старыя газеты і розную абгортачную паперу, каб зрабіць тыя сшыткі. Ад крыўды, а на каго — не ведала, ад прыніжэння годнасці такою школьнай палітыкай ёй хацелася плакаць, яна і плакала, адно мела ўпартасці столькі, каб тое гора агараць і авалодаць сабой.

«Нехта хоча, каб я дрэнна вучылася, каб я была горшаю з вучняў, а я ж не горшая, я не такая, я павінна даказаць, што я не такая — разважала дзяўчынка. — Я павінна добра вучыцца і быць вясёлаю, і тады з мяне ніхто не пасмее цвеліць; затое мне, уласна, маім поспехам будзе рады дзедусь».

І Маня вучылася так, што яе неўзабаве сфатаграфавалі, каб змясціць яе картачку на школьную Дошку гонару.

Яе вучнёўскія справы хутка наладзіліся і настрой адпавядаў акурат савецкім песням, бадзёрым, вольным, хвалюючым, якія ліліся з рэпрадуктараў — радыё ж увайшло амаль у кожную хату. З асаблівай асалодай, з заміраннем сэрца Маня слухала новую па тым часе «Кацюшу». Паводле яе адчуванняў, гэта быў як бы гімн самотнаму каханню, лагодзе, высокім грамадзянскім пачуццям. Здаецца, упершыню ў сваім сэрцы яна адкрыла нейкую дзіўную

продань, пустэчу, нікім і нічым не запоўненую, якую толькі і магла насяляць падобная музыка.

Расцветали яблони и груши,
Поплыли туманы над рекой.
Выходи-и-и-ла на берег Катюша-а-а,
На-а-а высокий берег на крутой...

І, напяваючы гэтак, Маня спрабавала ўявіць сябе там недзе на крутым беразе невядомай ракі — сябе і яшчэ некага, пакуль нябачнага ёй у далечыні, у смузе прасторы і часу.

Неўзабаве ж у культурны ўжытак, у пракаветны побыт Моталя, які зваўся цяпер гарадскім пасёлкам, што між іншым адпавядала яго занятку рамесніцтвам, увайшло і кіно; у памяшканні, дзе раней размяшчалася пажарная служба, часта паказвалі фільмы «Чапаеў», «Браняносец Пацёмкін» і іншыя. І гэта захапляла і чаравала, гэта настройвала пэўным чынам юныя душы, у тым ліку і Маніну, пашырала ўяўленне аб навакольным свеце.

Цяпер шмат чаго пацяшала і мілавала; жыццё наогул моцна ўздымала б настрой Мані, калі б яе позірк не ўлоўліваў цень неспакою і трывогі на твары дзеда або каб твар мацеры быў не настолькі схудалы і сумны, што шчэлепы пачалі правальвацца. Маці шмат працавала, бо каровы, цёлка і парсюкі патрабавалі догляду, не гаворачы ўжо пра гусей, курэй ды пра іншы занятак у полі і хаце.

Як ёй дапамагчы? Маня неаднойчы думала пра гэта і знаходзіла-такі, што зрабіць, каб паменшыць абсяг мацерынай працы. Яна прызвычаілася прыбіраць у хаце, мыць падлогу... Памые і бяжыць у суседні пакой:

— Бабуля, ідзі паглядзі... Аж блішчыць! Мама вернецца з поля — рада будзе!

Раней, да прыходу чырвоных, ім памагаў пыніць гаспадарку цягавіты і нешматслоўны дзяцюк Грыша, далёкі сваяк. Быў ён малазямельны, жыў разам з сястрой нешта хат праз дзесяць ад іхняй сядзібы. Маня нярэдка насіла ім малако пасля вячэрняй дойкі, што не ўлічвалася ў заробак і за што яны ласкава дзякавалі. Але ж, калі прыйшлі саветы, разняволенаму пралетарыю Грышы падалося, што далейшая праца па найму будзе прыніжаць ягоную годнасць.

— Усё, — сказаў ён Мані. — Хопіць... Так і перадай сваім. Баста!

Сказаў гэтак, калі Маня прынесла яму сырадой. Тым часам хваравіта-бянтэжлівая ўсмешка на чыстым паголеным твары паказвала, што Грыша саромеецца і прымушае сябе гаварыць як бы запазычаныя дзесьці і апраметныя словы.

— Дзякуй за ласку, але я больш не буду гнуць спіну на вас! Новая ўлада ўжо нейк забяспечыць.

Маня вярнулася дадому анепакоеная і слова ў слова — як чула, так і перадала тую няўклюдную, як ёй здавалася, размову з парабкам Грышам. «Баста!» Маці і дзед, пачуўшы гэтакі вырак, былі вельмі здзіўленыя. Дзед спахмурнеў, нібы злы дух знячэўку грукнуў яму ў дзверы.

— Ліха матары! Чалавека гонар заеў. Рукі — свае, а зямля — чужая, і на душы разлад. Мілей спіну гнуць на сваёй зямлі. Яно праўда.

— А мы ж яму добра плацілі! — азвалася Ганна. — Ён меў працу і хлеб у той час, як іншыя былі рады лушпіне!

Дзед памаўчаў і скрушліва пахітаў галавой:

— Хлеб, кажаш... Па нашай мотальскай прыказцы: «Хліб — нэ жэна, з'іў, дай нэма». А калі так — гусь свіні не таварыш! Досыць, кажа, спіну гнуць... Я разумею, адкуль вецер дзьме.

У гэту зіму дзеда Пятра і ўсю ягоную сям'ю, усю радзіну асабліва трывожыла тое, што да заможных сялян новая камуністычная ўлада паставілася непрыхільна. Уражвалі метады ўціску і ізаляцыі самавітых гаспадароў. Выклікала ў душы абразу, крыўду, пратэст, штосьці такое, чаго нельга было нікому і выказаць.

Неяк раней арыштавалі Івана Мацукевіча, па-вулічнаму — Баябу, мужа Ганнінай і Зосінай сястры Мар'і. Баяба гаспадаром быў не менш удалым за Пісарчука. Цяпер ён сядзеў за кратамі ў Брэсце.

І вось на дасвецці прыбег да іх Коля, брат Ганны, Манінай маці:

— Ганна а Ганна! Гэтай ночы вывезлі Мар'ю з дзецьмі.

Заможныя сем'і адну за адной арыштоўвалі проста, без суда, без доказаў віны, хапалі звычайна ноччу і вывозілі пад ціхі енк, лямант дзяцей і дарослых. У Янове ж імі набівалі таварныя вагоны і, бы тую скаціну, дэпартавалі далей, як потым высветлілася, — у казахскія стэпы... Гэтакім чынам з мотальскіх вуліц, аселіц і лядаў знікла ўжо дзевяць сямей. Пятро Пісарчук пакепліваў з самога сябе: авечак стрыгуць, а баран дрыжыць... А калі сур'ёз-

на, то і ён чакаў сваёй чаргі. Толькі яго пакуль не чапалі. Праўда, невядома з якой нагоды пры хаце, у якой ён жыў разам з сям'ёй, неўзабаве выставілі дазор з камуністаў. І гэта ўражвала. Прычым, уражвала не толькі дзеда, бабулю, маці і дзядзьку Паўлюка... Маню таксама. За дазорам чулася нешта надзвычай пагрозлівае і пакуль што таемнае... Можна было толькі здагадвацца, што сочаць за дзедам, каб ён, барані Божа, не ўцёк.

Пазней, праўда, высветлілася, што цікуюць за сынам дзеда Пятра — Барысам... Ого!.. Аднак непамысным рабілася, што яго, Барыса, няма, а за ім тут цікуюць. Нібыта Барыс жывы і цяпер у варожым хаўрусе — уваходзіць у склад нейкай пятай калоны, міфічнай, таемнай, чуеце, якая ставіць на мэту знутры падарваць моц савецкай улады. Знутры... А як? Ліха матары! Цяпер, калі ўкараняецца не ўлада, а насланнё шалу д'ябальскага, а дзе і быць Барысу, калі не ў баку ад гэтага? Няўжо і сапраўды ён жывы і недзе тут блізка? Эвой, няхай было б гэтак!

Толькі ж навошта плявузгаць пра «пятую калону»? Хіба Пятру не вядома, што сын яго быў з камуністамі? Дык няўжо тыя, хто сочыць за сынам, ведаюць пра яго нешта такое, чаго не ведае ён, уласна, бацька Барыса?

Гэты недалужны і дзіўны дазор супаў з прыездам, а ў гэтым выпадку — вяртаннем у Моталь Іллюка Дубовіча, аднаго з актывістаў падполля, які з прыходам чырвоных пачуваў сябе на кані. Такі быў момант. Яму пастаянна хацелася ўскідваць рукі шаблямі ўгору і крычаць ура.

Пад час вызвалення Заходняй Беларусі ад польскага акупацыйнага рэжыму Дубовіча запрасілі ў Пінск, дзе залічылі ў так званую рабочую гвардыю.

Нам цяпер цяжка даведацца, якую ролю ён выконваў у тым асяродку рыцараў камуністычнай прышласці, але ж, паколькі любімымі словамі Іллюка ад таго часу сталі словы «пятая калона», можна ў пэўнай меры ладзіць здагадкі, што за мэту рабочай гвардыі ставілася задача аховы сродкаў камунікацыі і іншых важных аб'ектаў у горадзе ад варожых элементаў, і паляванне за гэтымі элементамі, іх вылоўліванне, ізаляцыя ад грамадства дзеля таго, каб не даць ім, паразітам, магчымасці апамятацца, заканспіравацца, асесці, зашыцца ў падполле і потым дзейнічаць па прынцыпе пятай калоны. Пра пятую калону гэты шэльма, падсвістыч чуў раней у сувязі з падзеямі ў Іспаніі.

Але ж і пры такім цікавым занятку ў Пінску Іллюку Дубовічу сумна рабілася. Цяпер, у лёсавызначальны час, душой сваёй ён быў на мотальскіх грудках, дзе заставаліся яго карані, яго радасці і засмучэнні. І калі ў Пінску ён, так бы мовіць, араў на чужым полі, то ў Мотал свая ралля ляжала няўробленая, і яму карцела вярнуцца дадому. Таму не прайшло і трох тыдняў гвардзейскай дужа прывабнай на рэвалюцыйнасць службы ў Пінску, як ён пачаў абіваць парог начальніка Рабочай гвардыі Меера Шлёмавіча Жукоўскага-Зільберта і прасіць яго адпусціць на роднае ўлонне.

Той дапытваўся, чаму яго гэтак цягне туды, можа, кралю займеў?..

— Ды не, — Дубовіч круціў галавой, якая нагадвала крутабокі парудзеўшы гарбуз. — Там ёсць пільная справа, якую няможна адкладваць.

— Гэта — сакрэт?..

— Не, ад вас, Меер Шлёмавіч, у мяне сакрэтаў няма. Хачу прыгледзець за партыйнай спулкай, у якой звілі асінае кулацкае гняздо... Хто б вы думалі? Адкажу: правакатары з былой КПЗБ — Райкевічы, Андрэй і Сяргей...

— Няўжо там без цябе з імі не разбяруцца?

— Калісь Андрэй адцёр мяне ад кіраўніцтва ячэйкай...

Не паспеў, аднак, Дубовіч патлумачыць начальніку, што больш прынцыповых ад яго людзей на свеце няма і што менавіта ён асабіста патрэбен Моталю, каб там усё давесці да ладу, як у калідоры ўсчаўся шум, тупаценне гвардзейцаў — злавілі злодзея... Жукоўскі-Зільберт пажадаў сам з ім пагандзюрыць і ахнуў, калі ў кабінет да яго ўвялі знаёмага юнака па прозвішчы Карабовіч, у абносках, з блудлівым позіркам на нямытым твары. З ім Зільберт паўгадзіны таму сустракаўся... Першы раз Карабовіч папаўся на кражы ў краме. Тады Меер Шлёмавіч палічыў, што ўшчувальнай бяседы з ім дастаткова, і адпусціў на волю. Але ж, выходзячы з будынка Рабочай гвардыі, гэты блазан не ўтрымаўся і ўкраў ровар, які належаў аднаму з гвардзейцаў. Карабовіча дагналі і паспелі надаваць у каршэнь. Наогул ён меў выгляд пабітага сабакі.

— Ах доўбень, ах нахабнік! Цяпер турма табе забяспечана! — дакляраваў яму Зільберт. У наступны момант шэф паглядзеў на байца Дубовіча і даў яму зразумець, што размова з ім скончана; Дубовіч выйшаў з кабінета пры сваіх, як то мовіцца, інтарэсах.

Ну а далей яму дапамог выпадак. Праз чыгуначную станцыю Пінск праходзіў састаў з ваеннапалоннымі, узятымі немцамі ў вераснёўскай кампаніі. Нехта выкінуў праз шчыліну ў дзвярах запіску ў надзеі, што напісанае не прападзе. Яе падабраў адзін з байцоў Рабочай гвардыі, што акурат дзяжурыў там, і прынёс у свой штаб. Неўзабаве туды выклікалі і Дубовіча. Намеснік начальніка замест таго, каб адказаць на прывітанне байца, спытаў:

— Ты жыхар Моталя?

— Але ж...

— Тады чытай! — і падаў шматок паперы.

А там было напісана:

*«Ст. Пінск. Для сумленных людзей.*

*Перадайце, калі ласка, у Моталь Барысу Рамановічу або яго бацьку, што эшалон № 1 з ваеннапалоннымі з Кёнігсберга мае праследаваць па Беларусі без прыпынкаў — у Сібір».*

— Гм... — замармытаў азадачана Іллюк Дубовіч, не ведаючы яшчэ, што ад яго патрабуецца. — Навіна, аднак!..

— Таварыш Зільберт згодзен адпусціць цябе ў Моталь пры ўмове, што ты даследуеш там, чым займаецца Рамановіч і якая ў яго сувязь з ваеннапалоннымі.

— Барыс Рамановіч забіты на фронце, прынамсі, у Мотаді распаўсюджана такая інфармацыя.

— Яго няма?! — разявіў у нямой паўзе рот намеснік начальніка — між іншым, ён тут, у Рабочай гвардыі працаваў без году тыдзень. — А калі ён не забіты і хаваецца ад новай улады?

— А-а, — змікіціў баец Дубовіч. — То гэта мае быць ужо пятая калона?

— Называй, як хочаш. А даследуеш — пра вынікі — сюды. Прычым, тэрмінова.

Па прыездзе ў Моталь істоту Іллюка поўніў гонар і ўсялякія там ідэйныя вартасці. Яму, як заўзятаму гульцу, патрэбная карта сама ішла ў руку. От і кароткая служба ў Рабочай гвардыі таксама стала ў шэрагу ягоных асабістых удач. Яна дала малапісьменнаму мястэчкоўцу, былому сябру падполля, практыку палітычнай класавай барацьбы ў новых умовах, папоўніла патрэбны слоўны запас, пашырыла кругагляд, і цяпер ён як бы цёрты, як прабеглы і разам свой чалавек у міліцыйскім асяродку. Там, канешне, не было праблем, каб Дубовіча адразу і залічыць у склад міліцыі, нядаўна створанай у Моталі.

Ён патрапіў сюды ў самы час, як што на ягоную палітычную падрыхтоўку ўважалі. Яму собіла ўвайсці ў адмысловую дзяржаўную ўстанову, што сачыла за грамадзянамі, з кучай уласных задум ды задач наспелых, зусім неадкладных, вострых, бы скальпель у руках нейкага адмысловага хірурга, і тут садзіліся на добры грунт яго ўзвышаныя парыванні і летуценні.

Звонку гэта, бадай, было мала прыкметна, але ж ён наляцеў на прыціхлае і спакутаванае мястэчка, як коршак. Нічога, праўда, не зачапіў прылюдна, не стаў пэцкаць свае рукі ў крыві, як хто-кольвек, а калі нечым і запэцкаў іх трохі, то толькі чарніламі, і гэтага, між іншым, хапіла з тых шэльмаў, што замінaлі яму і савецкай уладзе.

Прыступіўшы да спраў, Дубовіч перш-наперш выставіў дазор у сядзібе Пятра Пісарчука, а потым у лічаныя дні разабраўся таксама і з асіным кулацкім гняздом, звітым, не тут бы мовіць, у самым сэрцы мотальскай правінцыйнай гурмы.

Уга! Моталь захапіла знянацку, узрушыла і нейк збіла з тропу навіна аб арышце і заключэнні ў турму вядомага ўсім падпольшчыка-камуніста, кіраўніка партыйнай спулкі Андрэя Райкевіча, які таксама працаваў у міліцыі. І тут жа як бачыш на высылку загрукацела Андрэева сям'я і ягоны брат Сяргей...

Ашаламіла Моталь навіна, як што браты Райкевічы былі сваімі, шчырымі і сумленнымі грамадзянамі, адданымі камуністычнай ідэі; праўда, уцяміць, што яна, выпакутаваная ідэя, азначае, цяпер было ўсё больш складана.

Мотальскім шаўцам, бадай, можна было б здымаць мерку з арыштаваных — на камуністычны німб, калі б ён, той німб, калі-небудзь шыўся. Яшчэ Ян Мацукевіч быў з іхняй кагорты...

Андрэй Райкевіч меў кавалак зямлі, на якой у асноўным пчалярыў, і гэты прафесійны занятак аб'ядноўваў яго з Пятром Рамановічам. Пры сустрэчы сталы і маладзейшы пчаляры дзяліліся навінамі, набытым вопытам.

Андрэй не шкадаваў свайго мёду ні для суседа, ні для любога прышлага чалавека — кожнае лета выносіў проста на вуліцу ў вядры мядовы напой. У сям'і Пісарчука даніну падобнай дабрачыннасці аддавала час ад часу ягоная жонка Аксіння. Іншым разам яна рабіла гэта ўпотай ад Пятра. Каб ён не хваляваўся. Пятро ж таксама не быў скнары, але і не любіў раскідвацца тым, што прыдбаў сваім мазалём.

Ці чула надсвяцейшая дзева Марыя Манін голас і шэпт, ці бачыла яе слёзы? У багоў жа, напэўна, і сваіх праблемаў хапае... Яны, глядзі што, даўно ўжо згубілі і Зямлю з полю зроку, бо надта ж багата анёлаў цемры водзяць тут свае карагоды і сілы д'ябла каламуцяць жыццё, мяшаюць кроў з гразззю. Даруй, Божухна, і ты, надсвяцейшая Маці Божая, нашы грахі. Але ў чым яны, і чаму мы такую кару на сябе прымаем?

Пасля малітвы яна супакойвалася і больш, чым калі, адчувала сябе дарослай.

У той дзень, парабіўшы ўрокі, дзяўчынка вынесла і прывязала да галінак сала сінічкам.

Якраз прачнулася сястра Вольга, і Маня ўзяла яе на рукі, паднесла да вакна. Разам яны назіралі за маленькімі стракатымі птушкамі і радаваліся блізкаму знаёмству з імі. Сінічкі клявалі сала і час ад часу зыркалі на іх пацерачкамі сваіх вачэй, махалі хвосцікамі... Сястрычкам здавалася, што птушкі дзякуюць ім, і ў захапленні смяяліся.

За гэтым заняткам і застаў дзяцей паштальён. Пільна, з цікаўнай усмешкай паглядзеўшы на Маню, ён спытаў, дзе маці.

— Няма, і не ведаю, калі прыйдзе, — адказала Маня.

— Тута для вас пісьмо...

Маня не прывыкла атрымоўваць па пошце лісты і не адразу ўцяміла, што гэта значыць. На канверце ж было некалькі яркіх марак і круглыя штэмпелі. Урэшце яна прачытала зваротны адрас і словы: Барыс Рамановіч... Ага! Эвой!..

— Бацька жывы! — выпаліла яна і пусцілася ў скокі па хаце: — Тата! Наш тата жывы!.. Дзед! Баба! Дзе вы?.. Наш татка жывы!

Да Ганны, калі яна вярнулася дадому, дакладней — у свой двор, не адразу дайшло, што значыць той адчайны і вясёлы Манін крык; яна знерухомела, прыслухоўваючыся, а Маня выскачыла з хаты і, махаючы лістом, кінулася ёй на шыю:

—Мама, наш татка жывы!

Пустое вядро з рук бразнула долу, — ад самых глыбіняў Ганнінага сэрца ўзнялася і пракацілася па жылах, адольваючы стому, гарачая, сыпучая, бы той прысак, хваля.

— Дзе ж ён?

Падзея абмяркоўвалася за сямейным сталом. Сто раз чыталі і перачытвалі пісьмо ад ваяра Барыса. Твары ўсіх свяціліся радасцю, а Ганна асабліва заззяла. Ды пасля слёз і пакут, пасля вылітай на дзяцей гаркавай пяшчоты — чаму не парадавацца? Яна абводзіла радню вільготным позіркам, поўным прыязнасці і лагоды.

— Ёсць Бог на свеце! Але ж...

Барыс прыслаў свой ліст з Кёнігсберга. У ім ён коратка апісваў свае вайсковыя прыгоды. Пад Варшавай пасля баёў і акружэння немцамі польскага войска ён, кантужаны, трапіў у палон, пра што сведчыў і перасланы здымак, зроблены невядомым фатографам на выхадзе з лагеру ваеннапалонных блізу Варшавы. Далей з гэтага лагеру Барыса разам з іншымі вязнямі этапіравалі ў Кёнігсберг. А там немцы ўчынілі шмон, пераўлік, сартыроўку па нацыянальным складзе. Дазволілі беларусам вярнуцца на Радзіму.

Толькі савецкі бок не схацеў іх прыняць. Барыс застаўся жыць і працаваць у баўэра. Рабіў на млячарні, дзе пераганяў малако. Ён абдымаў іх усіх.

На тым ліст заканчваўся.

— Што Бог не дае — то к лепшаму! — як заўсёды, энергічна выказаўся брат Барыса — Паўлюк.

— Не кажы, сынку, — адазваўся стомлены ад хвалявання і непамыснага завароту жыцця Пятро Пісарчук. — Яшчэ дзякаваць Богу, што ён там застаўся. Значыць, яму наканавана крыху пажыць.

## 21

Мотальская гміна як бачыш ператварылася ў небывалы дагэтуль орган улады — пасялковы савет, і ў ім пачалі працаваць, падначальваючы сабе ўвесь ход і парадак жыцця, якасна «новыя» савецкія постаці, прынамсі, такімі яны лічыліся, бо як не ўсе належылі да камуністычнага свету.

Паноўленай уладзе, калі шчыра казаць, нельга было пазайздросціць, бо вызвольнае жыццё пайшло на яе лавінаю, і столькі першародных пытанняў, задач, найважных праблем накацілася, што ніхто з нанава выпечаных чыноўнікаў і пералічыць не ўзяўся б.

Адно зямля... Колькі з ёй клопатаў! Паспрабуй забяспечыць беззямельных, калі не адцяць шнуры і абшары ў тых, хто меў яе ўдосталь. А школа?.. Яна патрабавала

кадравага, ідэйнага і матэрыяльнага забеспячэння, новых праграм. І культура, дзе па выхадзе з «крэсаў» ёй не было за што зачапіцца... Сваім парадкам ішлі спісанне польскіх пазык і пераразмеркаванне маёмасці. І яшчэ розныя гаспадарчыя кампаніі, як пілаванне і нарыхтоўка лесу на розныя патрэбы. Апроч таго, прыём грамадзян і дапамога — усім. Усім дапамога. Прынамсі, тым, хто быў бедны.

Новыя ўлады ці то па нейкай жорсткай камандзе, ці па ўласным сваім парыванні стараліся дагадзіць любому і кожнаму, няхай нават раз на жыцці, па першай заяве, па першаму кругу... Стараліся. Таму ў кароткі тэрмін і з'явіліся ў мястэчку кіно і радыё. У «клуб», дзе стражакі раней трымалі коней, пацягнула як дзяцей, так і дарослых. Дзіва кіно!.. І моладзі быў адкрыты шлях у розныя навучальныя ўстановы, пачынаючы з прафесійна-тэхнічных вучылішчаў у Пінску, Янове... Вядома, у першую чаргу на вучобу прымалі камсамольцаў і дзяцей з бедных сем'яў, чым як бы ўсталёўвалася сацыяльная справядлівасць.

Яно, можа, і ўтаймавалася б неяк жыццё, і новы лад, палагодзіўшы культурнай чыннасцю душы тутэйшага люду, замеў сваю перавагу перад тым, што было, калі б не праявы хцівай сілы, воўчага нораву энкавэдыстаў, якія, бы тыя рыцары цьмянага вобліку, пад прыкрыццём ночы з'яўляліся ў мястэчку, дый па іншых паселішчах, і ў лічаныя хвіліны заграбалі цэлыя сем'і. Іх вывозілі таварнымі цягнікамі з родных мясцін у невядомую далеч. І стагнала зямля пад калёсамі тых цягнікоў.

Арышты надавалі дзяржаўнай уладзе якасці новага рэжыму, новай санацыі і не маглі не насцярожваць людзей сваёй непрадказальнасцю і жорсткасцю.

Ні з таго, ні з сяго вывезлі на Салаўкі Ладзю Палто, таго самага хлопца, які дома ў Пісарчукоў распавядаў пра свой шлях цераз мяжу і свае пакуты ў Савецкім Саюзе ды ўцёкі адтуль. Палто служыў і вярнуўся з палону як былы ваяр Войска Польскага. Яго заграбасталі і выслалі. Адначасова выслалі і цяжарную жонку Аляксандру Палто. Апошнюю — у казахскія стэпы.

Арышты чыніліся спарадычна, гэта значыць, не дзень у дзень. Тым не менш, яны дасягалі сваёй мэты: у кароткі тэрмін пасялілі ў кожнай сядзібе, у кожным куточку аціхлай і заплямленай кроўю зямлі, страх такі, якога людзі не ведалі нават за шэльмам Пілсудскім.

З местачковых жыхароў, бадай, не баяліся нікога толькі Данік Плюнгер ды Ілля Дубовіч. Першы таму, што сцвердзіў сябе сапраўдным важаком камсамоліі, калі актыўна расчышчаў шлях ад варожых савецкай уладзе элементаў. Дзёрзкі, адчайны, ён паспеў зрабіць многае, як для ўсталявання камунізму, так і для сябе. Праўда, стараўся ахоўваць свой удзел у патаемных акцыях. Ніякі д'ябал цяпер не мог бы падсекчы яго. У пасялковым савеце ён чыніў справы на пасадзе, блізкай да кіраўніка справаводства.

Другі — Іллюк Дубовіч — вырас ва ўласных вачах і паверыў у свае неабмежаваныя сілы, магчымасці, калі выкрасліў з палітычнага жыцця ды падсек пад корань сям'ю Андрэя Райкевіча, сакратара мотальскай партыйнай арганізацыі. Услед за Райкевічамі пайшоў і Ян Мацукевіч, які паспрабаваў быў іх абараняць.

Плюнгер і Дубовіч пры сваёй палітычнай і класавай порсткасці ўцалелі абодва дагэтуль, бадай, толькі таму, што іхнія шляхі або сцяжыны нідзе не перасякаліся і яны не заміналі адзін аднаму. Затое як адзін, так і другі пільна сачылі за побытам сваіх местачкоўцаў, каб не дай Бог каторы з іх не адхіліўся ад парадыгмы камуністычнага ўладкавання жыцця.

Ва ўліку людзей, які яны вялі, часам утвараліся прагалы, і, каб іх запоўніць, неабходна была дадатковая інфармацыя, дзе той або іншы... Найбольшай загадкай для ўлады была адсутнасць у Мотале Барыса Рамановіча. У той час, як большасць паланёных былога войска польскага вярнуліся дадому, гэты аніяк не аказваўся.

Аднак для сям'і Барыса і ягоных бацькоў за таямніцу мела быць цікаўнасць новай улады да асобы блізкага ім чалавека. Далібог, нічога добрага іх радзіне гэта цікаўнасць не абяцала, і снежаньскім ранкам на вуліцы, калі Ганна Рамановіч ішла ў царкву, яе ціха аклікнуў знаёмы ёй Павел Раманчук:

— Не спяшайся, маладзіца, нешта скажу...

— Шо ты маеш сказаты?

Гэты чалавек, напэўна, належыў да былых прыяцеляў Барыса; ён працаваў у гміне, а цяпер — у пасялковым савеце за пісара.

— Твой Барыс Даніку Плюнгеру пільна патрэбны... Дзе ён цяпер і што мае рабіць?

— А ты ведаеш, Паўлюк, показку? Добраму чалавеку праўду не кажы па каліна, а лыхому — па пяту.

— Показкі — показкамі, а цябе, Ганна, заўтра пакліхчуць у пасялковы савет на допыт. То ты ўжо падумай, што там даводзіць.

— Заўтра? Мг... Паклічуць... М-гм, — сумелася: — Чэрці!.. Адно дзякуй табе — папярэдзіў. Я ж і сапраўды нічога не ведаю пра Барыса, апроч таго, што ён жывы.

— То і добра. Тым часам...

Ганна, захопленая навіной знячэўку, уявіла сабе, што той допыт якраз і будзе пачаткам яе шляху ў Сібір, яе высылкі разам з дзецьмі. І ёй крыўдна і неяк даўка зрабілася ад гэтых думак і гэтай маючай быць крыжовай дарогі, ад таго, што ўжо ніколі, напэўна, не давядзецца сустрэцца з Барысам, прыгарнуцца да свайго чалавека.

У царкве яна горача маліла Бога, каб пакінуў яе на роднай зямлі ў супакоі. Дадому ішла з Богам... Можа, усюдыісны Уладар пачуў яе малітвы і злітасціўся. Следчы выклікаў яе ўсяго адзін раз. Ён пазначыў у пратаколе, што муж Ганны Рамановіч яшчэ да службы і ваенных падзей меў у Моталі каханку і што пагэтаму ёй не выпадае лічыць яго за свайго мужа, тым болей, што ён не вярнуўся дадому, а яна гадуе дваіх ягоных дзяцей. Пра ліст, які прыйшоў ад Барыса з Кёнігсбергу, мала хто ведаў, і Ганна не стала даваць тлумачэнні па ім.

Мусібыць, ад тых снежаньскіх дзён улады ўжо і забылі на Барыса і Ганну. Зрэшты, гэтаму маглі паспрыяць і такія абставіны. Даніка Плюнгера паслалі вучыцца на нейкія курсы ў Пінск, як што адукацыі ў яго было мізэр, а Іллюка Дубовіча, па той жа прычыне, — у Драгічын, дзе ён праходзіў шкалярства па сваёй, так бы мовіць, прафессіі масавіка.

Трэба сказаць, што сонца ўдачы Дубовічу свяціла ўсюды, і лёс як бы вёў яго за руку далей. У сваёй біяграфіі Дубовіч пазначыць пазней:

«1940 год. Январь... Меня шлют в г. Дрогичин на курсы агитаторов. Это и определило мою судьбу. Я завел там дружбу с секретарем райкома Киштымовым. Именно он преподавал нам политику.

1940 год. Месяц апрель. Меня зовет в Янов тот же Киштымов, теперь секретарь Ивановского райкома партии, он выдает мне мандат инспектора в маслопроме».

І — шчупака пусцілі ў раку.

Лепей ад інспектара цяпер ніхто на прадпрыемстве не ведаў палітыкі партыі, яе асноўных мэтаў, задач, і Дубовіч тлумачыў іх у захапленні ўжо ад самой магчымасці гэта рабіць. Дарэчы, ён пачуваў у сабе апантанасць з таго самага дня, як у 1933 годзе, акурат на 1 мая, яго прынялі ў КПЗБ. Адтуль ішоў адлік яго «другога жыцця».

— Павек, да самай магілы мая клятва ў тым, — казаў ён, — што для мяне больш не будзе нічога вышэйшага за гонар быць членам ленінскай партыі. З таго самага дня і гадзіны ў маёй актыўнай, мэтанакіраванай і паслядоўнай пазіцыі было: у любых умовах сваім сэрцам і душой заўжды і ва ўсім падтрымліваць мудрую знешнюю і ўнутраную палітыку партыі, якая вядзе наш савецкі народ па ніколі нязменнаму курсу, пераадольвае любыя перашкоды, цвярдыні, нават такія, як лінія Манергейма.

Гэта быў улюбёны стыль прамоў тагачасных прапагандыстаў. Зрэшты, стыль гэты і пазней не мяняўся і нечым вельмі нагадваў модлы, завучаныя духоўнымі асобамі на ўсялякі выпадак.

Ну і пайшло жыццё ў таварыша Дубовіча! Яно разгортвалася для яго што ўлежна, што ўежна.

Без перабольшвання наступіў час прапагандыста пры апекаванні сапраўднага сябра — сакратара райкома Кіштымава. Дубовіч купаўся ў ласцы ў Янове, як сыр у масле.

А ў Моталі такіх заўзятых і бясконца адданых дыктатуры пралетарыяту людзей заставалася таксама нямала. Яны гатовы былі ў любы дзень і час засведчыць сваю адданасць новаму ладу і, калі можна, паўплываць на падзеі, паскорыць набліжэнне камуністычнай прышласці.

Да іх належалі перш-найперш былыя беззямельныя ды беспрацоўныя местачкоўцы, якіх улада надзяліла зямлёй. Не кожын з іх ведаў, праўда, што з ёю рабіць, які імпэт і якая праца патрэбны, каб зямля радзіла. Таму і ўспомнілі пра калгас. Ва ўтварэнні калектыўнай гаспадаркі бачылі яны як не адзінае, вынайдзенае бальшавікамі рашэнне праблем. І кінуліся нявопытныя і нягеглыя гаспадары запісвацца ў кааператыў. Пятро Пісарчук бачыў, як проста на вачах у яго нараджаецца новая хмара; яна ўздымалася і пагражала іншым гаспадарам, шчырым, упарцістым, хто, як ён, уласна, умеў і любіў працаваць на зямлі і каго цяпер усяляк адціралі, падвяргалі ганенням.

Ілля Дубовіч, наадварот, адчуў радасць, калі даведаўся пра пачын сваіх землякоў у стварэнні калгаса. Праўда, у

ягоных пачуццях была не адна радасць, было і засмучэнне. Яму здавалася, што там, у мясцовай палітыцы ў Моталі мела быць выключна ўдалая акцыя, ад якой ён застанецца ўбаку. Яму зайздросна рабілася. Але зусім нечакана для яго і, вядома ж, мотальскіх закапёршчыкаў калгаснага чыну, Іванаўскі (цяпер так зваўся раён) райкам партыі не ўхваліў пачын, ён прызнаў распачатую акцыю па ўтварэнні калгаса дачаснай, як што гаспадары да яе ніяк не падрыхтаваны. Матыў для адмовы, вядома, быў слушны. Але дзеля праўды зазначым: тут спрычынялася яшчэ і апаска, каб заўзятай калектывізацыяй не выклікаць бунт заможных сялян, бо дзе-нідзе па хутарах і так ужо ўтвараліся варожыя савецкай уладзе групоўкі з мясцовага люду. У афіцыйных савецкіх дакументах яны праходзілі па табелю банд. І гэты не названы ўладай палітычны матыў, бадай, быў асноўным.

Пятро Пісарчук пастаянна сачыў за развіццём падзей і бачыў за імі сілу, якой асобнаму чалавеку або нават народу процістаяць немагчыма. Той факт, што, сустрэўшыся на старой польскай мяжы каля Брэста, арміі Гітлера і Сталіна наладзілі сумесны парад, паказваў на двухбаковую дамову, прыхаваную дыпламатамі. Пятру неаднаразова прыгадваўся сон: там, у Спораўскім лесе, крыважэрны цмок чакае з нецярпеннем сустрэчы з Гітлерам, і для яго відавочным рабілася, што ў тым сне было прадвызначана штосьці рэальнае, што яшчэ, можа, не цалкам спраўджана. Вайна з фінамі, рэха якой чулася і тут, лішні раз засведчыла пра вышэйшыя стратэгічныя разлікі асобных правіцеляў, у якіх народ нічога не цяміў. Здзек — не што іншае — чыніўся пры саветызацыі заходніх зямель Беларусі, пры прававой падгонцы былых крэсаў да рэжыму на ўсходзе, і няма табе спакою ва ўласнай хаце, як што сядзіба і хата пазбаўлены недатыкальнасці. І няма ладу на ўласнай зямлі, бо што б цябе з ёй ні лучыла, заўтра ад цябе яе адбяруць. І няма пры табе нічога такога, пра што было б засведчана рэжымам, што гэта тваё. Голым яны цябе бачаць, голым бяруць і голым на той свет спраўджаюць. Для злыдняў народ — маса цел. Маса і маса. Няма асоб, і пра тое, што ты меў, што насіў у душы, нікому няма справы. У гэтым адметнасць пралетарскай дзяржавы ды сутнасць улюбёнай люмпенізацыі насельніцтва. Саветы падначалены партыі і партыйным чыноўнікам. Скрозь, па ўсёй неабсяжнай краіне, — гвалтоўніцтва і страх!

Пятро Рамановіч пераканаўся ў гэтым яшчэ раз, калі атрымаў ліст ад старэйшага брата Нічыпара, які жыў у Расеі. У свой час Нічыпар скончыў універсітэт у Санкт-Пецярбурзе і працаваў адвакатам. Пакідаючы ў Моталі невялікую бацькоўскую хатку на брата, ён адпісаў Пятру і свой кавалак зямлі. Апошні раз браты сустрэліся ў 1920 годзе ў Саратаве. У іх поглядах на будучыню не было пэўнасці, але Нічыпар ухваліў намер Пятра разам з сям'-ёй вярнуцца на радзіму, гэта значыць, у Моталь.

Цяпер найвопытны адвакат Нічыпар Рамановіч амаль нічога не пісаў пра сябе, апроч таго хіба, што жывы-здаровы, працуе ў дзяржаўнай установе... Нічыпар яшчэ насіў у сваім сэрцы нейкія радзінныя пачуцці да Пятра і, ведаючы, што чыніцца ў Заходняй Беларусі, палічыў за свой абавязак папярэдзіць, а перадусім паспачуваць яму і адначасова як бы наставіць на розум брата, які быў уласнікам.

*«Пятро, я здагадваюся, якое замяшанне пачуццяў можа быць у тваёй душы, калі ламаецца адзін парадак у свеце і ўсталёўваецца зусім іншы, няхай «самы лепшы». Я знаю, што ў такі пераходны перыяд ламаюцца лёсы людзей і нічога не варты ні грамадзянскае права, ні самое жыццё. Таму і раю табе, братка, не журыся пра матэрыяльныя рэчы — яны набытныя, дарма што з твайго мазаля... Ёсць штосьці большае. Таму і раю: не журыся пра зямлю, з якою як селянін, ты, напэўна, зросся і таму шкадуеш. Над усім гэтым узвей, уздыміся. Плюнь з горыччу ды забудзь! Не журыся ні пра што. Думай, братка, пра сям'ю і сябе, тады, дасць Бог, і да жыцця зноў вернешся.*

*Дзіўна, скажаш, пішу? Прабач... Sapienti sat. Для мудрага дастаткова. А то як гэта яшчэ ў нас там завецца, калі ў кроснах лішняя нітка? А-а... Лычна нытка — палатну завада. Паклон Аксінні, гэта ж я ад яе пра тую нітку чуў.*

*Заставайцеся здаровы! Нічыпар».*

Ліст быў без адраса адпраўніцеля, і гэта, як абарваная сардэчная нітка, выклікала непакой і палохала, прынамсі, не меней, чым навіна пра тое, што кагосьці ў Моталі зноў заграблі. Ужо калі брат не асмеліўся напісаць свой адрас, значыць ваяры камуністычнай цемры ладзяць сабе баль скрозь. Па ўсёй Расеі... Па ўсім СССР.

Гэту думку, выказаную Пятром у сваёй хаце, ніхто не аспрэчваў. Але толькі, пры ўсім журботным настроі і суме, які выклікаў змест ліста, ён быў падзеяй у сям'і Пісарчукоў.

— Суцяшае... Але і то добра, што брат вестку падаў...

— Бачыш, — сказала Аксіння, — калі хата гарыць, не канешне кідацца ў полымя. Не проці ночы будзь сказана...

Пятро ацаніў заўвагу жонкі:

— Гэта так... І нікому не хочацца быць жабраком.

— Вядома, з нас хапіла б і таго, што мы зазналі ў бежанцах. Няхай Бог крые!

— Здаецца, што Богу цяпер не да нас. Ці ж ён пачуе кожнага?

Маня найчасцей моўчкі слухала падобныя разважанні дарослых, а тут не вытрывала:

— Дзедусь а дзедусь! Бог жа аднойчы пачуў нашы просьбы... Калі мы прасілі за татку! Помніш?

— Ай сапраўды! — дзед усміхнуўся, і цеплыня ў яго шэрых вачах набыла сіняватае адценне: — Вуснамі дзіцяці прамаўляе ісціна!

Папіўшы сырадою з белай эмаліраванай конаўкі, Маня пайшла спаць. Перад тым як залезці ў ложак пад коўдру, яна заглянула яшчэ ў кут, дзе стаялі яе чобаты і горбіўся вандзэлак з сухарамі і некаторымі рэчамі гардэробу. Пры гэтым дзяўчынка як бы прадумвала свае магчымыя рухі і дзеянні на выпадак, калі ноччу загрукочуць у дзверы і пададуць каманду: у тры хвіліны сабрацца! Тады не будзе часу на роздум.

Такія ж вандзэлкі, абутак і цёплае адзенне, дарэчы, трымаў напагатове кожны ў гэтай сядзібе: дзед і баба, яе дзядзька Паўлюк і цётка Зося, маці і яна сама. Малодшай дзятве вандзэлкі пакуль яшчэ былі не па сіле.

Ужо пад коўдрай яна прыгадала лёгкі, жывы і прыемны момант, калі ўсёй сям'ёй яны ладавалі на кухні пасылку для радні, што азвалася з Казахстана і прыслала вестку адтуль. Пісала Маніна стрыечная сястра — дачка Баябы і Мар'і — Улляна. Там, за колькі месяцаў не было яшчэ дня, калі б яны не адчувалі сябе галоднымі. Яно і зразумела: не на святочны стол іх туды запрасілі. Не было там у іх ні яды, ні вопраткі.

У пасылку складвалі, прыціскаючы адно да аднаго, парэзанае брускамі сала, павэнджанае мяса, колцы сваёй дамашняй каўбасы... Маня напісала ліст пад дыктоўку бабулі Аксінні, якая сама ўжо пабачыла ў жыцці нямала. «Не сумуйце, пісала яна, свет шырокі, і ўсюды жыць можна». А ўжо ж...

Маня засынала, прыгадваючы тыя мілажальныя словы ліста, калі ў двары нешта стукнула, як бы штосьць цяжкое звалілася на снег. Яна насцярожыла слых: ці не пачуюцца чые-небудзь крокі?.. Аднак ціха было. І не вядома чаму, але па целу ў яе пайшлі дрыжыкі. Маня пачала суцяшаць сябе, што няма страху, дакладней, падстаў для яго, маўляў, ніхто не грукае ў дзверы, толькі сэрца дрыжала, бы ў ліхаманцы. Акурат на гэтыя дрыжыкі і лёг успамін.

Было тое колькі год таму. Улетку на світанні да іх на кухню патрапіў местачковец Зміцёр: «Не ў гэтай хаце будзь сказана, калі я крочыў каля сядзібы Малыцькаў, смерць скакала цераз плоткі. Нядобры знак. Відаць, у іх нехта памрэ».

Паведамленне так і ўліпла ў дзіцячую душу і прымусіла дзяўчо сцепануцца. «Смерць скакала цераз плоткі!». А якая ж яна?.. У наступную ноч Маня прачнулася і, адхінуўшы фіранку, зазірнула ў вакно. Яе крык разбудзіў увесь дом.

— Што з табой, Мар'я? — кінуліся да яе маці і іншыя.

— Там, за вакном, смерць стаіць!

— Што ты кажаш?!

— Дзе ж яна?..

— Гля, а там нічога няма!

Насілу супакоілі малую, якая, па прычыне сваёй уражлівасці, вялікай цікаўнасці і вольнай гульні ўяўлення, магла пералякаць сябе і іншых.

І цяпер гэтакі ж страх падступаў да яе.

Намагаючыся зразумець нешта ў свеце, Маня не адразу заснула.

## 22

Новае лета ў сядзібе Пісарчукоў прайшло адносна спакойна, як што гвалтоўная высылка ў дзікія стэпы Казахстана нікога з іхняй сям'і пакуль не закранула і ніхто больш не дамагаўся ад заможнага гаспадара Пятра тае тайны, дзе яго старэйшы сын, або ад Паўлюка — дзе яго брат, ад Ганны — дзе муж Барыс. Гэта імя цяпер у сценах іхняга дома гучала не часта, тым не менш, усе, пачынаючы з Аксінні і канчаючы Маняй, насілі яго ў сабе разам з воблікам такога роднага і блізкага, жывога і дасціпнага чалавека, і ўсе падзеі ў сядзібе далей мелі развівацца як бы пад знакам прысутнасці, калі не чыннага ўдзелу, Барыса.

Ну, а яму на чужыне — час пра гэта сказаць — мала што і адыходзіла. Праўда, пакуль ваяры нашы ў лагеры былі ў якасці ваеннапалонных, кожнага з іх прыгнятала няпэўнасць і спрошчанае, як не жывёльнае існаванне. Без добрай ежы. Без асэнсаванага занятку і працы. Без мэты і хоць колькі акрэсленай перспектывы. Прусія прыняла і невядома, чаго чакала цяпер ад іх, вязняў ваеннага часу. Неўзабаве, аднак, з'явіўся нямецкі афіцэр і праз перакладчыка пачаў тлумачыць, што беларусы, узятыя ў палон на тэрыторыі Польшчы, маюць за сваю радзіму цяпер не Польшчу, а Савецкую Беларусь і ўвогуле — саюзную Трэцяму Рэйху дзяржаву — СССР. Вядома, што Германія будзе мацаваць дружбу і ўсялякае там супрацоўніцтва з савецкай краінай, таму ёй не выпадае трымаць тут, у лагеры, ураджэнцаў Беларусі і Украіны. З гэтага дня кожнаму, хто выкажа такое жаданне, даецца магчымасць выехаць на сваю радзіму. Кіраўніцтва лагера мае даручэнне скласці спісы рэпатрыянтаў і адправіць усіх цягніком.

— Гут! Гутэн шон, герр афіцэр!..

— Эвой, як добра! — асмялеўшы і хапіўшы натхнення, умомант адрэагавалі воклічамі некаторыя з ваеннапалонных.

— Данке, данке шон, адным словам!..

— Ура! — вырвалася з грудзей у некатарых.

І гэты рэй адлюстроўваў агульны настрой натоўпу, дакладней, выстраеных у шарэнгі зняволеных, былых жаўнераў польскай арміі.

Неўзабаве ж сапраўды склалі спісы і наладзілі першы эшалон патрыётаў Бацькаўшчыны, знітаваных радзіннымі і сваяцкімі ніцямі з роднай зямлёй, палучаных духоўным вопытам з гісторыяй і культурай шматпакутнай зямлі — Беларусі.

Барыс Рамановіч заставаўся ў спісах на другі эшалон. З ім разам чакаў сваёй чаргі і яшчэ адзін маталянін — Андрэй Мацукевіч, спакойны, роўны на выяўленне характару ды адкрыты па натуры чалавек. Дзякуючы бацькоўскай апецы, яму за польскім часам удалося вывучыцца на тэхнолага па перапрацоўцы малака і ён працаваў у Мотале на млячарні, дзе выраблялі сыр і масла. На чужыне Андрэй моцна сумаваў па родным кутку і па справе, у якой увасаблялася яго чалавечая годнасць. Нямала чаго добрага, мілага сэрцу пакінуў там і Барыс. Таму мотальская ява і памяць аб ёй, агульныя размовы і разважанні

спрыялі таварыскім шчырым адносінам маладых нявольнікаў. Апроч іх у лагеры ваеннапалонных былі, праўда, і іншыя — сяляне з брэсцкіх ды пінскіх абшараў.

Калі гурт з першага маючага быць эшалону пакідаў лагер, Барыс Рамановіч напісаў кароткі ліст, акуратна вывеў на ім мотальскі адрас і, адшукаўшы у тым гурце земляка Антона Малайцэвіча родам з-пад Драгічына, папрасіў яго аб ласцы: калі вернецца дадому, завітаць у Моталь, знайсці сядзібу Пісарчукоў і перадаць ягоным бацькам або жонцы пісьмовую вестку, наказаць, каб чакалі.

Малайцэвіч у самым добрым настроі і разліку на ўдачу пагадзіўся гэта зрабіць.

Прайшло два тыдні — часу дастаткова, меркаваў Барыс, каб яго сям'я ўжо атрымала з рук Малайцэвіча напісаны ім ліст. Ніхто, аднак, не мог паведаміць Барысу, што там атрымалася і як далёка ад дому цяпер Малайцэвіч.

А неўзабаве пасадзілі на вайсковыя машыны і другі гурт рэпатрыянтаў, калонай адправілі ў Кёнінгсберг, горад дзіўнай готыкі, дзе чакаў іх цягнік; размеркавалі па вагонах, і вось-вось павінна была прагучаць каманда аб яго адпраўцы. Але цягнік стаяў, і чаканне доўжылася. Урэшце, усім прапанавалі пакінуць вагоны і сабрацца гуртам, бы на нейкі сход. Няпэўнасць і трывога перараслі ў вострую цікаўнасць, дрыготкае ўзрушэнне і, калі знаёмы ўжо па лагеры нямецкі афіцэр абвясціў, што планы на іх адпраўку мяняюцца, узрушэнне абярнулася агульным расчараваннем, збянтэжанасцю, для каго-нікаго нават адчаем. А прычынай таму было тое, што савецкі бок адмовіўся прыняць гэты эшалон з ваеннапалоннымі, другі па ліку...

— Уга!

— Ай... Цьфу!

— Ліха матары!..

— Вось табе маеш!

— З гэтага моманту, — казаў афіцэр, — вы болей не з'яўляецеся ваеннапалоннымі нямецкай дзяржавы, як што ваенны камісарыят адмяніў гэты статус для вас і даў вам волю. Цяпер думайце самі, што рабіць далей. Скажу болей, — дадаў ён, — у нас ёсць звесткі, што адпраўленыя намі з першым эшалонам ваеннапалонныя пакуль яшчэ не трапілі на радзіму, дзе па іх сумуюць родныя і блізкія. Эшалон пайшоў у Расею.

— Гм?..

— Што вы кажаце?!

Апошняя вестка, як цэбар халоднай вады на галаву кожнаму. Яна астудзіла ахвоту да маючых разгарэцца спрэчак наконт няўдачы пры адпраўцы іх цягніка. Некаторых, наадварот, гэтае паведамленне вызваліла ад інтуітыўнага прадчування сваёй асабістай няўдачы, бяды пры вяртанні на радзіму, і яны з палёгкай уздыхнулі. Да іх адносіўся і Барыс. Грамадзе ў тэрміновым парадку давялося пераадольваць шчасны настрой на хуткае вяртанне дадому ды мяняць, а, дакладней, ліхаманкава шукаць і выстройваць новыя планы наконт асабістага ўладкавання жыцця на чужыне, у Прусіі. Немцы прапанавалі некалькі варыянтаў працоўнага занятку. Па праўдзе, занятак выбіралі ўжо не столькі нашы паняволеныя ваяры, колькі нашых ваяроў — розныя прамыслоўцы і гаспадары, спаважныя дзядзькі з адзнакай годнасці ў кожным руху; «купцы» прыклейваліся вачыма да кожнага.

Барыс Рамановіч патрапіў да фермера, які выштукаваў сабе сядзібу непадалёку ад Кёнігсберга і вёў мяса-малочную гаспадарку. Андрэю Мацукевічу пашанцавала ўладкавацца на млячарні ў самім Кёнігсбергу і такім чынам дапасці да ўлюбёнай прафесіі. Увогуле, большасць нявольнікаў знайшлі для сябе прытулак і працу ў гэтым вялікім прыморскім горадзе. Разыходзячыся, яны стараліся пакінуць адзін аднаму адрас для зносін, сустрэч, ці проста на ўсялякі выпадак. Толькі не багата і часу прайшло, як высветлілася, што ў зносінах яны маюць пільную патрэбу. Асноўныя цяжкасці для іх былі ў тым, каб авалодаць чужой мовай, — бо тлумачыць на мігах свае ўчынкі, жаданні, патрэбы рабілася чыстым выпрабаваннем. Цягнула да сваіх, карцела абмяняцца думкамі, атрымаць маральную падтрымку, блаславенне ў нейкіх справах. Карацей, усё вяло да стварэння імі свайго клуба, сваёй суполкі і, калі гэта ідэя нейкім чынам дайшла да Андрэя Мацукевіча, ён не толькі ўхваліў яе, але і падказаў таварышам чалавека, здольнага на пасаду галавы; вядома, гэтым чалавекам быў Барыс Рамановіч, якому ў адукацыі, асабліва ў веданні моў, у тым ліку нямецкай, цяпер не было роўных сярод беларусаў. Мала таго, ён насіў у душы сваёй скарб — шмат добрых якасцей, умеў падысці да любога і кожнага і зразумець чужы інтарэс, клопат, а то, глядзі, і боль небаракі-суайчынніка, таго ці іншага, дагадзіць, паспрыяць, памагчы чалавеку. Што-што, а гэта — у руку.

І яго неўзабаве выцягнулі ад фермера ў горад. На сходзе ўпаўнаважаных, што прадстаўлялі розныя дробныя групы былых ваеннапалонных, яму прапанавалі ўзначаліць аб'яднанне самапомачы. Адмовіцца ён не мог, дый праца была акурат па ягоным характары. Атрымалі ад уладаў афіцыйнае прызнанне сваёй арганізацыі, памяшканне, пячатку, і цяпер ён станавіўся за брата і бацьку для кожнага свайго ваяра-беларуса ў эміграцыі, наводзіў між імі масты і кантакты, чыніў перамовы з адміністрацыяй прадпрыемстваў, калі таму ці іншаму сябру самапомачы лучыла памяняць месца працы; нарэшце пачаў рэгістраваць шлюбы — жыццё скрозь любіць поўніцу.

Толькі ў Моталі яно, ускаламучанае, боўталася ў ранейшых сваіх берагах, на якіх карчавалі дубы. Без пільнай на тое патрэбы.

Для чыннага гаспадара Пятра Рамановіча часам сну не было, і ён выходзіў ноччу на вуліцу, услухоўваўся ў прытоены шоргат зямлі, у дыханне жывёлы ў сядзібе, у лёгкі плёскат вады на возеры і іншыя праявы жыцця; углядаўся ў глыбокае аквамарынавае неба, выспелае яркімі гронкамі зорак ды залітае роўным малочным святлом. І што яму часам у галаў прыходзіла: святло гэта ліецца, як з-пад парасона, на ўсю паверхню зямлі, асвятляючы прастору адсюль да казахскіх стэпаў, адтуль — да Кёнігсберга, і, калі б собіла яму, Пятру, глянуць з месяца, на зямлю, льга было б убачыць сваіх родзічаў і блізкіх, сваякоў і аднавяскоўцаў скрозь-скрозь, ад Казахстана да Прусіі, дзе яны толькі ёсць, сына ўбачыць, які, відавочна, пакутуе на чужыне. А яшчэ адтуль адкрылася б воку дзіўным дзіўная карціна, якая нават у сне не кожнаму вар'яту прысніцца, а тым не менш, усё, як на яве: ніва, шырокая ніва — на ўвесь кантынент, дзе жыта, пшаніца, дзе лён, дзе зрэдку каноплі, з якіх вырабляюць вяроўкі, а дзе проса ці бульба — што хочаш, сабе! Усё пасеянае ідзе ў рост, красуе, спеліць, радуе вока, а побач скрозь гурты кароў, коней, авечак... Любы воку пейзаж! І гэта ўсё расце, прырастае, набірае вагі не само па сабе, а праз мазоль — працу сялянскую, уедную, шчырую, праз вопыт душы земляроба, вопыт, назапашаны ў пакаленнях. На гэтым выгадаваны людзі — усё чалавецтва, і час вылучыў з яго асяродку адмысловых майстроў, якія спасціглі таямніцы жывога і паразумеліся з глебай. Больш за тое, валодаючы зямлёй, яны адчуваюць на сабе яе мацярынскую ўладу, ад якой не ўбярогся і ён, Пятро Рамановіч, таму і не ўяўляе сябе без улоння, пчол,

гаспадаркі, зямлі... У самавітых гаспадароў прыбытак, канешне, заўжды душу лагодзіць і радуе — шчасце часам само ідзе ў руку. Менавіта на іх ад веку трымалася моц і сіла зямлі, і яны былі апорай дзяржаве, той апорай, без якой ні лёсу ў яе, ні талану.

Вось так, стоячы ў самоце пад раскідзістай яблыняй, што ўзвышалася над сялянскай сядзібай, разважаў гаспадар Пятро Рамановіч, па-вулічнаму Пісарчук, паўнамоцны прадстаўнік Зямлі аблюдзянелай і, напэўна, чуйнага Космасу, куды сягаў сваёй думкай, і дзе быў духам сваім.

Ён углядваўся ў сіняе неба, што зіхцела мірыядамі вочак, ясных, нічым не замглёных, і, ужо перанёсшыся быцта туды, у Космас, глядзеў адтудь, з вышыні, на зямлю, залітую крыштальна чыстым святлом месяца. Эге-е! Што цяпер яго ўражвала і жахала адначасова? Па ўсёй прасторы былой Расейскай імперыі, дзе спеліла ніва, мітусіліся людзі, узброеныя, апантаныя нейкай дзікунскай ідэяй; яны выцягвалі самавітых, заможных сялян з іхніх сядзібаў, не раўнуючы, як суслікаў з нор у стэпах, знявольвалі і вывозілі ў цягніках на ўсход, на поўнач, напаўнялі імі мясцовыя вязніцы. У выніку на асветленай месяцам прасторы, асабліва па яе ўскрайках, з'явілася безліч пляцовак, казённых дамоў і баракаў, акаймаваных калючым дротам. І там, вырваных з чалавечага быту сялян ды іншых прыстойных, але змардаваных грамадзян краіны, больш не лічылі за людзей, а людзьмі заставаліся тыя, хто чыніў уціск, гвалт і здзек. Усіх, хто яшчэ пыніўся на ніве, таксама гуртавалі ў своеасаблівыя працоўныя лагеры, абшчыны, кааператывы і штодня даводзілі ім, што рабіць, пра што думаць, на каго маліцца. У адрозненне ад першых больш строгіх лагераў, гэтыя ўжо не агароджваліся дротам і называліся інакш — калгасамі, часам — камунамі. І вось, дзякуючы ўсялякім камунападобным загонам, краіна ператварылася ў густую, суцэльную сетку працоўна-выпраўленчых пляцовак, дзе, накшталт яўрэйскіх гета, выпраўлялі, як правіла, душу, мазгі, і селянін страчваў зямлю, а зямля — селяніна, самавітага гаспадара, свайго рупліўца, дзе далей болей і глеба шэрхла, пакрывалася быльнягом, струпянела.

Во на гэтакай ніве і меў расквітнець новы, дзіўны, не тут будзь сказана, д'ябальскі лад у дзяржаве. Толькі ж назву прыдумалі як бы прыстойную: сацыялістычны лагер!..

Ад выразнай думкі і яскравага ўяўлення батальнай карціны пад нявінным, мяккім і празрыстым святлом

месяца, ад неверагоднасці і дзікунства таго, што рабілася, яго працяў сум і страх; небараку Пятра скалатнула ад холаду.

Гаспадар наважыўся ўжо вярнуцца ў хату, як уяўленне выцягнула са сховаў памяці сон, зноў той сон, у якім зла-весная постаць, што ператварыла найвялікшую ў свеце дзяржаву ў процьму лагераў і выштукавала з жывога, твор-чага люду, бадай, адзіную паняволеную масу, а дзеля чаго — невядома, — сядзела ў лясным прагале, і на той прагал собіла выйсці Пятру. Ягамосць сядзеў і, пыхкаючы табач-ным дымам, чакаў другога пярэваратня, які, мусіць, ні ў чым не хацеў адстаць ад гэтага і самахоць выдаў прагра-му дзеянняў, пад непрыхаванай назвай — «Mein kampf», а там, мяркуючы па водгуках дасведчаных людзей, — такса-ма д'ябальскія эксперыменты над паняволенымі людзьмі. Найвышэйшым дзяржаўным асобам, драпежным і хцівым, лучыла дамовіцца аб узаемнай чыннасці.

Першы з іх любіў вострыя жарты, таму карцела яму паглядзець, як на Пятру сялянская світка будзе гарэць. Цьфу на цябе, нячыстая сіла! І навошта гэтакі сон чалаве-ку? Час прайшоў, а сон усё непакоіць.

Нябеснае свяціла неўзабаве схавалася за лахманамі воблакаў. Зоркі пераліваліся чырванаватым і белым свят-лом. Бы тыя вугельчыкі пад подыхам ветру. Ці не ад іх прыкурваў, зрываючы з неба і кладучы ў сваю трубку, той лясны госць, бо надта ж гонару было ў ягонай паставе.

Пятро вярнуўся ў хату і лёг спаць, хоць ужо недалёка было і да другіх пеўняў, за якімі заўжды пачынаўся світа-нак. І ён не прымусіў сябе доўга чакаць.

Знешне дзень нічым не адрозніваўся ад цугу дзён, якія чалавекам ужо былі выпрацаваны, зжыты. Гаспадарка патрабавала ад селяніна рупнасці адпаведна пары года, і тое, што ён рабіў, было і звычным і заўсёды новым — усё ішло за сонцам па кругу, усё ў рытмах згасала і зноў на-раджалася. Зіма хутала зямлю ў белую коўдру. Лета да-вала ёй магчымасць расцвісці, адкрасаваць, наліцца спе-лым коласам. І, як заўжды, у садах — яблынны Спас. Ён выстаўляў, бы ў кірмашовы дзень, на ўсе бакі, наўкруг, процьму сакоўных пладоў, налітых, бытта начыненых про-мнямі сонца. Прырода давала селяніну найвыдатную маг-чымасць разам з ёю тварыць жывое, працаваць у ахвоту і жыць, далібог.

У мястэчка Моталь пакуль яшчэ не дайшлі калгасы, толькі, ведаючы, што рана ці позна, так ці інакш, але гэта

ліха не абміне іх мястэчка, гаспадар Пятро рабіў з імпэтам, да якога дамешваліся сум, горыч і насцярога. Ён стараўся не збівацца з працоўнага рытму, хаця ў ягоным настроі ўжо было меркаванне пра тое, што ён жыў, жыве, нібы гонячы астатнюю ў сваім жыцці баразну, пасля якой, можа, нічога не будзе.

Ён парадкаваў у пуні, рашуча адкідваў віламі ўбок леташнюю салому, збіраў граблямі яе рэшту. Рабіў гэта, каб вызваліць месца, як уяўлялася ў думках, святое месца для збажыны гэтага года. Момант раўналежны святу. Да саломы прынюхваўся і шукаў у ёй сваё паляўнічае шчасце кот — пестунец ягонай унукі Мані. Россыпам пікіравалі сюды і вераб'і, хоць прысутнасць ката не дазваляла ім спакойна паскакаць, разгарнуцца, наладзіць тут у гаспадара Пятра сапраўдную птушыную экспертызу: ці чысты ток, ці прыспеў час завозіць і размяшчаць на ім новую збажыну?

Пятро кешкаўся ў пуні нядоўга, вывеў са стайні і запрог у калёсы каня, які бадзёра ўздымаў голаў і нецярпліва пераступаў з нагі на нагу — любіў, шэльма, палявую прастору! Над імі нізка кружыліся ластаўкі, палюючы, пэўна, на размаіты гнюс, ад якога буланы адбіваўся хвастом.

У шчэбеце ластавак чулася своеасаблівае вымаўленне то асобных кароткіх, гартанных гукаў, то лагодны рэчытатыў, утрапёны і ў нечым асэнсаваны аднachасова; гэты шчэбет наталяў душу мілажальнасцю.

На палеткі пад Замошшам — адлегласць, пяці вёрст няма. І не паспела адступіць і схавацца з відавоку панарама мотальскіх будынкаў, як паказалася зялёная хрыбціна замошынскіх прысад. Злева ад палявой дарогі, трохі не даязджаючы да вёскі, і ляжалі палеткі Пісарчукоў. Зводдаль, з супрацьлеглага боку, адкуль на ранку паказвалася сонца, уздымаўся сіняй замглёнай сцяной лес.

Летась на гэтых палетках добра ўрадзілі грэчка і бульба, сёлета, праўда, азімае жыта мае даць намалот блізка 120 пудоў з гектара, але ж гэта не самае лепшае, што Пісарчукі раней тут збіралі.

У жыце паказаліся жаночыя белыя хусцінкі; там працавалі гаспадыня Аксіння разам з нявесткамі Ганнай і Зосяй. Яны жалі. Сын Паўлюк лоўка круціў перавяслы і вяз..ў у снапы пучкі зжатага жыта.

За кустамі вербалозу конь звярнуў на пожню. Пожня, ламаючыся, стракатала пад калёсамі і капытамі каня. У

паветры стаяў пах зямлі, свежай зжатай саломы і палявога зелля, валошкі, роснага ўюнка...

Неўзабаве галовы жанок у збажыне прыўзняліся і прыйшлі ў хаатычны рух, што здзівіла Пятра. Ён пад'ехаў бліжэй і ўбачыў жніц, якія, пакідаўшы сярпы, мітусіліся каля яркай хусцінкі ў сіні гарошак, яна належала Мані. Пятро саскочыў з воза і прытрымаў каня. Унука стаяла збялелая і ледзь стрымлівала слёзы. Ганна спрытна перавязвала Мані мізінец на левай руцэ. Убаку, на шчэцці саломы, валялася крамніна, ад якой яна адарвала пасак. Ірдзела кроў на асобных сцяблінах пожні, пралітая кроплямі.

— Што здарылася? — спытаў — не спытаў, а хутчэй выдыхнуў непатрэбныя словы дзед Пятро, як што надарэнне было зразумелае: Маня жала сярпом і...

— Парэзалася, — сказаў Паўлюк; ён стаяў побач, не выпускаючы з рук скручанае перавясла, і няпэўны, ці да месца будзе, пажартаваў: — Асвяціла сваёй крывёю ніву. Цяпер каравай святым будзе!

Зося пільна паглядзела на гаваркога мужа: ці не скажа ён якога глупства яшчэ. Але — не...

Дзед правёў далоняй па Манінай галоўцы:

— Не бойся, унучка, не перажывай!.. Напалохалася?

Дзяўчынка маўчала. Першы раз яна бачыла ўласную кроў...

Ён глянуў на Ганну:

— Глыбока?..

— Не-э... Шырокі парэз, але не...

Тут жа яму на вочы трапіла і Аксіння. На яе твары ляжалі трывога, віна і разгубленасць, яна перажывала за ўнучку, не меней за дзеда.

— А я ж цябе прасіў, Ксення: не бяры на жніво Мар'ю, ёй рана яшчэ...

— Хто ж яго ведаў. Прасілася... Адно ў руках спрыту няма.

Дзед Пятро -— чула Маня — ці не першы раз назваў яе па-даросламу — Мар'яй, і яна ўсміхнулася:

— Дзедусь, а мне больш не баліць!

— Ну і малайчынка ягадка дзяўчынка! А перапалох няхай ідзе ад нас на сухі лес, га? Сплюнь...

І Маня тройчы сплюнула:

— Цьфу, цьфу, цьфу!..

Ад гэтага моманту акурат усім лягчэй стала.

## 23

У Моталь з Пінска вярнуўся Данік Плюнгер, там ён скончыў чынную камуністычную школу. Зрэшты, чаму Данік?.. Чаму Плюнгер?.. У гэтым нашым местачковым жыцці скрозь, праўда, Яны, Іваны ды Янкі яшчэ... А да Багдана прышпілілася — Данік, вядома, з малалецтва. Але ж цяпер ён стаў дарослым, вылюдпеў, не раўнуючы, бы сапраўдны шляхцюк. За прозвішчам Плюнгер, як і ўвогуле за вулічнымі прозвішчамі ў маталянаў, хавалася таямніца, якую мала хто памятаў ці мог разгадаць.

Данік... Данік... Данік... Пайшло і пайшло, у свядомасць уліпла, зраслося з вобразам таго порсткага хлопчыка ў вынашаных зрэбных штоніках, босага, схуднелага, вочы якога заўсёды шукалі, дзе і чым пажывіцца. Шкадоба, паблажлівасць да мальца акурат і гучалі ў змяншальна-ласкавай форме вымаўлення ягонага імя з самых розных выпадкаў: Данік не начаваў дома... Данік ездзіў вярхом на суседскіх свіннях на поплаве... Данік вытаптаў трускалкі ў агародзе аптэкара Длугіна... Данік разбіў нос хаўрусніку... Ды ці мала якіх яшчэ прыгод вадзілася за хуткім у рухах і натарчывым хлопцам. Нярэдка ён быў завадатарам сярод сваіх аднагодкаў, вадзіў іх у лес, дзе шалапуты адчайна лазілі па дрэвах — шукалі ў гнёздах дзівосныя птушыныя яйкі; узімку ладзіў разам з імі коўзалкі і калаўроты на лёдзе, на возеры, дзе была рэдкая магчымасць адчуць, уласна, лёт у прасторы, і пры гэтым рабілася так весела і ўцешна ад злякалага і адначасова шчаслівага піску дзяўчат. Чамусьці сэрца таяла ад цеплыні ды соладка заходзілася, калі ён вяртаўся з возера, а поруч з ім, лёгка мясіла нагамі скрыпучы снег на ледзь віднай сцяжыне і смяялася ўсё яшчэ ад уражанняў на калаўроце Юлька Жупанка, круглавідая і вабная, бы пышка з печы, істота. Яе бацька разам з бацькам Даніка часам хадзілі на сплаў драўніны, якую гналі з-пад Радостава па Дняпроўска-Бугскім канале, Мухаўцу, Заходняму Бугу ў Віслу.

Да Багдана цягнуліся аднагодкі, аднак працяглага сяброўства ў іх з гэтакім урвісам не складвалася, як што ён мала лічыўся з імі. Да таго ж, быў зайздросным і помслівым — што дзікая кошка. У пэўных варунках жыцця гэтыя рысы характару ў яго, дарэчы атрымлівалі сваё далейшае развіццё і зрабіліся дамінуючымі. А паспрыяла таму да-

лучэнне Даніка да камуністычных ідэй, калі ён стаў сябрам, а потым і кіраўніком дзеючай у Моталі падпольнай камсамольскай арганізацыі. Дэвіз: усё ўсім пароўну! — проста перавярнуў ягонае ўяўленне аб жыцці і падвёў, так бы мовіць, падмурак пад ранейшыя перажыванні з нагоды сацыяльнай няроўнасці ў свеце, калі бядняк жыў побач з багатым. Яму здавалася, што гэты дэвіз выведзены акурат з ягонага жыцця, і цяпер ён абарочваўся для Даніка шанцам завалодаць перспектывай у барацьбе за пераўладкаванне навакольнага свету. Ва ўласным ягоным успрыняцці камуністычны дэвіз агучваўся так: «Хто багацейшы і больш удачлівы за мяне — той не раўня, не друг і не брат мне!» Адсюль бачылася шмат ворагаў.

Але, каб паставіць жыццё на сваім — найпершая ўмова! — не адыходзіць ад прынцыпаў. А прынцыповасці яго навучылі — ого! — польскія жандары, калі раз-пораз бурылі саламяны дах на бацькавай хаце і паролі падушкі і коўдры ды ўсё, што ні пападзе пад руку. Прыведзены ў адчай і азвярэлы бацька Даніка Плюнгера, а ў ягонай сям'і было ўсяго пяцёра дзяцей, мусіў напісаць у паліцыю заяву, што ён адмаўляецца ад свайго сына — «чырвонага антыхрыста», маўляў, няхай ён адказвае сам за сябе.

Ад крыўды, жуды, абражанага гонару Данік сцяўся тады як стальная спружына. Прынцыповасць і жорсткасць утварылі ў ягонай душы як бы дзве рэйкі, па якіх рухаўся паравічок помсты. Да часу, аднак, гэты паравічок ніяк не мог набраць належны разгон... І варта было пахіснуцца і падацца польскаму акупацыйнаму рэжыму пры набліжэнні Чырвонай Арміі, як Данік з хеўрай кінуўся рабіць адмысловую класавую пагоду ў Моталі і бліжэйшых вёсках, вызваляць іх ад паноў і розных непажаданых элементаў. Праўда, не ён, а Ян Мацукевіч (Самарака) кіраваў ходам камуністычнай пераніцоўкі жыцця ў воласці. Той адкрыта патрабаваў затрымання і ізаляцыі ўсіх асаднікаў, гмінных, паштовых і іншых служачых.

Варожым аб'ектам нумар адзін лічыўся маёнтак Скірмунтаў у Моладаве, дзе знайшлі сабе прытулак адступаючыя жаўнеры і паліцыянты. Хаўрус, у якім лідыраваў асабіста Данік Плюнгер, асадзіў маёнтак і з пастаўленай задачай справіўся, праўда ўзброеныя жаўнеры ўцяклі ды застаўся панскі палац. Між тым жарсці ў сутычках дасягалі мяжы і загінулі двое маладых ваяроў.

У адказ апалчэнцы выбілі прыслугу маёнтка і забілі Генрыка і Марыю Скірмунтаў. Данік у тым расстрэле, які чыніўся за сценамі маёнтка, не ўдзельнічаў. Ён вагаўся, што рабіць з маёнткам, бо меў наказ выставіць варту і наладзіць вопіс маёмасці, прыцягнуўшы да справы гміннага пісара.

З душой, абмерлай ад хараства, і трывогай за гэта хараство, прайшоў ён па пакоях палаца. О-го-го! Дык вось дзе і як паны жылі, на якіх сподачках елі! Яго ўвагу ў сталовай прыцягнуў вялікі, на 12 персон, чайны сервіз, выраблены з чырвонага золата, і ім тут жа авалодала неадольная прага завалодаць гэтым трафеем. Азірнуўся і хутчэй пачуў, чым убачыў, што ягоныя хаўруснікі шукаюць здабычу ў іншых пакоях. Пачыналася сапраўднае марадзёрства, і ён не мог яму супрацьдзейнічаць дый, шчыра, не меў на тое ахвоты. Пот выступіў ад хвалявання на высокім і гладкім юначым ілбе. Баючыся пакінуць хоць на хвіліну сталовую, Плюнгер пакорпаўся ў шуфлядах шафы, дзе стаяў посуд, і знайшоў там штосьці шырокае і доўгае, бы радно, яно пералівалася барвовым колерам... Выйшаў на падворак з напакаваным вандзэлкам, спыніўся каля клумбы з кветкамі, паклаў яго каля ног і праразліва свіснуў, заклаўшы ў рот пальцы, маўляў, пара канчаць.

Ад сцяны часоўні аддзялілася знаёмая Даніку постаць: то быў мотальскі солтыс Клім Кузюр, свой чалавек для многіх, хто належаў да камуністаў. Солтыс быў бледны, і гэтая бледнасць не стасавалася з ягонай мажнай паставай.

— Я не знайшоў пісара ў гэтым бедламе, які распачаўся, — сказаў ён са шкадобай. — Але, бачу, не час і вопісам у маёнтку займацца, паколькі людзі загінулі — паніхіду трэба заказваць. Мне перадалі пра падзеі тут, і я прыслаў фурманкі, каб забраць целы забітых.

Данік маўчаў, зыркаючы то на солтыса, то на свой пакунак пры клумбе. Нарэшце, працадзіў праз зубы:

— Я згодзен з табой, Клім, і дзякуй за фурманкі...

А ў прагным позірку было іншае: «Ды знік бы ты з маіх вачэй, як і з'явіўся. Д'ябал!»

Клім зразумеў папярэджанне прыяцеля і памкнуўся ўнесці ў размову разрадку:

— А гэта, — кіўнуў на барвовы Данікаў скрутак, — пакладзі на маю фурманку і я завязу, куды скажаш. Не ў службу, а ў дружбу!

Сапраўды, яго прапанова — як падарунак лёсу, бо выстаўляць на паказ свой «трафей» было край небяспечна. Данік ведаў, чым рызыкуе, і абрадаваўся, але ж самалюбства яго ўсё роўна пакутавала і ён перш з горыччу сплюнуў, а ўжо тады ціха сказаў:

— Вязі, куды знаеш.

У наступныя дні Данікаў хаўрус выконваў ужо другую задачу: вылоўліваў прыцемкам або ўначы даўніх сваіх ворагаў — шчэльцаў — і чыніў расправу над імі. Помста набірала тут шалёны разбег. Сам Данік дзівіўся, як можна дайсці да такой асалоды ў здзеку, калі ахвяра курчыцца без уласных сваіх канечнасцей або іншых членаў. Чым ён тлумачыў гэта? Неабходнасцю вярнуць уласную годнасць, без чаго не было і няма сапраўднага барацьбіта за новы свет.

А барацьбіт — фігура каларытная, асабліва калі ўплішчыць у яго характар маталяніна: ці ў працы, ці ў помсце ён імкнецца зрабіць усё з толкам, фантазіяй, спрытам, інакш кажучы, каб не было сорамна перад уласным сумленнем. Між іншым, камуністычны ход падзей даў Плюнгеру і ўсяму ягонаму хаўрусу магчымасць адкрытых грамадзянскіх забойстваў у імя самаадчування сябе творчай асобай. Усе ворагі пралетарыяту павінны знікнуць, гэта адназначна, і няма як іх шкадаваць. Нехта лічыць забойства нядобрым знакам дый гатовы разглядаць яго як маральнае банкруцтва. А, зрэшты, чаму?.. Пра падзенне даводзяць... Дарэмна. У жыцці ўсё хістаецца, і тое «падзенне» ва ўзлёце. У прынцыпе. Калі б Данік быў філосафам, ён, пэўна, зазначыў, што глыбіня падзення суадносіцца з глыбінёй узлёту, але ж у абодвух выпадках ідзе творчы працэс. Немавед што тварылі польскія жандары, вывaрачваючы жытло рэбрамі да неба! І мы творым...

Аднак пракамуністычная дзейнасць Даніка зноў жа не прайшла паза ўвагай солтыса Кузюра. Таму пры сустрэчы на вуліцы ён параіў яму:

— Ажаніся ты, блазен, і дзіцё нарадзі. З жонкай разам... От тады мо цану жыцця спазнаеш!

— Ты, Клім, пра што? — не адразу дайшло да Плюнгера.

— Ці бачышся з Юлькай? — адказаў пытаннем на пытанне Кузюр і дадаў: — За мокрай работай табе часу не стае на дзяўчат. Дзівак! Хіба не? Самае салодкае — у іх!

Намёк Кліма Кузюра не спадабаўся носьбіту і абаронцу камуністычных ідэалаў, і Плюнгер, не доўга думаючы,

унёс прозвішча солтыса ў лік тых 80 арыштантаў, якіх паўтары тыдні трымалі за кратамі ў Моталі, перш чым вывезці ў Пінск.

Асаблівы здзек пераможцы чынілі з пісара гміны Мечыслава Ранахоўскага. Варта астрога, дзе месціліся тыя 80 арыштантаў, часта выводзіла яго да прыбіральні і прымушала выбіраць рукамі і выкідваць на двор свежы кал. Калі ж вязень адмаўляўся гэта рабіць, вартаўнік чапляў кал на калок і пхаў пісару ў рот. І ў тым, відаць, таксама была праява класавага падыходу да ворагаў камуністычнай прышласці. Маталяне і тут уносілі сваю творчую лепту.

Урэшце, калону арыштантаў пагналі на Пінск. Але толькі Данік дарэмна стараўся; там не ацанілі ягоных паслуг і ўсім вязням далі волю-вольную. Клім Кузюр, вярнуўшыся ў Моталь, зноў патрапіў на вочы Даніку.

Плюнгеру непамысна зрабілася: быццам бы з таго свету солтыс вярнуўся ў ягоныя ўладанні. Не было сумненняў, што Клім цяпер разгадаў намер любым чынам пазбавіцца ад яго і затаіў на Даніка пякучую крыўду. У такім разе солтыс Кузюр ужо не даруе яму, а ён жа ведае пра яго таямніцы і патаемныя сховы. Цяпер для Багдана, для яго прэстыжу і спакою ў жыцці, солтыс уяўляе павышаную небяспеку.

Данік Плюнгер захваляваўся і неяк надвячоркам зайшоў да Кліма дадому.

А Клім, пэўна скончыўшы нейкую працу ў пуні, сядзеў на мяху збажыны і пыхкаў цыгаркай. Яму мроілася спакойнае ўмеркаванае жыццё ў сваёй сядзібе пры кавалку зямлі, і ён не чакаў госця.

— А-а, вось дзе ты! — той паспрабаваў прыдаць свайму голасу радасць, але Кузюр улавіў у ім папрок, раздражненне, мусіць, з нагоды таго, што давялося шукаць гаспадара і валэндацца па сядзібе. — Ці жыў, ці дуж?

— Нічога, хвала Богу. Як ты? Мо скончыў ужо сваю мокрую справу?

— Ды не, Кузюр...

Данік — ногі цыркулем, рукі ў бакавыя кішэні курткі — само ўвасабленне пануючай дыктатуры пралетарыяту; а на твары непрыемная міна:

— Ты шмат ведаеш, Кузюр...

— І гэта цябе непакоіць?

У светлых вачах былога солтыса чыталіся святая прастата, цікаўнасць, дакор.

— Прастачком прыкідваешся?.. Хітры ты чалавек, Кузюр!

— Як разумець?

— З палякамі ладзіў... і нам у падполлі шкоды не чыніў, наадварот... Люду спрыяў, канешне... Таксама і цяпер рукі свае нічым не запэцкаў, ходзіш чысценькі, непарочны, як Дзева Марыя. Што ведаеш — усё ў мяшок упакавана і завязана да пары, да часу. Сядзіш на мяшку, як гад падкалодны...

— Ты што, Плюнгер, апамятайся! — Клім Кузюр падхапіўся на ногі і выплюнуў за парог пуні недакураную цыгарэту. — Чым я заслужыў гэтакую ўразу? Ад цябе, у якога яшчэ матчына малако на губах?..

— Нічога... Нічога дрэннага я табе не жадаў, і мы маглі б разысціся. Але, бачыш, цябе вярнулі з Пінска... Нічога, — Плюнгер адступіў на крок ад глыбістай, жывой, пругкай постаці, у сярэдзіне якой білася вялікае чалавечае сэрца. На заклапочаным ілбе ў Кузюра ад хвалявання выступіў пот, і ён цяпер, бадай, быў непрадказальны. Варта было спяшацца...

— Я прыйшоў, — зазначыў Данік, — каб сказаць табе некалькі слоў, але так, каб нават мышы ў пуні не чулі! Зойдзем за вугал.

— Давай...

І гаспадар нетаропка пакрочыў за сваю пуню.

— Я ж кажу, нічога дрэннага табе, Кузюр, не жадаў, — паўтарыў Данік неяк дзіўна, адчужана, за спіной у яго.

— Сабака ты...

І гэта былі апошнія словы Кліма, бо на іх якраз прыйшоўся шчаўчок курка і кароткі, нягучны выбух. Клім пахіснуўся, але ніяк не хацеў падаць. У боязі, ці што, Данік зрабіў яшчэ пяць нервовых выстралаў — у галаву, у патыліцу. Клім зваліўся, тым самым адкрываючы на гэтай зямлі вольную прастору яму, Даніку, моцнаму і слабому чалавеку, каторы глядзі што стаў прыладай пераніцоўкі жыцця ў Моталі на камуністычны капыл.

Толькі ж не паспеў Плюнгер сунуць у кішэню наган, як адчуў у цішыні і спакоі, што за ім сочыць нечае пільнае вока. Ён кінуў позірк на суседнюю пуню і аслупянеў, як што там, метрах у пяцідзесяці ад яго, стаяў у карычневай світцы стрыечны брат Кліма — Аксент Кузюр, абраслы шчэццю, калматы мужык; яны жылі побач.

— Во, бля... — міжволі вырвалася з грудзей Плюнгера, і, авалодаўшы сабой, ён прыклаў палец да вуснаў, затым паказаў кулак неспадзяванаму сведку.

На абмерлым твары Аксента нічога не адбілася; ён кіўнуў галавой... Аднак жа пагроза падзейнічала, і на Плюнгера ў далейшым ніхто не паказваў пальцам з нагоды смерці Кліма Кузюра, наадварот, сёй-той разносіў па мястэчку пагалоску, што да гэтага трагічнага выпадку прычыніўся Паўлючок, сын Пятра Пісарчука.

І вось пасля пінскай вучэльні зноў прынесла нячыстая сіла ў Моталь ці то яго амбітнага сына, ці вырадка — ніхто дакладна сказаць не браўся, а ён меў імя Багдана Плюнгера. І дзівіліся людзі: толькі 20 гадоў чалавеку, а што за пастава, колькі ўпэўненасці ў сабе і гонару за любую савецкую ўладу, якую так гожа ён прадстаўляе! — Данік пачаў працаваць пісарам у пасялковым савеце, а былы пісар Павел Раманчук цяпер стаў ягоным намеснікам. Данік, апроч таго, узначаліў па-новаму Мотальскую камсамольскую арганізацыю, дзе было шмат камунякаў, сапраўдных па светапоглядзе ды па настроі сваім. І Юлька Жупанка — гэта расцвіўшая кветка, таксама — туды ж: перш чым паехаць вучыцца ў педагагічнае вучылішча, яна ўступіла ў камсамол.

Мотальскі пасялковы савет цяпер узначальваў Мікіта Калілец, шчыры, абабіты працай на лясных промыслах чалавек, даўно размяняўшы свой шосты дзесятак. За саветамі пачаў працаваць фінагентам, а затым, пры вострай нястачы падрыхтаваных кадраў, наогул узначаліў мясцовую ўладу. Жалю варта, але патрэбнай граматы Калілец не меў, таму вялікай удачай для яго было з'яўленне ў Моталі адукаванага, спанатранага ў грамадскім жыцці вайскоўца — капітана Сяргея Калінічэнкі, які даводзіўся яму нават пляменнікам. Маючы шмат вольнага часу, капітан танкавых войскаў узяўся дапамагаць старшыні пасялковага савета, бескарысліва і шчыра, ён фактычна стаў для Калільца правай рукой, і ці трэба казаць, як усе яго паважалі і падпарадкоўваліся яму, як самому Калільцу. Шукаў спагады ў Калінічэнкі і Данік Плюнгер.

Пісар Плюнгер меў гонар служыць пад апекай гэтакай вабнай асобы, дзіўнай, як не легендарнай у тутэйшым кутку. Усе гэтыя дні і гады жыццё ў Даніка складвалася як мае быць ды галоўнае — мела нічым не замглёную перспектыву.

— Товарищ Плюнгер, — націскаў на першым слове танкіст Калінічэнка: — Подготовили ли вы списки на недоимку по молоку?

— Так точна! — па-ваеннаму, у лад «начальніку», адказваў спраўны пісар Данік і паказваў доўгі спіс, дзе ў графе нумар адзін фіксавалася колькасць членаў сям'і, у другой графе — колькасць кароў, у трэцяй — колькасць здадзенага малака... Супраць нядоімшчыкаў стаялі адпаведныя рыскі.

Памочнік старшыні, па звычцы перасмыкаючы вуснамі, хвіліну вывучаў паперу.

— М-да, — казаў ён. — Факт — ясней яснага: дзе багата дзяцей, там пастаўка кульгае. А вось у Рамановіча Пятра і Рамановіча Паўла пастаўкі перакрыты. Трэба меркаваць, гэта свядомыя савецкія людзі!

— Нікак нет, таварыш ка-а-а... м-гм... Сяргей Барысавіч, — спяшаўся выправіцца і патлумачыць пісар Данік: — Справа ў тым, што гэта заможныя і, бля, праз меру заможныя сяляне; у іх каровы добрыя, шмат малака даюць.

— Усё роўна, таварыш Плюнгер, іх стаханаўскі пачын варта было б падтрымаць.

— Ды як быць з іхнім пачынам? — не цяміў Данік. — У прыклад людзям ставіць? То пры чарговай дэпартацыі мы запішам іх на высылку разам з іншымі кулацкімі сем'ямі.

Штосьці ў той датклівай размове таварышу Калінічэнку не спадабалася і, памаўчаўшы, ён узвысіў голас:

— Я стаўлю перад вамі, таварыш Плюнгер, задачу: знайдзіце нацых інспектараў па падатках і разам з імі вывучыце, хто з сялян-местачкоўцаў можа яшчэ перакрыць пастаўкі малака. Няхай зробяць гэта на карысць савецкай айчыны. А разам варта параіць інспектарам папрацаваць з нядоімшчыкамі, каб высветліць больш дэталёва, каму што замінае і актывізаваць іх. Гэта ж справа нашага гонару! Ці не так?

— Так точна, Сяргей Барысавіч! Ваша задача будзе выканана!

Адно, што часам азмрочвала настрой пісара Даніка, — па родным мястэчку даводзілася хадзіць пехатой, і гэта ў той час, як некаторыя ездзілі на роварах. Уладары гэтых машын проста ў сэрца калолі яму бліскучымі спіцамі, нагадваючы прыстойнаму хлопцу пра ягонае бядняцкае паходжанне. Свайго цяперашняга заробку, а ён толькі пачаў

працаваць, таксама не хапала, каб набыць веламашыну, і Даніку рабілася крыўдна. Ён шукаў спагады і з гэтай нагоды неяк падышоў было да Паўла Міховіча (Антошкі), сваяка Пісарчукоў.

— Павел, ці не ўдружыў бы ты мне свой ровар, а то ж неяк несамавіта мне, ведаеш, па мястэчку поўзаць разам з усімі, дый работы шмат, не ўсюды паспееш.

— Я разумею цябе, ровар табе, Данік, патрэбен. Але ж і ў мяне ён не лішні, чуеш, я ўжо прывык да колаў, дый іншыя дома роварам карыстаюцца.

— А ты сабе новы купіш! — не адступаў Данік.

— Ты што?! Цяпер гэта — праблема! Сам ведаеш, якія мы падаткі плоцім. На ўсё! У гаспадарцы ніц не застаецца.

— Не хочаш мне памагчы...

— Даруй, я памагаў табе летась, калі ты меў ахвоту выступаць на мітынгах, сходах... Падказваў словы, якія варта казаць, дый сам часам тлумачыў людзям тое, чаго ты не выказаў. Куды ж болей?..

— За тую ласку дзякуй, — панура мовіў Плюнгер. — Але што я павінен сказаць: не роўныя мы з табой! Гусь свінні не таварыш.

Апошняя заўвага пісара прагучала пагрозліва, і Міховічу крыўдна зрабілася:

— Скажы, а вось калі ў цябе будзе ровар, а ў мяне — шыш, тады мы будзем роўныя, га?.. Перапрашаю!..

Разышліся. Павел Міховіч, праўду казаць, заўсёды быў з камсамольцамі поплеч, хоць у камсамол яго не прымалі з-за таго, дарэчы, што за мяжой у яго быў сваяк — Барыс Рамановіч. Цяпер, пасля палкай размовы, паміж былымі прыяцелямі прабегла чорная кошка.

У наступны дзень, спаткаўшы каля царквы старога Пісарчука, які таксама меў ровар, Данік паскардзіўся:

— Багаты беднаму не спагадуе, дзядзька Пятро!

— Чаму ж?.. Цяпер для бедных, Данік, скрозь дарога шырокая!

— Ды нешта вы, дзядзька, як пан, па гэтых дарогах ездзіце, а я пешы хаджу. Альбо не так?

— Кесару — Кесарава, а Богу — Богава!

— Адышло тое, дзядзька Пятро. Цяпер інакш павінна быць!

— А як? Хіба ўжо Кесару — Богавае?..

Гэта Даніку больш падыходзіла і ён кіўнуў галавой, затым перасмыкнуў, як танкіст Калінічэнка, вуснамі і крыва ўсміхнуўся:

— Учора спрабаваў экспрапрыяваць ровар у вашага сваяка, ведаеце, у Зосьчынага брата Паўла. Ды — куды там! Гонару шмат...

— Не ўступае?

— Не, бля...

— Шкада... Дык жа шкада і мне, міл чалавек, свой ровар табе аддаваць. Зразумей, Данік: сёння ровар у двары варты, можа, каня. Есці не просіць і налогі на яго не трэба плаціць! А вазіць — возіць. Таму, калі ты забярэш ровар у мяне, да прыкладу, — нанясеш мне ўразу на ўсё жыццё.

Даніка дужа дзівіла, што ніхто з адмысловых гаспадароў, багацеяў, якія яшчэ заставаліся ў Моталі, не хоча ўважыць на ягоную ключавую пасаду ў пасялковым савеце і не бачыць, як ён пакутуе без транспарту, — не паспачувае, не абагрэе ласкай, не падорыць яму пару калёс... Ён жа, пісар Плюнгер, мае дачыненне да лёсу амаль кожнага жыхара ў Моталі.

Даніку горка і балюча рабілася. І ў душы ўжо спрабаваў варушыцца і гатовы быў выйсці з запасніка на асноўны напрамак паравічок помсты. Якіх намаганняў Даніку каштавала яго ўтрымаць!

Пісар Багдан Плюнгер, маючы свае таямніцы і, вядома ж, разлікі ў жыцці, вучыўся карэкціраваць свой характар ды мець вытрымку. Пры гэтым ён суцяшаў сябе: чакай, нябога, цярпі! Нядоўга ўласнікі будуць ездзіць на роварах, надыдзе і іх чарга на Сібір!

## 24

Вестка аб будаўніцтве пад Моталем ваеннага лётнішча, або, у афіцыйным абыходку, аэрадрома неяк адразу ўскалыхнула і запаланіла мястэчка і ўсе навакольныя вёскі. Гэтая вестка ўнесла ў душы жыхароў, ад малога да вялікага, прадчуванне чагосьці небывалага, значнага — адначасова захапляючага, як высокі чалавечы палёт, і таячага ў сабе небяспеку: у выпадку вайны ўсе яны акажуцца ля яе крывавага пекла, пульсуючага ў небе і на зямлі. Прычым, больш за мясцовых жыхароў трывожыліся ўцекачы з Польшчы, пераважна яўрэі, якія так ці інакш ужо craсталі вайны і набраліся страху за сваё блаславёнае богам паходжанне. Інтуітыўна яны пазбягалі ўсяго, што нагадвала

ім пра вайну, а тут бальшавікі наважыліся выбудаваць стратэгічны, на сухой ваеннай мове, аб'ект...

— Пятро, — казаў прыяцель Борух Пісарчуку-старэйшаму, ступіўшы на ягоны падворак. — Во колькі гонару нам будзе: пад сценамі хаты лётнае поле! Я асабіста аддаў бы перавагу сінагозе.

— Хітры ты, васпане Борух, як той цыган: не супраць да сябе ў суседзі Бога залучыць? — смяяўся з яго Пісарчук.

— А што ў тым дрэннага?

— Тож у Моталі і так тры сінагогі, а аэрадрома — ніводнага. Няхай будзе... Сувязь з небам — добры знак! Я так мяркую.

— Дзіва няма, гаспадар Пятро. Краіна ўмацоўваецца на новых, так сказаць, рубяжах. А тыя ўмацаванні ўздоўж былой польскай мяжы даўно парушаны. — Борух прысеў на калодку, што стаяла ў Пісарчукоў на дрывотні. На ягоны голас выйшаў з хлява і стаў, абапёршыся на вілы, якія трымаў у руках, Паўлюк — Пятроў сын.

— Хіба даўно іх парушылі? — падаў сын голасам знаўцы. — Таму яшчэ году няма. А цяпер вунь Дняпроўская рачная флатылія перадыслакавана ў Прыпяць і часткова, кажуць, у Дунай, гэта значыць на Захад. У пінскі порт нават некаторыя караблі зайшлі.

Гаспадар Пятро паставіў каля плоту пагабляваную доўгую дошку залацістага колеру, ад якой збіраўся адпіліць кавалак, каб паправіць стары вулей; ён пераверў замілавана-здзіўлены позірк з сына на госця:

— Ды вам, няйначай, ужо ўсе ваенныя тайны вядомы?

— Не ўсе, — мовіў Борух. — Але ж таварыш Калінічэнка, добры дух нашага местачковага савета, сцвярджае: ва ўсёй Еўропе няма больш магутнай арміі, як армія савецкай краіны. Адных танкаў у нас у сем, а можа, і ў дзесяць разоў больш, чым у Гітлера, і ёсць плаваючыя танкі. У Германіі ж няма ні плаваючых танкаў, ні моцных гармат на танках, ні стратэгічнай, гэта значыць далёкай авіяцыі, і ніхто на СССР напасці не асмеліцца, ну а фашыст Гітлер — і пагатоў, балазе з ім у нас цяпер пагадненне аб ваенна-эканамічным супрацоўніцтве.

— А наконт аэрадрома Калінічэнка што-небудзь даводзіў? — пацікавіўся Пісарчук.

— Нашы лётчыкі лепшыя ў свеце! — завучана дэкламуючы, выгукнуў Павел: — Да Амерыкі без прамежкавай

пасадкі — фью-і-іць! — дапялі. Чкалаў у нас ёсць! Ён усім, хто на крылах лятае, нос уцёр! Цяпер кожны вучань пра гэта ведае, ганарыцца ім і, як дар божы, успрымае вестку пра маючае будавацца ваеннае лётнішча. У душы кожнага падлетка сядзіць, варушыцца пілот!

Ён скончыў тыраду, і ў знак згоды Борух кіўнуў галавой:

— Аэрадром — адзнака моцы, — казаў Калінічэнка, — ён патрэбен, раз сусветная рэвалюцыя яшчэ не закончана.

— Значыць, вайна будзе-такі!— у голасе Пятра ачнуўся ўдаўнелы сум: — Не разумею, чаго каму не хапае на гэтай зямлі. Вайны?.. Сапраўды. Хіба ў Фінляндыі не паспрабавалі пашыраць тэрыторыю? І такога сербанулі!

— Але ж...

— Расказваюць пра лінію Манергейма. Слухаць страшна, не то каб перажыць! І ў Прыбалтыцы прыгоды... Яшчэ не вядома, чаго больш карцела літоўцам пры Сметане: страціць незалежнасць сваёй краіны або ўзбуйніць Літву за кошт далучэння беларускага горада Вільні.

— Ай эй-вэй! — Борух прыўзняўся з калодкі і спасцярожліва азірнуўся па баках, ці не падслухоўвае іх хтонебудзь. — Не давядзі Госпадзі цяпер з палітыкай знацца!

— Так і я, васпане, далёкі ад палітыкі таксама, — зазначыў гаспадар Пятро. — Але калі дойме — куды ты дзенешся!

— Ну так-так... Толькі зазвычай клопаты ў нас свае. Як, напрыклад, карову пракарміць? Цяпер пытанне: навошта яе наогул карміць, калі кошт малака і налогі, — ён павагаў рукамі, — ураўноўваюцца. І прыбытак ад маёй каровы мае толькі дзяржава. Таму парайце, гаспадар Пятро: ці то цяпер, значыцца, у набліжэнні зімы збыць яе, ці перагараць з ёй нейкім чынам зіму...

— А я так скажу пану-прыяцелю: калі хочаш спакою — цяпер прадавай, ну а калі хочаш грошай, тады — па вясне. За сечку я з цябе шмат не вазьму.

— Ой дзякуй, ой дзякуй добраму чалавеку! — з палёгкай пачаў адкланьвацца госць. — Сёння, як ні круці, цяжка жыць кожнаму. І Боруху — таксама. Няма ранейшых заробкаў, хоць ты ідзі на аэрадром долі шукаць. Мэндаль, дарэчы, пайшоў туды табельшчыкам. Ну а я што маю рабіць?

— А вы, — Паўлюк шырока ўсміхнуўся, — самалёты на лётнішчы будзеце шкліць! Верх гонару!..

— Х-хе-ха! Хіба што...

Вестка пра аэрадром, які ладзяць пад Моталем, напэўна, не была б такой вострай, уражлівай, калі б яшчэ не адзін момант: на будаўніцтва аднекуль сцягнулі вязняў. Іх чамусьці звалі зэкамі, і яны цяпер жылі ў падвальных памяшканнях маёнтка Скірмунтаў у Моладаве. А цікаўным мясцовым жыхарам ахова не забараняла часам падысці да вокнаў, што ледзь узвышаліся над зямлёй, паглядзець у вочы зэкам і, убачыўшы ў іх тугу, голад, адчай, падаць за краты ў прагныя рукі акраец хлеба або нават сала.

Асаблівы імпэт да сустрэч з асуджанымі на няволю людзьмі мелі тыя, у каго сярод родных і блізкіх былі свае ахвяры рэпрэсій. Нешта няўлоўна-сваяцкае лучыла іх з пакутнікамі, і яны стараліся выказаць ім сваё спачуванне, памагчы хоць чым-небудзь, каб аблегчыць іх лёс.

Напэўна, тыя ж пачуцці кіравалі і Ганнай, калі яна выправілася разам з дачкой на будоўлю, што звалася аэрадромам. Ішлі басанож па прасёлках, парослых драсёнам і піжмай, па ўтравелых сцяжынах узбоч дарогі — пракінуліся сонечныя дні, і было яшчэ цёпла. Маня з замілаваннем расказвала маці пра кошку, якая знайшла на вуліцы чужое, адрынутае, зусім беспрытульнае кацяня і, узяўшы яго за шэравата-блакітную шкірку, прынесла ў сядзібу, схавала ў пуні, а потым сваіх нарадзіла і стала іх усіх разам карміць.

— Дзіва ж, каб у кошак ды такое было!

Ганна ўжо чула ад Мані пра гэты выпадак, які хваляваў яе таксама. Нават сама зазірнула ў пуню на водведкі да адмысловай такой парадзіхі, якую звалі Лелькай, паставіла каля кубельца ў кутку сподак са смятанай.

— М-мррр, — адрэагавала здаволеная і ўдзячная Лелька, каля чэраўца якой варушыліся сысункі.

— Калі ласка, сілкуйся...

Цяпер ёй было цікава слухаць Маню, якая апавядала пра свае назіранні за кашачым сямействам.

— Мам, а ў яе такі ўважлівы позірк і, калі падыдзеш, яна ўсё табе ў вочы глядзіць.

— Трывожыцца за кацянятак і па вачах, пэўна, чытае, з якім намерам ты да яе прыйшла.

— Няўжо яна такая разумная, каб па вачах чытаць?..

— Як бачыш...

А Лелька таго плаксу з вуліцы доўга лізала.

— Людзі малых дзетак купаюць, а кошкі вылізваюць.

— У яго тады вочкі прарэзваліся, а цяпер ён зусім добра бачыць і думае, што Лелька ягоная маці.

— То ўжо так яно і выходзіць — ён іншай маці не ведае.

За Асаўніцай паказаўся малады сіняваты лясок, ён не выходзіў на дарогу, а заставаўся справа. Наперадзе далей адкрывалася шырокае гала, якое дзівіла сваёй роўняддзю. Раней там былі палеткі паноў Скірмунтаў. Цяпер на ім віднеліся груды жоўтага пяску, варушыліся людзі і стаялі або паволі перасоўваліся туды-сюды машыны.

Ганна з Маняй падышлі бліжэй, і іх воку адкрыліся асобныя збудаванні, пераважна з дошак, яны ставіліся, пэўна, часова. Каля аднаго з іх ляжалі горкі друзу і пяску, працаваў рухавічок і круцілася пукатая бочка, альбо нават цыстэрна — як высветлілі яны потым — бетонамяшалка.

Пры падыходзе да вытворчай пляцоўкі вартаўнік у штацкім спытаў, да каго яны прыйшлі.

— Ні да кога, — адказала Ганна, — але нам рупіць паглядзець, што тут робіцца.

— То стойце і глядзіце, а далей хадзіць няможна.

— Чаму ж гэта не?...

— Закрыты аб’ект!

— А як жа нам убачыць вязняў, што тут робяць?

— Гм, хто такія вязні? Як па-руску будзе?

— Зэкі...

— А-а! Панятна... Там у вас — муж? брат? сват?..

Ганна пахітала галавой:

— Анікога... Проста цікава паглядзець на людзей і мо перадаць ім што-якое, — яна пакруціла ў руцэ невялікі кошык.

— А там што? — пацікавіўся службовец.

— Ат, невялікая пажыва, — Ганна прыўзняла на кошыку белы ручнік. — Хлеб, яйкі...

— А ў тых плітках не дынаміт часам?

— Што вы?! — збянтэжаная, засмяялася маладзіца. — То ж — сыр, сухі сыр!

— Ладна. А ці ёсць у вас хто-небудзь знаёмы з працуючых на аэрадроме?

— Ды знаёмых, пэўна, нямала. А каго назваць? — Ганна паглядзела на дачку.

— Мам, дзедусь казаў, Мэндаль...

— Ай сапраўды, недзе тут робіць Мэндаль за табельшчыка!

— Таварыш Мэндаль пры штабе; вунь там, — і паказаў, куды ісці.

Яшчэ і яшчэ раз акідвалі вокам будоўлю Ганна і Маня — яна ўжо была амаль па плячо маме, але нічога яны не маглі зразумець. Шмат у якіх месцах наўсцяж варушыліся людзі, разам і засаб, з насілкамі ў руках і без іх, з малаткамі і кельмамі, з тачкамі і драўлянымі скрынкамі, з доўгімі мернымі ланцугамі і стракатымі рэйкамі; рэйкі ставілі багата куды, але нідзе не знаходзілі для іх пастаяннага месца.

На адной пляцоўцы капалі зямлю і рабілі там як бы траншэю, на другой — выроўнівалі грунт і засыпалі пяском з друзам, потым залівалі бетонам, на трэцяй, наадварот, насыпалі высокія брусцверы...

З абшаляванай будыніны штаба выйшлі вайскоўцы; у пятліцах некаторых з іх былі ромбікі. Абмяркоўваючы штосьці між сабой, яны пашыбавалі ўглыб разгорнутай будоўлі. Каравульны выслухаў жанчыну з кошыкам і на хвіліну нырнуў у памяшканне.

Ён вярнуўся назад разам з таварышам Мэндалем. Уважаючы на жанчын, Мэндаль расцягнуў тоўстыя губы ва ўсмешцы:

— Вай-вай... Чэсь добрым людзям! Як жа вы там жывеце?

— От, то бокам, то скокам!

— Як цурка вучыцца?

— Добра, — разам адказалі маці і дачка.

Яны адышлі ад дзвярэй, пры якіх стаяў каравульны.

— Які клопат? Што вам тут рупіць?..

— Ат, усё журымся па сваіх, — пажалілася Ганна: — Сестрыну ж сям'ю выслалі... То Мар'я з дзецьмі ў Акмолінску, а яе муж Іван Баяба — асобна — у Сібіры... Кожын месяц мы ім пасылкі шлем. І майго чалавека таксама няма — застаўся ў Нямеччыне, пэўне. Душа баліць... А тут, пане Мэндаль...

— Калі ласка, завіце мяне таварышам.

— А ўжо ж... Такі свет! Таму і думаецца: як тут гэтыя вязні, так і нашы там недзе — прасветлай гадзіны не маюць. Прыйшлі паглядзець...

— Разумею... У сярэдзіне дня вам, спадарыні, не давядзецца ўсіх бачыць — яны на розных участках выконваюць земляныя работы. А вось на завод жалезабетону, бадай, я вас правяду. Калі ласка, нам у гэты бок.

Будыніна была самай высокай з усіх, хоць дошкі падказвалі, што яна таксама часовая; над ёй тырчэла труба для адводу дыму ці пары, але нічым яна, уласна, не курылася, як што будаўніцтва там было яшчэ незавершаным. Двор вытворчага ўчастка абгароджаны калючым дротам; па вуглах празрыстай агароджы стаялі вартаўнікі. Знутры чуваць былі ўдары кувалды аб жалеза, стракатанне рухавіка і трэск электразваркі.

Некалькі рабочых, соваючы раз-пораз шырокія лапаты ў друз, насыпалі яго на насілкі і тачкі, іншыя, напяльваючы жылы, падцягвалі гэты груз бліжэй да бетонамяшалак. Яшчэ адна група рабочых пераносіла туды ж мяшкі з цэментам, якія ляжалі воддаль пад шырокім навесам.

Таварыш Мэндаль, а знешне цяпер ён выглядаў больш маладжава, мо таму, што падчас службы на лётнішчы паакараціў пэйсы, падышоў да бліжэйшага часавога і перамовіўся з ім, потым махнуў рукой туды, дзе зэкі ўжо з надзеяй глядзелі на жанчын.

— Гэй вы!..

Рабочыя дружна сыпанулі да агароджы, а Мэндаль звярнуўся да Ганны:

— Толькі ж, гаспадынька, майце на ўвазе, што з імі размаўляць забаронена.

— Чаму? — прагучала і павісла ў паветры недарэчнае і відавочна куцае пытанне.

Ганна сумелася. Перад ёю ў адзін момант паўстаў гурт мужыкоў, абарваных — так што мала ў каго не свяціліся голыя і брудныя калені, худых, згаладалых — пэўна, у таго-сяго зводзіла шчэлепы, аброслых і, напэўна, нямытых. Яе ўразілі вочы вязняў, у іх стаяла цікаўнасць і не было святла, якое зазвычай дае радасць; пануры выгляд кожнага ўзмацняўся рэзкімі, упартымі складкамі на лбе, якія не разыходзіліся; вагавітымі гірамі скрозь віселі напрацаваныя рукі, абветраныя і мазолістыя.

— Адкуль вы? — неяк само сабой, пераадалеўшы здранцвенне, вырвалася з грудзей у маладзіцы.

— Адусюль... З Воршы... Віцебска, са Смаленска...

— Няхай Бог мілуе, каб з людзьмі гэтак абыходзіліся, — Ганна дастала з-пад ручніка бохан парэзанага хлеба, а Маня пацягнулася да яек...

— Калі ласка, — перадавалі яны пажытак у нецярплівыя рукі.

— Бярыце, бярыце...

Абедзве хваляваліся, асабліва — Маня, і хваляваліся яны ад жалю да гэтых людзей і ўласнай чыннасці, тварэння дабра ў такі востры момант — перадачы ім разам з хлебам яшчэ чагосьці свайго, душэўнага, боскага, што адно толькі і можа ўтрымліваць чалавека на свеце.

І нездарма. Вязні дзякавалі; у большасці з іх твары прасвятлелі, тым часам яны прагна накідваліся на яду, ламалі сыр, елі і перадавалі адзін аднаму.

— Чаму іх дрэнна кормяць, прымушаючы да працы? — усё яшчэ пад уражаннем перажытага спытала Ганна ў табельшчыка Мэндаля, калі яны адышлі ад калючага дроту.

— То не да мяне пытанне, — адказаў ён. — У гэтай краіне наогул, калі вы хочаце ведаць, голад — адзін з рычагоў палітыкі, але гэта — між намі, пані Ганна. Дастаткова прыгадаць прыхаваны ад свету голад і мор на Украіне, людаедства сем гадоў назад. Гэта было патрэбна дзеля таго, каб загнаць людзей у калгасы. Прынамсі, так мяркуюць людзі, якія служылі там пад камандаваннем юды — Якіра.

Не ўсё нашым госцям было зразумелым, але пры спасылцы на ваенных Ганна прыгадала купку вайскоўцаў, што выходзілі са штаба аэрадрома і, пэўна, кіравалі ўсёй будоўляй. Магчыма, ад іх таварыш Мэндаль начуўся пра голад.

— У той жа час, калі людзі людзей елі, дзесяткі і сотні тысяч зэкаў, галодных таксама, будавалі Беламорска-Балтыйскі канал. Касцьмі ляглі там. Потым быў канал Масква-Волга...

Ён казаў пра жахлівыя рэчы, але голас у яго быў спакойны і вытрыманы, бялкі вачэй раўнадушна плавалі пад ягонымі вейкамі. Ганна вытлумачыла гэта тым, што Мэндаль у злашчасныя трыццатыя гады жыў далёка ад тых мясцін і тых падзей, пра якія цяпер баяў з чужых слоў.

— Мяне ж больш за ўсё ўразіла тое, — сказала яна, — што цяпер ніякай спагады нікому. Цётка Мар’я піша, што там, недзе ў казахскіх стэпах, непадалёку ад іх, знаходзіцца таксама і Аляксандра, жонка Ладзі Палто з Моталя, якога невядома за што саслалі некуды на Салаўкі. А яе — цяжарную... За якія грахі і дзеля чаго яе выслалі ў стэпы. Га? Ці яна ў бога цялё з’ела?!

— Не кажыце... У гэтай бязмежнай краіне шмат людзей пакутуе, не сакрэт. Гэта краіна мільёнаў і мільёнаў хрысціянскіх пакутнікаў, — казаў далей таварыш Мэн-

даль; ён стаяў перад імі, прыціскаючы да чэрава карычневую папку са скуры, з якой, напэўна, цяпер не разлучаўся:
— А пакутнікі — усе рэпрэсіраваныя і пакрыўджаныя — сіла таксама. Таму, калі знойдзецца вораг у савецкай дзяржаве, які пойдзе вайной на СССР, — я, праўда, не маю на ўвазе Гітлера, не абавязкова яго, то гэты вораг будзе разлічваць не столькі на моц і выбуховую сілу сваёй зброі, колькі на грамадзянскі выбух, на выбух у гэтай краіне з сярэдзіны. Выбух будзе! Тады і Украіна свой нечуваны мор прыгадае... і Савецкая Беларусь разбярэцца ў хімерах і выставіць свой рахунак...
— Каму?
— Вампірам...
— Мне даводзіцца шкадаваць, — зазначыла Ганна, — але я сялянка, і не ўсё з таго, пра што вы гаворыце, мне зразумела. Тым больш — па-польскему... Дый цурка мая...
— Так... То ёсць далёка ад вас. Разумею. Ёсць рэчы, для ўспрыняцця якіх патрэбна трактоўка. Натуральна. І дзіва няма! Я от кажу вам, а перад сабой уяўляю гаспадара Пятра, якому вы прыпадаеце гожай нявесткай. О-о, гаспадар Пятро нутром сваім адчувае палітыку!
— То чаму ж вы да яго рэдка заходзіце?
— Не выпадае. Цяпер у мяне важныя справы. Перадавайце яму мой шалом.
Яны, маці і дачка, вярталіся дадому з пачуццём выкананага абавязку і новымі ўражаннямі ад пачутага і пабачанага на лётнішчы. Маню, тую ажно распірала ад навін. Яна на ўсе вочы глядзела на Мэндаля, калі той гаварыў, і цяпер ніяк не магла пераварыць у душы яго папярэджанне пра страшэнны разбуральны выбух, які наспявае нібыта ў магутнай і слаўнай савецкай дзяржаве.
— Мама, а хто такія вампіры?
— Таемныя і прагныя істоты, якія поцемкі смокчуць кроў у людзей.
Ну і свет, у які Маня прыйшла! Тут колькі ні дзівіся — не надзівішся. Адно толькі заўжды лагодай кладзецца на душу: свой дом і свой агарод, і зялёныя градкі ў зіхценні ранішняй буйной расы. Дзіўны момант летам, калі Мані хочацца зноў быць маленькай, прысесці на кукішкі пад карчом бульбы, згубіцца на градках і назіраць, як усё расце і буяе, як цвітуць і завязваюцца на вачах агурочкі, як палаюць свежым яркім агнём чырвоныя макі.

Праходзіць лета, і яна зноў ва ўтрапенні і скрусе чакае той час, спадзяецца, што ён неўзабаве паўторыцца.

## 25

На зямной кулі, аблюдзянелай, жывой, што верцiцца-круцiцца і йдзе па-над Сонцам, поры года мяняліся акуратна, па даўным-даўна вызначаным плане.

Поры года мяняліся, пэўна, каб унесці энергію руху ва ўсё навакольнае, бачнае і мыслімае, — мяжуючы холад з цяплом, чыніць, скажам, тэмпературны масаж ды прыводзіць у дзеянне адмысловыя біялагічныя цыклы, што захоўваліся ці то ў спорах расліны, ці ў семечку... Пад вясну лядоўня адпускала на волю адаспалы і паноўлены грунт, аднаго дотыку да якога хапала, каб вытыркнуўся і пайшоў набірацца моцы і сілы расток.

Але толькі зіма, адыходзячы, ніякім чынам не магла даць волі душы чалавека, асабліва ў такога сялібнага волата, якім быў Пісарчук.

Яму даймала тое, што сюды, у яго паселішча, якое нават у старасветчыну не мела прыгоннага права, прыйшоў прымус на працу. Цяпер кожын паўналетні жыхар мястэчка павінен быў як не тры тыдні на год адпрацаваць на дзяржаву бясплатна; і ў абыходку гэтакая баршчына звалася падаткам на чалавека.

Савецкая ўлада пачала патрабаваць падатак на ўсё. І аддавалі за зямлю — зерне, за курыцу — яйкі, за карову — малако і мяса, за авечку — мяса і аўчыны, за свіней — мяса і шчаціну, за коней, як і за людзей, — працадні, а за жытло — грошы.

Маталяне пачалі стагнаць, але стараліся, каб іхняга стогну ніхто не пачуў, бо прадстаўнікі НКУС, ці энкавэдысты, як звалі караючы корпус у народзе, мелі сваіх стукачоў; іх схілялі да супрацоўніцтва галоўным чынам пасля зацятых допытаў і адкрытага шантажу.

Пятро Пісарчук працаваў амаль усю зіму ў лік працаднёў, накладзеных павіннасцю на яго і на ягоную жонку Аксінню, а таксама нявестку Ганну. Яму дапамагаў сын Паўлюк.

На адведзеным у лесе ўчастку яны разам пілавалі і спускалі на заснежаны дол высокія звонкія дрэвы, пераважна сасну, затым на пары коней, запрэжаных у ка́ры, тралявалі на аэрадром хлысты, меўшыя вабны буршты-

навы колер. Падцягвалі іх непасрэдна да пілярамы, дзе працаваў табельшчыкам і вёў улік іхняй працы Мэндаль.

Яго чырвона-бурая шапка-вушанка, пашытая з ліса, была за добрую прыкмету, як што віднелася здалёк.

— Шалом! — махнуў ён прыязна рукой, калі яны пад'язджалі, і тоўстыя ліловыя губы яго расплыліся ва ўсмешцы да самых вушэй: — Гаспадар Пятро, вы так заўзята працуеце, што я гатовы вам за кожын друк ставіць па працадню?

— То і стаўце, калі сэрца падказвае!

— Прабачце, пане Мэндаль, — падаў голас Паўлюк.

— А я вам не пан...

— Перапрашаю, п-таварыш начальнік... Тож друкам вы называеце ствол карабельнай сасны?.. Ды ён жа на паўвярсты ў даўжыню.

— Ат, як ні назаві, а з друка атрымаюцца дошкі.

— Ха! Бачу, у вас, таварыш Мэндаль, няма аніякага захаплення перад цудам прыроды. Вось, каб гэту папку ад вас забраць і паставіць вас, прабачце, побач з вараным у аглоблі, то вы ў лесе разгледзелі б, дзе хлыст, дзеравіна, а дзе driчок, ліха бэндзе галавешка!

— Не зважайце, — выбачальна зазначыў Пятро Пісарчук, — Паўлюк жартуе.

Яму нязвычна было называць чужога чалавека таварышам, а сама неабходнасць такога звароту бянтэжыла. Ён падбіраў іншыя словы. Гутарка ішла ўжо пасля разгрузкі бярвенняў; коні, пакрытыя папонай, стаялі на прыколе і, пыхкаючы парай, церабілі сена.

— Вы тут, браце, пры службе, дзе варочаецца багата розных людзей і шмат афіцэраў. Будоўля, як кажуць, на сямі вятрах. Цікава, што новага ад людзей чуваць?

Мэндаль хвіліну выпрабавальна глядзеў на Пятра. На дарозе закручвала снежныя грывы пазёмка. І вішчала цэнтрыфуга на піляраме.

— Ці гэта скрозь цяпер працоўная павіннасць, або толькі ў нас, хто жыве каля гэтай будоўлі?..

— Скрозь, — адказаў табельшчык Мэндаль. — У людзей нават горш. Там горш, дзе ўтварылі калгасы, а іх на Берасцейшчыне ўжо каля шасці соцень. І вось што мне даводзіцца чуць: «Савецкая ўлада не вызваліла ад былога прыгнёту, а пачала піць кроў з сялян». Або: «Мы ўступілі ў калгас у ботах, а цяпер ходзім босыя». Выказваюцца крута: «Той фашызм скінулі, другі на змену прыйшоў».

Або: «Не баюся ні плуга, ні воза, а баюся калхоза». За людзьмі, якія гэтак выказваюцца, палююць, вы гэта ведаеце. Таму наша гутарка не павінна мець выхаду на іншых, у каго вушы — талеркі.

— Вядома! — адказаў за бацьку Паўлюк: — Раскажаш каму — ворагам зробяць. Як піць даць!

Мэндаль узяў Пятра за адварот кажушка, наблізіўся да яго.

— Гаспадар Пятро, я моцна вас паважаю і таму шчыра скажу: ваш народ мягчэйшы ад палякаў; у беларусаў звыш меры спагады, сардэчнасці — то для вас не сакрэт. Але, што цікава: яўрэі, пажыўшыя сярод Вас, нават яны не тыя, што ў Польшчы. У іх больш цеплыні, злагады, калі хочаце, высакароднасці.

— Што вы кажаце? — не ўтрымаўся і выгукнуў сын Пятра.

— Вазьміце хоць бы Боруха ці Абко...

— Цікава паслухаць мондрага чалавека, — Пятро не адводзіў позірку ад бычыных пругкіх вачэй былога польскага прадпрымальніка Мэндаля.

— Але гэта не ўсё, і я так разважаю. Калі тут не Польшча, то Польшчы тут і не павінна быць. Калі тут не Расея, то і ёй, Расеі, тут рабіць няма чаго. Калі ёсць, жыве, дыхае хваёвым паветрам такі выдатны народ, то ён павінен і надалей захаваць сваю адметнасць, культуру, свой пісаны і няпісаны статус. Хоць бы ў савецкай рэспубліцы! Інакш будзе грэх перад богам. Бо гэта ж можа расцэньвацца, гаспадар Пятро, як суіцыд — самагубства нацыі. Вы згодны са мной?

— Згодзен... Шкада, аднак, шмат злыдняў наўкола...

— Мушу сказаць і пра іх...

— Таварыш Мэндаль! — паклікалі ад дзвярэй будана, над якім з металічнай круглай трубы ўздымаўся шызаваты валакністы дымок: — Ці не скажаце вы мне, колькі чалавек заўтра плануецца на габлёўку дошак?

Паскрыпваючы снегам, да іх падышоў у валёнках і паўшубку не шырокі і не тоўсты — насупраць Мэндаля — чалавек, які трохі сутуліўся, а з твару выдаваў гадоў на сорак. У яго выступала рабаціннe на носе і здаваліся ў крапінку нават вочы пад бялёсымі бровамі, яны ўважліва і клейка абмацалі Пятра, Паўлюка...

Мэндаль расхінуў сваю папку і адказаў на пытанне:

— Дваццаць... Дваццаць фуганкаў, таварыш Говараў. У асноўным з Моладава.

— Добра... У такім выпадку я маю вызваліць на складзе месца пад гэту фактуру.

Ён яшчэ раз кінуў позірк на субяседнікаў Мэндаля і пакрочыў у сваім кірунку.

— Гэта наш тэхнік Антон Говараў, з Расеі закінуты, — патлумачыў Мэндаль, калі той адышоў. — Хто ён мне: ці сябра ці вораг — адзін Бог ведае!

— Дык мы... — улучыў момант нагадаць аб незавершанай размове Пятро Пісарчук.

— Так-так, мы спыніліся, здаецца, на самым трывожным... Хіба вы не ведаеце? З канца 20-х гадоў у так званай Савецкай Беларусі фізічна вынішчаны кіраўнікі ўрада, вучоныя, пісьменнікі — амаль уся інтэлігенцыя, якая дбала пра культуру і народ. Азохунвэй! Скажу вам, гэта жахліва!

— Не можа такога быць! — на вуснах Паўлюка затрапятала нервова-кплівая ўсмешка.

А Пятра ж бытта токам працяла ад такой ведамкі, і ён адчуў, як гарачыня імгненна разлілася па ягоным целе, дакацілася да ног у валёнках; чуць у сабе такое на марозе было нават, прыемна, аднак сэрца сціскалася ад даўно знаёмага яму пачуцця трывогі, калі гутарка заходзіла пра бальшавікоў:

— Шкада, але пра гэта мы амаль нічога не ведалі. Ён глядзеў на Мэндаля патупіўшыся, з-пад ілба, на бровах яго быў налёт інею і, бадай, сівізны. Прыгадаў, урэшце:

— Была пагалоска, праўда... Паўлюк, — звярнуўся да сына: — Ты помніш, аднойчы мы запрасілі ў хату да сябе Ладзю Палто. Ён уцёк з таго боку, куды хадзіў, ратуючыся ад голаду. От ён і апавядаў, што ў Менску настаўнікі, служачыя ўвогуле, агорнуты страхам, што за кожным з іх сочаць, як у нас цяпер... То было ж ад чаго баяцца!.. Рамана Скірмунта вунь адправілі на той свет. Няхай пухам яму зямля будзе!

— Гаспадар Пятро, — доўжыў бяседу на волі — у полі шырокім, заветраным, табельшчык Мэндаль: — Я часта прыгадваю гутарку за вашым гасцінным сталом, асабліва — параўнанне чалавечай супольнасці, ну, скажам, беларускага грамадства, народа з роем пчол. Згодзен, ёсць нейкія глыбінныя, боскай воляй прадугледжаныя асновы жыцця і парадку. Нядобра, калі ў вашым, так бы мовіць, беларускім вуллі пачынаюць асядаць і гаспадарыць тыя, хто нічога свайго — ну нічога, апроч джала або курдзюка з

павуцінай — сюды не прынёс. Мне горка і брыдка ўсведамляць гэта. Зрэшты, я таксама птушка залётная... З павагі да вас адно мушу сказаць: у Беларусі ідзе замяшчэнне сваіх, мясцовых, нацыянальных кіруючых кадраў на людзей з марксісцка-ленінскага рэвалюцыйнага табара. Больш за тое, тут вызначылася тэндэнцыя, ад якой, скажу вам, звар'яцець можна, мне, напрыклад... Ад радасці! — Ён усміхнуўся: — А то як жа? Па стану на канец мінулага — саракавога года ў Беларусі ад усёй колькасці сакратароў райкомаў партыі 90 працэнтаў — жыды, або, як больш далікатна, яўрэі. Азохунвэй! А, вы думаеце, мала іх у іншых партыйных і дзяржаўных органах, асабліва мясцовых?.. Я ўжо не кажу пра кааперацыю?.. На дзяржаўных пячатках яўрэйская мова стаіць!

— Авохці мне! — жартаўліва перахрысціўся Паўлюк. — Нешта ж думкі ў мяне калясом пайшлі. Як гэта можна, каб гэтак было! Хто іх, чарцей, гэтулькі наставіў?

— А той, — удакладніў дасведчаны чалавек Мэндаль, — хто вынішчаў нацыянальных дзеячаў у рэспубліцы.

Пятро адвярнуўся і сплюнуў. Яго пачуцці нельга было вытлумачыць як рэакцыю на толькі што высветленыя варункі палітычнага і, Бог сведка, нягеглага ўвогуле жыцця ў Беларусі. На самай справе, гэта ўжо ўяўлялася чалавеку апошнім звяном у гістарычным ланцугу няўдач народа. Тут, бадай, вызначаўся новы абрыў ніткі, якую самахоць пралі адно за адным пакаленні беларусаў, пралі, вілі і ніяк не маглі спалучыць усе канцы ў аснову.

Ён шмат чаго ведаў з гісторыі, таму гэтыя факты калолі і выклікалі боль у сэрцы, той боль, які ўжо нагадваў аскоміну.

— Ліха матары! Зноў тутэйшым даводзіцца чухаць патыліцу! — Пісарчук паправіў шапку на галаве: — Паўлюк пытае: як можна?! А лепей нам, сялянскім дзецям, было б запытацца: скуль усё пачалося?.. Скуль гэты глум і здзек з нас? Мы дзіва-людзі! Даўно мы ў сябе дома і ў хіжым палоне.

Усе хвіліну маўчалі. Пятро пахітаў галавой:

— Адказ просты, і за ім не трэба далёка хадзіць: ваша рэвалюцыя! Вы, таварыш Мэндаль, тут як бы ні пры чым. Але ж хто стаіць за ўсім гэтым, га?.. Самі бачыце... Хм, калі Гітлер у сваёй кніжцы, як даводзілі вы, толькі пагражае вынішчыць некаторыя народы, то тут, у нас, пад саветамі, практычна і займаюцца гэтым. Прычым, не адно дзе-

сяцігоддзе! Адсюль і тыя мільёны ахвяр пад час голаду, пра якія вы нагадалі ў гутарцы з Ганнай, нявесткай маёй, і яшчэ нявызначаная колькасць закатаваных і расстраляных. Мароз па скуры прабягае ад вашага паведамлення: практычна беларусаў у Беларусі адцерлі ад улады!

— Пан... п...таварыш Мэндаль! Адно пытанне, — загуляла ўсмешка на твары Паўлюка.

— А вы не гарачыцеся, — выставіў рукі, няйначай, каб ахавацца ад непрыемных пытанняў, табельшчык гэтага д'ябальскага аэрадрома: — Я прадбачыў вашу рэакцыю, нават гнеў і разам здзіўленне: «А дзеля чаго гэта жыд Мэндаль іншых жыдоў выкрывае?!»

— Ну так, ліха матары!

— Азохунвэй!.. Сябры, паверце высакароднаму яўрэю, яго чэсці. Я не з тых фанатычных талмудыстаў, хто лічыць іудзеяў адзінаю, богу заўгоднаю расаю, а гоя, хто б ён ні быў, — свіннёй ці баранам. О-о, шмат непрыемнасцей мае прынесці свету шабаш сіяністаў, дзе б ён ні быў наладжаны, і мой народ ганьбай пакрые сябе. — Вочы Мэндаля нейкі момант тужліва блукалі па полі, якое сягала пад лес, такі ж белы, заснежаны, са сваім, толькі яму вядомым, зімовым жыццём. Пісарчукі слухалі.

— Прыгадайце, з чаго я пачаў. Я выказаў сваю павагу да вас і вашага народа. Майн Гот! Няхай Бог зробіць так, каб ніхто не замінаў беларусу ва ўласных руках трымаць і аберагаць свой лёс! Лоўкіх людзей шмат, і калі ёсць карак, наезнікі заўжды знойдуцца. Але гэта — між намі. Я тут, на аэрадроме, як і ў сінагозе, дарэчы, больш слухаю, чым гавару. Служба такая, і няма з кім, апроч вас, у бяседзе душу адвесці. Так што даруйце!

Яны развіталіся.

Рэштку дня Пятро Пісарчук маўчаў, і, уважаючы на яго панурасць, Паўлюк не назаляў бацьку ні словам, ні залішнім мільганнем перад яго вачыма. Толькі дома, калі паселі за стол, а Пісарчукі цяпер нярэдка вячэралі разам, гаспадар сам вярнуўся да дыспуту з Мэндалем.

— Увогуле, Мэндаль — чалавек незвычайны і трохі загадкавы. Ён з'явіўся ў Моталі без сям'і і нічога пра сваю сям'ю не гаворыць.

— То, можа, не мае пра што гаварыць! — сказала Аксіння.

— Тым часам палітыку любіць і трапна зазначыў: «Калі ёсць карак, наезнікі заўжды знойдуцца». Гэтыя словы стрэмкай заселі ў маёй галаве.

— А ў наезнікі сёння, бачыце, хто меціць. Мэндаль выклаў гэта ў лічбах! — дапамог бацьку Паўлюк.

— Сядзі ўжо! — штурхнула локцем свайго чалавека пад бок Зося: — Бо шмат разумееш...

— Чаму ж, Паўлюк разумее падзеі, што адбываюцца, — уступіўся за сына Пятро. — Шкада толькі, няма ў яго сваёй пэўнай ступы ў жыцці і ён часам схільны да авантурных учынкаў.

— Ну, тата! — зразумеўшы намёк бацькі на ягоны ўдзел у асадзе маёнтка Скірмунтаў (перад прыходам Чырвонай Арміі) трохі пакрыўджана падаў Паўлюк. Ён паклаў на талерку сабе кавалак квашанага качана і бульбу.

— Смачна есці!..

Пятру аднак рупіла выказаць вынашаныя за дзень думкі:

— Хачу патлумачыць: з маладых гадоў я ўнікаў палітыкі, бо палітыка, асабліва ў сучасным яе разуменні, — зло. У гэтым я пераканаўся, яшчэ калі мы з Аксінняй і дзецьмі апынуліся ў Паволжы. Трэба абавязкова быць або чырвоным, або белым, або правым, або левым і фізічна знішчаць сваіх супрацiўнікаў. А калі іх няма — залічаць у клятую контру і ну вымотваць кішкі! Не хто іншы, як паплечнік Леніна Троцкі называў сялянскі пояс калоніяй прамысловасці. Троцкага прагналі, а пайменаванай ім калоніі надалі форму калгасаў — як бы працоўных гета — і толькі. Я ж прытрымліваюся думкі, што самая высокая і вартая чалавека палітыка — стваральная праца, якая дае магчымасць кожнаму быць паўнамоцным грамадзянінам краіны. Я марыў стаць грамадзянінам, але так і не стаў ім, хоць і зжываю свой век. Я не жыў у сваёй дзяржаве і быў падданым то Расеі, то Польшчы, а цяпер — СССР, гэтага гіганцкага спрута, які смокча сокі з людзей і зямлі. Ты, Мар'я, не слухай, — нечакана звярнуўся Пятро да ўнукі: — У школе вам, нябось, зусім іншае даводзяць, і вы не хутка дойдзеце да таго, пра што я кажу.

— А ўжо ж! — мякка пацвельваючы, усміхнулася Ганна і пагладзіла дачку па галоўцы, абняла. — Каб Маня ды не ўслухалася! Праўда ж, доню?..

— Я ем кісель, — пачырванеўшы, паведаміла Маня.

— Еш на здароўе! А я, чуеце, не пра кісель... Няма ў нас сваёй краіны, і таму мы не абароненыя ніякім законам, хто віда намі кіруе, хто хоча — рабуе і адсылае, куды Ма-

кар цялят не ганяў. Чаму такі здзек? Я думаў... Няма ладу. Што цяпер у тутэйшых засталося?.. Карак ды цела. А галавы няма. Яе зрэзалі. Таму і пруць дзівосы на калёсах. Народ — бык... Я кажу: бык без галавы! Цела рухаецца, яно яшчэ сілу мае, а на карку сядзяць крывасмокі і кіруюць гэтым целам. Гэй! — паганяюць.

— Дзедусь! — прашаптала Маня, уявіўшы сабе неверагодную карціну з быком, яе вочы акругліліся.

— Ой, не палохайся, дзетка! — супакоілі яе дружна, усім сямейным застоллем. — Гэта ж так толькі гаворыцца, а ў жыцці дзе ты бачыла тое...

— Народ, які не мае галавы, — цяглавая сіла — не болей. Іншымі словамі, працоўная армія; адна з тых, бадай, аб стварэнні якіх дбаў Троцкі. Падобныя штукары і робяць палітыку.

— Пятро, — звярнулася да чалавека Аксіння, — у мястэчку плявузгалі аб нейкай яўрэйска-беларускай дзяржаве. Я тады падумала, але не спытала: дзе яе хочуць ствараць?

Гаспадар з сынам засмяяліся. Пятро ўзяў нож і адрэзаў скрылёк дамашняй вэнджанай каўбасы, кінуў у рот, пажаваў, расправіў вусы. Адказ цікавіў усіх.

— Аксіння, ведаеш пагаворку, сабака брэша — вецер носіць? Але тут лепей сказаць: дыму без агню не бывае. Прыбраць да сваіх рук тую — савецкую частку Беларусі — хеўра Троцкага Лейбы паспрабвала ў 20-я гады, і, кажуць, дапамагала жонка Молатава. Толькі ж нумар не прайшоў, не-е... Тады яны аблюбавалі Крым. Але і там спатыкнуліся аб волю Сталіна, які потым вызначыў для іх месца недзе па той край Сібіру — у Бірыбіджане. Дармо. Яны па-ранейшаму мецяць завалодаць становішчам тут, у Еўропе. А як? Вяртаючыся да таго ж удалага ці няўдалага прыкладу: сесці на карак быка, замарочыць яму і спрундзіць голаў. Ці ж не занадта смела, рашуча?

— А што занадта, таго і свінні не ядуць! — рэфрэнам адгукнуўся Паўлюк.

— От няхай бы нашы мотальскія стварылі яўрэйскую дзяржаву ў Палестыне, адкуль іх род. Такую задачу, дарэчы, і ставіў перад сабой Вайцман. Прынамсі, ён казаў пра гэта, калі прыязджаў у Моталь з Англіі, недзе на пачатку 30-х гадоў. Няхай бы — раз іх сярод беларусаў мо і дзясятай долі не будзе. Але затое якія планы ў шэльмаў!

— Адным словам, — збіраўся ўжо звязаць гаворку ў вузел Пятро, — іх заправілы летуценяць, моляцца, робяць усё, як ім падказваюць модлы, і нікольки не бяруць да памяці, дзе і што разбураюць. Хіба ж без іх у рэвалюцыю і пазней знішчылі б столькі шэдэўраў хрысціянскай культуры, палацаў, сабораў? І дзіўна, што гэтыя небаракі ў мястэчку, з якімі мы сябруем, зусім нармальныя людзі. Таму ў галаве нейк не ўкладваецца, на што астатнія здольны.

Пятро ўздыхнуў:

— Мне крыўдна, што так нелюдзяна складваецца лёс усіх, хто нарадзіўся гаспадаром і рупіцца на гэтай зямлі.

І, выслухаўшы чалавека, баба Аксіння прамовіла:

— Няхай Бог мілуе!

## 26

Будаўніцтва ваеннага лётнішча займала ў свядомасці тутэйшага люду ўсё больш месца, асабліва з надыходам вясны, калі колькасць зэкаў на ім павялічылася на багата, так што перавышала цяпер дзве тысячы асоб. Не сакрэт, менавіта асоб бачылі ў зняволеных людзях сяляне навакольных вёсак, як і жыхары Моталя, мяркуючы па тым, напэўна, каго энкавэдысты арыштоўвалі ў іхніх і суседніх паселішчах. У турму найчасцей траплялі самыя здольныя, нечым адметныя і самавітыя грамадзяне; ім, пакрыўджаным і абражаным, абарваным і галодным, спачувала тут як не кожная хрысціянская душа. Багата хто прыходзіў пагляцзець на вязняў; і ўсе, хто насіў Бога ў душы, маліліся за іх, а заадно і за сябе, каб чаго добрага, не напаткала падобная доля, нездарма ж прыказка ёсць: ад сумы і ад турмы не адракайся.

Уражвала жытло, у якім месціліся новыя партыі зэкаў — разбітыя ў адкрытым полі палаткі, такія ж вылінялыя, рваныя, як і адзенне на іхніх жыхарах-пакутніках.

На пачатку лета Ганна са сваёй старэйшай дачкою Маняй і сястрой Зосяй пайшлі туды ў чарговы раз. Пры перадачы няшчасным пакункаў — сыру, сала, хлеба, масла і мінулагодніх сухіх ягад чарніц — адзін з вязняў сунуў у руку Ганны штосьці невялікае і цупкае — скрутачак паперы. Гэта быў вышэй сярэдняга росту мужчына з запалымі шчокамі, пакрытымі мяккай русявай шчэццю, і сумнымі блакітнымі вачыма. Над яго шырокім ілбом,загарэлым і чыстым, навісала ўскалмачаная чупрына, амаль

не кранутая сівізной. Ганне горача зрабіліся ад усведамлення нейкай тайны, каўзануўшай у яе руку ад гэтага чалавека, і, няйначай, збянтэжаная, яна кінула дапытлівы позірк на яго, а ён усміхнуўся і сказаў па-беларуску:

— Вялікі дзякуй!

Яго вочы пацяплелі і ён акінуў усіх, Маню і Зосю, прыхільным і ўдзячным позіркам:

— Няхай жыве наша краіна!

Апошнія словы вымавіў нягучна, і ўсё роўна, як і таямніца паперы, яны былі нечаканымі і новымі для слыху маталянак.

— Адкуль вы?..

— З Мінска, — адказаў.

— Не размаўляць! — зычна выгукнуў вартавы.

Яны разышліся.

Жанчыны вярталіся дадому і Маня цёрлася каля боку ў мацеры:

— Мама, што там? — паказвала яна вачыма на руку, якую Ганна не асмельвалася расшчапіць.

— Пачакай, адыдзем далей...

Нарэшце, яны селі на ўзбочыне дарогі пад Асаўніцай, пры полі, на якім ужо зацвітаў пасеяны кімсьці лён. На прыдарожным быльнягу там-сям сядзелі і песціліся на сонейку рознакаляровыя — ну проста цуд у сваім заліхвацкім убранні — матылі. Час ад часу яны ўзмахвалі крыллямі і ўздымаліся ў паветра, пераляталі і садзіліся зноў на іншыя расліны ці кветкі. Разам з імі гойсалі ў паветры і мігцелі на сонцы празрыстымі крыльцамі стракозы. З вышыні ліўся на ніву звонкі спеў жаваранка: цьюрлі-цірлі-цыі...

Прырода-чараўніца. Любата!

Ганна разгарнула і разгладзіла складзены ў мноства столак аркуш белай паперы:

— Можа, ён тут пра сябе што-небудзь піша або пра радню, — выказала яна здагадку. — Не падобна, аднак... Нейкі верш...

Тры акуратна прычасаныя і цікаўныя галоўкі жанчын, дзвюх старэйшых і юнай — нахіліліся над старонкай, густа спісанай агрызкам алоўка.

Разбіралі тэкст спачатку ўсе разам:

— Забраныя... Забраныя мы з забранага краю...

Забраны ў астрог мы з забранага краю,
Узяты за краты з асірочаных хат.

Для нас пачалася часіна ліхая,
Мой бедны, мой родны, пакрыўджаны брат.

Здаволіўшыся ў чытанні, Ганна перадала ліст Мані:

— На-а! Ты маеш больш граматы. Чытай, а мы паслухаем...

І Маня чытала ўголас:

Жыве наш народ, бы гарох пры дарозе,
Прасвету не бачыць у гэтым жыцці,
Учора на працы, сёння ў астрозе,
А заўтра на пусткі ў выгнанне ісці.

— Ой, Манька, ой, Зося! Ды гэта ж тое, што ў нас. Акурат бы ён жыў тута.

— Відаць, скрозь яно такое жыццё, як у нас, — слушна зазначыла Зося.

— Не плачце... — Маня чытала далей.

Не плачце, не плачце вы, родныя маткі,
Не плачце сяброўкі і сёстры па нас.
Такія на свеце паўсталі парадкі,
Такі ўжо бязглузды й пакручаны час.

Няхай лепш сумуюць прадажныя душы,
Адплаты чакаюць за здраду сваю.
Няхай жа сумленне тых юдаў падушыць,
Жывымі загоніць у сырую зямлю.

Звярыная злосць не заслоніць нам неба
І нашу зямельку ўсю не глыне.
Мы знаем — змагацца за волю нам трэба,
Мы знаем — змаганне наш край не міне.

— Мар'я! — першай спусцілася з паэтычных нябёсаў на сваю грэшную зямлю цётка Зося: — Парві і выкінь гэты верш!

— Мне шкада, цётачка. Я хачу яго дзеду паказаць.

— Пакажы, але потым абавязкова парві, бо, калі, не дай Бог, хто-небудзь знойдзе — для ўсіх нас кранты будуць!

— Ну гэтак, — кіўнула маці: — У момант арыштуюць. Так што схавай за пазуху!

Яны як бачыш падхапіліся з зямлі ды, ўражаныя і ўстрывожаныя пачутым, пабачаным, перажытым на аэрадроме і тут, у полі, калі чыталі верш, які ўспрымаўся зваротам да іх, — далі волі нагам, не дай рады! Не прайшло і паловы гадзіны, як яны былі дома.

Аксіння, якая заставалася даглядаць малодшых унукаў, з нецярпеннем чакала іх; а дзеда Пятра не было, яны з Паўлюком ад самай раніцы касілі на лузе траву.

На схіле дня касцы вярнуліся ў сядзібу. Маня бавіла час у агародзе: вадзіла Вольку — сястрычку — па зялёных разорах між градкамі і вучыла выбіраць сабе ядраныя клубніцы, спелыя, сакоўныя, смачныя. Са смакам клубніц або суніц на лясных узлобках, куды яна з маці, а часам і сяброўкамі трапляла, зноў і зноў, у каторы раз ужо для яе пачыналася ўтрапёнае і шчодрае лета. Яно цвіло макамі.

Маня счакала, пакуль дзед, беручы ваду з цэбра, апаласне ад поту твар, сядзе за стол на кухні ды падсілкуецца. Як толькі ён зрабіў гэта, яна пакінула агарод, завяла Вольку да мацеры ў пакой і — да яго:

— Дзедусь, а я хачу табе штось цікавае паказаць.

— Дзе ж яно, у двары?..

— Не-е, пойдзем на тваю палавіну!

У сталовай яны селі за стол, пакрыты льняным арнаментаваным абрусам, і Маня, чуючы ў сабе годнасць дарослай дзяўчыны, расказала дзеду пра тое, што чула і бачыла на будоўлі, пра гутарку з вязнем, які перадаў ім верш на скручанай туга паперы.

Вочы дзеда загарэліся цікаўнасцю і, узяўшы з рук у Мані пакамечаны ліст, ён у роздуме прадэкламаваў:

— Забраны ў астрог мы з забранага краю... Але ж...

І занепакоіўся Пятро Пісарчук, сухі камяк, пэўна, падкаціў да яго горла, бо жаўлакі сталі перакатвацца па шчоках. Адно разумела і добра разумела свайго дзеда Маня Раманавічанка, бо прыгадала, як за вячэрай узімку, калі сабралася ўся радзіна, ён казаў ім амаль тое ж: бачыце, шкадуе, што зжывае жыццё ды так і не стаў грамадзянінам сваёй краіны... «Забраны край...»

Ён дачытаў верш і скупа ўсміхнуўся:

— Добра, што такія людзі хоць за кратамі ёсць. Сумна, далібог... Толькі ад гэтага весялей трохі...

Маня атрымала ад дзеда заданне: вывучыць верш на памяць, а саму паперку ліквідаваць. Ну — пэўна, спаліць.

Яна аналізавала падзеі, учынкі дарослых і дзівілася іх незатуленасці, безабароннасці перад нейкай хцівай плынню жыцця, нібыта яны не нарадзіліся і не жылі на гэтай зямлі, а з'явіліся тут прыблудамі, і нібыта апекаваў гэты край не старавечны род Скірмунтаў, а нейкія гіцлі з Масквы ці Варшавы.

Маня — дзяўчынка думная, і ў сям'і гэта даўно прыкмецілі. Яна шмат чаго разумела, але дагэтуль ніяк не магла сабе ўцяміць, дзеля чаго жыццё чыніцца так, каб усе баяліся ўладаў і нават адзін аднаго. Таму весялосць, пазнавальны імпэт і шал у школе, куды яна з вялікай ахвотай хадзіла, штораз пакідалі яе, калі яна вярталася са школы дадому. Прадчуванне затоенай у часе, у прышласці небяспекі ўзмацнялася прысутнасцю аэрадрома, на будоўлю якога сцягваліся паняволеныя і пазбаўленыя ўсялякіх чалавечых выгод людзі.

Мані, і не толькі Мані, — чалавеку ўвогуле цяжка было ўявіць, што робіцца ў тым людзяным мурашніку на полі шырокім і скрозь пакалупаным. Для тутэйшых і, так бы мовіць, вольных, цывільных, хто пабываў там, або яшчэ не паспеў пабываць ды на ўласныя вочы падзівіцца на дзіва, а толькі чуў пра будоўлю, — будоўля на лётным полі разам з лагерам зэкаў, варушылася ў свядомасці як нейкая аграмадная пачвара, якая пераджоўвае дрэва, глебу, друз, а заадно і людзей... Яна павінна пакінуць пасля сябе адно лётнішча і сховы для самалётаў. Гэта ўява ўсё глыбей асядала ў свядомасці, і цяпер, аручы зямлю, барануючы поле, выганяючы скаціну на пашу або ловячы, скажам, рой на лузе, або складваючы сена ў копы, сейбіт час ад часу пазіраў у той бок і прыслухоўваўся — не вядома было, як доўга чакаць, калі там завурчыць рой серабрыстых машын, гожых, гордых, і адначасова таямніча-пагрозлівых.

Ад аэрадрома кругамі пайшлі і неўзабаве дасягнулі Моталя даволі дасціпныя, хоць і змрочныя жарты. Казалі, што ў Савецкім Саюзе ўсе будоўлі камунізму, як аэрадром і нават большыя, як Беламорска-Балтыйскі канал, Камсамольск-на-Амуры, узведзены або рукамі энтузіястаў, камсамольцаў, значыць — людзей, якім за працу амаль нічога не плацілі, або зэкаў, праца якіх ужо зусім нічога не каштавала, наадварот, іхнімі касцьмі ўмацоўваліся падмуркі вялікіх будоўляў.

У Савецкім Саюзе, казалі, амаль усе людзі — будаўнікі, бо зашмат прыхільнікаў камуністычнай прышласці, а як той ці іншы грамадзянін страчваў будаўнічы імпэт, яго без усялякіх клопатаў пераводзілі ў катэгорыю зэкаў, — будаўніком жа ён усё адно заставаўся.

Гэтакія «жарты» па зразумелых прычынах перадаваліся людзям давераным, з вока на вока, і пачуўшы пра гэта ад

Андрэя Палто, свайго вучня ў пчалярскай справе, Пятро Пісарчук з усмешкай прыгадаў іншага блазна — табельшчыка Мэндаля: пагалоска адпавядала акурат духу яго-ных выказванняў, і не выключана, што пайшла ад яго.

Андрэй паскардзіўся на вялікія падаткі і сказаў, што прыбытак у яго гаспадарцы трымаецца амаль цалкам на пчолах. Дужы, хоць і не з асілкаў, а проста ў росквіце сіл мужык, ён выказаў занепакоенасць сваім радством з Ладзям Палто, братам, ад якога атрымаў ліст з нейкіх там Салаўкоў.

— Валодзька спадзяецца, што я прышлю яму харчовую пасылку... Ды я і не супраць... Але ж мая як узвілася ў хаце — што сатана, ледзь сцены не разнесла.

— Нягожа гэтак рабіць, — паспачуваў абодвум братам Пісарчук: — Няма Бога ў душы ў тваёй маладзіцы.

— Дый сам я няпэўны: ці не арыштуюць з-за брата?.. Сяджу, бы голай галай на лёдзе.

— Бачыш як...

Гаспадар Пятро падобных нараканняў ды жальб, ды плачу жанок чуў нямала, слава Богу, начуўся і спрабаваў ужо нават унікаць іх, чаму і рэдка выходзіў на людзі, — балела сваё.

Урэшце, прыспеў дзень і момант, калі ад прышлых навін яму зусім блага зрабілася і ён, зніякавелы і бледны, пачаў сноўдаць без дайпрычыны па хаце, а таксама ў двары; нікаў па сядзібных кутках, шукаў, а чаго — немаведама.

— Пятро, ты згубіў нешта?.. Чаму ты ходзіш як непрыкаяны?— дапытвалася Аксіння, дзівячыся паводзінам свайго чалавека.

— Яно згубіць цяпер не штука, — адказваў ён і, пазіраючы на жонку, спрабаваў выціснуць з сябе ўсмешку, але і ўсмешка не мяняла разгубленасці на твары. — Знайсці цяпер — не выходзіць, а згубіць што заўгодна можна, ужо калі людзі губляюць галовы, то...

Размова не клеілася, і, напэўна, таму, што Пятро губляўся ў здагадках, адкрываць Аксінні ўсё начыста ці не; мо не варта, бо тое, што ён носіць у душы, узбурыць яе і пазбавіць спакою — хоць бы на гэтыя колькі дзён, што засталіся да скону. Жыццё мела конча рушыцца, такая вестка прыйшла... няма ладу. Зрэшты, можа, усё яшчэ і абыдзецца... Няхай бы... Каб даў Бог!

А перавярнулася сэрца ў Пятра пасля візіту местачковага фельчара ў іх дом. Зося запрасіла «доктара» Ласіцу,

каб той паглядзеў, паслухаў яе сыночка Мішу, якому нездаровілася — слабіла другі дзень. І хоць Зося і баба Аксіння, што даводзілася Зосі свякрухай, пры лекаванні ўжылі добрыя хатнія сродкі, спатрэбіўся Ласіца, каб зняць падазрэнні на дызентэрыю.

Невысокі, круглявы мужчына з амаль вольным ад валос чэрапам, Ласіца быў знаным доктарам, таму як практыкаваў у Моталі даўно; яго талеравала польская гміна, а цяпер — пасялковы савет.

Нічога небяспечнага ў хлопчыка ён не знайшоў, але пакінуў занепакоенай мацеры свае парады і яшчэ колькі пілюль. Потым пацікавіўся, ці дома гаспадар Пісарчук, і, паколькі Пісарчук быў дома, зайшоў да яго, папярэдне пастукаўшы ў дзверы другога пакоя.

Прывіталіся, селі каля бібліятэчнай шафы за стол, і доктар Ласіца хвіліну выпрабавальна глядзеў на Пятра. Уздыхнуў, усведамляючы адказнасць размовы.

— У апошнія дні, гаспадар Пятро, я думаў пра вас. Мне карцела сустрэць вас, каб перадаць вам сёе-тое на словах, а тут ваша нявестка сама прыйшла да мяне і запрасіла... Словам, выпадак паспрыяў гэтай нашай сустрэчы.

— Разумею, — кіўнуў Пісарчук нагастраючы слых.

— Я, канешне, убаку... Але зяць у мяне — Паўлюк Ашурка — камсамолец і ў пасялковым савеце працуе. Можа, ведаеце?..

— Чуў...

— Дык ён паказаў мне спіс сем'яў... тых, што плануюцца на чарговае высяленне. Прабачце, не мая справа... але...

— І — там... — непакой і пытанне, трывога чыталіся ў Пятровых вачах.

— Не вем... дакладна, каб не было памылкі. Я адным вокам кінуў туды. На ўсялякі выпадак вы майце на ўвазе, гаспадар Пятро: чарговы хапун прызначаны на ноч 25 чэрвеня.

Пятро Пісарчук моўчкі згроб абрус у кулак, на адкрытым ілбе яго выступіў пот і жаўлакі хадзілі на шчоках.

— Уважаючы на ваш добры нораў і моцны характар, я з сумам выканаў свой абавязак. Я зычу вам толькі добрага, але аднаму Богу вядома, што цяпер дзеецца. Лічыце, між намі не было ніякай размовы.

У знак згоды Пятро нахіліў голаў і ледзь чутна, але выразна прамовіў:

— Дзякуй, пане Ласіца. Слова гонару: пра ваш высакародны ўчынак ніхто не даведаецца. Цяпер, відаць, мой лёс і лёс маіх блізкіх у руках Госпада.

Аксіння пачала здагадвацца, чым спрычынены настрой яе мужа, як толькі ён загадаў ёй праверыць у хаце ўсе вандзэлкі, падрыхтаваныя на выпадак арышту сям'і, ды абнавіць што-якое. І ў гэтай даўно распачатай практычнай рупнасці ёй нават лягчэй стала.

Пэўна, каб не трывожыць яе сваімі цяжкімі ўздыхамі і панурасцю ды засяродзіцца на пэўных думках сваіх, Пятро сказаў ёй, што будзе начаваць на сенавале ў сядзібе, але доўгі час яшчэ — ажно да вячэрняй зары — блукаў па лузе і ўслухоўваўся ў ціхае дыханне, у лёгкі, утрапёны гул пчол у вуллях. І, здавалася яму, што ён слухае дыханне самой зямлі ў яе сонным салодкім чмурэнні.

## 27

У свеце тым часам збіралася шмат выбуховай энергіі, і шнуры для яе падпалу былі ў розных руках.

У грамадскай атмасферы — не толькі ў Моталі, але і далёка наўкруг — няпэўнасць, чаканне і хвалюючае трымценне. Гістарычны лёс таго ці іншага кутка зямлі, яго жыхарства, як і ўсяго народа, вырашаўся, праўда, не тут, у гэтым кутку, або сярод гэтага народа, а невядома дзе і кім, якім д'яблам ці Богам.

Адно, скурай чулі маталяне, бяда вельмі блізка. Валадарамі становішча пачувалі сябе, відавочна, адны павадыры шматмільённых народаў і сярод іх — пагрозлівы, стрыманы ў выяўленні пачуццяў «таварыш» Сталін.

Ніхто не мог даўмецца, пра што думаў у тыя дні гаспадар Крамля, які пазбавіў Чырвоную Армію вышэйшага палітычнага, каманднага і інжынернага саставу ды самахоць, упарта абвяргаў усе ведамкі разведслужбаў аб прызначаным паходзе фашыстоўскіх полчышчаў на ўсход. А вось ягоны хаўруснік па таямнічым пакце Молатава-Рыбентропа — зайздроснік, прыяцель і праціўнік Адольф Гітлер — ужо займаўся пытаннямі замірэння, упарадкавання і эксплуатацыі ўсходніх, гэта значыць савецкіх, тэрыторый пасля іх заняцця войскамі рэйха.

Скрозь была патрэба ў здольных і надзейных людзях, і таму, не заглядваючы нават у гісторыю савецкіх пяцігодак, фюрэр мог бы смела паўтарыць вядомы сталінскі лозунг: «Кадры вырашаюць усё!»

Пад час працы і роздуму над гэтым пытаннем Гітлеру і прыйшла ў голаў выдатная думка выцягнуць з забыцця свайго даўняга друга — Вілі Кубэ, які сваім адумысным нетактоўным учынкам колькі год таму выклікаў скандал у Нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі і трапіў у апалу.

Адольф адчуваў патрэбу асабіста сустрэцца з былым сваім паплечнікам, публіцыстам, паэтам, і неўзабаве выклікаў яго ў рэйхсканцылярыю на аўдыенцыю.

— Хайль Гітлер! — па-партыйнаму вітаў Вільгельм кіраўніка дзяржавы.

— Праходзь, Вілі. Даўно мы не бачыліся, а ты выглядаеш свежым і спраўным, бы толькі сёння вылупіўся з яйка.

— Дзякуй за прыемныя словы. Я, між іншым, уражаны гэтым новым гмахам на Вільгельмштрассэ. Скрозь мармур, граніт, прастора мяжуецца з бляскам, а ваш кабінет — само ўвасабленне моцы і сілы дзяржавы. Віншую!

Душу фюрэра заўжды цешылі ўзрушаныя наведвальнікі і іх водгукі аб раскошных, няхай сабе і халодных, строгіх, імперскіх апартаментах, таму яго вочы пацяплелі, адорваючы Вілі ўвільготненым позіркам, мяккім, пяшчотна-блакітным...

— Зэр гут! Шпеер, о-о, ведаеш, гэты Шпеер — не архітэктар, а геній! І, хоць я сам у архітэктуры — не прафан і на думцы часам маю шмат рызынак, але ж куды мне да яго! Звярні ўвагу, у кабінеце чатыры ўваходы, і над кожным — па медальёне... Падыдзем бліжэй...

Узяўшы мажнага прыяцеля пад руку, Гітлер зрабіў з ім захапляючую экскурсію па кабінеце, паказваючы гасцінны куток, шырокі мармуровы стол ля вакна і, зразумела, габелены ды медальёны, апошнія ззялі золатам.

— Уяві, — казаў ён, — наколькі яскрава Альберт Шпеер перадаў тое, чым мусіць поўніцца ў гэтым кабінеце дзяржаўная ўлада. З кожнага боку — пэўная выява дабрачыннасці. От гэта — Мудрасць, там — Разважлівасць або сімвал Здаровага Сэнсу, а на тым медальёне — Храбрасць, на тым — Справядлівасць... Гут?..

— Так, мой фюрэр. Выдатна! Але ж мне дужа цікава, дзеля чаго я вам спатрэбіўся. Праз столькі гадоў...

— Не дакарай мяне мінулым, Віллі, я рады бачыць цябе. Толькі ж патрэбен ты не дзеля таго, каб вершы складаць. І патрэбен не мне асабіста, а Вялікай Германіі, улічы. Падыдзем да глобуса, глянем, мой мілы, на гэты пукаты і такі дзіўны малюнак планеты...

І яны прайшлі па нацёртай да бляску паркетнай падлозе да вялікага глобуса, які на чорнай падстаўцы ўзвышаўся ўзбоч паліраванага стала фюрэра ў левым кутку кабінета.

— Уяві сабе, Віллі, прастору: ад Атлантыкі да Урала! О-о! Там на кожнага немца ўсяго хопіць! І гэта прастора чакае нашага разумнага ўпарадкавання па завяршэнні маланкавай вайны, якая змые ўвесь камуністычны блуд і бруд з планеты і завершыцца поўным разгромам СССР. Паглядзі, Віллі, колькі там раўнін, азёраў, рэк, колькі гарадоў! Частку іх мы разбурым, зруйнуем, вынішчым, але ж для тых, якія застануцца, спатрэбяцца арыйскі розум і кроў, як мінімум — прысутнасць сыноў нашай Айчыны. Калі сваю справу зробіць куля, нашы кадры будуць вырашаць усё!

— То пэўна. Яволь! — адказваў коратка Віллі, пранікнёна слухаючы блізкага яму палітыка і чалавека. — Мой фюрэр, аднак Вы маеце мне прапанаваць нешта, а вайна яшчэ — кот у мяшку. І — калі яна будзе?..

— Віллі, вайна будзе і мы яе не можам адкладваць, як раней меркавалася. Вермахт меў намер перш разбіць Вялікабрытанію, а затым рушыць на СССР, але ж сітуацыя мяняецца. Сталін... Так, гэта вялікі палітык, яму ўдалося не адно дзесяцігоддзе трымаць у страху багата народаў, нават юды пры ім падцялі хвасты. Сталін — стратэг і, дзякуючы гэтакім сваім здольнасцям, пашырыў уладу саветаў пагрозліва далёка на захад. Ён прыбраў да сваіх рук Прыбалтыку, затым Бесарабію і Паўночную Букавіну. Ён не супраць ваенных паходаў. Ён драпежна абрушыўся на маленькую Фінляндыю. Толькі там Сталін паказаў, што ў вайне — не ігрок, найн! Шайзэ... Чырвоная Армія пацярпела няўдачу... Але вайна з фінамі Сталіна нічому не навучыла. Віллі, гэта вайна паказала, што яму не хапае... чаго? Ну-ну, ды вось гэтай дабрачыннасці! — І Гітлер ткнуў указкай у бліжэйшы медальён, дзе была выява Цвярозага Розуму.

Тут Адольф Гітлер зрабіў адступленне, паколькі заўважыў, як Віллі скасіў позірк на ягоны рабочы стол.

— А-а, ты глядзіш на адмысловую інкрустацыю па дрэве? Таксама выдатны твор Шпеера. Зважай!.. Пра што можа сведчыць напалову выцягнуты з ножнаў меч?.. Гэта яскравы напамін для кожнага госця аб сіле Германскага рэйха. Уяві, хто праз доўгія пераходы па слізготкай падлозе патрапіць сюды, у кабінет германскага фюрэра. Выява мяча ў маім кабінеце разлічана перш за ўсё на замежных гасцей, дыпламатаў.

— Мой фюрэр, я ніяк не пазбаўлюся моцнага ўражання: апошнім часам жыў у звычайным свеце і раптам патрапіў у свет казак «Тысяча і адна ноч»! О – о... І страшна і страшэнна цікава! А вы...

Адольф, пачуваючы сябе героем страшнай казкі, задаволена сцёбнуў прутком сабе па галяніпічы — быў абуты ў наглянцаваныя боты:

— Я дапамагу табе, Віллі, вярнуцца з-за аблокаў у рэальны свет. Мы ж адхіліліся... Глянь цяпер на гэты малюнак на глобусе. Вось Бесарабія, якая стала савецкай. І Паўночная Букавіна... Гэтыя тэрыторыі выступам упіраюцца ў Румынію. А там — крыніца нашай энергіі — нафта. Нафта — чорная кроў арміі! І што робіцца?! Паводле дадзеных нашай разведкі, менавіта ў гарах Бесарабіі і Паўночнай Букавіны Сталін сабраў у кулак узброеныя да зубоў арміі; ён бачыць у нас дурняў і ставіць за мэту адрэзаць ад рэйха Румынію. Блазан!.. Цяпер, мой друг, глядзі сюды, — і ў імгненне вока ўказка слізганула ўгору, спынілася на мяжы Беларусі з Польшчай: — І зноў чырвоны выступ... Зноў жа — арміі! А ў Пінскай акрузе, блізу мястэчка Моталь, па данясеннях Геруліса, будуецца агромністы ваенны аэрадром для стратэгічнай авіяцыі. Нам вядома, што настрой у афіцэраў будоўлі больш чым крытычны. З-за парадкаў у Чырвонай Арміі... Справа ў тым, што Сталін вынішчыў, па незразумелых для дыпламатычных місій прычынах, афіцэрскі корпус і вышэйшы камандны састаў. Але ж будоўля вядзецца ў шпаркім, калі не сказаць ліхаманкавым тэмпе. Пра што гэта гаворыць, Віллі?

— Разумею, мой фюрэр. Не на астравы ж у акіяне пасыплюцца савецкія бомбы — нам на галовы! Дактрына камуністаў скіравана на захоп Германіі дый усяго свету.

— Сталін хітры і вераломны палітык. Адной рукой ён задобрывае і гладзіць нас па галоўцы, публічна адмаўляе магчымасць вайны паміж намі. А другой рукой заносіць

над Германіяй дубіну. Найн, найн! — ускліднуў, як уджалены, Гітлер: — Не! Не!.. Не дачакаецца чырвоны вампір таго, каб Германія стала перад ім на калені! Мы першымі пойдзем. І спапялім Савецкі Саюз. І Францыю скінем ў Атлантыку, — тут указка фюрэра ўваткнулася ў блакіт акіяну. — Паставім ва ўмовы Вярсальскага дагавору Англію, яе бомбы наводзяць жах на жыхароў высакароднага і слаўнага арыйскага горада Берліна. — Халодны, блакітны, хцівы агонь шугаў з вачэй Гітлера.

Ведаючы схільнасць фюрэра да доўгіх экзальтаваных прамоў і маналогаў, Кубэ цярпліва слухаў прамоўцу. А той зноў вярнуўся да пачатку размовы:

— Дык вось, Віллі, дзеля таго, каб скончыць гэту вайну на такіх шырокіх абшарах, нам будзе мала разбіць савецкія войскі. Усю заваяваную тэрыторыю мы падзелім на часткі з уласным кіраўніцтвам, на дзяржавы, з якімі мы зможам заключыць мір. Сітуацыя запатрабуе ад нас абдуманых прынцыпаў, важных рашэнняў і, каб не пакінуць звароту назад, да камунізму, нам належыць вынішчыць там скрозь юда-бальшавіцкую інтэлігенцыю, якая дагэтуль прыгнечвае народы Расіі. Такім чынам, я абвяшчаю незалежныя ад Сталіна рэспублікі! І гэта будуць буферныя дзяржаўныя ўтварэнні з прымітыўнай сацыялістычнай інтэлігенцыяй... Зрэшты, праграма нашых земляў на Усходзе канчаткова не выпрацавана і не выключана, што мы ўтворым там дзяржавы без уласнай інтэлігенцыі.

— Варум? Вас золь дас бедойтен?*

— Віллі...

І яны выпрабавальна ўтаропіліся адзін на аднаго.

— Прашу прабачэння ў фюрэра... Я хацеў спытаць, ці могуць быць дзяржавы без нацыянальнай інтэлігенцыі?

— Паглядзім... Гм... Зрэшты, гэта толькі ад нас будзе залежаць! Ці ж не так, Віллі?.. Па крайняй меры, рэйхсфюрэр СС Гімлер прапануе не цырымоніцца з людзьмі ніжэйшай расы. Калі ласка, пазнаёмся, Віллі, з яго меркаваннямі. Вось які мемарандум ён склаў.

Кубэ ўзяў з рук фюрэра аркуш паперы і паглыбіўся ў чытанне гімлераўскіх прапаноў:

*«Ужо праз 4-5 гадоў, як мне ўяўляецца, паняцце «кашубы», да прыкладу, павінна стаць невядомым, бо к таму часу кашубская народнасць больш не будзе існаваць (гэта*

---

* Чаму? Як гэта разумець?

*тычыцца, у прыватнасці, і заходніх прусаў). Я спадзяюся, што нам удасца знішчыць паняцце «яўрэі», паколькі існуе магчымасць перасялення ўсіх яўрэяў у Афрыку або ў якую-небудзь іншую калонію. Некалькі больш часу спатрэбіцца, каб на нашых абшарах зніклі такія народнасці, як украінцы, гаракі і лемкі. Усё, што было сказана пра гэтыя асобныя народнасці, яшчэ ў большай меры адносіцца да палякаў.*

*...Для насельніцтва ўсходніх абшараў не павінна быць вышэйшых школ... Просты лік да 500. Унушаць, што воля Бога ў тым, каб яны падпарадкоўваліся немцам і былі шчырымі, дбайнымі, паслухмянымі. Уменне чытаць я лічу непатрэбным...»*

— Мой друг, — гледзячы ў анепакоены твар Кубэ, упэўнена доўжыў фюрэр вялікай імперыі. — Я заўжды цаніў цябе за аналітычны розум. У любым выпадку стварэннем дзяржаўных арганізмаў мы не павінны абцяжарваць армію. Дзеля гэтага на савецкіх абшарах, размежаваных нацыянальна, мы пакінем камісараў рэйха — таму мы і вядзем з табой гутарку... Вілі, пры тваім вопыце і розуме я гатовы парэкамендаваць цябе на пасаду генеральнага камісара адной з занятых сіламі Вермахта акруг, ну скажам, на акругу з найбольш нязнаным народам Еўропы... Краіна завецца Беларутэніяй, — і Гітлер павёў указкай па Беларусі.

Вільгельм Кубэ, для якога вяртане ў палітычнае жыццё краіны азначала поўную рэабілітацыю і было нечаканай удачай, пасвятлеў чыста выгаленым тварам, круглым, валявым, з адзнакай жвавасці і інтэлекту:

— Я згодзен з вашай прапановай, мой фюрэр. Буду рады паслужыць нямецкай нацыі яшчэ раз!

— Інструкцыі атрымаеш у канцылярыі. Я зычу табе поспеху, Вілі! — і на развітанне Гітлер па-сяброўску паляпаў Кубэ сваёй нешырокай мастакоўскай далоняй па плячы: — Відэрзэен!

Вядома, справамі будучых скораных земляў займаліся розныя службы рэйха, ды ў тым ліку і Абвер — нямецкая армейская разведка. У Кракаве было адно з падраздзяленняў Абвера, якое ўзначальваў нехта Геруліс, капітан або гаўптман па-нямецку. Аддзел меў сваю агентуру ў Беларусі і на Украіне і вербаваў да сваёй працы эмігрантаў з савецкіх рэспублік, якія асталяваліся ў Польшчы.

Завербаванымі Абверам ў 1940 — 41 гадах былі, да прыкладу, доктар Мікалай Шчорс і паэт, журналіст Уладзіслаў Казлоўскі (літаратурны псеўданім — Казлоўшчык). Абодва яны мелі ніштаваты досвед у беларускай патрыятычнай працы ў Вільні да таго, як Вільню заняла Чырвоная Армія і таварыш Сталін дзеля пэўных палітычных разлікаў перадаў яе Літве.

У розных прадстаўнікоў нацыянальна актыўнай беларускай эміграцыі было сваё стаўленне да супрацоўніцтва з немцамі, якія цяпер збіраліся абрынуцца вогненным смерчам на СССР. Па праўдзе, усе ў эміграцыі чакалі гэтага моманту як адплаты камуна-бальшавізму за здзекі над людзьмі. Іх хвалявала і радавала магчымасць вярнуцца на Бацькаўшчыну ды пад прыкрыццём нямецкага рэйха, калі на тое пойдзе, па-новаму заняцца дзяржаўнай выбудовай.

Так шчасліва складваліся ў выгнаннікаў думкі... І быў добры прыклад — утварэнне, з блаславення рэйха, самастойнай краіны Славакіі. Адно вядомы беларускі дзеяч Вацлаў Іваноўскі ды Янка Станкевіч, філосаф, не давалі веры ў перамогу немцаў у вайне з Савецкім Саюзам і лічылі акупацыю Беларусі, калі яна распачнецца, часовай. Больш шанцаў для падтрымкі беларускага незалежніцкага руху яны схільны былі бачыць далей на Захадзе — у Англіі, ЗША, а таксама Польшчы.

Чакаў далейшага разгарнення падзей, не выдаючы свайго хвалявання, Радаслаў Астроўскі, адзін з закапёршчыкаў у нацыянальным руху на Беларусі; чакаў, не прыхінаючыся пакуль ні сюды, ні туды.

Затое, больш актыўна дзейнічала група Шчорса, куды ўваходзіў і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Апошні рупіўся ў Беларускім камітэце ў Берліне. Вясной 1941 года імі было завербавана 50 добраахвотнікаў для Абвера. Пасля вучобы пад Аполем абвераўцы павінны былі дэсантавацца на чыгуначнай лініі Баранавічы — Стоўбцы і ў першыя ж гадзіны і дні вайны паралізаваць рух савецкіх цягнікоў на ўсход. Паводле меркаванняў ксяндза Гадлеўскага, гэта дыверсійная група ў будучым мела ператварыцца ў першую штурмавую роту нацыянальных узброеных сіл Беларусі.

Шмат рабіў і Казлоўскі...

Уладзіслаў Казлоўскі неаднойчы сустракаўся з маладым чалавекам Усеваладам Родзькам, які шукаў спра-

вы. Гэта быў няўрымслівы чалавек, вядомы і прызнаны сярод маладзейшага крыла беларусаў у Польшчы. Паляшук, ураджэнец вёскі Чучэвічы Лунінецкага павета, яго бацькамі былі Філарэт Родзька, вясковы настаўнік, і Вера — спаважная сялянка, маці... Іх сын скончыў Наваградскую польскую гімназію імя А. Міцкевіча.

У Польшчы Родзька застаўся пасля захопу яе немцамі. Да пачатку нямецкай акупацыі паспеў вывучыцца ў падафіцэрскай школе ў Замброве і служыў у польскім войску; трапіў у палон, і тут яго лёс стаў падобным на лёс Барыса Рамановіча.

У Кракаве ж Усевалад Родзька пазнаёміўся і пасябраваў з украінскімі нацыяналістамі, якія дапамаглі яму шырэй і глыбей зразумець нацыянальныя карані з'явы і накірунак у сацыяльна-палітычнай і патрыятычнай рабоце. Ён уваходзіў у групу Гадлеўскага, хоць нейк па-максімалісцку нядбайна і крытычна ставіўся да яго, як, зрэшты, і да іншых дзеячаў, хто быў старэйшы ад яго, а яму ж ішоў усяго 21-шы год. Дармо... Маладыя ды ранні. Узначальваў кракаўскую філію Варшаўскага беларускага камітэта.

Увогуле паміж кіраўнікамі беларускіх камітэтаў не назіралася вялікай злагады, асабліва ў тых, хто прэтэндаваў на нацыянальнага лідэра. Чаго граху таіць, былі такія парыванні і ў Шчорса, былі і ў Астроўскага, былі і ў Гадлеўскага, дый Родзьку летуценныя подумкі-думкі не давалі спакою. Кажуць, той не салдат, хто не марыць стаць генералам.

З уласнаручных запісаў У. Родзькі:

*«Ужо ў красавіку 1941 года ў Варшаве, калі я паступаў на службу ў Абвер, заўважалася з боку немцаў-абвераўцаў падрыхтоўка да думкі аб неабходнасці стварэння палітычнай групы або арганізацыі з маладых беларускіх патрыётаў для правядзення антысавецкай дзейнасці.*

*У размовах з рэзідэнтам Абвера У. Казлоўскім я павінен быў усвядоміць наступнае: паколькі ў беларускім камітэце ў Варшаве штораз адбываюцца звадкі, нам неабходна стварыць моцную групу маладых, па яго выказванню, рэвалюцыянераў, якія б не столькі гаварылі, колькі дзейнічалі; яны маглі б стаць палітычным рэвалюцыйным авангардам у адносінах да падношаных сучасных нацыяналістаў (алюзія ў бок Гадлеўскага, Станкевіча) і — пры патрэбе — стаць маладымі, поўнымі энергіі кіраў-*

*нікамі і камандзірамі. Паводле ягоных выказванняў, эміграцыю неабходна сабраць у адзіны кулак, тады можна выступіць і супраць апетытаў украінцаў на Падляшшы і процістаяць варожасці палякаў, падрыхтаваць кадры для маючай быць дзяржавы. З такім кулаком і самі немцы больш лічыцца будуць як з рэальнай сілай. На ягоную думку, матэрыял для падобнай групы ў Варшаве ёсць, існуе, а, пры неабходнасці, у будучым ён можа папоўніцца ў самой Беларусі.*

*Геруліс выклікаў мяне разам з Уладзімірам Лазарэвічам з нагоды даносу Акінчыца, які памылкова даводзіў, што мы рыхтуем з'езд былых сяброў беларускай нацыяналістычнай арганізацыі 1921—1925 гадоў — «Грамады». Геруліс зазначыў, што гэтакі з'езд цяпер няма як праводзіць, няма палітычных падстаў. Але стварэнне палітычнай арганізацыі, моцнай і прыхаванай ад ворагаў, з'яўляецца неабходным, прычым, не толькі на эміграцыі, — таксама і ў Беларусі, якая сёння церпіць і змагаецца за незалежнасць, а заўтра стане незалежнай. Такую арганізацыю павінен стварыць малады элемент, які меней лічыцца з юрыдычнымі фармулёўкамі і, абыходзячы іх або ламаючы, імкнецца да рашучых дзеянняў. Гэты прынцып — ствараць кіраўніцтва з асяроддзя маладых — Геруліс некалькі раз падкрэсліваў. Немцы, казаў ён, любяць, калі іх ставяць перад фактам».*

## 28

Вароты сядзібы заскрыпелі працяжна і натужліва, бытта не жадаючы прапускаць на падворак нязваных гасцей. Паўлюк паглядзеў на бацьку, няйначай, такога скрыпу раней не было, варта ім змазаць петлі завесаў. Стоячы па розных баках расхінутых палавін, яны прапусцілі ў двор трох немцаў у палявой вайсковай форме. Пазвоньваючы шпорамі і ў лад гэтаму звону весела перакідваючыся незразумелымі для гаспадароў словамі, вайскоўцы ўвялі асядланых коней, выкармленых і ўходжаных як мае быць. Ні ў якое параўнанне з імі не ішла тая лядашчая армія, якая ў верасні 1939 года наступала з усходу на захад. І што амуніцыя на конях, што шаблі на поясе ў кавалерыстаў вабілі вока навізной, трываласцю, бляскам.

На твары Паўлюка, як заўсёды ў такіх далікатных і вострых выпадках, гуляла змыслая і трохі блазнаватая

ўсмешка ў той час, як выраз твару ў бацькі — Пятра Рамановіча, наадварот, быў выпакутавана строгім і стрыманым у выяўленні пачуццяў.

— Хафер... Хафер, — заладзілі, затакавалі раптам, бы цецерукі, чужынцы, паказваючы на коней: — Хафер гут, хафер фрэссен... Гібт хафер... Фэрштэйн?

Адзін з іх дастаў торбу, у якую каню насыпаюць... хафер.

— Фэрштэйн, — сцяміў гаспадар. — Гут... Паўлюк, — звярнуўся да сына: — Зрабі ласку, прынясі іхнім коням аўса па вядру.

Усе ваяры былі маладымі, недзе ў прамежку ад 25 да 30 гадоў. За старшага ў іх быў унтэр-афіцэр. Станісты, прыгожы, з саламяным чубам і невялікім барвяным рубцом на шчацэ, каля вуха, магчыма ад шаблі. Аглядаючы сядзібу, ён не мог не заўважыць Маню, якая стаяла ў двары каля ганку і ўважліва вывучала аблудную кавалерыю. Мусіць, фашыстоўскага унтэра ўразілі яе вялікія цёмныя і да таго ж прагныя вочы; ваяр утаропіўся на яе:

— Мэдхен?.. Шпрэхен зі дойч?

— Найн, — адказала Маня, яна толькі пачынала ў школе вывучаць нямецкую мову.

— Ду іст шон! — пахваліў яе кавалерыст і, звяртаючыся да таварышаў, адпусціў нейкі жарт, ад чаго тыя зарагаталі, а яна сумелася.

— Гут! Гут, мэдхен, — казаў далей гэты чысты, як бы накрухмалены унтэр, намагаючыся, пэўна, супакоіць яе. — Ві іст дайн наме? Ева!.. Марыя?..

— Мяне завуць Мар'я.

— Марыя гут, Марыя шон! — і ён тыцнуў пальцам сабе ў грудзі: — Майн наме іст Ганс. Фэрштэйн?

— Але ж... Фэрштэйн, — смялей адказала Маня.

Ганс паказаў на таварышаў:

— Наме Хрыстыян... Наме Франк... Фэрштэйн?

— Я, я... — ізноў выціснула Маня з сябе адказ па-нямецку.

— Гут! — унтэр Ганс дастаў з сумкі шакаладку і працягнуў яе дзяўчынцы. — Біттэ, Марыя!

Маня стаяла знерухомеўшы, як што прапанаваная чужаком шакаладка нагадала ёй бацьку, ад якога яна спанатрылася браць іх і які ўжо даўно не падаваў пра сябе вестак.

— Біттэ, біттэ! — паўтарыў спагадлівы немец; у ягоных светла-шэрых, з блакітным подзімкам вачах дзяўчынка бачыла зычлівую ўсмешку.

Як не сваёй, як здзервянелай, без усялякіх адчуванняў рукой яна ўзяла з яго рук шакаладку.

— Дзякуй…

Ці паспела яна вымавіць гэта, ці толькі наважылася, як слёзы заступілі ёй зрок і ўсё паплыло ў тумане. Апамяталася яна ў сваім пакоі, куды збегла ад цікаўных вачэй, сваіх і чужых.

Гаспадар Пятро з міжвольнай усмешкай сачыў за гутаркай нямецкага ваяра з ягонай унучкай, дзівіўся Маніная вытрымцы, здольнасці адкрыта глядзець у твар незнаёмцу і падтрымліваць гутарку; ён зразумеў яе стан, калі, узяўшы з чужых рук шакаладку, яна расплакалася.

Ганс не цяміў, што адбываецца ў душы дзяўчынкі і чаму яна, заплакаўшы, збегла, схавалася ў хаце. Але толькі пасля гэтага ён дастаў з нагруднай кішэні фотакартку і паказаў Пятру і Паўлу. На здымку была малая, гадоў пяці, дзяўчынка з банцікам і кудзеркамі на галоўцы.

— Майн тохтэр, — патлумачыў Ганс і паспрабаваў развіць сваю думку далей: — Бліцкрыг іст бальдэ цу эндэ. Фэрштэйн? Камуністышэ уніон капут? Москаў капут? Сталін капут! Ганс нах Дойч — пі-пі! — і паказаў рукой туды, дзе ўжо хілілася да захаду сонца. — Майн фрау гут, майн тохтэр гут? Лібе іст вундер шон!

— Ого! — адрэагаваў воклічам Павел. — Усім капут, а Гансу — гут! І сям'і ягонай таксама добра будзе.

Пятро маўчаў, заняты ступой сваіх думак.

— Не пераскочыў, а ўжо крычыць гоп. Ці ж не кавалерыст, га? — Павел смяяўся.

— Вагір?..

— А, гут, гут, Ганс! Не перажывай… Хафер наш, але перамога будзе вашай. Абавязкова!

Коней рассядлалі, далі ім аўса, і тады, глянуўшы на сонца і на свой ручны гадзіннік, Ганс паказаў таварышам у прагал між дрэвамі, ускрай пуні, дзе віднелася возера. Яны абмяняліся кароткімі воклічамі, занеслі свае рэчы ў хату на палавіну гаспадароў, дасталі мыла, тонкія, фабрычнага вырабу ручнікі і, пры зброі, падаліся за сядзібу Пісарчукоў — купацца. Арыйцы мелі свае чалавечыя звычкі і патрэбы.

Гаспадар Пятро, як і тыдзень таму, начаваў у пуні, толькі на гэты раз ужо разам з Аксінняй. У іх пакоях адпачывалі гітлераўскія ваяры.

Пятро абдумваў сітуацыю, якая рашучым чынам змянілася для яго, як і для многіх грамадзян краіны. У нядзелю гітлераўскія войскі неспадзявана пайшлі ў наступ на Савецкі Саюз.

У Моталь трывожная вестка прыкацілася папярэдзе вайны — па правадах. Вядома, для ўсіх яна была ашаламляльнай, бо горш ад вайны нічога ў жыцці не бывае; у памяці ж дарослага люду яшчэ крываточыла тая вайна з немчурой, якая легла цяжкім крыжам на народ Беларусі. Ад яе, на той час маладзейшы яшчэ, Пятро Рамановіч ратаваў сваю сям'ю ды нейкім чынам аказаўся аж у далёкім Паволжы. Цяпер пакуль не вядома, што рабіць, на што спадзявацца. Толькі ж у першы момант, калі па радыё даляцела да яго тая вестка, ён, небарака, чакаўшы няшчасця з іншага боку, нават абрадаваўся: наканаваная яму на 25 чэрвеня высылка на марозны Сібір адмянялася, няхай Бог крые, — вайною. І якой бы страшэннай вайна ні была, а ён ужо пазбавіўся цяжару тых думак пра благое. Сапраўды, не было б шчасця, ды няшчасце памагло.

Але ж падзеі вайны толькі-толькі разгортваліся, і, дарма што Моталь стаяў між вялікіх дарог, у ціхім кутку, у прамежку гарадоў Пінск — Яноў, — на чацвёрты дзень вайны яе грукат дакаціўся таксама і сюды.

З раніцы ў чацвер, калі жыхары былі заняты пераважна сваімі гародамі і ўвогуле сваёй гаспадаркай, у мястэчка аднекуль ускочыла і падалася па вуліцах у натужлівым гудзенні грузавая машына, паўтарытонка, з узброенымі людзьмі ў сіняй форме энкавэдыстаў. Машына відочна выбірала шлях на ўсход.

На цэнтральнай вуліцы за ёй наглядала гурма яўрэяў — уцекачоў з Польшчы, што ўтварылі чаргу ў сталоўку. Аднак не паспелі іудзеі скончыць распачатую імі размову пра таямнічае знікненне за дзень да вайны іх таварыша, купца Мэндаля, як новым гулам матораў напоўнілася прастора вуліц. Цяпер адна за адной імчалі шэсць лёгкіх бронетанкетак з сімвалам свастыкі на бартах. Чарга сумелася, але не страціла розуму і не стала выпрабоўваць лёс, таму яе ў момант як цялё языком злізала.

З адкрытых люкаў выглядвалі маладыя, нагала пастрыжаныя нямецкія салдаты, іх твары здаваліся поснымі і

пахмурнымі, напэўна, недаспалі з-за няўпраўкі ноччу. З пярэдняй танкеткі зататакалі з кулямёта — усцяж вуліцы са свістам пранеслася доўгая чарга куляў. У многіх жыхароў мястэчка зайшлося сэрца: на яве вайна.

Машына з энкавэдыстамі, якая, як высветлілася потым, была накіравана з Пінска на аэрадром, каб спыніць там рабаванне складоў насельнікамі акругі , цяпер уцякала ад нямецкай пагоні і непадалёку ад царквы як спатыкнулася, насягнутая кулямётным агнём. Матор загарэўся, а энкавэдысты — уроссып; рассеяліся, а потым, неяк сабраўшыся, пайшлі на ўсход.

На ўсход у першыя дні вайны кінуліся амаль усе савецкія і партыйныя — людзі ўлады, пакідаючы народ, яго цела і душу без належнай падтрымкі.

Адно ў панядзелак 23 чэрвеня добраахвотны памочнік старшыні пасялковага савета, капітан запаса танкавых часцей Сяргей Калінічэнка, прыцягваючы да справы сакратара савета Плюнгера, узяўся быў за мабілізацыю мужыкоў у Чырвоную Армію, сабраў ледзь не роту. Праўда, накіраваная пешшу ў Пінск грамада мусіла вярнуцца назад, як што ў горадзе ўсе дзяржаўныя службы ўжо былі паралізаваны або іх зусім не было і царыла сумятня не дай рады.

Немцы як ні ў чым не бывала рассеялі калону зэкаў, якіх пераганялі пеша з будоўлі ваеннага аэрадрома ў Яноў.

Мясцовыя ўлады, як высвятлялася ўсё больш яскрава, не здольны былі дзейнічаць, і тады былы танкіст Калінічэнка памкнуўся аднаму яму вядомымі шляхамі на ўсход. І тыя шляхі аказаліся адрэзанымі. Давялося і яму вярнуцца.

З іншых савецкіх служачых і спецыялістаў у Моталі засталіся, бадай, толькі двое — Данік Плюнгер і дырэктар школы Вольга Міронава, з якой ён ладзіў дружбу. Яны ўважліва сачылі за развіццём падзей.

Нямецкія танкісты, разбіўшы савецкую паўтарытонку, больш не затрымліваліся ў мястэчку. Пасля іх знікнення адважны Плюнгер на вачах у здзіўленых местачкоўцаў забраў з кузава машыны гранаты і патроны ўцекачоў.

— Данік, а куды ж ты іх панясеш? — дапытваліся разяўкаватыя.

— Выкіну ў прыбіральню...

Жарт спадабаўся і галасы падхапілі:

— Толькі ў сваю... толькі ў сваю!

— О, як вы цэніце свае с....!

Сюды, да падпаленай машыны, што стала першай ахвярай вайны ў гэтым мястэчку, цягнула багата каго — паглядзець, пагутарыць, памеркавацца аб надзённым каля яе.

Гаспадар Пятро сустрэў тут старога Сяргея Кузюра, які цяпер рэдка выходзіў на людзі і, тым не менш, у апошні год прымусіў маталян загаварыць пра сябе, як мала хто. Дзівак-чалавек набыў славу тым, што збудаваў сабе труну, якая нечым нагадвала лодку-душагубку, паставіў яе на гары і часам па лесвіцы залазіў туды, пад дах. У цёплыя дні ён клаўся ў залацісты, пахнучы смалою чаўнок ды адпачываў у супакоі і нейкіх сваіх летуценнях, пра якія мала каму чаго і баяў.

Выпетраны, зжоўклы, бы пераспелы агурок наградцы, з кусцістымі сівымі бровамі, з-пад якіх пранікнёна і ўчэпіста глядзелі шэрыя вочы, ён стаяў, як падбіты птах, абапіраючыся на клюбіну, і слухаў другога маталяніна, паджылага Аляксея Мінюка.

— Гісторыя пакуль не ведае прыкладаў, каб нехта заваяваў і паняволіў Расею, — даводзіў той. — А чаму?

Пятро Пісарчук павітаўся з імі, не перабіваючы гутаркі.

— Ну пэўне, пэўне, — адказаў Мінюку Кузюр: — Такіх прыкладаў мы не маем.

Ад машыны лёгкім подыхам ветру даносіла смурод гарэлага масла і фарбы. Але смурод спакваля мінаўся. Сонца ўлагоджвала паветра густым, аксамітным, як ліпавы мёд, настоем промняў.

— А, уласна, чаму? — ставіў амаль рытарычнае пытанне мясцовы знаўца гісторыі Мінюк.

— Гітлер, пэўна, не чытаў раман «Война и мир», напісаны Талстым, — выказаў сваё меркаванне Пісарчук. — А там жа пра расейцаў усё сказана. У іхнім характары нескароны дух. У іх практычна неабмежаваная прастора.

— Але ж, але ж... Сапраўды, — заківаў галавой Кузюр: — Хто можа захапіць неабсяжнае?

— Зрэшты, і літвіны ні ў чым не ўступалі маскалям — зазначыў Пятро. — Хіба пераўзыходзілі іх у міласэрнасці, або, як цяпер кажуць, гуманнасці. Нашы князі гэта дэманстравалі не раз. Не было ў іх жорсткасці Івана Жахлівага і ягоных саўдзельнікаў. Не было таго, што на нашых вачах вытваралі, напрыклад, Троцкі і Сталін.

— У Расеі значная частка грамадства ў ланцугах. А гэта палёгка Гітлеру! — падказаў нехта.

— І ўсё адно, — не дазваляў аспрэчваць сябе Мінюк, постаць якога на караткаватых нагах здавалася ўрослай у зямлю: — На гітлераўцаў няма чаго разлічваць ды падносіць ім хлеб-соль, як той, напрыклад, што вунечкі ідзе.

Ішоў да іхняга невялікага гурту ацяробак Мухала, які ўславіў сябе нядаўна таксама, але ўжо прыгодай брутальнага кшталту. Ён дапяў да занятай немцамі вёскі Упірава, што на захад ад Мотaля а дзвюх гадзінах пешай хады, і разам з паклонам перадаў тым злыдням хлеб-соль ад маталянаў. Хто яго ўпаўнаважыў на гэта, аднаму д'яблу, мабыць, вядома. Толькі ж туды разам з ім хадзілі яшчэ двое мужыкоў, пакрыўджаных савецкай уладай. Яны мелі намер і ў Мотaлі пры зручным выпадку паднесці немцам сімвал беларускай гасціннасці — у другі раз і падгаворвалі да гэтай акцыі іншых людзей.

Мухала ступаў спаважна і грузна, пэўна, пад цяжарам аднаму яму вядомых думак, і ў такт ім сціху варушыў зрудзелымі ад тытуню вусамі, даўно не стрыжанымі, навіслымі над ротам.

— Міхалка, — звярнуўся да яго Сяргей Кузюр,— я помню твайго бацьку: Мікіта быў адданым сваёй зямлі гаспадаром і ніколі не стаў бы ўкленчваць перад акупантам. А ты, басяк, ссабачыўся?..

— Я дарую вам абразу, пане Кузюр, уважаючы на ваш узрост.

— Вот гэта правільна!

— Але, — Мухала глянуў з-пад ілба на старога, — ці не з сабачай уладай мы ўсе мелі справу?.. Го, то слаба яшчэ сказана! Няхай ваўкі з падмогай немца такую ўладу выражуць! Колькі людзей яна загубіла, а колькіх давяла да жабрацтва? Так што, пане мой ласкавы, лепей з ворагам мець справу, чым з тымі душагубамі!

— Міхалка! — з сухім трэскам вырвалася з грудзей старога. — Ты робіш пралік? Сыдзі з вачэй маіх, шыбенік, каб я не перажываў за цябе.

Мухала адвярнуўся і, сплюнуўшы, пайшоў прэч. А Кузюр звярнуўся да Аляксея, Пятра і ўсіх, хто, нагастрыўшы слых, уважаў на іх гутарку:

— Грамадзяне, людцы, сёння брат брата перастае разумець. Аднак вы наважвайцеся не на сустрэчу нязваных гасцей, а на іхнія провады. Гісторыя яшчэ не бачыла добрых заваёўнікаў. Не глядзіце, як прыгожа яны наступаюць, а лепей будзеце глядзець, як будуць бегчы адсюль.

І ноччу, лежачы ў пуні на сене, Пятро перабіраў у памяці тую сустрэчу і настаўленні Кузюра, затым вяртаўся да кавалерыйскага эскадрона, раскватэраванага нанач у Моталі і ў яго ўласнай сядзібе. Свядомасць на нейкіх глыбока інтуітыўных падставах падказвала яму, што вайна, вайна-зладзейка прынесла ягонай сям'і выйгрыш і выратаванне ад халоднага Сібіру, але ж не вядома яшчэ, што яна возьме ўзамен ад усіх і яго асабіста.

## 29

Эскадрон нямецкай конніцы, пераначаваўшы ў мястэчку, сцягнуў асабовы састаў з розных хат і сядзіб на кірмашовы пляц і, пагрукваючы, пазвоньваючы шпорамі, строем патрусіў далей па ваенных дарогах.

Пра яго, можа, неўзабаве і забылі б, як забываюць пра нешта нязначнае, што аднойчы прамільгнула ў жыцці, каб не адзін эпізод, а дакладней, прыгода.

Пругкім сонечным ранкам, калі Ганс і яго аднамыснікі ў форме ўжо асядлалі коней, а гаспадар Пятро расчыняў вароты для выезду нямецкіх ваяроў, з веранды выглянула Маня.

— Гут морген! — павітаўся з ёй Ганс і паклікаў бліжэй да сябе. — Гут мэдхен... фарен дойчланд... шпрэхен дойч?..

З ягонай чужынскай мовы Маня ледзь угадвала асобныя словы і круціла галоўкай з левым праборам валасоў, як у мацеры, цёмна-русых, рассыпаных па плячах.

— Найн — найн...

Пры гэтым яе цёмныя і крутыя броўкі азадачана і здзіўлена ламаліся, скачучы ўгору.

— Найн... Не, не ведаю, ніц фэрштэйн.

У гэты ж момант усцяж вуліцы скакаў на кані афіцэр эскадрона ў суправаджэнні салдат. Насупраць сядзібы Пісарчукоў яны прыпынілі коней:

— Хайль Гітлер!

І Пісарчуковы начлежнікі гаркнулі:

— Хайль Гітлер!

— Гер афіцэр, — звярнуўся да яго Ганс, ускокваючы ў сядло. — Мэдхен Марыя... Гут Марыя... Дойчланд... Кляйне кіндэр...

Маня, схапіўшы шурпатую дзедаву руку, інстынктыўна прыціснулася да яго, а ён, яе дзед, углядваўся ў рабаціністы твар афіцэра. І твар, і сутулаватая постаць немца здава-

ліся яму нейкім чынам знаёмымі. Калі ж афіцэр звярнуўся да Мані на чыстай рускай мове, Пісарчук аслупянеў ад здзіўлення. Не, ён напружана слухаў, але не чуў, дакладней не ўсведамляў, што той пачаў гаварыць.

— Увага? Доблесны кавалерыст германскага рэйха Ганс Леме раіць дзяўчынцы Марыі старанна вывучаць нямецкую мову. Калі ж неўзабаве скончыцца вайна, ён заедзе і забярэ яе ў Германію. Там яна будзе даглядаць і займаць яго малую і мілую дачушку Паулу. Ён спадзяецца, што Марыі ў ягонай сям'і будзе добра. Фэрштэйн?

Нямецкі хаўрус ажывіўся, на тварах салдат замільгацелі лагодныя ўсмешкі:

— Гут, гут, Марыя...

Адно дзед і Маня стаялі нерухомыя. У нямецкім афіцэры дзед прызнаў тэхніка Говарава з будоўлі ваеннага аэрадрома, і ад падобнага явішча ў яго дых заняло. Вачам сваім не хацеў даваць веры... «А дзе ж Мэндаль?» — чамусьці ўспомніў пра Мэндаля гаспадар Пятро, але спытаць не пасмеў. І Маня ад страху стаяла збялелая.

Ганс у апошні раз азірнуўся на іх. У добрым настроі расцягнуў ён губы аж да рубца на шчацэ — падарыў Марыі і, пэўна, усёй іхняй сядзібе блакітную ўсмешку:

— Аўхвідэрзэен!

Дзед Пятро доўга не мог апамятацца ад нечаканай сустрэчы. Яго здагадку наконт Говарава пацвердзіў неўзабаве і яшчэ адзін чалавек: камсорг будоўлі Сцяпан Міховіч; ён, як і Пісарчук, быў моцна ўражаны і расказваў людзям пра такое неверагоднае надарэнне...

У нядзелю а другой палове дня з моладаўскага ваеннага аэрадрома пачалася эвакуацыя служачых. І ён, Сцяпан, перад эвакуацыяй пажадаў пабачыцца і развітацца з сям'ёй. Па дарозе ў Моталь да яго далучыўся тэхнік-будаўнік Антон Говараў — яны з ім працавалі на адным аб'екце. Дома ў Сцяпана павячэралі і заначавалі. А раніцай Антон папрасіў прыяцеля пачакаць яго, маўляў, яму трэба збегаць кудысьці па справах... І — знік.

Ужо ў чацвер пад вечар Говараў вярнуўся ды ў новым уборы — уга! Афіцэр. Прыскакаў з эскадронам, які ўсведамляўся камсоргам як варожая навалач.

— Ну што, Сцяпан, пазнаеш мяне?! Я стрымаў слова...

Міховіч глядзеў на яго ў нямым здзіўленні. Нарэшце, здагадаўся спытаць:

— Ты хто цяпер?

— Старшы ўзвода разведкі, — адказаў пярэварацень Говараў. — Толькі не будзем час марнаваць. Я паехаў. А з табой яшчэ разбяруцца!

...Эскадрон паскакаў угрунь асягаць бліцкрыг, і, калі ўражанні ад нямецкай конніцы і асобных яе ваяроў у свядомасці маталянаў улегліся і пра вайну перастала чуваць, тут, у зацішку прыроды, аднавілася спакойнае бясхмарнае, стваральнае жыццё, падобнага якому нават местачковыя старажылы прыгадаць не маглі. Калі яно і было, то не за іх памяццю.

Усё знешне замерла. Усё ўвайшло ўласна ў сябе, жыло сабой, і амаль не дыхала, выкарыстоўваючы свой глыбінны рэсурс. А можна і лепей сказаць: усё, што мела дыхаць, дыхала ўласнымі клеткамі. Адсюль — лагода, бы штыль на моры. Ні табе лепшай у свеце савецкай улады, ні табе лютых ворагаў — нікога, хто стаяў бы над душой або цікаваў пад вокнамі. Адно засталося ў мотальскага люду — воля і сумленне. Дзіва, як жыць можна!

З месяц доўжылася такая ідылія. Акурат столькі, колькі падцягваліся сюды палітычныя і гаспадарчыя службы рэйха. Урэшце, яны сабраліся з сіламі і на самым пачатку жніўня карным батальёнам эсэсаўцаў акружылі Моталь. У мястэчку для іх, дарэчы, як мог лагодзіў справу аддзел паліцыі, самахоць утвораны Міхалам Мухалам і Міхасём Балько для падтрымання грамадскага, чуеце, парадку.

Карнікаў, як сябраў, напэўна, нецярпліва чакала і пані Малішэўская, былая польская настаўніца. Яна варожа ставілася не толькі да савецкай улады, але і да беларускай супольнасці, да культуры беларусаў. Пра гэта многія ведалі, але насілі ў сабе. У сэрцы літвіна-беларуса нярэдкая госця паблажлівасць. І от не паспелі эсэсаўцы з'явіцца ў пастарунак, як гэта паджылая кабета прынесла ім спіс актыўных прыхільнікаў і даводцаў былога, значыцца, камуністычнага рэжыму. Малішэўская пазначыла ў спісе восем чалавек, у тым ліку Мікіту Калільца, што цяпер ужо чыста сімвалічна выконваў абавязкі старшыні пасялковага савета, і ягонага сына Івана. Астатнія, як Данік Плюнгер, Іллюк Дубовіч, у гэты момант туляліся недзе воддаль ад Моталя — на хутарах блізу ўпіраўскага лесу, і пра гэта ведаў начальнік пастарунка Мухала. Ведаў і не надаваў таму асаблівай увагі — у ягонай душы нешта працівілася крыважэрнасці пані Малішэўскай. У рашучы момант

ён адшукаў Міхаіла Ксёнду, які за польскім часам служыў за войта, а потым сядзеў у савецкай турме і нядаўна вярнуўся. Вядома, Ксёнда мог і адмовіцца ад ягонага даручэння, але ж у Мухалы быў добры выпадак выпрабаваць былога войта на таварыскасць і нейкія іншыя якасці. Адазваўшы яго ўбок, ён патлумачыў, што трэба.

— Добра, зраблю, як ты хочаш, — адказаў той.

З ночы, яшчэ не развіднела добра, Ксёнда прайшоў па Запылінскай вуліцы міма хаты Мікіты Калільца, а Мікіта сядзеў акурат каля расчыненага вакна, напружаны, у няяснай трывозе.

— Хавайся, пане-браце, і сына хавай! Зараз прыедуць, каб вас расстралялць.

Усё гэта ён прагаварыў на хаду, не паварочваючы галавы.

Мікіта кульмігам у сені, дзе на нарах спаў сын, і разам — у дзверы. Адзін схаваўся за хатай у градках, дзе расла высокая на тычках фасоля, а другі — за раскідзістай яблыняй, у суседскім гародзе. У наступны ж момант вуліцу напоўніў траскучы гул матацыклаў. Трое эсэсаўцаў і двое паліцэйскіх рыўком кінуліся ў хату. Марна, аднак...

У гэты ж дзень эсэсаўцы сабралі ў школьным двары яўрэяў — натоўп амаль у тры тысячы чалавек, пакорных і паслухмяных...

Пятро Пісарчук дзівіўся, як дружна, кагалам, яны ішлі туды, прыгадваў знаёмых і шкадаваў, што іх лёс можа скласціся зусім незайздросна. Тут якраз і прыбег да яго Менаш Абко. Ускочыў у хату — на твары ў цёмным шчэцці варушылася пакутная ўсмешка.

— Спадар Пятро!

— Слухаю...

— Што ты сказаў бы, калі б мой сын да цябе ў пуню залез?

— Вядома, як выхаваны чалавек не заўважыў бы.

— То ён ужо там!

— Абко, калі і ты захочаш гэта зрабіць, то не кажы пасля, што ў мяне пытаўся дазволу.

— Дамовіліся... Дзякуй! — і Абко выскачыў з хаты.

Для Пятра відавочным рабілася, што без удзелу Аксінні перахаванне сям'і Абко ў іхняй пуні не адбылося; Аксіння ж мела добрае сэрца да людзей. Ён выйшаў на вуліцу.

Каля свайго штыкету на лавачцы сядзеў Хведар Бушкевіч, ён раз-пораз зацягваўся цыгаркай.

— Ужо каб гэтак смаліць, трэба адчуваць асалоду! — вітаючыся, зазначыў Пятро.

— То хіба я так без асалоды смалю? — адказаў той, не мяняючы строгага выгляду твару. — Часам гэта адзінае, што наталяе душу.

— На жаль!..

— Такое жыццё, агонь яго выкуры. Вунь як аблажылі... З мястэчка не выехаць.

— Усталёўваюцца парадкі згодна з кнігай «Майн кампф» Гітлера.

— Я не чытаў кнігі... А колькі іх, такіх парадкаў, было, знаю. І за палякамі, і пасля... І кожын страшыць, палохае. Расстрэл... Турма... Кожын гатоў дастаць душу! — Бушкевіч сплюнуў.

— Мяне што дзівіць, браце: закалот, які мы маем, вядомы з біблейскіх часоў. Ён доўжыцца. Уся гісторыя на тым пабудавана. Ці захоча чалавецтва калі-небудзь жыць па-людску?

Пытанне павісла ў паветры.

З глыбіні зялёнай, у прысадах, вуліцы пачуўся лёгкі, накацісты гул, ён нарастаў, множыўся. Неўзабаве два матацыклы з эсэсаўцамі ўзялі бліжэй да агароджы і спыніліся каля хаты Абко, а астатнія цугам, доўгай вужакай пакацілі далей.

Тыя ж нырнулі на падворак Абко і, напэўна, у хату. Але доўга там не бавілі часу. Пачалі выходзіць па адным. Разгубленыя... Пятро і Хведар Бушкевіч падняліся з лаўкі:

— Каб не мазоліць ім вочы, — сказаў Бушкевіч.

— Пакуль...

Толькі не паспеў Пятро Рамановіч схавацца за свае вароты, як незнаёмы яму паліцай з гармідару гітлераўцаў, свіснуў. Пятро азірнуўся на свіст, а той махнуў рукой:

— Ком... Ком сюды!..

Рамановіч зрабіў колькі няпэўных крокаў да пагрозлівай хеўры. Позіркамі немцы вывучалі яго. Паліцай спытаў:

— А дзе жыдава з той вунь хаты?

— Не ведаю... Мо пайшла да школы. Я іх сёння не бачыў.

Цераз перакладчыка паліцай патлумачыў эсэсаўцам адказ Пятра, пра суседа Абко, і яны, гыргечучы па-свойму, уладкаваліся зноў на матацыклах ды, як віхура, рванулі, панесліся далей па сялу.

Гэта дзеелася на пачатку жнівеньскага дня, а папоўдні эсэсаўцы вылучылі з яўрэйскага стракатага і пакутнага натоўпу мужчын, пастроілі іх у двары сіняй школы ў груваcтую абмерлую калону і пагналі з Моталя ў бок Янова. Жанчын і дзяцей таксама нястройнай калонай, але ўжо больш мілажальнай і галасістай, вывелі на другі бок мястэчка.

Неўзабаве Моталь быў агаломшаны пругкімі, рвучымі паветра, хоць і прыглушанымі з-за адлегласці, чэргамі з кулямётаў, якія даносіліся з абодвух бакоў. Ад іх яскравага грукату багата ў каго кроў захаланула ў жылах.

Мужчын-яўрэяў пастралялі за Асаўніцай, ускрай лесу, блізу старых яўрэйскіх могілак. А жанчын разам з дзецьмі — у чыстым полі.

Нутро ў Пятра Рамановіча пераварочвалася ад той навіны, ад злавеснай падзеі, як што яна наглядна паказвала, якая вайна... Цяпер не трызненне, інакш кажучы, Гітлер ад сваіх хваравітых і дзікунскіх намераў перайшоў да іх ажыццяўлення. Свет павінен быў здрыгануцца ад усведамлення святатацтва, ад дзеючай тыраніі і гвалту. Але Пятру Рамановічу, безумоўна, далёка было да таго вялікага свету, які мог бы яго зразумець. Яму адно заставалася — маўчаць ды пыніць сваю гаспадарку. Гаспадарка — каштоўнасць пры любых вятрах і бураломах у грамадстве. Яна адзінае, што памагае чалавеку трываць, не сарвацца з месца адразу і не кінуцца, куды пне цябе, за тым шалам. Гаспадарка — апора яму і апраўданне, бо няма годнасці больш ані ў чым. Бог стварыў зямлю і ўдыхнуў душу ў чалавека, а д'ябал нішчыць Божы дар і ператварае чалавека ў забойцу, рабаўніка...

Амаль адначасова з эсэсаўцамі на машынах, крытых тэнтам, у Моталь усунуліся гаспадарчыя нямецкія службы. І пайшла тая новая каманда гітлераўцаў па хатах, у якіх яшчэ захоўвалася дыханне яўрэйскіх сем'яў, і пачала ператрасаць побыт, усялякае шмоцце, посуд, іншыя чынныя хатнія рэчы. Шукалі золата. Адбіралі ўсё, вартае ўвагі арыйца, каб узвялічыць ягоны нацыянальны набытак. Рабаванне, дарэчы, тайком падтрымліваў той-сёй і з мясцовых жыхароў, не гаворачы ўжо пра паліцаяў.

Апоўначы, калі пакінутае эсэсаўцамі мястэчка сцішылася і, бадай што, заснула, гаспадар Пятро адкінуў зашчапку на варотах пуні і ўвайшоў у яе. Пастаяў, удыхаючы пах свежага сена і прыслухоўваючыся да цішы наўкола, кашлянуў і нягучна паклікаў:

— Пане Абко...

Салома ў кутку заварушылася, і ў наступны момант перад Пятром паўстала невыразная ў поцемках постаць суседа.

— Слухаю вас, як Бога.

— Што далей рабіць будзем?

— Я ўжо наважыўся, што рабіць, і адно хацеў сказаць табе пра гэта і развітацца. Мы пойдзем з сынам туды, дзе нас не чакаюць, але прымуць, мяркую, як добрых людзей. У вёсцы Закалле пашукаем прытулку ды шчасця. Беня! — паклікаў ён сына.

У кутку зноў зашапацела:

— Ш-што?

— Уставай, чыннік Божы! Пойдзем далей ад масакры паратунку шукаць.

Пятро неспадзеўкі закрануў нагой на падлозе нейкі цупкі незнаёмы прадмет.

— Што гэта? — ён нагнуўся, каб паглядзець.

— Хамут, — адказаў Абко і першым узяў тую рэч у рукі, прыгарнуў да сябе. — Гэта ж калі Беня паведаміў мне пра аблаву і я следам за ім уцякаў, на вока трапіў недашыты хамут. Ён, відочна, так і застаўся б ляжаць там без мяне — недашытым. Матэрыял прапаў бы... Таму я схапіў яго ў рукі і бягом. Цяпер хіба ў Закаллі пошыў закончу.

Яны, бацька і сын, хутка сабралі свае невялікія рэчы і выйшлі на поплаў пры возеры ў напятую ўвагай, насцярожаную ноч.

— Як добра, што Сіма, жонка мая не дажыла да гэтых ганебных і пакутлівых дзён, — сказаў Абко Пятру пры развітанні. — Зайздрошчу ёй... А вам з Аксінняй — нізкі паклон. Калі не давядзецца мне — то Бог вам аддзячыць!

— Сусед, не трэба лішніх слоў, — і поціскам рукі Пятро блаславіў іх. — Ідзіце з Богам!

## 30

Прайшло колькі дзён, сяляне жалі на сваіх палетках недажатае, як на Моталь накацілася новая ўлада — цывільная адміністрацыя фюрэра.

Вайна, якую вёў фюрэр, вымагала цішы, замірэння, парадку на захопленых тэрыторыях. Належала стварыць умовы для ўліку матэрыяльных і людскіх рэсурсаў, паста-

вак збожжа і іншых прадуктаў сельскай гаспадаркі як фатэрлянду, так і імкліва наступаючым арміям Заходняга фронту. Для вырашэння гэтых задач і ўсталявання акупацыйнага рэжыму на захопленых тэрыторыях Гітлер утварыў у Берліне Усходняе міністэрства — ОМі і прызначыў кіраваць ім Альфрэда Розенберга. Маталянам той Розенберг і ўва сне не сніўся. Тым не менш, пад яго апекаванне падпадалі чатыры рэгіёны: Вялікая Фінляндыя, Усходні Край (Остланд), куды разам з Беларуссю патраплялі Эстонія, Латвія, Летува (Літва), а таксама Украіна і Каўказ. Бадай, за выключэннем хіба Фінляндыі, для рэйха гэта былі замглёныя і гарачыя кавалкі еўрапейскага кантыненту. Вокамгненна на іх усталёўваўся адпаведны крывавы рэжым. За цывільны, так бы мовіць, парадак у Остландзе перад Розенбергам і Гітлерам адказваў дзяржаўны камісар Генрых Лёза, сядзіба якога месцілася таксама недзе далёка ад палескіх зямель — у горадзе Рызе.

А генеральным камісарам на Беларусь Гітлер прыслаў Вільгельма Кубэ, які асталяваўся ў Менску і кіраваў як цэнтральным апаратам, так і акруговымі яго аддзеламі.

У павятовых гарадах ды валасных цэнтрах фарміраваліся аддзелы паліцыі з мясцовых, у пэўнай меры лаяльных да гітлераўцаў жыхароў.

Для больш поўнага асвятлення варункаў навалы варта дадаць, што механізм усталявання акупацыйнага парадку на Беларусі складаўся яшчэ з аддзелаў СС і СД, як і літоўскіх карных батальёнаў, раскватараваных пад Менскам і Свірам; пра іх дзейнасць пагалоска пойдзе пазней, але маталянам, шчыра кажучы, гэта далягаць не будзе, з іх хопіць і сваіх ваяроў.

Усталяванне новага парадку ў Моталі пачалося з мітынгу на плошчы каля царквы, куды паліцыянты сагналі людзей; некаторыя, праўда, і самі прыйшлі, каб паслухаць, пра што стануць даводзіць новыя ўлады.

На ўзвышэнне, збітае з аполкаў дрэва, узняўся афіцэрскі мундзір брунатнай уніформы. Жывым голасам, патрабавальным і строгім, з якога, булькочучы ў горле, нараджалася чужая мова, ён пачаў даводзіць, што ўсе, хто яго слухае і не слухае, а толькі жыве на гэтай зямлі, цяпер з'яўляюцца падданымі не СССР, а Германскага Рэйха. На былую прыналежнасць да Беларусі і камуністычнай краіны трэба забыць. Ён паведаміў таксама, што Пінская акруга

цяпер, як, дарэчы, і Брэсцкая, і Гомельская, аднесены фюрэрам да Генеральнай акругі Украіны. Тым часам усе гэтыя землі ўтвараюць Остланд. Адміністрацыю Остланда ўзначальвае дзяржаўны камісар Лёза — чалавек, які выступіў днямі са зваротам да ўсіх жыхароў Усходняга Краю. Зварот надрукаваны ў газетах... Вось яго змест...

Пятро Пісарчук зводдаль слухаў прамоўцу. Сэнс звароту да яго і іншых местачкоўцаў на плошчы даносіў перакладчык у цывільным аддзенні, што прыехаў разам з немцамі.

Пісарчук узіраўся ў гасцей. Пад мундзірам і бліскучай, чыннай фуражкай са строма заломаным верхам стаяў ягамосць няпэўнага веку. Шырокія шкельцы акуляраў у тонкай аправе на носе і шыракаватыя пругкія шчокі пэўным чынам нагадвалі Пятру пукатую перламутравую галаву авадня або страказы, калі б іх, скажам, увянчаць такім шыкоўным галаўным уборам. Пры ўсім тым яго ўразіла паведамленне пана афіцэра аб тым, што беларускія землі паўднёвых акруг прырэзаны гітлераўцамі да Украіны. І прыгадалася яму тут нешта падобнае. Іншы фюрэр, друг і настаўнік народаў, у 1940 годзе прырэзаў гістарычную паўночна-заходнюю частку Беларусі разам з горадам Вільна да Літвы, каб задобрыць літоўцаў і спакваля акупаваць іх краіну. Пэўна, усе заваёўнікі адзін аднаго вартыя!

— Дзяржаўны камісар Остланда даводзіць, — кінуў у натоўп новую чародку слоў афіцэр, і словы тыя, як і сам афіцэр, здаваліся Пятру перламутравымі: — Цаной сваёй крыві нямецкая армія разбіла бальшавіцкага сусветнага ворага і вызваліла вас, жыхароў Беларусі і іншых зямель, ад бальшавіцкага тэрору. Тым самым нямецкі народ узяў на сябе права і ўважае за абавязак заснаваць такія парадкі ў вашым краі, каб ніколі больш не магла зноў паўстаць падобная небяспека для народаў Еўропы, што пагражала б іх існаванню.

«Эге, — падумаў Пісарчук, — акупанты мякка сцелюць, ды мулка спаць будзе, пэўне...»

І, як бы ў пацвярджэнне гэтай думкі, авадзень ва ўніформе пачаў зачытваць загад каменданта павятовай паліцыі ў Янове:

— Усім, хто мае радыёпрыёмнікі, — здаць!.. За невыкананне загаду — расстрэл. Усім, хто мае агнястрэльную зброю, — здаць!.. За невыкананне — расстрэл. За агітацыю супраць немцаў — расстрэл і расстрэл.

Атрымоўвалася ў цэлым: за няласку да чужака, які прыйшоў, каб гаспадарыць у тваім доме, — заўжды вышэйшая мера — пазбаўленне жыцця.

На гэтым сходзе былі пацверджаны паўнамоцтвы на ўладу ў Моталі паліцэйскага гарнізона, сфарміраванага Мухалам. Акрамя таго, быў прызначаны бурмістр. Ім стаў Міхаіл Ксёнда. І ў падмогу бурмістру — солтыс Мікіта Хала.

Другі афіцэр, які гергетаў за гэтым аваднём, патлумачыў, што яны, немцы, уяўляюць сабой вышэйшую арыйскую расу і маюць расстрэльваць не ўсіх, а толькі юдаў і камуністаў, дзейнасць якіх з усіх бакоў крымінальная, як што пляжыць асновы нацыянальнага ўладкавання дзяржаў і вядзе цывілізацыю да гібелі. Ён зазначыў, што армія вялікага рэйха ў шмат разоў пераўзыходзіць расейскую армію па ўзбраенні і сіле духу і што войскі Гітлера цераз месяц будуць у Маскве, тады вайна з Расеяй будзе скончана.

Мужыкі, якія стаялі каля мураванай царкоўнай агароджы, непадалёку ад Пісарчука, сумеліся, яны ківалі галовамі: так і гэтак, але ж...

— Няўжо Чырвоная Армія сапраўды слабая?

— А то не бачыш, які на гэтых глянец! Здароўе вонкі прэ!

— Не спяшайцеся рабіць высновы, — сказаў ім былы чырвонаармеец Васіль Аксаніч, які, адступаючы цераз Моталь, прыстаў да самотнай кабеты ў прымы: — Касой камень не перарэжаш!

— І то праўда, — падтрымаў яго Пісарчукоў сваяк — Павел Міхові́ч.

— Гэта ж арыйскія сабакі на сібірскага мядзведзя пайшлі! Падобна на тое... Чыя цяпер возьме?

— Добра кажаш, але ж табе, хлопец, дасціпныя словы варта цішэй гаварыць? Чуеш?

— Чую...

Не ўтрымаўся, каб не памеркавацца наконт пачутага і гаспадар Пісарчук, ён кіўнуў Бушкевічу, які стаяў поплеч:

— Пра Маскву мараць... Хочуць скончыць вайну ў Маскве. Што ты на гэта скажаш, га?

— Раней казалі: паны б'юцца, у мужыка лоб трашчыць. Цяпер краіны б'юцца. Я ў гэтых гульнях са зброяй мала чаго разумею.

— А ты хацеў бы вывесці са свайго дому небяспечных гадаў?

— Гадаў?

— Не тут будзь сказана... Гадаў, калі б яны завяліся.

— Гадаў — іншая справа.

— Вось немец і кажа: выведзем гадаў з вашае хаты, даб'ём іх у Маскве... Пытанне: хто далей за гаспадара ў нашай хаце будзе? Мы?..

— Дудкі!

— От бачыш...

— Мяркуючы па іх патрабаваннях...

— А кажаш, «мала чаго разумею»... Зноў жа: а што такое Масква? Зямля ўвогуле — не шахматная дошка. Дый у гульні ўсяго не прадугледзіш... А на такім полі... Напалеон вунь які быў ваяка! Да Масквы дастаў. А што з таго? У Расеі любая армія згубіцца, растрасецца.

Афіцэр тым часам звяртаўся з заклікам да мясцовага насельніцтва аказваць нямецкім уладам усялякую падтрымку ў іх высакароднай справе ўсталявання на зямлі новага парадку.

Калі ж прамовы скончыліся, у натоўпе пайшоў нейкі хапатлівы рух, пачуліся асобныя воклічы. Гэта дзейнічалі новыя стражы парадку. Яны вылавілі ў грамадзе і цяпер, рассоўваючы люд, вялі да афіцэраў некалькіх юнакоў. Там курчыліся ў лапах паліцыянтаў Гаўрыла Кузюр, Шура Мінюк і Сцяпан Міховіч — камсамольцы. У Шуры Мінюка бацька, між іншым, быў савецкім камісарам. Міховіч — той сам працаваў на важным ваенным аб'екце... На думку папоўненай палякамі мясцовай паліцыі, усе яны падлягалі неадкладнаму расстрэлу як патэнцыяльныя ворагі акупацыйнага парадку. Немцы, аднак, перамовіліся між сабой, і той, перламутравы, у шырокіх акулярах зрабіў прапанову:

— Калі гэтыя юнакі выкажуць ахвоту паехаць у Германію на працу, мы пакінем ім жыццё.

Напружанне з абмерлага натоўпу прыкметна спала, і тыя трое ў знак увагі ўзнялі галовы. Афіцэр працягваў на нейкай шчымліва чалавечай і адначасова з'едлівай ноце:

— Нямецкія ўлады ведаюць ад пісьменніка Мікалая Астроўскага, што жыццё чалавеку даецца ўсяго адзін раз. Нямецкі народ бывае вялікадушным. Таму я даручаю начальніку паліцыі пану Мухалу даведацца пра жаданне гэтых маладых людзей і ўжо чыніць справядлівасць згодна з іх выбарам. Фэрштэйн?

— Я-я! Яволь, — паспешліва і несамавіта праякатаў Мухала, разумеючы, што ён заўчасна выцягнуў з натоўпу гэтых хлопцаў.

Мітынг скончыўся мірна, хоць скрозь былі парасклейваны загады нямецкага каменданта, якія патрабавалі расстрэлу з любое нагоды.

Нямецкія салдаты, згледзеўшы падчас мітынгу ў натоўпе ссівелага старога ў белым зрэбным адзенні, а гэта быў Сяргей Кузюр, паспяшаліся да яго, каб зблізу разглядзець туземца і зафіксаваць яго на фотаплёнку ў якасці этнічнага экспанату. Салдаты фатаграфавалі старога і фатаграфаваліся разам з ім самі, стаўшы поплеч, выбіраючы экспазіцыю, каб у твар свяціла зажуранае вераснёвае сонца.

Дзіва-дзед спачатку не мог спасцігнуць розумам, што паслужыла прычынай такой увагі да яго і стаяў колькі хвілін, абапёршыся на клюбіну, бы ўкопаны. Потым ён, штосьці пераасэнсаваўшы, апрытомеў і ўжо кідаў жвавы позірк то на аднаго, то на другога салдата, што навалакліся сюды з Нямеччыны.

І, бытта цікаўнай немчуры патрабавалася ягоная згода на гістарычнае, лічы, фатаграфаванне, ён блаславіў іх з усмешкай:

— Ат, фатаграфуйце — так-так. На памяць застанецца. Правільна! Бо калі будзеце драпаць назад, на фатэрланд, у вас часу на гэтакі занятак не будзе.

Немцы папрасілі перакладчыка патлумачыць ім, што сказаў дзед, і калі той пераклаў словы Кузюра, яны зарагаталі, напэўна, трохі разгублена і адначасова здаволена.

— Гросфатэр іст бёзэ! — хутчэй для формы пагразіў яму адзін з іх пальцам, і ўсе пакінулі старога.

Па дарозе дадому Пісарчук завярнуў у куток каля возера, які зваўся Папоўшчынай. Хацелася адвесці душу ў гутарцы з адукаваным і блізкім яму чалавекам — святаром Раздзялоўскім. Айцец Георгій якраз канчаў зграбаць на агародзе сухі націннік ад кветак, якія адцвілі, адкрасавалі. На гэты момант адно песціліся і рвалі вока сваёй прыгажосцю астры розных колераў, белага, ружовага, фіялетавага, — бухматыя і яркія. Наогул, пры доме бацюшкі быў не гарод, а казка, таму як усе градкі — у кветках. У садзе — бэз, тры раскідзістыя яблыні і безліч сліў. Апроч таго, кожын сын — Шура, Вінцук, Янка, Валік і дачка Воль-

га, дармо што малыя, пасадзілі па дрэўцу — дуб, явар, сасну, ясень, бярозу і даглядалі ўвесь гэты цуд.

— Бог на помач! — прывітаўся са святаром Пятро.

— Тут, бачыш, невялікае што і дзеці маглі б зрабіць, але я спакою сабе не знаходжу ад думак пра свет і нашу абумоўленую д'ябальскімі інтрыгамі прышласць. — Ён прайшоў да хаты і зняў з сябе рабочае адзенне, апрануў расу. — Навошта, Божа міласцівы, мы нараджаем дзяцей? Каб яны пакутавалі гэтак, як мы пакутуем усё жыццё?

Святар правёў Пятра ў адкрытую альтанку ў садзе, дзе ён збіраўся пасядзець з ім і паслухаць пра мітынг цывільнай улады з жыхарамі мястэчка. Шчыра кажучы, ён ведаў наперад, пра што там пойдзе размова: з ім учора сустракаліся нямецкі афіцэр і мясцовы паліцыянт Мухала, цікавіліся ягонай думкай наконт абрання бурмістрам Міхаіла Ксёнды, былога солтыса і вязня саветаў; ведаючы хібетлівы склад душы гэтага чалавека, ён адказаў, што лепшую кандыдатуру на становішча бурмістра цяжка знайсці.

— Прызначылі Ксёнду бурмістрам? — спытаў ён.

— Так, знайшлі чымі рукамі жар заграбаць.

— Але ж, ты маеш рацыю. Такі, браце, час. Палітыка такая, каб мы самі сябе душылі, даруй Госпадзі.

— Я слухаў немца... Дзіву можна дацца: які ў іх вялікі клопат пра цывілізацыю! Акурат як у Сталіна, які спіць і бачыць сусветны прыгон, турэмныя лагеры на ўсе кантыненты.

— Божа літасцівы, пазбаў нас ад ліхіх зданяў! Уратуй ад іх падкопу! — айцец Георгій перахрысціўся.

У гэты момант на вуліцы завуркатаў нямецкі легкавік, спыніўся каля сядзібы святара Раздзялоўскага. З яго выскачылі і імкліва рушылі ў двор двое: афіцэр, той, што ў шырокіх акулярах, і перакладчык. Айцец Георгій выйшаў з альтанкі, падаў голас:

— О, госці... Гутэн таг!

Яны скіравалі да іх, у агарод.

— Вэр іст? — кіўнуў перламутравы на Пісарчука, і перакладчык паўтарыў пытанне па-руску: — Хто гэта?

— Мой сусед і друг, — адказаў святар. — Пры ім можна ўсё гаварыць.

— Найн, — пахітаў галавой афіцэр: — У нас канфідэнцыяльная размова.

— Пятро, — выбачальна папрасіў святар: — Зайдзі ў хату і пачакай, калі ласка... Яны, пэўна, не надоўга.

Пятро акінуў вывучальным позіркам афіцэра, адзначыў выразнасць яго перламутравага позірку і прайшоў міма на падворак, адчыніў дзверы ў хату.

— Я слухаю вас, — прамовіў святар да свайго ўчарашняга субяседніка.

І тут афіцэр нечакана для яго загаварыў па-руску:

— Мне, нямецкаму афіцэру, перадалі спіс камуністаў, якія з'яўляюцца жыхарамі Моталя. Спіс склала нехта гаспажа Малішэўская. Я прашу вас уважліва прачытаць яе пісьмовы данос і пацвердзіць, што ўсе, пазначаныя там грамадзяне, з'яўляюцца камуністамі.

Пятро Пісарчук не чуў гэтых слоў, аднак бачыў у вакно, як айцец Георгій узяў з рук афіцэра ў свае дрыжачыя рукі паперы, як чытаў іх, крывіўся і адмоўна хітаў галавой. Абмяняўшыся з госцем яшчэ колькімі словамі, айцец Георгій перахрысціўся і пачаў рашуча рваць тое, што ўтрымлівала нейкую тайну. Перламутравы ж моўчкі назіраў за гэтым адмысловым учынкам святара; Пятру падалося, што на твары афіцэра неўзабаве весела дрогнуў нейкі мускул, і ён дастаў з кішэні і паднёс да паперы ў руках святара запальнічку — белыя шматкі ахапіла сіняе полымя.

Гаспадар яшчэ хвіліну пагутарыў з гасцямі, якія на момант прыселі ў альтанцы, пачаставаў іх яблыкамі і потым правёў да варот. Калі ж ён увайшоў у сваю хату, Пятра ўразіла роспачнасць і ўзнерваванасць на ягоным твары. Айцец Георгій стаў перад абразамі, якіх нямала вісела на покуці, і тройчы перахрысціўся. Пры гэтым ён мовіў:

— Госпадзі, даруй мне мой цяжкі грэх, калі ты ўбачыш яго ў маіх помыслах і ўчынках. Госпадзі і Святая дзева Марыя... У жыцці не саграшыш — чалавекам не будзеш!

Пісарчук, слухаючы малітву святара ў гэтай заўжды гасціннай сядзібе, міжволі ўсміхнуўся:

— Ці не спакусіў ужо вас ако д'ябал нямецкі афіцэр?

— Наадварот, — святар дастаў з шафы графінчык з барвовай настойкай: — Пятро, чуеш, наадварот... Ён паказаў мне спіс камуністаў Моталя — усе, пачынаючы ад Міронавай, дырэктара школы, вядомыя нам басурманы. Ён папрасіў пацвердзіць, што ў ім, тым спісе, пазначаны камуністы, і я салгаў, я сказаў, што ў Мотал не засталося

больш камуністаў — ўсе яны эвакуіраваліся ў першыя дні вайны. «Посему і быць», — адказаў ён і паднёс запальнічку... Даруй, Божа, мне велькі грэх!

Гаспадар дома ўзняў келіх з настойкай. Пятро, не хаваючы вясёлай усмешкі, дакрануўся сваім келіхам да келіха святара. Па хаце пайшоў малінавы звон, і чутна было як у другім пакоі сцішана гамоняць дзеці.

— А я лічу так: што на карысць людзям, то Богу заўгодна, — выказаў меркаванне Пятро Пісарчук.

— Усцешыў! — святар адной рукою прыгладзіў бараду, а другой паднёс да вуснаў і кульнуў у рот келіх, замёр, прыслухоўваючыся да ўласнага ўлоння. — Пабігла, — паведаміў ён на ўкраінскі лад, — покатылась, як брэхня по сэлі!

Пры гэтых словах Пятро Пісарчук прыгадаў Украіну і ранейшыя размовы з айцом Георгіем пра бацьку Махно. Гэта колькі жыццяў замардавана і загублена ў процістаянні д'ябальскаму шалу, а ўсё адно...

— Горка бывае, калі чалавечае сумленне ўзводзіцца ў крамолу!

— Ну, гэтак! — кіўнуў святар.

Адчуваючы як пасля прынятай чаркі з душы спадае напружанне, ён адкінуўся на спінку крэсла:

— І што мяне яшчэ ўразіла, братка: нямецкі афіцэр загаварыў са мной на рускай мове. Ужо пасля таго, як мы з ім спалілі спіс камуністаў, я пацікавіўся ў яго, дзе і як ён вучыўся мове расейцаў. А ён, кажа, раней жыў у Баранавічах, вучыўся ў рускай школе, яму, дарэчы, вядома і наша акруга. Адным словам, чалавек нашай косці. Чаму ж ён аказаўся ў становішчы нямецкага афіцэра — не сказаў, ды, па праўдзе, я і не асмеліўся пытацца пра гэта. Загадка, браце, Пятро, і я не думаю, што ён даў мне веры ў тое, што ў спісе няма камуністаў.

— Эх, ойча! Ну і праява! — Пісарчук узбуджана мяў і разгладжваў на галаве свой выпетраны станчэлы чуб: — Калі ўзяць да розуму, то ён не выпадкова памілаваў, будзем так казаць, і камсамольцаў. Там жа, пасля мітынгу паліцаі падставілі трох, каб расстраляць.

— Шэльмы!.. Як гэта проста стала — забіваць? Зрэшты, хіба не тое ж было і за царом Давідам? Пракляцце нясе на сабе род чалавечы. І не можа апамятацца, — святар уздыхнуў: — Не, не можа. Шкада... Адно для мяне, калі я

глянуў у спіс, было ўзрушэнне — не давядзі Госпадзі! — 58 прозвішчаў!

Ён усё яшчэ перажываў той пякучы, востры, хіжы момант з гасцямі ў альтанцы. Знішчэнне папер і нечаканы спад нервовага напружання... Зазвычай цвёрды, роўны, мудры ў праяўленнях характару айцец Георгій цяпер глядзеў на Пятра мякка і мілажальна. Толькі ж поўным кантрасту ўяўляўся Пятру ў гэты момант позірк дый выраз твару афіцэра, калі ён зблізу на яго паглядзеў. Тонкія складкі ў куточках губ і на пераносіцы, ямачка на падбародку рабілі яго круглявы твар далёка не мяккім — хутчэй строгім, чым мяккім. А цёмна-шэрыя вільготныя вочы глядзелі на Пятра праз шырокія празрыстыя шкельцы выразна, учэпіста. Праўда, у іх не было холаду, хутчэй — штось недатыкальнае, нейкая ззяючая перламутрам цікаўнасць. Чамусьці прыгадаўся Говараў, а разам з ім і польскі яўрэй Мэндаль, зніклы невядома куды і як. Новы сюрпрыз — гэты афіцэр перламутравы...

— У вайны шмат таямніц, ойча Георгій, і людзі ў сабе іх носяць.

— У тайнах — глыбіня падзей. Аднак забудзем пра іх. — Святар паклаў на хлеб скрылёк вэнджанага мяса. — Возьмем яшчэ па шкаліку. У віне, браце, лагода. І няхай разліецца святая вадзіца па ўсёй перыферыі цела. О, Госпадзі! Прымі не за п’янку, а за лекаванне.



## Частка другая

### 1

Як вольны птах над полем, над лесам ляцеў з чужыны на сваю Радзіму Барыс Рамановіч. Ён быў акрылены самымі светлымі думкамі і спадзяваннямі. Адно трымцела тоненькай жылкай у душы — як там жывуць і пачуваюць сябе пад новай уладай родныя і блізкія, яго бацькі, яго жонка і дзеці?.. Ён заўжды з цеплынёй і спагадай ставіўся да іх, сумаваў у ростані, асабліва па жонцы, якая як ніхто, магла абагрэць яго ласкай, атуліць лагодай, хоць часам надараліся ў чалавека і іншыя захапленні. Ды толькі ж праз Ганну, яе клёк жыццёвы ён адчуў заглыбленне ў тую глебу, з якой, уласна, і выйшаў, спазнаў сваю чынную мужчынскую існасць, а з ёй і радасць, што ідзе ад маладое завязі, маладое сям'і. І, мусіць, упоравень з усімі пачуццямі жыў, не атухаў у шырокім сэрцы Барыса ягоны шчымлівы грамадзянскі абавязак перад гэтай сям'ёй. Ад таго і ніякаватасць, і нават прадчуванне віны перад жонкай — пакінуў яе на такі доўгі час без сваёй чалавечай падтрымкі, без апекавання. Няхай і не па сваёй волі...

Адно неспакой і сум гэты перакрываліся радасцю: ён, Барыс, цяпер вольны птах і, нягледзячы на вайну з Савецкай Расеяй, а мо якраз і па той адмысловай прычыне, не мае больш перашкод, каб вярнуцца дадому.

Ехаў ён, праўда, на пабыўку з намерам паглядзець, што робіцца ў родным кутку. Асцярожны, няма што, уважаючы на ваенны час, былы жаўнер польскай арміі і ваеннапалонны цаніў сваё становішча кіраўніка арганізацыі Самапомачы ў Кёнігсбергу. Аднак яшчэ большыя выгоды яму давала цяпер прыналежнасць да арганізацыі Чырвонага Крыжа ў Нямеччыне, пад эгідай якой ён і ехаў сюды,

у родны кут, на свае палесціны. Неяк жа пашэнціла яму ўплішчыцца ў Чырвоны Крыж, у ягоную разгорнутую структуру. Дапамаглі, дарэчы, нацыянальна свядомыя беларусы ў Берліне, што групаваліся ў тамтэйшым Беларускім цэнтры і арганізацыі Самапомачы. Знаёмства з імі і дазволіла Барысу шырэй паглядзець на падзеі, якія нітаваліся з вайной, выверыць і паглыбіць некаторыя свае меркаванні пра Бацькаўшчыну, яшчэ больш замацавацца на пазіцыях шырокага грамадзянскага клопату, які быў заўсёды ўласцівы яму, дбаць і дбаць пра народ і Айчыну, хоць бы пакуль у думках.

Шмат чаго да настрою Барыса дадала гутарка ў берлінскім цэнтры з ксяндзом Вінцуком Гадлеўскім, паўнаватым, вёрткім чалавекам у тым веку, калі багаты жыццёвы вопыт удала спалучаецца з моцай духу і цела. Зрэшты, па ўзросце ксёндз гадзіўся Барысу ў бацькі.

— Будзем жыць, будзем жыць, спадар Рамановіч! — дэкляраваў яму гэты чалавек. — Не давядзецца нам векаваць за межамі Бацькаўшчыны, не-е! Ужо нямецкая ваенная машына скруціць д'яблу галаў!

— А няхай бы і скруціла...

Барыс сядзеў у крэсле каля пісьмовага стала. Сядзеў бокам да гаспадара кабінета, за спіной у якога на сцяне вісеў герб «Пагоня». У далечыні ад Бацькаўшчыны гэта сапраўды была цікавая і дамінуючая над усім дэталь.

— Скруціць яна галаў, далібог! — пацвердзіў сваё меркаванне кіраўнік берлінскай Самапомачы. — А ведаеш, чаму я такую апінію маю?.. Скажу! Часам мне выпадае навязаць сустрэчу з вышэйшымі чынамі і афіцэрамі адміністрацыі фюрэра. Таму я валодаю інфармацыяй аб збройнай сіле армій Германскага рэйха. Уга, якая гэта сіла! Пачатак вайны — таму сведчанне. Абарона Сталіна ламаецца, як картачны домік! Вы ведаеце, колькі баявых самалётаў там знішчана? У ламачча ператварылася амаль уся авіяцыя! А што спасцігла чырвоныя войскі пад Кіевам?.. Усёй вялікай групоўцы, якая там утварылася, амба! Адным словам, у хуткай перамозе нямецкай ваеннай дактрыны і войскаў Гітлера над рускім крыважэрным драконам ніяк сумнявацца не даводзіцца. Там умеюць ваяваць толькі са сваім бяззбройным людам. Пэўна!.. Але гэтаму ўжо будзе пакладзены канец! І тады нам будзе дадзена магчымасць...

Ён не дагаварыў гэты сказ, бо забурліў кіпенем, запыхкаў парай электрычны чайнік у кутку, каля шафы з

кнігамі. Ойча Вінцук падхапіўся, выцягнуў шнур з разеткі і дастаў чайны сервіз, прапанаваў свайму госцю, шаноўнаму земляку, чорную каву з каньяком і пячэнне. Барыс не адмовіўся ад пачосткі. Гаспадар кабінета, між тым, доўжыў размову:

— Некаторыя дзеячы ў Берліне выяўляюць цікаўнасць да Беларутэніі і просяць у мяне літаратуру па гісторыі і культуры нашай зямлі. Спакваля ў галовах нямецкіх выспявае апінія дазволіць нам, беларусам, аднавіць сваю дзяржаву. Без камуністаў, канешне. І за гэта трэба змагацца!

Здавалася, што ксёнз Гадлеўскі — сама крыніца энергіі і што ён выпраменьвае святло. А яно і сапраўды было так, як што галава ў чалавека была скрозь паголеная і нагадвала плафон малочнага колеру, крыху выцягнуты ад падбародка да макаўкі. Пры гэтым мяккія рысы твару і скура здаровай белізны, вясёлае абуджэнне і радасць ксяндза, як пераконваўся ўсё болей Барыс, ішлі ад прадчування далейшай працы на Бацькаўшчыне — вялікай, апантанай, упарцістай працы дзеля яе, Бацькаўшчыны адраджэння і далейшага росквіту. Мяркуючы па мове, па рухах, у якіх было шмат экспрэсіі, на такую працу Вінцэнт Гадлеўскі быў здольны.

...Барыс Рамановіч, пахістваючыся ў купэ вагона, глядзеў у вакно на разлеглыя асеннія пейзажы і прыгадваў і перажываў па-новаму абставіны зямляцкага рандэву, працяглай размовы з Гадлеўскім. Той выказаў радасць і захваляваўся па-новаму, калі пачуў ад Барыса, што ён з адной са Скірмунтамі мясцовасці і нават сустракаўся з Раманам.

— Цікава!.. Гэта скажу я вам, быў найяскравы нацыянальны характар або, як пісалі пра яго ў Вільні: «беларускі дзеяч з вялікіх паноў»... Колькі гадоў я ішоў з ім поплеч — мы сумесна рабілі беларускую справу. Гм, так... А вы, спадар Барыс, ведаеце — пэўна, не? — як склаўся далейшы лёс Рамана Скірмунта.

— А ш-што, хіба з ім што-небудзь здарылася?

— Яго забілі шэльмы люмпены. Свае ж бязбожнікі — камуністы... Мір праху яго! — ксёндз перахрысціўся.

Барыс адчуў лёгкі нервовы подзімак на сэрцы і нейкі момант тупа разглядаў касцюм — цывільны карычневы касцюм на айцу Вінцуку. Было цяжка ўцяміць тае навіны. Які чалавек!.. І — за што? За што зводзяць са свету

такіх дасціпных людзей, самавітых і шчырых? І хто гэтым займаецца? Хто, як не тыя, з кім ён быў разам?..

Вінцук з цікаўнай ветлівасцю вывучаў Барыса праз чыстыя шкельцы сваіх акуляраў.

— Уяўляеце?.. Момант, калі іудзеі забілі Хрыста...

— Сумна.

— Не тое слова!

— Ойча Вінцук, я па сённяшні дзень удзячны памешчыку Скірмунту. Я ўдзячны лёсу за тое, што звёў мяне з ім аднойчы. У кароткай, але ёмістай гутарцы, якая, мусіць, была вартай сапраўднай навуковай лекцыі, ён адкрыў мне вочы на буржуяў, на іх ролю ў грамадстве. А прыклады ж не трэба было далёка шукаць. Яго дзед Аляксандр — першы волат капіталу на Палессі і разам з тым чалавек высакароднай душы. Ён працаваў з простым людам і для гэтага люду, выцягваючы вытворцаў з сялян. Яго бацька — Аляксандр — таксама варты свайго папярэдніка, ён вызваляў сялян ад прыгону. І ўсе яны, як я цяпер разумею, імкнуліся да сумленнага жыцця, да сацыяльна-класавай злагады. І яна, тая злагада, — іх надзённы клопат. А хіба бальшавікі, узяўшы ўладу, паказалі што-небудзь больш вартае?.. Не. Мой татусь меў рацыю, калі спрабаваў уставіць мне свае мазгі. Ён наглядзеўся на бальшавіцкую воўчую, з дазволу сказаць, дзейнасць у Расеі і на Украіне. Я не разумеў усяго, — Рамановіч памаўчаў у ціхім роздуме. — Раман Скірмунт адкрыў мне рэчы з іншага боку. А хіба не ўражвала яго бунтарская дзейнасць у польскім сейме? Усё гэта, як і маё ўмеркаванае ўвогуле жыццё ў Кёнігсбергу, дзе людзі нечага значаць, вызначае парадак маіх думак. Да мяне даходзілі весткі аб езуіцкай рупнасці энкавэдыстаў у Заходняй Беларусі і ў Моталі. Шаноўны ойча, кажу вам шчыра, я не ў захапленні і ад тутэйшай нацысцкай палітыкі, ад заляцанняў пэўнай і нават, можа, значнай часткі немцаў да Гітлера, да фашызму ўвогуле. Прыміце гэта як споведзь, ойча Вінцук, бо я не прывык утойваць свае думкі.

Гаспадар пакоя трохі спахмурнеў:

— Не будзем тут, спадар Рамановіч, абмяркоўваць фашыстоўскія парадкі. Фюрэр не любіць гэтага. Кесару — кесарава... Важна тое, пане-браце, што БНР і асабіста Захарка, яе старшыня, які жыве ў Празе, актывізавалі беларускі нацыянальны рух. Багата дзе на эміграцыі створаны Беларускія камітэты і нямецкія акупацыйныя ўлады ўжо пайшлі на супрацоўніцтва з асобнымі беларускімі на-

цыянальнымі дзеячамі, у Берліне ўраднікі ідуць нам насустрач. Па сканчэнні вайны немцы аддадуць беларусам усё, падкрэсліваю, усё кіраўніцтва на Беларусі. Таму я гэтак шкадую пра заўчасную смерць Рамана Скірмунта, чалавека, з якім мы шукалі спагады і падтрымкі для БНР як сярод мясцовых дзеячаў, так і ў Германіі і ў шэрагу іншых краін. На жаль, не знайшлі... Тады ў кайзера Вільгельма II дзейнасць іншымі варункамі была абстаўлена. Ды ён і не быў пераможцам...

Барыс уздыхнуў:

— Няшчасны народ, па якім, наслаўшы акупацыйныя дошкі, штораз топчуцца і які, каб вольна ўздыхнуць, змушаны прасіць ласкі ў кожнага прыгнятальніка.

— Ты, пане-браце, маеш рацыю, — ксёндз Гадлеўскі перайшоў на кароткае «ты»: — Але ж у нас ёсць новы шанц скінуць ярмо з загорбка народа. Таму і патрэбен нам вопыт Рамана Скірмунта. У тыя гады ён столькі сіл аддаў фарміраванню і ўкараненню беларускай ідэі, этнічнай і міжкласавай згоды, што ў рэвалюцыі многімі адвяргалася. Ён ствараў і бачыў дэмакратычны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі — дзяржавы, якую, казаў, мудрай працай трэба давесці да рэальнай формы. Не склалася... Але ж у памяці ўсіх, хто ведаў яго, Раман Скірмунт застаўся як нескароны дух зямлі і ўвасабленне літвіна-беларуса. Яшчэ ў 1905 годзе ў сваёй брашуры «Голас мінуўшчыны і патрэбы моманту» ён абвясціў, бы маніфест: раз духоўная бастылія ва ўмовах рэвалюцыі пахіснулася, нам варта выкарыстаць сітуацыю, каб абудзіцца ад летагрії пасля кравапраліцця 1863 года і стаць на шлях свайго палітычнага і нацыянальнага самавызначэння!

Ксёндз Гадлеўскі наліў у келіхі каньяку:

— Памянем раба Божага, які пачуваў сябе гаспадаром на сваіх айчынных улоннях, — ён устаў і ўслед за ім падняўся Барыс Рамановіч.

— Даруй, Хрыстас Езус, але я не зманю, — працягваў клятвенна ксёндз: — Гэты чалавек быў народжаны месіяй на сваёй пакутнай зямлі, але ім не стаў па збегу розных абставін. Ён жыў дзеля прыкладу людзям, нашчадкам сваім. У доўгую і светлую памяць! Амін.

За акном вагона пацягнуліся, пайшлі, паволі пачалі кружыцца знаёмыя ўжо палескія краявіды, дзе зялёнае межавалася з жоўтым, залацістым, бурым, агністым... А ў прагалах ляжалі палеткі чорнай затарфаванай часам і шэрай, апясочанай, ворнай зямлі. Нярэдка праплывала і

хавалася з відавоку люстраная гладзь невялікай рэчкі ці возера. Дзе-нідзе на раллі корпаліся людзі і стаялі мяшкі з накапанай бульбай. Зрэдку трапляліся ў паласе блізу чыгункі падбітыя і памалу абрвраслыя травой танкі, абгарэлыя машыны. Праўда, не заўсёды льга было разабраць, што там спачыла ў бозе. Пераважала разбітая савецкая тэхніка.

Успамін пра сустрэчу з ксяндзом Гадлеўскім, якая адбылася ў жніўні, паволі сціраўся і адыходзіў, акурат як і навакольныя кідкія пейзажы. Праўда, на душы ў Барыса заставалася штосьці чэзлае, скрушлівае. Прыгадалася ростань з яго светласцю панам Скірмунтам у Парэччы. «У кожнага месца ёсць свой дух, — казаў Скірмунт з лагоднай і сумнай усмешкай. — Не давялося мне , аднак, паслужыць свайму народу так, як таго хацелася б».

Ад думак пра Скірмунта — гэтага ўладара неўтаймаванага духу — і пра ягонага былога паплечніка Вінцэнта Гадлеўскага, які ўваходзіў у створаны Скірмунтам калісь Беларускі нацыянальны камітэт, ад пераконанасці апошняга ў перспектыве самастойнай беларускай дзяржавы, хоць бы і на скоранай гітлераўцамі зямлі, пры іх, уласна, падмозе, Барыс адчуваў, як учашчана б'ецца пульс на скронях і сэрца агортвае хваляванне. Яму таксама хацелася быць удзельнікам такой важнай, захапляючай і, можа, нечым зманлівай справы па фарміраванні сваёй самастойнай краіны. Ён пакуль да канца, праўда, не даваў веры поспеху ў ажыццяўленні задумы, толькі ж мэта была яснай, высакароднай і патрабавала сваіх выканаўцаў, застрэльшчыкаў. Захапленне было здольным Барыса натхніць. Таму ён і ехаў дадому, як да ўсяго, што было знаёмае, блізкае, і ехаў, як у няведамую прышласць.

Яго цягнік ішоў з Кёнігсберга цераз Беласток, на Брэст. У ім ехалі пераважна салдаты. Яны былі пры ўсёй вайсковай экіпіроўцы і трымаліся бадзёра, гралі на губных гармоніках, спявалі штось сваё, бадай, радзіннае і спявалі бравурныя салдацкія маршы. Некаторыя ахвотна гутарылі з ім, чалавекам у цывільным адзенні. На ім добра ляжаў цёмна-шэры касцюм, па тканіне якога пракідвалася светлая палоска; пад касцюмам — кашуля крэмавага колеру, пры гальштуку. Апроч таго, збоку ад вакна, на кручку віселі плашч і фетравы капялюш. Яны былі амаль аднолькавага дымчата-сіняга колеру.

Нямецкія салдаты выказвалі упэўненасць у хуткай сваёй перамозе там, куды ехалі, у маючым адбыцца мар-

шы пераможцаў у камуністычнай Маскве. Затым яны спадзяваліся на шчаслівае вяртанне дадому, у свой Фатэрланд. За мэту вайны ваяры фюрэра бачылі пашырэнне германскай жыццёвай prасторы на ўсход, а некаторыя яшчэ называлі і вынішчэнне камунізму як нейкага віруsu, прыкрага і небяспечнага для чалавецтва. Адзін унтэр назваў яго чырвонай чумой.

У Брэсце іх спадарожнік Барыс Рамановіч памяняў цягнік і ехаў далей ужо ў пінскім кірунку да самага Янова. Двойчы на гэтым шляху па вагонах нікаў, правяраючы дакументы, ваенны патруль.

Цікавых для Барыса спадарожнікаў у вагоне не аказалася, ды ён і не шукаў іх. Сярод немцаў пераважалі інтэнданцкія служачыя, якія яшчэ не прызвычаіліся да сваёй чыннай ролі па зборы даніны на новай акупаванай тэрыторыі. Яны багата чаго хацелі, але сутыкаліся з упартым нежаданнем насельніцтва спачуваць найвысокай вызвольнай місіі германскай арміі і дапамагаць ёй. Даводзілася браць неабходнае самім, але ж гэта ўскладняла выкананне інтэнданцкага абавязку. У імя фюрэра яны мусілі пускаць у ход зброю ці хоць бы пагражаць ёй. Прасцей было з канфіскацыяй маёмасці яўрэяў.

Міжволі адчуваючы хваляванне пры сустрэчы з роднай зямлёй, Барыс сышоў на станцыі ў Янове. Ён знайшоў, што знешне тут амаль нічога не змянілася, хіба назва станцыі кідалася ў вока не тутэйшым напісаннем Yanow. Адсюль жаўнер Рамановіч два гады назад ад'язджаў да войска польскага. Усяго два гады мінула, як свет перавярнуўся.

Ён пацікавіўся ў нямецкага афіцэра, які разам з салдатамі дэфіляваў па пероне, дзе знаходзіцца камендатура, і пашыбаваў туды з чамаданам, у якім вёз такія-сякія гасцінцы для сваёй сям'і і радзіны.

## 2

У дзедавай кладоўцы пераважаў пах мёду.

— Ян а Ян, скажы, — пыталася Маня ў хлопца, з якім у гэта неспакойнае лета лучыла ёй пазнаёміцца трохі бліжэй, — скажы, Ян, пчолы... яны таксама, як і коні, каровы, — дамашнія стварэнні, ці не?

— Гм, — хлопец ускінуў брыво, і думнасць лёгкімі зморшчынкамі легла ў яго на лбе. — А ты як думаеш?

— Я? — Маня выпусціла ручку медагонкі, якую круціла з лёгкасцю і імпэтам забавы, утаропілася на яго. — Ян, я ж у цябе пытаю. Як у пчаляра, канешне... Ты пчаляр?

Ян Кульбеда ў апошні год неяк неўпрыкмет пасталеў. Ён пачаў заходзіць у іх дом часцей, чым заходзіў дагэтуль, як што, урастаючы ў сваю спадчынную гаспадарку, ставіў пасеку. А ў гэткай справе лепшага дарадцы, як Манін дзед Пятро, нельга было знайсці. Таму і прыходзіў да Пісарчукоў... Вось толькі размовы з Маняй у юнака зазвычай былі кароткія, хапатліва абрывістыя. Тым не менш, свайго госця гэта цнота ўжо амаль не саромелася.

— Адкажы, Ян, на пазакласнае пытанне.

— Са статкам кароў ніякі рой нельга параўнаць...

— То я ведаю!

— І за дамашніх, пчол, як мух, напрыклад, ніхто лічыць не будзе! Адно пчолы нашых пасек — свойскія, у адрозненне ад дзікіх. Тыя водзяцца па дрэвах, у дуплах.

— Растлумачыў... Дзякуй! А ці ёсць у пчол клопат пра гаспадара, чалавека ўвогуле? Скажы...

Ян усміхаўся бянтэжліва-сарамліва і трохі паблажліва, як што лічыў яе пытанні далёкімі ад свету чынных гаспадарчых захапленняў, яго і яе дзеда.

— А я думаю, такі клопат ёсць, — адказала сама на сваё пытанне дзяўчынка. — Інакш навошта б яны так багата мёду назапашвалі?

— Дбаюць пра сваю сям'ю...

— Гэта ты, Ян, можа, дбаеш толькі пра сваю сям'ю ды радзіну! А нашы пчолы, апроч сваёй сям'і, яшчэ пчаляру, прынамсі, дзеду спагадуюць, я ведаю. Яны разумеюць, што дзед робіць для іх, бачаць, як ён аберагае іх ад ворагаў, засцерагае вулей ад усялякай пошасці. Таму яны і стараюцца аддзячыць яму. Дзедусь кажа, што на дабро адгукаюцца нават бярэзіны. Таму і пчолы — не выключэнне.

Маня стаяла перад ім танклявая, порсткая, бы чарацінка, а на твары, па-дзіцячаму адкрытым, захопленым уяўленнем таго, пра што яна гаварыла, чыталася ў асобных выпадках ужо і датклівая дзявочая цікаўнасць да яго, прыстойнага кавалера, няйначай. Як і раней, на ім была сіняя форма гімназіста, якая вельмі пасавала яму і якую ён ужо даношваў. Ростам на галаву вышэй ад Мані, Ян меў такі ж чысты, адкрыты, як не кірпаты твар, на падбародку і пашчэнках якога прабіваўся лёгкі пушок, прык-

метны толькі ад вакна, з якога лілося святло. Сябруючы з дзедам, ён не ведаў, як ставіцца да гэтай асобы — унукі Пятра Пісарчука, і няпэўнасць яго непакоіла.

У гэты дзень Манін дзед быў разам з імі ў кладоўцы, але не паспеў ён замацаваць у чэраве медагонкі рамкі з мёдам, як яго кудысь паклікалі. І як толькі дзед Пятро пакінуў іх адных, Ян адчуў, што грудзі яго запаўняе нейкая даўкасць і млявасць або, наадварот, нязвыклае напружанне, і, каб пераадолець хлапечую нягегласць, ён стаў на месца Мані каля медагонкі, схапіў ручку механізма, які нагадваў калаўрот, і прыдаў яму рух. Мякка зашумела, дробна і клейка запстрыкала ў бочцы, выганяючы з сотаў цэнтрабежнай сілай мёд, у меру вадкі, у меру густы, свежы мёд, які меў бурштынавы колер.

— Ян, а ты ведаеш, што дзедусь яшчэ сказаў?

— Што?

— Бог даў пчол чалавеку для прыкладу ў працы.

— Але ж сярод пчол ёсць і трутні...

— То пчолы іх забіваюць і выкідваюць.

Маня падышла да стала, што стаяў ля вакна. Там на шырокай талерцы ляжалі кавалкі сотавага мёду. Над імі кружыла аса. Узяўшы нож, дзяўчынка адрэзала грудку і паклала сабе ў рот. Затым яшчэ адрэзала і паднесла на кончыку нажа кавалеру:

— Ян, бяры! Гэта дзедаў. Ён саладзейшы ад твайго. А як пахне! — Яна, пэўна, і сама не ведала, гаворыць усур'ёз ці жартуе.

Ян узяў і кінуў у рот, пажаваў:

— Такі самы, як і ў мяне!

— А ты верыш у Бога, Ян? — яе шэрыя з карым разводам вочы пад цёмнымі крылцамі броваў свяціліся імпэтам сяброўкі ў адмысловай гульні на дасціпнасць — той улюбёнай гульні на мяжы, за якой ужо мінае дзяцінства, але і да сталасці яшчэ жадны крок.

Ян з годнасцю выпрастаў спіну і ўзмахам галавы адкінуў льняны чуб з ілба:

— Я не перакананы, што Бог ёсць. Але існасць Боская ўва мне прысутнічае.

— То, можа, ты анёлак?

— Без крылаў, як бачыш, але ж...

Яны рассмяяліся. Маня прысела на стары зэдлік і, калываючыся на ім, перакінула пасмы цёмных валасоў з грудак за спіну. Хлопец неўзабаве ўздыхнуў з палёгкай,

як што пачуццё несамавітасці, што сцінала яму грудзі, прайшло.

— А я сур'ёзна, Ян. Веш, на Спаса гэтым летам мы з мамай хадзілі ў царкву. Я малілася за тату, а потым падумала: «Калі Бог ёсць, усё добра будзе, і татка вернецца, і мы ўсе жывы-здаровы будзем. Калі ж Бога няма — даруй мне, дзева Марыя! — уся Божая чыннасць для мяне на зямлі — у дзеду маім, у дзедусі». О, ён такі чалавек, што мог бы стаць Богам для ўсіх! Ён Дух святы ў нашай сядзібе!

— А ты — ні даць, ні ўзяць — Боская ўнучка!

— Ну — пэўне!..

І зноў засмяяліся, а між іхняга смеху прасейваўся гул медагонкі, ён трохі мяняўся, рабіўся лягчэйшым па меры таго, як соты вызваляліся ад пчалінага скарбу. Хібетлівы хлопец першы раз у жыцці ўзяў ад пасекі, пастаўленай у бацькоўскай сядзібе, добры мёд і цяпер выганяў яго з сотаў на Пісарчуковай медагонцы. Ён меў падставы да гонару як вучань, які паспяхова прайшоў іспыты.

З глыбіні дома і з вуліцы неўзабаве пачуліся возгаласы; яны то групаваліся і гучалі разам, то паасобку. Што здарылася?! Маня ўскочыла з зэдліка... Над усім верх браў вясёлы рокат маміната голасу. Трэба туды хутчэй! У дзвярах кладоўкі яны сустрэліся:

— Мар'я! — урачыста абвясціла Ганна: — Твой бацька едзе дадому!

— Ура! — закрычала Маня, як то крычалі байцы ў фільме пра Чапаева, і кінулася да маці, абхапіла яе за шыю. — Во-ё-ёй!..

Назіраючы за гэтай уражлівай сцэнай, за абдымкамі маці і дачкі, іх слязьмі, Ян, староннi, лічы, чалавек, стаяў ашаломлены.

— Бяжы, доча, прыбірай у хаце хутчэй, — адпусціла Ганна Маню. — Бог ведае, на чым ён прыедзе, але пэўне — хутка будзе!

Навіну аб прыездзе Барыса прынёс Пятру Пісарчуку пасланец ад самога каменданта паліцыі: маўляў, Мухала прасіў перадаць, што ваш сын Барыс цяпер у Янове, чакае папутку, неўзабаве прыб'ецца. Радуйся, бацька!..

І сапраўды, ад радасці сэрца ў грудзях Пятра пачало біцца аб рэбры, а вочы сталі вільготнымі:

— Аксіння! — гукнуў ён, адчыняючы дзверы ў хату. — Рыхтуйся да сустрэчы дарагога госця: Барыс дадому едзе!

— Барыс?
— Барыс!
— Ай-яй, няўжо?! Сын мой... Ганя! Ганя, дзе ты? Ганя, едзе твой чалавек!
— Барыс?
— Барыс!
— Ну што вы кажаце?! Як? Дзе? Адкуль?..
— Паўлюк! Дзе Паўлюк? Зося, шукай свайго Паўла! Яго брат аказаўся свету.
— Барыс?
— Барыс! А хто ж яшчэ?..
— Дык дзе ж ён?

І не паспела гэткае сямейнае ўзрушэнне перабурліць у хаце, як да сядзібы Пісарчукоў ужо сцягваліся суседзі, каб паглядзець на таго, хто столькі гадоў дзівіў і пацяшаў іх living рознымі праявамі свайго характару, хто быў вядомы ўсім у мястэчку і знік надоўга, лічыўся прапаўшым ў германска-польскай вайне, а цяпер вунь вестку падаў — едзе! Уваскрэс, няйначай! Выкараскаўся з нейкіх там выключных абставін... Цікава! Таму і цікава паглядзець на дасціпнага чалавека, а яшчэ больш — прывітаць і паслухаць, што ён будзе баяць.

На кухню набілася з тузін маладзіц — ад той жа цікаўнасці. Некаторыя з іх, праўда, прапанавалі свае паслугі малодшай гаспадыні Ганне ў прыгатаванні застольнай вячэры, як што яна была ў такім стане, што не магла ні на чым засяродзіцца, — туды-сюды бегала, за ўсё хапалася і не паспявала нічога зрабіць. Таму Вольга Германка неўзабаве перахапіла ад яе тую рупнасць — пасадзіла адных сяброўак чысціць бульбу, другіх — скубсці і патрашыць гусака, якога засек сам Барысаў бацька Пятро, а трэціх — мыць посуд і прыбіраць з падлогі ў кухні лішнія чыгуны, у якіх быў корм для жывёлы. Сама ж яна падпаліла ў печы і, прымаючы парады ад бабы Аксінні, стала пекчы грэцкія бліны. Зося, тая лічыла, што гэты фэст не ейны клопат, як і ўсё астатняе... Таму да прыезду Барыса яна бавілася разам з дзецьмі ў сваім пакоі.

А Павел у гэты дзень чысціў хлеў, дакладней, той адсек у ім, дзе стаялі каровы, ад гною — гаспадарчага скарбу, які накапіўся ў саламянай подсцілцы і перапрэў за лета. Скончыў тую працу і цяпер насіў на подсціл каровам свежую салому, што суха шамацела і нават вызваньвала пры ветры асобнымі сцяблінамі.

Да сядзібы Пісарчукоў падкаціла нейкая дзіўная крытая машына з чырвоным крыжам на баку. Мала хто такія машыны бачыў. Адчыніўшы бакавыя шырокія дзверцы, з яе ўлоння выскачыў і спружыніста разгарнуўся, паўстаў, зрабіў крок самавіты, ладны мужчына з дужа знаёмым усім мотыльцам авалам твару. Яго вочы ззялі, бы зоркі. Кароткі позірк упаў у купку людзей, што, пэўна, чакалі яго. Мяккая, ветлівая, пранікнёная ўсмешка, яна, праўда, амаль не закранула валявы падбародак і не разгладзіла дзве выразныя баразёнкі на скуры між бровамі.

— Вітаю! — чалавек зняў капялюш, вітаючы ўсіх, і тут жа прыгарнуў да сваіх моцных грудзей бацьку, Пятра Рамановіча, ссівелага за два гады, потым абняў Ганну, сухую, бы трэска, і, цалуючы, адчуў на сваіх вуснах салёны смак яе слёз, адчайных і шчасных. Утрапёную Маню, якая толькі што прыбегла з хаты, ён узяў пад пахі і ўзняў над сабой, як маленькую, ад чаго тая запішчала і засаромелася свайго піску.

— Ну вось я і прыехаў! — паведаміў Барыс і павярнуўся да вадзіцеля ў цывільным адзенні, нібыта той толькі і чакаў ад яго такіх слоў. Сказаў Барыс так, і палез у салон па скураны чамадан, вялікі, пукаты, і кожын, хто ў гэты момант стаяў ля машыны, акінуў спадарожную рэч цікаўным, а то і прагным вокам. Машына кранулася, пакаціла і знікла. Барыс павітаўся за руку з астатнімі сваякамі, суседзямі і, лёгка падняўшы за ручку чамадан, рушыў у дом, дзе зноў жа — абдымкі, вітанні, зычэнні. Цікаўныя маладзіцы, што сабраліся на кухні ўмомант адзначылі добры настрой Барыса, яго моц і сілу. Яны цяпер нават зайздросцілі Ганне:

— Во дачакалася галубка!

— То было ж каго чакаць — гля, які чалавек паглядны! Нездарма сохла па ім.

— А любая б па такім сохла!

— І Манька глядзіць на бацьку — вочы як ліхтары. Падрастае... Уся — у маці. Ад яе лоб, вусны, нават валасы на адзін прабор. Бацькавага амаль нічога!

— Шчаслівыя ўсе, — падагуліла размову Германка. — А я, мілыя, даўно думала, што такі чалавек, як Барыс, пройдзе ваду, агонь і медныя трубы ды жывым дадому вернецца. Бач, яго нават на рэдкай машыне з крыжам прывезлі!

Урэшце вітальны пошум апаў і пачаліся роспыты, дзе быў, як трапіў туды і што на чужыне якое. Барыс, праўда,

абмяжоўваўся кароткімі, у некалькі слоў адказамі, і толькі калі селі за накрыты сямейны стол, распавёў гісторыю пра свой палон, пра скасаванне статуса ваеннапалонных у нямецкім лагеры і далейшае вольнае рассяленне былых вайскоўцаў у Прусіі, пра іхнюю і сваю працу на фермерскай гаспадарцы і ў горадзе Кёнінгсбергу, дзе яму собіла ўзначаліць арганізацыю Самапомачы. Вайну, якая цяпер крышыла і спапяляла прасторы бальшавіцкай імперыі, ён не закранаў, абышоў увагай і новыя парадкі ў Моталі, не цікавіўся імі, не распытваў пра іх. А іншыя пакуль маўчалі пра гэта, пэўна, адкладваючы тэму гаворкі на потым.

Але пра што Барыс расказваў з асаблівым захапленнем, дык гэта пра культуру жыцця і працы ў прыватных гаспадарках Усходняй Прусіі, дзе на зямлі пыніліся фермеры:

— Там усё натуральна і проста, — казаў. — Сям'я купляе або бярэ ў арэнду столькі зямлі, колькі можа апрацаваць. Часам, каб лепей саўладаць з пэўным тэхналагічным, гэта значыць, абумоўленым навукай і практыкай цыклам, яна наймае сабе ў падмогу яшчэ аднаго ці колькі работнікаў, плаціць ім, як папярэдне дамовіліся. Усё там чын-чынам. Кожын лапік зямлі дагледжаны, чысціня і парадак наўкола. Прынцып такі, гаспадар пашырае вытворчасць настолькі, наколькі сам асабіста або разам са сваёй гаспадарчай камандай можа дагледзець ніву ці ферму. Спакойная праца. Ніхто баўэра не бэсціць. Затое ўраджаі збажыны і надоі малака — уга! — у два-тры разы вышэй за нашыя.

Расказ пра фермерскі вопыт асабліва зацікавіў бацьку Барыса — Пятра, дый брата Паўла таксама. Шчыра кажучы, гэты замежны вопыт нечым укалоў іхнія сэрцы, і яны наперабой пачалі задаваць Барысу пытанні пра тэхніку і ўгнаенні, якімі прускія фермеры карыстаюцца, пра элітнасць жывёлы; не ўтрымаўся, каб не ўставіць сваю капейку ў размову і брат Пятра — Васіль, пакліка624 па чыну радства на вячэру. Толькі ж нам няма як усё тое, што гучала там, пераказваць. Пасля Барыс, уважаючы на нейкі ўнутраны бунт і рэплікі свайго бацькі, неўзабаве заначыў:

— Я ведаю, тата, што вы з Паўлам — нічуць не горшыя гаспадары, чым прускія фермеры і нават у адпаведных умовах маглі б ім нос уцерці, абуць у лапці, як кажуць.

— Эй-ей, так-так! — падтрымалі маладзіцы за сталом.

— Я, тата, думаў пра гэта, калі працаваў на ферме, і думаў у Кёнігсбергу, калі пазнаёміўся з іхняй капіталістычнай сістэмай вытворчасці. Я зразумеў, чаму іх сістэма больш эфектыўная, дзейсная і больш прыбытковая. Дзве ўмовы, якія неабходна выканаць: зямля і сродкі вытворчасці ў прыватных руках! Лепей сваё асовае, чым чужое дубовае. Сваё заўсёды бывае лепей дагледжана. І — другая ўмова — меры і часу. Гэта каб фермер ці баўэр, не ў прыклад абшарніку, феадалу, трымаў у сваіх руках не тысячу дзесяцін, а толькі тое, чым сам карыстаецца, што можа апрацаваць, перапрацаваць, даглезець, спажыць, прадаць, пра-а-даць, — Барыс кінуў вокам на прыціхлае застолле: — Мусібыць, я без ладу бубню і нашы любыя жанчыны засумавалі, таму перапрашаю. Мне застаецца толькі давесці пра тое, што там маё ўласнае ўяўленне малявала. Такая, ведаеце, прастора ў нас і ў Расіі! Хіба мала зямлі? Не-е!.. Дык дайце ж гэту зямлю баўэрам, фермерам, гаспадарам! Дайце яе кожнаму столькі, колькі ён апрацуе разам з сям'ёй, — не мала і не многа. Дайце прылады працы, машыны... Не трэба бясплатна... Яны купяць. Яны купяць і знойдуць, здабудуць усё, што трэба, каб іх карміцелька-зямля была ў ласцы. Яны вышкрабуць і выліжуць яе, і кожная гоня асвоенай пусткі стане ўрадлівай нівай, агародам, садам!

— Барыс! Сынку! — усклікнуў, падхапіўшыся з месца Пятро. — То гэта ж зямельная рэформа Сталыпіна!

— Магчыма, магчыма, тата! Але на Захадзе да яе дайшлі. Прыклад баўэраў паказвае, што Расея — я ўжо не кажу пра Беларусь і наша працалюбівае сялянства — зрабілі б цуд, завалілі б рынак збажынай і мясам!

— Ліха матары! — Пятро стрымана грымнуў кулаком па стале. — Які паварот акрэсліваўся ў лёсе Расеі! То — не ж! Перакрэслілі! Адрынулі! Абмінулі! Павярнулі да абагуленых гаспадарак і прыгоннага права. Учынілі голад на Украіне і па ўсім бальшавіцкім гуляй-полі. Эвой!.. Як жа здарылася, што гэтак расейскі люд абмішурылі, што яго столькі знішчылі, о, Божа праведны!

Барыс іранічна ўсміхнуўся:

— От таму, тата, Леніна і залічылі ў геніі! Іншаму гэта задача была б не па плячы!

Павел, унікліва слухаў і, слухаючы, узяў бутэльку і падліў гарэлкі ў чаркі бацькі, Барыса, іншых, хто сядзеў паблізу.

— Я бачу, — зазначыў ён, — што наш Барыс пачаў іначай на свет глядзець.

— Але ж, — падтрымаў Паўлюка бацька; у ягоных вачах, дарэчы, свяцілася прыязная ўсмешка: — Вылюднеў і стаў сацыялістам без усялякай бальшавіцкай набрыдзі! З чым я цябе, Барыс, і віншую!

Яны звялі чаркі разам, і чаркі дзынкнулі чыстым, кратным, утрапёным гукам, нібы засведчылі тым самым важнасць моманту.

Васіль, падносячы келіх да вуснаў, сказаў:

— Каб у вас увесь час было на стале, у місцы і калысцы!

— О-о ! — дружна загулі маладзіцы, пераводзячы позірк з Барыса на Ганну. — За гэтым справа не стане!

— Не-не ўжо! — энергічна адказала Ганна. — У калысцы ў нас ёсць і даволі!

Яна ўзяла да сябе на лона Вольку, якая дагэтуль топала каля яе па падлозе:

— Па ваенным часе — хопіць! І ў Зосі — таксама.

Маня ўважліва ўслухоўвалася ў размовы дарослых, і неўзабаве да яе аднекуль з падсвядомасці ці што дайшло: залічыць гэты дзень у асаблівыя, мала таго — у тыя адметныя дні, якія ў жыцці больш ніколі не паўтараюцца. Уся радзіна ў зборы і Барыс, сам Барыс, яе татка выступае ў нейкай новай сваёй ролі; усе задаволены і ўсцешаны ім, віншуюць яго, а галоўнае — дзедусь шчаслівы і мама шчаслівая. Дзівосны дзень!

Калі ж усе разышліся, Маня паслала сабе пасцель і легла спаць на канапе ў сталовай, як што на яе ложку ў спальні маці паклала спаць Вольку. Яна не крыўдавала на гэты ўчынак, але тут, у сталовай, каля дзедавай шафы з кнігамі доўга не магла заснуць. Можа таму, што на месцы кніг у шафе цяпер зеўрала пустата, і гэта пустата яе непакоіла. Неяк фізічна. Яна ведала, што ў тыя дні, калі іх сям'я як не кожын дзень чакала высылкі на Сібір, яе дзед перанёс кнігі на захаванне святару Георгію Раздзялоўскаму. Вайна пачалася, і той страх мінуў, а кнігі дзед назад не вяртаў. Значыць, яшчэ не ўсё асталявалася ў жыцці і аднаму Богу вядома, як яно далей будзе.

Ноч ахутала сядзібу цёмнай аксамітнай коўдраю, зрабіла патаемнымі рысы твару і нават дыханне. У Ганны яно затрымлівалася, збівалася і дрыготка трымцела. Але ж аднпачасова збівалася дыханне і ў Барыса. Толькі ад гэтага ні ён, ні яна не адчувалі пакут, непакою. Наадварот,

сэрца Ганны заходзілася ў салодкай знямозе. І такога хвалявання і знібеючай радасці яна не памятала, можа, ад той самай пары, калі яны ўпадабалі адзін аднаго, і тады адмысловай пасцеллю для іх была мурава на лагоднай сонечнай выспе сярод возера. Яны веславалі туды, як вяслуюць у невядомасць: за іх плаваннем у здзіўленні сачылі беласнежныя, чыстыя, вабныя кветкі — вадзяныя лілеі. Эх, трава-мурава! Успамін нагастраў радасць новых пачуццяў.

## 3

Даніку Плюнгеру, як пачалася вайна, не адразу і не ўсё, чаго ён хацеў, удавалася. Не ўсё ўдавалася ў той вялікай справе, дзеля здзяйснення якой ён, абагрэты савецкай уладай юнак, порсткі, нахабны, гатовы быў ахвяраваць усім, што меў, нават сваім жыццём, — так яму, па крайняй меры, здавалася, і ён усяляк гэту акалічнасць падкрэсліваў. Ці ж не таму адкрыта і смела разгульваў па вуліцах мястэчка з вінтоўкай на плячы або з наганамі ў кішэнях, дэфіляваў перад будынкам управы, дзе за бальшавікамі размяшчаўся пасялковы савет, а цяпер атабарыліся паліцыянты? Такім чынам ён кідаў выклік самой небяспецы і, няйначай, сцвярджаў, што з адступленнем Чырвонай Арміі і акупаваннем роднай зямлі гітлераўцамі яшчэ не ўсё страчана і што асноўныя рахункі з ворагам пакуль не зведзены, а ён акурат з тых, хто і будзе зводзіць гэтыя рахункі, вяртаць, аднаўляць, адбудоўваць савецкую ўладу на месцы і скрозь.

У тым вызваленчым руху ад пачатку вайны для яго і была найвялікшая справа. Ён шукаў аднадумцаў і пры іхняй падмозе назапашваў зброю, агітаваў местачкоўцаў не здаваць яе, у каго яна ёсць, не здаваць ні зброю, ні радыёпрыёмнікі немцам, усяляк процістаяць акупацыйным захадам і намерам.

Вядома, не ўсё мог ён і не ўсё, што рабіў, выстройвалася як мае быць. На пачатку ліпеня, напрыклад, ладзіў разам з хлопцамі сход. Меў адбыцца вялікі сход люду, адборнага, блізкага да яго, Плюнгера, па настроі, па духу. У яго падрыхтоўцы прыняла чынны ўдзел і дырэктар школы Вольга Міронава, маладая, неўтаймаваная асоба, шчуплая на выгляд, што не замінала ёй увасабляць сабой прыгажуню. Пасавалі ёй і кароткая прычоска русых дагледжаных

валасоў і жывы позірк блакітна-шэрых, вялікіх вачэй. Яна акумулявала ў сабе нямала свежага савецкага патрыятызму, які прывезла сюды з Сызрані Куйбышаўскай вобласці, і не дзіва, што пераўзыходзіла Даніка і яго сяброў як у навуковым досведзе, так і прапагандысцкай рупнасці. Уважаючы на яе досціп і жаночы імпэт, Данік, меўшы за плячыма чатыры няпоўных класы адукацыі, як не маліўся на Вольгу Георгіеўну.

Яны разам спланавалі гэты сход, выпрацавалі праграму, прыдумалі пароль, і Плюнгер перадаў актывістам не толькі Моталя, але і вёсак Псышчава, Упірава, Калілы, Крывіца, калі ім належыць прыйсці ў «сінюю» школу. Сход лепей было б правесці пад прыкрыццём ночы, але не выпадала, паколькі ўдзельнікі сваім рухам уначы маглі б выклікаць цікаўнасць у паліцыі і немцаў. Таму вырашылі сабраць людзей апоўдні. Каля школы ў гэты час патрулiравалі камсамолкі Ліда Чарняк, Ніна Міронава і Валя Міранавіч. А тыя, каму вадзіў менавіта сход, падышоўшы, пыталіся ў іх: «У вас жыта жнуць?» Дзяўчаты з імпэтам адказвалі: «Жнуць, жнуць, але ж! От толькі снапы не вяжуць».

Ужо ладнага людзей прайшло, працадзілася праз дзяўчат з гэтымі словамі, калі на вуліцу са свайго двара, а яна жыла тут паблізу, выпаўзла ў нейкай рабой сукенцы пані Малішэўская. Сваім абліччам, знерваваным і злым, сухой скурай, шэрай, адвіслай на падбароддзі, яна ў апошнія два гады ўсё больш нагадвала жабу.

— Валя! — паклікала яна адну з гуляючых — Валю Міранавіч. Валя лічылася за прыезжую ў адрозненне ад карэнных маталянак і працавала кінамеханікам у мястэчку. — Ідзі сюды...

Малішэўская хвіліну ўважліва разглядала яе:

— О-о, свента Дзева Марыя, ды табе ж ўжо хутка раджаць! А час такі непрыдатны, ой-ё-ёй!

— Не кажыце, пані Эльжбета! — так найчасцей звярталіся да гэтай асобы. — Ужо — што Бог дасць...

— А што тут у вас за пагулянка? Каля школы... Дэфілюеце... Стрыжэце вачыма... Пэўне, не так сабе?

— Ай, — замялася Валя і пачырванела ад таго, што не ўмела ілгаць: — Сход ладзіцца... Даўно не збіраліся.

— Хто сход ладзіць?

— Ну камсамольцы, актывісты ўсялякія.

— Матка Боска! І гэта каб сярод белага дня, каб пад бокам у камендатуры?.. Што ж вы будзеце абмяркоўваць на сходзе?

— Што рабіць далей? Вядома, не сядзець жа, склаўшы рукі!

Твар Мілашэўскай пацямнеў, і яна, не звяртаючы больш увагі на дзяўчат, патэпала — усё шпарчэй і шпарчэй па вуліцы, якая вяла да камендатуры.

Ліда і Ніна кінуліся да Валі:

— Скажы, Валька, пра што вы гаварылі?

— Пра сход... Ой! Маці родная, дайшло! — і Валя хапілася за галаў: — Што я нарабіла! Ай-яй, балда!..

Тады Ліда, не бавячы часу, сіганула ў школу, каб папярэдзіць Міронаву і Плюнгера пра тое, што тайна сходу раскрыта, а Ніна з Валяй засталіся на вуліцы прасачыць, пэўна, за ступой Малішэўскай.

Праз дзесяць-пятнадцаць хвілін школу акружылі ўзброеныя вінтоўкамі паліцаі і сярод іх некалькі немцаў, але толькі ні ў школе, ні на вуліцы, каля школы, нікога з падпольшчыкаў ужо не было. На гэтым сходзе меўся выступіць з прамовай і давесці, што належыць людзям акупаванай зямлі, важны чалавек, з якім, ва ўяўленні Даніка Плюнгера, пачынаў нітавацца і ягоны лёс, дзейнасць, — Фёдар Ражноў. У сярэдзіне ліпеня ён з'явіўся пад Моталем з групай асоб, перад якімі была пастаўлена задача разгарнуць партызанскую барацьбу ў Іванаўскім раёне. Менавіта ў Янове раней Ражноў быў сакратарам райкама і збольшага ведаў абсягі, а групу сфарміравалі за сотню вёрст адсюль — у вёсцы Леніна Жыткавіцкага раёна, дзе бавіўся, адступаючы на ўсход, Пінскі абласны камітэт камуністычнай партыі. Група колькасцю ў 25 чалавек прабілася ляснымі сцяжынамі сюды, пад Моталь, і прывалакла, прыцягнула з сабой нямала зброі.

Данік з сябрамі дапамагаў Ражнову перахоўваць зброю, і разам яны спакваля падбіралі людзей з мясцовых жыхароў, каб разгарнуць групу ў партызанскі атрад. На сходзе, які яны, перанёсшы на іншы тэрмін, усё ж правялі ў больш вузкім складзе, у стадоле аднаго з камсамольцаў, вырашана было адзначыць чарговую гадавіну пралетарскай рэвалюцыі баявымі дзеяннямі. На гэтым асабліва настойваў малады, гарачы Данік, і з ім пагадзіліся.

Набліжалася святочная дата 7 лістапада, і, горды ад думак пра свой чынны ўдзел у хуткім адчайным пагроме паліцэйскіх гарнізонаў, Плюнгер ішоў на сустрэчу з Ражновым «пад таполямі», а таполі ж аздаблялі дарогу з Упі-

рава на Заазер'е. Толькі расчараванню яго не было мяжы: замест Ражнова туды, пад таполі, выйшаў Клімчук, баец групы, з мясцовых. Ён паведаміў, што сустрэчы не будзе, што іхняя група раздзялілася на дзве часткі і адна, на чале з Ражновым, пайшла ў паўночным кірунку, другая, з Бондаравым, — у паўднёвым, а куды непасрэдна — яму не сказалі. Даніку было крыўдна і балюча да слёз, прычым з кожным днём яго туга павялічвалася, як што рабілася відавочным — баявая адзінка знікла, не пакінуўшы ніякага следу. Загадкавы факт паказваў, між іншым, і гэта яму асабліва крыўдна было ўсведамляць, — з ім, Данікам Плюнгерам, адважным і спанатраным на сувязях з мясцовым асяродкам партызанам-падпольшчыкам, не палічыліся, схавалі ад яго свае думкі і, нарэшце, пакінулі абжыты куток, пайшлі, растаялі ў невядомасці. Ці не гэтаксама ўразіла б Плюнгера тое, калі б на зямлю, дзе ён стаяў, раптам найшло зацьменне, а пасля, як праяснілася, усё тое, што ён бачыў і цаніў раней, аказалася ў далечы сіняй, непрагляднай.

Тужліва рабілася ваяўнічаму хлопцу тым болей, што ён наважваўся стаць правай рукой у Ражнова — камісарам, другой асобай у партызанскім атрадзе, які ствараўся. Няўдача, аднак...

Ды толькі не апусціў рукі Данік, як што быў ён сапраўдным носьбітам камуністычнага блюзнерства і чыннага ўнёску ў прышласць.

Ён пастаянна нагадваў пра сябе паліцаям і рабіў гэта натуральна і лёгка, як вольны рыцар, які ад суму шукае прыгод. Часам, праўда, яму ўдавалася штось неверагоднае, асабліва ў выпадках, калі трэба было абмануць і выкруціцца. Напрыклад, аднойчы паліцаі спынілі яго ў цэнтры мястэчка:

— На лаўцоў і звер бяжыць! — абрадаваліся і заступілі яму дарогу.

— Але ж... Бягу... З воўчага логава.

— Адкуль?! — нешта не ўцямілі яны.

— З камендатуры...

— А што ты там рабіў?

— Хадзіў адзначацца...

Яны расступіліся:

— Ну, калі так, — скацеркай дарога!

І ён пайшоў сваёй дарогай, а яны — у камендатуру, і пытаюцца там, ці заходзіў Плюнгер... Не-е?! Падмануў, шэльма... пракуднік... бандыт!

Частку будынка, у якім жыла Вольга Міронава з васьмігадовай дачкой, раней займаў Лейба, майстар па галенні барод. Пасля таго, як эсэсаўцы выбілі з мястэчка амаль усіх «юдаў», памяшканне пуставала, і, па дамоўленасці з Плюнгерам, у ім аднавіў цырульню Трахім Філіновіч, сябрук-камсамолец і, сярод камсамольцаў, ініцыятыўны і смелы таварыш. Яго цырульня ператваралася ў явачную кватэру.

Вядома, заходзілі да яго пагаліцца часам і паліцэйскія. А ў тую раніцу нават самога каменданта Мухалу чорт прынёс, і, змеціўшы такога важнага кліента на падворку, Трахім паспешліва грукнуў у сцяну Міронавай. Справа ў тым, што ў яе нярэдка бавіўся, а часам і начаваў Данік Плюнгер, і гэткая акалічнасць давала падставы цямлівым маталянам залічыць дырэктарку школы яму ў палюбоўніцы.

— Бач, — ківалі маладзіцы ў яго бок, — сарвігалава! Ён і Юльку Жупанку мае, і тут не промах!

Пераступіўшы парог цырульні, груваткі Мухала прывітаўся і паставіў вінтоўку ў куток. Трахім паказаў яму на крэсла перад шырокім люстэркам. Той сеў і правёў рукой па цёмным шчэцці на твары:

— Пагалі!..

— Гэта можна, пане начальнік, — Трахім роблена лісліва ўсміхнуўся: — Пагалю з задавальненнем! Вось толькі брытву напраўлю.

Ганяючы брытву на скураной вайсковай папрузе, Філіновіч вывучаў шчаціністы твар кліента, прытомлены, таўставаты, збуцвелы ад частых выпівак. Менавіта за схільнасць натольваць душу гарэлкай Мухала атрымаў ад дасціпных маталянаў падвоенае прозвішча: Мухала-Трынькала...

— Толькі глядзі — не зарэж вострай брытваю! — палічыў патрэбным уплішчыцца з такім жартам Трынькала. — Германія не даруе!

— Што вы, што вы, пане начальнік! — бянтэжліва адказаў на гэта Філіновіч. — Я яшчэ нікога ў жыцці не зарэзаў!

— Я ведаю... Ды ёсць і ў нас, не тут будзь сказана, галаварэзы. Ммм-гм... Ты, Трахім, між іншым, свяшчэннадзейнічаеш пад бокам у Міронавай. Не скажаш, як часта да яе заходзіць Плюнгер?

Цырульнік, заціснуўшы ў руцэ брытву, адступіў на крок ад кліента і, каб той бачыў, энергічна пацiснуў плячыма:

— А хто ж яго ведае... Я за імі не сачу, дальбог!..

— Гм... Што да «пана», калі ты гэтак звяртаешся да мяне, — адступіў Мухала ад вострай тэмы гаворкі, — то панам, уласна, я ніколі не быў і цяпер — для сваіх — ніякі не пан. Я ацяробак, калі ты хочаш ведаць. Нарадзілі мяне, падгадавалі ды галандрацам і невукам выпхнулі ў свет. Я і цяпер пісаць — не мастак. Таму, калі ў Моталі праходзіў сход, немец хацеў даць мне адстаўку. Ды іншага такога, як я, дурня не знайшлі.

— Кажуць, вы добра ведаеце нямецкую мову...

— Ведаю па-іхняму размаўляць. Жыццё навучала. Калі ў тую вайну недалёка адсюль стаяў фронт, я жыў і працаваў разам з нямецкімі салдатамі. Ад іх і вывучыўся. Скажу табе, то былі нармальныя людзі. Я, можа, таму і пайшоў да іх зноў, — ён памаўчаў, пакуль Філіновіч выбрываў яму падбародак, потым уздыхнуў: — Эх, маць тваю...

Гутарка доўжылася.

— Жахлівая рэч жыццё! Калі ты не забіваеш — цябе забіваюць, зводзяць са свету. Я мала чаго раней разумеў. Чаго хочуць бальшавікі... чырвоныя... белыя... Я тады акурат як ты цяпер, — малады быў. Але вось яны нахапіліся ў верасні трыццаць дзевятага і паказалі сябе. Трахім, — камендант вырачыў на Філіновіча страшныя вочы, іх бялкі былі ў чырвоных пражылках, напэўна, таму што ён піў і недасыпаў пастаянна. — Трахім, а ты ўсведамляеш, што яны нам паказалі? Га?..

— Я думаю, бальшавікі яшчэ не паспелі сябе паказаць.

— Эй не-е, у зман уводзіш! Паказалі!.. Ты маніш, таму што сам з камсамольцаў, але я маўчу пра гэта.

Цырульнік, анямеўшы, апусціў руку з брытвай.

— Штоноч, эге, штоноч сабакі гаўкалі, як энкавэдысты людзей з сядзіб вышкрабалі. Сабакі брахалі і ўздымалі паніку — дрэнна... Яны прывыклі працаваць уціхую. Таму і распарадзіліся: усіх сабак па вёсках перастраляць, і ў Моталі — таксама... А колькі людзей знішчылі мясцовыя бальшавіцкія прыхвастні яшчэ да іх прыходу?! Маўчыш?.. Ты скончыў галіць?

— Так-так... У вас буйныя рысы твару, і таму гэта робіцца хутка.

— Дзякуй!.. Кажуць, я сугней. Замкнёны, маўклівы чалавек... А ці лёгка маўчаць?.. За польскімі панамі я быў стражаком і нешта меў, як і Барыс Рамановіч, неяк карміў сям'ю. Толькі ж прыйшлі гэтыя — вызвалілі ад

працы ў пажарнай і зямлі не далі. Як я жыць мушу?! Мала таго, дык я яшчэ значыўся ў спісах на высылку. За што?..

Трахім маўчаў.

Мухала ўстаў, пакалупаўся ў кішэні і паклаў на стол савецкі чырвонец. Ад хвалявання за свой лёс Трахім нават не глянуў туды. Потым камендант Мухала ўзяў і закінуў за плячо сваю вінтоўку, — насіў гэтую цяжкую доўбню, як што парабелум яму пакуль не выстарчыла.

— Каб не тое, гм... Каб зляпіць нам канец гэтай размове, мм-гм, — у складаным роздуме Мухала-Трынькала пахітаў галавой: — Скажу табе, Трахім, як сыну сказаў бы: лепей мець справу з адкрытым ворагам, чым з падкалодным гадаўём, якое днём табе мякка сцеле, а ноччу падпаўзе і ўджаліць. Ці ж можна чакаць дабра ў краіне, дзе ніхто і нішто цябе не абароніць ад здзеку, які чыніцца скрозь не вядома кім і дзеля чаго? Адсюль і пытанне: што ў гэтай вайне я маю абараняць? Сваё жыццё?.. Ці не замала?.. Сям'ю? Спакой і жыццё местачкоўцаў? Дзеля чаго дый ці ўсім гэта трэба? Гм... Дык ты, Трахім, не ведаеш, хто там, — ён зноў кіўнуў на сцяну, за якой была кватэра Міронавай, — хто там у яе ў гасцях?

— Далібог, не ведаю, дзядзька Міхал, — назваў яго па імені хлопец.

— Ну цябе! Чаго глядзіш на мяне воўкам?

— Вы так пытаеце...

— Ладна... — Мухала сплюнуў у парог. — Пагаліў мяне і дзякуй на тым.

Ён выйшаў, але на падворку, над якім з агарода навісалі голыя галінкі дрэў, а быў ужо канец лістапада, павярнуў да дзвярэй у кватэру Міронавай. Пастукаў... Неўзабаве адчыніла яму сама гаспадыня:

— О-о, які госць! Прашу ў хату.

— Гэта, каб ты мяне аднаго запрасіла, то, можа, іншая рахуба была б! — і госць памаўзліва падміргнуў ёй.

— А я і запрашаю вас аднаго. Хіба не?

Праходзячы цераз сені, ён пільна ўглядаўся ў куткі, зняў з пляча і ўзяў у рукі стрэльбу.

— У вас нешта сваё на думцы?.. Дарэмна!

— Вольга Георгіеўна, я трымаю тваю тайну, — намякнуў ён у хаце на яе яўрэйскае паходжанне. — Але каб людзі спакойна спалі, выдай мне гэтага бандыта — Плюнгера...

Міронава паспрабавала зняць далікатны матыў і, наколькі магла, прыдала лагоды свайму голасу, смеху:

— О-о, Міхаіл Мікітавіч, як гэта дзіўна гучыць: «Каб людзі спакойна спалі!» Гэта ж на вайне толькі забітыя могуць спаць спакойна ды, можа, вы яшчэ, а? Прысаджвайцеся... Калі хочаце, чаем пачастую. Гарэлкі няма, яе вы, канешне, больш любіце...

— Не-не, чаю не варта! Гм... А чаму, уласна, ты, адукаваная і гарная баба, лічыш, што ў Моталі няможна спаць спакойна?

— Вайна...

— Вайна праходзіць; фронт цяпер пад Масквой. Пасля перамогі немцы паслабяць рэжым і адновіцца мірнае жыццё. Дарэчы, Барыс Рамановіч, калі прыязджаў з Германіі, казаў, што будзе мясцовае самакіраванне ў Беларусі.

— Дудкі! Вам як каменданту паліцэйскага гарнізона, вядома, не спадабаецца тое, што я скажу, але перамогі не будзе! І вайна, калі на тое, вайна цяпер не толькі на фронце, а скрозь, дзе ёсць савецкія людзі!

— Уга! — вырак і нават прысвіснуў Мухала: — Табе, Вольга Георгіеўна, толькі на бальшавіцкіх мітынгах выступаць! Адно не перастарайся, бо меры крутыя, сама ведаеш.

— Можаце выдаць мяне! — сказала ў запальчывасці гаспадыня.

— Не-е, пакуль што я ад цябе патрабую выдаць гэтага д'ябла — Плюнгера!

— А хіба я ведаю, дзе ён?

— Дармо... Сцены ведаюць, — Мухала ўстаў і падышоў да дзвярэй у спальню. — З твайго дазволу я адчыню.

Міронава ўтрупянела, і ўсё, што раней было, рабілася, дзеялася, спрасавалася ў адзін момант: скрып дзвярэй, крок наперад... Эвой!

— Хто тут?

І грозны вокліч Даніка:

— Кідай зброю! Страляю!

Мухала кінуў вінтоўку на ложак; Данік зрабіў тое ж — кінуў наган туды, дзе спаў, затым выцягнуў з кішэні яшчэ адну пушку і паклаў побач з першай. Ці не перакана́ўча?.. Ён разброіўся... А толькі ж на поясе пад гімнасцёркай яму муляла ў жывот гэтакая ж цацка.

— Пройдзем, пане дабрадзею, прысядзем, пагутарым, — прапанаваў каменданту шэльма Данік.

Мухала-Трынькала не адмовіўся і дзеля такога выключнага выпадку ў ягоным жыцці адшпіліў ад пояса і паставіў на стол паходную флягу, у якой боўтаўся спірт. Міронава дастала шклянкі-стограмоўкі, парэзала агурок.

Мужыкі налівалі і пілі. Спачатку, каб зняць нервовае напружанне, а потым, калі па сэрцы расцячэцца лагода, можа, і дамовіцца пра што-якое вартае. Міронава не піла і, папрасіўшы прабачэння, пакінула іх адных — пайшла шукаць дачку, дзе яна бавілася.

Гутарка ж за сталом ішла зігзагамі. Камендант Мухала ўсё напіраў і напіраў, каб Плюнгер адмовіўся ад сваіх авантурыстычных дзеянняў. На ягоны погляд, яны не мелі сэнсу. Ён прывёў прыклад, калі Данік са сваёй хеўрай ноччу на ўскрайку Моталя падпаліў пусты хлеў і ўчыніў паніку, а ў цэнтры мястэчка тым часам паадчыняў дзверы ў турме і вывеў адтуль шасцярых арыштантаў. Адпушчаныя на волю мужыкі праз колькі гадзін вярнуліся, прыйшлі ў камендатуру, гатовыя зноў сесці ў турму. У іх больш не было волі...

— А ў мяне воля ёсць, і яе ты, фашысцкі гіцаль, не зломіш! — сказаў жорстка Плюнгер.

Тады Мухала ўпохапкі працягнуў рукі да шыі свайго субяседніка, бандыта, няйначай... Данік, пэўна, думаў, што той лезе абдымацца, ажно — не! — праціўнік сціснуў яму горла і захрыпеў у пераможным узрушэнні:

— Гы-ы... Падла! Нарэшце, ты ў маіх руках!

Не боязь, а дзікі шал ударыў Даніку ў галаў, і, выхапіўшы з-пад гімнасцёркі пісталет, ён сунуў ім у паліцэйскае пуза, затым паднёс рулю пад самыя бельмы душыцеля. Але не выстраліў. А мог бы!.. Мухала адпусціў тонкую жылаватую шыю і неяк адразу абмяк. Ён сеў, як куль, напружана сапучы і невядома дзеля чаго мацаючы свае вусы. Вусы былі на месцы, і, здаецца, ён працверазеў, пачаў выціраць потны твар.

— Цяпер будзем доўжыць бяседу, — усцешаны вынікам паядынку, сказаў Данік.

— Чаго ты хочаш?

— Вось мае ўмовы...

## 4

Маня раз-пораз спынялася каля люстэрка і касіла на сябе вокам — як добра, проста выдатна ляжаў на яе плечуках і абцягваў грудзіну шэры, з нейкім някідкім узорам швэдар, зроблены, казаў бацька, з ангорскай шэрсці. Ён, гэты швэдар, лашчыў вока і навобмацак быў мяккім, як пух. У ім было лёгка і ўтульна, цёпла было, як што кожная варсінка хінулася да яе і грэла. Дагадзіў ёй Барыс.

У гэтай адмысловай абнове, закінуўшы за спіну цёмныя косы, пакарочаныя нядаўна, яна ішла ў царкву на нядзельную службу. Не адна — разам з дарослымі.

Мясцовы люд меў свой характэрны інтарэс у царкоўных зборах. У часе вайны асабліва. Царква заставалася як не адзіным месцам, дзе кожны мог спаткаць любога і, пры пэўнай цікаўнасці, пачуць на свае вушы толькі што народжаную, свежую або няхай сабе і скамечаную ў народзе навіну, абмяняцца думкамі, памаліцца за што якое вартае, лёсавызначальнае.

Жанчыны па-ранейшаму прыбіраліся ў свае святочныя строі, а мужыкі стараліся адпавядаць ім і таму апраналі чыстае, наводзілі бляск на ботах.

Верасень дагараў, і сонца, як позірк касой маладзіцы, прабягала і падала не проста на зямлю, а ўскрай, наводдалек, высвятляючы гаі і дубровы, у якіх асобныя купкі дрэў і хмызоў набывалі ўжо залаціста-жоўты і барвовы колеры.

У цесноватых гародчынках, перад вокнамі хат местачкоўцаў усё яшчэ ярка цвілі вяргіні і астры, а ў паветры чуўся гаркаваты шызы дым бульбоўніка, які дзе-нідзе тлеў на вогнішчы, і гэты пах мяшаўся з лёгкім, духмяным водарам рэзеды.

Ганна, Маніна маці, больш не трымала дачку за руку, як то рабіла раней, калі яны разам хадзілі на фэст. Цяпер Маня Раманавічанка мела быць за дарослую, хоць і не дацягвала яшчэ па ўзросце, але ж у яе душы ішла ў рост рунь самавітасці, што дазваляла ёй вольна сябе пачуваць.

Мужчыны ўтваралі галаву сямейнага шэсця, яны ішлі мернай ступой, старэйшы — Пятро — у высокіх ботах, у штанах, скроеных па тыпу галіфэ, а Барыс і Паўлюк — у лёгкіх туфлях, на якія зверху прыпадалі штаніны.

У рухах, у самой паставе Барыса, на дагледжаным і чынным твары быў разліты спакой і нейкая своеасаблі-

вая значнасць, як у залатога чырвонца. Па дарозе ў царкву ён не ў першы раз ужо распавядаў бацьку і брату пра культуру сельскагаспадарчай вытворчасці ў Нямеччыне. Зрэшты, казаў, прыклад такога гаспадарання быў і ў іх пад бокам — гэта сядзіба пана Юргенсона ў Асаўніцы. Такая ж уробленая зямля, такія ж племянныя цёлкі, каровы. Адно там, на чужыне, скрозь адмысловы парадак і ніхто не трасецца ад страху, што заўтра ў яго ўсё адбяруць, самога вывезуць на Салаўкі. Там да сацыялізму ідуць цераз прыватную ўласнасць і дастатак.

— А цяпер у іх што? — спытаў у сына Пятро Пісарчук. — Цяпер, калі распачата вайна? Пра што немцы думаюць, што робяць?..

— На зямлі працуюць, як і працавалі, — адказаў Барыс. — Некаторых, праўда, прызвалі на вайну. Між іншым, немцы ахвотна ідуць ваяваць, бо ў іх, ведаеце, якая з'ява — аўхшвунг, гэта значыць, уздым, выкліканы развіццём нацыянальнага сацыялізму. Гэта адно. А другое: у ноце, якая 22 чэрвеня была ўручана паслу СССР у Берліне, тлумачылася прычына вайны, і Рыбентроп, міністр замежных спраў, пра гэта па радыё даводзіў. Сталін прыбраў да сваіх рук Бесарабію, наблізіўся да Румыніі і сканцэнтраваў на мяжы з ёй вялікія наступальныя сілы. У ліку некалькіх армій была там і горная, каб лягчэй упакорыць Карпаты. На лета сорак першага рыхтавалася аперацыя па захопу Румыніі, адкуль Трэці рэйх чэрпае нафту. Для германскага вермахта, такім чынам, складвалася вялікая пагроза застацца без паліва. Разам з тым, у Беларусі, на беластоцкім выступе, рыхтаваўся другі сталінскі ўдарны кулак. Вы сведкі: будаўніцтва пад Моталем ваеннага лётнішча пацвярджае наступальны характар групоўкі, — выказаў сваё меркаванне Барыс. — Таму вайна з боку Германіі носіць папярэджвальны і як не абарончы характар. У Гітлера багата адданых яму суайчыннікаў, і, слухаючы свайго фюрэра, не адзін, напэўна, адчувае, як у яго крылы растуць. Жанчыны, тыя на фюрэры асабліва памешаныя. На мітынгах прыходзяць у шаленства. Ісус Хрыстос не меў такога поспеху! Куды там! Чуеце, кнігу «Майн кампф» дораць кожнай маладой сям'і пры рэгістрацыі шлюбу. І ў друку пра фюрэра пішуць, што гэта выбітная асоба, надзеленая неверагодным розумам, энергіяй, мастакоўскім, калі хочаце, густам. Д'ябал? Мастак... Майстар на ўсе рукі. Зачароўвае прамовамі. Шмат абяцае. Дый мае ўдачу, асаб-

ліва цяпер на ўсходнім фронце. Яму давяраюць. Яму вераць. На яго моляцца.

— А ліха матары!..

Даўно зняверany ў палітычных і дзяржаўных дзеячах, якія на ягоным жыцці, здаецца, толькі тое і рабілі, што душылі народ, свой ці чужы, Пятро насцярожана і, тым не менш, з цікаўнасцю ўспрыняў словы сына пра новага шэльму — фюрэра.

Ужо заходзілі ў царкву, калі апавядальнік Барыс нечакана прамовіў:

— Ёсць і ў нашых людзей пэўныя спадзяванні на Гітлера.

Але ж ніхто: ні бацька, ні брат Барыса Паўлюк, ні Барысава жонка Ганна, ні Маня — дачка, якая краем вуха злавіла гэтыя словы, не ўцямілі толкам, што яны азначаюць. Адно стары Пісарчук кінуў доўгі дапытлівы позірк на сына.

Пачыналася служба. Айцец Георгій, прачытаўшы Евангелле, распачаў тую казань, з якой неаднойчы ў апошнія гады выступаў перад прыхаджанамі: аб вялікіх выпрабаваннях, насланых на народ і на кожнага раба божага, хто пахіснуўся ў веры і адступіўся ад хрысціянскіх запаведзей. Зайздрасць і рабаванне, паклёп і здрада, — казаў ён, — здрада сям'і і роду свайму, як жа і добрым чалавечым адносінам, ды сквапнасць, ліхвярства заўжды былі і ёсць найцяжэйшымі чалавечымі грахамі. Юда Іскарыёт выдаў Ісуса Хрыста за трыццаць срэбранікаў, і ягоны грэх лёг цяжарам на ўсё чалавецтва. Ды хрысціянскі свет не зрабіў з гэтага гістарычнага факта належныя высновы. Ці не таму чалавечая супольнасць патанае ў варажнечы і зле?.. Паводле святога Якава, такое пытанне: «Ці мудры і разумны хто з Вас? Давядзі гэта на справе добрымі паводзінамі і мудрым замірэннем».

— Вайна, — казаў далей святар Георгій, — прынесла людзям неймаверныя выпрабаванні, і, паддаючыся спакусе д'ябла, многія грамадзяне карыстаюцца старым, можна сказаць, дагістарычным законам Майсея аб справядлівасці: «Вока — за вока, зуб — за зуб!» Між тым, помста, адплата сама па сабе не дае веруючаму ніякай спатолі. Асабліва ў сваяцкіх і ўнутрыэтнічных узаемаадносінах, у суседскіх, у грамадзянскіх або, як то было, класавых бітвах... Грамадзянская вайна вядзе да вялікіх пакут і страт народа, яна не нясе з сабою справядлівасці, якую

трэба шукаць толькі ў міры і згодзе. Помста бліжняму выклікае ў душы такую колькасць дэманічнай, або сатанінскай энергіі, што з ёю вам будзе цяжка далей саўладаць. Яна наваліцца на вас, вынішчыць да кроплі ўсю вашу дабрыню і высакароднасць, і тады вы адчуеце ў душы спустошанасць і толькі спустошанасць. Помста, такім чынам, небяспечная як для чалавека, якому вы помсціце, так і для вас, бо пад цяжарам тых ваяўнічых атрутных, едкіх і раз'ядаючых душу пачуццяў вы самі маеце быць раздаўленымі.

— Госпадзі, — неўзабаве ўзвысіў голас ойча Георгій, — даруй нам грахі нашы, бо і мы даруем кожнаму, хто нам вінен, і не ўвядзі нас у спакусу, заслані ад хціўцаў.

Маня спачатку ўважліва слухала пропаведзь, але потым слых яе прытупіўся, і, забыўшы на гэты духоўны ўрок, яна пачала разглядаць святочныя ўборы на жанчынах у царкве. Самі жанчыны былі засяроджаныя. Яе маці, праўда, глядзела не столькі на бацюшку, колькі на свайго чалавека Барыса, які зрэдку штось ціха шаптаў ёй на вуха, і яна тады ўсміхалася.

— Паводле святога Яна, — працягваў святар, — чалавек не можа нічога атрымаць, калі не будзе дадзена яму з неба. А з неба чалавек даўно атрымаў сабе вялікі скарб — душу. То паберажыце яе і зрабіце яе сваім храмам, светлым, высокім, як гэта царква. У імя ўратавання і ўзвышэння кожнага, хто дбае не толькі аб хлебе надзённым, але і аб прышласці. Амін.

Хор заспяваў псалом са словамі: «Я шукаў Госпада...» «Взысках Господа, и услыша мя, и от всех скорбей моих избави мя».

Людзі хрысціліся, некаторыя падпявалі хору або проста варушылі вуснамі. Услухоўваючыся ў спеў і словы, спрабавала ціха прамаўляць іх і Маня Раманавічанка.

Толькі побач з айцом Георгіем вырасла неўзабаве постаць яе бацькі. Барыс штосьці нягучна даводзіў святару, і той у знак згоды затрос барадой:

— Але ж... але ж...

І, ужо звяртаючыся да прыходу, бацюшка мовіў:

— Шаноўныя грамадзяне! Няма ніякіх сумненняў, што вас хвалююць праблемы вайны і міру, падзеі ў свеце нагул. Барыс Раманавіч, наш зямляк, і вы яго ўсе ведаеце; ён вярнуўся з палону. Але гэтакі час пацёршыся ў свеце, ён пачаў больш выразна бачыць тое, што робіцца, і ў яго

ёсць жаданне сказаць вам некалькі слоў. Калі ласка, пры выхадзе з царквы затрымайцеся на грамадзянскае веча.

Барыс вывучаў знаёмыя і ў нечым новыя для яго твары. На іх ляжаў цень пакут, засяроджанасці або ўтрапення. Аж пасля слоў бацюшкі, які прадставіў яго, натоўп ажыў і ў момант скінуў з сябе скамянеласць, здранцвенне; на тварах, асабліва ў вачах, выявілася цікаўнасць да моманту, да ягонай, Барыса, асобы, у якой заўжды мястачкоўцы знаходзілі шмат таямнічага, дасціпнага, і нават рызыкоўна-дзівацкага. Ён ішоў сваім поступам па жыцці ў няведамае. Таму натуральна, як толькі спадобілася яму паўстаць побач з бацюшкам на паперці і павярнуцца да іх тварам, многія слухачы параскрывалі раты.

— Людзі добрыя, — гэтыя словы, здавалася, Барыс уклаў як не кожнаму ў рот. — За два гады, як я адсутнічаў, на нашай роднай і калісь незалежнай зямлі столькі падзей натварылася, наплялося! Два гады дзень у дзень выцягвалі з некага душу. І цяпер гэта доўжыцца. Тут столькі пакутнікаў... Дзе браты Райкевічы? Я ўжо не гавару пра іншых. Пайшла паласа грамадзянскай разбэрсанасці, варажнечы, калі люд пазбаўлены клопату пра сваю супольнасць, пра сваю культуру, сваю гаспадарку. Страчваем сваё нацыянальнае самавыяўленне. Камуністы ў свой час не дапусцілі ажыццяўлення волі беларускага народа — усталявання Беларускай Народнай Рэспублікі. У процівагу БНР яны стварылі БССР, далі народу на кароткі тэрмін адхланне і зноў накінуліся на яго. Яны знішчылі амаль усю беларускую інтэлігенцыю, пачаўшы з вучоных, пісьменнікаў. Знішчылі заможных, самавітых сялян. Нарэшце, яны далучылі і нашы заходнія землі да БССР і загадалі энкавэдыстам усталёўваць у нас тыя ж парадкі — нечуваны гвалт, пазбаўленне людзей сваёй волі, этнічнай і гістарычнай памяці ды здольнасці развівацца далей.

Грудны тэнар Барыса гучаў на ўсю моц, і ідэальная цішыня, што ўсталявалася тут, прагна лавіла кожын ягоны гук.

— Наведваючы ў Кёнігсбергу і Берліне розных беларускіх дзеячаў, чытаючы некаторыя матэрыялы ў бібліятэках, я зразумеў, наколькі памылковым было ў свой час маё захапленне камуністычнымі ідэямі. Многія камуністы проста ўведзены ў зман. Ад іх хаваецца нават тое, што дзяржаўны пераварот у Расеі Ленін і Троцкі рабілі як агенты германскага генеральнага штаба. На мэту ставіла-

ся знутры падарваць магутнасць краіны. Іх паслугу шчодра аплочвала казна кайзера Вільгельма. А што далі, што прынеслі бальшавікі народам Расеі? Я ўжо сказаў...

— Цяпер, шаноўныя, падобна на тое, што камуністычнаму рэжыму на ўсходзе будзе каюк. Я не хачу тым самым сцвярджаць, што ўжо трэба па ім заказваць хаўтуры. Але ёсць у нас апінія: пасля перамогі Германскі Вермахт дазволіць беларусам аднавіць сваю дзяржаву на сваёй пракаветнай зямлі. У Нямеччыне ўважліва вывучаюць этнічную самавітасць і нацыянальны характар нашага народа. Не выпадкова на Беларусі ўжо цяпер распачынае дзейнасць Беларуская Народная Самапомач. Гэта арганізацыя, у задачы якой уваходзіць медычная і матэрыяльная дапамога насельніцтву, наладжванне грамадскага харчавання і гандлю. Самапомач будзе набываць усё большую палітычную вагу, а потым да яе пяройдзе і самакіраванне, рэальная ўлада ў краіне. Ці ж не збавенне гэта ад савецкай пятлі?.. Давайце падумаем.

Барыс скончыў, і праз які момант натоўп зварухнуўся, ажыў, пасыпаліся пытанні, але хутчэй не па тэме, а ўскоснага кшталту, што тычыліся пераважна асобы прамоўцы. Люд цяпер пераважаў асцярожны і ў палітыку не хацеў увязвацца.

— Пане Барыс, — звярнуўся да яго хрыпатым голасам дзядок Сяргей Кузюр. — А ты як? Зусім дадому прыехаў або пакінуў яшчэ справы там, дзе быў?

— Так, пакінуў справы і мушу вярнуцца да іх, — адказаў Барыс. — У мяне ж не скончыўся яшчэ кантракт на працу з фермерам. Апроч таго, я ўзначальваю Беларускую Народную Самапомач у Кёнігсбергу. Там шмат нашых мужыкоў, і праблемы ёсць.

— А ці не прыжаніўся ты там, чалавеча? — кінуў нейкі гарэза з натоўпу.

— Ды не-е, шаноўная! Я жаню покуль іншых, і гэтага дастаткова. Шаноўныя, бачыце Ганю маю... Сям'я, радзіна, Радзіма — гэта ўсё, дзеля чаго варта жыць.

І адчуўшы, што ягоны адказ усім, хто слухаў яго, спадабаўся, ён працытаваў на польскай мове радкі з папулярнага верша М. Канапніцкай:

Не кінем зямлю, скуль наш род,
Не дамо пахаваць мову!..

Ганна, паслухаўшы Барыса, вальней расправіла плечы, вышэй узняла галаў. Яна сказала з усмешкай:

— Глядзі, які гусь!

А нехта ў працяг тых радкоў, якія цытаваў Барыс Рамановіч, дадаў:

Так нам памажы Бог!
Так нам памажы Бог!..

— Правільна, — падсумаваў свае неспакойныя думкі старэча Кузюр, ён ужо пакідаў веча: — Цяпер у палоне лепей, чым дома.

— От ты, Барыс, казаў пра Беларусь, — нагадаў, падышоўшы бліжэй да паперці, Фёдар Малыцька. — А немцы падпарадкавалі Моталь, Пінск і ўсё, што пад Пінскам, украінскай генеральнай акрузе...

— Я думаю, што гэта часова! Але ж і ў Моталі патрэбна свая самапомач, каб ставіць і вырашаць пэўныя задачы.

Люд тым часам цішэў, паступова зрэджваўся і знікаў. Неўзабаве каля паперці засталіся свае, калі мець на ўвазе Пісарчукоў, а з імі і айцец Георгій. Ён паціснуў руку Барысу:

— Дзякуй, браце! Ты ўзяў на сябе сёння частку святочнай пропаведзі. Ты даў людзям інфармацыю. У старажытных краінах, праўда, у сапраўдных прапаведнікаў каменнем кідалі.

— Дзікунства жывучае. Сапраўды, нехта камень можа шпурнуць, — падаў Манін дзед Пятро Пісарчук.

— А разі іх у качарыжку! — Паўлу спадабалася прамова Барыса.

Айцец Георгій перахрысціўся:

— Божа літасцівы! Улагодзь ты сэрцы людскія. Колькі я пра гэта цябе маліў і малю!

— Сынку, — звярнулася Аксіння да сына Барыса, яна падышла сюды, да царквы, з некаторым спазненнем, але чула, як ён выступаў. — Ты сказаў людзям праўду. Толькі ж свет пакуль не па праўдзе жыве.

— Блажэнны згаладалыя і прагнучыя праўды!

— Не той час... І мае рацыю Ксення. Бо праўда ў сям'і і грамадстве вырастае з даверу, а яго няма. У грамадстве ніц няма. Сама супольнасць парушана, — гаспадар Пятро казаў гэта з непакоем і сумам. — Я сведка і сведчу: камуністычнае евангелле адрывае чалавека ад роду, ад сям'і, ад зямлі і робіць яго воўкам. Барыс тут даводзіў, што чужаземец нам мае быць за брата! Гм... Пане-браце, што я чую? Няўжо свет канчаткова рушыў з катушак і ў нашым кутку ўсталюецца вар'яцкі дом?

— Як і скрозь, разі яго ў качарыжку!

— Вар'яцеюць людзі ад бяссілля або ад вялікай улады, — сказаў Барыс; ён бачыў непакой і трывогу на твары бацькі ў часе свайго выступу і разумеў яго — цяпер кожын чалавек ходзіць, як па лязе брытвы, і лепей трымаць свае думкі каля сябе; але ж Барыс так не мог: — Калі надараецца гістарычная няпэўнасць і нейкія акалічнасці вымушаюць тую або іншую сістэму, скажам, імперыю рушыцца, кожнаму роду-племені, тата, павінна быць наканавана сваё. Народ у гэтым выпадку зробіць проста вялікае глупства, калі не выкарыстае сітуацыю ў крэўных сваіх інтарэсах.

От супраць гэтага стары Пісарчук запярэчыць не мог; ён, калі шчыра, і не меў іншай думкі, а ў душы нават адчуваў гонар за сына, дзівіўся яшчэ раз, як той выспеў і вылюднеў — клопат пра сваю зямлю ў яго выйшаў на першы план. Але інтуітыўна Пятро чуў побач з сабой бездань, холад бездані, у якую любога можа папхнуць, можа скінуць сам ход падзей. Калі прынцыпова, Пісарчук не верыў у хуткую або канчатковую перамогу Гітлера ў вайне з Расеяй ды яе саюзнікамі. І гэта акалічнасць не дазваляла яму выстройваць нейкія пэўныя планы ў думках, схіляцца да іх, жыць імі.

Ганна, бачачы, як насцярожана і нервова слухаў свайго сына Барыса Пісарчук, яе свёкар, як стаяў ён, уцяўшы голаў у плечы, моцна хвалявалася за свайго чалавека. Таму, калі скончыўся дыспут і людзі пачалі разыходзіцца, ёй карцела хутчэй выцягнуць героя адгэтуль, вярнуць у свой куток, асланіць ад чужога зыркага вока.

— То пойдзем ужо, Барыс, га?

— Пойдзем, Ганю. Там лепей, дзе нас няма. А свой дом — свая крэпасць!

5

Што далей, то цяжэй было Мані дабраць ладу ў падзеях, якія штодня хвалявалі дарослых і найперш яе радню, пачынаючы з дзеда. Вайна заварушылася ў яе сэрцы з таго самага часу, як бацька пакінуў сядзібу і Моталь і, анепакоены, паехаў на захад — на збор польскага войска. І як Моталь запаланілі ўцекачы адтуль, дзе пахла парахавой гарай. І як у Моталь увайшлі чырвоныя, самі па сабе звычайныя, не пагрозлівыя людзі, але перадалі яны ўладу

энкавэдыстам. Страхоцце, а не жыццё было ў гэтакія доўгія і даўкія да слёз два гады, што мінулі. Як ліхіх людзей напладзілася... Як вынішчалі палякаў і шчэльцаў... Як хапалі начамі і вывозілі цэлымі сем'ямі. А куды?.. Было цяжка ўцяміць. І дзеля чаго?.. Гэта ніяк не паддавалася разуменню. Адно яна маліла Бога за бацьку. Дзед і баба малілі Бога за сына. Маці — за свайго чалавека... Каб жывы быў ды рана ці позна вярнуўся.

Вымалілі.

Барыс Рамановіч, нарэшце, прыехаў жывы і здаровы. І, як высветлілася, — з іншага свету, які акурат абрынуўся на гэты свет, дзе заўжды чалавека трымалі ў страху. Яе дзед даўно не ведаў спакою. Ніхто не ведаў яго, асабліва тыя, хто ўмеў працаваць і трымаў сваю гаспадарку. Грамадства не здольна было бараніць чалавека, калі злыдні, узброеныя дзяржаўнымі мушкетамі, чынілі над чалавекам здзек. І грамадства пакутавала.

Вайна выратавала сям'ю Пісарчука ад суровай Сібіры, ад векавечнай тайгі, дзе люд дабрачынны ператваралі ў безыменнае быдла. Вайна грымела недзе выбухамі, раўла маторамі, надрывалася крыкамі, лямантам і енкам людзей, якія ці то абараняліся, ці наступалі, але аднолькава гінулі. Верх цяпер бралі акупанты, і цікавым, проста невераго́дным было тое, што яе татка, Барыс Рамановіч, які раней лічыўся камуністам, цяпер жадаў чужаземцам перамогі. Дакладней, ён мусіў на тую перамогу разлічваць, бо прымаў за факт імклівы наступ гітлераўцаў на ўсход, сакрушэнне імі абарончых рубяжоў савецкай краіны ды ўзяцце ў палон цэлых армій на чале з чырвонымі генераламі і афіцэрамі.

Але ж не для ўсіх у радасць цяпер і гітлераўскае войска, якое таптала зямлю. Нямецкія ваяры пачалі сваю дзейнасць з навядзення страху на ўсё насельніцтва. Няйначай, у гэтым і праяўлялася іх фашыстоўская сутнасць? Яшчэ свежым ляжала ў Манінай памяці, як фашысты зганялі ў гурты, бы авечак, людзей, — выключна пакорлівых «юдаў». Жанчыны галасілі, лямантавалі дзеці. Такі галас і слёзы — яны мо раўчуком цяклі! Утрапенне і дзікі жах у тыя хвіліны агортвалі Маню. Ёй карцела выбегчы з дамоўкі на вуліцу і паглядзець на трагічнае шэсце, але маці загадала ёй не выходзіць з пакоя. Потым з ваколіц Моталя — не выццё, не галас, а кулямётныя чэргі. На іх і скончылася жыццё некалькіх тысяч чалавек.

— Тата, а ты казаў, што Гітлера немцы любяць...
— Так... Нават празмерна захапляюцца ім.
Барыс колькі хвілін таму ўвайшоў у хату, зняў верхняе адзенне — ездзіў у Баранавічы, каб пазнаёміцца з арганізацыяй Беларускай Народнай Самапомачы, з мясцовымі беларускімі дзеячамі. Прысеў да стала ў сваім пакоі. Стол быў накрыты белым абрусам. Барыс ссунуў абрус на край, дастаў з палічкі белы хлеб, з шафкі ўзяў масла, паставіў побач, потым зняў з гарачай пліты кафейнік, які прывёз з Нямеччыны. Прывёз, між іншым, разам са звычкай у хвіліны адпачынку піць каву натуральнага вырабу. З гэтай нагоды старэйшая дачка Маня хуценька адклала ў бок спіцы, на якія толькі што нанізвала петлі, — вязала для Волькі белыя шарсцяныя шкарпэткі. Тут жа і Волька сядзела, бы сыраежка, у крэсле, бавячыся з яблыкам.
Маня паставіла на стол кубкі і жбан са свежым малаком. У хату з агульнай кухні ўвайшла Ганна:
— От малайцы, самі ўзялі што трэба. Папалуднуйце!
Ганна таксама прысела да стала, наліла Вольцы малака, падала хлеб.
— Бяры! У кампаніі заўсёды ўсё смачнейшае. — Затым звярнулася да гаспадара: — Можа, табе, Барыс, вяндліну прынесці?
— Не-не, дзякуй! Потым...
— Бачыш, якія ў нас дзеці растуць! — сказала і пагладзіла Вольку па галоўцы: — Нешта уздрыгвала ў сне. Можа, цябе, Волька, гусак пералякаў?
— Не-е, ніц, не гусь... — пакруціла галавой Волька.
— Каб гэта нам выстарчыла трохі спакою ў жыцці, га?.. Мар'я ж добра вучылася...
— І будзе вучыцца! — запэўніў жонку Барыс. — У Беларускай генеральнай акрузе ўжо адкрываюцца школы. І ў Моталі заняткі неўзабаве пачнуцца. Я, дарэчы, прывёз з Баранавіч газету...
Ён устаў, прайшоў да дзвярэй, каля якіх на тоўстым кручку вісела паліто, якое ён насіў раней і зноў пачаў надзяваць; дастаў з кішэні газету, вярнуўся да стала.
— «Урадавы веснік»? — дзівуючыся, прачытала Маня.
— Ага, афіцыйныя весці. Газета, між іншым, друкуе загад гаўляйтэра Кубэ, які асталяваўся ў Менску. Аб чым жа ён?.. Пра адкрыццё школ... І вось што даводзіцца загадам... Скажам, у параграфе нумар адзін. Чытаю: «Гене-

ральная акруга Беларусі ахоплівае жыцьцёвы абшар беларускага народу. Дбаньне аб беларускай культуры, звычаях і асьвеце з'яўляецца адной з істотных задач школ Генеральнай акругі Беларусі. Іншыя народнасьці, палякі і расейцы, якія жывуць на гэтым жыцьцёвым абшары, павінны засвойваць беларускую культуру». Ну і гэтак далей... А вось яшчэ: «Выкладаньне ў школах будзе весьціся на беларускай мове».

— І ў нас, тата? — жыва спыталася Маня.

— Не, доча... У Моталі ж пакуль іншая акруга. Але гэты загад пацвярджае тое, пра што я казаў у царкве: ладзяцца крокі, каб зрабіць Беларусь — сапраўды Беларуссю!

Ганна зразумела, што яе чалавек мае падставы, каб быць задаволеным ходам падзей, і ў яе паспакайнела на сэрцы.

— То смачнай ежы! — пажадала яна і, лёгкая ў рухах, бы ластаўка, вылецела з пакоя — там справы рупілі.

— Пл... пл... просю, — перадаючы яблык сястры і пасміхаючыся, вымавіла малая.

— Просім ды ў свой рот носім? — падхапіла Маня. — Чаго ты лыбішся? Еш!

— А кубак акуратненька трымай за ручку, каб малако не разлівалася, — Барыс памог Вольцы ўзяць кубак.

Сабе ён наліў кавы. Маня таксама піла гарачую каву з малаком. І нейкі момант яны лагодна глядзелі адзін на аднаго. На ўспамін Мані леглі цукеркі, якімі колькі год таму Барыс так шчодра яе частаваў. Дзяўчынка тады прагла ласкі бацькоўскай, але, не ўмеючы ці, можа, не маючы часу паказаць дачцэ ласку тую, ён дагаджаў ёй цукеркамі. Маня асабліва любіла цукеркі з сакрэтам. Прыгадала, і ў вачах яе зноў засвяціліся вясёлыя зданкі. Было-ткі цікава!

— Тата, а памятаеш, якога ты шчупака прынёс!

— О, боўтаючыся, ён ледзь нас усіх з хаты не павыганяў! Сілы і спрыту быў ого-го!

На сцяне ўзбоч стала вісела ікона Божай Маці. Позірк Мані неўзабаве ўпаў на яе. Упаў і затрымаўся на ліку святой. Колькі гадзін, колькі дзён і начэй Маня ўкленчвала перад ёй, просячы злітасціўіцца і пакінуць бацьку жывога. І от цяпер тата — як цуд. Шыракаплечы, мажны, глядзеў на яе, зялёную, ценькую ды спрытную ў працы. Пэўна, дзівуючыся. Ён, пэўна, знаходзіў у твары дачкі шмат падабенства з тварам жонкі.

Маніны вочы павільгатнелі ад успаміну пра тое страхоцце, пра перажытае тут без яго, Барыса, без бацькі. Шмат пачуццяў выяўлялася ў яе ўчэпістым позірку, лагодным, няломкім. Але вось ён, шаноўны заснавальнік сям'і, дачакаўся цікаўнасці, якою звычайна загараліся Маніны вочы, калі яна распячатвала цукерку з сакрэтам:

— Тата, а за што гэта дзед выгаворваў табе, калі ўчора вы сядзелі ў сталоўцы?

— За Гітлера...

— Зноў? Я так і думала!

— Бачыш, — ён зрабіў прыкрую міну, — твой дзед лічыць, што я залішне даверыўся абяцанкам фашыстаў, пра што нібыта засведчыла маё выступленне ў царкве. Магчыма... Але ж народ трэба інфармаваць. Людзі павінны ведаць, што дасць ім за гэтым рэжымам Беларуская Народная Самапомач. На жаль, Мар'я, гэта палітыка, да якой табе яшчэ расці ды расці!

— Тата, а ты, можа, памятаеш, за польскім часам вучні нашай школы наладзілі страйк. Яны патрабавалі беларускай мовы, навучання на ёй. Веш, нам забаранялі пабеларуску гаварыць, нават на перапынках. Пазней ужо, за савецкім часам, настаўнікі даводзілі, што руская мова самая вялікая і магутная. На ёй размаўляў нават Ленін. Нам даводзілі таксама, што Сталін — ну, тое самае, што ты казаў у царкве пра Гітлера. І краіна саветаў — гэта казка! А мы калаціліся. Чаму? Знішчалі багатых і бедных, шчэльцаў і камуністаў. Без разбору! Пэўна, дзед расказваў табе пра гэта. Смерць хадзіла пад вокнамі ў кожнага, і я яе бачыла.

— Мар'я, што ты гаворыш?!

— Я ведаю, што гэта такое — палітыка... Гэта — страх, які зазвычай наводзяць на людзей.

— Стра-ах?.. Магчыма... Як сродак палітыкі.

— Тады ніякай палітыкі я не хачу! Я хацела б жыць проста: я, мама, баба, дзедусь... Але чаму ўсё бэсціцца?.. Не вем... Пра Гітлера і Сталіна шмат гавораць! І часам рознае... Ці такія яны людзі, як мы? Дзедусь казаў, што Сталін здольны на злыя жарты, ён хацеў яго падпаліць. А Гітлера любяць у Германіі. Татусь, а ты, ты разам з Гітлерам?

— Не, я стаю ўбаку. І я, і тыя, хто там застаўся. Гэта ж не адна тысяча ваеннапалонных, якім адрэзалі шлях на сваю радзіму. Куды нам цяпер? Ёсць загад: заставацца на

месцы! Той-сёй паехаў. Дзеля чаго?.. У фатэрляндзе ўсе працуюць, там патрэбны працоўныя рукі, і ніхто не зацікаўлены адпускаць нас у той час, калі, наадварот, туды, туды рабочую сілу вярбуюць. А тут — няпэўнасць і страх, пра які ўсе гавораць. Прыстойным людзям вяртацца і папаўняць гарнізоны акупацыйнай паліцыі таксама няма сэнсу. Гестапу — гестапава! Мужыцкі розум не схільны да рэзкіх хістанняў.

Волька даўно дапіла малако і, каб не чуць за сталом пра сумныя і незразумелыя рэчы, слізганула з крэсла на падлогу і пайшла шукаць маму. Неўзабаве падняўся і Барыс. Ён акінуў дачку прыхільным уніклівым позіркам, які адно мог азначаць: «Ты ў мяне думная і слаўная! З чым я цябе і віншую!»

— Калі не было ад цябе вестак, — прыгадала Маня, — розныя людзі выказвалі мне сваё спачуванне. Шкадавалі мяне і цябе шкадавалі, яны адзначалі пры гэтым, які ў цябе быў незалежны характар, вясёлы нораў, які дух высокі... Не? Высакароднасць... Багата чаго.

— Ну гэта прыемна! Прыемна ад цуркі такое пачуць. Дзякуй! Сапраўды, Манюня, шкоды ў Моталі я нікому не зрабіў. Даю гарантыю!

Ён выйшаў, каб пабадзяцца па сядзібе ды пагаманіць з тым, хто яму перш-наперш сустрэнецца, урэшце, каб памагчы каму-колечы ў гаспадарчых справах. У двары ж яго паклікала Ганна:

— Барыс! То, можа, калі будзеш ехаць у Нямеччыну, парася закалоць?

— Не, не варта Ганю. Я дастаткова атрымліваю за працу грошай, каб не быць галодным.

— То, можа, сябрам сваім завязі...

— Не-не, ніц не трэба, як што і яны забяспечаны.

— Ну, тады во гэтага д'ябла — пеўня зарэжам!

— От гэта іншая справа! А яшчэ я не супраць узяць з сабою слоік мёду.

Сядзіба знешне жыла сваім звыклым працоўным жыццём, гадавала дзяцей і жывёлу, а ў сэрцы кожнага жыхара была доля насцярогі: куды яно паверне далей, як пойдзе?..

Правёўшы бацьку цераз сенцы ў двор, Маня вярнулася ў свой пакой, узяла ў рукі кнігу і легла на ложак, адкінуўшы покрыўку. Але чытаць не магла, бо тое месца, дзе снуюцца думкі, было занята паламанаю хадою жыцця ды яе, Мані, імкненнем разабрацца ў ім хоць трохі.

Яна цяпер пачасту слухала разважанні і спрэчкі дарослых людзей, што вяліся на асноўную тэму — тэму вайны. І, калі слухала, ёй, дзяўчынцы, здавалася, што яна ўсё або амаль усё разумее. Але варта было Мані адысці ад гутаркі, пераключыцца на што-небудзь іншае, як потым ужо не магла прыгадаць адмысловы ход спрэчак. Яна не ведала, чаму так. А тлумачылася гэта, напэўна, яе агульнай слабай дасведчанасцю ў геаграфіі і палітычнай прасторы, дзе разгортваліся падзеі. Патрэбны былі веды і вопыт, каб жывое ўяўленне ўчапілася за гістарычную глебу, заглыбілася ў тканіну быцця.

Яна прагна слухала свайго бацьку ў царкве, асабліва калі Барыс даводзіў, што Чырвоная Армія сама рыхтавалася напасці на тэрыторыі, якія былі ў абладзе Гітлера. Яна збіралася адсекчы Румынію, ды адтуль, а таксама з Беларусі ўдарыць па Нямеччыне як асяродку фашызму. Дзеля гэтага ж задумвалася мотальскае ваеннае лётнішча... Цяпер зразумела, чаму яго з такім імпэтам будавалі. Спяшаліся, каб у гэта лета адкрыць. Спяшаліся, уважаючы на планы палітыкаў...

Лежачы тварам угору, Маня ўглядалася ў столь. Там з розных валасяных разорак, завіткоў, лёгкіх рысак і кропак, пры ўдзеле ўяўлення, можна было зляпіць знаёмыя абрысы ці нават сілуэт чалавека. Часам мроілася штосьці фантастычнае. Але думкі сягалі за столь і закраналі край чагосьці неабдымна вялікага, і блізкага, і далёкага — зямлі і неба. Як бачыш за ваенным лётнішчам паўставалі ўяўныя абшары Польшчы і Карпатаў, Літвы і Фінляндыі, Украіны і Беларусі, паўставалі разбураныя гарады і іншыя паселішчы, якія людзі адвеку ляпілі, бы ластаўкі гнёзды. Тых разбурэнняў Маня пакуль што не бачыла і, тым не менш, уяўляла іх і жахалася. Яна ўсё шырэй адкрывала вочы на малюнкі вайны і неўзабаве асабліва выразна пачала ўсведамляць, што перад ёй ляжаць абсягі драпежнай палітыкі.

Тут якраз прыгадаўся юнай цноце дасціпны жарт яе дзядзькі Паўлюка Рамановіча. Яны ішлі дадому з царквы па ахаладалай вуліцы. Паўлюк падсумоўваў уражанні ад той прамовы Барыса:

— Усё тлумачыцца проста, як у казках звычайна, — казаў ён. — Жылі былі два разбойнікі. Пакваліўшыся на абшары вялікія, замежныя, адзін разбойнік узняў над другім цяжкую дубіну, але не паспеў яе апусціць на гала-

ву прыяцеля, як той парнуў гэтаму вострым кінжалам у жывот!

Дома Барыс паказваў Мані і дзеду на карце Бесарабію, гаворка доўжылася пра той прыхаваны намер групы армій чырвоных, сярод якіх былі і сталінскія ваяры-альпіністы... Цяпер на ложку, варушачы пачутае, пабачанае і перажытае, Маня прыгадвала тых вераснёўскіх выбавіцеляў-чырвонаармейцаў, якія два гады таму з'явіліся ў Моталі. З вызваленчым, як абвяшчалася, імпэтам. Прыгадала іх, і ў памяці ўсплыў іншы востры выпадак.

Шорнік Абко вітаў чырвонаармейцаў. Ён падзякаваў ім за тое, што вызвалілі маталянаў ад польскага ярма. А чырвонаармеец яму ў адказ: «З-пад ярма вызвалілі, а хамут надзенем!»

Тыя словы, як і настрой чырвонаармейца, потым не раз усплывалі ў памяці Мані, калі ў бессань начэй яна калацілася ад страху разам з усёй сваёй радзінай, чакаючы энкавэдыстаў.

Цяпер нябога зноў сілілася ўявіць тых ваяроў, але ўжо недзе далёка, у адгор'ях Карпатаў. Гітлераўскія механізаваныя войскі абышлі групоўку вусатага шулера... Шулерам зноў жа назваў Сталіна яе дзядзька Паўлюк. Абышлі яны тых няшчасных згаладалых мужыкоў з тылу ды ўдарылі, ды грымнулі так, што многія там душой загавелі.

Адно дзівіла Маню: які сэнс ім быў лезці, драпацца на чужыя горы, калі ў сваёй краіне столькі гор і калі іх краіна багата на нафту? Да таго ж, і прастора ў чырвоных! Як даводзілі ў школе, СССР займае адну шостую частку зямлі, уласна, сушы. Ці ж мала?..

Калі Раманавічанка падзялілася гэтымі разважаннямі з бацькам, Барыс ёй адказаў, што салдаты ні адной краіны па сваёй уласнай ахвоце вайны не пачыналі. Яны найчасцей пабрацімы. І ў доказ гэтага прывёў факт. Калі ён трапіў у нямецкі лагер ваеннапалонных у Польшчы, немец з аховы заўважыў, што ён, знямоглы, змардаваны, але, як ніхто, нейк дзіўна перастаўляе ногі. На пытанне, што ёсць за ступа такая, Барыс выціснуў з сябе ўсмешку: «Сорам прызнацца, герр дойчэ камрад, але я багаты і голы адначасова. Багаты — пакольні маю шынель. А голы — не маю бялізны на целе і рубцамі мундзіра панаціраў сваю белую скуру». Немец зразумеў, бо ў адказ мовіў: «Я-я, фэрштэйн». А назаўтра ён прынёс і перадаў ваеннапалон-

наму Барысу Рамановічу дзве пары бялізны. «Я быў на сёмым небе ад шчасця», — прызнаваўся сваёй дачцэ татка. І далей, калі да іхняй размовы праявілі цікаўнасць Маніна маці, а таксама баба Аксіння, ён пачаў тлумачыць усім, што ў Савецкім Саюзе даўно, яшчэ калі ён вучыўся ў гімназіі ў Самары, скрозь праяўлялася тэндэнцыя да ўзурпацыі ўлады і абмежавання чалавека ў правах. Толькі ён тады глядзеў на свет праз ружовыя акуляры і не заўважаў таго, што творыцца, а вось яго тата і мама нагледзеліся.

— Тож і праўда, сынок, усяго пабачылі, — пацвердзіла, перамотваючы клубок нітак, Аксіння. — Як і тут, калі саветы прыйшлі. Здзек над чалавекам, над сумленнем і верай — гэта ў бальшавікоў найпярвейшая запаведзь. І яны яе заўсёды выконвалі. Ці то пагрозай, ці голадам, ці праз допыты і расстрэлы.

Барыс доўжыў тым часам:

— Дзеля поспеху ў гэтай справе Леніным і яго паплечнікамі — Троцкім і Сталіным — створаны такі камуністычны рэжым, які цяпер Гітлер пачаў усталёўваць на акупаваных тэрыторыях, напрыклад, у Польшчы. Робіць ён гэта з дапамогай гестапа.

— А хіба ж гестапаўцы і энкавэдысты — не два чобаты-пара? — памагла сыну Аксіння.

— Дык пры Сталіне камуністычны рэжым асталеў і, як налітая барвай гангрэна, пачаў распаўзацца ўшыркі. Таму не нафта сама па сабе цікавіла Сталіна ў Румыніі, а вароты на Захад, у Еўропу, у Стары Свет, каб пашырыць свой уплыў там і зрабіць тое, што зрабілі Ленін і Троцкі ў Расеі. Іменна гэта я меў на ўвазе, калі талкаваў у царкве.

Барыс Рамановіч сваім выступам у царкве ў значнай меры пашырыў уяўленне маталянаў аб пачатку вайны, яе прычынах і бліжэйшых наступствах на абшарах камуністычнай імперыі.

А весткі з фронта паступалі адна за адну мудрэйшыя. Упакорваліся гітлераўцам шмат якія гарады і абшары.

Урэшце, нямецкія групы армій у сваім паходзе на Маскву стаміліся. Два месяцы імклівага наступальнага шалу і грукату па дарогах, не самых лепшых, з баямі, часам жорсткімі, вымагалі адпачынку і папаўнення войскаў салдатамі і афіцэрамі, замены матораў.

Чаго Гітлер не ведаў — у Сталіна на пачатку вайны было танкаў у колькі разоў больш, чым у ягонай імперыі.

Прычым, тут былі танкі, якія пераўзыходзілі танкі Вермахта па брані і па хуткасці, а таксама па агнявой сіле гармат ды кулямётаў. І праўду казаў маталянам капітан запасу Сяргей Калінічэнка: на ўзбраенні Чырвонай Арміі былі і лёгкія, плаваючыя, наступальныя танкі, якіх вораг не меў. Наогул той сталінскай бранявой ды механізаванай сілы і моцы хапіла б на ўсю Еўропу, і таму... Таварыш Сталін, напэўна, палічыў бы любога, хто асмеліўся на яго напасці, круглым ідыётам. Ён не верыў, што Гітлер гэта зробіць, паколькі не адносіў Гітлера да катэгорыі адпетых прыдуркаў і авантурыстаў.

Пасля першага, як здавалася, этапу бліцкрыга гітлераўцам спатрэбілася мяняць маторы ў большасці танкаў. Гэтая праблема паўстала ўжо за Віцебскам і Смаленскам. Рамонту патрабавала ўся наземная тэхніка. Арміі чакалі падвозу паліва. А з новымі маторамі і палівам у фюрэра былі непрэліўкі, і Вермахт насілу сабраў рэсурсаў для стратэгічнага мяшка, у які патрапілі арміі Сталіна пры акружэнні ў Кіеўскай групоўцы. Таму, нягледзячы на бліскучыя, дзёрзкія ды проста ашаламляльна праведзеныя аперацыі ў Беларусі і на Украіне, дзе былі разгромлены багата якія савецкія арміі і ўзята ў палон звыш трох мільёнаў салдат і афіцэраў з генераламі разам, — маланкавая вайна прыпыняла свой бег. Пэўна, генералы Вермахта, стараючыся апярэдзіць Сталіна ў нанясенні ўдару, не ўсё прадугледзелі, факт.

Адно засмучэнні былі не толькі ў нямецкіх генералаў. Вось жа і Даніку Плюнгеру ў гэта лета, як пайшло на вайну, не ўдалося дамагчыся поспеху пры стварэнні ў нетрах лясоў пад Моталем партызанскага атрада. Пры найвялікшых, варта зазначыць, яго парываннях. Другім людзям нейкім чынам удавалася... Мабыць, тут, у Моталі, не ўсё як след выспела дзеля помсты сваіх чужынцам, дый мясцовым здраднікам, непрыяцелям, якія былі ці маглі быць у Даніка. На акупаваных абшарах увогуле ішло асэнсаванне стану вайны і магчымай ролі ў ёй грамадзян без ваенных білетаў.

Ролю рошчыны ў тым святым і высакародным руху ў абарону Айчыны (на справе — краіны саветаў) ад клятага ворага, які апярэдзіў саперніка з чырвоных бальшавіцкіх абшараў, выконвалі камуністы, пакінутыя партыйнымі камітэтамі розных узроўняў за спіной у акупантаў, ды моладзь, якая засвоіла камуністычную ідэалогію. Але ж не-

вядома яшчэ, які вынік быў бы ў іх, калі б тады ў справе супрацiву і помсты выключна важную ролю не адыгралі людзі ваеннай вывучкі, салдаты і афіцэры, дзесяткі тысяч якіх пасля ганебнага акружэння і разгрому армій, дывізій, палкоў унікалі палону. Яны прасочваліся прасёлкамі, сцяжынамі і напраскі ў лясныя гушчары, у глухія вёскі, пераводзілі дых, групаваліся, сумесна шукалі ратунку, а затым і сувязяў, і дзеянняў, да якіх падштурхоўвала іх салдацкае сумленне.

Толькі гэтага выспявання сілы і моцы ідэйнага праціўніка ў сябе за спіной недаацэньвалі нямецкія ваяры, якіх неадольна цягнула на ўсход, туды — хоць нагамі наперад...

Напэўна, адчуваючы інтарэс драпежніка да падранка, перабраўся з Берліна на ўсход і Адольф Гітлер. Гэта можна было разглядаць натуральна як скачок з намерам учапіцца ў хрыбціну ахвяры. Бадай, сімвалічным было, што яго новая стаўка насіла назву «Воўчае логава». Яна асталявалася цяпер у наваколлі Львова ў бункеры пад зямлёй. Там ён і святкаваў свае перамогі.

Вядома, Гітлеру мроіўся хуткі канец вайны, якая яшчэ і яшчэ раз павінна была прадэманстраваць яго веліч. Чуючы важнасць гістарычнага моманту, а тым больш сваё верхавенства ў пабураным свеце, ён захапляўся прамовамі, сентэнцыямі, разважаннямі на самыя розныя тэмы. Ён уяўляў сабе, наколькі важным будзе для нашчадкаў і асабліва гісторыкаў кожнае ягонае слова, слова генія, філосафа, мастака, палкаводца, бліскучага прамоўцы, і таму за вячэрай штораз шчодра адорваў насельнікаў стаўкі, генералаў і афіцэраў, стэнаграфістак і сакратарак, «скарбам» сваіх пачуццяў і думак, што ўтваралі адзіную плынь, несупынную, гонкую.

І вось у адну з балагольных асенніх начэй фюрэр, закрануўшы нейкім чынам пытанне аб нараджэнні самасвядомасці англасаксаў, перайшоў да рускай прасторы. Ад'ютант Генры Пікер занатаваў ягоныя «найкаштоўныя» думкі і словы:

— Пры засяленні рускай прасторы мы павінны забяспечыць так званых імперскіх сялян надзвычай шыкоўным жытлом. Германскія ўстановы павінны ўсяляцца ў раскошныя будынкі — губернатарскія палацы. Наўкола іх будуць вырошчваць усё неабходнае для жыцця немцаў. Воддаль горада ў радыусе 30-40 кіламетраў размесцяцца нямецкія вёскі, якія будуць уражваць сваёй прыга-

жосцю, іх злучаць найлепшыя дарогі. Вырасце іншы свет, у якім рускім Іванам будзе дазволена жыць, як ім заўгодна. Пры адной умове: панаваць будзем мы. У выпадку ж мяцяжу нам дастаткова будзе скінуць пару бомб на іхнія гарады, і справе канец. І яшчэ, раз на год па сталіцы рэйха правядзем групу кіргізаў, каб яны пэўны былі ўсведамленнем моцы і велічы яе архітэктурных помнікаў.

Усё будзе так. Без сумнення! Як што ніякіх сумненняў у Гітлера і быць не магло:

— Усходнія абшары стануць для нас тым, чым была для Англіі Індыя. Калі б я мог уталкаваць нямецкаму народу, — у народа сумненні, пэўна, яшчэ заставаліся, — наколькі яны маюць сэнсу і для будучыні важныя.

Адно гэтага не чулі ў Мотале. Не чулі таксама і за Моталем. Маня і яе сваякі жылі тым, што прыносіла ім пагудка.

А адмысловая крупарушка вайны выходзіла на новы віток.

## 6

Фронт быў далёка і, нягледзячы на тое, што пад Моталем перад самай вайной будавалася стратэгічнае ваеннае лётнішча, ён зусім абышоў гэта прыбалотнае мястэчка і пакаціў, папёр па вялікіх ды простых дарогах, па гасцінцах і чыгунцы на ўсход. Праз Моталь прайшоў толькі кавалерыйскі эскадрон — мільгануў, няйначай, каб засведчыць, што і гэту зямлю гітлераўцы таптаді сваімі капытамі.

Мястэчка прыціхла пад час безуладдзя. Люд працаваў. Канешне, не на патрэбы фронта. І, тым болей, не на пана, не на дзяка — на сябе. Ці адчувалі тутэйшыя яшчэ калінебудзь такую асалоду ад працы? Ніхто не мог прыгадаць. Ад поўнай свабоды і волі находзіла ўтрапенне. У тым ліку і на Пісарчука ды яго сына Паўлюка. Маталяне адпачывалі душой. І не дзіва. У іх гутарках між сабой можна было пачуць тое, што чуў Пятро Пісарчук ад млынара Рыгора Саевіча і ўспрымаў як сваё:

— Савецкая ўлада настолькі ціснула, што здавалася, быццам нехта ўсадзіў цябе між жорнаў ды каменнямі сціснуў табе грудзі. У той час прыходзіла думка, каб як дабрацца да радыё ды крыкнуць на ўвесь свет: «Ратуйце!» І, думалася, пасля хай робяць, што хочуць.

Кожын гаспадар маліў цяпер Бога, каб ён, Усявышні, заставаўся тут у іх і надалей адным-адзіным, непаўторным, льга сказаць, уладаром. Былі ж гады́, была сапраўдная гісторыя, калі маталяне карысталіся выключным Магдэбургскім правам. А чаму б і Гітлеру не ўмілажаліцца ды, уважаючы на іхнюю гісторыю, не прыслаць на Моталь сваю грамату: так і так, маўляў, панове, шануючы традыцыі і гонар майстроў, дарую вам незалежнасць і волю. О, як бы гэта ўспрынялі ў свеце!

Але ж замест граматы ў хуткім часе на Моталь наляцела, абрынулася эсэс-каманда ў чорных мундзірах, бы зграя ачумелага варання.

Маталяне былі ашаломлены жорсткай расправай тых чорных мундзіраў з яўрэйскім хаўрусам і зноў жа малілі Уладара Сусвету і заступніка, каб ён адвёў ад мястэчка яшчэ большае ліха, калі яно можа быць.

Аднак на гэты раз Бог не ўчуў або праігнараваў іх малітвы, і ў Моталі спакваля, украдне наспявала вайна, характэрная для ўсёй акупаванай гітлераўцамі тэрыторыі. Праўда, тут яна не мела выразнага малюнка, і яе, з пэўнай доляй рызыкі, можна было б назваць грамадзянскай. Дый інакш яно мо і быць не магло, як што ў тых гістарычных абставінах людзі па-рознаму сябе пачувалі. Адзін бок, напрыклад, сумаваў па камуністычным ладзе, другі — гатовы быў ад яго адцурацца, трэці — хацеў немавед чаго.

Да прыхаванай вайны з фашыстоўскімі акупантамі сваіх прыхільнікаў заклікала Масква. Голасам правадыра і вяршыцеля лёсаў у аграмаднай краіне Іосіфа Сталіна. Яна заклікала ўсе пракамуністычныя патрыятычныя сілы, якія засталіся на акупаваных тэрыторыях, і каму дарагая Савецкая Айчына, узняцца на барацьбу. Прапаноўвалася ствараць партызанскія атрады, падпольныя інфармацыйныя і дыверсійныя групы, наносіць страты ворагу, як і чым толькі можна.

Вядома, Даніку не выпала адразу ж адкрыць свой другі фронт у тыле ворага пад Моталем. Удача, можна сказаць, выслізнула ў яго з рук разам з сакратаром райкама партыі Ражновым. І, як відаць, дарэмна ён дэманстраваў перад групай Ражнова свае выключныя здольнасці ў аператыўным рашэнні пытанняў, дый смеласць, дый мужнасць, вынослівасць... Цяпер крыўдна Багдану, тым больш, што дырэктар школы Вольга Міронава, якая пазнаёмілася з гэтай гісторыяй, паспрабавала вытлумачыць раптоўнае

знікненне Ражнова ягоным недаверам да самога Даніка Плюнгера, ні даць, ні ўзяць — местачковага блазна. Ён жа, пэўна, прэтэндаваў на становішча камандзіра.

— Табе ж, Данік, усяго 21 год!..

У яе словах прагучаў як бы дакор.

Зміpыўся Данік з няўдачай ды пачаў па-вучнёўску ўважліва прыслухоўвацца да розных парад, заўваг, меркаванняў Міронавай, бо яна выдавала больш сталай і прадбачлівай, больш практычнай, чым хто-небудзь з ягоных сяброў, да таго ж, яе прыемна было слухаць ды разам распачынаць падпольную працу. Не дурань жа выдумаў: харошая дружка — першае шчасце ад Госпада Бога. Фактычна Міронава і накіроўвала дзейнасць падпольшчыкаў ды засцерагала асабіста яго, Даніка, рызыканта і блазна, ад безразважных учынкаў.

Вялікія блакітныя вочы па-ранейшаму ўпрыгожвалі яе нешырокі, прывабны жаночы твар з лёгкай дужкай носа і выразна акрэсленымі, ледзь пабляклымі губкамі. Але ж за колькі месяцаў ад пачатку вайны яна яшчэ больш здрабнела, высахла, на галаве з'явіліся сівыя пасмы валасоў. Данік глядзеў на яе і дзівіўся: хто цяпер скажа, што Вользе Георгіеўне ўсяго 25 год?.. Ён шкадаваў Міронаву, балазе, яна прыцягвала яго да сябе як гаючая крыніца, з якой ён мог чэрпаць веды і вопыт, нават энергію. І вось на вачах яна нейк здала, выпетрала. Ён ведаў адно, чаго ёй каштавала перажыць тыя жнівеньскія дні, калі гестапаўцы вынішчалі яўрэяў і ў любы момант маглі прыйсці ў яе дом. Яна тады не выпускала на вуліцу дачку і сама не выходзіла, толькі чула з гары, з паддашша, куды ўпохапкі забілася, воклічы:

— Юда, шнэль!.. юда... юда... шнэль!

І чуўся лямант, чуліся надрывістыя галашэнні... Пасля ўсё схлынула. Назаўсёды. Для вялікага гурту людзей. А для яе — туга, трывога ў сэрцы, чаго нікому яна не паказвала.

На гэты раз, калі Данік адвячоркам зайшоў да яе, гаспадыня была моцна ўзбуджаная. Толькі прыязным паглядам вачэй дала зразумець, што чакала яго. Святло не запальвалі.

— Ты чуў, што робіцца?! — адной рукой яна абдымала сваю дачку Мілу, а другой зашпільвала на грудзях гузік белай кофтачкі.

Ён шмат чаго начуўся за дзень і таму папрасіў удакладніць, што яна мае на ўвазе.

— Якая ганьба, га? О-ёй!.. Нашу моладзь у Германію выпраўляюць ды з песнямі, з танцамі пад гармонікі! Чуў? Я таксама была там, на плошчы... Ад сораму згарала! А немцы: «Гут-гут!» І фотаапаратамі шчоўкаюць. Іх прапаганда бурбонскага раю ўзяла верх!

Плюнгер скрывіў губы ва ўсмешцы:

— Няволя, яна і плача і скача. Традыцыя... Кажуць так: калі паміраць, то з музыкай!

— Шырокая славянская душа! О, я ведаю... А толькі што мы маем, таварыш Плюнгер? Першае: нягледзячы на нашу контрагітацыю і намаганні доктара Ласіцы, акупантам усё ж удалося набраць групу для адпраўкі ў Германію. Другое: нашы хлопцы і дзяўчаты едуць туды — нібы замуж выходзяць! Такі фэст наладзілі ў ростань. А прычыны ж тае?.. Адпраўляюцца ў нямецкае, у нацысцкае, у фашыстоўскае рабства! Ці не так?

Ад выпрацаванай і выкінутай з сэрца энергіі, ад уласнага шчырага пратэсту яна пачырванела:

— Кашмар!..

— Была б мая воля...

Данік быў прысеў у крэсла, ды тут жа ўстаў і, трымаючы па звычцы рукі ў кішэнях тоўстай ватоўкі (на вуліцы ж ужо спрабавала свае сілы зіма), — захадзіў па пакоі. Міронава заўважыла ў яго цёмных, бадай, драпежных вачах металічны бляск. Лёгкім рухам рукі яна выправіла дачку ў другі пакой.

— А што б ты зрабіў?

Ён спыніўся. Вольга стаяла перад ім; яны глядзелі адзін аднаму ў вочы.

— Толькі была б мая воля — я адправіў бы іх усіх не ў Германію, а на той свет! Туды, маць іх, туды!..

— Як?!

— Разам з немцамі і з паліцаямі разам!

— Данік... — вочы ў Міронавай пацямнелі. — Як можна так?.. Хіба там не нашы людзі? Мяне, калі шчыра, шакіравала музыка... А яны ж няшчасныя! Слязьмі абліваліся. Асабліва дзяўчаты, нявольніцы. Не паспелі знайсці сваю долю... І што яны маглі зрабіць, калі іх запісалі на вываз?

— Чаму ж? Вунь Гаўрыла Кузюр не пайшоў туды. А яму ж яшчэ ў верасні наканавалі шлях у Нямеччыну, дзеля гэтага яму тады і жыццё даравалі... Ёсць нямала прыкладаў, калі...

— А што Кузюр?

— Ён хаваецца...

— Пакуль не знойдуць ды не расстраляюць! Як Парфеёўца... Дый ці ўсе могуць надзейна і надоўга схавацца? Быў бы партызанскі атрад... Быў бы... Гучыць як бумбум! Сумна, аднак... Немцы ж да Масквы рвуцца.

Незнарок яна наступіла таварышу Плюнгеру на балючы мазоль, і ён затупаў каля парога. Непрыемным быў напамін і пра Парфееўца Івана, актывіста-падпольшчыка з вёскі Калілы, якога хтосьвыдаў. Калі немцы вялі яго на расстрэл за Моталь, ён уцёк ад іх, ды ў самім селішчы ўцекача заўважыў са свайго двара паліцай Цэган. Ён выскачыў наперарэз таму і ўдарыў яго прыкладам, што і вырашыла лёс байца супраціўлення.

Данік узяўся за ручку дзвярэй.

— Як? Ты ўжо ідзеш?..

— Так... Сёння прызначана сустрэча акурат з тым жа Кузюрам. Ён і яшчэ колькі чалавек выпраўляюцца ноччу ў Пінск. Там праз нашых людзей уладкуюцца на працу, а ў гушчы народа спакайней, дый шукаць іх там ніхто не будзе... Кузюр перадасць нам зброю, якую назбіраў: 12 вінтовак, патроны да іх, а яшчэ гранаты... Вось дзе сапраўды ваяр-камсамолец!

— Такое прыемна чуць! Няхай у Пінску яму добра будзе! — Міронава прыклала сваю мяккую цёплую далонь да шурпатай шчакі Плюнгера, пагладзіла: — А ў мяне, Данік, амаль не засталося сваіх. Нават з ліку настаўнікаў... Некаторыя баяцца спаткання са мной... Я ж усіх абышла, я старалася не дапусціць адкрыцця школы... Чаму — немавед дзяцей станем вучыць пры немцах... Якая запануе ідэалогія?.. Некаторыя настаўнікі даказвалі, што матэматыка, біялогія, пісьменства, да прыкладу, не маюць ідэалагічнай апраткі... А ў цэлым што? Жалю варта, але мне не ўдалося сарваць гэту задуму са школай — ужо з Янова прыслалі дырэктара, нейкага Няўстроева, і яшчэ некалькі настаўнікаў. Наша Дамініка Міховіч пойдзе выкладаць...

Падпольны таварыш Плюнгер уздыхнуў, не маючы пэўных думак наконт школы, а словы пра самоту і сум Вольгі, здаецца, прыняў на ўвагу.

— Не буду затрымліваць, — сказала яна тым жа ціхім грудным голасам. — Адно, Данік, прашу: абмяркуйце з усімі падпольшчыкамі меры далейшага супраціву адпраў-

цы людзей у Германію. Сямейных пакуль туды не бяруць. Абставіны прымушаюць жаніцца...

— Добра, Вольга Георгіеўна, мы абмяркуем.

Усміхнуўшыся на развітанне, яна прыхінулася да ягонай прапахлай ветрам ватоўкі, яны абняліся. Вольга не сказала, што з блізкіх людзей — ён, ён у яе адзіны. Яны тады яшчэ не ведалі, што ім наканавана хуткае расстанне. Кожнаму лёс кроіць сваю пуцявіну. Арміям — таксама.

Каляндарны год заканчваўся разгромам нямецкіх войск пад Масквой; крылатая і порсткая вестка тая абляцела ўвесь свет ды легла ружовай вуалькай на Моталь.

Навіна акрыляла. Вядома, тых, хто на яе спадзяваўся. Праўда, вораг пакуль што не кінуўся ў паніку, і пад час праваслаўных калядаў, ладзячы бясконцыя вечарыны ў «Воўчым логаве», галоўны воўк Германіі выдаваў (пад запіс) свае «гістарычныя» маналогі:

— Якое шчасце для ўрада, — казаў ён, — што людзі зусім не думаюць. Думаць ім даводзіцца адно ў момант аддачы загадаў і пад час іх выканання. Калі б гэта было не так, чалавечае грамадства доўга не праіснавала б.

— Не зіма сама па сабе, — даводзіў ён, — стварае нам цяжкасці, а тое, што ў нас ёсць салдаты, але мы не можам забяспечыць іх перадыслакацыю, ёсць боепрыпасы і ўзбраенне, але мы не можам даставіць іх на пазіцыі. Гора чыгуначнікам, калі да наступнага разу яны не наладзяць сваю работу!

У Моталі стаяла, ляжала і нейк неўпрыкмет рухалася, патрэскваючы марозамі тая ж зіма, снежная, лютая, няйначай, пераняўшая гэту лютасць ад ворага.

У Моталі, у сваім воўчым логаве, што месцілася блізу царквы і звалася камендатурай, справы ішлі куды лепей, чым у чыгуначнікаў, якія спрычыніліся да няўдачы фюрэра на Усходнім фронце.

Тут, у мотальскім акупацыйным хаўрусе, замест лiберала Мухалы галоўным ваўкалакам неўзабаве прызначылі спанатранага шэльму Пятрэнку; ён прыбіўся сюды ажно з Запарожжа... Чаго нячыстая сіла яго прынесла? І да таго ж, ваўкарэзіна, лоўка вынюхваў усё, якое ляжала не ўздоўж, а ўпоперак акупацыйнай палітыкі. Нямецкія ўлады былі ў захапленні. Па гэтых якасцях яго ацанілі і ўмомант павысілі, забраўшы ў Яноў. Тады ў мотальскую камендатуру прыслалі Бэнду. Адкуль і хто ён, гэты стаўленік? Мусіць, таксама чалавек, ветрам падшыты, — не гэтак важна. Куды як важней тое, што ён, як і Пятрэнка,

аказаўся чыстым ваўкадавам, і пры ім неўзабаве ініцыятыва ў процiборстве местачковых палітычных сіл перайшла да стражаў акупацыйнага рэжыму.

Шэльма Бэнда аднойчы вярнуўся да старых спісаў і загадаў паклікаць да яго камсамольцаў. Ух! А куды дзенешся? Прыйшло ў камендатуру роўным лікам сорак і, можа, яшчэ адзін. Тады Бэнда загадаў ім прынесці і здаць камсамольскія білеты. Некатарыя паслухаліся, прынеслі, здалі. Бэнда залічыў гэтых камсамольцаў у склад пасіўных і чэсных, а тых, хто не здаў, — у актыўныя. Апошніх ён прымушаў падмятаць двор у камендатуры, чысціць прыбіральню. Усе мусілі прыходзіць — раніцай ці ўвечары — адзначацца.

З пасіўнымі Бэнда працаваў асабіста, як адмысловы псіхолаг і схіляў іх да супрацоўніцтва. Перш-наперш камендант разлічваў на гаваркога і ў нечым аблуднага, як вызначыў яго па юрлівым складзе думак і рухаў, Іллю Дубовіча. Разлічваў таксама і на Івана Калільца... З апошнім Бэнда, як высветлілася неўзабаве, быў у адным лагеры для ваеннапалонных, утвораным немцамі ў Мінску Мазавецкім, блізу Варшавы, у 1939 годзе. Сябры па няшчасці «сышліся»... У выніку Іван Калілец, працуючы на падпольшчыкаў, атрымаў у якасці падарунка ад Бэнды аўсвайс. Мусіць, Іван абяцаў яму сёе-тое дакладваць, маючы свой разлік.

А ўвогуле задума Бэнды раскалоць і знішчыць тое, што магло супраціўляцца рэжыму, не ўдалася. Дый то казаць, супраціву шырокага, дружнага пакуль не было. Асобныя спробы самавыяўлення падпольшчыкаў часам цярпелі няўдачы, як, напрыклад, аперацыя па вызваленні арыштантаў з мотальскай вязніцы.

Лічачы, што гэта будзе баявая і дужа карысная справа, Данік Плюнгер з сябрамі Сідарам Мінюком і Іллюком Дубовічам у лютым, калі набліжалася масленіца, напаілі гарэлкай вартаўніка, затым узялі ў яго ключы і адчынілі турэмныя дзверы.

Яны вызвалілі шэсць чалавек, пасаджаных за розныя парушэнні патрабаванняў нямецкіх улад, але ж толькі адзін з іх — Сямён Мацукевіч — сказаўшы сваім вызваліцелям дзякуй, знік у сіняй начной прасторы. Астатнія пяць дачакаліся раніцы і пайшлі да каменданта Бэнды пакорліва прасіць прабачэння за тое, што ім далі волю.

Дзіва! І хоць вялікіх дзей ад падполля, якое лічыла сябе камуністычным, пакуль не было, дух Плюнгера чуўся

не за адну вярсту; ён як быццам раствараўся ў паветры і быў няўлоўным, чым і нерваваў Бэнду. Ягоны д'ябальскі дух, пэўна, узмацняўся тым, што за спіной у яго стаяла Міронава.

Бэнда у сваю чаргу меў гонар і лічыў, што дамогся належнага ладу ў мотальскай гміне. Ён меркаваў, што люд яго паважае, таму ў красавіку звярнуўся да моладзі з пісьмовым зваротам добраахвотна запісвацца для адпраўкі на працу ў Германію.

Аднак яго ўразіў і прывёў у шаленства вынік, бо заяўкі на згоду паехаць падалі туды ўсяго два-тры чалавекі.

І пачаў ён шукаць, дзе сабака зарыта. Воўчы нюх не падмануў каменданта паліцыі і ўжо з 30 мая па 2 чэрвеня, абапіраючыся на немцаў, Бэнда арыштаваў 37 чалавек, з іх 14 — у Моталі, астатніх — па вёсках. Усе былі адпраўлены ў Пінскую турму і асуджаны там да 6 месяцаў пазбаўлення волі. Прыкладна праз месяц для ўсіх адмянілі жорсткі рэжым і перавялі ў працоўны лагер, дзе верхаводзіў пан Сікорскі, паляк, які ўвёў у практыку чынны здзек з маталянаў. Ён прымушаў іх да самай бруднай і непасільнай працы, біў, выклікаючы на процідзеянне, каб потым прымяніць зброю. Толькі неўзабаве па ініцыятыве мотальскіх падпольшчыкаў Іван Калілец прывёз яму дадому 5 літраў спірту і паўтушы асвежаванага ў лесе дзіка. «Ад лясных братоў з Моталя» — красамоўна сведчыла цыдулька, якой суправаджаўся груз.

Хабар і намёк, пэўна, паймелі сваё ўздзеянне. Праз некалькі сутак усе маталяне былі на волі.

Тут нечы данос, і, цяжка сказаць, ці не спрычынілася да яго Малішэўская, вывеў ваўкалака Бэнду на Вольгу Міронаву. Яе арыштавалі; амаль у адзін час арыштавалі і маці Даніка — Наталлю і яго сястру Ганну. Апошніх узялі ў заложнікі.

Вядома, найвышэйшай марай стражаў парадку як Бэнды, так і Пятрэнкі было арыштаваць самога Багдана Плюнгера або хоць бы сустрэцца з ім. Данік ведаў пра гэта і неўзабаве дапамог паліцэйскім, уласна — Пятрэнку.

Калі той прыехаў у Моталь з Янова, яго запрасіў у сваю хату брат бурмістра Міхаіла Ксёнды — Сямён. Пасядзеўшы крыху ў застоллі, яны ўсталі і Сямён прапанаваў шаноўнаму госцю паглядзець на яго гаспадарку. Пятрэнка быў у добрым настроі і пагадзіўся. Яны падышлі да хлява, Сямён расчыніў вароты, і перад імі ў мяккім і пругкім

дзённым святле раптам паўсталі дзве постаці: высакаваты танклявы юнак з вузкім падбародкам ды пранізлівым і аднachасова цяжкім позіркам, які пазбаўляў магчымасці рухацца, а з ім — круглавідая, гожая, бы прыспеўшая суніца, паненка сярэдняга росту. Ён стаяў ля адной прываротнай шулы, а яна — насупраць яго, і абое трымалі рукі ў кішэнях лёгкіх куртак. У позірку паненкі было больш цікаўнасці і нават здзіўлення. Першым загаварыў малады чалавек:

— Гер Пятрэнка, я так разумею?

— Так, — кіўнуў госць, злёгку бляднеючы.

— Не хвалюйцеся, вы ў поўнай бяспецы! Але не падносьце свае рукі да кабуры, каб не было лішніх клопатаў. Так, бля... Перад вамі, як ні дзіўна, грамадзянін СССР Багдан Плюнгер. Гэта я. Вы задаволены?

— Так-так... Я рады сустрэчы.

— Мы разлічваем на перамовы.

— Грамадзянін Плюнгер, я да вашых паслуг.

— Арыштаваны мая маці і сястра, як вы ведаеце. Віна маці хіба ў тым, што яна жанчына. Спадзяюся, у вас была ці ёсць таксама тая, якая вас, бля... вырадзіла?

— Гаспадзін Плюнгер, прашу маю маці не чапаць!

— От і я прашу, гер Пятрэнка, не чапаць маю маці і вярнуць мне маіх з пінскай турмы!

— Я падумаю, калі ты перастанеш выступаць супраць нямецкіх улад.

— А якая радня табе тыя ўлады? І чаму ты ўзяў сабе за клопат гітлераўскім халуём служыць? Сабакі і тыя, бля... больш пераборлівыя.

— Маўч...аць!.. — хацеў быў скамандаваць камендант іванаўскай паліцыі ды папярхнуўся, заўважыўшы, як тон гнулася ў кішэні рука Плюнгера. — Я падумаю наконт тваёй просьбы.

— І добра падумай, каб знасіць сваю галаву на плячах!

— Не пужай. У Запарожжы я не такіх бачыў... Лепей скажы, чаму ты не просіш за Вольгу Міронаву? Хіба вы не разам былі?

«Ноччу разам, а днём — паасобку», — хацеў было казырнуць адказам Данік, ды зразумеў, што не да месца будзе — насупраць, ля шула, стаяла ягоная Юлька...

— А што? — перапытаў. — Міронава паказала, што была разам са мной?..

— Я не дапытваў яе, паколькі арыштавалі яе як юдоўку і цяпер яна ў гета. Але ты не адказаў на пытанне.

— Гэта педагог, якіх мала. Толькі цяпер не яе час! Педагогі вайне не патрэбны...

Данік штось цямніў, ды, гаворачы гэтак, сам адчуў: словы яго пачалі шалясцець непатрэбна, як апалае лісце пад нагамі. І ён паглядзеў на сваю сяброўку, няйначай, просячы ў яе падтрымкі, але ж Юлька зразумела яго позірк па-свойму і кіўнула:

— Трэба канчаць...

— Сапраўды... Гер Пятрэнка! — Данік Плюнгер узвысіў свой голас да поўнага яго панавання ў прасторы: — Мы дзякуем вам за бяседу і літасціва адпускаем вас на ўсе чатыры бакі. Не забывайце, аднак, што я перад вамі і Бэндай у даўгу не застануся. Аўхвідарзэйн!

Пятрэнка і Ксёнда, гаспадар сядзібы, павярнуліся і пайшлі. Пятрэнка ішоў не свабоднай, а, можна сказаць, здзеравянелай нейкай хадой. Ён выйшаў на вуліцу і моўчкі развітаўся з гаспадаром. У яго ліхаманкава білася думка: як узяць бандыта?.. Калі ж, развітаўшыся, спадар Сямён Ксёнда вярнуўся назад у двор, Даніка і Юлькі Жупанкі ў хляве больш не было.

Хвілін праз пяць з суседняга падворка на вуліцу выехала калымага, запрэжаная канём. На ёй вышэй драбінак была навалена і сціху церушылася долу льнотраста. Гаспадар Філіп Лукашэвіч, усеўшыся зверху, спакойна пыхкаў дымам цыгаркі і кіраваў туды, куды трэба, — у ваколіцы Моталя.

Пад ільнотрастой у абдымку ляжалі Данік ды Юлька.

Ураганны налёт паліцэйскіх на сядзібу Сямёна Ксёнды хвілінай пазней ужо нічога ў гэтай аперацыі не вырашаў.

## 7

Гаспадар Пятро Пісарчук тае восені моцна дакараў свайго сына Барыса за яго апраметную прамову ў царкве, дзе той, дэкляруючы вольную Беларусь, раскрыў свае карты ў небяспечнай гульні, а іх нельга было раскрываць, бо хто яго ведае, чым усё скончыцца. Тым часам Пятро разумеў і Барыса; сын далучыўся да руху, практычна да нейкіх там зварушлівых дзеячаў, што ўзначалілі самачынны рух беларусаў за свае нацыянальныя інтарэсы ў вайне, і ў тым,

бадай, не было нічога дрэннага. Кожнаму свая кашуля бліжэй да цела, дый пра Бацькаўшчыну дбаць — вышэй няма гонару. Але ж акалічнасці прымушалі сям'ю Пісарчука трывожыцца, асабліва яго, гаспадара Пятра, паколькі жыццёвы вопыт і розум рабілі яго мудрэйшым.

Зыходнай пазіцыяй, найзначным момантам у разважаннях і планах Барыса было тое, што Гітлер канчаткова парушыць савецкую імперыю і вынішчыць камуністаў як шкоднікаў і як ахвяр, так, ахвяр, наплоджаных чыннасцю Мардухея-Маркса на пагібель усяму чалавецтву. Вядома, адплату за прычыненае народам зло ў пэўнай меры можна разглядаць як рэч аб'ектыўную, і таму справядлівасць глядзі што возьме верх у вайне. Але ж Барыс або ягоныя прыяцелі, беручыся за адраджэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, разлічваюць на ласку Гітлера — на дазвол для іх самім гаспадарыць, на ягонае апекаванне. А гэта ўжо, як Бог ці д'ябал Гітлеру на душу паложаць!.. І выходзіць, што няма пэўнасці ані ў чым. Адно пэўным уяўлялася: жаданне найбольш адукаванай і нацыянальна свядомай часткі беларусаў выклікаць да жыцця нацыянальныя пачуцці народа, знайсці сваю Бацькаўшчыну на Беларусі, надаць ёй жыццё як дзяржаве.

Дзівіла, праўда, і моцна дзівіла тое, што тутэйшы люд не ў першы раз шукае гэтакай падтрымкі ў чужынцаў, у ворагаў сваіх, з захаду шукае, а не ў свайго расейскага брата, які, ліха матары, штораз таксама ператвараецца ў ворага і лютуе, як звер. Цяпер, кажуць, ён яшчэ больш блізкім стаў, як што заапекаваў адзіную еднасць людзей без прынцыпаў, без памяці пра свой род, без прыватнай уласнасці, надаўшы сабе і ўсім народам тэрытарыяльны назоў — савецкіх... Савецкія людзі — лепшыя людзі, як і арыйцы. Калі гітлераўцы пацерпяць няўдачу — савецкія вернуцца сюды. Гэта нельга не ўлічваць.

Барыс павінен памятаць, што ў яго ёсць сям'я... Трывожыўся Пятро гэтак, трывожыўся, а затым — годзе пане, падумаеш: страх, непакой для яго былі ўжо звычным, паўсядзённым станам душы, дый тое на думку ўскінулася, што, калі вернецца былое, савецкае, энкавэдысты ўсё адно не ўпусцяць свайго — адновяць чаргу на Сібір, і ён са сваім родам-племенем акажацца там у ліку першых. Таму лепей не браць блізка да сэрца прастадушны, безаглядны ўчынак Барыса; балазе ў тых беларускіх дзеячаў, якія сталі паплечнікамі ці паслядоўнікамі Скірмунта, таксама ёсць

сем'і, апроч таго ў кожнага — свая галава, якой у ліхі час пагражае куля — справа ці злева. І, калі ўсё-ткі яны ідуць на свядомую рызыку, то варта зразумець, што ў іх на душы, які адчай і якая трывога за Бацькаўшчыну.

Такі прыкладна роздум быў у Пятра перад той вячэрай, якую яны з Аксінняй ладзілі на сваёй палове і на якую запрасілі Барыса. Было гэта незадоўга да свята Пакровы — акурат на наступны дзень як Барыс вярнуўся з паездкі ў Баранавічы.

Пятру карцела ў спакойнай сямейнай бяседзе паслухаць, што Барыс чуў і што бачыў у суседняй баранавіцкай акрузе; дый блізіўся час ягонага ад'езду ў Нямеччыну, што таксама вымагала грунтоўнай сямейнай размовы, найзначных слоў.

Гутарка пачалася павольна і, няйначай, з уступу. Барыс паведаміў пра сваю сустрэчу ў Моталі з былымі прыяцелямі Янкам і Рыгорам Саевічамі, братамі, якія выбудавалі паравы млын і паказвалі яго Барысу. Рахуба з тым млынам пачыналася яшчэ да нападу немцаў на Польшчу. Тады Барыс гаспадарыў дома, а ягоны бацька Пятро пазычыў рупліўцам Саевічам грошы, якіх ім бракавала.

У братоў Саевічаў былі ўсе падставы да гонару — вялікі паравы млын працаваў на славу. Нейкую бядачую рэшту гонару, праўда, меў і гаспадар Пісарчук, як што ягоны грашовы ўклад у ажыццяўленне тае задумы склаў акурат траціну. Толькі ж ваеннае ліхалецце, як і савецкая навала ў прамежку між войнамі, абясцэнілі мясцовае прадпрымальніцтва.

— Адным словам, — зазначыў Барыс, прычым, скрушлівая і нат азадачаная ўсмешка блукала на ягоным валявым чыстым твары: — Плакалі татавы грошы!.. Саевічы вельмі шкадуюць, што ліхалецце пабурыла ўсе іхнія планы. Яны вінны табе. Вінны... Але ж цяпер іхні млын працуе на немцаў.

— Так... Я ўсё вем, — сумна і ціха прамовіў Пятро ды раптам таксама ўсміхнуўся: — Прыгадваю, як сустрэў аднаго з іх, а ён мне і скардзіцца: «Савецкая ўлада настолькі ціснула і так ціснула, бы жорны хто ўспёр на грудзі. Хацелася дабрацца да радыё ды крыкнуць на ўвесь свет: «Ратуйце!» Гм... А колькі мільёнаў людзей там, у камуністычных абшарах, на Украіне ды Расеі, марылі пра тое, каб крыкнуць, каб падаць свету голас адчаю: «Ратуйце!» Ды няможна было. І яны паміралі. Цяпер нібыта Бог кару

паслаў і ўвесь свет рушыцца, не тое што гаспадарчыя планы Саевічаў. Так што ў гэтых умовах я ім дарую віну. Мы паняволеныя. Мы людзі забраныя... Не ўсё ў нашай уладзе, чуеце? Помню, вершы, я іх чытаў. Там былі словы «забраны край»... У нас няма долі. А няма — не пазычыш, як я пазычыў тыя грошы Саевічам. Баюся, немец нам долі таксама не выбудуе. — І праз хвіліну: — Барыс, а што думаюць, як жывуць нашы людзі ў Баранавічах? Цікава...

Толькі тут іх размову перабіла Аксіння:

— Ай-яй, мужыкі, ды што гэта вы не з таго канца вячэру зачалі? Стол — як стол, яда — як яда і парай сыходзіць, а вы — няма ладу пра што!

— Прабач, Ксення... Усялякая пагудка к хлебу добра, але ж хлеб і соль — яшчэ лепей. Проша, пане!..

Сям'я ажывілася.

— Якая рада, дык рада, а есці нада.

Барыс весела падміргнуў дачцэ:

— А нам і не трэба многа, абы ўволю. Праўда, Мар'я?

— А ўжо ж... — яна засаромелася.

— Сілкуйцеся, што Бог даў ды ў працы здабыта.

— Дай Божа, каб усё было гожа, а што ніц нягожа — не давядзі Божа! — апошнія словы прамовіла Маніна маці, і яны прагучалі як здравіца і заклінанне адначасова; таму ўсе дружна ўзнялі чаркі, якія зазвычай сімвалізавалі паўнату жыцця і дастатак у доме. У чарках жанчын была настойка з чарніц, насабіраных Ганнай і Маняй улетку ў лясных абладах.

— З працы жыве чалавек. На працы трымаецца ўсё чалавецтва, — доўжыў тэму размовы Барыс. — Таму і біблейская мудрасць засведчыла: «Хто мае, таму яшчэ дадзена будзе і прымножыцца, а хто не мае, у таго забрана будзе і тое, што ёсць». Ці ж не так? Ці не пераблытаў я як былы камуніст чаго-небудзь, тата, а?

— Не, сынку. Так і ёсць, — казаў гаспадар Пятро ў водсвеце ўласнай усмешкі. — Іменна таму, на мой сялянскі розум, памыляецца той, хто лічыць, што хрысціянства і камунізм адлюстроўваюцца адно ў адным як блізняты. Камунізм перш, чым багацці прымножыць, адбярэ і падзеліць. І замардуе тых, хто ўмеў прымнажаць. Ад старога свету ідзе рабуючы, інквізітарскі лад. Ён і дэкларуе роўнасць люду, які ніц не мае і не хоча мець, бо як мець, уважаючы на энкавэдыстаў. Я сказаў бы, што камунізм

— гэта буйны рабаўладальнік, і рана ці позна ён надарве кішку.

— Дай Бог! — як не ў адзін голас сказалі Барыс і яго маці Аксіння.

— А вось Расея няхай бы жыла!

Пятро момант глядзеў на кніжную шафу:

— Гэтымі днямі я ўзяў ад айца Георгія частку сваіх кніг і пачаў перачытваць «Войну и мир» Талстога. У гэтага народа магутны талент, магутны дух і, думаю, яму цяжка будзе ўпакорыцца любому гвалтаўніку. Не паддаецца ўяўленню адно, як удалося бальшавікам залучыць такі народ у згубныя кашары камунізму?

— Абманам ды жорсткасцю тое зрабілі, — выказала простае меркаванне Аксіння. — А вы зноў у нейкія нетры пасунуліся. Ужо лепей было б паслухаць пра Баранавічы, што там дзеецца. Толькі ж ешце. І ты, унучка, рот раскрыла, нібы багата чаго разумееш! Бяры варэнікі...

За гэтым сталом, калі шчыра, дасціпную ўнучку менавіта варэнікі і цікавілі. Пасля размоў, канешне. Цеста з сырам і мёдам... Іх гатавала маці, і заўжды, калі Маня на іх глядзела, у яе слінкі цяклі, а калі ела, наогул упівалася асалодай.

Ганна перапаставіла бліжэй да Мані міску з варэнікамі.

— Я ўжо неяк казаў вам пра ксяндза Гадлеўскага, з якім меў гонар пазнаёміцца ў Берліне. Ён блізка ведаў Рамана Скірмунта, быў ягоным паплечнікам. Як пачалася вайна, выступаў па берлінскім радыё, зваў беларусаў падтрымаць вызваленчую нямецкую армію. Цяпер працуе ў Менску галоўным школьным інспектарам Беларускай Народнай Самапомачы. Я расшукаў яго па тэлефоне, і ён запрасіў мяне ў Баранавічы, куды выпраўляўся. М-м-так... Калі вам цікава, цудоўны будынак вакзала. Управа — цераз плошчу. Сам горад крыху разбураны. Але паколькі ён нагадвае хутчэй не горад, а раскіданую ва ўсе бакі вёску, якая асабліва кантрастуе з заходнімі гарадамі, то страты ад бомбавых удараў там невялікія. Вайна — вайной, а людзям — жыць, і таму там робяць усё, што трэба для грамадскага жыцця. Адкрылі медычную школу з аддзеламі медсясцёр, лекараў, аптэкараў. Яе ўзначальвае доктар Войтэнка, ён жа і бурмістр. Выкладанне скрозь вядзецца на беларускай мове. Дарэчы, бурмістр Войтэнка расказаў пра такую прыгоду. З Пінскай акругі прыбіўся ў Баранавічы айцец-каталік Леў Гарошка. У Пінску і Брэс-

це, навязваючы сустрэчы нямецкімі камісарам, ён настойліва дамагаўся, каб Палессе як сапраўдная беларуская прастора мела беларускую адміністрацыю і школьніцтва. Тады на Гарошку акрысілася ўкраінскае праваслаўнае чынавенства, дый мясцовае, прарасейскае — таксама. Каб не мець з апантаным айцом клопатаў, нямецкі камісар загадаў выселіць яго з Пінскай акругі. Тэрмінова і без звароту назад! У Баранавічах ён знайшоў падтрымку ў бурмістра і ўладкаваўся на працу ў рэдакцыі мясцовай газеты.

— Значыць, там пыніцца беларуская ўлада? — слухаючы, у роздуме спытаўся гаспадар Пятро.

— Так, яна зачалася і торыць свой шлях паралельна з акупацыйнымі службамі. Школьніцтва, лекаванне, шпіталі, аптэкі, як і суды, як і беларускія дамы культуры ды ўсялякая іншая самапомач — усё гэта немцы аддаюць у беларускія рукі. Я браў удзел у гутарцы школьнага інспектара Гадлеўскага з мясцовым інспектарам Міхайлоўскім, а таксама мастаком Шыманцом, кампазітарам Спаскім. Прысутнічалі і спецыялісты медычнай школы, якая ўжо дзейнічае. У іх там планы — як мае быць! Разлічваюць адкрыць пяць-шэсць сярэдніх спецыялізаваных школ: гандлёвую, мастацкую, музычную, сярэднюю тэхнічную, курсы настаўнікаў і гэтак далей. Такі абсяг працы, ажно зайздрасць бярэ!

Пятро Пісарчук зноў пацікавіўся:

— І што, гэтакае магчыма? Усё-ткі ж вайна...

— Ваююць немцы, а нашы аднаўляюць жыццё. Як казаў ксёндз — інспектар Гадлеўскі, — немцы пакуль не маюць для нас пазітыўнай праграмы, што, як вядома, засмучае. Яны абяцаюць нам нейкае невыразнае існаванне і не жадаюць нашых паслуг за цану, скажам, пэўных гарантый для нашага народа на будычыню. Са слоў нейкага там туза службы бяспекі, з якім Гадлеўскі меў прыватную гутарку, немцы на ўсходзе шукаюць жыццёвай прасторы, а не сужыцця. Той быў пад чаркай і прызнаўся: некаторыя малавартасныя народы будуць зусім вынішчаны. Ліквідуюцца жыды, цыганы, за імі пойдуць чэхі, палякі... З Прыбалтыкай фюрэр, маўляў, расправіцца асобна, бо гэта спрадвечна нямецкі абшар. Не падабаюцца яму прыбалты, асабліва летувісы, што так лашчацца да немцаў і нават самі сваіх жыдоў перабілі, каб новым гаспадарам было менш работы. Расейцы Гітлеру яшчэ часткова пат-

рэбны, мяркуецца, што яны будуць выкарыстаны супраць жоўтых... Толькі з Украінай можа быць горай, бо там парывісты народ, рэйху нявыгадны, і фюрэра адно там прыцягвае — украінскі чарназём, вугаль, руда і Чорнае мора. А беларусы, чуеце, на сваёй зямлі яшчэ з паўвека могуць спакойна жыць, маўляў, як людзі не варожыя Нямеччыне! Ва ўстанове Розенберга, праўда, ёсць сумненні, ці здольны наш народ да жыцця, да самакіравання, бо на беларускіх абшарах вельмі нізкая нацыянальная самасвядомасць.

— А чаму ж беларусам прадвызначаецца толькі паўстагоддзя на сваёй зямлі жыць? — зацікавіўся гаспадар Пятро.

— А пазней, магчыма, рэйх пераселіць наш народ далей на ўсход...

— Зноў у Сібір?! — у адзін голас з жахам ускліknулі Аксіння, Ганна і Маня.

— Няма пэўнасці, таму Гадлеўскі і кажа: застаецца самім беларусам тварыць свой лёс, не азіраючыся на фашыстоўскія дазволы; наладжваць школьніцтва, адміністрацыю, атрады самаахоўы, варштаты працы. Калі не парупімся, загінем як нацыя! Ён чалавек рашучых намераў.

— Ой, сынку-сынку! Узмужнеў ты ў поглядах, у намыслах сваіх, высокіх і дзіўных. А свет калючы, зарослы быльнягом, — гаспадар Пятро ўзяў з патэльні і паклаў на сваю талерку падрумяненую шкварку, потым лыжку набрынялай сокам капусты і бульбіну, белую, сопкую — ад крухмалу яна ажно рассыпалася: — Нацыя — гэта, як бы сказаць, сукупнае цела народа і дух ягоны разам. Шкада, што ў дарослых людзей да нацыі няма той увагі, як і да кволай маці, напрыклад. Багата хто пра яе забывае. А яна ж у небяспецы спраўды і даўно, табе зводдаль гэта кінулася ў вочы. Ліха матары, якіх толькі паразітаў у наша цела не ўпівалася? Хто з нас кроў не смактаў, прыкідваючыся то братам, то апекуном. Уважаючы нас за быдла!

— І цяпер смокчуць, тата, — раздзіраюць і смокчуць! Нашы абшары цяпер зусім на кавалкі парвалі. Таму некаторыя беларускія дзеячы, пра што казаў ойча Гадлеўскі, прапануюць збіраць сваіх патрыётаў ды арганізоўваць нацыянальныя збройныя сілы, партызанскія атрады, каб змагацца з ворагамі — немцамі і расейцамі. Толькі біцца на два бакі — гіблая справа; і гэта не прымаецца. Сітуацыя на акупаванай Беларусі абцяжарваецца яшчэ і тым,

што багата ў якіх акругах, паветах і валасцях прагнуць улады палякі, а часам — шавіністыя літоўцы. Па вайне сюды рынулася плойма былых абшарнікаў і жандараў... Толькі менскаму кіраўніцтву самапомачы ўдалося перахапіць немцаў у варожасці «былых» да беларусаў і адпрэчыць іх, як груганоў. Частка паслужнікаў Польскай кароны прытаілася, праўда. Я адчуў гэту небяспеку ў Янове. Там яшчэ хахлы, накшталт Пятрэнкі, прэтэндуюць на ўладу. Тым не менш, асаблівую пагрозу ўяўляюць палякі, паколькі многія з іх ведаюць нямецкую мову і лёгка пранікаюць у акупацыйныя ўправы. У іх свае падпольныя цэнтры і перадусім свая палітыка. Яны дазваляюць сабе непрыкрыта варожа ставіцца да нашых патрыётаў, абгаворваюць іх, узводзяць паклёп, напрыклад, называюць іх камуністамі і падстаўляюць пад кулі. Спытаеце, чаму такі добры вынік у беларусаў у Баранавіцкай акрузе? Скажу, там ад самага лета намаганнямі мясцовых патрыётаў усе ключавыя пазіцыі абсаджаны сваімі людзьмі, нават у СД, і яны бароняць спакой мірнага насельніцтва.

— А які цяпер спакой, крый Божа? — зазначыла (можа, трохі неўпапад) гаспадыня Аксіння, яна час ад часу пакідала застолле па нейкіх дробных клопатах і не ўсё, пра што баялі тут, слухала. — Цяпер жа кожны — у каго стрэльба, той і пане-скуралуп і патрабуе свайго — накармі, адзень! Ноччу будзяць...

— І наша Манька баіцца, што вернецца той кавалярысты Ганс, які начаваў у нас, і забярэ яе ў Германію, — Ганна абняла рукой і прытуліла да сябе дачку. — Я супакойваю... Можа, ён ужо дзе галавой налажыў.

— Мар'я, — Барыс момант чэпка глядзеў на дзяўчынку, пэўна, шукаючы, што ж у яе дробнай паставе і ліку такога, што ўпадабаў чужынец: — Не бойся немца, цурка, бо я сам каторы год немец.

Жарт, а ў ім была і доля праўды, зняў напружанне за сталом, якое склалася ад роспавяду Барыса.

— Тата, а чаму ты ездзіў у Баранавічы? — нечакана спыталася Маня.

— Хм, — заціснуўшы ў кулак выгалены падбародак, Барыс са значэннем паглядзеў на дарослых сваіх слухачоў. — Гэтым пытаннем, скажу вам, шаноўныя, не ў малако, а проста ў дзясятку Маня патрапіла!

І — да Мані:

— Бачыш, дачушка — маміна птушка, у тыя гады, калі не было вайны, а ты яшчэ пеша пад стол хадзіла і адтуль

лавіла размовы дарослых, я працаваў у спулдзельні і намагаўся зрабіць што-нішто карыснае для свайго кутка, для Моталя і маталян. Не адразу, але да мяне прыйшло ўсведамленне: свайму кутку не паможаш, калі нічога не зробіш для тых астатніх абшараў, для Бацькаўшчыны. Асабліва цяпер... Адсюль і мой інтарэс: што робіцца ў такіх гарадах, як Баранавічы, Ліда, Менск... Чым я людзям магу быць карысным? Або яны — мне?

— Вырас Барыс, пасталеў...

— Мне, дарэчы, прапанавалі вярнуцца на Бацькаўшчыну. Застаўшыся з Гадлеўскім адны, мы больш дэталёва абмяркавалі абставіны, — тлумачыў Барыс. — У Беларускіх акругах сапраўды не хапае сваіх патрыятычных або нацыянальных дзеячаў. За апошняе дзесяцігоддзе польская дыфензіва і ўрад знішчылі многіх, знішчылі ўсё арганізаванае і свядомае беларускае жыццё. А савецкае, з дазволу сказаць, вызваленне Заходняй Беларусі, як вы ўжо ведаеце, дабіла такіх людзей, як Тарашкевіч, Скірмунт або хоць бы наш Андрэй Райкевіч. Таксама і ва Усходняй Беларусі. Там дашчэнту вынішчана нацыянальная частка грамадства, не сакрэт. У выніку на месцы застаўся запалоханы, мала адукаваны, мала свядомы, мала спрактыкаваны, а таму і пасіўны народ, які, на першы погляд, толькі і здольны на тое, каб араць зямлю ды даглядаць жывёлу. Ксёндз казаў, што маючы гэта на ўвазе, Вільгельм Кубэ назваў Беларусь не больш як імглістым геаграфічным паняццем.

— Некаторых дзеячаў, — доўжыў свой даклад Барыс, — вайна застала за мяжой, і яны адтуль сцягваюцца. З Прагі — Ермачэнка, з Варшавы — доктар Шчорс, аднекуль, ці не з Лодзі — Астроўскі, з Вільна багата хто, у тым ліку Іваноўскі, Станкевіч, Малецкі, Арсеннева... Ды толькі вы іх не ведаеце...

— Чаму ж... Пра Вацлава Іваноўскага я калісь чытаў у «Нашай ніве». Ён яшчэ ў 1902 годзе ў Пецярбургу пачаў збіраць патрыётаў і ладзіць беларускі нацыянальны рух, дамагацца прызнання царызмам беларускай мовы. Яго, пэўна, добра ведаў Раман Скірмунт.

— Вядома, калі разам яны пачыналі... Але яшчэ за месяц да нападу немцаў на Савецкі Саюз доктар Ермачэнка нібыта ўгаварыў Васіля Захарку, лідэра БНР, які жыве ў Празе, падпісаць складзены ім для Гітлера мемарыял, у якім утрымлівалася просьба прыняць пад увагу беларус-

кае пытанне пры маючым адбыцца разгроме і расчляненні СССР. Не вядома, ці дайшоў той іх мемарыял да Гітлера, але ж Ермачэнка ўзначаліў за гаўляйтэрам Кубэ беларускае кіраўніцтва.

Яшчэ колькі слоў... Ёсць нехта Фабіян Акінчыц. Ён разбудоўваў у Вільні Беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю, дарэчы, ужо ліквідаваную Гітлерам. Цяпер гэты шэльма школіць жаўтаротых нацыстаў пад Берлінам. Ён вярбуе іх з ліку савецкіх беларускіх ваяроў, што трапілі ў палон да немцаў. Выхаванцы Акінчыца пасля асядаюць у акупацыйных аддзелах прапаганды, у Саюзе Моладзі і СД. У сляпой, можна сказаць, безагляднай услужлівасці гэтага дуру, асабліва ў нацысцкім фанатызме іх шэфа Акінчыца, айцец Гадлеўскі бачыць вялікую шкоду беларускаму нацыянальнаму руху. Ён прасіў мяне не дапускаць яго ўплыву на асяродак самапомачы ў Прусіі. Увогуле, што робіцца, нават мне з ягоных слоў цяжка ўявіць. Некаторыя дзеячы, як Шчорс, пераканаўшыся, што немцы не дужа ўважаюць на палітычныя і нацыянальныя інтарэсы беларусаў, адмаўляюцца ад занятага імі на радзіме становішча ды вяртаюцца ў цішэйшыя заходнія акругі. Гадлеўскі ў абяцанках гітлераўцаў таксама расчараваны...

— Барыс, — заўважыла Ганна, — а ты ж пра сваё вяртанне не дасказаў.

— А-а, дык ойча Вінцук на той сваёй прапанове не надта ўжо і настойваў, бо зразумеў мае довады: што я адзін, без свайго хаўрусу? За колькі дзён да вайны нямецкія ўлады забаранілі беларускім, украінскім, рускім і каўказскім эмігрантам вяртацца з Германіі на радзіму. Гадлеўскі адно прасіў: інфармаваць грамаду, гэта значыць сяброў Самапомачы, якія задачы стаяць перад беларусамі, і што робіцца. Іх вопыт жыцця і працы за мяжой, казаў, можа неўзабаве спатрэбіцца пры адбудове собскай дзяржавы. Яшчэ прасілі мяне прыдбаць перавязачных матэрыялаў для баранавіцкага шпіталя...

Манін дзед, слухаючы сына Барыса, сіліўся штось зразумець, а яно ўсё не ішло ў голаў, не давалася і ён злёгку хмурыў свае сіваватыя бровы і цёр у пальцах вусы. Адно позірк цёмных вачэй запальваўся і рабіўся вострым, калі стары глядзеў на апавядальніка і нават кудысьці далей — за яго — у няведамае...

Нарэшце, пасля хвіліны маўчання і звычнага бразгання сям'і відэльцамі і лыжкамі аб талеркі, ён здзівіў усіх тым, што спытаўся:

— Барыс а Барыс, я казаў ужо тут пра дух, якім поўніцца раман «Война и мир» Талстога. Ёсць за што паважаць рускі народ, але ж... Ці даводзілася табе чуць у Нямеччыне песню, якую я чуў па радыё, як толькі з Савецкім Саюзам вайна пачалася. Калі не памыляюся, называецца яна «Священная война»...

— О-о, так, так, дзедусь: «Священная война»! — падскочыла ў крэсле Маня. — Мы разам каля прыёмніка яе слухалі, пакуль яго ў нас не забралі.

— Я не чуў... — прызнаўся Барыс.

— А мне яна вельмі спадабалася! — твар Мані захапляў выяўленай на ім непасрэднасцю, радасцю ды лагодай, яна прапела нягучна, тонкім сваім і ломкім ад хвалявання галаском:

Вставай, страна огромная,
Вставай на смертный бой!
С фашистской силой темною,
С прокля-а-тою ордой!

Пусть ярость благородная
Вскипает, как волна,
Идет война народная,
Священная война-а...

— Мар'я наогул любіць савецкія песні, асабліва «Кацюшу», — здаволена зазначыла Ганна. — Цяпер яна ў царкоўных спевах цягне альтам.

Барыс не ўцяміў адно, з якой такой нагоды ягоны бацька спытаў пра песню аб гэтай крывавжэрнай вайне і таму, пераводзячы зацікаўлены позірк з яго, на дачку, на жонку, затым зноў на бацьку, чакаў тлумачэння.

— Варта б паслухаць... — Пятро пагладжваў кончыкамі пальцаў шырокія, амаль да макушкі залысіны; на адкрытым ілбе старога, заўсёды спакойным, цярплівым, варушыліся паскі лёгкіх зморшчынак, а вочы зноў жа — бы вугалькі: — Варта б паслухаць... О, як гэта гучыць ў хоры, у суправаджэнні ваеннага аркестра. Госпадзі, Божа! Гэтакае зусім нечаканае ўзвіжанне з гукаў. Узнятая да непамысных вяршынь і шырокая, вольная, бытта сама стыхія, адмысловая плынь. Калі было... Я, праўда, ужо і забыў на тое дзівоснае ўражанне. Клопаты не тое выб'юць з

душы... Але ж песня зноў прыгадалася, калі я ўзяў у рукі раман «Война и мир», уяўляеце, тое ж разгарненне падзей, веліч, нескаронасць духу. Гімн!

— Барыс, слухай далей, — доўжыў ланцужок сваіх выпакутаваных разважанняў гаспадар Пятро. — Мы тут без цябе калаціліся ад страху за сваё жыццё і сваю гаспадарку. Той лад — не што іншае як гвалт над чалавекам, і мы клялі камуна-жыдоўскую забаўку, злосную, вынішчальную, ліха на яе! Клялі, бо на свае вочы пераканаліся, што гэта такое. Там тысячы і тысячы людзей пухлі і, напэўна, пухнуць з голаду, а не, дык вынішчаюцца без усялякай патрэбы і ўсялякай віны. Ты зразумеў гэта, урэшце... Усё правільна, сынку. Але ж мы чагось не ўлічылі, бо гэтакая песня, мусібыць, мае нейкі падмурак. За ёй пэўны чуццёвы лад. Толькі ж тое, чаго мы не ўлічылі, раней, пэўна, было ўласціва і табе, камуністу, ды вось і Мар'ю знячэўку захапіла. Яно там, дзе фронт, аж бурапеніць... А што гэта — цяжка спасцігнуць. І хто скажа, адкуль вырасла?

— Пра гэта можна думаць багата, — слушна зазначыў Барыс.

— Так, сынку... Толькі ж я пра песню — так, між іншым... Уважаючы на твой расказ пра Баранавічы ды высілкі руплівых, гожых, адчайных сыноў Беларусі, скажу: што б яны ні рабілі, і ты разам з імі, чаго б ні дамагаліся ад немца, а гэта не зменіць трагічнага наканавання для нашага народа. Пры любым зыходзе вайны. Хіба не?. Каб зноў зазелянела і пайшло ў рост генеалагічнае дрэва нашай Бацькаўшчыны, патрэбны сокі, а іх з нашай добрай глебы амаль усе высмакталі, дый на дрэве тым вецце паабразалі. Карані ёсць, але... Самі па сабе яны ніц не вырашаюць. Мы не гітлераўцы, не пярэваратні арыйскія. Гітлер увогуле — не садоўнік, а Сталін і пагатоў. Яны, як сапраўдныя д'яблы, распалілі на жывародных абшарах Еўропы сусветную вайну. Ураган з агню і металу не першы год бушуе. Сіла салому ламае, і жыццё чалавечае нічога не варта. А мы спадзяемся на нямецкі дах над галавой. Шчаслівы, хто ўверыўся ў гэта!

— То і без веры ж, тата, цяжка, таксама. Кажуць, калі хто топіцца — за саломінку ўхопіцца.

— І гэта праўда...

З вячэрай управіліся, але толькі гутарка не спатоліла нікому шчымлівай душы. Маладзіцы прыбіралі са стала. У хаце аціхла.

— А Паўлюка аж дагэтуль няма, — нагадаў Барыс бацьку.

— Няма... Такая ўжо выйшла прыгода, — сказаў Пятро са шкадобай. — Ну не паладзіў, ну пасварыўся з Зосяй... Няхай і так. Дык умей жа сабой кіраваць. Прааналізуй думкі, сунімі пачуцці. Кожын з нас можа памыляцца. Скажы... Таму і прымаўка ёсць: «Не давярай жонцы дома, кабыле — у дарозе, а сабе — нідзе!» Чуеш?..

— Чую, тата.

— Самы мондры чалавек не дабярэ таго, што народ мае выказаць.

## 8

Вестку аб ганьбе нямецкіх ваяроў пад Масквой прынёс у дом Пісарчукоў брат Ганны і Зосі — Манін дзядзька Павел Міхові ч, празваны Антошкам, зграбны, светлы з твару і па-дзявочы ахайны чалавек. Ён усунуўся ў пройму дзвярэй разам з клубамі марознай пары ці інею і, шчоўкнуўшы клямкай, прывітаўся бадзёра, з напевам:

— Нех бэндзе пахвалёны, каўнер сівы, нос чырвоны!

— Праходзь, браце...

— Ці жывы, ці дужы на гэтакай сцюжы?

— Хвала Богу! А як вы?..

Гаспадар Пятро сёк, рэзаў, мяў секачом гарачую бульбу ў невысокім цабэрку — харч для парсюка; Аксіння тым часам пынілася каля печы, як што там між дроў церабілася полымя, — грэла ў чыгунах ваду на ранішняе пойла карове.

— А мы навіною жывем! — загадкава прамовіў Павел.

— Як?.. Што такое? — Пісарчук пакінуў сякач у бульбе, расправіў плечы, на якіх ляжала аўчынная душагрэйка, і знерухомеў, узіраючыся ў сваяка.

— Немцам далі ў каршэнь, адкінулі іх ад Масквы. Саветы перайшлі ў наступленне!

На які момант усталявалася цішыня; яны глядзелі адзін на аднаго ўнікліва, выпрабавальна, і Аксіння замерла.

— Эге-е, ліха матары, — Пятро ўсміхнуўся, ды неяк нерашуча і нясмела, мо толькі каб падтрымаць настрой сваяка: — Цяжка ўявіць... Зрэшты ўсё ў волі Божай! Дык, кажаш, нарэшце, спынілі і пагналі чужых ваяроў?

— Так... Якраз у той момант, як гітлераўцы сіліліся ўзяць Маскву ў клешчы.

— Маці родная! Каб у гэтакія маразы ды біцца, ды ваяваць. Вой-я-ёй! — падала ўтрапёны голас Аксіння.

— Толькі ж гэтага мо і варта было чакаць, — гаспадар выказваўся спакойна, стрымана, дармо што ў душы сваёй адчуў хваляванне, якое льга было б параўнаць з тым, што можа зведаць, адчуць чалавек, калі зямля ў яго пад нагамі раптам ціха пойдзе або здрыганецца ад нейкага, няхай сабе і далёкага землятрусу. Такое ўражанне ад прынесенай сваяком навіны...

Падзея заклікала ўважаць яе за чынны знак, за Божы перст і таму, згадаўшы свае размовы з сынам Барысам і перасабліва ягоную палкую прамову ў царкве, Пятро перахрысціўся, просячы Усявышняга ў думках: «Божа, не абыдзі нас сваёй мілатой, міласэрнасцю!»

Адно ў гэты момант з сянец, як не за адным скрыпам уваліліся ў хату, атрасаючы з валёнак снег, свае: Паўлюк і Зося, за імі — Маня... Яна з вядзёркам, у якім пахіствалася малако — яго, праўда, было не столькі, як раней, а паўстолькі, бо іх карова запускалася. Ранні Паўлюк нёс на руках бярэмя дроў для сваёй грубкі, а Зося пустую кадушку, у якой мелася замачыць бялізну ў шчолаку (вару з попелам) для далейшага мыцця.

Усе прывіталіся са сваяком Паўлам, выказваючы сваю радасць і здзіўленне, як што ён неспадзеўкі з такога заімглёнага ранку з'явіўся. Паўлюк, Зосін муж, прайшоў у свой сумежны пакой, апрастаў рукі ад дроў і тут жа вярнуўся на кухню.

— Нешта вы — як слупы сярод хаты — стаіце! — сказаў ён, пераводзячы позірк са сваяка Паўла на бацьку і маці: — Што-небудзь здарылася?

— Ну так... Немцы зубы абламалі аб Маскву!

— Жартуеш, Антошка?

— Якія тут жарты!

— А то ж плявузгалі, што яны ўжо ў Маскве. Не?.. А ты пра гэта адкуль ведаеш?

— Сарока з Савінфармбюро прынесла. А там маніць не будуць.

Ніхто больш не стаў дапытвацца ў Паўла, хто яму перадаў такую сенсацыйную вестку — не было тае патрэбы, як што ўсе ведалі, што, хоць ён фармальна і не быў у камсамоле, але вадзіў дружбу з камсамольцамі, а тыя мелі доступ да прыхаванага недзе радыёпрыёмніка.

— Я нават не вем, плакаць або радавацца, — на твары ў Паўлюка зайграла бянтэжліва-аблудная ўсмешка. — Надта ж умелі крамлёўскія нехрысцi бэсцiць людзей i людзяныя радасцi мяшаць з магiльным пяском. Няхай цяпер парадуюцца за Маскву закутыя ў кайданы Салаўкi, Калыма ды Сiбiр!

— Народ перад дзяржаўнай аблудай бяссiльны, i было шмат ахвяр, — слушна зазначыў Антошка. — А нацысты, братка, нясуць вынiшчэнне не толькi палiтычнай сiстэме, але i народу.

— Скуль табе, Павел, ведаць, што яны нясуць? — не пагадзiўся са шваграм Паўлюк. — Растлумач лепей, што i якое чуў пра падзеi.

Павел Антошка давёў яшчэ раз пра жорсткiя бai пад Масквой на шырокiм фронце ў некалькi соцень кiламетраў i пераходзе Чырвонай Армii ў контрнаступленне. Асада Масквы, можна сказаць, знята.

Гаспадар Пятро па-новаму ўзяў у рукi сякач, але доўжыць працу не стаў i, калi сваяк скончыў дакладваць пра весцi Савiнфармбюро, зазначыў са скрухай у голасе:

— Зноў там, у сечы вялiкай, палеглi сотнi тысяч байцоў, удзельнiкаў свяшчэннай, айчыннай, народнай вайны. Га? — ён паглядзеў на Маню. — На белым снезе баль сатана правiць. Чырвоная кроў бурлiць, параненыя корчацца ў муках, замярзаюць. Жахлiва! Але Бог, напэўна, жыве ў свядомасцi рускiх.

— Вой! — усклiкнула Зося: — Гэта ж там усё ў грымотах змяшалася! Каб тута такое — уявiць няможна! А там... вочы не бачаць, то i душа не балiць!

— Табе не балiць, — зазначыў Павел сястры, — мала што... А туды, на ўсход, усцяж Расеi — крывавае зацьменне.

— I за што людзi б'юцца, за што пакутуе, гiбее i гiне народ? Цьфу! — Пятро зноў пачаў секчы бульбу.

Маня шырокiмi вачыма назiрала за ўсёй гэтай сцэнай; яна не магла нiкому нiчога сказаць, але ж адчула на сэрцайку хваляванне, якое ёй, мусiбыць, перадалося ад дарослых, ад дзеда, i сведчыла пра велiч i важнасць, пра нiкчэмнасць i ганьбу тых чарговых падзей у сечы, як дзед казаў, што вiравала чалавечай крывёй за тысячу вёрст адсюль.

Баба Аксiння забрала ў яе з рух вядзерца з малаком, каб працадзiць i пералiць у глiняныя збанкi.

Удзячная Маня жыва зняла з сябе кажушок, дастала ногi з валёнак, сунула iх у пантофлi ды кульмiгам на сваю

палавіну, да маці, якая, бавячыся з Волькай, гатавала на сваёй малой кухні сняданак.

— Мама-мам! Там дзядзька Павел... Ды ён такую вестку прынёс! — І яна пачала пераказваць, што чула.

Ганна выйшла, каб прывітацца з братам, і неўзабаве вярнулася да Мані.

— А я не люблю пра вайну слухаць, — сказала яна. — Няхай на яе ліха! Мне здаецца, на зямлі пануюць не людзі, а нелюдзі. Сярод іх Бога няма, а вышэй там — не ведаю.

Маня ўпершыню пачула ад маці яе нараканне на людзей і на Бога разам; мусіць, яна мела падставы — у невыносных варунках жыцця выпакутавала тое асабістае права, каб сказаць гэткія, поўныя горычы словы.

Маня бачыла, які сум стаяў у яе вачах, калі яна зноў выпраўляла Барыса, свайго мужа, у дарогу. Мусіць, маці лічыла сябе і сваю сям'ю абыдзенымі дабраслаўным чалавечым лёсам.

Тым не менш, жыццё бытта падказвала ёй і ўвогуле чалавечай асобе добрае выйсце: радавацца таму, што ёсць, прымаць светлы дзень за вялікі дарунак Гасподні ды прымнажаць шчырай працай набыткі ў сваёй сядзібе і сваёй прыгорклай душы.

Менавіта гэты немудрагелісты прынцып, а на ім, відавочна, фарміравалася жыццястойкасць, і засвоіла Маня, беручы таксама прыклад з маці і дзеда і кожнага ў іхняй вялікай радзіне, што месцілася пад дахам у Пятра Пісарчука.

Адданым і настарчывым у працы быў дзядзька Паўлюк. Ён, безумоўна, жыў працай і ўцехай сямейнай, як маладзён, ды меў жывы нораў, надзелены гумарыстычнымі паскамі, які выяўляўся ва ўнікліва-вясёлым прыжмуры вачэй і адметных ямачках пры самых кончыках губ, правільных, крыху насмешлівых і датклівых. Такі разнявола-прыязны характар дазваляў яму ўсё, за што чалавеча ні браўся, рабіць лёгка, бытта без высілкаў, без натугі.

У працы сялянскай яму не ўступала і ягоная жонка Зося, яна асабліва любіла палявыя работы: жаць збажыну, браць лён, капаць бульбу, варочаць сена на сенажаці, як і збіраць грыбы, ягады ў лесе. Там быў водар і воля душы. Там, працуючы, яна адначасова і адпачывала, набіралася новай энергіі, і яе маладое цела не ведала стомы. А дома ж, на гаспадарцы, у сядзібе, нудзілася, хоць рабіла ўсё таксама. Але, калі адкрывалася магчымасць пайсці або па-

ехаць у поле і стаяла пытанне: каму ехаць, ёй або яе сястры Ганне, — Зося не лічыла за ганьбу паспрачацца і нават пасварыцца за працу ў полі. Наогул ёй здавалася, што Ганна як жонка старэйшага сына карыстаецца ў Пісарчукоў большай пашанай і ўвагай, чым яна, і гэта выклікала ў яе душы неспакой, пратэст, рэўнасць, што поўніла яе і што можна было параўнаць з узрыўным рэчывам, якое да пары да часу чакае моманту, штуршка, каб выбухнуць.

Зосі, на думку Мані, каб быць прылежнай маладзіцай, не ставала Ганнінай лагоды і вытрымкі, сціпласці і, магчыма, сумлення, якое мела яе маці Ганна.

У сясцёр Зосі і Ганны, дарэчы, было шмат знешняга падабенства між сабой, як і ў Мані — з імі. Ва ўсіх — адкрыты і гладкі лоб і цёмныя, акуратна прычасаныя на левы прабор валасы. Пад ілбом дужкі броваў уразлёт і зыркія вочы. Насы таксма ж без усялякіх адхіленняў, заган, суразмерныя, правільныя, хоць выстаўляй напаказ. А вось падбародак у Зосі ўжо свой, ён шырэйшы ад астатніх, і адсюль — больш поўны і мяккі авал яе твару. Але ж самае адметнае тут, бадай, Зосін рот, менавіта рот прыдаваў маладзіцы свае непаўторныя рысы, як, зрэшты, і прывабнасць. Дык от рот меў быць шырокім, прыгожым і ўжо, калі ёй рабілася весела і яна шырока ўсміхалася, рагатала, рот зіхцеў белым-бела.

Зося — асоба адкрытая і мала таго, што ўмела заўзята працаваць, яна, бадай, той жа імпэт свой праяўляла і на зборнях, на пагулянках, дзе ёй нічога не абыходзіла заспяваць, кінуцца ў скокі, закружыцца самой, закружыць іншых. А суседкі любілі Зосю яшчэ і за тое, што яна шчодра частавала іх мёдам.

Дзядзька Паўлюк, дарма што меў сілу, энергію таксама не абы якую, не скрозь паспяваў за жонкай, дый часам не было як, бо, выпраўляючыся да сяброўак, яна пакідала пад яго бацькоўскае апекаванне малых дзяцей.

Жонка мела поспех у мотальскім атачэнні, у хеўры, якой не цуралася таксама і іх бойкая суседка Германка. Пры ўсім тым Зося, несумненна, рабіла ўражанне на мужчын, і Паўлюк міжволі заўважаў на сваёй жонцы чужыя клейкія позіркі. Гэта пачынала яго непакоіць і вяло да ўзаемных папрокаў і сварак у сям'і, якія папераменна то затухалі, то узнаўляліся.

Такім чынам, нягледзечы на вайну дзяржаў, жыццё ў доме Пятра Пісарчука ішло сваім ходам, часам ломкім,

няўстойлівым, але трымалася-такі ў сваіх берагах. Як і ў іншых мястэчковых сядзібах, тут пераадольвалі зімовую сцюжу, завеі, страх ад з'яўлення нязваных гасцей з таго ці іншага боку. Жыццё ішло звычайнай працоўнай ступой, не цураючыся сваіх пракаветных традыцый ды звычаяў. Знешне ўсё, здаецца, захоўвалася. Адно парушала чынны лад і псіхічны спакой — арышты, расстрэлы... Раней — яўрэяў. Цяпер — камуністаў ды ўсіх, хто з імі, праўда, і да гэтага большасць жыхароў прывыкала.

Маня Раманавічанка ў тую снежную зіму ўжо бытта ўвайшла ў становішча дарослай у сваёй сям'і, хаця ёй не было нават поўных дванаццаці. Такому яе самаўсведамленню нямала спрыяла тая акалічнасць, што ў Мотале зачынілі школу і яна перастала быць вучаніцай. Праўда, школу перш, чым закрыць, урачыста адкрылі (пры ўдзеле каменданта паліцыі). Ненадоўга — паколькі на заняткі прыйшла жменька з яе класа ўсяго пяць кіндэраў, як яны, жартуючы, самі сябе называлі. Пяць, прычым, разам з Маняй была і яе сяброўка Марыя Васілевічанка. Ім, выдатніцам, карцела вучыцца далей, каб не зачахла і давала расточкі дзівоснае семечка ведаў. Ім здавалася, што ў шкаленні дзеля поспеху справы можна нават прынаравіцца і да ўкраінскай мовы, балазе іх паляшуцкая гаворка мае шмат агульнага з ёй. Але ж урокі паказалі, што перавучвацца цяжка, асабліва па матэматыцы, дзе былі свае адмысловыя найменні, назовы... Напэўна, з-за мовы і не пайшлі многія вучні ў школу. А яшчэ больш верагодна — з-за прынцыпа, з-за непрыймання чужых варункаў жыцця, чаго дамагалася былая дырэктар школы Вольга Міронава і што даводзілі падпольшчыкі жыхарам мястэчка. Дзеці, і не столькі дзеці, колькі іх бацькі, баяліся тае ласкі ад новых гаспадароў, непрадказальных і жорсткіх, якія за аднаго забітага немца дэкляравалі расстрэльваць да ста мірных жыхароў. Яны баяліся, што немцы наладжваюць шкаленне дзяцей, каб забраць іх потым у Германію.

Толькі ж тыдзень і пахадзіла Маня ў школу да яе закрыцця. А далей пачала лагодзіць сваё жыццё дома, дапамагала больш, чым раней, маці рупіцца ў сядзібе, а часам і дзеду — віць вяроўкі, як той казаў.

З гэтага часу яна ўсё больш асэнсоўвала сямейнае жыццё, дакранаючыся сэрцам і розумам да тых ці іншых праяў у характары блізкіх ёй людзей, дзеда і бабы, маці, Паўлюка і Зосі. У летуценнях малявалася ёй і сваё асабістае

шчасце, а дакладней, каханне, калі яна вылюднее, калі выспее ў нявесту. І ў хвіліну такіх патаемных подумак, згадак ці мрояў побач з ёй як бачыш паўставаў гімназіст Янка Кульбеда. Ён стане, бадай, не проста знаёмым, а адданым ёй сябрам, паклоннікам і абаронцам у жыцці. У іх будзе свой дом або хоць бы шалаш на выпадак слоты, і там заўсёды будзе стаяць гаркаваты пах вербалозу і лісця бярэзіны, як у зарасніках блізу дзедавай пасекі. І яны будуць услухоўвацца ў прыглушанае і мяккае гудзенне пчол у вуллях і над вуллямі, у паветры, настоеным на цвіценні кветак. Ужо не дзед, а Янка ачоліць пасеку і, заглядваючы ў той ці іншы вулей, будзе прасіць Маню, каб яна падкінула парахні ў дымар.

Уласна, Маня, калі на тое, і не пажадала б сабе лепшых адносін з Янкам, чым склаліся яны ў яе дзеда Пятра з бабай Аксінняй замаладa. Яна намагалася ўявіць, якімі ж былі, як выглядалі дзед і бала ў яе ўзросце і потым, калі ўзялі шлюб, але ўяўленне не падавала выразнымі іх абліччы. Абодвум тады было па семнаццаць год. А бацькі іх жылі небагата, хоць і мелі надзелы зямлі. Таму яны самі, Пятро і Аксіння, песцілі сваё шчасце і ўзбіваліся на сваю гаспадарку.

Прыгадваючы Янку, Маня адчувала нейкі свежы і дзівосны подых ля сэрца ці ў самім ім — не ведала. Яна чакала хлопца, як чакаюць узыходу сонейка, каб паглядзець на яго і адчуць целам, скурай сваёй дотык такіх даўгіх ружовых і на пачатку ледзь-ледзь цеплаватых промняў.

Аднак, можа таму, што Янка не быў сонцам, Маня яго рэдка бачыла...

Ён прыйшоў пад Новы год, калі дзед умацоўваў прывезеную з лесу елку. Прыяючы гэтаму дому, Янка памог Мані развешваць на зялёныя галінкі цацкі, якія дзед дастаў са схованў. Прыйшлі Маніны школьныя сяброўкі: Марыя, Таня і Тэкля... Марыя Васілевічанка цяпер часта бывала ў іх, як што разам з Маняй яны коўзаліся на возеры, пакрытым лёдам, хадзілі на зборні, на попрадкі, дзе пралі кудзелю і часам ладзілі гэта — пралі, вышывалі — у доме ў Пісарчукоў. Між іншым, Марыя Васілевічанка мела таксама нейкія сваяцкія адносіны да іхняй сям'і. Дый то сказаць, яе маці Аўдоцця была разам з Пісарчукамі ў Самары ў тую, у першую вайну з немцамі, а Сямён, яе бацька, разам з Паўлюком Рамановічам, Маніным дзядзькам, за

польскім часам служыў у эскадроне кавалерыі ў Гданьску. То вунь сколькі сумесных дотыкаў ды варункаў жыцця!

Гаспадыня Аксіння неўзабаве прынесла і паставіла ў сталовай на стол пыхкаючы жарам самавар; дзед Пятро агледзеў елку і, ухваліўшы іх старанне па яе ўпрыгожванні, запрасіў юную купку да стала, на чай з мёдам.

Размова спачатку памкнулася да высвятлення ўмоў захавання пчаліных сем'яў пры вялікіх маразах ды спосабаў уцяплення вулляў, што цікавіла Янку; затым Марыя і Маня, смеючыся, пачалі прыгадваць і расказваць Янку і дзеду вясёлыя і сумныя гісторыі з тых апошніх урокаў у школе. Уражваў іх новы дырэктар, азадачаны, разгублены і мітуслівы пан Няўстроеў. Ён бегаў раз-пораз па пустых класах, нямых і, бадай, здзеклівых у сваёй немаце, увальваўся ў іхні клас, таксама знямелы, і, палохаючы вучняў вырачанымі круглымі вачыма, пытаўся:

— Дзе вашы равеснікі?

Пры гэтым ён аздабліваў польскія словы ўкраінскімі так, што нават цяжка было перадаць яго стракатую мову, а разумець усе разумелі:

— Дзе вашы равеснікі?.. Я ведаю, што гэта змова, гэта чынны байкот асветніцкай місіі і добрай волі акупацыйных улад. А за гэта нямецкія ўлады па галоўцы нікога не пагладзяць! Далібог... Я прашу вас, перадайце ўсім, хто не ходзіць у школу: невукам у Трэцім рэйху будзе капут!

І вось апошнія моцныя словы фашыстоўскага служкі леглі на язык вучням і неўзабаве ў іхнім асяроддзі сталі крылатымі. Але колькасць вучняў у школе ад тых слоў не павялічылася.

Сітуацыя, згаданая імі цяпер, моцна смяшыла дзяўчат. Янку таксама... Нават дзед пасміхаўся ў вусы.

А ў наступны раз Маня сустрэла Янку зусім нечакана.

У калядны вечар, як заўжды ў іхняй сям'і, быў святочны і ўрачысты настрой. Гаспадыні, прыкладваючы ўсё сваё ўменне, нагатавалі багата чаго, у тым ліку грэцкіх бліноў, тоўстых і мяккіх, да якіх пасавала любая шкварка; зрабілі мачанку, ды з надранай бульбы варэнікаў з мясам. Спецыяльна для каляд назапасілі пірагоў, каўбас, мёду ў сотах.

Вечарам, калі каляднікі штораз хадзілі купкамі пад вокнамі і спявалі, у абавязак Мані ўваходзіла выносіць ім свае шчадроты, дарыць скаромнае. А дом Пісарчукоў, дом, заможны з былых часоў, мала хто абмінаў.

І на гэты раз Пісарчукі, усёй заміранай радзінай сабраўшыся ў сталовай, слухалі-ўслухоўваліся ў калядныя песні, і на ўсіх находзіла нейкае своеасаблівае ўтрапенне.

Прыехала каляда на белым кані,
Яе конічак — ясны месячык...

А то яшчэ:

Папытаўся дзедка ў бабкі:
«А ці скора ў нас калядкі?»
— Ты калядак не пытайся,
Ды к калядкам сабірайся...

Асабліва часта Маня слухала песні пра казу або казла, якога вадзілі ад сядзібы да сядзібы ды часам, са згоды гаспадароў, патраплялі разам з ім у хату.

Гаспадынячка,
Мая вішанька,
Запалі свечачку,
Пайдзі ў клетачку...
Нашаму козліку
Нямнога трэба:
Сем печ перапеч
І бочка жыта,
Каб каза была сыта.
Дзе каза рогам —
Там жыта стогам.
Дзе каза хвастом —
Там жыта кустом.
Дзе каза нагою —
Там жыта капою
Бе-э-е-е.. Шчодры вечар! Добры вечар!

Маня дзякавала за добрыя песні і, перадаючы на гэты раз пірагі з макам ды кавалачкі дамашняй каўбасы з цёплымі блінамі, па голасе ўгадала пад маскай казла (у вывернутым кажушку) Янку Кульбеду. На яе прымаўку «Чым хата багата...», ён адказаў: «Дзякуй, спадарыня, а невукам у Трэцім рэйху ўсё адно будзе капут!»

Ягоная хеўра, што таілася таксама пад маскамі, узарвалася рогатам, і ад узрушэння Маню як кіпенем абдало. Яна потым яшчэ доўга насіла радасць у душы ад гэтага вясёлага і шчодрага светлага-прасветлага моманту.

У бабінай каровы падчас каляд акурат нарадзілася цялё — такі рахманы бычок, які пукаціў на ўсё і на ўсіх свае здзіўленыя вочы, вільготныя, бы бурбулкі, поўныя і прыгожыя. А начамі па-ранейшаму трашчалі маразы, і, каб засцерагчы жывую істоту ад халадэчы, бычка пасялілі часова на кухні, ад чаго малыя дзеці, дый Маня, былі проста ў захапленні.

І гэтак у сядзібе да часу пульсавала жыццё. У зацішку, як у Хрыста за пазухай, яно па-ранейшаму мела набірацца новых сіл і энергіі, і гаспадарка трымалася, уросшы каранямі ў зямлю. Толькі ж у свеце шырокім адбывалася штосьці такое, што ні вызначыць, ні вытлумачыць нікому няможна было. У выніку і сам гаспадар Пісарчук і ўся ягоная сядзіба пацярпелі вялікую няўдачу. У марозную ноч нейкі злы дух або вылюдак адчыніў на пасецы мурню, дзе перахоўваліся рамачныя вуллі з пчоламі, і ўсе сем'і вымерзлі. Пятро як паглядзеў на гэты могільнік, у яго ледзьве душа не заледзянела. Адчаем і роспаччу абярнулася страта пчалінай гаспадаркі. Моцна перажывала за пчол і за самога Пятра ўся яго радзіна. Маня бачыла дзеда змарнелым, прыгнечаным і, забіўшыся ў свой куток, плакала. А ён з горыччу думаў, што для свету ягоная гаспадарчая страта, бадай, нічога не значыць, хоць і паменшала пчол на зямлі. А вось для ягонай сядзібы страта пчол і мёду раўназначна паражэнню, якое атрымаў Гітлер на фронце пад Масквой. Зрэшты, глупства лезе ў галаў, і так і гэтак прыкідваў Пятро... Бо ці можна параўноўваць вялікага ліхадзея, зламысніка Гітлера з ім, селянінам і палічаючым сябе хрысціянінам, няхай і местачковага крапу? Можна! Тым часам падказвала яму нешта, што ішло з падсвядомасці: — Калі разглядаць аднаго і другога ў чыста чалавечых стасунках.

Гаспадар Пятро не апусціў рук пасля гэтакай няўдачы і паціху рупіўся. У той жа час на душы ў яго заставаўся чэзлы асадак ад людскога здзеку і чванства, і ён не ведаў, чаго яшчэ чакаць заўтра ад здзічэлай местачковай супольнасці.

А наступленне, распачатае савецкімі войскамі на варожыя сілы пад Масквой, доўжылася ўсю зіму. Не спынілася яно і бурлівай вясной. Сціснутая пад непамысным прэсам дзяржаўнай ваеннай машыны, спружына спакваля распрамлялася.

## 9

Вясна гэтага года ўжо хадзіла недзе блізка ад Моталя, яна неаднойчы разрывала аблокі і кідала ў прагалы густымі жменямі сонца на дахі хат і хлявоў, на палі і прасёлкі, на гаі, ахутаныя снежнымі гурбамі ды белымі барадамі інею. Снег зверху мякчэў, прасядаў, браўся наледдзю і пад вечар сінеў; са стрэх долу спаўзалі крамяныя ледзяшы серабрыстага або матавага, мутнаватага колеру.

У вячэрняй сінечы, якая ткалася над сядзібамі, адумысна паўзлі ўгору белыя і жаўтлявыя дымы, яны ж улагоджвалі думкі аб супакоі ў Сусвеце, якога, бадай, не было. Ад хвацкага прымаразку, што нахапіўся ўскрай дня, лёгка дыхалася, асабліва калі да настуды ў дварах дамешваўся пах свежага мурожнага сена.

Але ж потым зноў налятала завея і каламуціла белы свет. Дармо, як што кожын ужо ведаў: дні яе лічаныя.

Нямецкая цывільная адміністрацыя прызначыла сялянам, якія мелі зямлю, планы абавязковых паставак прадуктаў харчавання для Трэцяга рэйха, і мотальскі бурмістр Міхаіл Ксёнда запрашаў гаспадароў ва ўправу, дзе ім даводзілі заданне на лета 1942 года. Планы даніны для акупантаў не надта засмучалі сялян, бо яны былі значна ніжэйшыя за абавязковыя пастаўкі прадуктаў харчавання саветам. Ставілася ў абавязак з аднаго гектара ворыва або пашы здаць цэнтнер збожжа, два цэнтнеры бульбы і дваццаць кілаграмаў мяса жывою вагою. За выкананне паставак, зрэшты, прыплочваліся рэйхсмаркі, чым у пэўнай меры ўводзіліся таварныя адносіны. І тыя маркі як слова гонару вяршыцеляў «новага парадку» лагодзілі душу будучых пастаўшчыкоў правізіі.

Схаваўшы ў кішэню выпісаныя на сядзібу паперкі, Пятро Пісарчук выйшаў з управы. На вуліцы стаяла купка мужыкоў у кажухах і тоўстых валёнках. Ад іх даносіліся выразныя возгаласы:

— То няхай бы і заўсёды во гэтак было!

— Мусіць, заўжды лепей было ў Германіі. Таму немец і пачаў з Расеяй вайну, каб вызваліць нас ад калгасаў, пакінуць земляробу зямлю, а сабе агаварыць невялікія падаткі!

— Пачаў то ён пачаў... А хто ведае, чым скончыць?

Гэтыя людзі, былі, пэўна, з малазямельных; ім ужо савецкая ўлада прырэзала зямлі, забраўшы яе ў асаднікаў, і

яны даражылі сваім гаспадарчым становішчам, якое на гэты час абяцала захоўвацца.

Абмінуўшы іх, Пятро пайшоў уздоўж мураванай царкоўнай агароджы, мяркуючы, ці не зазірнуць яму ў Божы храм, дзе айцец Георгій, пэўна, вядзе службу. Але тут блізка яго праехаў на кані, запрэжаным у сані, Сяргей Калінічэнка, той неспасцжымы і дзіўны моталец, які ўвайшоў у свядомасць усіх местачкоўцаў як першы савецкі афіцэр ад гэтай зямлі, капітан, танкіст, што ўзяў адстаўку незадоўга да вайны. Ён набыў вядомасць у мястэчку як дабраахвотны памочнік Мікіты Калільца, малапісьменнага старшыні пасялковага савета, якому даводзіўся яшчэ і сваім па крыві. Прынцыповы, уніклівы, даходзячы ва ўсіх людскіх дачыненнях дабра і справядлівасці, 33-гадовы капітан неўзабаве набыў самы чынны аўтарытэт як сярод службоўцаў савета́, так і ў асяроддзі наведвальнікаў, жыхароў мястэчка дый прылеглых вёсак.

Гаспадар Пятро, праўда, даўно не страчаўся і не размаўляў з капітанам, а калі і даводзілася яго раптам бачыць на вуліцы зводдаль, таварыш Калінічэнка рабіў ураджанне чалавека-ценю, які ў момант растае́ і знікае з вачэй. Толькі ж цяпер ён сам прыпыніў каня і павярнуўся абветраным да чырвані тварам у бок Пісарчука:

— Дзень добры шаноўнаму спадару!

— Ага, дзень добры! Толькі я цябе, міл чалавек, не адразу і прызнаў. Багаты будзеш!

Калінічэнка вылез з саней, распраміўся:

— Да багацця я не сквапны. Усё, што маю, жорам жару і не тлусцею! — кволая ўсмешка затрымалася на ягоным твары, і ён як бы змахнуў яе, правёўшы рукой па трохі запалай шчацэ.

У вачах капітана разам з цікаўнасцю да Пісарчука стаяла штосьці угорклае, прыгнобленае. Ды, бадай, тую ж скруху мог прачытаць таксама і капітан на твары ў гаспадара Пятра. Яны момант вывучалі адзін аднаго.

— Гэтымі днямі я збіраўся зайсці да вас, каб мёду купіць... Нешта сын у мяне прыхварэў.

— То чаму ж не зайшоў?

Таварыш Калінічэнка ўздыхнуў:

— Дачуўся, што з вашымі пчоламі ўтварылі злачынства — вымаразілі. Таму, дзядзька Пятро, я вельмі вам спачуваю...

— Дзякуй. І гэта прыемна пачуць. Цяпер мала хто каму спачувае. От сустрэў аднаго. Глядзіць на мяне, вочы бегаюць... Замест прывітання, пытаецца: «Ну і як цяпер мае жыць пятая калона?» Мне чамусьці падумалася, што ён назваў гэтымі словамі маю загубленую пасеку, а потым дайшло: не, мусіць, тут мелася на ўвазе ўся мая сядзіба, разам з сынам, які прыязджаў з Нямеччыны госцем, дый пасекай...

— Па адметных словах я прыкладна здагадваюся, што гэта быў за нячысцік, — разважліва зазначыў капітан і доўжыў размову: — Калі я, паддаючыся поклічу во гэтай зямлі і, можа, роду свайго, сваяцтва, прыехаў сюды, у Моталь, мяне ўразіла, як тут багата шкурных спраў напладзілася. Цераз прызму савета, дзе ад мяне не рабілі тайнаў, гэта вельмі добра бачылася. Аднойчы мяне зацікавіў трагічны лёс сям'і Андрэя Райкевіча, кіраўніка былога камуністычнага падполля. Ужо надта ж захаплялі водгукі пра яго, нябогу. Усе яго шкадавалі... Чалавек гэты, найначай, быў святы, ён увасабляў сабою ўсё прамяністае сумленне. Не мне вам распавядаць...

— З Андрэем мы сябравалі.

— Тым больш яго ведаеце. Я не ўтрымаўся і зазірнуў аднойчы ў патаемную папачку. А там — такое наваррочана з акцэнтам на «пятую калону»... Уга! Я жахнуўся. Ад такіх людзей, як Дубовіч, паплечнік Плюнгера, варта трымацца далей. Яны заўжды здольны спудлаваць, да таго ж, водзяцца скрозь, бы тыя падкалодныя гады. Клімат для іх, пэўна, дужа спрыяльны. У выніку, далажу вам, паважаючы вас, у арміі тое ж было. Танкавы корпус і брыгада, у якіх я служыў у Дэрбене перад вайной, страцілі амаль усіх сваіх найвопытных і адданых арміі камандзіраў. — Капітан панізіў тэмбр і голас яго прагучаў пранікнёна, запальчыва: — Уявіце сабе, іх не проста звольнілі ў запас, як мяне, іх арыштавалі. За што? Розумам не спасцігнуць!

Гаспадар Пятро напружана слухаў, цямячы: у гэтай размове, напэўна, хаваецца і прычына ягонай, уласна капітана Калінічэнкі, дачаснай адстаўкі, пра што ён раней нікому нічога не распавядаў. І не памыліўся. У наступны момант і гэта вылілася на паверхню.

— Мы, маладзейшыя камандзіры, выхаваныя, вышкаленыя ў духу таварыскасці ды высокай савецкай маралі, паспрабавалі ўжо калі не заступіцца, то хоць бы даведацца што-небудзь пра камандзіра брыгады: за што яго, неба-

раку, замялі? Корпус якраз рыхтаваўся да перадыслакацыі ў Бесарабію... Тады нам усім, хто падпісваўся пад запытам наконт камбрыга Бабурына, і далі адстаўку, а заадно адабралі партыйныя білеты.

Калінічэнка сплюнуў на снег белы, які ляжаў тут, на палескай акупаванай зямлі і быў сведкам ягонай зусім не танкісцкай або камандзірскай хады, а толькі лёгкага слізгання па паверхні, што дастаўляла танкісту нямала пакут. Ён ужо павярнуўся да сваіх саней, мецячы сесці ў іх, а гаспадар Пятро Пісарчук усё яшчэ стаяў, ашаломлены тым, што пачуў. Значыцца, не толькі ён, Пятро, заможны селянін, і не толькі сяляне зазналі пакуты дратавання жыцця за саветамі, дыханне далёкіх ссылак, турэмных засценкаў... Такім жа чынам мардаваліся чалавечыя лёсы і ў арміі, і ў асяродку савецкай інтэлігенцыі... Па ўсёй, верагодна, краіне.

— Пачакай, міл чалавек, — прамовіў Пятро, калі Калінічэнка ўжо быў у санях. — Нешта мы з табой нечакана ўсчалі і нечакана спынілі размову. А ты ж пра сына казаў, мёду хацеў расстарацца.

— То я ўжо ў каго іншага папытаю...

— Не-е, калі ты мне сказаў, то і ў мяне яшчэ пару лыжак знойдзецца.

— Дзякуй, дзядзька Пятро.

— Тады будзеш дзякаваць. А цяпер давай разам пад'едзем на Гару да хаты, — і Пісарчук, прысеўшы, пераваліўся цераз білца саней на сена, якое ляжала на сподзе.

Конь лёгка торгнуў санны вазок і пабег.

— У родзічаў бярэш каня?

— Так, зрэдку... Каб прывезці каму дроў альбо сена... Абрыд я радні як нахлебнік і з голаду паміраць неахвота.

Пад'ехалі да сядзібы...

Аксіння была здзіўлена госцю, пра якога раней амаль штодня пагалоска хадзіла, прадучы нітку ягонага чалавечага гарту, грамадскай рупнасці, дасціпу. Цяпер жа з'яўленне Калінічэнкі ў хаце ўносіла нейкі заварот у думкі Аксінні. Толькі калі Пятро ўлучыў момант і шапнуў ёй, якія ў капітана праблемы, гаспадыня з радасцю кінулася, каб дагадзіць чалавеку. А пакуль што якое, гаспадар прапанаваў таварышу ўслончык, прыселі на кухні і, выглянуўшы са свайго пакоя сюды, прывіталася з заклапочаным госцем дзедава ўнука Маня, пры гэтым, ён паглядзеў на яе стомленым позіркам.

— Сяргей! — дзедаў голас выяўляў рашучую цікаўнасць: — Сяргей ці як цябе лепей?.. Таварыш Калінічэнка? Міл чалавек! Памажы-тка мне думкі развесці, бо яны, бы жалезнае кручча, зачапіліся адна за адну...

— Я ахвотна, — усміхнуўся вачамі капітан, — калі на тое хопіць майго розуму.

— Ты чалавек дасведчаны... Ты чуў, пэўна, не толькі пра палітыку продразвёрсткі, што ёсць рабаванне народа, але і пра масавыя бунты і паўстанні сялян. Камандармам Тухачэўскім і іншымі камандзірамі па ўказанні Леніна, Троцкага знішчаліся цэлыя воласці, руйнаваліся вёскі разам з людзьмі. І гэта не толькі ў Тамбоўскай губерні ці ў Слуцкім павеце, які трохі бліжэй да нас... Па лясной мясцовасці супраць сялян прымянялі атрутныя газы, як на фронце ў Першую сусветную.

Пад капітанам Калінічэнкам зарыпеў табурэт.

— Прабачце, гаспадар Пятро, — сказаў ён. — Пытанне, ці верыць ці не ў тое, пра што вы гаворыце, мы пакінем адкрытым, паколькі я дакладных звестак на гэты конт не маю.

— Тады абыдзем яго, — зманеўраваў Пятро, — і пойдзем далей, бліжэй да нашай памяці: калектывізацыя, вяртанне на сяло, па сутнасці, прыгону... Голад у краіне... Няўдачамі змучаны народ. Рэпрэсіі... Тысячы, а мо і мільёны змардаваных жыццяў. Нарэшце, гэта вайна... І хто там ваюе, за што ваюе, чым бярэ, чаму перамагае, калі на тое? Чуеш, от якое пытанне ў мяне.

— Ого! Каб не сплюндраваць, — ажывіўся капітан: — Каб прыкупіў дзе розуму, адказаў бы.

— А ты падумай, пане-браце. Я ж тым часам патлумачу табе, адкуль у мяне такая бала́чка з'явілася. Неаднойчы, пакуль быў у сядзібе прыёмнік, мы разам з унучкай слухалі па радыё песню «Свяшчэнная вайна». Мяне ўразіла неадольная сіла духу. Яна ж так шырока і вольна загучала ў песні... Дык што адпавядае гэтай высокай плыні ў жыцці, у грамадскай прасторы, дзе было столькі страху, енку, хаўтур па чалавечай асобе?

— Як ні дзіўна, дзядзюхна, я, які паварыўся ў сацыялістычным катле, адказ павінен пашукаць у сваёй душы.

— Во, гэта найлепей!

— Вы, пэўна, чулі і ведаеце, што маці мая ў той каламуці Першай сусветнай, будучы бежанкай, згубіла мяне на нейкім чыгуначным паўстанку далёка адсюль, на Украі-

не. Было мне тады сем гадоў. Я стаў жабраком, беспрытульнікам. Потым — дзіцячы дом, а ў сэрцы і галаве — рэвалюцыя. Усіх буржуяў — пад корань! Нас апраналі, вучылі, выхоўвалі. Прычым не толькі настаўнікі — само асяроддзе, братва... Пазбаўленыя бацькоўскай ласкі, мы вельмі востра адчувалі патрэбу ў шчырасці, дабрыні, справядлівасці. Цанілі як найсвяцейшае, што ёсць у чалавека, таварыскасць, паважалі адзін у адным асобу і люта ненавідзелі здраду, любыя праявы подласці. Я мяркую, у нас было добрае выхаванне, і пасля яно доўжылася ў ваенным вучылішчы. Але ж галоўнае, што мы набылі, дык гэта беззапаветную веру ў камуністычную ідэю, у бальшавіцкую сілу і моц, у тое, што савецкі народ чакае небывалая, светлая, найшчаслівая будучыня.

Дзверы ад Манінага пакоя зноў ціха скрыпнулі, і Маня, постаць якой вырасла ў дзвярах, затаіла дыханне. Пры адабральным позірку дзеда, яна слухала гаману.

Госць гаварыў не спяшаючыся, у ціхай развазе, расціраючы свае чырвоныя, абветраныя і, мусіць, абвыклыя да працы кісці рук:

— Прапаганда ў краіне набыла сілу, можна сказаць, усеабдымную. Яе нават заўважаць перасталі, як не заўважаюць людзі, напрыклад, магнітныя хвалі або паветра, якім дыхаюць. Тое, што дэкляруецца партыяй, асабліва міла і блізка кладзецца на душу моладзі, вучняў, студэнтаў. Для іх у жыцці — прыярытэт. Ім дарога да камуністычных ведаў адкрыта. Ну і рабочы клас свой гонар замеў, а гонар уплывае на розум і душу. Ён паверыў у сваю выключную ролю ў грамадстве. Дый умовы жыцця, працы, прафесійнага руху пасля рэвалюцыі для многіх палепшыліся. Таму на патрыятычным камуністычным уздыме распачата самаадданая праца, калі не лічацца з часам і перакрываюць нормы выпрацоўкі. Такую працу прапагандуюць. Спаборніцтва шырыцца, набірае моц. Стаханаўцы — ганаровыя людзі... Карацей, сацыялістычны ўздым, вера ў пераніцоўку жыцця на найлепшы бок захапіла многіх. Таму ўсе цяжкасці і няўдачы — часовая з'ява. Іх варта цярпець у пераходны перыяд. Я прыгадваю: пра тыя ж выступленні сялян гаварылі як пра кулацкія бунты. Пра што яны сведчылі? А пра абвастрэнне класавай барацьбы на вёсцы, што па тэорыі — якраз і павінна мець месца. Таму: каго гэта магло ўсхваляваць? Галоўнае — шчасце, а шчасце — наперадзе. Для ўсіх! Я і сам гатоў быў скласці за яго сваю

голаў. Дзіўна, як у такой атмасферы ўсеагульнага абнаўленчага клёку, натхнёнай працы дзеля прасветлага дня для нашых дзяцей, унукаў дый усяго працоўнага чалавецтва знаходзіліся ворагі народу, і — шмат. Я не разумеў і не разумею, што гэта былі за дэманы — Бухарын і іншыя... Чым яны кіраваліся? Багата што, канешне, трымалася ў тайне. І трымаецца...

— Мусіць, кожны механізм прымусу нагадвае іезуіцкі ордэн, — выказаў сваё меркаванне дзед Пятро, калі таварыш Калінічэнка зрабіў невялікую паўзу.

— Магчыма... Але ж не варта спрошчваць, — казаў ён. — Мы маем зусім адмысловы выпадак. Паняволенне людзей, калі яно і было, перарасло ў іх перакананне: маўляў, гэтак і трэба. Прапаганда камуністычнай супольнасці і планаў на яе перспектыву зрабіла сваё. У выніку Расея ў агромністым чэраве сваім пераварыла, перакавала веру ў Хрыста і свой азіяцкі здзічэлы дух на новы, на ахоўны, стваральны і, калі хочаце, абарончы дух камунізму. На справе — гэта ўжо не што іншае, як усведамленне сваёй грамадзянскай годнасці з новых камуністычных пазіцый і нежаданне перапыніць распачатую справу.

— Значыць, па-твойму, пане-браце, саветы — вялікая і згуртаваная краіна, дзе ўсе загіпнатызаваны камунізмам?

— Не ўсе, і, можа, большасць насельніцтва якраз — звычайныя людзі, якія працуюць і атрымліваюць за сваю працу мізэр. Яны жывуць, як жывецца... Жылі, дакладней, бо цяпер вайна, і мала хто разлічвае на прасветлую гадзіну. Але толькі не яны робяць пагоду... Гм, на ваша пытанне, дзядзька Пятро, я, зрэшты, бачу і больш яскравы адказ. — Капітан дастаў з кішэні бардовы кісет, згарнуў цыгарэту, прыпаліў яе і зацягнуўся: — У той песні, якую вы згадалі, ёсць словы «Мы два разных полюса...» Трэба думаць, гэта: фашызм і сацыялізм, расізм і інтэрнацыяналізм... Скажам — так; скажам — гэтак. Але ж мне ўяўляецца і іншае магнітнае поле. З двума палюсамі таксама. Яны там, дзе і нарадзілася «Свяшчэнная вайна», крылатая, чынная песня, якая мабілізуе народ. Адзін полюс — гэта святло ідэі і духа, святло сацыялізму, якое шмат чаго абяцае і прывablівае да сябе. Другі полюс — жыццё, у якім ёсць пэўны разрыў з ідэяй і шмат цяжкасцей, няўдач. Яны ўзаемаабумоўлены, і першы цягне на плюс, другі — на мінус. Абодва пульсуюць, прасякаючы сваімі хвалямі, як кажуць,

масу, цела, народ. А хвалі ж не чыста магнітныя, яны нейкага псіхафізічнага кшталту. І ствараецца актыўнае псіхафізічнае поле. З такой, бадай, асаблівасцю: чым народу цяжэй, тым большае псіхічнае напружанне і цяга ўгору... Бадай, феномен!

Гаспадар Пятро ўцяміў лагічны ход думкі і прыйшоў у захапленне ад капітанавага прыкладу з фігурамі полюсаў:

— Уяўляю: чым цяжэй, тым мацней у людзей камуністычны дух і тым больш яны моляцца на бальшавікоў!

— Ну — так! А на каго ж ім яшчэ маліцца, калі толькі бальшавікі і абяцаюць выцягнуць народ да светлых вышыняў?..

— Як слаўна і міла! — дзед Пятро падхапіўся на ногі: — Сяргей, Бог знаў, каму паняцце даў. Як слаўна і міла ты мне растлумачыў! Чым цяжэй, тым больш у іх ворагаў...

Ён падышоў да вядра ў куту кухні, зачэрпнуў квартай і з асалодай выпіў сырой халоднай вады.

— Ну, а гэта, — паказаў на стол, куды гаспадыня склала пакункі, — бяры з сабой, каб было чым прывязаць душу да цела.

— Але ж... Бярыце-бярыце! — пацвердзіла і баба Аксіння, падаючы капітану ў рукі бохан загорнутага ў крамніну хлеба, брусок сала ў паперы і бурштынавы мёд у невялікім слоіку. — Там, у сенях, у мяшку яшчэ вядры са два бульбы. Ніякай платы не трэба, не лезьце ў кішэню!

— Дзякуй! Вялікі дзякуй! — стомленыя вочы неспадзеўкі адоранага мотальца, знанага і знябытага, пацямнелі ад выяўленай у іх удзячнасці; праўда, хвіліну жадную ён глядзеў яшчэ ў твар гаспадару, бачачы, што той жыве ягоным роспаведам: — Я, між іншым, мог бы яшчэ дадаць...

— Калі ласка...

— Некаторыя людзі бачаць за бальшавікамі проста фантастычную сілу. Наш камбрыг Бабурын, напрыклад, як бы ўсур'ёз сцвярджаў, што няма нічога такога, чаго яны не агоралі б. У тры секачы сякуць, аднаго рака пякуць. «Калі бальшавікі захочуць, — казаў ён, — то і Сонца можа памяняць свой круг і пайсці аднойчы ад захаду на ўсход!»

— Уга!..

— Толькі гэта ўжо, я так мяркую, не матэрыялізм, а метафізіка. Гэта рэлігія, дальбог. Ва ўсім астатнім ён быў зямным чалавекам.

Гаспадар Пятро праводзіў капітана на вуліцу да самых саней і ў двары зазначыў яму:

— Нешта фатальнае здарылася ў гэтай вайне. Такі знак, як пад Аўстэрліцам. Чытаў?.. Памятаеш апісанне гэтай бітвы ў Льва Талстога?

— Але ж... Я слухаю вас, — капітан Калінічэнка запаволіў крок.

— Там рускую армію імператар Аляксандр прымусіў наступаць на парадкі Напалеона ў густым і непраглядным тумане. Пачалося немаведама што, і яшчэ да пачатку баёў у самім паветры з'явілася прадчуванне пройгрышу. Яно было няўлоўным і разам з тым асязальным, разлілося, як вада ў лагчыне, лезла ў душу кожнаму. У снягах пад Масквой, праўда, ролі памяняліся, і на рускіх наступаў не Напалеон, а імперскі воўк Гітлер. Ён таксама не ўлічыў таго-сяго, як і імператар Аляксандр у свой час. У большай меры не ўлічыў... Таму ці ў аднаго мяне цяпер прадчуванне, што разгром немцаў пад Масквой даў свету знак наконт магчымага зыходу ўсёй ваеннай кампаніі?

— А з гэтым я таксама магу пагадзіцца.

— Таму — хутка ці не тое будзе? — адзін Парыпа сказаў бы. А ты сваю армію можаш і тут дачакацца!

Капітан Калінічэнка спыніўся і, тупаючы па кромцы наледзі, глыбока ўдыхнуў ды паволі выдыхнуў насычанае парам паветра:

— Я ўдзячны вам, дзядзька Пятро, за падтрымку. Але ж вы ўявіце маё становішча. Я тут, як мыш пад венікам, і няма куды душу падзець. Сёй-той чакае, што я пайду ў лясную вольніцу. Нехта з мясцовых ветрагонаў прапаноўвае мне арганізаваць партызанскі атрад. Нібыта і слушна, я ж афіцэр, ды, прашу прабачэння, з воўчым білетам. На жаль, чалавеку, выключанаму з партыі, даверу няма, і любая балотная жаба можа ў чым заўгодна цябе папікнуць. Таму не варта спяшацца. Знойдуцца іншыя. Улетку вунь як было. Прыслалі сюды сакратара райкама акурат з такім даручэннем. Мы разам зброю шукалі і перахоўвалі яе. Толькі ў таго не выклікаў даверу мясцовы завадатар Плюнгер. Надта ж амбіцыйны, блазнаваты, занозісты. Галайда! Псіхалагічна яны не сышліся, і група распалася, знікла, бы дым. Факт... А другая праблема тута — сям'я. Даволі рызыкоўная, знаеце. Маёй Сіме ў Дэрбенце собіла нарадзіцца яўрэйкай. І неяк яшчэ ўхаваліся мы, калі гестапа

наладзіла крывавы шабаш. На каго ж цяпер Сіму з сынам пакінеш? Хто іх карміць будзе? А пра абарону ўжо і гаворкі няма... І няма спакою. Сына я вельмі шкадую, каб з малалецтва не стаў такім беспрытульнікам, як я. Ведаю, якое гэта выпрабаванне... Пакінуць іх — здрадзіць ім, а гэта не ў маіх сілах таксама, дальбог. Такім макарам і б'ецца аб хамут лёсу душа. Безвынікова...

Капітан, верагодна, першы раз у жыцці скардзіўся. Пашанцавала ж яму напаткаць у Моталі чалавека, якому ён мог даверыць свой гонар і ўбачыць у таго пад ускалмачанымі бровамі цямны пагляд, спачувальны, паважны.

— А ты, братка, не ўпадай у роспач, — параіў яму гаспадар Пісарчук, папраўляючы мяшок з бульбай у санях. — Жыві тым, што ёсць; жыві адным днём, калі змогі няма на большае. Не журыся. Добрым часам!

## 10

Данік Плюнгер няма што малады, бязвусы, уносіў соль у спраснявелае за зімку супольнае жыццё жыхароў Моталя і нават гміны. Варункі зімы, снег, сляды на снезе, перасыпаныя снегам дарогі, маразы, ад якіх звінела ў ваколіцах, імкненне жывой істоты натуральна схавацца ў цёплы куток, забіцца ў нару, перасядзець, перачакаць — усё гэта абцяжарвала сустрэчы падпольшчыкаў і не спрыяла разгортванню патрыятычнага савецкага руху на зледзянелых абшарах.

Але ж супакоіцца, расслабіць нервы, страціць чуццё небяспекі наогул няможна было, і па гэтай прычыне Данік аднойчы ледзь быў не паплаціўся вольнай воляй сваёй, калі не жыццём. У хату да Плюнгераў завітаў узброены паліцай Ян Швай з загадам ад Бэнды арыштаваць «бандыта». Швай, дарэчы, у верасні 1939 года дапамагаў камуністам вызваляць сваю зямлю ад польскага элемента. Але ж пазней у душы ён пачаў праціўіцца гэтаму самаму пракамуністычнаму ладу жыцця.

Плюнгер быў дома і адразу ўцяміў, што яму пагражае; ад страху ажно млосна зрабілася. Сітуацыя ўскладнялася тым, што ведаў Данік пра Швая: страляў Швай без промаху!

— Збірайся, шаноўны...

— Дай хвіліну падумаць!

— Падумаеш там. Будзе час.

— Тут найлепей... Швай, а табе не шкада будзе, калі Бэнда мяне расстраляе?

— Не ведаю. Мне асабіста ты нічога дрэннага не зрабіў.

— Вось бачыш!..

Яны выходзілі з хаты, калі ў сенях Швай нечакана шапнуў арыштанту:

— Ты ўцякай, а я буду страляць непрыцэльна ўгору. Пастарайся не трапляць больш паліцыі ў рукі!

Ногі вынеслі хлопца далёка за Моталь, ён блукаў пэўны час па аселіцах, заглядваў у вёскі.

Яшчэ да зыходу Піліпаўкі ўцякач прыбіўся да селяніна Кардаша ў вёсцы Аперава, які даводзіўся яму сваяком.

Падарожнічаючы, Данік заўважаў, дарэчы, што сяляне ад вайны парабіліся ціхімі, уніклівымі, нават зацятымі, яны не хацелі ведаць ні немцаў або паліцаяў, ні савецкіх паслугачоў, да якіх несумненна належаў і сам Плюнгер. Іх пакуль задавальняла мяккая эканамічная палітыка цывільнай адміністрацыі, і яны чулі, што паліцаяў можна таксама трываць. Паліцыя ж заўжды актывізавалася там, дзе насуперак волі і загаду ўлад варушыліся камуністы і паўставала пагроза нацысцкім парадкам.

Першая акупацыйная зіма ў Моталі, праўда, не даставіла вялікіх турбот ні тым, ні другім, як што падпольшчыкаў было не багата і Данік часам лічыў іх проста па пальцах, дарэчы, найбольш рызыкоўныя надзейна хаваліся па лясных вёсках і хутарах. Няхай... Гэта не замінала Даніку называць іх і сябе партызанамі — умоўна; ён упарта прытрымліваўся гэтакай версіі, няйначай, яна грэла душу ілюзіяй аб стварэнні партызанскага атрада яшчэ ў ліпені 1941 года, калі пад Моталем з'явілася група Ражнова. Лічылася практычна, што атрад ёсць, хоць ён неўзабаве растаяў. І горды Багдан ніяк не мог прымірыцца з такой неспадзяванай і пакутлівай стратай; яму здрадзілі, бадай, сам прэстыж і неспасціжны лёс, што водзіць чалавека па сваіх лабірынтах.

Цяпер Плюнгер нецярпліва чакаў, калі зіма адпусціць са сваіх абдымкаў на волю жывую прыроду, зямлю і з'явяцца ўмовы для больш аператыўных дзеянняў мясцовых урвісаў, патрыётаў, лік якіх ён штораз з сябе пачынаў. Больш за тое, юны Плюнгер глядзеў на сябе як на асноўнага носьбіта рэвалюцыйнай рошчыны, прагнай, бурапеннай, той рошчыны, якая, будучы памножанай на та-

кую ж закваску ў душах ягоных паплечнікаў (пры ўмелай рабоце) павінна б узняць апраснелае цеста народа ў акупацыйных умовах, узняць яго на ўзровень актыўнай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых. Прынамсі, хлапечая порсткасць, як і вопыт гуртавання хеўры вакол сябе, яшчэ калі Данік хадзіў у пастушках, і пазней, як ён узначальваў мясцовую камсамолію, і калі, урэшце, працаваў чынным савецкім служачым у пасялковым савеце, — усё гэта разам надавала яму упэўненасці ў сваіх сілах і здольнасцях, у тым, што на ім, на Плюнгеры, акурат і ляжыць тая місія, каб узняць людзей у балотна-лясных абшарах і павесці іх за сабою.

Ён прыспешваў сябе ў марах, спадзяваннях, асабліва пасля весткі аб пасяховым контрнаступленні Чырвонай Арміі пад Масквой. Жалю варта, але жыццё доўгі час цякло незалежнай ад Плюнгера плынню і нават ставіла яму перашкоды.

Палессе — наогул той прыродны абшар, які ў вясновае разводдзе шмат у чым страчвае прыкметы зямлі, уласна, сушы і доўга не выпускае лясы, гаі і палеткі на волю, а пад Моталем і пагатоў сінь-вада — вокам яе не ахопіш. Затое як схлыне на перавале лета паводка, як адыдзе з грудкоў і вызваліць сенажаці, якіх толькі зёлак там ні стрэнеш, якіх птушак ні ўбачыш — усё звініць, жвірчыць, расце, развіваецца, і пастушкі ладзяць дуды свае, каб унесці свой найгрыш у боскую гармонію чалавека і прыроды.

На гэты раз Данік Плюнгер прагна чакаў лета, праўда, каб заняцца іншымі справамі. Ужо ў красавіку ён падабраў і адправіў у лясную тхлань групу сваіх паплечнікаў, узброеных рыдлёўкамі, — капаць дол і ладзіць для партызанаў зямлянкі.

У чэрвені ж яго людзі, бадзяючыся па лесе, сустрэлі групу абшарпаных незнаёмцаў з Драгічынскага раёна. Пры бліжэйшым знаёмстве высветлілася, што ні ў тых, ні ў гэтых няма пэўнасці, як сябе называць, але ўмоўна яны называлі сябе партызанамі. Рашылі праз колькі дзён зноў сустрэцца ды правесці агульны сход на ўскрайку дрымучых Спораўскіх балот. На сходзе Плюнгер моцна настойваў, каб утварыць адзіны партызанскі атрад. Думкі вayроў разышліся, і большая іх частка на чале з лейтэнантам Мар'янам Баравіком, які ніяк не мог звыкнуцца са статусам акружэнца, наважыліся прабівацца на ўсход, да лініі

фронта. І ў чарговы раз Данік зазнаў у сваёй хлапечай душы, асцістай і гордай, расчараванне.

На гэты раз, аднак, лёсу было заўгодна, каб група Баравіка, блукаючы па дзівосных і велічных лабірынтах прыроды, ужо недзе пад Ганцавічамі натрапіла на рэйдавую партызанскую брыгаду, у якой былі прадстаўнікі штаба Беларускага партызанскага руху. Яны пазнаёміліся з асабовым саставам групы і павярнулі яе назад з заданнем арганізаваць пад Моталем партызанскі атрад. Камандзірам прызначаўся лейтэнант Мар'ян Баравік, камісарам — завочна Багдан Плюнгер.

А пакуль тая група вярталася назад пад Моталь, на долю варушлівага Даніка выпалі клопаты аб арыштаваных паплечніках, пераведзеных з Янова ў пінскую турму. Яговыя захады, скіраваныя на подкуп пана Сікорскага, начальніка турэмнага лагера, далі плён, і група арыштантаў была на волі, таму ён прыступіў неўзабаве да спробы — выбавіць маці і сястру. На жаль, знаходлівая і рызыкоўная стрэча з Пятрэнкам, камендантам павятовай паліцыі, як і ўнушэнне яму, нічога не далі, і наш герой хадзіў расстроены. Аднак увагу Плюнгера цяпер прыцягнуў выпадак з капітанам Калінічэнкам, які таксама быў арыштаваны ўлетку. З усіх арыштаваных па падазрэнні ў супрацьдзеянні акупацыйнаму рэжыму, у прыватнасці — кампаніі вывазу моладзі на працу ў Нямеччыну — аднаго Калінічэнку, толькі яго і адпусцілі з Янова дадому, а астатніх засадзілі ў турму.

Для павятовай паліцыі, дзе адзін на адным сядзелі палякі, вырашальным у справе з Калінічэнкам, безумоўна, аказаўся факт ягонай адсутнасці ў Мотале ў верасні 1939 года, калі мясцовае насельніцтва, ачоленае камуністамі, наладзіла развітальную месу польскаму беламу арлу. Тым не менш, вызваленне капітана на фоне агульнай карціны рэпрэсій выклікала ў душы Даніка нядобрыя пачуцці і пытанні, асабліва пасля таго, як мясцовая адміністрацыя дапамагла яму ўладкавацца служачым у кантору па сплаву драўніны. Поварам на сплаве пачала працаваць і ягоная жонка Сіма. Капітан ад таго часу стаў яшчэ больш падобны на цень і ўсяляк ухіляўся ад сустрэч з паплечнікамі Плюнгера.

Але ж Плюнгер аднойчы сам завітаў на лесасплаў. Было гэта ў ліпені, ужо пасля расстрэлу Вольгі Міронавай у пінскай турме.

— Таварыш Калінічэнка, — аклікнуў яго Данік. — Здраем-жалаем!.. Шмат вады сплыло ў Ясельдзе пасля апошняй нашай стрэчы...

— Ну так — рады ў гады...

— І каму, калі не сакрэт, савецкі капітан цяпер служыць?

— Сабе і сваёй сям'і, братка.

— Во, бля! — іранічна выгукнуў Данік. — А я та думаў: служыць чалавек немцам на сплаве драўніны!

— І немцам, і немцам таксама служу... На жаль, так атрымліваецца. Такі закон паняволенай зямлі. Каб не вымерці з голаду, людзі мусяць працаваць на ворагаў — я спадзяюся, часова. На іх жа працуе і наша зямля, калі селянін пастаўляе прадукты сабранага ім ураджаю.

Данік акругліў вочы і стаў буравіць капітана натуральным чынам:

— Ты цягнеш на здрадніка, таварыш Калінічэнка! Не хіба?..

— Не-е!.. У цябе, вісуса, яшчэ матчына малако на губах не абсохла, каб папікаць мяне ў гэтым. Такія, як капітан Калінічэнка, былі гонарам танкавай брыгады, а сталі ізгоямі...

— Што там было, не мой клопат. Цяпер жа лета і зручны час не толькі лес сплаўляць, але і арганізоўваць партызанскія атрады. Балазе ў Мінічах ужо амаль створана база.

— Ёсць, братка, праблемы. І тут галоўнае: куды сям'ю падзець? Сям'я ж — не іголка, каб перахаваць яе ў стозе сена.

— Калі што якое, мы сям'ю абаронім.

Сяргей Калінічэнка ва ўпор паглядзеў на Даніка:

— Скажы... Скажы, рыцар падполля, а чаму ты не абараніў сваю родную маці і сваю сястру, калі іх двойчы арыштоўвалі і везлі то ў Пінск, то ў Яноў на падводзе пры адным ці двух канваірах? Ці ж не прасцей было замест сустрэчы з Пятрэнкам у хляве пераняць тую падводу?

Дыханне перахапіла ў Даніка, кроў хлынула ў твар. Ну і моцны ж удар нанёс яму капітан-лесасплаўшчык. Плюнгер толькі і змог вымавіць пры развітанні з лесасплавам шматзначнае:

— Ну, бля!..

Усцешыла Плюнгера вяртанне з падарожжа на ўсход партызанскай групы Баравіка, баявітай, парывістай. Гру-

па вярнулася, дарэчы, добра ўзброеная і адразу ж пачала асталёўвацца ва ўрочышчы Мінічы. Данік кінуў кліч сваім падпольшчыкам: прыступіць да агітацыі і мабілізацыі мужыкоў у партызанскі атрад. Але, уважаючы на летнюю пару і гарачую працу на палетках і сенажацях, мала хто з мясцовых пагаджаўся пайсці ў апалчэнцы, тым больш што была і няпэўнасць, за што там змагацца; ніхто не гарантаваў селяніну спакою душы. І толькі па восені — напрыканцы года, атрад колькасна вырас да сотні чалавечых постацей, з якіх кожная мела сваю галаву і сваё ўяўленне аб жыцці і змаганні. Яны здольны былі жыць у лесе і мсціцца, хто за сваю дзяржаву, хто за долю сваю, або за ўсё разам.

Мотальскія партызаны пакінулі для нашчадкаў дзве версіі наконт баявога хрышчэння атрада. Першая: у верасні 1942 года, прыкладна, у 30 кіламетрах ад Моталя ва ўрочышчы Губа на чыгунцы Брэст — Пінск быў спушчаны пад адхон цягнік. Другая: у кастрычніку гэтага ж года групай партызан пад кіраўніцтвам Даніка спалены былы панскі маёнтак Клятная, у якім захоўвалася каля 5 тысяч пудоў збажыны, нарыхтаванай для немцаў.

Пакінем абедзве версіі, як што яны характэрныя для далейшай баявой дзейнасці атрада. Партызаны ўзрывалі або палілі масты, прадпрыемствы па вырабу харчовых тавараў ды час ад часу мацалі трываласць паліцэйскіх гарнізонаў. Святам душы для Даніка быў дзень 20 кастрычніка, калі на ўчастку чыгункі Драгічын — Снітава група, якой ён кіраваў, узарвала мост і пусціла пад адхон цягнік, уласна лакаматыў і 50 вагонаў. Невядома, хто іх лічыў, праўда, але ж у данясенні запісалі таксама, што знішчана 300 гітлераўцаў.

Найвялікшай удачай для атрада Баравіка, безумоўна, стала дзейнасць партызанскага мінёра і сапраўднага настаўніка ў сапёрнай справе Паўла Мінюка; у значнай меры на ім, на ягоным вопыце, набытым у польскім войску, і трымалася прафесійная годнасць лясных ваяроў.

Толькі ж яны не былі першымі і далёка-далёка не першымі ў тым гарачым промысле ваеннага часу, дармо што Данік спрабаваў вывесці свой партызанскі гарт з ліпеня 1941 года. Няўцямна... Бо да з'яўлення іхняй баявой адзінкі, — атрада, ачоленага Баравіком, карціна рэйкавай вайны ўжо склалася, і згодна з аб'ектыўнымі дадзенымі

германскага камандавання, пра якія тады Данік нічога не ведаў, на чыгуначных шляхах Беларусі (з лютага па верасень 1942 года) было ўчынена 2135 партызанскіх дыверсій, пры гэтым знішчана паравозаў — 549, вагонаў — 1860. Праўда, дзівіць тое, што з падобнымі стратамі гітлераўцы хутка спраўляліся і лічылі іх нязначнымі, балазе наступальныя аперацыі ў іх цяпер праводзіліся на поўдні, таму і асноўны паток грузаў ішоў іншымі шляхамі.

Але як бы там ні было, у партызанскім атрадзе Баравіка, створаным пад Моталем, Данік Плюнгер адчуваў сілу як ва ўздзеянні на ворага, так і на мясцовае насельніцтва. Сіла атрада, калі яна каму-небудзь і належала, то належала перш за ўсё яму, Плюнгеру, сапраўднаму бальшавіку, знаўцу мясцовых умоў, камісару... Яму і выпадала рабіць у атрадзе палітыку, ды ён яе і рабіў, адкрываючы магчымасць шырока і вольна праяўляцца партызанскаму чыну. Як у Моталі, так і па-за межамі Моталя.

Дробныя, здавалася б, моманты або варункі жыцця, і, тым не менш, своеасаблівы гонар Данік меў ад таго, што ягоная дзейнасць ахоплівала нават Пінск ды гарадскія турмы. І тут нейкі неардынарны, нават знакавы сэнс для яго мелі таемныя сувязі з Міхалам Мухалам, які цяпер служыў у Пінскай паліцэйскай управе. Мухала для Даніка быў накшталт асабістага агента — за бачурку выціснутай у лесе гарэлкі або адбітага на нейкім шляху ў немцаў спірту ён мог быць прыяцелем хоць самому чорту.

Захоўваў Міхал і сякія—такія Данікавы тайны, хоць у душы і пацяшаўся з іх. Так у пінскім гета, дзе ён быў за наглядчыка, аказалася маталянка Вольга Міронава. Сустрэўшыся паглядам са старым знаёмым Мухалам-Трынькалам, яна ажывілася — насцярожаная радасць мільганула ў яе вачах: а ці не шанц гэта, ці не падарунак лёсу, каб выбавіцца з гета?..

Міхал дазволіў сабе аўдыенцыю з Міронавай, але ён ведаў, па чыёй ласцы яна аказалася тут, і толькі загадкава пасміхаўся, Вольга выказвала спадзяванне, што яе нехта выратуе.

— Я не магу, — сказаў ён пра сябе.

— Тады гэта зробіць Данік!

Перакананасць у голасе Вольгі прымусіла паліцэйскага саркастычна ўсміхнуцца і пахітаць галавой:

— Чаму ты так лічыш?

— Таму, што ён адзіны... — яна замялася.

— Затое ты ў яго не адзіная... Або Юлька Жупанка горшая за цябе? — выдаў наглядчык, не ашчаджаючы жаноцкага самалюбства.

У пацямнелых вачах Міронавай з'явіліся жах і роспач, туга і боль; яна прамовіла нягучна, як свайму:

— Я ж цяжарная ад яго...

— А-а, — зароў здагадліва Мухала, нібы гэтыя словы канчаткова знялі полаг з сумніўнага факта адносін Міронавай з Данікам і яе з'яўлення тут, у гета.

— То ж ты, галубка, таму і аказалася тут! Ей-ей...

— Я не разумею вас!

— Затое я разумею, так-так, разумею ўчынак таго, хто выдаў цябе.

...З гэтага лета Даніку Плюнгеру ў ягоным ваяўнічым імпэце ды асабістым жыцці больш нішто не пагражала.

Разам з тым узмацняліся атакі паліцыі на асяроддзе, у якім выспявала і пачынала бурліць партызаншчына, на сялян. Па розных даносах агентуры. Так у верасні ў вёсцы Заазер'е немцы і паліцыя расстралялі 6 чалавек, што жахала — з вуснаў у вусны перадаваліся іхнія прозвішчы.

На пачатку снежня ў Янове былі адпраўлены на той свет маці і сястра Даніка Плюнгера, а таксама жонка Сідара Мінюка, найпершага паплечніка Плюнгера, яе расстралялі разам з дзіцём. І гэтакая акалічнасць цяпер надавала баявым дзецюкам арэол пэўнай пакутніцкай вядомасці і славы.

Ужо ў студзені 1943 года акупацыйныя ўлады расправіліся з бацькамі Юлькі Жупанкі, улюбёнай Даніка.

І вось у такой праз меру вострай сітуацыі Данік Плюнгер перажываў пэўны крызіс у душы; яму здавалася, што лепшыя людзі ідуць на той свет, а нявартыя жыцця — жыць застаюцца. Да апошніх належалі розныя прыстасаванцы ды шкоднікі, накшталт тых, што служаць немцам або пакорліва выконваюць усе іхнія патрабаванні, здаюць збажыну, малако і мяса, пасылаюць сваіх выпладкаў на здзек у Германію. З галавы ў яго не выходзілі мінулагоднія застольныя дыспуты са сваяком Рыгорам Кардашом, селянінам, які мусіў карміць, апранаць ды хаваць яго ад староннягa вока нешта месяцы са тры. Кардаш лічыў, напэўна, што гэта дае яму права ўсчуваць Даніка за падтрымку савецкай улады. Ён наструнена і пругка выказ-

ваўся супраць рэпрэсіўнай палітыкі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, якую неслі бальшавікі. Кардаш некалі аж залішне наслухаўся пра, так бы мовіць, рэфарматарскае і рэвалюцыйнае выступленне памешчыка Скірмунта ў польскім сейме наконт перадзелу зямлі, чым ён, мужык, быў дагэтуль уражаны: «Які сумленны і праведны чалавек! Будучы сам панам, Раман Скірмунт прапанаваў панам падзяліць паміж сялянамі абшарніцкую і памешчыцкую зямлю. Ці чуў ты, Данік, пра гэта?» — пытаўся гаспадар сядзібы.

І, чулася, не мог Кардаш дараваць «бальшавіцкім халуям», «ацяробкам» тое забойства Скірмунта. Гнеў Кардаша трапляў у жывую мішэнь, як што Данік рабіў у Моладаве акурат тое ж, што тыя рабілі ў Парэччы. Успамін пра Моладава заўжды лагодзіў душу Даніка добрымі трафеямі, сярод якіх быў наўздзіў прыгожы і зайздросны сервіз чырвонага золата.

Аднак жа кпіны, папрокі ў хаце, якая прытуліла яго, не мелі мяжы, і, крывячыся ад гаспадара-назолы, Данік спрабаваў адвесці ягоныя стрэлы ў бок, пераключыць размову на свой гаротны, а тым часам і змагарскі лёс за польскім арлом, на лёс падшыванца, які напакутаваўся і затаіў, мусіць, крыўду на свет. Яго выключылі са школы... За што? Ат, вучні, і ён у той купцы, напісалі на шырокай дошцы ў класе: «Няхай жыве беларуская мова!» А гэта тады было нечуванай крамолай і выклікам дыфензіве... Потым яны яшчэ раз вызначыліся, напісаўшы на класнай дошцы: «Прэч рэлігію!» Пратэст узмацняўся тым, што перад прыходам святога айца на ўрок яны забарыкадзіравалі клас ды праз акно самі павыкульваліся на вуліцу. Шасцярых вучняў выключылі са школы, разам з ім, вядома... Яму ж перапала затым ад паліцыі і ад бацькі. «Баюся я за цябе, Данік, — казаў бацька. — Змардуеш ты ўшчэнт сваё жыццё ў турэмных засценках. Паадбіваюць ірады праклятыя табе пячонкі!»

— Ну і што ты думаеш? — адрэагаваў тады на роспаведзь Даніка Кардаш. — Бог цябе ўбярог ад турмы. Калі хочаш ведаць, я палякаў хваліць не буду. Але і цябе — таксама. От вы, змагары, пратэстанты, пісалі на дошцы: «Няхай жыве беларуская мова!» Няхай жыве... Але скажы, чаму так пісалі? Бо гэта мова тутэйшых людзей, як кажуць, наш гонар. Скінулі мы з сябе тое польскае ярмо — дапамаглі саветы, і дзякуй ім за такую паслугу. Толькі

ж цяпер, гіцаль, на якой мове ты са мной размаўляеш, га? Перавыхаваўся?..

І Кардаш гучна і з'едліва зарагатаў. Ён займеў перавагу не толькі ў асобных тэзах, доказах, кпінах, але і ў тым, што меў густы басавіты голас — перад Данікавым ломкім тэнарам.

Няма што да вясны Данік Плюнгер канчаткова знелюбіў сваяка і лічыў яго лютым ворагам сацыяльнай сістэмы, за якую ён усчаў барацьбу разам са сваёй бравай хеўрай.

Таму на адным з партызанскіх сходаў, выступаючы з аналізам палітычных варункаў жыцця, камісар Плюнгер зазначыў:

— Атрад дзейнічае ў складаных умовах класавай барацьбы, калі ворагаў савецкай улады значна больш, чым мы іх ведаем. У вёсках, напрыклад, затаіліся кулакі, падкулачнікі і іх падгалоскі, мац іх... нарадзіла ў граху! І яны, бля, не хацелі б бачыць ні нас, ні нашай роднай савецкай улады. Ці павінны мы на гэты факт закрываць свае вочы?

— Не-е! — у адзін голас выгукнулі Іллюк Дубовіч і Сідар Мінюк, як самыя знаныя палітыкі.

— А яшчэ, — тварыў прамову пад соснамі камісар Плюнгер, — на нашых абшарах асела нямала былых чырвонаармейцаў, што трапілі ў акружэнне. Некаторыя з іх, і вы іх ведаеце, складаюць гонар нашага атрада. Але значная іх частка асімілявалася з мясцовым насельніцтвам. Былыя абаронцы радзімы, забыўшы пра свой абавязак і гонар, якім кляліся верна служыць Айчыне, цяпер, падлы, мацаюць нашых дзевак, маладзіц і думаюць, што на гэтым для іх вайна скончылася. Я прапаную штабу атрада выявіць у вёсках такіх мужыкоў і прапанаваць ім уліцца ў партызанскі атрад. У адваротным выпадку мы будзем глядзець на іх як на здраднікаў салдацкаму абавязку.

— Правільна! — і тут ваяры падтрымалі свайго камісара.

— Нарэшце, — казаў ён, — ёсць момант, да якога нам трэба ставіцца вельмі адказна. У Моталь з Нямеччыны прыязджаў на пабыўку Барыс Рамановіч, сын Пісарчука, заможнага селяніна. Выступаючы перад зборняй народу ў царкве, ён інфармаваў землякоў, што ў беларускіх акругах распачаўся рух за ўтварэнне нейкай там народнай рэспублікі пад прыкрыццём немцаў — дзіва, і хрэн яго

ведае, што гэта такое. Трэба ўспрымаць паведамленне як правакацыю.

— Я патлумачу, — прыйшоў на дапамогу камісару камандзір атрада Мар'ян Баравік. — Пра гэта дарэчы, у штабе рэйдавай брыгады пад Ганцавічамі гаворка была. Справа ў тым, што ў названых акругах поплеч з акупантамі пачалі дзейнічаць беларускія нацыяналісты, якія карыстаюцца падтрымкай у пэўнай частцы насельніцтва, асабліва ў моладзі. Іх лозунг — «Беларусь — для беларусаў!» і адпаведна — «Беларусь — без бальшавікоў!» Як ні дзіўна, гаўляйтэр Беларусі Кубэ актыўна іх падтрымлівае. І гэтакім паваротам справы вельмі занепакоены Беларускі штаб партызанскага руху. — На гэтым Баравік абарваў кароткае слова і кіўнуў камісару: — Калі ласка, Багдан Кузьміч, працягвай далей.

— Як бачыце, — падхапіў нітку размовы Плюнгер, — фашыстоўская контра, падобна, пранікла і ў Моталь. Сын Пісарчука звярнуўся з заклікам да жыхароў Мотaля стварыць арганізацыю самапомачы для падтрымкі незалежнай рэспублікі. Невядома, якой дзейнасцю Барыс Рамановіч займаецца ў Германіі, а ў Мотaлі — падрыўной, і гэта адназначна. Аддзелу разведкі варта дазнацца, ці не створана ў Мотaлі сапраўды падпольная арганізацыя беларускіх нацыяналістаў.

— Выведаем, — кіўнулі дружна штабісты.

— У Германіі, — сказаў камандзір, — згодна з тлумачэннямі ягонага бацькі, Рамановіч узначальвае арганізацыю паняволеных беларусаў няпэўнай арыентацыі.

— Уяўляеце, які ход падзей, таварышы партызаны, — Данік абводзіў партызан выпакутавана скрушлівым позіркам. — У той час, як савецкая армія гераічна змагаецца на шматлікіх, скажам, франтах, і вораг адбіты ад Масквы, а цяпер вунь ідуць цяжкія баі пад Сталінградам, у Беларусі замышляецца нечуваная гнюснасць, подла робяцца спробы стварыць рэспубліку без камуністаў, без нашай бальшавіцкай улады. Ці чулі? Ганьба здраднікам Радзімы!

І натоўп у кажухах адгукнуўся:

— Ганьба!

Сход прыняў кароткую пастанову па ўдала закранутых камісарам пытаннях, і ўжо з адчуваннем выкананага абавязку і нейкіх новых прыемных згадак ды парыванняў Данік Плюнгер ехаў у санным вазку ў вёску Апе-

рава. З замеценага снегам і скрыпучага прасёлка неўзабаве паказаліся высокія аснежаныя ліпы, што ўпрыгожвалі сядзібу Кардаша; на ліпах мацаваліся некалькі калод пчол...

Гаспадар доўгім позіркам сустрэў нечаканага і настарчывага госця, запрасіў яго ў хату:

— Чуў я, ты цяпер у партызанаў найгалоўны?

— Пакуль не, хоць і блізка хаджу да галоўнага. Ёсць у нас камандзір.

— Які ж клопат прывёў?

— Разлічыцца, бля, прыехаў...

— Як? — не ўцяміла Дар'я, гаспадыня сядзібы, яна якраз ставіла на стол квашаную капусту для закусі.

— Калі ты пра тое, — сказаў Кардаш, — што жыў у мяне, дык я платы з цябе не патрабую.

— А ўсё-такі, дзядзька Рыгор, жалка было карміць дармаеда, якога пакінула савецкая ўлада? Ты чалавек скнары... Скажы.

— Данік, ты не чалавек, а сто рублёў убытку! — заначыла Кардашыха.

— Наконт улады, каб на тое, я яшчэ падумаў бы, — азваўся Кардаш. — А ты сам да мяне прыйшоў.

— Прыйшоў... Доўга жыў... І цяпер, Рыгор, мы дачакаліся аддзякі! Што ж, — Дар'я кінула на сваяка знелюбелы позірк. — Пляці, нябога, што хочаш. Толькі добрыя вочы дыму не баяцца!

Яны чокнуліся і выпілі. У шклянкі быў наліты пяршак, і па твары Даніка разлілася ружовасць, дастаючы аж да каранёў валасоў.

Пачырванеўшы, Данікава галава з вузкім клінам падбародка папрыгажэла і менш, чым звычайна, нагадвала бручку. Адно толькі вочы клеіліся да твару гаспадара дый у знарачытасці пагляду Плюнгера чыталася штось нядобрае.

— Цяпер, халера, каму вайна, а каму карова дойная. Ні сну, ні адпачынку няма ад тваіх партызан, — паскардзіўся Кардаш. — Праз ноч грукаюць у дзверы. То адны, то другія. Дай гарэлкі, накармі... З сабой аграбаюць! Дзіва бярэ, сваячок: што ж партызаны днём робяць? Нябось, спяць... А мне ж працаваць удзень лучыць.

— Цяпер вайна, дзядзька Рыгор, і ніякія сваяцкія адносіны не павінны ўлічвацца. Пытанне стаіць так: хто не з намі, той супраць нас! Зямля павінна ачысціцца ад усяго,

што мае паўстаць проці савецкай улады. Толькі тады мы, бля, будзем святкаваць перамогу. Я ведаю, што ты вораг яры...

— Ды гэта ж вораг ты — мярзотнік. Усім вораг! — перабіла яго Дар'я.

— Чакай-чакай, Дар'я, і ты, яры... яры таварыш Плюнгер! Нешта я цябе не разумею, — барадасты твар Кардаша перакасіла скрушлівая ўсмешка.

— І не трэба... — Данік дастаў рэвальвер. — Не будзем цягнуць валынку... Я прыехаў, каб цябе забіць!

— Уга! За што?! Бог цябе пакарае!..

— Устаць! — скамандаваў Данік.

Абое падхапіліся з-за стала.

— Ёсць рашэнне партызанскага сходу...

— Людцы добрыя, што робіцца! — роспачна ўскліknула Дар'я тым часам, як Кардаш, схапіўшы Плюнгера за руку, стараўся адвесці яе ад сябе.

Шчоўкнуў курок, але толькі за імгненным стрэлам яго ніхто не пачуў:

— Людцы мілыя!..

Усё яшчэ трымаючы Даніка, гаспадар прыціснуў шчакой рану ў прадплеччы.

— Эх, ваўкарр-рэ-зіна! — вырвалася ў яго са стогнам.

І тут, ухапіўшы тоўсты вілачнік, Дар'я з усяго маху агрэла ім Даніка па спіне. Той войкнуў і рэзка павярнуўся да яе.

Ацаніўшы момант, гаспадар адпусціў руку бандыта і кінуўся праз дзверы на вуліцу.

— Ах ты вар'ят, ах нягоднік! Каб ты здох! Каб цябе зямля не прыймала, каб ты на гэтым свеце гніў і каб цябе чэрві на гэтым свеце елі, а твае косці псы лютыя па белым свеце смыкалі, каб ад цябе ні роду, ні плоду не адышло! — Дар'я, спалатнелая, як што ў шале яе ажно калаціла, трэсла вілачнікам перад самым носам Даніка: — І адкуль ты, прайдзісвет, выкараскаўся? У каго ўдаўся?.. Злосці поўныя косці. У-ух!.. А маці ж у цябе была спаважная, сардэчная, добрая. То ты, замест сябе, яе адправіў на той свет. Сцуль сабачы!

Невядома чаму, але вусны ў Даніка высмяглі, пабялелі, яны дробна торгаліся, і ягоны рот у гэты момант нагадваў Дар'і курыную пельку.

— Цьфу! — сплюнула Дарья.

Ні гуку не падаючы, так, нібы мову ў яго адняло, госць засунуў рэвальвер у кабуру, падышоў да дзвярэй, зняў з цвіка свой паўкажушак і шапку. Апрануўшыся, пасунуўся прэч. Адно ў сенях за ім моцна бразнулі дзверы, ды ў двары заліўся адчайным брэхам сабака.

Гаспадыня, мігам прыпаўшы да вакна, прасачыла, як той сцуль сабачы, хістаючыся, выйшаў на вуліцу, падабраў сена з-пад ног у каня, кінуў яго ў сані і сам, бы куль аўсяны, вяла кульнуўся, асеў у вазку, торгнуў лейцы; праз момант ягоная постаць растварылася ў снежнай віхуры.

Тады Дарья падышла да абразоў і, ўзіраючыся ў лікі святых, тройчы перахрысцілася, жадаючы аднаго, каб больш ніколі і нідзе не бачыць гэтага д'ябла.

Вядома, наступным гарачым памкненнем у яе было пайсці і пашукаць у двары свайго чалавека.

## 11

Хуткая язда на цягніку ўносіла ў душу Барыса добры лад, радасць і замірэнне, як што з кожным верставым слупом набліжалася тое, што яму рупіла. Наперадзе былі жаданыя стрэчы, абдымкі, размовы.

Аднойчы па вайне наведаўшы свой родны Моталь і бацькоўскі дом, Барыс цяпер не перапускаў выпадку, каб яшчэ і яшчэ раз не вярнуцца туды, дзе мог пачуць свой люд, сваю радзіну. Рупілі яму і больш шырокія інтарэсы, вяла на павадку цікавасць да нацыянальнай справы, якой займаліся, лічы, па ўсёй Бацькаўшчыне блізкія яму людзі.

На гэты раз, праўда, Барыс Рамановіч прыдумаў сабе абгрунтаванне дарогі на ўсход, у межы Беларусі, пры пасрэдніцтве Чырвонага Крыжа. У Лодзі выстараўся гуманітарнай дапамогі для Баранавіцкай бальніцы. А там былі перавязачныя матэрыялы (дзве скрынкі) і пэўныя лекавыя прэпараты (дзве скрынкі), залатвіў на ўсё гэта дарожныя дакументы і вёз, як бачыш, па прызначэнні.

Але цяпер задавальнення ад знаёмай дарогі, ад руху па ваенізаванай чыгунцы, як раней, не было, наадварот, расло-нарастала нервовае напружанне і трывога ад частых прыпынкаў, вымушаных, доўгіх, ды запаволенай хады цягніка, асабліва па сваёй зямлі, па выпакутаванай і адвольна парэзанай на кавалкі Беларусі — няйначай, распятай на савецка-германскім крыжы. Мсціліся за парушаны пралетарскі рай партызаны, якіх Гітлер наказваў зваць банды-

тамі, і вынікі іх дзейнасці былі навідавоку: падарваныя і спушчаныя з рэек пад адхон паравозы і вагоны, пакарэжаныя, мятыя... Яны ўсё часцей сустракаліся ў набліжэнні да Баранавіч. Паказальным было і тое, што дзеля змяншэння рызыкі лакаматыў гнаў перад сабой гружаныя пяском платформы.

Нязвычна, крыўдна і балюча было глядзець на шырокія, да аднаго кіламетра высечкі лесу ўздоўж чыгуначнага палатна. Бруднавата-шэрымі барадаўкамі на галах між лапікамі снегу і праталінамі выступалі нямецкія жалезабетонныя агнявыя ўмацаванні. На водшыбе дзе-нідзе тырчалі коміны хат і асобных спаленых вёсак.

Змарнеласць, спакутаванасць і цярплівасць ляжалі і на жыхарах, якія варушыліся на станцыях, нават на той катэгорыі іх, якая гандлявала піражкамі, маслам, яйкамі або чым-небудзь іншым са сваіх хатніх прыпасаў.

Нярэдка цягнік спыняўся, каб прапусціць эшалон з параненымі, а часам — з прычыны рамонту і аднаўлення палатна чыгункі.

Не тымі, зусім не тымі, якімі іх убачыў Барыс Рамановіч у сорак першым, былі і нямецкія ваяры — салдаты і афіцэры. Прынамсі, з арыйскіх фанфаронскіх твараў знікла надакучлівая пыха; позіркі сталі няпэўнымі і, нябось, у душы кожнага мітусілася трывога. Яны больш не рваліся туды, яны проста ехалі на фронт як на адказную і вельмі рызыкоўную справу, бо ведалі шэльмы, чым абярнуліся для Трэцяга рэйха бітвы пад Масквой і Сталінградам.

Ужо пайшлі адлігі і на аператыўную прастору спрабавала выйсці вясна 1943 года. Пад гэты час, дарэчы, нехта з немцаў ужо выспеў дзеля таго, каб рыхтаваць замах на свайго фюрэра... Дармо.

Барыс вывучаў знешнасць спадарожніка — немаладога афіцэра, што меў імя Вольфарт, які ў баях пад Казельскам у лістападзе мінулага года быў паранены ў галаву. Пасля шпіталя і папраўкі ў Германіі ён зноў вяртаўся на фронт. З нагоды знаёмства ў купэ, а што рабіць, яны выпілі па келіху каньяку.

— Auf wen von Ihren Generallen konnen sie sich ferlassen?* — палічыў не лішнім спытацца Барыс.

Перш чым адказаць, Вольфарт хвіліну глядзеў у твар субяседніка ў штацкім, нібы не разумеючы, пра што той

* Каму са сваіх генералаў вы цяпер давяраеце?

пытаецца. На самой справе ён вырашаў для сябе, давяраць ці не давяраць свае думкі выпадковаму спадарожніку.

— Nein, — урэшце пакруціў галавой франтавік Вольфарт, — Auf keinen ist Verlass. Nur auf den Gott. Nur auf den Gott...*

На станцыі ў Баранавічах, куды цягнік неўзабаве дапяў, Барыс павыносіў з вагона на перон кардонныя каробкі. Паставіў іх адна на адну. Акурат у будынку вакзала, дзе быў асобны ўваход, знаходзілася камендатура, і дзяжурны афіцэр, выслухаўшы яго, дазволіў пазваніць у бальніцу. Не прайшло і паўгадзіны, як да вакзала падкаціла санітарная машына. Насустрач Барысу. распасцёршы рукі для абдымкаў, спяшаўся малады, імклівы чалавек — доктар Малецкі.

— Язэп, — проста назваў ён сябе. — Калі вы прыгадаеце бяседу з інспектарам школ Гадлеўскім па тым сваім прыездзе — пазалетась, то я таксама быў на нарадзе.

— Сапраўды... нехта падобны на цябе, чалавеча, сядзеў у куце ля вакна, — і Барыс, трымаючы Язэпа за руку, дэманстратыўна адкінуўся і ўставіўся яму ў твар: — Ну так: чарнявы, кашчавы... Шырокія бровы і гострыя вушы тарчком!

Шчырай радасцю радыя, як свой свайму, яны вольна смяяліся.

— Але ж галоўнае, браце, што мне тады кінулася ў вока, калі хочаш ведаць, твой магічны пагляд. А яшчэ — вусны прыязныя, змыслыя, гатовыя ў любы момант усміхнуцца. Праўда, у мяне тады склалася ўражанне, што ты ў Баранавічах — госцем... Размова ішла пра тваю працу ў Вільні...

— Так, я хірург, і мяне зрэдку запрашалі ў Баранавічы на аперацыі. А ў Вільні давялося ўзначальваць Беларускі нацыянальны камітэт. Пасля прафесара Іваноўскага... Яго ж запрасілі ў Менск... Толькі летась, у жніўні, і мяне выперлі з Вільні — не спадабаўся акупацыйным уладам залішняй, на іх думку, варушлівасцю. На самой справе я выслаў з Вільні далей, у беларускую глыбінку, апальных беларусаў. Некалькі сотень найбольш актыўных асоб выслаў. Пыталіся, як я пасмеў? Самавольна... Зламысны ўчынак! І, не прымушаючы іх да больш крутога рашэння, я пакінуў месца.

---

* Не... Цяпер нікому нельга верыць. Толькі Богу. Толькі Богу...

— Тады прымай, чараўнік, гэты доктарскі скарб, — Барыс кіўнуў на каробкі. — Не адразу, як бачыш, прывёз... Але ж ёсць прымаўка: абяцанага тры гады чакаюць.

— Я шчыра ўдзячны вам, спадар Рамановіч, за падтрымку бальніцы і прашу да нас у госці.

З Палескай вуліцы, пры якой, як агромністы двухмачтавы карабель, стаяў прыгажун вакзал, яны ўзялі на пераезд і цераз Кладбішчанскую патрапілі на Шашовую вуліцу, дзе тулілася бальніца.

Па дарозе Барыс пільна ўглядаўся ў сядзібы і саміх жыхароў. Вуліцы і падворкі ляжалі, набрынялыя вільгаццю, хаця снегу на гародах ужо амаль не было. Колы машыны часам ныралі ў калюжыны, раскідваючы па баках брудным веерам пырскі.

У сядзібах кешкаліся гаспадары, пераважна старыя, і, хоць вайна ў кожнага чэзла на думцы, усе яны ладзілі сваю гаспадарку, прыбіралі двары, папраўлялі пахілены плот, хто-ніхто ўжо раскрываў капцы на гародах, і маладзіцы перабіралі перазімаваную бульбу.

Сонца выглядвала з-за хмар і абяцала споўніць наканаваны яму абавязак — прынесці на зямлю тутэйшых вясновую цеплыню. Цеплыня ішла па календары, а вайна — насуперак выбудаваным гітлераўцамі планам.

— Дык, кажаш, не спадабаўся ў Вільні немцам? — Барысу рупіла вярнуцца да размовы на пероне.

— О, мы, відаць, даліся ў знакі камісару Вільні Вольфу ўжо тым, што зацята даводзілі, упарта даказвалі: нельга знайсці апраўдання расстрэлам мірных жыхароў за дзеянні партызан або асобных правакатараў, бандытаў. Гэтым, казалі, уганяеце ў страх астатняе насельніцтва і памнажаеце колькасць партызанаў. Мы не саромеліся пратэставаць супраць бязглуздзіцы і даводзіць сваё. Неяк Вольфа зусім заткала прамова Адама Станкевіча, майго паплечніка па камітэту, і ён паабяцаў, што наш пратэст будзе ўлічаны. Мы стрымлівалі немцаў, але ж іхні адмысловы парадак пацыфікацыі ніхто перайначыць не можа, паколькі ён санкцыянаваны Гітлерам. Такі парадак азначае нічым не апраўданую жорсткасць, прыхамаць, глупства. Свежы прыклад... З Вільні ў Свянцяны сакавіцкім ранкам ехалі тры чыны: намеснік камісара акругі, гаспадарчы кіраўнік і нейкі важны партыйны функцыянер з Берліна, а з імі і сакратарка гарадскога камісарыяту. У свянцянскім лесе ўзброеныя людзі затрымалі самаход, прымусілі ягамосцяў здаць аўтаматы, пісталеты. І з бе-

лым светам яны развіталіся. А сакратарка пешы паджгала ў Вільню...

Немцы даюць адлуп. Яны выслалі на месца надарэння сотню эсэсманаў і тры сотні летувісаў. Карнікі за адзін дзень спалілі сем вёсак і знішчылі 1200 мірных жыхароў. Як ні дзіўна, у жудасных злачынствах летувісы пераўзыходзілі нямецкіх нацыстаў. Праяўлялі спрыт не абы які. Ого!

У бальніцы доктар Малецкі знайшоў патрэбных людзей; разам з імі перанеслі і распакавалі каробкі. Побач са старшай сястрой аказаўся доктар прыкладна аднолькавай з Язэпам паставы, ён вызначаўся кароткім і мяккім паглядам вачэй. Пры знаёмстве з Барысам назваў сваё прозвішча:

— Геніюш...

Ужо ў калідоры, калі Язэп Малецкі паказваў госцю асобныя палаты з хворымі на ложках, Барыс паўтарыў тое прозвішча:

— Геніюш... Штосьці знаёмае... чутае...

— Паэткі прозвішча...

— А-а, ёсць Ларыса Геніюш. У Празе жыве.

— Дык гэта яе чалавек.

— Што ты кажаш!

— Ермачэнку, які ў Менску беларускія справы ачольвае, чамусьці захацелася іх разлучыць. Ён сам прыехаў з Прагі і вытрабаваў Янку Геніюша на Беларусь. Пэўна, думаў, за ім і яна прыедзе, ды не... А Янка ціхі і пакорлівы чалавек, пры ўсім тым — спецыяліст выключны!

Яны ўвайшлі ў сталовую, дзе іх чакаў накрыты ў куце прадаўгаваты столік. Прыселі. Язэп пажадаў госцю прыемнага апетыту. Аднак той не спяшаўся з ядой, як што голад у яго быў не на першым месцы, дакладней, не такі вялікі, як прага заляцелага на Радзіму пачуць, што дзеецца тут, куды што хінецца, і якія перспектывы на Бацькаўшчыне.

— Ці вучыцца моладзь? Наогул, што чыніцца тут?

— У Баранавічах навучанне пастаўлена лепей, чым дзенебудзь на Беларусі. Працуюць шэсць або нават сем сярэдніх школ. Усе яны спецыялізаваныя. Апроч таго — розныя прафесійныя курсы... Савецкае падполле гэтай справе практычна не чыніць перашкод. Ёсць іншая небяспека: нямецкі агент, якому даручана вярбоўка маладой рабочай сілы ў Германію, не дабірае патрэбнага кан-

тынгенту і ходзіць з пастаянным галаўным болем. Арбайтсамт піша скаргі вышэйшаму начальству ў Баранавічах, і гэбітскамісар акругі Вернер ужо спакусіўся быў прыпыніць дзейнасць школ. Навучэнцаў хапалі і звозілі ў баранавіцкі табар, за калючы дрот, каб там ладаваць іх для адпраўкі цягнікамі ў Германію. Што далей было! Большая частка вучняў здолела разбегчыся. Беларусамі ў нашай і іншых акругах была ўзнята акцыя пратэсту супраць гвалтоўнага разбурэння беларускага школьніцтва. Айцец Леў Гарошка — дырэктар медычнай школы — больш чым хто пратэставаў, і яго арыштавалі. Нарэшце, не вытрымаўшы такога салідарнага супраціву, СД адступіла; нямецкая адміністрацыя нават дапамагла супакоіць бацькоў. Вучняў зноў сабралі ў школы.

Кусаючы і жуючы хлеб са скрылькамі каўбасы, Барыс Рамановіч уважліва слухаў доктара Малецкага. Той падабаўся яму сваёй шчырасцю і глыбокім энергічным паглядам вачэй. Барыса цікавіла, ці сталі немцы сапраўднымі прыхільнікамі беларускай ідэі, і ён спытаўся пра гэта.

Язэп пахітаў галавой:

— Не-не, мусіць, ім не хапае душы і розуму. У Беларусі, можа, адзіны, хто ставіцца за карэннага жыхарства з павагай ды шчыра імкнецца паспрыяць развіццю беларускай нацыянальнай ідэі, — гэта Кубэ, гаўляйтэр Кубэ. Але ж не ўсё і ад яго залежыць, тым больш, што службы СС і СД працуюць самастойна. У іх дагэтуль няма адзінай палітыкі для акупаванай Беларусі. Скажу нават болей: пасля нашага бунту супраць хапуна, палявання на моладзь, немцы насцярожыліся і пры дапамозе сваіх агентаў, пераважна выхаванцаў Акінчыца, сочаць за праявамі беларускага вызвольнага руху. Па тым, напрыклад, як нашы каталіцкія святары ў тэатры не ўсталі пры гучанні нямецкага гімна, агенты склалі версію аб існаванні сярод католікаў варожага ім англа-амерыканскага падполля. А нямецкі агент у нацысцкім мундзіры — Фёдараў прыдумаў пастку для нацыянальна свядомага беларускага супраціву. Ён добра ведае беларускую мову і, палка выступаючы супраць немцаў, агітуе беларусаў палучыцца з ягонай нібыта Беларускай незалежніцкай партыяй. Аднак цяпер гэта авантура наўрад ці будзе мець поспех. Пасля сталінградскай паразы ў немцаў ужо не хапае дыху на такія далёкаасяжныя гульні.

— А ў Менску ты, шаноўны доктар, бываеш?

Малецкі, напэўна, зразумеў, пра што і пра каго ягоны госць перадусім хацеў бы пачуць.

— Бываю...

І перш, чым гаварыць далей, ён глыбока ўздыхнуў, памаўчаў хвіліну.

— Няма там ужо айца Гадлеўскага... Мне не хацелася вас засмучаць. Ды яго няма, і я пра гэта вельмі шкадую. У канцы мінулага года мяне выклікаў у Менск спадар Ермачэнка. Ён прапанаваў мне пасаду галоўнага лекара Беларусі. Гэта — пры нашай Беларускай Самапомачы... А заадно і дырэктарства ў Менскай медычнай школе, якую меркавалася ператварыць у інстытут. Галоўным лекарам на той момант быў доктар Крайноў. Ён адмаўляўся ад свайго становішча. Я знайшоў Крайнова і, пагутарыўшы з ім, зразумеў, што ягоная пасада мала знача, што на справе ўсё вырашае Нямецкая адміністрацыя, а ён патрэбен хіба што для прыклёпу... Ермачэнка адпусціў мяне з Богам, і тады я зайшоў да Гадлеўскага.

Барыс прагна слухаў, як разгортваліся падзеі далей. Айцец Вінцук Гадлеўскі быў апошнім з тых беларускіх дзеячаў, кім ён захапляўся, а першымі былі прафесар Тарашкевіч ды памешчык Скірмунт. І, нібы адчуваючы важнасць моманту ў расказе пра Гадлеўскага, доктар Малецкі ўстаў і ў роздуме прайшоўся па пакоі.

— Я не чакаў, — сказаў ён, — што ў галоўнага інспектара ў памяшканні самапомачы на пляцы Волі будзе такі маленькі пакойчык. Калі я зайшоў, ён сядзеў за пісьмовым сталом і чытаў пры свечцы...

Барыс Рамановіч у сваім жыцці будзе яшчэ неаднойчы прыгадваць гэты расказ і перажываць яго з сумам і горыччу. Аднак ягонае ўяўленне ўжо малявала, як у пакой да Гадлеўскага ў вабную часіну ўвайшоў не той, хто распавядаў яму, — не доктар Малецкі, а ён сам, Барыс... Так-так, ён, Барыс, увайшоў і здзівіўся таму, які ў таварыша інспектара маленькі пакойчык, а за акном вечар і зазімак, за акном час цячэ і цячэ, і яго ніхто не можа спыніць або, скажам, адкруціць назад, каб чалавеку выправіць свае памылкі. Мудры сэрцам ойча чытаў пры свечцы, праўда, думкі яго луналі невядома ў якім часе і ў якой прасторы.

Барыс прывітаўся і спытаў:

— Як маецеся, ойча Вінцэнт?

— А вось, даражэнькі, сяджу, як мухамор атрутны, нікім не запатрабаваны, ад усяго адсунуты, нат электрыкі мне не даюць, спадар Ермачэнка адрэзаў...

— Ну а з чаго ўсё гэта? Няўжо вас узяў на свой нюх Сівіца, рыжы немец польскага паходжання, камісар па школьных справах?

— Узяў, а нашы яму дапамаглі. Маўляў, я дзесь там перавысіў свае паўнамоцтвы... Маўляў, я быў заадно са святарамі-каталікамі Неманцэвічам, Глякоўскім, Мальцам, каторых немцы расстралялі. Маўляў, я прытрымліваюся не нямецкай, а польскай арыентацыі... Якое глупства!

І круглая, як качан або свяцільнік, галава варухнулася, выяўляючы на твары прыкрасць.

— Няўжо свае таксама топяць сваіх?..

— Немец Фішар паказваў мне даносы, пісаныя Ермачэнкам і Касяком... Дый Янка Станкевіч праз сваю заўзятасць лётаў да Сівіцы і лепятаў там пра нашы справы зусім непатрэбнае.

Барыс Рамановіч жахнуўся ад пачутых ведамак, а ксёндз Гадлеўскі гаварыў далей:

— Кажу вам як на духу, усё сказанае праўда. Трэцяга дня я меў гутарку з немцамі, хіба апошнюю. Я сказаў ім адкрыта: што вы абяцалі даць беларусам перад вайной? А што далі ў ходзе вайны, га?.. Стрымліваючы нашу ініцыятыву, казаў я, вы пакінулі ў няволі беларускі народ, а мардуючы ваеннапалонных і палячы вёскі разам з людзьмі, стварылі партызаншчыну. Мы вас віталі з кветкамі як вызвольнікаў, а вы як нас патрактавалі? Цяпер я палітычны труп і не магу выступаць больш ад свайго і вашага імя перад беларускім народам.

— А яны што?

— Яны ўскінулі мне, што мая дзейнасць ідзе ўразрэз з нямецкімі інтарэсамі на ўсходзе. Развіталіся мы дужа холадна, і цяпер я мушу чакаць свайго арышту.

— Мо варта дзе схавацца, ойча? — прапанаваў Барыс у вялікім узрушэнні. — Я вам паспрыяў бы...

— Не ўжо, гэта не ў маім характары. З месца не зварухнуся. Усё ў волі Божай. Што будзе, то й будзе.

## 12

Барыс сядзеў за сталом ашаломлены пачутым тут, у Баранавічах.

— Вядома, Бог ёсць Бог, але не будзь і сам плох, беражы жыццё, дараванае табе аднойчы. Айцец Вінцэнт, — даводзіў з сумам доктар Малецкі, — быў у роспачы. Усё лепшае, на

што ён спадзяваўся, што песціў у марах і дзеля выбудовы чаго не шкадаваў сваіх сіл, энергіі, абрынулася. Ён не жыў дзеля сябе і пасля гэтага не бачыў сэнсу жыцця. Таму і не кратаўся. Я думаю, ён свядома застаўся, каб пахаваць сябе ў руінах мары, пад яе абломкамі. Неўзабаве Гадлеўскага арыштавалі. А праз нейкі час яго выслалі ў Рыгу, і адтуль ойча ўжо не вярнуўся.

— Шкада! — Барыс уздыхнуў.

— Гэта быў змагар высокага стылю. Такі яшчэ Родзька, ягоны паплечнік. У Віцебску бурмістрам працуе...

— Шкада святога чалавека!..

— Увогуле ў беларускіх акругах прасочваецца тэндэнцыя на вынішчэнне нацыянальнага квету. Гэтак жа загінуў Радзевіч, наш выдатны музычны дзеяч, дырыжор. Гэта адзін з тых, каго я выслаў з Вільні. Ён працаваў бурмістрам у Вілейцы. А ў Менску загінуў Казлоўшчык, рэдактар газеты...

Мне прыгадваецца, — казаў Малецкі, — як у Вільні мы разам з групай моладзі завярнулі да маўзалея Льва Сапегі. Усе стаялі моўчкі з апушчанымі галовамі. Тады, як бы на жаданне паломнікаў, Уладзімір Казлоўшчык пачаў ціха тварыць малітву: «Магутны правадыр народу нашага! Волат духу і аружжа! У рашучую часіну пакажы нам правільны шлях да волі і шчасця нашага народу! Памажы нам адвярнуць двухвяковы камень нашай няволі!» — «Памажы!» — падхапілі прысутныя.

Пасля такіх слоў апавядальнік і госць хвіліну маўчалі, як бы ўшаноўваючы памяць загінулых таварышаў. Затым Барыс Рамановіч, аднаўляючы ў памяці радкі з верша, пачаў чытаць:

Меле млын высокі,
На сівым вяку
меле нашу долю,
меле на муку!..

Млынары чужыя,
варожасць наўкруг,
адсяваюць сіты
беларускі дух.

— Такую кніжку Ларысы Геніюш — «Ад родных ніў», — казаў ён далей, — выдаў Беларускі нацыянальны камітэт у Берліне, і да яе нашы нявольнікі ў Нямеччыне вя-

лікую цягу маюць. Адно шкада, што наклад яе не такі вялікі, скажам, як у «Mein Kampf».

— Ого, чаго захацеў! Каб ручай ды ў акіян ператварыўся! Янка, дарэчы, паказваў мне жончыну кнігу. Ларыса пераслала яму... Па-мойму, гэта трапятанне дзіўнай птушкі ў клетцы. І назва — назва птушкі — душа народа. Але ж — дзівак гэты задоктараны Янка. Ніякага ўзрушэння ад вершаў. Падобна, ён не разумее, з кім і з чым мае справу!

Падзякаваўшы доктару за сняданак, Барыс паглядзеў на ручны гадзіннік, у яго яшчэ было каля трох гадзін вольнага часу да адпраўлення цягніка, якім ён збіраўся паехаць да сваіх бацькоў.

— Тады пойдзем, — прапанаваў яму Малецкі, — я прадстаўлю цябе бурмістру Юры Сабалеўскаму. О-о, гэта неардынарны чалавек, землямер — у мінулым, канешне, а яшчэ супрацоўнік «Нашай нівы», выдатна праявіў сябе на беларускай справе, за што і сядзеў багата ў якіх турмах, быў дэпутатам польскага сейма. Гэта ён, дарэчы, у размове пра Вінцэнта Гадлеўскага расказаў мне адну прытчу. Паслухай-ка... Аднойчы заслужаны перад Богам і людзьмі айцец невядома як забраўся ў балота. А твань — вышэй калена. І ён моліць Усявышняга: «Божанька, памажы! Я ж так шчыра служыў табе!»

Неўзабаве едуць пажарнікі, бачаць святара: «Ойча, памагчы табе?» — пытаюцца. «Не, не трэба. Мне Бог дапаможа!» І зноў моліць Бога, а твань яму ўжо да пупа. Едзе другая каманда пажарнікаў: «Ойча, памагчы табе?» — «Не, не трэба. Мне Бог дапаможа». А дрыгва ўжо да горла. «Божа, памажы мне», — хрыпіць. Вяртаюцца назад пажарнікі: «Ойча, памагчы табе?» «Не, кажа, дзякуй. Мне Бог дапаможа». Вяртаецца другая каманда пажарнікаў, а на месцы святара адны бурбалкі. На тым свеце пытаецца ойча ў Бога: «Міласэрны і літасцівы, чаму ж ты мне не дапамог?» — «А чаму ж ты, — кажа Бог, — праявіў гардыню і адмовіўся ад помачы, калі я пасылаў да цябе пажарнікаў?»

— Цікавая прытча! — з сумнай усмешкай зазначыў Барыс.

— Але ж... Сабалеўскі ўвёў у цэрквах і касцёлах акругі беларускую мову. Любіць і прапагандуе гісторыю. Прыхільнік строгага парадку на службе і, між іншым, — па нейкай там аўстра-прускай сістэме — увёў штрафы для сваіх супрацоўнікаў; напрыклад, увайшоў у гарадскую

ўправу, не скінуўшы шапку, — 5 марак штрафу; спазніўся на працу — 10 марак; прыйшоў нападпітку — гэта небяспечна наогул... Я паведаміў яму аб вашым прыездзе. Ён прыме... А потым, калі будзе жаданне, я пакажу вам нашы школы, мастацкую, ткацкую, і — абавязкова — выставу, якая месціцца ў некалькіх будынках. Усіх уражвае творчасць народных майстроў і майстрыц. Што там — выказаць нельга! Трэба пабачыць. А, зрэшты, паколькі вы з Моталя, можа, вам усё тое і знаёма. Прыгадваю показку, якую чуў падлеткам. У нас казалі: «Кажухі для Пілсудскага шыюць у Моталі, а боты — у Давід Гарадку». Ці праўда гэтак было?

— То пэўна! — з гонарам за сваё мястэчка пацвердзіў Барыс Рамановіч. — А яшчэ нашы рыбу вазілі ў Польшчу. І каб рыба ў дарозе не псавалася, ведаеш, што прыдумлялі? З вады выцягнуўшы, паілі гарэлкай.

— Геніяльна!.. А дзе ты да немцаў ў палон патрапіў?

— Пад Варшавай...

— Го! Я ў той час таксама быў там. За лекара ў Валоміне.

— А я ў Пясочным і, калі наш эскадрон памкнуўся ў Гуру Кальварыйскую, каб перасекчы рух немцаў на Варшаву, па нас так стукнулі, што ўсё з трэскам пасыпалася. Я быў, на шчасце, толькі кантужаны...

На бальнічнай машыне пад'ехалі да чырвонага муру ў два паверхі. Бурмістр Сабалеўскі сустрэў гасцей у сваім кабінеце і пасля знаёмства і кароткай размовы давяральна паведаміў пра новыя накаты нямецкіх паліцэйскіх службаў на беларусаў.

— Няхай Бог крые, — казаў ён, — але чарговай ахвярай можа стаць і Ермачэнка, кіраўнік Беларускай Народнай Самапомачы. Ужо СД пачало капаць пад яго. Праўда, Ермачэнку пакуль што бароніць гаўляйтэр Кубэ, балазе супраць волі гаўляйтэра беларускі лідэр нічога, бадай, не рабіў.

І на сцішанай ноце спадар Сабалеўскі дадаў:

— Таксама, як і святар Гадлеўскі.

У бурмістра Сабалеўскага, дарэчы, было шмат падабенства з Гадлеўскім. Абодва камлюкаватыя, круглагаловыя, лысыя! Юрыга (так звалі ў бліжэйшым атачэнні Сабалеўскага) узбоч лысіны меў кароткі ёршык серабрыстых валасоў і яшчэ мізэрны лапік таго ж срэбра пад носам. На шырокім, бы тая карта-аднавёрстка, лбе і між бровамі ў яго ляжалі ўпартыя складкі, адпавядаў ім і валявы падбародак з прыямкам па цэнтры.

— А Кубэ — такі чалавек, што, каб яму не шкодзілі ОМі, СД, СС, ён проста выканаў бы ў Беларусі праграму паводле БНР.

— Няўжо?!

— Але ж...

— Я раскажу пра яго ў Нямеччыне сваім сябрам па няшчасці.

— Раскажы... Такі чалавек.

— То ці не мелі б вы ласку распавесці мне больш пра пана гаўляйтэра?

— А мы для цябе, браце, газеты падбярэм, я даручу сакратарцы; Кубэ ахвотна працуе з прэсай, і ў газетах раскрываецца ягоная дзейнасць. Дарэчы, — бурмістр пацягнуў на сябе верхнюю шуфляду стала і ўзяў у рукі тоўсты сшытак, пацёрты, у лілова-сіняй вокладцы. — Я тое-сёе занатоўваў... Асобныя яго выказванні, свае назіранні або думкі наогул.

— Прабачце, патлумачу госцю, — уступіў у размову доктар Малецкі. — У спадара бурмістра, апроч усяго, чым ён валодае, ёсць адна прыхамаць — вывучаць дасканала кожнага больш ці менш адметнага суайчынніка і не толькі... Ён скурпулёзна — зёлка да зёлкі — збірае і занатоўвае факты іх біяграфій; па ўчынках вызначае характары.

Сабалеўскі кіўнуў у знак згоды і прыязна ўсміхнуўся:

— Свайго роду бухгалтэрыя, знаеце. Колькі і якіх якасцей той або іншы мае. Малы чалавек — малы клопат, большы чалавек — большы клопат. Мне б, скажу вам, на тым свеце з гэтым сшыткам у Бога за асістэнта быць.

— Брава!

— У самы раз...

Барыс і Язэп Малецкі зарагаталі.

— Вы сціплы чалавек, спадар Сабалеўскі!

— Як беларус я ні на што больш не прэтэндую.

— Калі там, у царстве Божым, спатрэбіцца, мы вас падтрымаем. Язэп, скажы...

— Аднак, што гэта мы пра тое царства загаварылі? — няйначай, апомніўся Юрыга: — Бога лепей мець у жыцці.

— Слушна таксама.

— Я, відаць, папрашу... папрашу, — бурмістр раздумваў, гартаючы сшытак, — папрашу машыністку, каб яна выдрукавала асобныя бачыны для госця.

— Я буду вам вельмі ўдзячны! — запэўніў Барыс.

Раскошны кабінет спадара бурмістра быў аснашчаны дыванамі мясцовага вырабу, якія віселі на сценах і ляжалі на падлозе. Адну сцяну ўпрыгожвалі тканыя партрэты беларускіх нацыянальных дзеячаў — Вітаўта, Льва Сапегі, Кастуся Каліноўскага...

Барыс Рамановіч, супакоіўшыся пасля жартаў, доўга вывучаў дробныя зморшчынкі ля вачэй на энергічным твары бурмістра перш чым спытаць:

— Як жа вам бачыцца мажлівае развіццё падзей? Пры ўмове, што савецкая армія будзе нарошчваць свой поспех?

Сабалеўскі скрушліва паціснуў плячыма, але разгубленасці ў яго не было:

— Таўкач муку пакажа!

— І усё ж...

— Цяпер, пасля сталінградскай паразы, у немцаў поджылкі затрэсліся. Стаіць пытанне: хто каго? Народ чакае...

— На чыім баку народ?

Загадкавая ўсмешка бурмістра:

— У адным слове тое не выкажаш. Немцы — нашы ворагі? Пэўна!.. А хто такія савецкія партызаны? Што яны нясуць? За што добрае змагаюцца?.. У Слонімскай акрузе, напрыклад, за восем месяцаў сорак другога года партызанамі знішчана 111 немцаў і 823 мясцовыя жыхары, 36 паліцаяў. Багата людзей паранена... У нас такога пакуль не было. Цьфу-цьфу! Кажуць, на ўсход ад нас партызаны больш паважліва да насельніцтва ставяцца. Магчыма... Я з-за польскіх часоў ведаю, што народ хацеў бы спакою, долі ды волі. Але хто ўсё гэта яму дасць?

— Толькі свая ўлада!

— У прынцыпе — так! Ды няма таго... Народ мае зямлю. Зямля сумуе па гаспадару. А гаспадар — пад канвоем!.. Не тэй піва п'ець, хто варыць. Іншыя... Нябось, у Нямеччыне не так?

— Інакш... Але чужына салдата не грэе! Там нашы людзі сумуюць па сваёй зямлі і мове, па сваіх крыжах.

— Вядома, шчасце: калі паветра, зямля, людзі — усё сваё.

— Асабліва — крыжы! — усміхнуўшыся, уставіў свой грош у размову доктар Малецкі.

— Так... І крыжы... Свае... А народ, глядзі, якія дываны тчэ, дый партрэты тых, каму мы годнасцю, гонарам сваім абавязаны! — Гаспадар узняўся са свайго месца за

сталом і прайшоў да сцяны: — Свае таленты, свае песні... Братка мой, спадар Рамановіч, у нас ўсё-ўсёсенькі сваё, толькі мы не свае!

— Край забраны, — падаў Малецкі.

— І — двойчы, тройчы забраны край, ліха матары!..

— Дык на што ж тады компас нашага лёсу паказвае? — Барыс яшчэ раз паставіў як не рытарычнае пытанне.

— Адкажу... Паколькі мужык увогуле багаты на думкі, то і тут яны ёсць. — Сабалеўскі зрабіў паўзу, пэўна, асэнсоўваючы тое, што ведаў. — Скажу так: ёсць тры меркаванні або погляды на рашэнне беларускага пытання. Першы: у разлік, як і раней, бярэцца перамога Гітлера ды ягоная спагада тутэйшаму люду, тая спагада, якая ўвасабляецца ў нас пакуль што выключна ў асобе гаўляйтэра Кубэ; шкада, але не ўсе ў нацысцкім рэйху яго падтрымліваюць, і яго могуць таксама з'есці... Другое меркаванне: Гітлер нясе вялікія страты і вайну прайграе; тады беларусам, якія даўно церпяць каланіяльны ўціск, памагаюць уваскрэснуць саюзнікі, іх у нас прынята называць аліянтамі, — Англія і ЗША... А ці захочуць яны?.. Няпэўнасць і тут.

— Каму не вядома, — зазначыў доктар Малецкі, — што з сярэдзіны трыццатых гадоў палякі праглі вайны з Гітлерам. Яны былі ўпэўнены, што пры падтрымцы аліянтаў разаб'юць Гітлера і забяруць ад Германіі Гданьск. А што атрымалася?..

— Пшык!

— Нарэшце, трэцяя апінія, якой не пазбавіліся некаторыя прасветленыя галовы, — доўжыў бурмістр Сабалеўскі, — саюз з Польшчай на ўмовах, якія былі за царом Гарохам, гэта — змаганне разам з Арміяй Краёвай за адзіную федэратыўную дзяржаву. Сёй-той, я адчуваю, гатовы пайсці на сепаратысцкія перамовы з польскім урадам у Англіі, і, пэўна, пойдзе, але, ведаючы настрой, а галоўнае — пыху палякаў, чый розум затканы Рыжскай дамовай, я не думаю, што з імі можна будзе кашу зварыць, прынамсі, не страчваючы ўласнай годнасці... Такі-та ўзор думак у спадарстве снуецца, — падсумаваў Сабалеўскі. — Дарэчы, я дапускаю, што ў СД пранюхалі аб пэўных сепаратысцкіх настроях, асабліва ў асяроддзі католікаў. Адсюль і тарнаванне духоўных асоб, ксяндзоў... Ім паставілі ў віну перад рэйхам англа-амерыканскія або прапольскія (хутчэй за ўсё ўяўныя) змовы і сувязі.

...Са складаным набыткам у душы пакідаў Баранавічы Барыс Рамановіч. Ён быў перапоўнены гордаю радасцю за людзей, з якімі давялося сустрэцца, і вострым жалем, тугой па тых, каго ўжо няма. Асабліва прыгнечвала страта Гадлеўскага, якога ён уведаў і палюбіў за прагу ў служэнні беларускай ідэі. Цяпер непакоіла думка аб запозненым прасвятленні розуму і горкай расплаце найбольш годных сяброў беларускага руху за свой давер да ліхадзеяў. Падмуркам жа для тае ліхтугі было яго, Барыса, асабістае зманлівае пачуццё ўсёпераможнага шэсця нямецкага каванага бота па Еўропе. Цяпер ужо загнанай у кут выглядала надзея адстойваць, бараніць і песціць у зменлівых умовах нацыянальны гонар і інтарэс беларусаў.

У Моталь ён трапіў надвечар. А там, у мястэчку, знешне, бадай, мала чаго і змянілася, калі не лічыць абгарэлага будынка гміны, падпаленага партызанамі, ды яшчэ разабранай і знесенай царкоўнай агароджы, мураванай, масіўнай, за якой хаваліся партызаны, калі нападалі на гміну. Цяпер будынак гміны ўлады спрабавалі адрамантаваць і атарочыць яго ўкруг ахоўнай траншэяй.

У сядзібе Пісарчукоў — аніякіх змен наогул. Разам з тым, у абліччы яго жыхароў, родных, блізкіх, праглядваліся новыя рысы і адзнакі паводзін. Бацька Барыса стаў больш строгім і замкнёным, маці — слава Богу, ёй бытта нічога не адыходзіла, а жонцы Ганне і пагатоў, яна, відаць, брала сваёй цягавітасцю, мела надзею на лепшыя дні і вабіла непазбыўнай аржаной маладосцю і жвавасцю.

Ад бацькі Барыс адразу даведаўся пра ягоную скруху — страту пасекі. І яму перадалася скруха, балюча рабілася — у ліхім надарэнні былі не толькі матэрыяльныя страты:

— Веш, — ва ўсмешцы старога чыталіся сум і лёгкі кпін над сабой, — з мяне як душу вынулі. Больш за год мінула — няма супакою. Так прывык да іх, і яны на мяне ўважалі. Такія дбайныя, арганізаваныя і адухоўленыя істоты. Маюць свой, няйначай, калектыўны розум. Мусіць, тое, да чаго, паводле Вярнадскага, чалавецтва павінна прыйсці. Чытаў я перад вайною ў газетах, што калектыўны розум павінен скласці адзіную разумовую прастору... Такое ў вайну яму не прыйшло б у галаву. Вайна розум нішчыць.

Барыс слухаў, пагаджаўся і не ведаў, чым развеяць бацькавы гаркавыя думкі.

Шкадобу да сябе выклікаў брат Паўлюк. Ён схуднеў, а ў куточках губ, якія раней утойвалі вясёлую змысласць, залеглі іранічныя складкі. Яшчэ больш нервовай, з'едлівай, крыклівай зрабілася ягоная жонка Зося, якой белы бусел незнарок падкінуў ужо трэцяе дзіцё ў прыпол.

Паўлюк, як і раней калісьці, зайздросціў Барысу, яго ўзмужнелай паставе, волі, свабодзе, магчымасці пабачыць і асэнсаваць свет. На гэты раз, праўда, Паўлюк чужаўся брата, нібыта той быў вінны перад ім у нейкай непамыснай брыдоце. Паўлюк унікаў працяглых сустрэч і гутарак з ім. Прызнацца, і ў Барыса на гэты раз часу не ставала на працяглыя размовы з роднымі, бо рупіла далейшая дарога, але ж, паклаўшы руку на плячо Паўлюка, ён зазірнуў яму ў вочы і паспрабаваў выклікаць на шчырую размову:

— Скажы як брат брату, якая хвароба цябе гняце?

— А ты што — доктарам стаў?.. Калі доктар, то сам павінен вызначыць, якая хвароба, — Паўлюк састроіў кіслую міну.

— Я не доктар... Няхай ужо дзеці нашы будуць дактарамі! Што, скажы, у цябе?

— Бязладдзе ў думках, нейкая млявасць, абыякавасць да жыцця — хвароба, якая звычайна апаноўвае чалавекам з пахмелля.

— Ты ўсё жартуеш?

— Прымай за жарт... Зрэшты, чаму б нам і не строіць жарты ад вясёлага быту, разі яго ў качарыжку! Няхай ворагі нашы плачуць!..

Паўлюк хаваў свой боль. Па прыездзе Барыса ён папрасіў бацькоў, а таксама Ганну, як, пэўна, і Зосю, не распавядаць брату пра здзек і ганьбу, якую грэшным чынам перанёс тут і якая да гэтага часу яму азмрочвала жыццё.

Маці ж аднолькава любіла абоіх сыноў, але цяпер перажывала больш за малодшага, як што яму на долю выпалі нялюдскія пакуты. Не вытрымаўшы, яна паведаміла Барысу пра надарэнне ў доме на сходзе зімы, калі Паўлюка дубасілі шомпаламі. Барыс слухаў яе, сцяўшы зубы ад крыўды і іншых варушлівых і нядобрых пачуццяў у сваёй па-грамадзянску наструненай і чулай душы.

Маці прыгадала таксама, што ў Пятра напачатку быў намер падаць скаргу на бандытаў камандзіру партызанскага атрада, якога ён ведаў. Але потым усё нейк перайначылася, дый Паўлюк не раіў скардзіцца супастатам, каб не наклікаць большай бяды.

Барыса тым часам зацікавілі акалічнасці знаёмства старога з камандзірам лясных ваяроў — знаёмства, якое здавалася яму неверагодным. Толькі ж бацька пацвердзіў: так, як ні дзіўна, напрыканцы мінулага лета партызаны запрасілі яго ў лес на стрэчу са сваім камандзірам Баравіком. Гаспадар Пятро ламаў галаў у здагадках, што здарылася, — не ведаў і не мог даўмецца, дзеля чаго яго запрашаюць. Наважыўся-такі ехаць, як што быў чалавек не горды. Паехаў на возе, запрэжаным канём, з думкай, што заадно назбірае ламачча на дровы.

Калі ён быў у прызначаным месцы, да яго пад'ехалі трое верхавых, яны спешыліся пад дубам, і той, каторы быў наперадзе — у афіцэрскім мундзіры, малады, бялявы, — працягнуў яму руку:

— Мар'ян Баравік... Гэта я, прабачце, на вас хацеў паглядзець. Вы здзіўлены?

Пятро спаважна пацягнуў носам паветра ды выдыхнуў, пры гэтым сціпла ўсміхнуўся:

— Бывае і большым здзіўленне, ды рэдка.

— У вас ёсць знаёмы, якога завуць Мэндаль?

— Быў... А-а што? — і зноў загадка; сэрца занепакоена білася.

— Дык ён мне з захапленнем расказваў пра вас. Казаў, што вы чалавек жывога і дабраслаўнага розуму...

— Ды што вы!.. Выпадковы знаёмы... Жыў-быў, працаваў на ваенным аэрадроме — гіцаль. Як у пельку праваліўся за дзень да вайны. Па ім ужо памінкі справілі... Дзе ж ён цяпер?

— У ганцавіцкіх лясах я сустрэўся з ім. Ён падышоў да мяне, калі пачуў, што наша група накіроўваецца ў Моталь. Папрасіў знайсці вас і перадаць ад яго шалом.

— Дзякуй... Але што ён там робіць?

— Што даручаць. У асноўным, казаў, працуе пры штабе брыгады як перакладчык — гэта калі партызаны немцаў возьмуць у палон.

— Гм... Зноў пры штабе? — здзіўлена перапытаў Пісарчук.

— Так... Але вы не крыўдуйце, што з-за Мэндаля я вас патурбаваў. Цікава было на адукаванага селяніна паглядзець. Чуў, дарэчы, што ваш сын прыязджаў з Германіі...

— Так, прыязджаў на пабыўку. Адно служыць ён там не немцам, а нашым, што раней у палон трапілі.

— Спадзяюся, вы не абыдзеце ўвагай нас, калі што...

— Я не абыходжу ўвагай нікога, прабач, хто не носіць у душы злога намеру і не знішчае, да прыкладу, пчол. Калі вы знішчаеце адвечны творчы пачатак, вы ад д'ябла.

— Каго вы маеце на ўвазе? — не цяміў камандзір Баравік. — Народ, сялян, сябе?..

— Усіх... Не мною прыдумана: пракляты той народ, які не ведае права. Тым больш — на жыццё...

Гаспадар Пятро перадаў сыну Барысу змест гэтай размовы з больш разгорнутым тлумачэннем пра Мэндаля і зазначыў:

— З Баравіком мы ўвогуле разышліся мірна. Адно пасля той стрэчы мяне пачало займаць: каму ж усё-ткі служыць купец Мэндаль, уцякач з-пад Хелма?..

— Цікава, — пагадзіўся Барыс. — Ды чужая душа — поцёмкі.

Вечарам наступнага дня, па прыездзе Барыса ў Моталь, да Пісарчукоў прыйшлі Мікалай і Павел Міховічы — браты Ганны і Зосі. Неўзабаве ўсе пяцёра малойцаў заселі за гарбату ў сталовай, толькі ні мёду, ні цукру ў сядзібе больш не было, таму гарбату смакавалі з сахарынаю, якую гаспадыня Аксіння хавала пад маснічынай у сенях. Лічылася, што ў іх там мужчынская размова, чаму жанкі ўстрымаліся ад удзелу ў спаважным чаяванні мужыкоў, Маня — таксама, хоць ёй край як карцела паслухаць, пра што ж там у гурце з яе бацькам і дзедам гутарка пойдзе. Яна саромелася без астатніх папхнуцца туды, і не дзіва — разам са сталасцю ўцінаецца сорам.

А Манін бацька дзяліўся ўражаннямі ад дарогі і свайго гасцявання ў Баранавічах.

— Па-мойму, — казаў ён, — у беларускіх акругах мы маем удалую спробу ладавання асноў беларускай дзяржаўнасці — мясцовага самакіравання пад наглядам фашыстаў. Шкада, але колькі стагоддзяў ужо беларусы не могуць кроку ступіць без наглядчыкаў і апекуноў: то палякаў, то расейцаў, то немцаў... І паны польскія здавён даўна лічылі нас за людзей другога гатунку, на вуснах у іх заўжды было слова «быдла» ў дачыненні да нас. Вы ведаеце... Масквіты, напроці, лічылі нас за племя ваяўнічае, непадуладнае ім і больш культурнае, больш дасціпнае. Мы пастаянна выклікалі ў іх зайздрасць, помслівасць, варажнечу. Толькі забраўшы землі Вялікага княства Літоўскага ў Рэчы Паспалітай, расейцы, па прыкладу палякаў, пэўна, таксама пачалі ўважаць нас за статак авечак і заба-

ранілі нам людзьмі-беларусамі звацца. Падзеі па Першай сусветнай вайне давалі нам шанц адрадзіцца ў дзяржаве, але мы не паспелі гэта зрабіць, як Беларусь разарвалі на часткі. Тры гады таму, праўда, зноў аб'яднālі ў складзе саўдэпіі. Але ж БССР не была самастойнай краінай, хоць юрыдычна на самастойнасць і прэтэндавала. Яна была рэзервацыяй для папаўнення савецкіх канцэтрацыйных лагераў. Нацыянальную інтэлігенцыю знішчылі, каб не было каму яшчэ раз паказаць народу сапраўдны шлях да волі і шчасця.

Усё гэта Барыс выдаў на адзіным дыханні, і ссівелы бацька ад здзіўлення ажно рот раскрыў. Дзіву даўся не таму, што Барыс у сваёй прамове адкрыў для яго штонебудзь новае, чаго ён не ведаў, не-е, дзівіла і ўражвала Пятра Пісарчука тое, як добра яго старэйшы валодаў фактамі мінуўшчыны і з якім імпэтам вымаўляў «мы» там, дзе мыслілася «літвіны», «беларусы»... З усяго пачутага Пятру падалося, што Барыс набыў, а дакладней, развіў у сабе нейкія новыя якасці. І ён мог парадавацца за Барыса, балазе прыгадваліся словы Рамана Скірмунта, якія той сказаў яму на развітанне незадоўга да сваёй смерці. Канешне, словы тыя цяпер успрымаліся як запавет: «Няхай твой сын акажацца жывым і здаровым і няхай твае дзеці і ўнукі не пройдуць абыякавымі па Бацькаўшчыне. Гонар і дух продкаў абавязваюць уз'яднаць, аднавіць, адрадзіць літвінскі край беларусаў. Павек вякоў!»

Павел і Мікалай Міховічы слухалі Барыса з узрушэннем таксама, у глыбіні душы ў іх, праўда, таіўся і непакой. У Паўлюка ж на твары знікла іранічная ўсмешка — адно заставалася чаканне, што Барыс скажа далей.

— Сярод немцаў, як, дарэчы, і рускіх, не ўсё эсэсманы, не ўсе маскалі, якія не разумеюць нашых нацыянальных клопатаў, — доўжыў Барыс. — Да беларускіх патрыётаў, гэта значыць, людзей, якія стаяць за выбудову беларускай дзяржаўнасці і адраджэнне культуры, можна смела аднесці і паэтку Наталлю Арсенневу, якая пераехала з Вільні ў Менск, хоць па паходжанні яна і не беларуска; аднесці немца Вільгельма Кубэ — не дзівіцеся, таго самага Кубэ, які працуе гаўляйтэрам Беларусі. Я вам да прыкладу назваў прозвішчы.

— Дзякуй, парадаваў сваімі прыяцелямі, — няпэўна ўсміхнуўся Паўлюк.

— Неяк усё нечакана... Нечакана і надта супярэчыць таму, што камсамольцы, да прыкладу, па радыё слухаюць,

асабліва пра Кубэ, — падаў у жывым утрапенні Павел Міховіч.

— Дай твой лоб, — працягнуў руку да Барыса Паўлюк, — памацаю, ці не ўзяў ты лішку якой злыбяды, калі хадзіў да мотальскага бурмістра Ксёнды.

— Лоб — што ў буйвала! Цвёрды...

— Усё гэта вымагае свайго асэнсавання, — у працяг размовы зазначыў дыпламатычна Мікалай Міховіч.

Пятро Пісарчук з цікаўнасцю ўспрыняў стаўленне сына да Кубэ як да беларускага вялікага прыяцеля. Праўда, падумаўшы, ён таксама знайшоў прыклады дабраслаўнага чыну «чужых» людзей і на месцы, у Мотале:

— Не трэба далёка хадзіць... Нядаўна я панёс боты ў папраўку шаўцу Грыжы, а той і расказвае. Прыйшоў да яго партызан у пасталах і выбачліва і пашанотна гэтак пытаецца, ці не зрабіў бы шавец яму ласку, зладзіўшы боты... «Пашыць можна, — адказвае, — калі ты заначуеш у мяне, як што два дні боты шыць давядзецца». — «А чаму абавязкова ў цябе начаваць?» — пытаецца той у пасталах. — «Таму, — кажа, што як ты пакінеш мяне, прыйдзе нейкі смятаннік і забярэ ў мяне боты». Госць не зразумеў закіду шаўца наконт «смятаннікаў», і Грыжа папулярна яму растлумачыў, што так у Мотале завуць мясцовых партызан. — «Не, не можа быць, — запярэчыў прыхадзень. — Каб партызаны ды боты без дазволу ўзялі!» — «Го! — усклікнуў Грыжа: — Мілы чалавек, па табе і па мове тваёй бачу, што ты з атрада Цвяткова. Ці не так?.. Ага!.. А нашы партызаны з плячэй у маладзіц нават хусткі зрываюць! Давай здымем мерку...»

І далей Пятро Рамановіч патлумачыў Барысу, што атрад Цвяткова ўтвораны з рэйдава-дыверсійнай групы дэсантнікаў, закінутых на іхні палескі абшар з Масквы:

— Там хоць і не свае, але больш далікатныя людзі...

— Гм... Бачыце, тыя годнасць маюць. Шкада, але ж гэта не нам у заслугу. Увогуле ваенна-палітычная сітуацыя пакуль не паказвае, што беларусу што-небудзь добрае свеціць. Сумна, — доўжыў Барыс, — толькі ў Гітлера на тым месцы, дзе павінна б ляжаць палітыка ў адносінах да Беларусі, вецер гуляе, і незалежныя ад Кубэ службы ўжо прыступілі да вынішчэння найбольш самавітых і смелых нацыянальных дзеячаў. Таму правільна казаў бацька, — Барыс кіўнуў на старога, — хто б ні перамог у гэтай вайне, а беларусам ярма і нацыянальнай сячкарні не мінаваць!

Беларусу для шчасця патрэбна ўлада над самім сабой. Улада, якой няма. І таму тут свой свайму вораг...

«Ага, — змысла маргнуў Пятро Пісарчук. — Ты ўжо нешта ўцяміў?.. А тады, як выступаў з прамовай у царкве, цябе нішто не бянтэжыла... Паразумнеў, значыцца!..»

Пісарчуку карцела яшчэ раз кінуць папрок сыну Барысу, але ж, паколькі прыгода ўжо ўдаўнела, падумаў, не варта тое зноў варушыць.

У гэты момант Маня ўсё ж прарвалася ў сталовую, дзе ішла гамана.

Баба Аксіння перакінула ў каструлю з чыгунка галушкі на малацэ і даручыла ёй занесці і прапанаваць застоллю. А пакуль унучка завіхалася там у сваіх паслугах кожнаму, бяседа ішла сваім ходам.

— Барыс, — падаў голас ягоны швагер Павел, — я, і ўсе мы тут, маталяне, далей ад высокіх улад і палітыкі. Таму мае думкі ідуць у практычным кірунку: лепей мець аднаго ворага, чым двух або болей. Мы з Мікалаем трохі бліжэй да камсамольцаў і падзяляем іх настрой: немец — вораг, і трэба гнаць яго туды, адкуль ён навалокся. Але ж нашы камсамольцы заплюшчваюць вочы на тое, што і партызаны — не мёд для душы. — Для многіх яны сёння ваўкі ў авечай шкуры. Яшчэ страшнейшым для сялян будзе калгасны прыгон, калі вернецца. Я ўсведамляю... А цяпер — мы заложнікі няпэўнай акупацыйнай палітыкі.

— І — тэрору, — дапоўніў швагра Паўлюк, — тэрору рознай лясной швалі. З усіх нас ты, Барыс, адзіны, хто не ў пастцы, а — над гэтай пасткай, дзякуючы таму, што стаў палонным і жывеш у Германіі... А мы забраныя на сваёй зямлі!

І тут Мані выразна прыгадаўся выпадак, як яна з маці насіла на ваеннае лётнішча пад Моладавам харчы для зняволеных і як адзін з вязняў перадаў ім у скручанай паперчыне верш.

Папарадкаваўшы каля гасцей, яна вярнулася на кухню да бабы і маці, дэкламуючы ўголас:

Жыве наш народ, бы гарох пры дарозе,
Прасвету не бачыць у гэтым жыцці...

— Ты што, доча?..

— Мам, а помніш вязня на лётнішчы, які перадаў нам верш?

— Чаму ж не помніць? Помню!

— То мне той верш прыгадаўся... Чаму? Там у дзеда вядуць рэй пра вайну і палітыку.

— О-о, іх хлебам не кармі... Дый цябе гэта не абыходзіць таксама.

Адно там, слухаючы малодшых, дзед ківаў здаволена:

— Вы мае думкі выказваеце? О, Божа! — перахрысціўся. — Зрабі так, каб дзеці, якім ты даў жыццё, сумелі пе-ратварыць тугу сваю ў радасць!

І далей гаспадар Пятро патлумачыў: паводле святога Яна, Хрыстос прыводзіў прыклад таго, як сум ператвараецца ў радасць. Цяжарная жанчына, калі набліжаецца час ёй раскідацца, тужыць, што прыйшла гадзіна яе, але, калі народзіць дзіцё, ад радасці ўжо не памятае тугі, бо нарадзіўся чалавек на свет. Тое ж, — казаў Пісарчук, — і з грамадствам.

Размову зноў падтрымалі швагры:

— Сказаць шчыра, мы ўжо ведаем цану таму, што было; бадай, не па падручніках, а па турэмных лагерах вывучылі і вывучаюць маталяне расейскія прасторы. Мы, Барыс, таксама аддалі б перавагу Айчыне сваёй, яе адраджэнню. Але хто скажа, як скінуць апеку, якая чыніцца зброяй?

Гэтак, пасабляючы адзін аднаму, паставілі пытанне Мікалай і Павел.

— Нейкія шанцы яшчэ застаюцца, — адказваў Барыс, — хоць яны няпэўныя і не ў нашай акрузе. Дарэчы, у Баранавічах мяне парадавалі іншыя камсамольцы — сябры Саюза беларускай моладзі. Самая масавая ў беларускіх акругах і варушлівая арганізацыя! Я меў задавальненне сустрэцца і пагутарыць з імі на выставе народнай творчасці, там жа. Хлопцы маюць добры дух і настрой, яны маюць належныя веды па гісторыі і літаратуры, ведаюць Купалу, Коласа — не толькі Арсенневу... У іх фізічная і ваенная выпраўка, усе носяць сінюю прыгожую форму. Арыентацыя — вальчыць за незалежную Беларусь. От куды і мотальскай моладзі варта было б падацца! Чаго варты вершы, якія яны чытаюць адзін аднаму:

Не здамося ліхой крутаверці,
Бо дубы мы, а не бадылі,
Нам не скажуць сыны перад смерцю,
Што чужынцам мы Край прадалі.

У сваяцкай бяседзе чулася поўнае ўзаемаразуменне і яднанне добрых патрыятычных пачуццяў, а яшчэ больш — тугі.

Барыс ад'язджаў з той жа тугой у Нямеччыну. У яго-най душы смылела і білася прадчуванне, што ён назаўж-ды страчвае родны край.

## 13

Які птах, заляцеўшы ў тыя гады на Беларусь, не вынес адсюль яскравае і моцнае ўражанне ад навальнічнага шалу. Па гэтай зямлі ўздоўж і ўпоперак, злева направа і справа налева, паўсюль кружылі і гойсалі страхалюдныя віхры, і яны пілі чалавечую кроў.

У падзеях, якія адбываліся на разадраных і паняволе-ных беларускіх абшарах, найзначную ролю адыгрываў стаўленік акупацыйных улад, нехта Вільгельм Кубэ. Пры-чым, адны бачылі ў ім злейшага ворага, для другіх, наад-варот, ён быў прыяцелем. Часам дзейнасць ягоная акурат палягала ў рэчышчы карэнных інтарэсаў народа, і гэта акалічнасць захапляла і дзівіла багата каго. Дзівіла тое, што Кубэ быў немцам. Да таго ж, казалі, ён быў сябрам Гітлера, і Адольф Гітлер асабіста прызначыў яго на Гене-ральную акругу Беларусь. Але ж у навальнічнай сімфоніі, дзе рэй вялі сем дырыжораў і ўдзельнічала невядома колькі аркестраў, партыя Кубэ не заўжды была асноўнай.

Цікаўнасць Барыса да гэтай асобы можна было параў-наць з ягонай ранейшай цікаўнасцю да прафесара Тараш-кевіча або — пазней — да ксяндза Гадлеўскага, і ён шка-даваў, што лёс ніколі, пэўна, не звядзе яго з такім высокім і загадкавым чалавекам, чалавекам адмысловага чыну гітлераўскай імперыі.

Яшчэ дома, у бацькоў, і далей, у цягніку, кіруючы ў Кё-нігсберг, Барыс узяўся перачытваць беларускія газеты. На ўсходнім фронце па заканчэнні Сталінградскай бітвы ўтва-рылася як бы зацішша; пра буйныя аперацыі не паведам-лялася — напэўна, ішло назапашванне сіл ці то на далей-шы грымотны наступ, ці то на эшалаваную абарону праці-ўніка на водных рубяжах. Як знакавыя кропкі называл-іся Курск і Арол — там цяпер адбывалася перадыслака-цыя войскаў.

Найбольш цікавая інфармацыя ішла з «галоўнай гасподы правадыра», гэта значыць ад Гітлера.

**Затоплены брытанскі крэйсер** (апісвалася, якую каштоўнасць ён для Вялікабрытаніі меў, як выдатна тут немцы папомсціліся). У вока кідаліся іншыя загалоўкі...

**Доктар Гебельс пра кіраўніцтва паветраным флотам**

«...Англічане не знаходзяцца ў лепшым ад нас палажэнні. Яны, само сабой, могуць шкодзіць нам паветранай вайной, але не могуць прычыніць такой шкоды, якая абумовіла б развязку вайны. Затое наша падводная вайна трымае іх за горла. Мы можам смяротна спаразіць іх.

**Японія пачынае рабіцца нечувана моцнай...**

Барыс чытаў у гэтай заметцы пра непакой, які ахапіў Аўстралію ў сувязі з нечуваным разбоем у Ціхім акіяне японскага флоту, у цэлым — самурайскай арміі. Багата якія тэрыторыі Кітая, Інданэзіі, Індакітая, іншых узбярэжных краін, шматлікія астравы ў акіяне апынуліся ў японскай імперыі, і гэта наводзіла Барыса на роздум: калі гітлераўскія ваяры вызвалялі свет ад «жыдавенства і ягоных наймітаў-плутакратаў і бальшавікоў», як пісалася ў газетах, то ад чаго і ад каго, уласна, вызваляюць японцы тыя ціхаакіянскія краіны?..

**Фюрэр і дучэ радзяцца**

«Час ад 7 да 10 красавіка фюрэр і дучэ правялі разам. Абмеркавалі ўсе пытанні агульнага вядзення вайны. Нарада працякала ў духу вялікай сардэчнасці...»

Барыс трымаў у руках «Беларускую газету». Выдавалася яна вялікім фарматам у Менску на звычайнай светла-шэрай паперы. Тыраж сягаў за 50 тысяч асобнікаў. Падпісваў яе незнаёмы Барысу Уладзіслаў Казлоўскі. Газета паказвала розныя бакі жыцця паняволенага ды нібыта заміранага народа і, намагаючыся, пэўна, дагадзіць немцам, лаяла бандытаў, савецкіх партызан, якія адно парушалі мірны лад жыцця і пагэтаму заслугоўвалі асуджэння і пакарання з боку акупацыйных улад і мясцовага люду.

Барыса агаломшыла ў «Беларускай газеце» вестка са Смаленска:

**Знойдзена больш за 12000 замардаваных польскіх афіцэраў**

«Як сцвердзілі мясцовыя ваенныя ўлады, у лютым — сакавіку 1940 года было расстраляна больш за 12 тысяч польскіх афіцэраў, відавочна, цэлы афіцэрскі корпус, які

па распадзе Польшчы ў 1939 годзе знаходзіўся на савецкай тэрыторыі, у ваколіцах дома адпачынку ГПУ «Казягоры» за 12 кіламетраў на захад ад Смаленска, пры гасцінцы Смаленск — Віцебск.

Удалося адкапаць агульную магілу 28х16 метраў, дзе ляжалі ў 12 пластоў адзін над адным 3000 польскіх афіцэраў у поўнай форме, часткова з ратамі, запханымі пілавіннем. Усе забіты з рэвальвера ў скроню...»

Барысу ад гэтакіх ведамак не па сабе зрабілася, і ён устаў, прайшоўся па вагону, раз-другі, не звяртаючы ўвагі на пасажыраў, хто і якія яны, пра што плятуць свае маркотныя думкі, — выйшаў у тамбур — нікога не хацелася бачыць, млосна і горка было на душы. Скрозь, скрозь звярэлі людзі, звярэла чалавецтва, і ўсё ішло ад валадароў. Хто-дзе, хто-які — які праведны міласэрны розум мог спыніць усё гэта, калі юды самога Ісуса Хрыста распялі? Цяпер у Беларусі і вакол яе ідзе бітва за тое, каму, якому д'яблу ўсперціся на дошкі, пад якімі, прыціснуты, жыве пакуль што і кешкаецца дабрачынны народ. Правяць баль гітлераўцы. А далей хто будзе?

І ў смутку душы ён адчуў усю марнасць і безвыніковасць свайго вяртання ў Кёнігсберг. Хацелася застацца тут, на Бацькаўшчыне; на жаль, гэта пытанне ўжо абмяркоўвалася — не выпадае. Ён жыў цяпер адным парываннем наблізіць той час, калі ягоная грамада, расцярушаная ў Кёнігсбергу і наўкола, па Прусіі, магла б вярнуцца дадому, да родных і блізкіх, да адвечнай зямлі... Не-не, варта жалю, але нават тыя, каму тут выпала варушыць беларускую справу, вялікага поспеху не маюць, дый рэдкія іхнія шэрагі. А чаму?

На гэты конт яшчэ адно яскравае сведчанне «Беларускай газеты». Ён знайшоў яго ў артыкуле Кастуся Езавітава **«Угодкі вялікага абуджэння»**. Артыкул прысвячаецца абвяшчэнню 25 сакавіка 1918 года незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі... Езавітаў, дарэчы, быў актыўным удзельнікам Першага Усебеларускага кангрэса, паплечнікам Скірмунта, камендантам горада Менска ў 1918 годзе. Прыбягаючы да статыстычных выкладак, уласна, перапісу насельніцтва 1897 года, генерал Езавітаў паказваў: ва ўсіх гарадах Беларусі сярод жыхароў было ад 45 да 70 адсоткаў яўрэяў; затым ішлі беларусы, за імі — расейцы, палякі... Прычым у Менску, дзе ўслед за Пецярбургам іудзеі разгортвалі рэвалюцыю, было ўсяго 9 адсот-

каў карэнных жыхароў, у Бабруйску — яшчэ меней, а ў Полацку, Віцебску, Мазыры, Гомелі, Слуцку — ад 12 да 18 адсоткаў. Беларусы ўраблялі зямлю і жылі ў сваёй масе па вёсках, яны былі ўтрымальнікамі і носьбітамі сваёй этнічнай культуры. А яўрэі ў гарадах трымалі фартуну і ключы амаль ад усіх крыніц жыццезабеспячэння. У гэтакай сітуацыі, падкрэсліваў генерал, абуджэнне самасвядомасці беларусаў на пачатку XX стагоддзя было проста цудам. «Калі б беларусы спазніліся яшчэ на пару дзесяцігоддзяў, — пісаў Езавітаў, — калі б спазніліся са сваім нацыянальна-адраджэнцкім рухам, дык магло б стацца так, што наш народ зрабіўся б супольнасцю земляробаў, пастухоў і наймітаў, а жыды цалкам узялі б нашыя гарады ў свае рукі».

Газеты моцна ўзварушылі ўяўленне і душу Барыса; ён аналізаваў ход розных значных падзей і баяўся, што ў далейшым застанецца ад іх на абочыне, — будзе чакаць і не дачакаецца моманту, калі спатрэбяцца яго рашучая чыннасць, энергія, досвед. У гэтакім роздуме ён стаяў ля вакна і назіраў, як кружаць буслы над заселянеўшым пад сонцам узбалоткам — у пойме Ясельды. Ён і сам нагадваў вялікага птаха, якому хацелася і не было як узняць, распасцерці свае дужыя крылы над мілымі сэрцу абшарамі тут, узбоч чыгункі, над зямлёй, пакалупанай і знявечанай вайной.

Праз які час ён зноў вярнуўся ў купэ. Рух цягніка з размераным перастукам колаў на рэйках сунімаў непакой, вяртаў разважлівы, амаль філасафічны настрой. Барыс схаваў газеты ў скураны партфель. Але толькі цікаўнасць да жыцця на радзіме не згасла, і ён неўзабаве пачаў гартаць старонкі, перададзеныя яму бурмістрам Юрыгам у Баранавічах.

Цяпер усё, усё разам дазваляла Барысу больш выразна ўявіць палітычныя варункі, у якіх разгараліся чалавечыя жарсці, прычым, не толькі ў Баранавічах, але і скрозь на беларускай зямлі.

З сіняга сшытка Юрыгі:

*«Вайна — зацямненне мазгоў у пэўнай часткі людзей або цэлых народаў. Яна — заўсёды крушэнне ўстойлівай плыні жыцця.*

*Невядома адно, што лепей для простага люду: турма, векавечнае паняволенне ці вайна? Ні для кога ж не сакрэт, што пад Польшчай для беларусаў быў турэмны па-*

*радак, па-навуковаму — рэжым санацыі. Дый за саветамі, бадай, — тое ж. Бальшавіцкія саветы — зманлівая штука. Гэта ўлада тых, хто не мае ўлады, і я дапускаю, што селянін, які там працаваў ці працуе і нічога за тое не мае, спакойна жыве. Толькі ж ці не здзек гэта над самім нутром і душою сялянскай?*

*Вайна не пыталася ў нас, калі і як ёй пачацца. Праўда, калі 22 чэрвеня 1941 года нямецкія войскі рынулі на ўсход, падзея была неспадзяванай толькі для Сталіна. Для ўсёй Еўропы на гэты конт даўно не было ніякага сумніву. Добра ведалі і стратэгію Гітлера. Яна ў «Майн Кампф» выказана гранічна проста: «...нямецкія калоніі ляжаць на ўсходзе».*

*Цяпер у стане вайны аказалася багата народаў, і кожны павінен дбаць пра свой талан і ўдачу. Адно ва ўсіх пытанне: як з найменшымі стратамі выйсці з гэтага стану, а калі пашанцуе — і з карысцю для сябе?*

*Што маюць рабіць беларусы? Узняць галовы, устаць з каленяў, балазе акупанты дакляруюць нам «вызваленне».*

*У іх на тэрыторыях Остлянда ўсталёўваецца прынцып — мясцовая адміністрацыя пад нямецкім каўпаком. Пакуль што... На большае цяпер не варта разлічваць.*

*Праблема. У беларусаў амаль скрозь не хапае людзей, якія б асадзілі на месцах нацыянальную ўладу. Немцам не падабаецца безыніцыятыўнасць мясцовага люду пры арганізацыі адміністрацыйнага апарату і паліцыі. Ніхто не рвецца ў начальнікі. Абыходзяць службовыя пасады нават спецыялісты. Пра што думае народ?.. Дзе нацыянальны пульс і тонус годнасці беларусаў? Ці не вынішчылі дазвання ягоны дух тыя, хто цягам двух дзесяцігоддзяў (калі не соцень гадоў) пазбаўляў яго права на самастойнасць, на суверэннае жыццё?*

*Тут, пэўна, і бальшавіцкі тэрор пакінуў свой ружовацьмяны адбітак у душах людзей. Немцы шукаюць прычыну... Знаўцы нашай гісторыі тлумачаць нямецкім чынам, маўляў, беларуская адміністрацыя заўсёды знаходзілася ў чужых руках. Ці ж гэта не праўда?.. З заняпадам Вялікага княства Літоўскага ў гарадах пачалі гаспадарыць палякі, жыды і расейцы. І цяпер, за Германскім рэйхам, палякі праяўляюць спрыт адумысны. Запаўняюць вакансіі на беларускіх абшарах былых Крэсаў Усходніх, так што беларусу ў адміністрацыю ўжо не ўшчаміцца.*

*Пашанцавала Баранавічам. Мясцовыя патрыёты В. Папуцэвіч, А. Русак, Я. Якуцэвіч, К. Кіслы, У. Шыманец і іншыя здолелі ў кароткі тэрмін апанаваць аграмадную тэрыторыю акругі і пад нямецкай акупацыяй надаць ёй беларускі каларыт, натуральны характар. Баранавіцкая, Слонімская, Наваградская і Лідская акругі ў значнай меры абсаджаны беларускімі збройнымі аддзеламі.*

*Яшчэ ў 1939 годзе, прадчуваючы вайну Германіі з Расеяй, Рада БНР ініцыявала стварэнне ў замежжы нацыянальных элітных груповак.*

*У сярэдзіне лета 1941 года ў Менск прыехалі з Польшчы лідэры груповак нашых эмігрантаў — малады доктар Мікалай Шчорс і прафесар Радаслаў Астроўскі. Абое песцілі ў душы думку ўзначаліць беларускі часовы ўрад. Зрэшты, не сакрэт, былі ў эміграцыі і іншыя прэтэндэнты на высокае становішча — як доктар Іван Ермачэнка, выбітны дзеяч беларускага асяродку ў Празе.*

*На першы погляд, аднак, больш шанцаў на поспех тады меў Шчорс, які стаяў на чале створанай у Берліне — за некалькі дзён да нападу гітлераўцаў на СССР — арганізацыі «Цэнтр», куды ўваходзілі найбольш адметныя асобы беларускага паходжання. Былі там пераважна прадстаўнікі розных беларускіх камітэтаў — Ханяўскі, Гадлеўскі, Родзька, Шкялёнак, Тумаш і іншыя. Яны загадзя размеркавалі пасады ў будучым часовым урадзе і нібы залагодзілі падтрымку Абвера.*

*У ксяндза Гадлеўскага, між іншым, была таксама свая баявітая група з адданых яму людзей.*

*У доктара Ермачэнкі не група, а іншы козыр — прыяцельскія адносіны з доктарам Вагнерам і прафесарам Мендэ, якія займалі нямалазначныя пасады ў новым міністэрстве акупаваных усходніх абшараў (шэф — Розенберг).*

*У Менск Шчорс і Астроўскі прыбіліся, калі там яшчэ гаспадарылі службы Вермахта, а не цывільнай адміністрацыі. Абвер не даваў знаць пра сваё існаванне, хоць несумненна і меў тут свае вочы і вушы, адно ніхто з акупантаў не браў у разлік іх інтарэс. Тут, на месцы, відавочным рабілася, што пра ўрад думаць рана і што наогул у палітычных гульнях з немцамі не выпрацавана ніякіх правілаў, і ім давядзецца быць дробнымі фігурамі на шахматнай дошцы рэйха. Шчорса гэта не задаволіла, і ён вярнуўся назад у Варшаву. Затое Астроўскі, маючы дальні*

*прыцэл, пагадзіўся стаць намеснікам шэфа адміністрацыі сталічнай Менскай акругі. У жніўні ўзначаліў школьны аддзел у цывільнай адміністрацыі, ачоленай Генеральным камісарам Беларусі В. Кубэ, і стаў для яго першым дарадчыкам. Родзьку ж выпала быць за бурмістра ў Віцебску.*

*Радаслаў Астроўскі нарадзіўся ў 1897 годзе ў фальварку Заполле Слуцкага павета і, па сканчэнні Слуцкай гімназіі, вучыўся ва ўніверсітэце — у Пецярбурзе і Дэрпце. Мы з Астроўскім мелі за гонар супрацоўнічаць у газеце «Наша ніва», нярэдка сустракаліся ў Вільні. Ён уваходзіў у ЦК Беларускай Сацыялістычнай Грамады і браў удзел у I Усебеларускім Кангрэсе ў якасці дэлегата ад Случчыны. Працаваў чалавек дырэктарам першай на Беларусі Слуцкай беларускай гімназіі, затым прафесарам матэматыкі ў Менскім педагагічным інстытуце. Служыў у войску генерала Дзянікіна. Пасля грамадзянскай вайны — настаўнік і дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, аж па 1936 год. У 1924 годзе заснаваў прапагандысцкае Польска-Беларускае таварыства, якое распалася прыкладна праз год. Далей Радаслаў павярнуў улева і пачаў супрацоўнічаць з КП(б) Беларусі і КПЗБ, стварыў і апекаваў падпольны камуністычны рух у гімназіі, якую ачольваў.*

*Разам з Астроўскім мы былі сябрамі ЦК Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, якая дзейнічала ў межах тагачаснай Польшчы, больш за тое, ён заснаваў у Вільні Беларускі Кааперацыйны банк. Праз гэты банк праходзілі сродкі з СССР на фінансаванне Грамады.*

*У 1927 годзе польскія ўлады арыштавалі нас і абвінавацілі разам з дзеячамі, якія праходзілі па судовым працэсе над Грамадой.*

*Што здарылася пасля гэтага з Радаславам? Бог яго ведае... Ён адцураўся КПЗБ і БСРГ, падобна, змяніў свае палітычныя погляды, і ўжо як служка пілсудчыкаў прапагандаваў супрацоўніцтва беларусаў з санацыяй. У 1936 годзе быў пераведзены на працу ў Лодзь.*

*Бадай, ужо просты пералік дачыненняў Р. Астроўскага да свету гаворыць пра яго няпросты, хісткі, маятнікавы характар.*

*Толькі ж Радаслаў — жывы і рухавы чалавек, ініцыятыўны, прадпрымальны... Перш чым што рабіць, ён заўсёды вывучае сітуацыю і дзейнічае згодна з ёй, рашуча, парывіста.*

*У Менску Астроўскі пачаў рупіцца, аднаўляючы старыя польскія і віленскія сувязі, шукаючы здольных беларусаў, для якіх тут адкрывалася поле легальнай дзейнасці і барацьбы за свае нацыянальныя інтарэсы. Апраўдалася яго паездка ў Вільню, адкуль падмеліся прыехаць некалькі чалавек, у тым ліку прафесар Іваноўскі.*

*Меншы плён мела, праўда, спроба беларусізацыі супрацоўнікаў мясцовай адміністрацыі, у якой пачала ствараца атмасфера польскага вяршэнства і антыбеларускай варажнечы, што нярэдка з боку палякаў пераходзіла ў тэрор.*

*Клопаты Астроўскага знаходзілі падтрымку ў Службе бяспекі.*

*Кубэ, як, пэўна, і генеральныя камісары Літвы, Латвіі, Эстоніі, быў зацікаўлены ў стварэнні дапаможнага кіруючага органа, але пакуль не нацыянальнага ўраду, паколькі на гэта не было дазволу зверху, ад ОМі і асабіста рэйхсляйтэра Розенберга.*

*Кубэ прызначыў Астроўскага намеснікам кіраўніка Менскай акруговай управы, адзінай на ўвесь Остлянд, і даручыў яму кіраваць таксама несанкцыяваным Парадельным бюро (Нэбэнбюро). Апошняя ўстанова была адпаведнікам альбо як бы сілуэтам Генеральнага камісарыята ў беларускім выкананні.*

*Толькі ж Астроўскаму не пашанцавала. Беларускі нацыст Акінчыц і іншыя былыя паплечнікі пачалі пісаць на яго і перасылаць Кубэ даносы, сцвярджаючы, што ў сярэдзіне трыццатых гадоў ён быў камуністам і супрацоўнічаў з СССР. Напалоханы Радаслаў лічыў за лепшае менш паказвацца на людзях і ў вольны час адседжваўся дома. А ў кастрычніку ў Менск прыехаў доктар Ермачэнка. Ён меў у ОМі прыяцеляў, і яго прызначылі кіраўніком Беларускай Народнай Самапомачы, што ўтваралася замест ліквідаванага Беларускага Чырвонага Крыжа.*

*Ермачэнка не мог доўга цярпець побач з сабой Астроўскага, яўнага канкурэнта ў ягоных пасяганнях на ролю нацыянальнага правадыра. Супраць Астроўскага ён быў ўзброены тымі ж фактамі ягонай стракатай біяграфіі.*

*Кубэ мусіў развітацца з Астроўскім, шкадуючы пра гэтакі з ім інцыдэнт, асабліва таму, што ў Астроўскага была неблагая апора на ўласна беларускае асяроддзе... Ратуючыся ад магчымай расправы, ён разам з некалькімі сваімі прыхільнікамі рушыў далей, на ўсход, ладаваць бе-*

*ларускае кіраўніцтва пад эгідай Вермахта ў Бранскай, Смаленскай, Магілёўскай акругах.*

*20 кастрычніка Кубэ разам з Ермачэнкам выдалі больш чым надзённую, прагматычную і гуманную, як здавалася, адозву да беларускага насельніцтва. Яны заклікалі яго ствараць павятовыя і валасныя аддзелы Беларускай Народнай Самапомачы.*

*Найпершай мэтай БНС абвяшчалася дапамога насельніцтву ў ахове здароўя, паляпшэнні жыццёвых умоў, апекаванне над бяздомнымі сем'ямі, сіратамі, дзецьмі, у якіх маткі заняты на працы... Ермачэнка мецій сесці на добрага каня.*

*Доктар Іван Ермачэнка нарадзіўся ў 1894 годзе ў вёсцы Капчаўка Барысаўскага павета. Скончыў гімназію ў Маскве, а падчас першай сусветнай вайны — афіцэрскую школу. Служыў ў расейскім войску. Напрыканцы вайны стаў ад'ютантам у генерала Урангеля; пакінуў яго ў чыне палкоўніка. На эміграцыі ў Канстанцінопалі выконваў абавязкі генеральнага консула БНР на Балканах. У 1922 годзе пасяліўся ў Празе, дзе скончыў вышэйшую медычную школу. Потым працаваў урачом. Браў актыўны ўдзел у палітычным жыцці беларускай эміграцыі.*

*Пасля заняцця Чэхіі немцамі імя І. Ермачэнкі доўгі час было на вуснах у беларусаў-эмігрантаў, у тым ліку ў Польшчы, Германіі, як што ў красавіку 1939 года ён падбіў прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі Васіля Захарку, састарэлага нацыянальнага дзеяча, падаць Гітлеру так званы мемарыял. У ім ад імя БНР яны прасілі германскага фюрэра прыняць пад увагу беларускае пытанне пры маючым быць разгроме і ліквідаванні СССР. Мемарыял, кажуць, быў праігнараваны, затое цанілася ініцыятыва Ермачэнкі. Ён лічыў сябе вартым ганаровага тытула, які пятнаццаць гадоў запар з годнасцю насіў сп. Захарка.*

*Чысцейшай душы чалавек, апостал беларушчыны і яе ж ахвяра, як і ўсе тыя, хто вымушаны быў жыць па-за межамі Бацькаўшчыны, Васіль Захарка пасля шкадаваў пра свой апраметны ўчынак з мемарыялам, а гэтаму кан'юнктурнаму дзеячу — Ермачэнку — не было пра што шкадаваць, ён рабіў сваю справу.*

*Ермачэнка больш, чым хто з беларускіх эмігрантаў, надзелены якасцямі дыпламата. Тонкі ў манерах, знешне прыязны. Прыгожая, але не буйная галава з адкры-*

*тым цемем. Яна годна сядзела і сядзіць на яго падоўжанай шыі пад гальштукам. Плоскія вусны ды шырокі ўсмешлівы рот. Акуляры ў аправе «Консул».*

*Гэты наш горды руплівец конча адданы германскай ідэі. У тым пераконваюць шматлікія гутаркі з ім. У сваіх поглядах ён, мусіць, стаіць блізка да беларускага ліса Акінчыца. А добра гэта ці дрэнна — не час меркаваць. Толькі можна здагадвацца, што ў нашага пражскага павадыра не знойдуць лагоды і падтрымкі тыя беларусы, у якіх погляд на ворагаў і сяброў не такі адназначны.*

*Па прыездзе Ермачэнкі ў Менск,* — пісаў далей Юры Сабалеўскі, — *мяне неаднойчы запрашалі на нарады, у якіх удзельнічаў Кубэ. Разам з Кубэ абмяркоўвалі праграму дзейнасці БНС. Кубэ ўхваліў прапанову прафесара Вацлава Іваноўскага, бурмістра Менска, каб Самапомач, апроч асноўных задач, узяла на сябе апекаванне асветы і культуры ў Генеральнай акрузе. І Ермачэнка, пасля некаторых ваганняў, з тым пагадзіўся, бо не было іншай арганізацыі з разгалінаванай структурай, якая б магла гэтым заняцца.*

*Кубэ тады выглядаў дужа азадачаным. Ён не мог адмовіцца ад дырэктывы паставіць эканоміку гэтай краіны на службу вайне. Натуральна, і — дзіва няма. Але ж сітуацыя ў краіне, калі нацыянальна індэферэнтны беларус уступаў органы самакіравання агрэсіўнаму суседу, не ўваходзіла ў ягоны разлік пры вырашэнні задач, якія ён ставіў перад сабой. У нас даўно выпетрыліся традыцыі самакіравання, і краіна бачылася Кубэ даволі кволай. Але толькі асабістыя сустрэчы з генеральным камісарам пераконваюць мяне, што ягоная адозва «Да жыхароў Беларусі», абвешчаная ў канцы верасня сорак першага, калі перамогу немцаў над рускімі многія ўжо прымалі за факт, была для яго не мыльнай бурбалкай, зусім не! Ён рэзка і, бадай, палярна адрозніваецца ад свайго ўкраінскага калегі гаўляйтера Коха, які, мусіць, бачыць сваю задачу ў тым, каб душыць народ Украіны. Кубэ, на наша шчасце, іншы.*

*«Беларусы! Першы раз у гісторыі перамога Германіі дае вам магчымасць забяспечыць вашаму народу свабоднае развіццё і светлую будучыню без расейска-азіяцкабальшавіцкага ўціску і чужанацыянальнага панавання. Я спадзяюся, што кожны з вас зразумее, што яго інтарэсы сцісла нітуюцца з інтарэсамі Германіі і што вы бу-*

*дзеце вернымі паслядоўнікамі і памочнікамі нямецкага кіраўніцтва».*

*Валявы змыслы твар Кубэ лёгка аднаўляецца ў памяці. Галава амаль круглая, буйная, з лёгкім нахілам у правы бок. Яна сядзіць на магутнай, як не бычынай шыі. Шырокі лоб. Коратка пастрыжаныя валасы, яны ўжо амаль пакінулі цемя. Затое на скронях шчэць набывала колер срэбра. Злёгку насурмленыя бровы. Яны гавораць, бадай, пра пастаяннае напружанне думкі гаспадара. І вочы, бы тыя жалуды. Прамы выпрабавальны позірк — позірк чалавека, які ў жыцці шмат чаго ведае і глядзіць у душу. Просты нос. Падбародак як бы трохі падцяты — уражанне з-за лажбінкі пад ніжняй губой... З маіх назіранняў: у міміцы, у выразе ягонага твару найчасцей спалучаецца штосьці строгае і мяккае адначасова. Тым ён і прывабны. Постаць кражыстага мужчыны.*

*Вільгельм Кубэ нарадзіўся ў 1887 годзе на Одэры, у горадзе Глогаў. Бацька Рыхард Кубэ — прафесійны вайсковец.*

*Вучыўся Вільгельм у Берліне. Гуманітарная гімназія... Ва ўніверсітэце вывучаў гісторыю і дзяржаўнае права. Рана захапіўся патрыятычнай дзейнасцю. Быў у ліку стваральнікаў Нямецкага нацыянальнага студэнцкага саюза. Пачынаючы са студэнцкіх гадоў, рэдагаваў газеты розных партый, якія былі яму блізкімі, аж пакуль у 1927 годзе не ўступіў у самую, як лічыў, баявітую партыю — НСРПГ на чале з Гітлерам.*

*З гэтага часу дзейнасць Кубэ становіцца шматграннай. Ён і гаўляйтэр усходняй акругі Остмарк, і дэпутат прускага Ландтага, і рэдактар «Der Markische Adler». Пачаліся гады росквіту яго як асобы і, пэўна, таму ў простых, неафіцыйных гутарках з намі ён нярэдка звярта-ецца да свайго вопыту тых гадоў. Дзякуючы яму, тады лавінападобна ўзрос прыток сяброў у нацысцкую партыю ў Прусіі. А яго красамоўства, напал і аргументаванасць выступленняў ў Ландтагу — многім на зайздрасць! Як вынік — Ландтаг скасаваў забарону на публічныя выступленні Гітлера ў межах Прусіі. Яны ж, эскапады ягоных прамоў, адыгралі значную ролю таксама і ў перамозе гітлераўскай партыіі ў Германіі ў 1933 годзе, пасля чаго для Кубэ адкрыліся высокія і вабныя пасады ў Берліне. Ён быў бацькам горада, паслом Рэйхстага, членам Ака-*

*дэміі германскага права, пісаў у грамадска-палітычныя газеты і чыста літаратурныя выданні...*

*Усе гэтыя ведамкі ўзяты пераважна з расказаў самога Вільгельма Кубэ. А ў нас да ягонага грувасткага поступу, без аглядкі на рангі, можна прыпісаць, што заўгодна, і, калі шчыра як на духу прызнацца, для мяне застаецца загадкай: як гэты багата адукаваны, эрудыраваны, галавасты, скажам так, чалавек аказаўся сярод фашыстаў ды поплеч з Г..., апантаным планетарным ваярам і авантурыстам, паслугамі якога нам собіла пакарыстацца. А ці не падкупляла Кубэ энергія працідзеяння камуністычнай заразе?*

*Пад восень 1942 года прыйшла ў Баранавічы канспіратыўная вестка, што ў адказ на нямецкую палітыку ў Беларусі паўстае антынямецкі канспіратыўны рух пад праводам ксяндза Гадлеўскага. Прапануецца Баранавічам уліцца ў гэты рух і дэлегаваць свайго чалавека ў склад кіруючага штаба. Галоўная палітычная арыентацыя арганізацыі ўвязвалася з захадам і там мелася шукаць дапамогі ў справах беларускага вызвалення, як ад камуна-іудзейскіх, так і нямецкіх акупантаў. Было над чым падумаць... Не падзяляючы цалкам фашыстоўскай ідэалогіі, мы сталі партнёрамі рэйха ў выбудове сваёй нацыянальнай дзяржавы.*

*Кастрычнік 1942 года. У Баранавічах,* — пісаў Ю. Сабалеўскі, — *працуюць ужо некалькі школ, заснаваных Войтэнкам, які тут раней быў. Ён цяпер у Слоніме, а я праду яго нітку далей. Мастацкі густ, узровень развіцця нашага люду, як і наяўнасць майстроў сваёй справы, падштурхнулі мяне шукаць захады, каб адкрыць у горадзе мастацкую школу і школу ткачых. Баранавіцкі гэбітскамісар Вернер пры сустрэчы са мной працытаваў Шылера: маўляў, вайна жыве вайной... На маю прапанову ён адказаў, што развіццё мастацкіх рамёстваў у Остляндзе не ёсць задача Трэцяга рэйха.*

*Давялося прасіць Ермачэнку, каб наладзіў сустрэчу з Кубэ. І вось я ў Менску, непадалёку ад Цэнтральнага сквера і гарадскога тэатра, заходжу ў высокі будынак, высвятляю адносіны з вартай і джгаю далей, у кабінет гаўляйтэра.*

*Кубэ сустрэў мяне, устаўшы з месца... Прывіталіся па-цывільнаму. Селі ўзбоч стала.*

*Цікавіцца, які тэрміновы клопат прывёў да яго.*

*Я расказаў пра сваё жаданне заснаваць у Баранавічах новыя школы.*

*Ён слухаў, не міргаючы, здавалася, усёй істотай сваёй. Загвоздка, тлумачу яму, у тым, каб атрымаць дазвол і матэрыяльную падтрымку, а ўсё астатняе — за намі.*

*«Іхь фэрштэе», — адказаў уладар і яшчэ больш уважліва паглядзеў на мяне. Пры гэтым чэпкія вочы яго пацяплелі, ён усміхнуўся.*

*«Герр бурмістр Сабалеўскі, а вы ведаеце, як гэта добра, калі падчас вайны нехта шукае магчымасць адчыніць мастацкія школы! У вас выдатная моладзь, і вы сёння дбаеце пра яе будучыню, пра будучыню свайго народа. Зэр гут!»*

*Радуючыся, што пытанне вырашаецца, я ўлучыў момант і запытаўся:*

*«Герр гаўляйтэр, ваша мосць Кубэ, а які ж лёс, якая палітычная будучыня ўласна ў нашай краіны?»*

*Гаспадар кабінета падабраўшы сціснуў вусны і адвёў вочы ўбок, затым палез у кішэню, дастаў і прапанаваў цыгарку са свайго партсігара. Я ўзяў.*

*«Канчатковага рашэння няма. Так... Дакладней: планы, з дазволу сказаць, планы на палітычнае ўладкаванне мяняюцца, і нішто не задавальняе фюрэра. Ён хацеў бы, напэўна, перш атрымаць перамогу, а потым ужо распарадзіцца лёсам народаў. Я ж прытрымліваюся плана, які быў агучаны Ёдлем незадоўга да ваеннай кампаніі з СССР: расчляненне Расеі на шэраг самастойных дзяржаў ды прыязных да Германіі народаў. А Беларусь мае сваё рэнаме. Яна як бы на асобым уліку. Ёй шкодзіць адно — востры дэфіцыт такіх людзей, як вы, герр Сабалеўскі, і па гэтай прычыне вялікія сумненні ў пана Розенберга наконт таго, ці прагне беларускі народ самакіравання, ці ахвочы ён да яго; нарэшце, што гэты прымітыў, прабачце, ведае, чаго, уласна, хоча?»*

*Мне было прыемна і нейк нязвыкла, балюча і сорамна слухаць гаспадара кабінета. А ці не мог бы ён стаць для нашага народа за абаронцу і... павадыра ў настолькі свінскіх абставінах? А чаму б і не? Ён жа пранікся духам «прымітыву» і бароніць мірных жыхароў ад эсэсаўцаў. Дармо, што яго сюды, у Беларусь, прывялі германскія інтарэсы. На адной сустрэчы з нашай нацыянальнай братыяй ён выказаўся такім чынам: «Урады, калі надарыцца, бываюць бандытамі, а народы — ніколі». І патлумачыў, што гэта — паводле Гюго. Канешне, бываюць і выключэнні...*

А камісар Вернер у Баранавічах — той згадваў Шылера: маўляў, вайна жыве вайной... Такая рыторыка. Толькі Шылер не мае дачынення да таго, што робіцца.

«Я не страціў веры ў вашу краіну толькі таму, — доўжыў Кубэ, — што ацаніў моладзь. Моладзь у вас вышэй усялякіх пахвал. Яна адродзіць краіну, асабліва, калі вярнуць ёй нацыянальны дух. О, дух продкаў! Гэта дрожджы для культурнага росквіту народа. Я сказаў тэт-а-тэт пану Ермачэнку і фюрэру Саюза беларускай моладзі Ганько: «У выхаванні выкарыстоўвайце мінімум чужой, нямецкай фразеалогіі — з рэйха стане, і — максімум свайго нацыянальнага матэрыялу!» Я пры адкрыцці саюза казаў: «З Адольфам Гітлерам да самастойнасці беларускага народа!» Вось вам, герр Сабалеўскі, і мой адказ на пытанне пра тое, чаго тут няма, а хацелася б... Гут? Я даручу інспектару ўправы Сівіцы, і ён залатвіць справу з новымі школамі. Жадаю поспехаў!»

## 14

У Беларусі той, хто меў вушы, неаднойчы чуў пра Кубэ, як што ён тут галоўны туз гітлераўскага Рэйха. Праўда, меней было людзей, якія ведалі пра яго столькі, колькі палітыкі. Але нават палітыкам, нават такім людзям, як Ермачэнка, Сабалеўскі або наш Барыс Рамановіч, не ўсё адкрывалася ў дзейнасці стаўленіка Гітлера на Беларусі. Вядома, тут кожын бок меў свае патаемныя думкі, сакрэты, свае схільнасці і сваю тканіну ўзаемаадносін.

Само прызначэнне Вільгельма Кубэ гаўляйтэрам на Беларусь выклікала ў ягоных былых паплечнікаў па нацысцкай партыі заварот у мазгах, паколькі на той час багата хто лічыў Кубэ палітычным трупам. Па агульным прызнанні, Кубэ спёкся яшчэ ў 1936 годзе, калі набірала моц кампанія антысемітызму. Антысемітам лічылі і яго, але нечакана для ўсіх Кубэ адмачыў такі нумар: паслаў вярхоўнаму суддзі НСРПГ рэйхсканцлеру Буху ананімны ліст. У ім даводзілася аб праціпраўным ганенні на яўрэяў і ўказвалася на прыналежнасць да «юдаў» ягонай, Бухавай, жонкі, якая ў сваю чаргу даводзілася партайгеноссе Марціну Борману цешчай... Наспяваў скандал. Гестапа ўстанавіла імя аўтара ананімнага ліста. Таму чынны літаратар мусіў адмовіцца ад дзяржаўных і партыйных пасад. Толькі ж Гітлер, уважаючы на ранейшыя заслугі свайго

прыяцеля Віллі, пашкадаваў яго і пакінуў у партыі, дый у Рэйхстагу. Праўда, гэта ўжо не ратавала кар'еру Кубэ, якая была змардавана.

І вось Вільгельм Кубэ ўваскрос!

Супраць яго прызначэння гаўляйтэрам Беларусі выступілі, між іншым, Розенберг і Лёзэ, яны баяліся «гвалтоўнага, імпульсіўнага і поўнага супярэчлівасцей» характару свайго калегі і сябра; такі характар, няйначай, прадвяшчаў ім сур'ёзныя непаразуменні па службе. Але ж Гітлер любіў Віллі Кубэ і настаяў на сваім рашэнні. Больш за тое, фюрэр збіраўся, пры заканчэнні бліцкрыга, паставіць Кубэ рэйхскамісарам Масквы і не хаваў ні ад кога свайго намеру.

Ды, як вядома, з Масквой былі непярэліўкі — не давалася яна, велічная, у рукі захопнікаў — хоць галавой належыся. Не варта было Кубэ думаць пра няскораную Маскву. Ён уваскрасаў у перадполлі Германскага рэйха — на Беларусі і дыхаў Беларуссю, сніў беларускія сны. Праўда, сны ў яго пераважалі трывожныя.

Па-першае, нездавальняюча, без належнай матывацыі, часам палавінчата, калі не сказаць бяздушна, было вырашана пытанне ўласных тэрыторый Генеральнай акругі Беларусь, балазе на ўсходніх яе абшарах гаспадарылі сілы Вермахта, якія адно рабавалі народ.

Па-другое, ні народ Беларусі, ні берлінскія палітыкі сапраўды не мелі пэўнасці наконт лёсу беларускіх абшараў пры іх далучэнні да германскай жыццёвай прасторы; зрэшты, ён, Кубэ, рызыкуючы ўласным імем, дакляраваў нацыянальную незалежнасць тутэйшым, у чыім характары была як не рытуальная адданасць працы, фізічная вынослівасць, маральная чысціня, ды, жалю варта, абмежаванасць у палітычных поглядах. Але ж у інтарэсах тутэйшых, натуральна, патрабавалася куды больш інтэнсіўнае пашырэнне ў акругах нацыянальнай адміністрацыі, як і пашырэнне яе правоў, як і фарміраванне ўрадавай структуры, а ён не мог усяго гэтага даць — абмяжоўвалі; таму і не было як планаваць штосьці акрэсленае, рэальнае на будучыню, апроч хіба зямельнай рэформы, без чаго любая праца з мясцовым насельніцтвам ускладнялася і не мела быць дастатковай.

Па-трэцяе, сваю лыжку дзёгцю ў высакародную справу палагоднення адносін з насельніцтвам пастаянна ўносілі службы ваенізаваных ахоўных атрадаў — СС, Служба бяс-

пекі — СД, як і іншыя паліцэйскія службы. Падчас акупацыі эсэсаўцы самачынна, паспешліва, утрапёна і зваблівa кінуліся рэквізаваць прадметы матэрыяльнай культуры на Беларусі, адзенне і харчовыя тавары. Пры малейшых праявах супраціву, дыверсій з боку савецкіх падпольшчыкаў і партызанаў яны наладжвалі маштабны тэрор, вынішчалі «заложнікаў»...

Гаўляйтэра Кубэ вельмі анепакоіла рабаванне ў Менску, і 29 верасня 1941 года ён адаслаў у Берлін рэйхсляйтэру Розенбергу выкрывальна-пратэстны ліст:

«Сёння, пасля доўгіх пошукаў, я магу, урэшце, знайсці і ацаніць рэшткі мастацкіх скарбаў Менска. У горадзе існавала вялікая, а часткова і вельмі каштоўная калекцыя твораў мастацтва і абразоў, якая амаль уся была вывезена. Па загадзе рэйхфюрэра СС, рэйхсляйтэра Генрыха Гімлера большасць карцін — часткова ўжо пасля майго ўступлення на пасаду — запакавана эсэсаўцамі і вывезена ў рэйх. Прычым, гаворка ідзе пра мільённыя каштоўнасці.

Музей дагістарычнай археалогіі, як і бібліятэкі, таксама знаходзіцца ў стане поўнага спусташэння. У геалагічным аддзеле парабаваны каштоўныя і напаўкаштоўныя камяні. Ва ўніверсітэце бессэнсоўна паразбіваны або забраны прыборы і інструменты на сотні тысяч марак».

Гаўляйтэр Кубэ прасіў «міністэрства Усходу» вярнуць Генеральнай акрузе Беларусь каштоўныя зборы і хадайнічаць перад адказнымі пастамі Вермахта, падначаленыя якога таксама прычыніліся да рабавання, сурова пакараць віноўных і прадухіліць у далейшым падобныя знішчэнні культурных каштоўнасцей, не дазваляць нямецкаму салдату ў будучым паводзіць сябе па-варварску.

«Можа, — пісаў ён у тым жа лісце, — было б пажадана, каб Вы, пан рэйхсляйтэр, паведамілі пра гэта фюрэру. У выніку такога абыходжання і без таго бедная Беларусь панесла найцяжэйшыя страты».

Аднак да Гітлера скарга не дайшла, а Гімлер адрэагаваў на яе пагардліва, крута, непрыязна: «Я прашу раз і назаўсёды вызваліць мяне з боку пана Кубэ ад падобнага нахабства!» Між іншым, у дадатак да ярлыка «нахабніка» Вільгельм Кубэ неўзабаве набыў у Гімлера паноўленую рэпутацыю «прыяцеля яўрэяў».

Са Слуцка на яго імя ў Менск прыйшла справаздача акруговага камісара Карла аб тэроры супраць мясцовага насельніцтва.

«Паўсюдна ў горадзе, — пісаў той, — стаяла страляніна... Беларусам з вялікімі цяжкасцямі ўдавалася пазбыцца абвінавачванняў. Не кажучы аб тым, што з яўрэяў, у тым ліку рамеснікаў, здзекваліся на вачах у беларусаў, дык і саміх беларусаў білі гумавымі палкамі і прыкладамі карабінаў. Гэта была ўжо не жыдоўская акцыя, а выглядала інакш. Я сам увесь час разам са сваімі супрацоўнікамі літаральна з настаўленым рэвальверам выцягваў з майстэрняў нямецкіх і літоўскіх паліцыянтаў. Такое даручэнне атрымала і мая жандармерыя, аднак з-за дзікай страляніны яна мусіла шмат разоў пакідаць вуліцы, каб не быць расстралянай... Беларускае насельніцтва, якое поўнасцю нам давярала, цяпер нас жахаецца».

1 лістапада Кубэ пераслаў справаздачу Карла ў Берлін і Рыгу з лаканічнай прыпіскай: «Такімі метадамі нельга ўтрымаць на Беларусі спакой і парадак».

Падобныя эпізоды, на жаль, паўтараліся, і ўсё больш непакоілі генеральнага камісара. Далей болей наспявала драма, і не столькі яго асабістая, колькі драма акупацыйнай палітыкі на Беларусі ды яе носьбітаў, неўтаймаваных, рознапланавых, разнастайных. І калі адны рупіліся, каб наладзіць мірнае жыццё, усталяваць спакой і парадак, другія — мардавалі і пляжылі ўсе дасягненні першых тактыкай тэрору, вынішчэння вёсак, і ад гэтага яшчэ больш множыліся шэрагі мсціўцаў, партызан, «бандытаў». Летам 1942 года Гітлер даручыў барацьбу з імі асабіста Гімлеру, і з 21 жніўня па 21 верасня ўзбуйненыя атрады эсэсаўцаў і паліцыі аховы парадку распачалі карныя экспедыцыі. Іх вынікам было знішчэнне на Беларусі 692 вёсак разам з жыхарамі. Кубэ і ягоны паплечнік, мінскі шэф СС і паліцыі Шыман адначасова выступілі супраць падобнай практыкі «барацьбы з партызанамі».

Лёзэ і Розенберг шукалі сустрэчы з Гітлерам, каб далажыць аб неэфектыўных і цалкам заганных метадах барацьбы гімлераўскіх служб з партызанамі, а Гімлер, блакіруючы іх, штораз рабіў захады, каб за кошт пашырэння паўнамоцтваў сваіх аддзелаў у Беларусі звязаць рукі, звузіць поле дзеянняў Кубэ. Міру і спакою гэта не варажыла, і ўжо вяліся дэбаты наогул аб ліквідацыі цывільнай адміністрацыі, ачоленай Кубэ, перадачы абшараў генеральнай акругі Вермахту. Аднак Кубэ ўдалося даказаць марнасць гэтай задумы і заручыцца падтрымкай Розенберга.

Тады новы шэф Службы бяспекі ў Менску оберштурмбанфюрэр СС Эдуард Штраух пачаў падкоп пад Кубэ. Уважаючы на разбудову Беларускай Народнай Самапомачы да нейкіх дзівосных памераў, калі Самапомач са сціплай дабрачыннай арганізацыі за кароткі час ператварылася ў агульнакраёвую ўстанову, у цэнтр пачынанняў ўсяго беларускага, згрувасціла ў сваіх руках багата чаго, уключаючы вытворчасць, — уважаючы на ўсё гэта і на спробы Ермачэнкі дабіцца для БНС самаўрадавых паўнамоцтваў, Штраўх абвінавапціў Кубэ ў падтрымцы курсу на стварэнне беларускай дзяржавы на чале з Ермачэнкам як яе прэм'ерам, што разыходзілася з інструкцыямі ОМі.

У тэзе Штрауха, варта зазначыць, не было выдумкі або паклёпу на чалавека. Усё рабілася свядома. Ва ўмовах, калі Беларусь з дапамогай той жа Службы бяспекі і паліцыі вызвалілася летам 1942 года ад польскай дамінацыі, як і ад расейскай — на пачатку вайны, Кубэ рабіў усё, што ад яго залежала, каб запоўніць прабелы ў развіцці самасвядомасці карэнных жыхароў ды ўзмацніць уласна беларускі элемент у кіраўніцтве. З'езд акруговых і павятовых кіраўнікоў БНС улетку 1942 года яскрава прадэманстраваў поспех сумесна распачатай справы і ў сваіх прамовах на з'ездзе Кубэ падкрэсліваў, што новы шлях развіцця можа прывесці Беларусь да еўрапейскай супольнасці дзяржаў і народаў. Згодна з гэтым, сцвярджаў ён, Генеральная акруга Беларусь павінна выконваць не толькі адміністрацыйныя заданні, прадыктаваныя ваеннай неабходнасцю, — мала, мала таго, — ёй «наканавана стаць Айчынай для беларускага народа». Адсюль вынікае, што беларускі народ у пэўнай ступені ўжо сёння з'яўляецца «дзяржаўным народам».

І пэўна, што больш празрыстых намёкаў на «дзяржаву» для сышчыка Штрауха не патрэбна было.

Кубэ запрасіў да сябе доктара Івана Ермачэнку. І калі той увайшоў з бадзёрым воклічам «Хайль Гітлер!», ён адказаў стомлена «Хайль» і момант маўчаў. Момант быў несамавіты, паскудны, лядашчы момант, калі абое яны выступалі ў якасці змоўшчыкаў, хоць ні адзін, ні другі не рабілі ніякіх сакрэтаў са сваёй дзейнасці, з таго чыну, які кожнаму з іх падказвала ўласнае сумленне. Наадварот, шукалі паразумення і падтрымкі ў вышэйшых эшалонах фашыстоўскай улады.

Ермачэнка ведаў, між іншым, якая павуціна тчэцца вакол Кубэ хціўцамі Гімлера і гатовы быў выказаць спачуванне сябру, з якім неаднойчы піў піва.

Іван не вытрымаў маўкліва-напружанага позірку Віллі — так ён часам звяртаўся да Кубэ, і, як умеў, даверліва і аддана, амаль па-дзіцячы ўсміхнуўся:

— Вас іст лос? Што-небудзь непрыемнае?

— Дас лебен іст айн хартер кампф!

Так, суровая барацьба, як гэта ні дзіўна! Пад вачамі ў Кубэ доктар заўважыў ацёкі, якіх раней не было, і твар быў прыматы.

— Колькі памятаю сябе са студэнцкіх гадоў, — шукаў дабро, ідэалы, шукаў рычаг, каб паскудны свет перавярнуць і спыніцца на нейкім новым устойлівым гуманным парадку. Я ўбачыў такі рычаг у партыі нацы. Яна дбала пра свой народ і мела праграму сацыяльных пераўтварэнняў, але без камуністаў і нават без яўрэяў. Мы далёка зайшлі ў праектах будовы новага свету, а жыццё, — Вільгельм Кубэ пахітаў галавой на бычыным карку, — жыццё паказала, што мы жывыя людзі і не кожны вышталыцаваў сябе настолькі, каб не заўважаць покліча свету, у якім нарадзіўся Хрыстос. Арыйцы павінны паводзіць сябе інакш...

— О, што я чую! — адрэагаваў Ермачэнка.

Зазваніў тэлефон і гаўляйтер зняў трубку; паслухаў і кінуў туды:

— Гут!

І зноў да Ермачэнкі:

— Жыццё ёсць барацьба. А мы што робім?.. Змагаемся... З сыпным тыфам — больш паспяхова. З партызанамі — менш паспяхова. Толькі, мой мілы доктар, ці не ўпусцілі мы штосьці, каб не даць разгарэцца эпідэміі савецкага бандытызму ў лясах ды па гарадскіх трушчобах? Адкажы...

Ермачэнка занепакоіўся, баючыся, што не патрапіць з адказам:

— Гм... Штосьці ўпусцілі... Не павярнулі ўвесь народ да сябе.

— Яволь! Я-я... Ды які народ! Калі я ехаў сюды — палохалі, маўляў, там у балотах ды лясах сярод чумных, неадукаваных людзей антысанітарыя, эпідэміі... Яны хварэюць на розныя небяспечныя хваробы. А што мы з табой высветлілі? Народ моцны. У ягоным асяроддзі амаль ад-

сутнічае такая пошасць, як сіфіліс. Дый тое, што ёсць, завезлі нашы нямецкія афіцэры і салдаты... Народ прыгожы. Чаго толькі варты вашы жанчыны, надзеленыя прыроджанай цнатлівасцю, мілавідныя, зграбныя. О, пане доктар, цяпер нас пачнуць мардаваць акурат за тое, што мы спрабуем выправіць, — за спробу стварыць паўнацэнную краіну пад парасонам ОМі і рэйха.

Ермачэнка слухаў свайго шэфа ды прыяцеля з раскрытым ротам.

— Новая сабака — Эдуард Штраух — села на хвост. Бачыце, мы пераўзышлі свае паўнамоцтвы! Цяпер будуць рэвізаваць палітычную і гаспадарчую дзейнасць. Я запрасіў цябе, мілы герр Ермачэнка, папярэдзіць: усё, што ты рабіў, рабіў з маёй згоды, пры маёй падтрымцы... Зрэшты так яно і было. Толькі не губляйся — спісвай усе грахі на мяне. Я адмаўляцца не стану, у мяне ж лоб браніраваны — як у нашага «Тыгра». Бачыш?.. А ў цябе слабейшы.. Фэрштэст ду? Ты разумееш?..

— Яволь! Данке, герр гаўляйтэр. Я разумею адказнасць моманту і пастараюся быць ягнём.

— Ідзі... Тэлефанавалі мне з гэтай жа нагоды. Будзем трымаць абарону. А ўвогуле мы маем справу з тэндэнцыяй, пра якую нехта Вільгельм Гумбальт, мой зямляк, казаў, што тут «нішто прыгнечвае нешта». Мы ўладкаваны ў сістэму, на жаль...

— Фэрштэйн... Сапраўды.

— Хайль Гітлер!

— Хайль.

Скончылася рэвізія камісарыяту ў Менску расстрэлам 70 яўрэяў, якія працавалі ў адміністрацыі гаўляйтэра Кубэ, і пазбаўленнем БНС дадатковых паўнамоцтваў, абмежаваннем яе рамкамі дабрачыннай арганізацыі... Ліквідавалі Самаахову. Ермачэнка мусіў пакінуць сваю пасаду і, каб пазбегнуць расправы «за дзяржаўную здраду», у красавіку 1943 года выехаў з Менска ў Прагу, дзе быў пазбаўлены права займацца палітычнай дзейнасцю. Пасля яго БНС пагадзіўся ачольваць Юры Сабалеўскі, часова ён спалучаў пасады ў Баранавічах і Менску.

Кубэ перажываў няўдачу так моцна, не раўнуючы, як пахаваўшы дзіцё. Каб узняць статус безабароннага народа, ён пачаў распаўсюджваць цераз журналістаў і ўсяляк прапагандаваць версію нардычнага паходжання беларусаў. Жаданне праводзіць сваю палітыку пад дэвізам, які

ён выказаў раней, пры афіцыйным адкрыцці Саюза беларускай моладзі, — «З Адольфам Гітлерам да самастойнасці беларускага народа!» — падказала яму і яшчэ адзін крок у гэтым жа кірунку. Напрыканцы чэрвеня 1943 года ён стварыў калегіяльны дарадчы орган — Раду Даверу, куды ўвайшлі прадстаўнікі мясцовай беларускай адміністрацыі, кіраўнікі БНС, БСМ, Цэнтральнага бюро прафсаюзаў, старшыня рады культуры Аўген Калубовіч, прафесар Вацлаў Іваноўскі... Апошняму даверылі на тэрмін у адзін год ачольваць Раду. Дарэчы, Іваноўскі ўзначаліў таксама і Беларускае навуковае таварыства, утворанае неўзабаве.

Толькі ж у Кубэ не заставалася ніякіх сумненняў у тым, што карныя экспедыцыі, зверствы СС і паліцыі, якія доўжыліся, перакрэсліваюць усе яго добрыя справы і пачынанні. Таму ён з новай энергіяй узяўся за выкрыццё злачынстваў карных атрадаў, пра якія яму падрабязна паведамлялі камісары акруг. Ён пісаў Лёзе і Розенбергу, называючы канкрэтныя падзеі, даты, мясціны, колькасць забітых і спаленых жыхароў, жанчын і дзяцей. Пісаў, што вынікі гэтых акцый катастрафічныя. У лісце ад 3 чэрвеня Кубэ абгрунтоўваў крымінальную адказнасць шэфа СС і паліцыі парадку генерала фон Готберга, які кіраваў карнымі экспедыцыямі на Беларусі ды браў непасрэдны ўдзел у аперацыі «Гамбург», учыненай у Слонімскай акрузе.

Генерал-маёр Курт фон Готберг неўзабаве папрасіў аўдыенцыі ў гаўляйтэра Кубэ, і гаўляйтэр праз свайго памочніка Юрду прызначыў яму час. Калі ж час высокага чына СС набліжаўся, Вільгельм Кубэ нечакана адчуў на сваім сэрцы хваляванне. Пачало непакоіць, што скажа гэты пестунец Гімлера, якога за «паспяхова» праведзеныя карныя экспедыцыі ў Беларусі прадставілі да чарговага звання генерал-лейтэнанта. Безумоўна, ён будзе апеляваць да выканання воінскага абавязку, спасылацца на выштукаваны ў нетрах імперскай бяспекі «Генеральны план Ост» па каланізацыі Усходу, на загад фюрэра вызваліць начыста ад насельніцтва «бандыцкія абшары» паўночнай Украіны (разам з Беларускім Палессем), а таксама сярэдзіннай Расеі; відавочна, яшчэ прыгадае загад былога агранома Гімлера за 20 ліпеня, які прыспешваў выкананне гітлераўскага загада, падрыхтаванага ім жа, Гімлерам... Як знак асаблівай увагі да сваіх падначаленых Гімлер дарыў ім кнігу пра Чынгісхана і сам стараўся адпавядаць таму.

Вызваленыя ж ад тубыльцаў абшары ён прапаноўваў засадзіць кок-сагызам, гэтак патрэбным тэхнізаванаму рэйху. І ўжо адно гэта, прыходзячы на ўспамін, выклікала ў Кубэ недаверліва-іранічную ўхмылку. Як можна?.. Кубэ ў гутарцы з прыяцелем Эберхартам Герфам, які прыехаў з Берліна на пасаду шэфа паліцыі парадку, роўна як і ў гутарках з іншымі, і ў сваіх лістах-данясеннях у Берлін — Розенбергу, даводзіў, што «калі мы нацыя пануючая, то павінны пакінуць, над кім панаваць, урэшце, калі мы збіраемся засяваць вялізныя абшары кок-сагызам, то патрэбна мець рукі, каб яго даглядаць, балазе культура для вырабу гумы патрабуе карпатлівай працы». Ці ж дойдзе нямецкім галовам, фанатычным і прагным, што ёсць на свеце магчымае і немагчымае? — азадачана думаў цяпер Кубэ.

Каб развеяць сум і трывогу, выкліканую чаканнем знанага эсэсаўца, гаўляйтэр устаў з-за стала, падышоў да расчыненага акна з відам на Цэнтральны сквер. Не вядома, якое ў тым было падабенства, але ж ён, гледзячы ў гэта акно, часам згадваў зялёны сквер у Веймары. Там на раскідзістыя шаты дрэў фасадам выходзіў дом Гётэ — белы, акуратны, шматпавярховы дамок. Ён стаяў, бы флібусьцерская яхта каля прычала.

Веймар — запаветны куток; з ім нітуецца творчы лёс Гётэ і Шылера, пісьменнікаў, якімі ў маладыя гады захапляўся Вільгельм Кубэ. Шмат вады сплыло, як ён быў там, а ў душы засталіся глыбокая пашана і замірэнне перад тым гарадком ды памяццю гэтакіх волатаў літаратуры. Менскі сквер — адно згадка, пры ім — не дом Гётэ або Шылера, а будынак Генеральнага камісарыята Трэцяга рэйха. У шэсць паверхаў. За скверам і ўскрай яго дзенідзе відны разваліны. На аддаленым рагу, дзе Тэатральная перасякаецца з Галоўнай вуліцай горада, з год назад на дрэвах былі павешаны падпольшчыкі. Па ягоным загадзе... Але ж ад гэтага іх не стала меней, што прыкра ўсведамляць... Затое на левым бліжэйшым рагу сквера — мур гарадскога тэатра. Будынак ацалеў, і цяпер там ставяцца спектаклі на матывы жыцця тутэйшага люду — «Кастусь Каліноўскі», «Пінская шляхта», «Пан міністар»... Ён глядзеў іх з захапленнем. Праўда, больш яркімі здаваліся пастаноўкі оперных твораў — «Купалле», «Вяселле Фігара»... Вокам знаўцы аналізаваў драматургію, ды нечакана і яму, ведзьмаку, узбрыло на думку напісаць п'есу. Вядома, ён не Шылер, але ж гонар мае. І яму, Кубэ, рупіць

унесці лепту ў рэпертуар гэтага сталага тэатра, адметнага яркімі і вабнымі асобамі акцёраў, прафесійным майстэрствам.

Памочнік Юрда далажыў пра госця, які чакае ў прыёмнай, і гаўляйтэр, стараючыся прыдаць свайму голасу безуважнасць, кінуў:

— Заві.

Рослы, але не шырокі ў плячах, з падоўглай арыйскай галавой, якая бы таўкач, вырастала з плячэй і ахарошвалася акулярамі на роўным носе, фон Готберг не прымусіў сябе доўга чакаць.

— Я шчаслівы вас бачыць! — тым жа безуважна абыякавым голасам сустрэў госця Кубэ. — Чым магу вам служыць?

— Герр гаўляйтэр, — з доляй патэтыкі пачаў эсэсаўскі генерал, — асмелюся заўважыць, вы занадта далёка зайшлі ў сваіх абвінавачваннях доблеснай паліцыі парадку рэйха і службы СС.

— Ах так?.. Гледзячы што, мой шаноўны, уважаць за парадак.

— Усё, што дыктуюць інтарэсы рэйха.

— Гэта вельмі адносны крытэрый.

— Затое беспамылковы!

Трымаўся фон Готберг упэўнена і годна, не раўнуючы, як Напалеон пасля Аўстэрліца:

— Увогуле, ваша дзейнасць у генеральнай акрузе выклікае шмат нараканняў.

— Іхь вайс... Я знаю... Хто шукае, вымушаны блукаць.

— Эс тут мір зэр зэр ляйт, — госць зрабіў шматзначную паўзу і, паторгваючы павекам, яхідна працадзіў скрозь вусны: — Нікольі, аднак, не здзіўлюся, калі ваша кар'ера, герр гаўляйтэр, скончыцца ў канцэнтрацыйным лагеры.

— Герр генерал фон Готберг! — утробна ўзарваўся Кубэ: — Дазвольце разлічваць, што вы пакінеце клопат пра маю кар'еру мне самому! А што да вашай дзейнасці, то дух Гімлера, які вы разам з Оскарам Дзірлевангерам так удала ўвасабляеце на гэтай зямлі, акрываўленай, шматпакутнай, ніколі не быў уласцівы народу Германіі; ён падрывае маральны падмурак, закладзены нашымі продкамі.

— Іх бітэ ум фэрцаюнг! Калі герр гаўляйтэр не памятае, мне давядзецца нагадаць, — фон Готберг, абапёршыся на падлакотнікі, усеўся ямчэй у мяккім крэсле: — Папершае, думкі і памкненні народа выказваюць яго най-

больш адораныя прадстаўнікі. Ці ж не так?.. І, калі мы пойдзем адсюль, то яшчэ ў 1906 годзе ў сваёй кнізе «Вайна» вялікі пангерманіст Клаус Вагнер заклікаў нас смела пайсці на масавае прымусовае перасяленне еўрапейскіх народаў з тым, каб трымаць іх у ізаляваных рэзервацыях дзеля вызвалення прасторы для нашай экспансіі. А ці ж не боскае натхненне было ў словах Генрыха Класа, калі ў 1913 годзе ён даводзіў немцам: «Мы павінны закрыць нашы сэрцы для літасці... Малыя краіны, як Галандыя, Бельгія, страцілі свае права на існаванне... Мы павінны праводзіць агрэсіўную палітыку. Францыя павінна быць знішчана раз і назаўсёды. Няхай вайна будзе для нас свяшчэннай. Мы павінны вітаць яе як лекара нашай душы... Мы чакаем фюрэра!» Чакалі... І фюрэр прыйшоў. Вы слухаеце? — спытаў фон Готберг, бачачы, што ўпарты пан Кубэ адвярнуўся да вакна.

— Я-я, працягвайце, — на шырокім ілбе ў Кубэ выступіў пот.

— Фюрэр прыйшоў і абвясціў: «Агромністая імперыя на ўсходзе даспела ўжо да распаду. Творца паказаў нам напрамак і ўсклаў на нас абавязак гістарычнай рэвізіі яшчэ нябачных маштабаў».

— Дазвольце, генерал, — падаў Кубэ. — Я рызыкую выказаць свой погляд на рэчы...

— Біттэ.

— На ўсходзе адбываецца працэс адваротны таму, якога мы чакалі на пачатку бліцкрыга, — не распад, а яднанне! І ўсё дзякуючы вашым стараням, СС групэнфюрэр, і такіх, як вы. Таму не столькі па мне, колькі па іншых ваўкадавах, шаноўны, канцлагеры плачуць. Малю Бога, каб фюрэр зразумеў гэта.

— Герр гаўляйтэр! — фон Готберг падаўся з крэсла. — Будзе лепей, калі вы сваю філасофію пакінеце для п'есы, што пішаце для Менскага тэатра.

І Кубэ адчуў зневажэнне сябе як палітыка.

— Іх біттэ ум ферцаюнг! — усклікнуў ён. — Я бачу, што перасцярога вам недаступна. О, майн гот!

Стоячы каля крэсла, ён абапёрся рукамі аб стол і, напыжаны, бадай, нагадваў сваёй паставай зубра.

— У вас не засталося развагі, і вы, генерал, як воўк у аўчарні, схільны не філасофстваваць, а дзейнічаць. І дзейнічаеце... Але ж ці ведама высокаму чыну нямецкага па-

радку, што ёсць закон роўнай помсты, адплаты? Lex tabionis... Фэрштейн зі?

— Я-я... Толькі законы, не прызнаныя фюрэрам, — шайзэ! Пэўна... Я ўлічу, гер гаўляйтэр, ваш нахабны намёк. Зрэшты, мяне прасілі папярэдзіць вас. Што я і зрабіў. Хайль Гітлер!

— Хайль...

Фон Готберг ужо зачыняў за сабой дзверы, калі Вільгельм Кубэ кінуў яму наўздагон:

— Хіммель унд доннэр вэттэр!

Сапраўды, няхай яго паб'е неба! Але ж у наступную хвіліну «зубру», які застаўся сам-насам, зрабілася вельмі сумна; гаўляйтэр Кубэ, нягледзячы на сваю моц, усё больш пачуваў сябе, як у пастцы. Ён адышоў ад пісьмовага стала і доўга глядзеў у акно невідушчымі вачамі, што былі, бы тыя жалуды... У зялёным раскідзістым скверы і ўзбоч, па вуліцы Тэатральнай, сноўдалі рэдкія постаці цывільнага люду. Часам прыцягваў да сябе ўвагу паліцэйскі патруль... А з закуткаў памяці, зводдаль аднекуль, яшчэ са студэнцкіх часоў, спакваля выплывалі радкі твора, які ён любіў:

Галодны край, раздзеты і разуты,
Рай для грабежнікаў, зладзюг,
А над сумленнымі вісіць абух.
Бо там, дзе кат бароніць ката,
Адна нявіннасць вінавата.

Чалавек яшчэ трохі пакорпаўся ў прадоннях памяці і неўзабаве прасвятлеў, усміхнуўся. У тым жа творы, дзе нейкім дзіўным чынам перагукваліся той Гётаў свет са светам гэтым — светам у іншай краіне, яму вельмі блізкімі і зразумелымі ўяўляліся словы Фаўста:

Нам свет пачуцці даў, мы сэрца маем;
Жахаючыся, вечнасць адчуваем?*

Званіў тэлефон, але ён, гаспадар кабінета, не падыходзіў, не браў трубку. Сонца над скверам хілілася к захаду.

Вільгельм Кубэ падрыхтаваў палітычны рапарт, абагульняючага і выбуховага, варта дадаць, зместу. Паслаў Лёзе, які быў проста ашаломлены прачытаным. Прыбягаючы да лічбаў і фактаў, пачуццяў і настрояў людзей, гаўляйтэр пераконваў, прасіў, патрабаваў спыніць крывавыя оргіі, паколькі гэта не толькі руйнуе давер насельніцтва да нямецкага кіраўніцтва, але і падрывае германскі пад-

* Пераклад з нямецкай В. Сёмухі.

мурак нямецкага народа. «Калі такімі метадамі дзейнічаць і надалей, — пісаў ён, — няма чаго разлічваць на ўціхамірванне краю, нават калі сілы паліцыі павялічацца ў дзесяць разоў».

У штабах СС пачаўся аўрал, усё было пастаўлена на ногі і дзейнічала, рухалася, каб прыхаваць, дэзавуаляваць праўду аб злачынствах Дзірлевангера і іншых гімлераўскіх груміл. У хуткім часе звесткі з тых рапартаў былі абвешчаны службамі СС несапраўднымі, выдуманымі, чынілася заслона, каб не дапусціць іх у канцылярыю фюрэра. Пры гэтым адзін за адным пачалі знікаць на беларускіх абшарах асобы, якія, як доктар Людвіг Эрэнляўтнэр, давалі інфармацыю аб карных экспедыцыях.

У чэрвені — ліпені шэф СД і паліцыі Штраух, ягоныя людзі сталі актыўна «пасвіцца» ў Генеральным камісарыяце; гаўляйтэр Кубэ заўважыў няладнае. 20 ліпеня ён выклікаў да сябе Штрауха, гэтага чарнявага брунета з плюгавым, як у пабітай кошкі, станам, і ў кароткай, але рэзкай размове паведаміў яму наступнае: уважаючы на варожасць СД да цывільнай адміністрацыі і да яго, гаўляйтэра, асабіста, як і чыненне эсэсаўцамі шматлікіх злачынстваў у Генеральнай акрузе, герр Штрауху не выпадае болей наведвацца ў размяшчэнне Камісарыята, роўна як і ягоным супрацоўнікам. Кубэ забараніў сваім супрацоўнікам мець кантакты з СС і СД.

— Фэрштейн зі, герр Штраух?

— Яволь! — адказаў імперскі сышчык і кат ды на развітанне змерыў гаўляйтэра Кубэ цяжкім халодным позіркам.

Разрыў Камісарыята з фашыстоўскім рэпрэсіўным апаратам сведчыў аб сіле і няскоранасці духу Вільгельма Кубэ, аб яго прынцыповасці і бясстрашшы.

...Оберштурмбанфюрэр СС Эдуард Штраух тым часам сеў за рапарт свайму начальству ў Берліне. Ён дакладваў аб непрымальных паводзінах Кубэ, які «ў глыбіні свайго сэрца з'яўляецца праціўнікам нашых яўрэйскіх акцый», і г. д. «Пры такіх умовах, я мяркую, — меркаваў эсэсавец, — пакідаць генеральнага камісара на ранейшай пасадзе немэтазгодна».

Рада Даверу таксама не засталася ў баку. На сваім пашыраным пасяджэнні (сесіі) 23 жніўня 1943 года яна адкрыта і мужна выступіла супраць карных экспедыцый. Сесія праходзіла ў памяшканні Генеральнага камісарыя-

та, і паслухаць, паглядзець на мясцовае дзіва — Раду — сюды сцягнулася ажно сорак паліцэйскіх чыноў на чале з генералам фон Готбергам. Уступаючы ў спрэчкі, чыны абураліся пратэстнай акцыяй «беларускага элементу» на вышэйшым, так бы мовіць, узроўні. І была пагроза арышту ўсёй Рады Даверу, але ж на яе баку выступіў генеральны камісар Кубэ, і гэта ўтаймоўвала панадны шал ваўкадаваў.

## 15

Цякла і цякла, забаўна скручваючыся ў танюсенькі раўчучок, кужэльная нітка. Нітку круціла верацяно, што, бы той ваўчок, кружылася ад лёгкага дотыку дзявочых пальцаў, спрактыкаваных ды чуйных, звычных да ўсялякае працы. А тут патрабаваўся спрыт не абы-які, тым болей, што рукі працавалі паасобку, раздзельна, розна і, калі правая, прытрымліваючы нітку, вярцела недзе ўзбоч лаўкі верацяно, то левая, узнятая на ўзровень твару, роўна, раўнамерна паскубвала і паскубвала кудзелю, якая была прывязана да потасі і звісала мяккай сівой барадой; кудзеля была вытокам серабрыстай ніткі, доўгай, раўнютка роўнай, а нітка — аснова для палатна.

Маня Раманавічанка палюбіла гэты вытворчы сялянскі чын, калі пралася нітка. Але ж яе працоўны занятак не быў бы такім вабным, прыцягальным, каб дзяўчаты не збіраліся гуртам, каб не ўтваралі зборні, вясёлыя, галасістыя, начыненыя юначай гарэзлівасцю, уроджанай цнатлівасцю і згадкамі пра долю, якая чакае кожную з іх, будучых нявест, недзе за бугром, няйначай, за Цобскімі пагоркамі.

Маня і яе сяброўкі Тэкля Ксёнда, Марыя Васілевіч, Ганна Кульбеда, Насця Чарнюк і іншыя нявесціліся, дакладней, яны як бы загадзя ўжо прымяралі да сябе прэстыж і славу нявест, прыбіраліся, вядома ж, у думках, у іхнія шыкоўныя строі. Яны марылі пра вабную долю дарослых, хоць не ў кожнай з гэтых летуценных і гожых асоб выяўляліся нават бутончыкі грудак.

Тым не менш, разам з Маняй Раманавічанкай ішло ў жыццё і, як заўсёды, прыспешвала само сябе новае пакаленне нявест-маталянак, шчаслівае тым, што яшчэ не дацягвала да ўзросту, які падлягаў вывазу на працу ў Германію.

Зборню найчасцей наладжвалі ў хаце Чарнюкоў, якая стаяла ў Бэўшавым завулку непадалёку ад камендатуры. Збіраліся днём, а часам — надвечар.

Чарнюкі жылі бедна, як што гаспадар Змітрок не меў зямлі дый быў нямоглым — незнарок павярэдзіў сабе калісьці нагу і застаўся інвалідам, хадзіў з кавенькай. Але ж сям'я ў іх склалася дружная, спаважная, добразычлівая і зусім не зайздросная. Тут жылі, бадай, па прынцыпу: што ёсць — да сэрца, а чаго няма — прэч з галавы! У такой хаце заўжды, калі не ўежна, то ўлежна, і дзяўчаткі на зборнях пачувалі сябе самавіта і вольна.

Па ваенным часе Змітрок меў у камендатуры нейкі нягеглы занятак і адпаведна таму — заробак няпэўны — пра яго ўспаміналі там сяды-тады, калі патрэбен быў перакладчык; часцей, праўда, запрашаць сталі пасля таго, як з ласкі партызан, нарэшце паехала да Абрама на піва памслівая і зламысная полька — пані Малішэўская.

Дзяўчаты ведалі пра цяжкасці ў сям'і Чарнюкоў і таму, ідучы на зборню, нярэдка бралі з сабой хлеб-соль і за агульным сталом дзяліліся, чым было, з гаспадарамі.

Радавала сваёй непасрэднасцю і заўсёднай жывінкай у голасе Чарнючанка Насця, танклявая, чысценькая з твару бландзінка, яна сама не прала кудзелю, паколькі не мела такой, але ж ахвотна дапамагала іншым, калі на што якое здольна была. А часам шыла на швейнай машынцы, чаму навучылася ад маці; яе маці Анюта, варта зазначыць, тут жа вучыла швейнаму рамяству і Марыю Васілевічанку. Вучыла і часам расказвала пра яўрэйку Хайку, бадай, першую ў Моталі швачку; яна шыла на машынцы недзе ў 20-я гады. Гэта быў цуд — машынка «Zinger», і маладзіцы прыходзілі, каб падзівіцца... Дзівіліся яны, праўда, як таму спрыту, ладу, прыгажосці машыннага шыцця, так і гаспадыні Хайцы, яе заўсёднай звычцы выціраць запэцканыя ў тлушч рукі аб свае валасы, з-за чаго тыя штодзень ільсніліся.

Дзяўчаткі мелі гонар не быць падобнымі на Хайку.

Няўрокам кажучы, Насця хораша спявала, таму яны з Маняй нярэдка поплеч стаялі і ў царкоўным хоры на клірасе, і Насцін бацька або маці, як і Манін дзед, часам заходзілі ў царкву толькі дзеля таго, каб паслухаць хор, а ў хоры — боскае гучанне голасу сваёй цуркі — Насці.

На зборнях жа, прадучы сівую кудзелю, спявалі ўсе, і гаварылі ўсе, і чаго толькі не перагаворвалі. Часам дзяў-

чаткам не хапала мужчынскага голасу, і тады на дапамогу ім прыходзіў гаспадар Змітрок:

Ой у зэлэнаму саду
Там солавэйко шчэбэтаў.
До дому я прасілася
А вон менэ ўсё не пускаў

— Ой, мілы мой, а я твоя,
Пусці менэ, узышла зара.
Прачнецца матонька моя,
Будэ пытаць, дзе була я.

— А ты ёй дай такі отвіт —
Була чароўна майска ныч,
Вэсна ідэ, красу нэсэ
А ў той красі радзіе ўсэ.

— Мамко моя, ты ўжэ стара,
А я хороша, молода.
Я жыці хочу, я люблю,
І ты нэ лай доньку свою.

Дзявочыя зборні і працоўны занятак наогул замянялі для былых аднакласніц школу, па якой яны сумавалі. Для Мані яскравым напамінкам пра апошнія заняткі ў школе быў верш, які яна акуратна перапісала і наклеіла ў сваім пакоі над ложкам, на якім спала. Забылася імя ўкраінскага аўтара, а радкі засталіся, і яна час ад часу перабірала іх у думках, у памяці, даходзячы да іх глыбіннага і, пэўна ж, патаемнага для кожнага чалавека сэнсу. Яна ўпадабала чытаць школьны верш уголас і неаднойчы з той ці іншай нагоды дэкламавала яго ў Чарнюкоў на зборні:

Наймілійше мені ў світы
Там, дэ я родився.
Там я взрос, пазнав я Бога,
В школі там вучився.

Усё тут было гранічна і проста зразумела. Словы адпавядалі настрою Раманавічанкі, яе закаханасці ў тое роднае, блізкае, што яна зведала, спасцігла пры непасрэдным удзеле свайго дзеда, цераз яго адметную, чынную, дый сваю руплівую працу.

Маня не ведала (паколькі іхняя школа за саветамі не данесла да яе), што і ў беларускіх паэтычных сшытках

таксама ёсць падобныя радкі; прынамсі, яны маглі б гучаць не менш яскрава:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!

Але, калі Маня прадэкламавала свой верш, сяброўкі ўсклікнулі:

— Ой!..

— А я ж яго таксама памятала, ды забыла, — прызналася Марыя Васілевічанка. — Пэўна, памяць у мяне з дзіркамі і радкі прасеяліся.

— Ой, — цяпер ойкнула Раманавічанка. — А ў мяне ж яны не прасеяліся, пэўна, таму, што на сцяне запісаны!

— Ха-ха! Дзяўчаткі, а праўда ж у нас зямля вельмі прыгожая?..

— Праўда. Куды ні кінь — цуд!

— Праўда... Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка, — самавіта падаў з печы Змітрок, да шкадобы кульгавы цыпрук.

Зборня прыняла яго словы як належнае.

— О-о, у нас летам такая раскоша, такая раскоша! Манька, скажы, — чамусьці звярнулася Насця да Мані. — І якіх толькі красак і якіх пахаў няма! Усё свеціцца, ззяе. А ягад колькі, о-ёй!..

І столькі захаплення, а разам і жалю па леце было ў голасе Насці, што Маня міжволі кінула на яе доўгі позірк; у гэты момант яна нагадвала Мані ці то расцвіўшы сланечнік, ці мак у агародзе...

— Каб не лета, — сказала Насціна маці, мяняючы на стале цырату, — то людзі не зналі б, як і жыць!

Раманавічанка на зборнях і дома ганарылася за свой імпэт, за ўсё тое, што свядома рабіла, бо рабіла яна для сваёй сям'і і ўсіх людзей толькі добрае і рабіла хараша, шчыра, з душой, а душа ж яе была ва ўсім: у доме, у агародзе, у плёскаце хваль на возеры, у сяброўках і асабліва ў парываннях яе дзеда Пятра. Якраз у гэты жыццёвы паследак, калі фарміраваліся фізіялагічныя цыклы, у Мані завяршалася і выбудова характару; да выбудовы ж яго — чыннага, людзянога — спрычынілася, пэўна, і зорнае неба, і моцная энергетыка бацькі. У выніку дзіцятка Барыса і Ганны займела адкрыты выхад на Космас, таямнічы, загадкавы, і набыла ніштавата развітую падсвядомасць. Багата чаго адметнага ўбірала ў сябе яе датклівая душа, ма-

ладая і дзёрзкая, уступчывая і шырокая, якую, аднак, абставіны штораз заганялі ў пяткі.

У свядомасць Мані ўсё больш выразна пачала ўваходзіць новая з'ява, з якой яна ўпершыню сутыкнулася ў верасні сорак другога. Тады Маня, яе маці і Германка разам з гуртам іншых маладзіц пайшлі ў лес па грыбы. Зайшлі далёка, на грыбы быў добры ўраджай, таму ўсе панабіралі — як панесці. Аукаючы, неўзабаве сышліся, згуртаваліся, каб рушыць з лесу дадому, а яно ж вядома, прытомленыя, і пляліся, хто як. Тады жывая і пракудлівая Алена Германка падала каманду:

— Бабы! Падцягніцеся!.. Каб лягчэй было, давайце пойдзем строем па пары, па пары адна за адной. Во так, во так! Цяпер: шагам арш! І песню, песню, ліха матары!

І яна запела. Усе падхапілі, адразу ж адчуўшы прыток сіл і цвёрдасць ступы:

Распрагайце, хлопцы, коней
Дай лягайце спа-а-чываць.
А я выйду ў сад зялёны-ы,
У сад крынічаньку капаць.

— Жыва, бабы! Раз-два, раз-два! — камандавала Алена, гонкая постаць якой узвышалася, бадай, над усімі яе таварышкамі. А тыя пырскалі са смеху, ад узрушэння, уважаючы на нечаканы талент гэтай жанчыны камандаваць. Рабілася весела, балазе яны спявалі далей:

Капаў, капаў кры-ы-нічэньку
У зялёным у саду.
Ці не выйдзе дзеўчынэнька
Раным рана па ваду.

Захапіўшыся спевамі, грыбоўніцы не адразу і змецілі, як пры палянцы на лясную дарогу ступіў крок, другі і застыў чалавек са стрэльбай. Да яго ўжо было менш пяцідзесяці метраў, калі пярэднія бабы пераляканa войкнулі і знерухомелі. І раптам увесь гурт, як па камандзе, хоць каманды і не было, лямантуючы, кінуўся ў зараснікі. Хаваючыся за дрэвамі, грыбоўніцы абыходзілі партызанскі пост і праз паўгадзіны зноў сышліся, але ўжо на другім канцы палянкі, пад прыкрыццём дубоў.

Яны абменьваліся ўражаннямі ад навіны: цяпер у лесе стаяць вартавыя і невядома, куды і як з гэтага часу можна хадзіць.

Вечарам Маня расказала дзеду пра надарэнне, але, лічачы, што пярэпалах бабскага строю быў дачасны і неабгрунтаваны, засяродзіла яго ўвагу на іншым:

— Дзедусь, я слухала сёння, як шуміць лес. Як вольна ён дыхае і дзіўна-дзіўна шуміць, о! І пра што лес шуміць, дзедусь? Ты, напэўна, неаднойчы слухаў гэты пошум лясны... Немавед што робіцца: ці то лес шуміць, ці дрэвы вядуць лясную балачку.

— Ну прыкладна гэтак. Пад хвалямі ветра дрэвы выконваюць лясную сімфонію. Гэты шум, пэўна, кожнага, хто мае слых, трывожыць, хвалюе. Калісьці я чытаў апавяданне Караленкі «Лес шуміць». Ён параўноўваў лясны шум з шумам мора. І вельмі ўдала выказаў, што чуе чалавек у тым шуме.

— Мне трохі вусцішна было, хоць грыбы прымушалі на ўсё забывацца.

— У прыродзе багата вячыстых гукаў. Вазьмі пошум нівы, асабліва калі колас трохі нальецца, прыспее. Тут свой наплыў гукаў, больш далікатны; аднак шум, як і ў лесе, чаруе. Здаецца б, слухаў і слухаў тонкі, асцісты, прыглушаны перазвон каласоў — колькі жыцця ёсць — усю вечнасць.

Так яны баялі...

Але толькі квяцістае лета скончылася і пакацілася ды пакацілася недзе пад аблыселыя Цобскія пагоркі. Цяпер у доўгія асеннія і зімовыя ночы Маня ўсё часцей слухала, як грукаюць у дзверы сядзібы ўсялякія таемныя постаці: яны называлі сябе то партызанамі, то паліцэйскімі, то немаведама кім яшчэ, і ім адчынялі. І, што характэрным было, адны ставіліся вельмі хвараціта да візіту другіх і кожын нямыты, нязваны бывалец папікаў Пісарчукоў або іншую сям'ю, куды тарнаваўся, іхняй прыхільнасцю да таго або іншага лагеру, пагражаў расправай ды стараўся заграбаць з сабой амаль усё, чым льга было пажывіцца з ежы, з адзення... І — гэта пры тым, што баба Аксіння мілажальна ставілася да кожнага.

Дзядзька Паўлюк у другую ваенную зіму быў надта знерваваны, спакутаваны, пакрыўджаны лёсам. Адно што бестыя Зося, яго гаспадыня, нарадзіла яму трэцяе дзіцё, да якога ён доўга прыглядаўся, намагаючыся вызначыць, ці ягонага ў немаўляці кроў. Потым клапатлівы бацька і муж адчуў фізічную стомленасць ад дзіцячага піску, енку, як і заўзятага ляманту жонкі, знерванай, пэўна, не менш ад

яго. Каб адпачыць трохі і супакоіцца, ён нейкі час нават сцяліў сабе пасцель на канапе ў дзедавай сталовай.

Тут яго і заспеў грукат. Зрэшты, уважаючы на частых гасцей, баба Аксіння ўжо і не зачыняла нанач дзверы на зашчапку — няхай прыходзяць тыя, каму стрэльба дае права лічыць сябе поначы гаспадаром. А Пісарчукі цяпер лічылі за лепшае не астарчацца, не канфліктаваць з варожай сілай — адтуль ці адгэтуль — як што нельга было трымацца пэўнага берагу.

Зайшлі двое і прапанавалі Паўлюку запаліць лямпу. Ён запаліў ды, гледзячы на незнаёмцаў, якія назвалі сябе партызанамі, спытаў нелагодна:

— Чаго вам трэба?

— Пажраць, мой голубе, — сказаў адзін, які меў чорныя бровы, зрослыя на пераноссі, і вусы, як у прусака.

— Прамачыць горла, сагрэцца, — дадаў яго прыяцель, камлюкаваты, асіплы, пры гэтым на яго твары зайграла нахабная ўсмешка.

— А тым, што на вуліцы мёрзнуць, каляду таксама паложана. І яшчэ: калі будзе ваша ласка на тое, паўкажушак...

— А чаму ж гэта і вам, і тым «паложана»? — спытаўся Паўлюк. — Хто вас прыслаў? Толькі ўчора нас абабралі.

— Пра тое мы, галубчык, не ведаем. А ты, міла, цяпер для нас знайдзі! Панятна?

Бадай, толькі знерваванасць гэтай зімы паспрыяла таму, што Паўлюка ўзарвала:

— Да д'ябла маць вашу! Як можна да каліва ўсё вымятаць? У нашым доме пяцёра дзяцей!

— Вядзі нас, галубчык, у кладоўку, — вусаты гаварыў чыста па-руску.

— А там ужо неаднойчы пабывалі такія, як вы. Таму я прашу вас пакінуць дом. Я на вас буду скардзіцца ў штаб!

— Гэ-гэ!.. — партызаны ўставіліся адзін на аднаго, спрабуючы зразумець, што б гэта значыла.

Камлюкаваты зняў з пляча вінтоўку:

— Ён нам пагражае? Сабака!..

— На такога кулі шкада. Усыплем яму?

— Варта!.. Ён жа брат Барыса, халуя фашыстоўскага...

Вусаты для зручнасці сцягнуў з сябе кажух, кінуў на крэсла і скамандаваў:

— А ну, галубчык, здымай свае порткі, інакш куляй прышыем да гэтага ложка!

Са спальні ўстрывожаны выйшаў дзед Пятро, а за ім — і баба Аксіння.

— Паночкі, таварышы! — не ведала яна як да бандытаў падступіцца. — Пакіньце вы сына — мы ж нікому ні ў чым не адмаўлялі.

— Маўчаць! — загадаў вусаты і клацнуў затворам вінтоўкі.

— Крый Божа, каб гэтакі здзек!

Камлюкаваты пярэварацень, на твары ў якога пастаянна блукала крывая і з'едлівая ўсмешка, сцягнуў з Паўлюка споднікі і голым улажыў на канапу.

Вусаты тым часам, выцягнуў шомпал з вінтоўкі і размахнуўся:

— Г-гэх, падла! Паспытай, ці смачна! Па-спы-тай!..

— Фю-іць, — праспяваў шомпал.

Востры боль працяў скуру ніжэй спіны, і Паўлюк зароў на поўны голас, дзіка, вантробна.

Напарнік вусатага, трымаючы Паўлюка, падлічваў удары:

— Раз.. два... тры... Раве, як бугай недарэзаны!.. Чатыры... пяць... шэсць...

На крык свайго чалавека выбегла Зося і нарабіла ляманту:

— О Божа, о людзі! Ратуйце ад душагубаў! А каб вы прапалі! О Божа літасцівы...

— Вусаты, узняўшы тонкі металічны пруцік шомпала, на момант знерухомеў і павёў вокам на лямантуючую маладзіцу. Тады Зося, трасучыся ад жаху, зарыдала горка, няўцешна, яе рыданне перарывалася стогнам.

Маня ж баялася пераступіць парог пакоя, дзе адбывалася экзекуцыя, і стаяла ў адкрытых дзвярах. Яна не памятала, хто яе абхапіў за плечы і падтрымліваў, можа, яе маці. Але толькі глядзець на барвовыя, амаль чорныя пісягі на спіне і сцёгнах свайго дзядзькі, слухаць яго лямант, у яе не ставала сіл. Ад жаху яна калацілася.

— Сем... восем...дзевяць....

— Шш-шэльмы! Нелюдзі! Разі вас у качарыжку!

Маня нарэшце страціла прытомнасць і асунулася на падлогу, яе падхапілі дужыя і лоўкія рукі дзеда; ён перанёс і ўлажыў унуку на яе ложак.

— Семнаццаць... васемнаццаць... дзевятнаццаць... Ну і яшчэ адзін.

— Г-гэх!.. Дваццаць, — сказаў прусак, шавелячы вусамі. — На першы раз хопіць.

— Не-лю-дзі вы нелюдзі! Ах...

На кухні камлюкаваты пацягнуўся да вешалкі, зняў Паўлюкоў паўкажушак.

— Не аддам! — кінулася да яго Зося. Але ён локцем штурхануў яе ў грудзі і прасіпеў:

— Яб-ба... цябе нада!

А той шампаліст, адыходзячы, заграбастаў са стала паўбохана хлеба, разам з абрусам. Ляпнулі дзверы.

Зося наўздагон слала ім праклёны:

— А каб яно вам, шкуралупы, на карысць не пайшло, каб вы і сваёй адзежкі не знасілі, каб вам за гэтакі стыд і здзек па сто скулаў кожнаму вылезла, каб вы ні хадзіць, ні сядзець не маглі!..

Паўлюк пасля экзекуцыі не мог падняцца, і, калі бандыты пайшлі, Аксіння накрыла яго льняным прасцірадлам.

Маня паляжала і, апрытомнеўшы, рэшту ночы ліла гарачыя слёзы ў падушку.

Вось так і ўвайшла ў яе жыццё і свядомасць барацьба прыхільнікаў савецкай улады супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на акупаваных абшарах. А пачалося ж гэта знаёмства з пярэпалаху маталянак-грыбоўніц пры сустрэчы з першым у іх жыцці партызанам, які ахоўваў подступы да свайго ляснога лагера.

Па разлётных вестках ды пагудках, а яны заляталі то ў дом Чарнюкоў, то ў сялібу Пісарчукоў, якая не ведала ад марадзёраў спакою, варта было меркаваць, што ад зімы сорак трэцяга к лету ў значнай ступені ўзрасла баявая актыўнасць лясных ваяроў, якія ўважалі за гонар называць сябе народнымі мсціўцамі; гэтакую духоўную базу яны падводзілі пад усе свае ўчынкі і справы.

Увогуле партызаны быццам бы пасталелі, узброіліся і пачалі нападаць на паліцэйскія камендатуры, або — паранейшаму — пастарункі, у Бездзежы, Хомску, Брашэвічах, Вавулічах, іншых буйных вёсках і сёлах, спалілі гміны ў Моталі і Моладаве, разбілі за Хомскам нямецкую машыну, за якую фашысты павінны былі адплаціць расстрэлам мірных жыхароў. Як правіла, баявая актыўнасць мясцовых апалчэнцаў выклікала жорсткую рэакцыю акупацыйных улад. Акупанты наважыліся прачэсваць ад «бандытаў» лясы, рабіць засады на партызанскіх дарогах. Што да мірных жыхароў, то страху на іх нагнаў таксама і прымусовы вываз у Германію летам сорак трэцяга. Таму з

улікам усіх гэтых акалічнасцей, вядома, уважаючы і на контрнаступленне савецкіх войскаў пасля грандыёзнай Сталінградскай бітвы, пачаўся значны адток сялян і розных ацяробкаў у лес, у балота, у партызанскі атрад. З некаторых вёсак людзі ішлі нават сем'ямі, забіраючы з сабой і хатні скарб і скаціну. Партызаны вымушаны былі адкрыць у Спораўскіх лясах, побач з баявым, яшчэ адзін — сямейны лагер для ўцекачоў, а ў лагеры — і школу для дзяцей, і амбулаторыю, і лазню...

У ліпені загінуў камандзір партызанскага атрада Мар'ян Баравік. У сутычцы з нейкай групай украінскіх нацыяналістаў, казалі, ён не забяспечыў сабе ахову. Чаму?..

У верасні партызаны прыступілі да стварэння партызанскіх камендатур у некаторых вёсках і Моталі, дзе іх уплыў быў больш моцным. Практычна такім парадкам яны аднаўлялі савецкую ўладу.

У кастрычніку немцы акружылі прыазёрную вёску Бабровічы ў Івацэвіцкім раёне, у якой дзейнічалі штабныя партызанскія аддзелы. Яны выбілі ўсіх жыхароў, а сядзібы спалілі; пры гэтым кідалі ў агонь жывымі маленькіх дзяцей.

Намоўленыя партызанамі мотальскія паліцэйскія, Мінюк і Кундаль, падлажылі бомбу ў пасцель свайму каменданту Бэндзе. Бэнду адправілі на той свет, але, падлоўленыя, і самі не ўніклі расправы.

Натуральна пасля гэткага надарэння паліцыя ў Моталі была дэмаралізавана, і гэта паймела свой вынік: Бэндзе капут, справы — шлехт, — тлумачылі напалоханыя ваяры немцам, і тыя дазволілі ім неўзабаве перабрацца з мястэчка Моталь у Яноў.

А між усімі тымі падзеямі, што закранали пачуцці багата якіх жыхароў Моталя, былі, безумоўна, і менш значныя, але толькі ж яны часам стаялі бліжэй да Мані Раманавічанкі або яе сяброўак і таму хвалявалі іх не менш, чым зыход Сталінградскай бітвы.

Папаўзлі жахлівыя ведамкі па Моталю, адна за другую больш неверагодныя, як партызаны сваволілі.

У Войцахавым завулку на Тураблі жыла-была сям'я Валенкаў. Іх дачка Надзя летам сорак першага прыняла да сябе савецкага жаўнера, які ўцёк з нямецкага палону, — у іх было адно прыдбанае ў злагадзе дзіцё і пэўныя планы на прышласць. Аднак партызаны выцягнулі прымака з сядзібы і невядома дзеля чаго прывялі на Кузюраву вуліцу. Там, насупраць хаты Малашукоў, Сідар Мінюк,

паплечнік Плюнгера, загадаў спыніцца разгубленаму сем'яніну Валенкаў. Усміхаючыся пераможна і бадзёра, на вачах ва ўсіх, хто бавіў час на вуліцы, а была нядзеля, ён вырак:

— За здраду салдацкаму абавязку!..

І — пах! — пачулася... Страляў Мінюк з пісталета.

Былы савецкі жаўнер упаў ад выстралу ў патыліцу. Тады хаўруснік Мінюка Рыгор Кульбеда перавярнуў небараку на спіну і, як бы жадаючы пераканацца, што чалавек змярцвеў, парнуў яму нажом у грудзі. У хеўры з Сідарам Мінюком была, дарэчы, і Юлька Жупанка, нявеста Даніка. Ад паўнаты пачуццяў і вясёлай, бадай, прабальшавіцкай энергіі яна ўскочыла «здрадніку салдацкаму абавязку» на грудзі і, прытанцоўваючы, вольнай птушкай запела:

Ой, яблочко,
Куда котишься?
Чорту в лапы попадешь,
Не воротишься!

Навіну аб гэтым адмысловым выпадку прынёс у дом Пісарчукоў Мацвей Мацула, сусед. Ён суха, унурана распавядаў пра надарэнне, як пра нейкае насланнё. А дзед Пятро, выслухаўшы, быў вельмі ўзрушаны.

— Ай бестыі! Ай антыхрысты! І да якога ж упадку маралі мы дажылі, чуеце? От што робіцца, калі невуцтву адкрыты шлях да ўлады. Здзек чыняць мясцовыя дзікуны!

А другога былога жаўнера Чырвонай Арміі выпаралі ў Асаўніцы, што ў адным кіламетры ад Мотaля. Яго звалі Васілём. Параненага ў баі з немцамі Васіля прытуліла ў сваёй сядзібе і выхадзіла адзінокая маладзіца. Ды не варажыла ім таксама на шчасце. Дасталі душу і з яго.

Партызаны цяпер мелі неабмежаваныя магчымасці і права, вынесенае з лясной нерушы. Здабывалі ў людзяной гушчы сабе не толькі харчы, але і іншыя радасці, уцехі, каштоўнасці.

Партызаны Сямён Жур і Рыгор Кульбеда прачулі, што ў Рамана Дзямковіча, які жыў разам з жонкай Мартай на так званых Запылінах у Моталі, ёсць золата. Не выключана, што яно перайшло Марце ў спадчыну ад нейкага родзіча, які яшчэ да Першай сусветнай ездзіў у Амерыку на заробкі. Магчыма, што тое золата было проста вабнай легендай, бо столькі вады ў Ясельдзе сплыло, як родзіч Марты вярнуўся з Амерыкі; ужо мала хто пра яго і памятаў.

Партызаны Жур і Кульбеда надумаліся прамыць, так бы мовіць, руду людской пагалоскі і здабыць сабе хоць па крупіцы каштоўнага металу. Яны выстараліся двух памагатых і, як ваўкі, аблажылі Рамана і Марту. Тыя бажыліся і хрысціліся, даводзячы, што жаданага золата ў іх анізвання, але ж партызанам нельга было адмовіць у рашучасці і яны ішлі па ліхой воўчай сцяжыне да канца: завалілі Рамана на падлогу, асядлалі і сталі рэзаць пілой, а Марце нажом паабразалі грудзі і вушы, выкалалі вочы, затым абоіх пасеклі на кавалкі, вынеслі і раскідалі чалавечыну на поплаве за агародамі.

Не было Бога, каб закінуў у іх душы ўяўленне пра людскасць. Неба трывала. Толькі чырвоная поўня, узыходзячы па-над Цобскімі буграмі і раскошнымі тут абшарамі зямлі, дзівілася зацьменню, якое найшло на людзей. Чалавек — хіжы звер, калі пазбываецца людскасці. Чалавек тады — звер са звяроў, як што не ведае, да якога роду-племені сябе залічыць.

Пра жахлівую трагедыю Дзямковічаў, Рамана і Марты, у Моталі гаварылі не шмат і ўпаўголаса — баяліся нават у думках дапусціць, што такое было, што такое магчыма і яшчэ баяліся, каб размовамі аб д'ябальскіх інтрыгах не наклікаць на сябе якую бяду.

У сям'і Пісарчукоў з гэтай трагічнай нагоды дзяліліся ўражаннямі насцярожліва і ціха, охалі, ахалі адзін перад адным ды, па прапанове дзеда, паспрабавалі засцерагчы Маню ад гнятлівай весткі. Але шыла ў мяшку не ўтоіш няма што.

— Мама, — звярнулася неўзабаве да маці Маня; у яе цёмна-шэрых вялікіх вачах стаяў непакой і трывога. — Як ты вучыла: цьфу, цьфу, цьфу! Не пра нас гаворачы... Мам, а калі б бандыты не да Марты, а да нас прыйшлі дамагацца золата... Што было б?

— Няхай Бог крые, дачушка! Толькі ж чаму ты пра гэта згадала?

— Я ведаю, наш дзед зберагаў царскія залатыя чырвонцы. Ён наважваўся памагчы нам будаваць сваю хату; але ж тады тату на вайну забралі...

Ганна дакранулася і пагладзіла цупкай мацярынскай далонню Маню па плечуках.

— Доню, а ты іх бачыла? — яна падсвядома перайшла на шэпт.

— Што?..

— Дзедавы залатыя...
— Не... Ён аднойчы казаў пра іх, але не паказваў.
— А ці казала ты пра іх каму-небудзь?
— Не, я ж не тое што...
— То і не кажы ніц нікому! Не кажы, Мар'я, бо цяпер свет такі зайздросны — такі зайздросны і хцівы, ой-ё-ёй! Так шкада Марту і яе чалавека. Няхай Бог ужо крые...

Але ж Бог такі, мусібыць, адрокся ў тую волкую імжыстую восень ад свайго нагляду за дрымучым Беларускім Палессем, і мястэчкам Моталь, таму Раманавічанку Маню ў хуткім часе ўжо гняло і калаціла ад крыўды, жалю, адчаю — на мястэчка абрынулася наступная жахлівая навіна.

У тышкавіцкім лесе за Ясельдай сабакі адкапалі трупы, і былі сярод іх змардаваная жанчына гадоў на 40, дзяўчына прыкладна 14-гадовага ўзросту і хлопчык, ад яе маладзейшы. Яны ляжалі збольшага прысыпаныя зямлёй. А далей, у балоце, знайшлі яшчэ адзін труп — мужчыны гадоў на 45, у ім цікаўныя і нераўнадушныя людзі без цяжкасцей прызналі Чарнюка; і тады ўжо ўсім стала зразумелым, што ў сыру зямлю легла сям'я, — яго сям'я з ім разам.

Ніхто, аднак, нічога не ведаў, як і чаму здарылася тая трагедыя, ніхто не бачыў, а калі і бачыў — вочы сабе завязаў, паколькі не прадугледжвалася тое, каб бачыць, як ноччу да хаты Чарнюкоў падышла купка партызан, або тых, што называлі сябе партызанамі, і пагрукалася ў дамоўку шматпакутнай сям'і.

Двое ўвайшлі ў хату, двое засталіся чакаць на вуліцы.

А тыя ў хаце, не патрабуючы святла, пачалі чыркаць запалкамі і самі сабе падсвечваючы, аглядзелі ўсе куткі, голы стол ды асабліва пільна гаспадыню і яе дачку на ложках.

— Гм, соннае царства! Спяць і ў вус ня дуюць...
— А царэўна — на славу!
— Дый у гэтай галубіцы сок шчэ бурліць пад скурай.
— Вы чаго якога да нас? — прыкметна губляючыся ў думках, спытаўся ў гасцей Змітрок, ён стаяў каля прыпеку ў споднiках, апабіраючыся на кавеньку.
— Паперы з камендатуры ў цябе засталіся? — пацікавілася карацейшая постаць.
— Якія паперы?
— А тыя, якія табе давалі для перакладу.

— Мне дадому ніякіх папер не давалі...

— Адзенься, галубчык! І ты, каторы там на печы...

На печы ляжаў, пачынаючы ўжо калаціцца ад дрыготкі, сын Змітрака і Анюты — Андрык. Ён ціхма захныкаў.

— Ну? Каму я сказаў?!

Голас быў густы і пагрозлівы. Андрык надзеў нагавіцы ды ссунуўся з печы. Стогнучы ад прыніжэння і ахапіўшай яе сэрца трывогі, нацягнула на сябе сукенку таксама і «галубіца» Анюта.

Пакуль яны апраналіся, постаць вышэйшага чынніка, у якога пры свеце запалкі былі заўважаны чорныя асцістыя вусы, вярнулася ў сені, вывучаючы і там куткі, зазірнула ў каморку, амаль пустую, беспатольную. Вышэйшы вярнуўся і скамандаваў:

— Пайшлі за мной!

— Куды вы іх? — усклікнула, рыдаючы, Анюта.

— А ты, міла, заставайся ў хаце!

— Ой, што ж вы нічога не гаворыце?! Божа-Божа!

Прыблуды зачынілі Змітрака з сынам у каморцы і загадалі не падаваць ніякага голасу. Самі ж вярнуліся ў хату. Тыя, што стаялі пад вокнамі, неўзабаве пачулі з сярэдзіны дзікі лямант, прыглушаны енк, стогн жанчын.

— Ой, мамачка мая! — крычала ў пакутах маладзейшая.

Вартавыя ў двары ажывіліся ды пачалі ўзбуджана рухацца і штурхаць адзін аднаго ў плячо — хмелем ускіпеўшая энергія патрабавала выйсця. Але ж таварышы ў хаце, здавалася вартаўнікам, доўга бавяцца, таму яны, прынікаючы вухам да вокнаў, у нецярпенні прагна аблізвалі вусны.

Нарэшце, хатнія дэманы вывалакліся праз сені на вольны падворак.

— Ну і як?

— А ты ідзі паспытай, шкадаваць, міла, не будзеш!

І гэтыя з тымі памяняліся месцамі. А раніцай, калі яшчэ трымаўся туман, партызаны падагналі да хаты Чарнюка падводу, вывелі, вывалаклі з хаты паўжывую сям'ю, усадзілі на воз плячом да пляча. Бледная, заплаканая і паніклая Насця хавала вочы ад свету.

Іх вывезлі з Бэўшавага завулка і падвода далей узяла кірунак на тышкавіцкія прасёлкі.

А днём Маня Раманавічанка прыбегла сюды, да сваёй сяброўкі, якой ужо не было. У хаце былі расчынены дзве-

ры. У паветры навісалі маркота, няўтульнасць і тлен. Маня ўглядалася ў параскіданыя па падлозе рэчы гардэроба, стараючыся адгадаць, што тут, уласна, Насціна... І раптам трывога моцна ўдарыла ёй у сэрца! Без Насці адкрыўся чысты правал у душы, і адтуль на яе падзьмула чорнай пустэчай ды холадам.

Вярнуўшыся дадому, яна не ведала, куды падзець сябе; маці з дзедам супакойвалі доню, унуку, уцеху сваю, як маглі. А праз дзень людская пагудка якраз і прынесла тую страшную вестку: сям'ю Чарнюкоў знайшлі замардаванай у лесе...

І не ставала Мані слёз. Дый нікому тыя слёзы не адыходзілі, як што ў жорнах быцця пераціраліся не толькі асабістыя ці сямейныя лёсы, але і лёсы дзяржаў.

## 16

Праца ў полі і на сеняжацях завяршылася, пакідаючы добры плён, і гаспадар Пятро, няўрокам кажучы, адчуў палёгку.

Лета прайшло. Яно ўспаміналася цяпер асобнымі эпізодамі клёку, шчаснае рупнасці, выявамі цнатлівасці і хараства прыроды. Уга!

Як зелянела і разгортвалася бутончыкамі квету...

Як ахаладжвала босыя ступні ног у баразне ды наталяла духам сырой урадлівай раллі.

Як красавала і затым выспельвала ў коласе.

Як пахла скошанай і засмяглай у пракосе мурожнай травой.

Як вабіла буйнымі сакоўнымі клубніцамі ў градках.

Як налівалася яблыкам.

Як грымела навальніцамі і абмывала зямельку дожджжамі.

Як радавала крутымі бакамі кароў, калі тыя вярталіся з пашы.

Як скочвалася салёным самавітым потам па твары, па шыі і па спіне...

Яно адышло ў мільёнах праяў, і люба цяпер гаспадару прыгадваць усё, што было, што мінула.

Эйш лета! У каторы ўжо раз. І не тое, каб гаспадар Пятро аб летні час дужа стаміўся. Але ж прыемна было адчуваць, як адпускала напружанне, супакойваліся костачкі, мышцы, навярэджанае сухажылле.

І акурат момант зайшоў, каб агледзецца, каб ацаніць, што зроблена ўсёй вялікай Пісарчуковай сям'ёй, дакладней, радзінай а шасці парах рук, не выключаючы Маніных...

Стараліся... Стваралі запасы спажыўнага ў разліку на тое, што багата аддаць давядзецца як партызанам, так і іншым гасцям і прыблудам, — няма што вайна напладзіла галодных.

Лета зрабіла сваё, і цяпер льга было ладкаваць, доўжыць працу як бы на другім дыханні. А належала ж яшчэ абмалаціць неабмалочаную збажыну, зрэзаць на градках і пашаткаваць капусту, сабраць парасціланую пад іней на лузе льнасаломку, завезці ў сядзібу і ўпарадкаваць сена. Пасля ён ужо возьмецца варыць мыла... Бог чыннасць любіць, а дбайны гаспадар — плён сваёй працы і пагатоў.

Пры ўсім тым Пятро чуў, ведаў, бачыў, як лета церусілася падзеямі, што аддаленымі, што блізкімі, як пярэсцілася яно імі.

Дзівіла, колькі патрабавалася немцам свежага люду для адпраўкі ў Нямеччыну, неспатоленую, раз'ятраную, агаладалую, нябось, па вайне, і як часта акупанты разам з паліцыяй наладжвалі аблавы ў акрузе. Прычым, не толькі на моладзь — яны ўжо менш пераборлівымі сталі і, не зважаючы на ўзрост, замяталі ўсіх, хто трапіць пад руку. Неўзабаве яны прымусова сагналі на рыначную плошчу амаль увесь Моталь і даручылі доктару Ласіцы адбіраць здаровых.

А з вёсак Псышчава і Аперава ўсіх людзей і скаціну ў тыя ж дні выгналі, а хаты спалілі. І тым, хто ўратаваўся, свяціла адна дарога — у балота, у лес, у партызаны, дзе ўтвараліся сямейныя лагеры. Нярэдка гаспадары вялі туды, трымаючы на павадках, і сваю худобу.

У чэрвені лясныя ваяры яшчэ раз спалілі адноўленую немцамі гміну ў Мотале.

У ліпені партызаны ўзарвалі Мотальскую млячарню, дзе местачкоўцы пераганялі на масла сабранае ў гаспадарках малако.

У ліпені ж Моталь упохапкі абляцела чарнагрудая вестка аб смерці камандзіра партызанскага атрада Валяр'яна Баравіка. Няможна сказаць, каб яна, тая вестка, ускалынула мястэчка, бо мала хто і мала дзе сустракаўся з былым лейтэнантам, ураджэнцам Расеі, бацькі катарага пакінулі некалі сваё карэнне ў Хомску, непадалёку ад-

сюль. І, як што яго мала ведалі, то мала аб ім і тужылі. Адметнасцю гэтай падзеі, праўда, было тое, што забілі маладога камандзіра нейкія ўкраінскія ацяробкі. Здарылася гэта між вёскамі Дробаты і Крамно. Баравік, казалі, устроіў на іх там засаду і ўзяў ў палон, але не абяззброіў, застаўся адзін з імі — пралік, якім тыя і пакарысталіся.

Зрэшты, мае месца і іншая версія гэтага надарэння, згодна з якой Валяр'яна Баравіка, падабраўшы зручны момант, забіў яго ж камісар Багдан Плюнгер — дэману патрэбна была прастора і воля для дзеянняў, а Баравік не даваў разгарнуцца як след.

Не ведаючы акалічнасцей смерці камандзіра лясных ваяроў, Пятро Пісарчук шкадаваў не столькі аб гэтым трагічным выпадку, колькі аб тым, што пасля Баравіка атрадам пачаў кіраваць той жа Данік Плюнгер, настарчывы, надзьмуты ад непамыснага гонару і, калі што не па ім, помслівы... А Пятро ж аднойчы не дагадзіў яму — не аддаў свой ровар, калі той скардзіўся, што ў пасялковым савеце без колаў працаваць цяжка. Той ровар пасля, праўда, у Пісарчука забралі немцы, дакладней, паліцаі. І сум ляжаў на сэрцы ў Пятра ад такое страты.

Толькі ж у жнівеньскі дзень, пасля Спаса, надарылася тая падзея з камендантам паліцыі Бэндам. Выканаўцаў акцыі помсты Міхаіла Мінюка і Сяргея Кундаля паліцыянты адразу ж схапілі і расстралялі, застаецца адно іх дабром памянуць... Страх працяў кожнага са служак Трэцяга рэйха, і камендатура была цалкам дэмаралізавана — асабовы састаў перавялі з Моталя ў Яноў. Таму, пачынаючы з верасня, партызаны ўжо вольна хадзілі і гаспадарылі ў гэтым мястэчку.

Яшчэ раней вярнуўся дадому з Пінскай турмы, дзе, між іншым, сядзеў не ўпершыню, Мікіта Калілец, і яго прызначылі камендантам партызанскай камендатуры ў Моталі. Камендатура выступала як бы ў чыне савецкай улады, але ніякай самастойнай ролі за Данікам не адыгрывала.

Пятро Пісарчук зайшоў у камендатуру — будынак былога пастарунка — да самога каменданта Мікіты Калільца. Зайшоў амаль без патрэбы, як што ў іх былі амаль прыяцельскія адносіны, што не ўплывалі на справу і не заміналі, напрыклад, Калільцу вясной сорак першага запісаць сям'ю Пісарчука ў чаргу на высылку ў Сібір. Але ж мужыкі паважалі адзін аднаго, паколькі ў ранейшым

іхнім жыцці было шмат агульнага — у той час, як Пятро дарупіўся з сям'ёю ў Паволжжы, Мікіта працаваў яшчэ далей на ўсход, на станцыі Юргамыш Курганскай вобласці, у кааперацыі, а раней быў кавалерыстам царскай арміі. Бядак-чалавек з трохкласнай адукацыяй, ён да чырвоных у партыю не запісваўся, але практычна падтрымліваў савецкую ўладу, паколькі разлічваў на шчаслівае ўладкаванне жыцця для сябе і для іншых пад лозунгамі, якія адстракацелі на будынках розных афіцыйных установ. Аднак штосьці ж пацягнула яго адтуль на радзіму, і ён вярнуўся з сям'ёй у Моталь на год пазней ад Пісарчука; асеў на зямлі, якой, праўда, было небагата, і, каб неяк зводзіць канцы з канцамі, зімой працаваў у Налібоцкай і Пружанскай пушчах бракёрам лесу ў купца Лур'е, а часам заставаўся ў яго і на лета, выконваючы працу рэтмана на сплаве драўніны. Пасля таго, як Крэсы Усходнія занялі чырвоныя, Калілец памяняў свой занятак і ўжо зарабляў сабе на хлеб фінінспектарам, а потым і старшынёй пасялковага савета.

Пры сустрэчы з Мікітам Калільцам Пятро заўжды з доляй сардэчнага жалю сачыў за ягонымі рухамі, за поступам — нездарма, яму здавалася, што той павінен накульгваць, паколькі перанёс калісьці сухую гангрэну ног, і частка пальцаў, па ягоных словах, адпала. Але ж Калілец хадзіў роўна і толькі, калі дужа прыспешваў, міжволі пачынаўся прыскок, бо ў рэштках тых пальцаў бракавала апоры і пругкасці.

Мікіта ўзняўся з-за дубовага абшарпанага стала, выйшаў насустрач гаспадару Пятру; ён быў ў афіцэрскім мундзіры без пагонаў, прывіталіся поціскам рук.

— Нешта ж ты, гіцаль, раней быў дужэйшым! — зазначыў з усмешкай Пятро, углядаючыся ў твар каменданта партызанскага чыну, твар прымяты і зжоўклы, з рэдкімі вусікамі.

— Ат, што казаць, — Мікітавы вусны таксама кранула ўсмешка, кволая і разам з тым светлая, праведная: — Турма нікому яшчэ не дадала здароўя. Мне ж паламалі чатыры рабрыны. Да гэтага часу не адыду. Дзякуй Мухалу — выбавіў. Ён цяпер у Пінску працуе.

— Калі не памыляюся, Мухала выручае цябе ўжо не першы раз?

— Так, было... Летась таксама...

Яны прыселі ўзбоч стала, на якім ляжала некалькі прымятых паперчын.

— Чуў навіну? — спакойна кінуў пытанне камендант Калілец. — У Менску падпольшчыкі забілі гаўляйтэра Беларусі Кубэ.

— Што ты кажаш!

— Падарвалі... Такім чынам, як і ў нас Бэнду месяц таму.

— Зразумела... — Пятроў голас упаў: — Маеце радавацца, пане камендант?

Калілец паглядзеў на яго:

— А ты, можа, шкадуеш гэтага гітлераўца?

— Я з ім не знаёмы, каб моцна шкадаваць. Толькі ж ведаю: гэта быў немец, які спачуваў беларусам.

— ???

— Не дзівіся, Мікіта. На свеце ёсць рэчы, якія стаяць вышэй за гітлераўскую альбо савецкую палітыку, гэта — культура і самавызначэнне народа. Разумееш, што гэта значыць?

Калілец кіўнуў:

— Так...

— Вільгельм Кубэ — можа, адзіны з нямецкіх высокіх чыноў, які штодня шчыра рабіў тое, што і гаварыў. А ён гаварыў: «Мы прыбылі сюды як пераможцы, але пераможцы бальшавізму, а не беларусаў — для іх мы — вызваліцелі!»

— Ого-о! — прысвіснуў Мікіта. — Чаму ж тады ў турмах ламаюць нам рэбры?

— Гэта палітыка. Партызаны ж адстойваюць інтарэсы не народа, а бальшавікоў.

Памаўчалі.

— Са слоў сына Барыса ты баеш? — спытаўся Калілец.

— Не тое, каб... Пра Кубэ, напрыклад, я і ў газетах чытаў. Кубэ, як ні адзін з замежных дзеячаў у нашай гісторыі, дбаў пра крэўныя інтарэсы беларусаў. Якраз у гэтай сусветнай бойні.

— Гм... Пятро, — усміхнуўся Калілец, моршчачы лоб. — Няхай яго, гэтага Кубэ, чэрці больш не чапаюць! — І пасля паўзы: — Скажы, што прывяло цябе ў партызанскую камендатуру?

— А, бадай што, нічога пільнага. Проста — цікаўнасць да ходу вайны. Немцы ж адступілі... Мікіта, ці хутка савецкія кацюшы дадуць нам пытлю?

— Дадуць, калі фрыцы папросяць, калі ўтвораць тут, скажам, фронт, не давядзі Божа Праведны! А пакуль што

фронт стаіць ламанай лініяй ад Віцебска — ніжэй, к Бесядзі, сягае да Прыпяці пад Мазыром... Баі ідуць за вызваленне Каўказа і Украіны. Я думаю, неўзабаве грымотны шал дакоціцца і да нас. Пэўна! На захад з усходу ўжо перадыслакуюцца партызанскія злучэнні. Адно такое злучэнне належыць і нам прыняць і часова расквартэраваць у Моталі ды бліжэйшых вёсках. Адкуль яно?.. З Баранавіцкай зоны. Але гэта — партызанская тайна, і я другому б яе не адкрыў.

— Дзякуй за давер... Мікіта, а навошта ж на сваёй тэрыторыі цяпер узрываць харчовыя прадпрыемствы, як, скажам, млячарня? Дзе логіка? Каму шкоду наносіце?

Мікіта Калілец уважліва паглядзеў на госця, няйначай, прымаючы ягоны папрок:

— Магчыма да такой логікі наша стратэгія яшчэ не дайшла. Ну сапсавалі б там што-небудзь, каб часова не працавала. Падобна, аднак, што камусьці патрэбны разбуральныя акцыі дзеля справаздачы, — прызнаўся ён. — А пытанне слушнае...

— Пане начальнік, а калі вернуцца сюды расейцы, ты зноў мяне на Сібір папрэш? — проста без усялякага пераходу кінуў Пятро.

Мікіта хвіліну натужна глытаў паветра памятай грудзінай.

— А ведаеш, я, як брату, табе скажу: мой грэх перад табой не вялікі. У турме, чакаючы расстрэлу, я ўсё перадумаў: калі і чыніў каму крыўду, то не ад сябе, ты ведаеш, я не здольны на гэта, а вымагалі таго ад мяне ўлады, і за гэта прабач. Наогул, адкуль і што дзьмула?.. Такая была палітыка. Мы ўсе пры ёй трэскамі лёталі. Не, не мы, Пятро, а намі кіравалі!.. Зрэшты, і цяпер, ты думаеш, да майго голасу хто-небудзь прыслухоўваецца? Не-е... Данік, адзін у нас за ўсіх — найвялікшы ваяр і сцяганосец! Толькі гэта — між намі.

— Мікіта, калі на шчырасць пайшло, скажу, — рашыўся на адкрытую размову Пятро. — Ты — за савецкую ўладу. А я не хацеў бы яе і ў сне бачыць! І не столькі ўладу, колькі камуністаў, агонь іх выкуры! Не будзем паглыбляцца...Толькі думкі мае пачалі кружыць роем вакол таго, што яны цяпер вычвараюць...

— Я ведаю, — паспрабаваў апярэдзіць Пісарчука камендант партызанскага чыну Калілец. — Твайго сына Паўла шампаламі аддубасілі... Прабач... Тады я быў, ведаеш, дзе...

— Ведаю, браце: ты цярпеў здзек у турме, а людзі ж наглядзеліся і нацярпеліся здзеку і гвалту на волі. Цяпер, чуеш, Мікіта? Ты зноў як бы пры ўладзе, а здзек доўжыцца. Вазьмі аловак і падлічы, колькі душ адправілі на той свет немцы і колькі партызаны. Я маю на ўвазе мірных жыхароў... Перавага на баку партызан! Да таго ж, фашысты ў нас не рэзалі чалавека пілой па жывому і не скакалі на грудзях у ахвяры, спяваючы «Яблычка». Немцы палілі вёскі, якія давалі прытулак партызанам. А партызаны паляць хутары разам з іх жыхарамі, куды нага немца нават не ступала. Скажы, адкуль усё гэта ў нашых людзей, абцяжараных зброяй? Уяві сабе: не сумленнем абцяжараных, а — зброяй!

Калілец, пэўна ж, ведаў аб праявах бандытызму партызан і не аспрэчваў Пятра, а толькі ягоны твар набыў яшчэ большую бледнасць, якая паступова, праўда, знікала, саступаючы месца матавай чырвані; на лбе дробнымі кропелькамі выспявала раса.

— Пятро а Пятро — д'ябал сумлення! Умееш ты адшукаць пытанні, якія, як пуга, сякуць і плакаць не даюць!

— Затое ведаю твой адказ на іх: адбываецца гэтак таму, што мы з табой трэскі ў бруднай крывавай плыні.

Калілец зноў ва ўпор адкрыта паглядзеў на Пятра:

— Не трэба так жорстка...

— Няможна інакш. Змогі няма, Мікіта, павер... Ад таго, што я вынайшаў у пакутлівым роздуме, мне робіцца яшчэ больш вусцішна і горка. Скажы, па якой прычыне мы церпім? Ад самага трыццаць дзевятага года...

— І раней цярпелі...

— Так, але там ад чужацкага панства... Там іншае.

— А цяпер — самі ад сябе?

— Бадай... і я маю сказаць, чаму так адбываецца.

— Гавары, я, можа, ад цябе даведаюся пра свае агрэхі?..

— Не ў табе, шаноўны, прычына і не трэба іроніі. У нас пра гэта недзе ўжо былі размовы. Не жарт: бальшавікі адмянілі прыватную ўласнасць, ды не толькі на зямлю і маёмасць, ай на само жыццё. Ці не так, ліха матары?.. Яны адмянілі свяшчэннае права чалавека на сваё жыццё! Яны адвольна распараджаюцца нашымі жыццямі, як разменнай манетай! Тым самым камуністы знялі са сваіх памагатых, якія ператвараюцца ў выблюдкаў, маральныя скрэпы. Цяпер камунякі балююць на касцях і крыві, у якой нярэдка і самі тонуць. От што юдафільскі камунізм

увёў у жыццёвую норму. То чаму ж нам, хрысціянам, здзіўляцца ўзаконенай пошасці, якая з намі ваюе? Хіба не так?

У вачах гаспадара Пісарчука пульсавалі неспакой і задзірлівасць, на пашчэнках нервова паторгваліся мускулы, твар выдаваў маладзейшым, чым напачатку, калі ён зайшоў да Калільца.

Калільцу зразумелым рабілася, што Пісарчук багата чаго нарахаваў у душы; цяжар думак, пачуццяў прыгнечваў яго, шукаў выйсця, і таму ён, як коршак, з вышыні, з аператыўнай прасторы цяпер пікіраваў на зямлю і гатовы быў раздзяўбаць першага, хто патрапіць на вока, хто прадстаўляе ў Моталі савецкую ўладу, няхай нават умоўную. Калілец, хоць і гатовы быў абараняць яе і сябе, адчуў справядлівасць Пісарчуковых папрокаў і кпінаў, праўда, адчуванне гэта было на ўзроўні трывогі, не болей, і не даходзіла да выразнай думкі або ўсведамлення.

— Пятро, ты крута бярэш...

— Як бы не так!

— Мне цяжка ўцяміць усё, прабач... Ты чалавек вывучаны і, магчыма, глядзіш інакш, бачыш больш за мяне. Сапраўды, права чалавека на жыццё ніяк не абаронена. Ад панскай Польшчы пайшло, і ты тут, браце, у самую кропку пацэліў, ты мне, дурню, вочы адкрыў на гэты факт. Выходзіць, што бальшавікі прыплюсавалі да прыватнай уласнасці і жыццё чалавека і ліквідуюць, маць яе так, агідную прыватную ўласнасць у поўным аб'ёме. Наогул, складана ў жыцці зразумець што-колечы, бо ўсё перамяшалася, — вораг часам можа спагадаць табе, не раўнуючы, як брат родны, і — наадварот. На вайну з немцам тут, канешне, усяго не спішаш, бо свае забіваюць сваіх, і няма ладу ў жыцці, я гэта шкурай сваёй адчуваю таксама.

— Няма, Мікіта, дый не будзе на нашай здратаванай зямлі ладу-складу датуль, пакуль беларусы не стануць пільнавацца сваіх інтарэсаў ды адзін аднаго цаніць, паважаць. Не ведаю, ці настане такі час калі-небудзь, толькі ж мы з табой, пэўна, яго не пабачым. Беларусаў, няйначай, розуму пазбавілі, і не дзіва — столькі зрэзаць галоў! Таму і клююць яны на падманку то з аднаго, то з другога берагу, падпадаюць пад уладу, калі не хіжых сяброў, то антыхрыстаў. А беларусу, веш, Мікіта, што сын мой казаў, беларусу для шчасця патрэбна ўлада над самім сабой. Толькі гэта! Усё астатняе яму Богам дадзена.

Калілец і гэту думку прыняў як належнае, кіўнуў галавой:

— Невядома адно, як той самастойнай улады дастаць. Ад палякаў вызваліліся — пад саветы зайшлі, цяпер от пад немцам... Пасля немца асталююцца саветы. Няўжо зноў мясцовая ўлада не варта будзе граша ламанага?

— Касмапалітычны дур усё спляжыць, — зазначыў пераканана гаспадар Пятро. — І тэндэнцыя: каб усе былі роўныя ў нястачы, у беднаце. Вайна мучыць, а не вучыць, і па вайне людзі будуць араць на сабе, як бо ўжо пачынаюць... Прыгон вырасце ў біч гаспадарчы. Селянін не захоча глядзець на зямлю. Асабліва там, у Расеі... Дрымучы расейскі мужык быў незразумелым у адукаваным грамадстве, якое ўкленчвала перад Захадам, і мала хто здагадваўся: у ім, у мужыку, сіла і трываласць Расеі. Адышоўшы ад прыгону, ён спазнаў сваю годнасць. А тут — ізноў туды, у калгас. Не, дудкі!.. Ён хутчэй сап'ецца, у бурлака або проста ў дурня ператворыцца, чым стане прыгонным. Калектывізацыя павырывае або падсячэ карані земляроба і выцісне душу з мужыка. Душа хаўкне, зямля ператворыцца ў пустку. Спосаб напладзіць пралетараў! Улеглы ў працу народ будзе вынішчаны. Не трэба далёка шукаць доказы. Знішчэнне маіх пчол паказала, куды вядзе гэта варварства. Народ сам сябе не пракорміць.

Увага Калільца да слоў найвопытнага селяніна Пісарчука тым не менш рассейвалася і пераходзіла ў ціхі сум, як што гаварыў Пісарчук цікава, пранікнёна, упэўнена, слушна... Але ж ніякі Калілец або расКалілец, ні ягоная, драны лапаць, каманда, у складзе якой паўтара дзесятка партызанаў, ніхто іншы ў гэты момант не мог анічога змяніць. Камендатура, як магла, ахоўвала парадак у мястэчку, выстаўляла на дарогах дазор, толькі гэта не замінала астатнім партызанам паводзіць сябе тут вольна. Над усім стаяла наканаванасць нейкага вышэйшага плану, і толькі ёй адной усё было падуладна.

Развітваючыся, Пісарчук уступіў просьбе каменданта Калільца — куды дзенешся — і пагадзіўся ўзяць на пастой некалькі чалавек з Баранавіцкага партызанскага злучэння Васіля Чарнышэвіча, якое мела прыбыць у мястэчка.

...Баранавіцкія мсціўцы не прымусілі сябе доўга чакаць. Атабарыўшыся ў Моталі даволі шчыльна — рэдкая хата не брала іх на пастой, на людзей яны зрабілі добрае

ўражанне. Бо не строілі з сябе галодных ваўкоў і не шукалі смятаны або нейкіх незвычайных прыгод, былі дысцыплінаванымі і не адмаўляліся, калі на тое ішло, ад пачастункаў. Па нейкай унутранай знітаванасці, спаважнасці і культуры паводзін іх параўноўвалі з партызанамі атрада Цвяткова.

У сядзібе Пісарчукоў прыпынілася трое з вінтоўкамі: Раман, Рыгор і Васіль, веку — у межах дваццаці — трыццаці... Адзін русявы, а тыя — чарнявыя, усе гаваркія, вясёлыя, — пра ўсё хацелі ведаць, але дыспуты з імі вёў пераважна Паўлюк.

— Хлопцы, куды вас вядуць лясныя сцежкі? — цікавіўся ў пастаяльцаў Паўлюк, а Пятро тым часам дыскутаваў у другім пакоі з нечаканым госцем — прапалым было купцом Мэндалем...

— Вядома куды — бліжэй да воўчай бярлогі, — адказваў русявы, Раман.

— Туды, дзе фрыцам лацвей горла перахапіць!

— А каб вы наважыліся ды недзе спаймалі самога фюрэра?..

— Уга! Гы-гы!..

— Дай Бог сустрэцца з ім на вузкай сцяжынцы, калі ён, да прыкладу, выпаўзаць з бункера будзе!

— Ха-ха!..

— Ад жаху ў штаны накладзеш!

— Які жах? У мяне ж ад радасці, бадай, сэрца пэнькне!

— Сябры дарагія! — казаў чарнявы, жывы і смяшлівы Рыгор. — Не дай рады, як я хацеў бы з такім зверам сустрэцца і накінуць мяшок на яго чванлівую пысу! Я пачуваў бы сябе цалованым Богам!

— Не кажы — жывеш адзін раз у жыцці!..

— Малайчына ты, Грыша! — Паўлюк падтрымаў ягоны задзёр: — Ну ахамутаў бы ты Гітлера, разі яго ў качарыжку, прывалок бы ў мяшку, скажам, сюды. Што мы з ім рабілі б, га, хлопцы?

І тут пасыпаліся прапановы; іх дружны напор ды смех заўзяты, шчаслівы, прыцягнулі ўвагу ўсёй радзіны ў сядзібе Пісарчукоў.

Дзед Пятро кіўнуў Мэндалю:

— Чуеш, маладосць скрозь бярэ верх, весяліцца.

— Маладосць — дурносць...

— Не заўсёды. Я, здаецца, дурным ніколі не быў, — мякка пратэстуючы, усміхнуўся гаспадар сядзібы. — Хоць словы — не доказ...

— Не трэба доказаў! Вы шчыры чалавек...

— Дый я палюбіў цябе за давер і шчырасць.

Яны сядзелі і гутарылі адасоблена ад тых, маладзейшых, — у пакоі, дзе ў самоце жылі-пажывалі Ганна з Маняй ды Волькай, — на іх палавіне. Дзед ва ўсе вочы глядзеў на Мэндаля, які па вайне быў знік, а потым падаў вестку з-пад Ганцавіч, а цяпер і сам аказаўся з гэтым самым чалавечым роем на маршы...

— Дык, кажаце, маё знікненне за дзень да вайны дало падставы мяшчанам у Мотале гаварыць пра нейкі там загадкавы знак?..

— Не столькі тваё, пане-браце, знікненне, не канешне яно. У Мотале на чацвёрты дзень вайны з'явіўся ў форме нямецкага афіцэра тэхнік Говараў, з якім ты працаваў на аэрадроме. Усе ахнулі...

— І палічылі, што я таксама неўзабаве з'яўлюся ў форме нямецкага афіцэра?..

— Калі шчыра, не выключалі таго.

— Азохунвэй! Што я чую? Пане Пятро, а праўда ў тым, — пачаў тлумачыць праўду былы купец Мэндаль, — што я такі даведаўся ад шэльмы Говарава: заўтра вайна... Я чалавек палахлівы, і першае, што легла на душу, — уцякаць!

Тоўсты твар, валаватыя вочы Мэндаля не выказвалі непакою, але ж у самай глыбіні позірку варушылася штосьці няпэўнае і мітуслівае, няйначай, пытанне: дасць яму веры спрактыкаваны жыццём маталянін ці не? Вядома, у сітуацыі, калі Говараў самахоць раскрыўся, пра што Мэндаль не ведаў, нехта можа зрабіць яму закід у супрацоўніцтве з нямецкай разведкай. Таму, вярнуўшыся ў Моталь, ён моцна рызыкуе. Але хто стане даказваць тое, чаго даказаць, бадай, немагчыма, дый няма каму, паколькі тыя, з якімі ён сябраваў, даўно загавелі душой, а жадны прыяцель — Пятро Пісарчук, калі пра што і здагадваецца, свае здагадкі і меркаванні не стане выдаваць за ўлікі. Яму і самому мулка ад таго, што сын Барыс не першы год бавіць бавы ў Нямеччыне.

Маня слухала іх гаману:

— Гаспадар Пятро, я часта меў пра вас думаць. І — пра той слаўны вечар, калі мы з Борухам і Абко доўга гутарылі за вашым шчодра накрытым сталом.

— Дзякуй на добрым слове...

— Цяпер мір і супакой іх праху! Калі Гітлер прайграе вайну...

— Няма што, тады знойдзецца іншая трасца!

— Прымаю заўвагу... Знойдзецца... Толькі ж мёртвыя ўваскрэснуць, і сотні тысяч нявінных ахвяр паслужаць ушанаванню жывых.

— Не сумняваюся, — усміхнуўся дзед Пятро. — Яўрэі — не беларусы... А мой сусед Абко, між іншым, падчас масавых расстрэлаў збег у вёску Закалле і жыў там. Яго расстралялі нядаўна, і — кажуць, партызаны. Дакладна не ведаю, за што, мо не было з чаго боты пашыць таму або іншаму супастату.

— Так ці іначай — усё гэта ахвяры вайны, развязанай Гітлерам. А няшчаснага рамесніка Абко мне асабліва шкада. Тыповы яўрэй, але без уласцівага некаторым нашым суродзічам юдаізму ў характары.

— Залаты чалавек! — ухваліў нябожчыка і Манін дзед і пільным позіркам прыцэліўся ў дасціпнага госця, каб спытаць пра наступнае:

— А ці не лічыш ты, васпане Мэндаль, што другая сусветная вайна паскорыць прыход яўрэйскага ўладарства? Прабач...

Госць, не чакаўшы такога павароту гутаркі, утаропіўся на гаспадара, нібы той стукнуў яму па лбе даўбешкай. Гэты момант улавіла Маня. Яна, праўда, не ўсё разумела, але ўнікліва слухала размову, і яе ахапіў знаёмы ўжо гонар за дзеда: умеў-такі дзед Пятро знайсці і паставіць перад чалавекам пытанне, якое прымушала таго здранцвець на момант. Маня ўсміхнулася мацеры, як бы запрашаючы яе ў сведкі, і глянула таксама на Вольку-сястрыцу, на кошку Лельку... О, гэтаму Мэндалю ў партызанах хоць пэйсы пастрыглі, і ён выглядае цяпер больш ахайна. Маці, падаючы на стол, не ўмешвалася ў гаману.

— Калі заўгодна, колькі слоў пра вытокі пытання, — сказаў дзед. — Неяк на пачатку акупацыі Польшчы, пасля той нашай вячэры, пра якую ты нагадаў, між іншым, я меў нагоду сустрэцца са Скірмунтамі ў маёнтку Моладава. Костусь Скірмунт, былы амбасадар Польшчы ў Лондане, знайшоў у сваёй бібліятэцы кнігу. Ён зачытаў нам выказванне Вільгельма Мара, нямецкага пісьменніка, наконт юдаізму, талмудыстыкі, сіянізму. Дарэчы, яшчэ ў 1879 годзе ён прадрок пагібельную рэвалюцыю ў Расеі, якая мела быць споўненай яўрэйскімі змоўшчыкамі. Але гэта не ўсё. У маёй галаве стрэмкай засела наступнае: «Я глыбока перакананы, — даводзіў Мар, — што прыход яўрэйскага імперыялізму — усяго толькі пытанне часу».

— Гм... Я не чытаў таго Мара...

— Дарэчы, ён не яўрэй.

— Але ж калі ён гэтак піша, я не магу аспрэчваць, бо ў прынцыпе ўсё, абсалютна ўсё, проці чаго гэтак ашалела паўстаў Гітлер, рабілася дзеля панавання нашай расы, а не арыйскай. Не ведаю, пане Пятро, радавацца мне з гэтай нагоды ці слёзы ліць, толькі апошняе даруй сказаць, прыкрыўшы рот далонню: наш яўрэйскі Талмуд і «Mein Kampf» Гітлера — творы вартыя адзін аднаго. Я не гавару пра тактыку... Мг, я не пэўны, што народ, які ўдала альбо няўдала я прадстаўляю, мае свайго асобнага Бога і асобную ласку ад яго, наканаванне ўладарыць над светам размаітага люду. Але ж праграма, закладзеная ў Талмудзе, захапляе, і не аднаго ўроджанага ў Моталі Вайцмана. Таму я зусім не выключаю, што, пакончыўшы з Гітлерам, — дай Бог нам такое пачуць і пабачыць! — людзі будуць шкадаваць і аплакваць столькі ахвяр. Вайна можа паспрыяць адраджэнню памкненняў павэдлуг таго пісьменніка Мара. Дабро не заўжды пакрываецца дабром. Свет зачаты двайста, і эгаізм, маю сказаць, супольны, або кагальны эгаізм — рэч праз меру жывучая. Такое вайною не выб'еш. Азохунвэй! — і Мэндаль расцягнуў губы ва ўсмешцы: — Не давядзі Госпадзі! Я чалавек практычны і люблю чэсны гешэфт. А хто і як панаваць будзе, — цікава, так, не хаваю, цікава, але ж мая галава — не Ліга нацый! І ў партызанаў я ўсяго за перакладчыка.

Пісарчук уздыхнуў:

— Ці гэта скрозь чыніцца здзек з людзей, як у нас?..

— Вы маеце на ўвазе бясчынствы партызанаў?

— Ну — так...

— Я ўжо чуў у мястэчку пра гэта і адкажу: не-е!.. Такое творыцца не скрозь, далёка не скрозь! Скажу больш: Цэнтральным штабам яно не бласлаўляецца. Наадварот... Вы, можа, чулі, у вашай лясной зоне з некалькіх асобных партызанскіх атрадаў утворана брыгада і камандуе ёй нехта Марыняка? Дык па ягоным распараджэнні, за марадзёрства і адсутнасць элементарнай дысцыпліны ў атрадах, двух начальнікаў штабоў расстралялі.

— Нават так? — сумеўшыся ад нечаканага павароту справы, прамовіў гаспадар Пятро і дадаў: — Аднак жа нашым нехрысцям нішто не адыходзіць, не...

Яны яшчэ доўжылі і пашыралі гутарку, як Маня, задаволіўшыся пачутым, узяла ласкавую Лельку на рукі і вый-

шла. Аднолькава востра яе цікавіла і тое, што гучала ў спрэчках ды жартах на дзедавай палавіне хаты.

А там ламалі голаў хлопцы, што рабіцьмуць, калі, не давядзі Праведны, спаймаюць Гітлера:

— Не-не, пазбаўляць яго жыцця такім чынам не цікава!

— Я паслаў бы яго ў падарунак Сталіну!

— А ў Сталіна таксама ўзнікне пытанне: што з ім рабіць? Так што рашайце самі.

— Ой, ці нельга было б нам засушыць яго, як жабу, і змясціць у музей?

— Авохці мне! Ды я зацугляў бы яго, бы д'ябла, і перш, чым што рабіць, пакатаўся б на ім! — паведаміў пра сваё жаданне Рыгор.

— Але пры гэтым, — дадаў Васіль, — добра было б падсмаліць яму пяткі!

— А мо лепей пастанавілі б: вадзіць яго на ланцугу па нашых разбураных гарадах, — выказаў яшчэ меркаванне Раман. — Каб людзі мелі плюнуць яму ў твар!..

— Усе прапановы прыймальныя! — абвясціў Паўлюк. — Толькі я з фюрэрам, бадай, нічога не рабіў бы. Апроч таго, што паказваў бы яму штодня фільмы пра капуціны германскіх армій і ягоных шалёных планаў. А потым закінуў бы падлу на рог месяца або далей нават, каб не смярдзела ім нідзе на зямлі! Дарэчы, — зрабіў Паўлюк шматзначную паўзу: — Разам з ім закінуў бы туды і яшчэ аднаго д'ябла, які адно ў нас дабрадзеем вялікім прыкідваецца, разві яго ў качарыжку!

— Каго? — у адзін голас утрапёна гукнулі маладыя людзі, што былі партызанамі.

— А гэта вялікая тайна ёсць. Дый то: калі будзеце ведаць багата — хутка састарыцеся! — хітра прыплюшчыў вока Паўлюк, аднойчы ўжо біты шампаламі.

Смех неўзабаве сціх і партызаны прыгадвалі цяпер сваіх родных, блізкіх, жаданых, каханых і спявалі песні, у тым ліку ўлюбёную Маняй «Кацюшу», слухаючы якую, яна ўся аж ззяла ад задавальнення і радасці. Напрыканцы прагучала і яшчэ адна, што сумам і радасцю ахінала душу. Запяваў Васіль, які меў паходзіць з лідскіх абшараў, што на Гродзеншчыне.

Туман я-а-арам, ту-у-уман даліною,
Туман я-а-арам, ту-у-уман да-а-аліно-о-о-о-ю-у-у,

За ту-ма-а-анам ні-і-ічога ня відна,
За ту-ма-а-анам нічога-а-а ня ві-і-ідна-а-а,
Толькі ві-і-ідна ду-у-уба зелянога

Забывалася нэндза, усялякі бруд і слота ў жыцці і на вуліцы. Мані падабалася, як прыязна, зычліва і нават загадкава затрымліваліся на ёй хлапечыя вочы.

Толькі ві-і-ідна дуба зе-э-эляно-о-ога-а-а,
Пад тым ду-у-убам кры-ы-ыніца стаяла,
Пад тым ду-у-убам крыніца-а-а стая-а-ала-а-а,
З той крыні-і-іцы дзе-э-эўка воду брала,
З той крыні-і-іцы дзеўка во-о-оду бра-а-ала-а-а,
Упусці-і-іла за-а-алато вядэрца...

Вочы... Як прыязна і зычліва яны глядзелі на яе. Жах! Ад тае спагады і цеплыні, увагі і павагі бутончык квету ў ёй спакваля распускаўся.

Упусці-і-іла залато-о-о вядэ-э-эрца-а-а.
Засмуці-і-іла ка-а-азачэнькі сэрца,
Засмуці-і-іла казачэ-э-энькі сэ-э-эрца-а-а...

Туман я-а-арам, ту-у-уман даліною,
Туман я-а-арам, ту-у-уман да-а-аліно-о-о-о-ю-у-у.

## 17

Новым гудам загуло мястэчка, як што звялася зусім, развіталася з белым светам сям'я капітана Сяргея Калінічэнкі, чалавека, у якога было своеасаблівае жыццё, загадкавае для многіх, своеасаблівы аўтарытэт, якога ніхто не аспрэчваў, і свае спадзяванні на Бога, з якім ён ніколі, праўда, справы не меў і, тым не менш, спадзяваўся на ягоную прыхільнасць, паколькі жыў па законах хрысціянскай маралі.

Ужо да рэшты вычэрпваўся сорак трэці год, і малады марозік хвацка браўся, часам патрэскваючы ў суках дрэў і паказваючы ўсяму жывому, што аберагала кроў у жылах, хто тут гаспадар.

Пятру Пісарчуку нешта завадзіла з'ездзіць на сплаўучастак, дзе ўзімку праца аціхала, замаруджвалася, але не спынялася, і круглякі лесу тралявалі сюды. Нярэдка лесарубы і тралёўшчыкі, у якасці якіх выступалі сяляне, кідалі на ка́ры паверх круглякоў ссечаныя елкі, уважаю-

чы на новы год, які блізіўся і на які жыхары Моталя і бліжэйшых вёсак прызвычаіліся ставіць у доме ялінку і ўбіраць яе. Так і на гэты раз, балазе ў мястэчку ўтварыўся зацішак пасля тых падзей, калі тут адпачывалі чарнышоўцы і калі пасля іх, нешта блізка двух месяцаў, стаялі мадзьяры, насланыя немцамі, пэўна, каб не даць партызанам замацавацца ў гэтым мястэчку, каб збіць іх пыху. Але ж батальён мадзьяраў аказаўся наўздзіў спаважным да мясцовага люду, хоць і трымалі яго фашыстоўскія інтэнданты на галоднай пайцы. Не было выпадку, каб той ці іншы жаўнер, заходзячы ў хату прасіць на спажыву штонебудзь, малака, шматок сала, — патрабаваў, калі яму адмаўлялі, пагражаў, калі ў гаспадароў не было чаго даць.

Партызаны туліліся на сваіх лясных базах, у зямлянках. Маталяне, праўда, не сумавалі без іх і, прыбіраючы елкі, настройваліся ў думках на мірны лад, на навагоднія цуды, на шчасце.

Сяргей Калінічэнка дапамог гаспадару Пятру падабраць ніштаватае дрэўца, дзе шчыльныя зялёныя лапкі спадалі аснежанымі пасамі і ўтваралі прыгожую пірамідку. Калінічэнка гэтак аздобіў яе ў сваіх словах, якія ішлі ад душы:

— Файная будзе елка, проста — гаспадыня забаў. Яна ўжо сама па сабе прыгажуня; на яе і цацак вешаць не трэба, дальбог.

— То дзякуй табе, Сярожа...

— Яна спадабаецца вашай унучцы, якая ўтаропілася тады на мяне, калі я сядзеў у вас на кухні. Нечым — шчыгульнасцю, ці што? — яна нагадвае гэту невысокую елку. Або, наадварот, елка — яе? Не ведаю. Пэўна, больш за год прайшло... Запомніў той пагляд. Вочы пільныя, гараць утрапёна, дапытліва і аднachасова зычаць мне, ягамосцю, дабрату; яна анепакоена і спачувае... Бачыце, дзядзька Пятро, я, былы беспрытульнік калматы, вашывы, а далей — выхаванец прыютаў, вельмі добра навучыўся чытаць па вачах думкі і пачуцці людзей. Каб дзяўчынцы ў гэтакім узросце ды выяўляць столькі кемнасці і душы! Прабачце... Запамятаў, вы сказалі, яе Мар'яй завуць?

— Ну так, Маня, ластаўка мая. Нам з Аксінняй яна стала і за дачку і за ўнуку. Радуемся, гледзячы на яе, як на анёла!

— Дай Бог ёй здароўя! Я ж таксама рады... Яблыка ад яблыні недалёка падае, факт.

— У царкоўным хоры спявае, — доўжыў атэстацыю ўнукі дзед Пятро, — і да любой працы здатная. Праўда,

калі забілі яе сяброўку Насцю разам з бацькамі, як хворая хадзіла, уздрыгвала, кідалася нават у сне. Цяпер адышла трохі.

— Я вельмі ўдзячны вам, дзядзька, у цяжкі час вы заўважылі і падтрымалі мяне.

— Ат, невялікае што... Дай Бог табе і тваёй сям'і надалей, каб ліха не зазналі.

Яны развіталіся. Прайшло колькі дзён і пагудка людская данесла, што капітан Калінічэнка забіты, разам з жонкай і сынам... Ліквідавалі сям'ю партызаны.

Пісарчук асабліва перажываў за гэтага варушлівага чалавека, паколькі з усіх «савецкіх» ён здаваўся старому самым адукаваным, уніклівым, шчырым, кругом надзейным. Адно — меў свой ход думак і адмовіўся пайсці ў партызаны...

Людзі казалі, што ў расправе з Калінічэнкам прымаў удзел сам Данік, камандзір партызанскай вольніцы. А ў справаздачы атрада прозвішча Калінічэнкі з'явіцца пад рубрыкай: «Ворагі народа, знішчаныя партызанамі».

Настрой Пятра, які браўся акрыяць і ўзняцца пад Новы год, зноў быў сапсаваны. Цяпер яму прыгадвалася карціна, бачаная і перажытая ў сне акурат напярэдадні сямейнай трагедыі Калінічэнкаў. Яны з капітанам сядзелі на смалістым з паабіванай карою кругляку, адным з тых, якіх навалам ляжала на сплаўучастку. Па нейкай прычыне, ці то Пятроў конь, стоячы блізка, сунуў нагу ў бярвенне і пацягнуў на сябе, ці што іншае, — горка круглякоў прыйшла ў рух ды абрынулася на іх, Пятра і Сяргея... Ён, Пятро, скалануўся, лякаючыся і маючы адскочыць, прахапіўся ад сну. Трывога нагадала яму момант, калі таксама ж у сне некалі шэльма вусаты чапляўся да яго і хацеў падпаліць крысо світкі. Жах — ад жаху!

А ці быў гэты сон у руку? Калінічэнкі не стала, і цяпер сам Пятро Пісарчук не меў пэўнасці, што для яго ўсё неяк абыдзецца. Таму і прыбраная елка стаяла як своеасаблівы бліскучы помнік спакою ў хаце. Зрэшты ўсю вастрыню моманту адчуваў толькі ён, гаспадар Пятро, іншым гэта не так далягала.

А неўзабаве і Каляды. Яны ўвайшлі ў хату ціха, не прэтэндуючы на нейкую знешнюю аздобу і бляск. Сціпла гарэла на прыпечку лучына, абмацваючы патлы паўзмроку і пырскаючы ў іх гарачымі іскрамі, няйначай, жадаючы падпаліць. Характэрную пракаветную ўтульнасць ка-

ляднаму вечару, прычым не толькі ў сядзібе Пісарчукоў, прыдавалі жар на прыпеку, смалістае святло лучыны. Гаспадыні стараліся прыгатаваць і падаць на стол што лепшае — эвой! Яны зрабілі мачанку, варэнікі з журавінамі, піражкі з капустаю, а таксама і макам — усё, каб не пакрыўдзіць пашанотаю ні сябе, ні Бога. З тых, хто калядаваў раней, ходзячы пад вокнамі ад сядзібы да сядзібы, амаль нікога не чуваць было, дзятву бліжэй да ночы, светлай, азоранай, не выпускалі на вуліцу.

Кожын гаспадар даў сабе тормаз у тым, што рупіла ды патрабавала выезду за межы сядзібы. Бадай, ніхто не хадзіў у краму або на рынак, на зборні. І вось так трымалі сваю марку гаспадары — два-тры дні, а затым жыццё зноў цягнула іх на пярэстыя супольныя плёсы, у аснежаную далячынь.

Сусед Хведар Малыцька з раніцы неяк пастукаўся ў дзверы, зайшоў і папрасіў у Пятра таўсцейшую вяроўку — збіраўся ехаць на ўзбалотак за возера, каб прывезці адтуль мурог. Сваю старую вяроўку ён лічыў ужо ненадзейнай.

Гаспадар Пятро зняў з крука ў кладоўцы патрэбную рэч, ён звіў яе сваімі рукамі ў нейкае лета, калі яшчэ вайны не было. І, пэўна, моцнай пяньковай жылаватасцю, набрынялай, ды выспелай на роднай зямлі, тая вяроўка нітавала час вольных сялянскіх захапленняў з гэтым крывавым жэрным часам, калі кулі ўжо, а не пчолы погудам гулі каля скроняў. Перадаючы вяроўку Малыцьку, зазначыў:

— Любы воз ёю ўцісеш! Адно глядзі, каб на нейкай гурбе не павяло ўбок, каб не перавярнуўся. Ідзі з Богам!

Сам ён разам з сынам Паўлюком падчысціў двор ад нанесенага сюды белага месіва, лёгкага, чыстага, дагледзеў скаціну і потым падрамантаваў закутак для гусей, каб яны не вандравалі па кароўніку. За гэтым ягоным заняткам назірала, седзячы на шуле пад страхой, Маніна любіміца Лелька. Праўда, яе цікавіла не столькі праца гаспадара, колькі іншае: праявы жыцця ў розных шчылінах, куды зашываліся вераб'і, і ў вузкіх норах, адкуль часам вытыркаліся прадаўгаватыя шэрыя пыскі. Пятро і не заўважыў, як Лелька злезла ці саскочыла з шулы і сiганула ў аддалены цёмны куток, дзе грэлі адна адну, збіўшыся ў кучу, авечкі.

З дому ж, з кладоўкі акурат, даносіўся роўны каменны гул жорнаў; там маладзіцы, а з імі і Маня, мяняючы адна

адну, спорна круцілі за драўляную ручку верхні камень — малолі муку.

Калі гаспадар Пятро паладаваў што трэба ў двары і вярнуўся ў хату, блізіўся поўдзень. Маня з сяброўкамі Ганнай Кульбедай і Марыяй Васілевіч сядзелі купкай на крэслах у сталовай і, гамонячы, вязалі, шылі, вышывалі — што каму рупіла. Ён прыхільна паглядзеў на іх і, вітаючыся, меў задавальненне пры думцы: «Якая заначка ў нашых, у гэтых дзяўчатак! Яны ж ні хвіліны не пасядзяць, склаўшы рукі. У іх праца — як сутнасць і асяродак жыцця. Як жа мелі б жыць мы, калі б не елі нас поедам чэрці!»

— Дзедусь, — усклікнула Маня, — веш, пра што мы тут байкі баем? Каляды пачаліся. Самы час акурат, каб знайсці хоць бы цукерку з сакрэтам, калі не зачараваны скарб... А нам хацелася б скарбу! Толькі мы сядзімо, і нам ніхто і нішто ніадкуль не паказваецца, нават у люстэрка.

— Чаму ж?.. — Гэта Васілевічанка паспрабавала ўставіць у гутарку свой грош: — Мы ж Началку Кульбеду бачылі ў акно!

І яны ўсе трое пырснулі ад смеху.

— Нешта ваш кавалер пабойваецца вас! — зазначыў ў тон рагатухам дзед Пятро. — Калісьці хлопцы да семнаццаці гадоў без нагавіц хадзілі, затое ведалі, што для іх дзеўкі — скарб вялікі і шукалі, каторую аблапаць.

— Дзедусь... Так шукалі — як ты шукаў бабу Аксіню?

— А-а, хм... Ксенню, чуеце, не трэба было і шукаць, бо ад самага свайго нараджэння яна была побач са мной.

— Ого! — здзіўлена, утрапёна піскнулі-ойкнулі Маніны сяброўкі.

— Што да іншых скарбаў, золата, срэбра, хрому на чобаты, напрыклад, то іх варта шукаць на Цобскіх гарах. Там яшчэ ад часоў Мікіты Парыпы ў зямлі шмат чаго лежма ляжыць і, кажуць, самы вялікі скарб страчаны. А чаму? — Дзед пасунуў крэсла бліжэй да дзяўчат і прысеў. — Ніхто не ведае слоў, каб зняць чары з гары і вярнуць з небыцця скарб, які прыхавала пагоня.

— Ой, дзеду? — Маня, а за ёй і сяброўкі — усе ў момант перасталі штукаваць, як штукавалі спіцамі, іголкамі і — найшчырая ўвага!..

— Было ж тое подаўну, — зазначыў дзед, — калі рускія ваявалі са шведамі. Цобку заняла варожае войска. Жаў-

неры балявалі ды заляцаліся да мясцовых маладзіц. Адзін з іх, мажны, бы камель, груба і нахабна прыставаў да Аксаны, дзяўчыны, на якую заўжды з захапленнем і гордасцю глядзела ўся Цобка — такая пекната была, што любога надзіла да сябе, але нікога не падпускала. Быў на прыкмеце ў яе, праўда, хлопец, спаважны, вядомы ў Цобцы — Даніла, Даніла Чарадзей, звычайнага мяшчанскага або нават мужыцкага роду. Па высакародных манерах сваіх ды праявах характару ён цалкам адпавядаў гожаму князю з тых, якімі раней ганарылася вялікая дзяржава нашых продкаў. Чарадзеем яго звалі таму, што ведаў тое, чаго іншыя не ведалі, і ўмеў замаўляць звера драпежнага; падыдзе спакойна, скажам, да ваўка або нават мядзведзя, пагладзіць яго, мог нават вярхом сесці...

— Дык шведы — у Цобцы! — пераказваў далей легенду Пятро. — І няма каму ад цмока, ад чужынца-нахабніка бараніць Аксану, чуеце... Частка мужыкоў пайшла ў лес, каб не служыць халуямі прышэльцам. Але ж і жанкі ў нас раней былі таксама, што перац. Таму не паспеў той цмок дамагчыся свайго, як маці Аксаны, дастаўшы з печы чыгунок з акропам, боўтнула ім у твар нахабніку. І швед выскачыў адтуль з адным вокам, бы чорт з пекла. Акаянны нарабіў на ўсё войска ляманту. І ўзнялася варожая рацць і ну паліць харомы і выбіваць жыхароў. Аксана ведала пра ўмельства і сілу свайго залётніка Данілы, якога кахала; але ж Даніла не ведаў пра тое, што чыніцца на Цобцы. І Аксана кінулася да святара Кірылы. Разам яны зачыніліся ў царкве, узняліся па прыступках, дасталі званіцы і — бом, бом, цілі-бом! — загудзела, забілася ў надрыўных гуках акруга.

Трывога ахапіла сэрца Данілы. Узняў ён сваіх вершнікаў, і ў паўгадзіны даімчалі яны на конях да палаючай Цобкі. Званы яшчэ біліся і гудзелі. Шведы пакідалі аселіцу. Даніла адсек варожы абоз, дзе было шмат нарабаванага дабра, у тым ліку золата. Сярод палонных з абозам патрапіў у рукі Данілы і аднавокі швед, з твару чырвоны, няўклюдны, як рак.

Зямля калацілася, гудзела, і штосьці жалобнае даймала душу, як даймае царкоўны хор на адпяванні. Воі Данілы вынеслі з царквы абпаленае цела Аксаны. Яна яшчэ жывая была і выказвала на сваім твары пакутлівую радасць пры набліжэнні Данілы. А ён бачыў, што яе жыццё ў небяспецы, і кроў яго ўскіпела прагай яшчэ большай пом-

сты ворагу. Ён загадаў паплечнікам тэрмінова ссыпаць золата ў скрыню і пакласці яе, Аксану, ужо беспрытомную, на гэта багацце. Пацалаваў і шапнуў, што вернецца і абудзіць яе. Даніла павёў злёгку рукою і, не паспелі вої слязу з вачэй змахнуць, як скрыня знікла, а на тым месцы паўстаў слуп; кажуць, у каменны слуп вомегам ператварыўся аднавокі швед.

І як тут выказаць захапленне дзяўчат апавяданнем гаспадара Пятра Рамановіча? Яны глядзелі на яго амаль не дыхаючы.

— Я ўжо даўно не быў на Цобскіх гарах, — зазначыў апавядальнік, — але, мусіць, той слуп і цяпер стаіць.

— Дзедусь, — глыбокім грудным голасам прамовіла Маня, — а што ж далей з Данілам было?

— А ён сабраў войска і пусціўся ў пагоню, дарэчы, пад нашым бел-чырвона-белым сцягам. Балоты заміналі яму абысці ворага і ўдарыць знянацку. Таму, кажуць, учыніўшы закляцце, Даніла Чарадзей рассунуў пагоркі і пайшоў пад зямлю, туды, дзе цвёрды каменны грунт. Па ім ён дастаў ворага. Ён устроіў шведам тое, што немцам было пад Грунвальдам. Але ж назад пакуль не вярнуўся, — і дзед уздыхнуў: — Шкада! Ягонае войска недзе блукае да гэтага часу. І цяпер яшчэ бываюць адметныя дні, калі зямля пад Цобкай гудзе набатным гулам — чуваць, калі вуха прыкласці. Чуцен нават цокат капыт... Толькі Данілу, аднаго яго, чакае з паходу спячая прыгажуня, і таму не даецца нікому ў рукі той закляты скарб.

За абедзенны стол, шыхаваны Аксінняй на кухні, запрасілі і Маніных сяброўак; не ўпершыню яны сядзелі тут і маглі б абвыкнуць ды пачуваць сябе, як дома, але ж прысутнасць дзеда Пятра рабіла рэальны гэты свет, запоўнены знаёмымі рэчамі, нейкім іншым для іх. Гэты свет быў прыўзнятым і напоўненым духам чалавека, які ўяўляўся ім простым, зямным і святым адначасова. Ён шмат ведаў і, здавалася, чуў не столькі вушамі, колькі скурай сваёй ды ўсёй зграбнай істотай. Па гэтай прычыне дзяўчаты не маглі пазбавіцца ўражання, што сцены сядзібы Пісарчукоў — гэта сцены жытла і разам з тым рытуальнай хароміны, накшталт царквы. Акурат сваімі адносінамі да дзеда Маня ўмацоўвала ў атачэнні сяброўак такое ўяўленне пра Пісарчукоў каўчэг.

За абедзенным сталом гутарка павярнула да кніг, да пытання, хто што чытае.

— Шкада, што вайна паставіла крыж на вашай вучобе, — сказаў гаспадар. — Але чытаць кнігі — як дыхаць або смяяцца — належыць заўжды. Пацiху, патроху, сёння, заўтра — заўжды! Бо ад прачытанага на душы праясняецца. Асабліва калі гэта кнігі, напісаныя на роднай для цябе мове, аб роднай зямлі. Тут міжволі ўжо фарміруецца душа. Тады чалавек больш значны для сябе і для іншых.

Маня ўсміхнулася, як што дзед праўду казаў. Асабліва трапнымі ёй падаліся словы: «...на душы праясняецца». Гэта яна ўжо і сама адчула, чытаючы аповесці або вершы. Сяброўкі ж ціпла маўчалі, пагаджаючыся з Маніным дзедам і баючыся прагаварыцца, што ім па многіх прычынах цяпер амаль не выпадае браць кнігу ў рукі, чытаць, асабліва што-колечы вартаснае. Чытаюць так — ад выпадку да выпадку...

— А я ў свой час, — казаў Пісарчук, — багата рускай літаратуры перачытаў. От Ксення не дасць зманіць... Гімназію я не скончыў, бо ў майго бацькі не хапіла сродкаў. Затое потым ужо накінуўся на літаратуру. Больш любіў Талстога, Ляскова, нават Чэхава... Менш Дастаеўскага, які меў карані тут, на нашай зямлі. З-за таго, што творы яго пакідалі ў душы гнятлівае ўражанне... Але ж цяпер я пакутліва разважаю: што гэта за катэгорыя людзей, якую яшчэ ў мінулым стагоддзі Дастаеўскі вызначыў адным словам: бесы! Па-мойму, яны ад басякоў, сацыялістаў ды камуністаў пайшлі і запрудзілі ўсю Расею. Асноўны клопат у іх — забягаць наперад і весці. Куды? Не мае значэння... Таму яны і абшчаперылі ўладу. Так лацвей чыніць здзек, рабаваць, забіваць... Яны адарваліся ад народа, ад нацыянальнага помыслу, сталі вольнымі... А дзе воля без родавага або чалавечага абавязку, там і разбурэнне душы. Вынайшлі, чуеце, «новую пралетарскую культуру». Культурны ідыятызм, бы тая ржа, паб'е ўсю цывілізацыю.

Маня разумела, пра што даводзіць яе дзед. Бесы хвалявалі яго, бо, распладзіўшыся з мінулага стагоддзя, не давалі спакою нікому ні тут, у Мотале і блізка Моталя, ні воддаль яго — на ўсёй кантралюемай Плюнгерам тэрыторыі. Яе ж сяброўкі, відаць, не цямілі зместу сур'ёзнай размовы; Маня, па меры сваіх здольнасцей, паспрабуе пасля патлумачыць ім.

Дзед Пятро паблажліва ўсміхнуўся і, уважаючы на іх замаркочанасць:

— Ат, што гэта я такую сумную размову перад гжэчнымі паненкамі распавёў?

— Перапрашаю, — нечакана падала голас Ганна Кульбеда. — А гэта праўда, што бес можа ўсяліцца ў кожнага?

— Гм... Пытанне, скажам, не ў брыво, а ў вока! — пахваліў дзяўчыну гаспадар Пятро, гледзячы ў яе адкрытыя блакітныя вочы: — Я ўжо казаў, бес, ці д'ябал зазвычай усяляецца ў таго, хто здраджвае свайму абавязку перад роднымі, блізкімі, не ведае Бога, забывае на Бацькаўшчыну, служыць толькі ўласнаму чэраву, маніць сабе і іншым.

— Нябось, у цябе чорт не ўплюшчыцца, — кіўнуўшы на свайго чалавека, падтрымала размову Аксіння: — Ніводзін з тысячы чарцей! Стойкі...

— Вядома... Чэрці ж пакуль абыходзяць сядзібу!..

«А ці абыходзяць яны майго татку? — падумала Маня: — Была ж такая прыгода... І як дзед тады крычаў на свайго сына Барыса, калі той завёў палюбоўніцу. Больш ніколі ў жыцці дзед не крычаў, не ўзвышаў нават голасу ў размове з блізкімі. Ці не ўлез ужо тады бес у рабро бацькі? І ці не сігануў ён пасля нявестцы Зосі пад спадніцу?»

Аднак гэтыя згадкі, выклікаючы ўсмешку, неяк старанной прайшлі, яны не вярэдзілі больш Манінай чыстай душы.

Яна правяла дзеда вачыма, калі ён, падзякаваўшы за абед, устаў з-за стала, перахрысціўся і, накінуўшы на плечы стары паўкажушак, злямцаваны, руды, выйшаў з хаты.

Зімовы дзень — што доля сірочая, няпэўны, нядоўгі. Па поўдні — праз гадзіну-другую, глядзі што і згасае. Не паспеў гаспадар Пятро падцiснуць абручы на рассохлай бочцы, каб сабраць ды ўсыпаць у яе палову, што другі дзень ляжала на таку ад перавеянага ім жа, Пятром, збожжа, як у паветры пачало суцінацца, блякнуць, цямнець. У гэты момант ён і пачуў з вуліцы скрып палазоў і трохі прастужаны голас Малыцькі.

Той заварочваў воз з сенам у свой двор. Прынамсі, здавалася так... Ну і добра. Прывёз — добра. «Удвайне добра, калі сусед суседу паспрыяе ў чым-небудзь». Гэтакім чынам, крануліся думкі самага краю чалавечае ўсведамлення.

Ён выйшаў з пуні, зачыніў яе і навесіў на дзверы замок.

Тупаючы далей на падворку, Пятро змеціў, як подбежкі джгае да ягонай сядзібы Малыцька. У руках сваіх Хведар трымаў скрутак Пісарчуковай вяроўкі, якую браў раніцай.

«А што ж цябе, братка, так гоніць? Каб тэрмінова мне вяроўку вярнуць?» — наважваўся спытаць у суседа, але той у двор да яго не зайшоў — спыніўся каля веснічак, усклаў скрутак на плот і паклікаў:

— Дзядзька Пятро...

Няясная трывога таўханулася ў сэрца.

— Што здарылася? — спытаў Пісарчук, падышоўшы бліжэй; той маўчаў, і яму давялося выйсці на вуліцу.

— Прабачце, не магу я, не... Ніяк няможна, каб такую вестку прынесці ў дом... Я моцна вас паважаю і, канешне, дзякуй за гэта, — кіўнуў на вяроўчыну.

— Што здарылася, Хведар?

Парослы шчэццю твар Малыцькі быў разгублены і, здавалася, ён не ведае, куды дзяваць вачэй. На самой справе яму хацелася адцягнуць момант тлумачэння, якое мела быць, пачакаць, можа, што зменіцца, можа, выявіцца, што гэта няпраўда, што сон... Але ж і прыгода!

— Дзядзька Пятро, лепей будзе, калі я па парадку... Паслухайце, Богам прашу.

— Кажы...

— Гадзіны няма, як тое здарылася. Я з балота вяртаўся. Ужо на возеры... Улегла ж следам за мной штосьці цёмнае. Спачатку — як кропка, потым пабольшала, нарэшце, бачу, лёгкі санны вазок. Я няпэўны, хто там і чаго ад мяне захоча... Прыспешваю свайго сівога. Такі непакой... Хоць бы дастаць да свайго берагу!.. А той хутка наблізіўся і крычыць: «Стой! Стой!» Куды папрэш тут?.. Я спыніўся. Пад'язджае... Конь ва ўсю параю пыхкае. З санак — скок... Мікіта Калілец! Задыханы, нібы не конь, а сам ён бег з вярсту.

— Ты ад каго, Малыцька, такую тваю, уцякаеш? — гаворыць сярдзіта і строга, а ў самога пашчэнкі, бачу, дрыжаць: — Ты ў Пісарчука за суседа, я ведаю... Ладзіш з ім?.. Добра!.. Знайдзі яго і перадай, што Данік Плюнгер хоча яго забіць. Няхай хаваецца!.. Толькі самому яму скажы і больш нікому ні слова! — ён узяў мяне за каўнер, глядзіць у вочы. — Скажаш так?..

— Скажу, — ківаю я, а голас асеў, зусім, як на скразняку яго асадзіла. Калілец зноў ускочыў у санкі і, завароч-

ваючы каня, патрабавальна выгукнуў: — Толькі ж маімі словамі яму перадай, няхай уцякае!

— Добра...

Калі б Пісарчук усур'ёз успрыняў прынесеную Малыцькам вестку, то, пэўна, аслупянеў бы, як ад удару перуна з чыстага неба. Але на твары ў яго разам з трывогай з'явіўся пратэст супраць гэтай ведамкі: «Ці можна?» Сэрца не ўспрымала аблудную навіну і адмаўлялася верыць ёй, яно не знала ні перад кім віны сваёй і ставіла пытанні: «За што трэба мяне забіваць? Каму я замінаю ў жыцці?..» На запыт сэрца павінен быў адказваць розум. Толькі розум маўчаў. Тут розумам наогул нельга было карыстацца, бо дзейнічаў закон тайгі, і адтуль — толькі адтуль — пагражала яму небяспека. Ён шкадаваў сябе і, як ніколі, адчуў нутром, проста фізічна адчуў сваю неабароненасць перад дзікім светам. Слабы чалавек, селянін, ён не насіў на гарбу панцыра, які ахоўвае чарапаху ў балоце, не меў нават ракушкі, якую мае ўлітка, каб пры небяспецы схавацца ў яе, перачакаць пагрозлівы час. Ён меў ногі... Раілі збегчы, схавацца... Ды куды пабяжыш?

Разгубленая ўсмешка на твары Пятра паказвала, што ён, урэшце, паверыў канчаткова ў пагрозу.

— Багата высілкаў не трэба, каб чалавека забіць... Дзякуй Мікіту Калільцу і табе, суседзе: папярэдзілі!.. А толькі ж куды я маю ўцякаць? Балазе ўсё дабро ў зямлю закапана або па людзях раздадзена... З чым і як мне бегчы ў свет белы, хавацца? — пытаўся ён у Малыцькі і ў самога сябе. — Не ўжо, мабыць, свайго лёсу і на валах не аб'едзеш!

Хведар Малыцька маркотна ўздыхнуў. Ён заўжды шанаваў і, шануючы, стараўся дагадзіць Пісарчуку-суседу, але ж у такую хвіліну не мог нічым яму быць карысным.

— Дасць Бог, абыдзецца! — і пайшоў парадкаваць у сваім двары.

Пятро ж зняў з плота вяроўку і занёс на падворак. Перш чым сабраць да кучы разрозненыя думкі і яшчэ раз ацаніць становішча, ён доўга тупаў каля ганка ў зімовым суцішшы, у лёгкім, ценькім змроку, які спакваля нарастаў.

## 18

Святар Георгій Раздзялоўскі бавіўся дома з дзецьмі; дарэчы, ён павялічыў іх ладную купку яшчэ адной сіроцінай, узяўшы на ўтрыманне ў сваю сям'ю Мілу, дачушку былога дырэктара школы Вольгі Міронавай, пасля таго, як Міронаву расстралялі ў пінскіх турэмных засценках.

Ойча тады прылюдна, прынародна сказаў:

— Ат, маю пяцёра сірат — няхай будзе і шостая.

Царкоўныя службы, літургіі, абедні, прычасце, дарэчы, бацюшка выконваў старанна, з належным хрысціянскім імпэтам, з прызорам за самім сабой і нешматлікімі служыцелямі храма. У выкананні служб ён, безумоўна, атрымліваў духоўнае задавальненне. Але ж пасля царкоўных трэб у святара Георгія заставалася яшчэ радасць пакутная, або свайго роду крыж, які ён нёс на сабе штодня, — дзеці. І хоць прыслуга дапамагала яму ў хатнім доглядзе малечы, аднак ён, бацюшка, — не хто іншы як бацька ім родны, і таму першы дбаў, якім чынам гэты вывадак адзець, накарміць, а тады — удыхнуць у кожнага душу. Усё гэта добра вядома клапатлівым бацькам, ды не ўсе яны маюць апекавацца прыёмнымі дзецьмі. Айцец Георгій шкадаваў Міранавічанку нават болей за сваіх, і Міла, чуючы ласку і свой абавязак перад ім, старалася чыніць добрае. Разам з дачкой святара Вольгай яна абірала бульбу, мыла посуд, гатавала стравы на кухні.

У тыя калядныя дні да іх, бульбашоў, можна сказаць, у сваты зайшла бульба па-новаму — яе з імпэтам дралі на тарку і, дадаўшы да сырой кашыцы солі, мукі, а то і курыных жаўток, размешвалі драніцу, рабілі галушкі. А яшчэ пяклі дранікі або, аздобіўшы драніцу ў гаршках шкваркамі і пражанаю цыбуляю, ставілі ў напаленую печ, каб выпякалася бабка.

Кухонным побытам разам з дачушкамі акурат і займаўся святы чалавек у той час, калі гаспадару Пятру лучыла зайсці да яго.

— Бог у помач, ойча!

— Дзякуй, браце! Работа міла, ды дзень кароткі. От парадкуем невялікае што.

— Як жывецца, бацюшка? Даўно ж не быў ў вас.

— У нас адна, глядзі што, пупавіна, таму і жыццё вядомае. Калі сяльцо невялікае, а жабракоў шмат... Даруй, прысядзем у святліцы, бадай... От так... Мне што падалося?.. Голас у цябе дрыжыць, дый выгляд нейкі панылы.

— Каб, крый Божа, не ўмеў дрыжаць, то памёр бы! — паспрабаваў выціснуць з сябе ўсмешку Пятро.

— Што-небудзь здарылася?

— Пакуль што нічога... Пасля бяссоннай ночы сечкай набіта галава. А зрэшты... Я атрымаў вестку адтуль, з партызанскага табару... Данік Плюнгер наважыўся мяне забіць.

— Як! За што?..

— За што, Божа літасцівы? — Пісарчук перахрысціўся: — Ці ж я ў Бога цяля з'еў?..

Святар Георгій перахрысціўся таксама і зацiснуў у кулак бараду:

— Даруй, Госпадзі, нам грахі нашы... Між тым ты, Пятро, не стрымлівай сябе, свае думкі. Раскажы як было. Перш за ўсё трэба выгаварыцца...

— Памерці, не ў гэтай хаце гаворачы, мне не страшна. Але навошта паміраць? І — дзеля чаго?.. Вестку перадаў мне чалавек, да якога я давер маю.

І гаспадар Пятро расказаў, як было, з чаго вынікала, — яму конча належыць чакаць тае смерці, тым больш, калі ён не меў аніякай ахвоты хавацца.

Анепакоены моцна, вантробна, азадачаны не на жарт, айцец Георгій пасля хвіліны маўчання прамовіў:

— Ці ж даўно я адпяваў Калінічэнку?

— Для мяне, ойча, пытанне сэнсу: дзеля чаго ён наважыўся мяне забіць? Ці ж я не даваў, калі яны аграбалі? Павымяталі ўсё з двара...

— Эвой, чалавеча, адказ трэба шукаць не ў табе, а ў ім, у Даніку. Я так мяркую. М-да... Хто ён, Данік Плюнгер? Адкуль, гіцаль, выкараскаўся?..

— Хто ён... А проста нягоднік! Таму і чваніцца!

— Сапраўды... Ён адвяргае спаважны лад жыцця, грэбуе чалавечымі адносінамі! Шэльма! Я ведаю... Адпяваем нябожчыкаў як не кожнага дня. Цьфу ты!.. — ледзь не вылаяўся на тыя акалічнасці святар Раздзялоўскі. — Але ж ты, браце, паслухай. Казаў табе?.. Прыйшоў да мяне на споведзь сівы дзядок. «Адчуваю, кажа, што жыць засталося мала, а я меў грэх у баданні неба». — «Як гэта разумець?» — пытаюся. — «А я рабіў разлікі па прыкладу продкаў. Даследаваў размяшчэнне зор...» На час нараджэння таго ці іншага чалавека, бачыш, зоры паказваюць, што яму наканавана, якое нутро будзе мець, характар...

— Няўжо — Кузюр? — выгукнуў, дзівячыся, гаспадар Пятро.

— Дзядок паведаміў, — доўжыў святар, — што Плюнгер меў няшчасце нарадзіцца пад злавеснай планетай, якой назва — Сатурн, акурат у нейкім чацвёртым градусе да Блізнят. Момант, даводзіў ён, нясе хібы дый увогуле з'яўляецца стратным для чалавека...

Пятро рот раскрыў. У сваёй жывой і трапяткой рэакцыі на нечаканае паведамленне святара ён на хвіліну забыўся нават пра пагрозу смерці яму, пагрозу, якая, магчыма, таксама была прадвызначана ў спляценні зорак, у іх адвечным руху. Айцец Георгій узяўся тлумачыць паведамленне старога:

— Размяшчэнне зораў на той час не дазволіла Плюнгеру займець і падтрымліваць сталую сувязь з Космасам, а значыць, карыстацца вопытам мінулых жыццяў, альбо, ты ведаеш, па версіі расейскага вучонага Вярнадскага, — сферай чалавечага розуму. Нешта такі ёсць там, чаго Данік Плюнгер не атрымаў у спадчыну. Сітуацыя з зоркамі нібыта паказвае, што ад нараджэння яму наканаваны невялікія веды, неглыбокі розум, сярэднія арганізацыйныя здольнасці. Кампенсаваць недастачу таго, чаго няма або вобмаль, ён будзе хітрасцю. Дарэчы, сам Данік не ведае, што так абдзелены прыродай. Але ў яго, казаў дзед, лінія моцнай волі, ён самаўпэўнены, фанабэрысты, не лічыцца з нічыёй думкай. Ці не так?

— Ойча Георгій, — усё ў тым жа захапленні пацікавіўся Пісарчук: — А каб дзед не ведаў Плюнгера, зоркі яму тое самае сказалі б?

— Пэўна! Гм... Не будзь Фамой няверуючым. Плюнгер — дэманічная фігура, і таму, я паўтараю: не шукай, браце, прычыны, за што ён можа цябе або іншага пазбавіць жыцця. Скажу больш. Ён хрышчоны, а паводзіць сябе не як хрысціянін. І — не так, як іншы бязбожнік, што за капейку гатовы пёрднуць у царкве. Не-е!

— Я думаў пра гэта... У яго свая арыентацыя.

— Ён паводзіць сябе — цю-цю! — згодна з Торай... Чытаў?

— Не, але пра Тору быў начуты ў Расеі.

— Ён паводзіць сябе, як сапраўдны юдэй, хаця юдэманам і не з'яўляецца, дый не ведае, якім ветрам яго па жыцці нясе.

— І напладзілася ж бесаў!..

— Так.

— Ойча! Нашага Даніка і іншых прастафіль юдаізм агойтаў праз камуністычныя ідэі. Хіба не? Забівай, рабуй,

перадавай уладу прыхільнікам Торы! Дайшло... От, калі ўзяўся тлумачыць, і сам выразней адчуў прыхаванае. Бальшавікі — гэта сіла. І гэта — сродак або механізм у дасягненні незразумелых нам, хрысціянам, мэтаў. Таму яны так люта рабуюць і разбураюць праваслаўныя храмы. Асабліва ў Расеі.

Пятро сядзеў, абапёршыся лакцямі аб стол і ашчаперыўшы свае сівыя скроні. Крыху памаўчаў і, памаўчаўшы, глыбока ўздыхнуў, як пасля агоранай працы.

Раздзялоўскі дастаў з палічкі старой кніжнай шафы, пабітай шашалем, пацёрты малітоўнік:

— Адзін Бог — нам заступнік. Не Яхве з яго скваплівым азіяцкім норавам ды заўжды аблуднай мараллю. А наш, які вучыць: «Любі бліжняга, як самога сябе!» Чуеш, якая ў гэтай фразе гармонія?! Данікам яна і не снілася. Даруй ім, Госпадзі, бо самі яны не ведаюць, што робяць; прыміры, Уладыка нябесны, варагуючыя бакі.

Затым айцец Георгій, стоячы перад змарнелым сваім прыяцелем і дружбаком Пятром Рамановічам і ўздымаючы вочы ўгору — да іконы Ісуса Хрыста, — пачаў ціха, але выразна, амаль нараспеў чытаць:

— Уладыка чалавекалюбны! Цар ака Цару вякоў і Падацелю дабра, які парушыў сцяну варажнечы і дараваў мір роду чалавечаму, даруй і цяпер мір рабам Тваім: укарані ў іх страх твой і ўмацуй адзін да аднаго любоў; уладзь усялякі разлад, адымі ўсе хістанні, спакусы. Бо ты ёсць мір наш, і табе славу ўзносім, Айцу і Сыну і Святому Духу, цяпер і заўсёды і навек вечны! Амін.

На кухні штосьці бразнула, няйначай, з прыпеку або нявопытных рук на падлогу ўпала патэльня. Нейкі момант яе адвольны рух па падлозе суправаджаўся грукатам.

— Пасядзі, — сказаў святар Пятру і пахапкам выйшаў, але ненадоўга. Пятро тым часам сядзеў, аддадзены ўладзе засцерагальнай малітвы.

— Нічога страшнага, — вярнуўшыся, зазначыў гаспадар святліцы, адносячы словы да кухоннага грукату. — А ты, Пятро, боскай душы чалавек і за цябе я буду маліцца ў царкве. Не дапускай разгубленасці; твая місія на зямлі не вычарпана, як і Хрыста, якога пакаралі смерцю. За што?.. Не, не за зямныя грахі, якіх ён не ведаў, а за праведнасць. «Чалавек чалавеку — брат!» — вось у чым крамола Хрыстова ў свеце дзікунства, гвалту, падману, блюзнерства, расавай выдыганасці, нахабства, урэшце. За ўсім

гэтым — Яхве. Пятро, ты мусіш пагадзіцца са мной... Тады ведай: чалавек жыве адзін век, а добрая справа — два. Будзь спакойны за сябе. Вось і ўсё, што я маю табе сказаць, асяняючы гэтым крыжам. Амін.

І зноў для Пятра, самавітага селяніна, прыхільніка веры Хрыстовай, свет як бы вярнуўся на свой ранейшы падмурак. Яму цяпер здавалася неверагоднай, няўклюднай, спамыленай вестка, перададзеная яму Мікітам Калільцам цераз Малыцьку аб пагрозе жыццю. Не хацелася думаць пра гэта. Снег паскрыпваў пад ялавымі ботамі, наваксаванымі, моцнымі — такія боты абухом не разаб'еш! Пад гэту снежную музыку чалавек вяртаўся дадому.

Варушыліся і цугам цегліся аблачыны ў марознай сінечы, яны бытта мелі да зямлі лагоду і ўсміхаліся яму адмыслова адбеленымі ў промнях сонца краямі. Па тону, па масці і падабенству натуры ці што здаліся яму нацярушанымі з неба і купка авечак, і чародка гусей на падворку, і нават Лелька, кошка, што адпачывала на пустой бочцы пры ганку, чакаючы таго, хто будзе ісці і ўпусціць яе ў хату, і снег — усё адтуль, зверху, ад неба, ад вечнасці і, верагодна, ад Бога... Вечнасць пэўным чынам сеялася і працінала яго, Пятра Рамановіча, празванага ў жыцці Пісарчуком.

Ступіўшы на ганак, ён змахнуў венікам наліплы снег з ботаў і пераступіў цераз парог. У сенях патыхала сырым халодным паветрам, больш халодным, чым на вуліцы, і адсюль хацелася барджэй у цяпло. Ладуючы справы, у кухні варушыліся Аксіння і Паўлюк, які даўно ўжо паладзіў свае адносіны з Зосяй. Ён, Паўлюк, прытрымліваючы адной рукой ступу, другой ускідваў угору таўкач і апускаў — тоўк ільняное семя, папярэдне падпражанае ў печы. Яно мела характэрны для ўсялякага спелага семя, прыхопленага жарам, пах і ўжывалася ў ежу. Шэравата-карычневы парашок, або талакно, насыпалі ў сподкі, мачалі ў яго белую, гарачую, разварыстую бульбу. На густ гаспадара Пятра, дый астатніх едакоў сядзібы, страва была добрая, хоць і даўкая, але смачная. Багі ў посны дзень ад яе не адмовіліся б...

Паўлюк тым часам апусціў таўкач і кінуў на бацьку ўважлівы позірк. Пятро адказаў на маўклівы запыт сына словамі:

— А ўсё-ткі разумны святар бліжэй да Ісуса Хрыста, чым іншы ўгоднік!

— Чаму?
— Бо Хрыстос быў таксама разумным чалавекам.
— І ён пакрываў глупства авечага статка сваім розумам? — Паўлюк, як заўсёды, балансаваў на мяжы дасціпнага жарту і іроніі.
— Ты лічыш, што бацька ў цябе дурны, як баран? — парыраваў Пісарчук.
— Не, дальбог, не! Я ж увогуле... Айцец Георгій нечым дагадзіў табе...
— Але ж, паставіў душу на месца. А то ўвяліўся было страх без дайпрычыны, бадай, — Пятро, адвёўшы вочы ў бок, патупаў на сваю палавіну. Дома, сярод сваіх, ён трымаў у сакрэце папярэджанне Калільца, адно з дзвярэй дадаў: — Цяпер усе мы ў заложніках у Іуды.
— Як і да вайны, — кінуў спакойна ў тон бацькі Паўлюк.
— Крый, Божа, каб цярпець столькі пакут! — Аксіння замешвала ў цабэрку на цёплай вадзе з малаком пойла для цяляці. — Ці настане калі-небудзь для нас прасветлая гадзіна?
— Кажуць, Ленін дзеля камунізму гатовы быў знішчаць калі не ўсіх, то дзевяноста адсоткаў насельніцтва Расеі.
— Што ты кажаш? —пераліўшы пойла ў вядро, Аксіння выпрастала спіну: — Адтуль, сынку, і пацяклі рэкі крыві! У адчаі ды з голаду, учыненага бальшавікамі, людзі елі адзін аднаго. Ты малы быў... Уяўляеш, як азвярэць трэба, каб, прывязаўшы дзяўчыну да дрэва, зразаць з яе кавалкамі мяса, смажыць на агні і жэрці. У-ух! — скалынула яе: — Пасля падобнага расейскага ўпыну мы і засяшаліся сюды, на сваю Бацькаўшчыну.
— І тут знайшлі ўсё, апрача таго, што трэба, — весела кінуў Паўлюк.
— Не-е, бальшавікі акаянныя нас і тут дасталі...
Яна ўзяла за дужку вядро з пойлам і выйшла з хаты. Вярнулася не адразу, пэўна, чакала, стоячы ў хляве, пакуль цяля вып'е — трэба ж карміць худобу, калі ты гаспадар ля яе, калі ёю апекуешся.
Толькі вярнуўшыся з двара, Аксіння пакінула вядро каля парога ў кухні, зняла з плячэй падношаны паўкажушак, павесіла на цвік і засяроджаная, уставілася на Паўлюка, які выграбаў ужо са ступы ў міску стоўчанае семя.
— Нешта, маці, маеш сказаць?

— Спытаць хачу, сынку... Калі б анціхрысты вынішчылі жыхарства Расеі дашчэнту, што было б? Хто жыць застаўся б у такой краіне, якая на паўсвета раскінулася?

— Хм, ха-ха... Мм... А хват яго ведае, урэшце сказаўшы, — Паўлюк падаў маці міску. — Засталіся б, пэўна, тыя, хто зрабіў рэвалюцыю і хто прагне сабе зямлі запаветнай, разі яго... Не з нашым розумам цяміць, чаго хоча Бог, а чаго — д'ябал. Мама, тут без папа не разбярэшся!..

Маня і Волька бавіліся ў сталовай, воддаль ад елкі, калі зайшоў дзед. Уваткнуўшы спіцы ў клубок шарсцяных нітак і адклаўшы яго, Маня паказвала падрослай сястрычцы, як пісаць літары А...Б... Волька малявала заціснутым у кволых пальчыках алоўкам на нейкім шматку паперы, памятым, заплямленым.

— А... Хм, — казала яна, сапучы ад старання і намагаючыся злучыць тое, што чамусь не хацела злучацца: — Дзве палачкі і яшчэ дручок...

— Не цісні моцна на аловак...

— А... Бачыш? А цяпер — Б... Бэ-эй-ей...

— Ба-бэкала ты! Пачуюць — прыбягуць цікаўныя авечкі сюды, каб паглядзець на твае букашы. Вось так пачынай, зверху ўніз — адна палачка, потым карацейшую пастаў з правага боку... Потым... Веш? А-а, дзедусь прыйшоў! Дзень добры!..

Зняўшы верхняе адзенне і прыемна ўсміхаючыся, дзед падышоў да стала:

— Го, што я бачу: Мар'я, унука дзеда Пятра, стала вучыцелькай? Малайчына!.. Шкада толькі, што тваё навучанне вайна спляжыла.

— Дзедусь, а яно, можа, і вернецца, га?... Веш, калі б я стала сапраўднай настаўніцай, я вучыла б усіх жыць так, каб не было зла і закалотаў.

— О, гэтаму людзей яшчэ ніхто не навучыў!

— Дзеда, — пацягнула яго за руку малодшая ўнучка, — а я ўмею маляваць букашы: А... Б... Паглядзі!

— О-го, якія букі, якія кузуркі! Ты, Волька, таксама ў нас малайчына!

— А яшчэ я верш ведаю. Пра зачараваны кут, — пахвалілася малая; цёмна-русыя валасы ў яе былі акуратна зачэсаны на прабор і спадалі на плечы пасмамі; даглядала за яе прычоскаю Мар'я.

— Прачытаеш?

У знак згоды Волька кіўнула галавой:

Вечар... Сонца занікае,
Кроў зары бляднее, тае,
Тае ў небе, на зямлі.
Дрэвы-мары ў гушчары...
Чорным робіцца балота,
Йшчэ чарней — лісты чарота...

І яшчэ раз дзед пахваліў Вольку. На другім канцы стала ў белай вокладцы ляжала кніжка; ён пазнаў яе, гэта быў нятоўсты, але ўборысты зборнік вершаў Наталлі Арсенневай, выдадзены ў Вільні, яшчэ да вайны. Кніга мела назву: «Пад сінім небам», яе прывёз сын Барыс пры апошнім сваім наведванні Моталя.

— І Манька ведае вершы, — падказала дзеду Пятру малая: — Шчэ болей, чым я.

— То давай мы і Маню паслухаем. Добра? — і ён кінуў на Маню прышчураны і падахвочваючы позірк: — Калі ласка, Мар'я.

— Гэты верш аб тым, пра што людзі багата гавораць. Але яно заўжды такое няпэўнае, — па вучнёўскай звычцы яна ўстала з-за стала. — Дык вось:

Шчасце, як сонца: маленькая хмарка
Пройдзе па небе, вышэй, сярод дня, —
Сонца ўжо свеціць так жутла, няярка,
Момант — і сонца няма.

Шчасце, як вішняў вясеннія краскі:
Вецер павее, заплача вясна,
Ссыплюцца снегам на дол яны гразкі,
Момант — і красак няма.

— Ну як, дзядусь? — дачытаўшы верш, спытала Маня ў мудрага і адданага ёй чалавека.

— То, пэўна ж, лепей за паэтку не прыдумаеш! Бо шчасце — не тое, што аднойчы і назаўсёды набыта; шчасце — стан душы, які хутка мяняецца.

— А Вольцы больш падабаецца, калі я чытаю пра ластавак у кнізе «Наши полезные птички». Веш?.. А вершы... Любіць, калі чытаю пра сны; пэўна, яе чаруе рытм верша. Паслухай:

Граюць гуслі-самагуды,
Песня скаргаў з струнаў рвецца,
То — бы родзіць сны-прычуды,
То — адразу абарвецца...

То— нясецца стогнам смутным
Над паснулымі лясамі,
То — знікае дзесь нячутна
За вазёраў паясамі.

Поўна дзіўнае задумы
Ў даляў будзіць адгалоскі...
І плыве, радзіўшы сумы,
Тая песня з вёскі ў вёскі...

— Ну, як? — зноў пацікавілася Маня.

— Чытай-чытай! — спахапіўся дзед.

— Вечар... Сонца занікае, — уставіла сваё Волька; ёй таксама хацелася ўдзельнічаць у далейшым вершаваным перагуку.

— Пачакай, — патрабавальна сказала ёй Маня, — я навучу цябе вершам, што сама вучыла, — трохі прасцейшым, — і чытала далей:

Як без сонца не пражыці,
Без начы не знаць спакою,
Так без песняў цяжка жыці
Ўрань і позняю парою.

Пятро Пісарчук уздыхнуў, толькі не цяжка, хутчэй неяк прасветлена:

— І чаму гэта вы, краскі мае, вершы маркотныя ўпадабалі?

— А яны, — Маня ўзяла ў рукі кніжку «Пад сінім небам», — усе такія і, між іншым, адпавядаюць...

— Чаму?

— Жыццю... Настрою...

— Вечар... Сонца занікае... Кроў зары бляднее, тае...

— Волька! — не ўтрымаўся Пятро. — Даволі!..

Пасля абеду ён пыніўся па гаспадарцы, выцягнуў з дальняга кута і паклаў бліжэй да варот пуні аўсяную салому, каб зручней было пасля яе браць і даваць каню, насыпаў у мяшок грэцкай мукі, чэрпаючы яе з сусека або, дакладней, скрыні для крупяных культур. Гаспадар Пятро з захапленнем прыгадваў пры гэтым усё тое, што авёс або грэчка давалі ці маглі даць селяніну. З аўсянай мукі, або талакна такі кісель атрымліваўся! І гэта не тое, што ў кубкі наліваюць, каб піць. Гарачы аўсяны кісель гаспадыня часам злівала ў ночвы, і ён застываў там — пасля нажом рэзалі. Елі яго — хто як любіў — ці з малаком, ці з мёдам, ці проста так — усё адно смаката была ў ім незвычайная. А

ўзяць бліны з грэчкі: хто паесць іх — паўдня ходзіць панам! Асабліва, калі бліны з канаплянай падлівай ды яшчэ са смажаным мясам. Мачанка — страва князёў! Бліны, любыя бліны — харч і ўцеха сям'і!

Але паступова ход думак у Пятра знайшоў сабе іншае рэчышча, ці то старое, ці паноўленае. Таму ўжо перад сном ён паскардзіўся жонцы Аксінні:

— Не магу я ніяк зразумець, ліха на іх, тыранаў. Возьмем Гітлера, так бы мовіць, вялікага арыйца. Ну навошта табе гэтая арыйская фанабэрыстасць і вайна супраць славянаў дый англічан?.. Ну, закарцела табе ў грымотным маршы пракаціцца з захаду на ўсход, вынішчыць камуністычную заразу і зрабіць славянскія народы вольнымі... Ці не хапіла б для славы?.. Але ж дзеля гэтага яму, ваўкалаку, пэўна, спатрэбілася б зноў ператварыцца ў чалавека, якім ён, магчыма, і быў, калі нарадзіўся. Так... Пасля адмысловага камуністычнага тэрору рэжым СССР, бадай, не вытрымаў бы вызвольнай германскай армады, тым больш, што і армія на першым часе ў саветаў была скрозь абезгалоўлена. Капітан Калінічэнка шмат чаго мне адкрыў. Няхай будзе зямля яму пухам! Мне сумна робіцца ад успаміну аб ім... Аднак жорсткасць і дурата Гітлера яго ж і загубяць. Замест п'едэстала героя, вызваліцеля, выбавіцеля і палітычнага дойліда ў гісторыі яму дастанецца месца кручанага сабакі і толькі.

— Ну вось ты ўжо і разважыў наймудрэй за ўсіх, — цямячы, пра што чалавек гаворыць, падала з-пад коўдры голас Аксіння; іхнія ложкі стаялі побач.

— Мудрасць і глупства маюць свой інтарэс: мудры інтарэс і дурны... Інтарэсам усё і вызначаецца, Ксення...

— То — пэўна. Хто чаго хоча...

Яны далей маўчалі ў набліжэнні сну, расслабляючыся і адначасова сунімаючы гэта сваё расслабленне ды супакой згадкамі пра начны стук у дзверы або пра тое прыкрае, калі не да ладу ў сне пачне табе нешта вярзціся.

## 19

Пятро Пісарчук стараўся не думаць пра самае страшнае — не хацеў яго. Але зазвычай імклівы час ужо запаволіў свой бег у чаканні няпэўнага. Час, няйначай, даваў Пятру магчымасць глыбей асэнсаваць жыццё і ацаніць яго кожны момант, яго прыгажосць. Цяпер яму яшчэ

больш выразна адкрывалася ўся складанасць і непрадказальнасць лёсу таго ці іншага чалавека.

Не выходзіла з галавы дзівоснае і трапнае вызначэнне ананімным астролагам характару Даніка Плюнгера. Пятро шмат чаго ведаў пра мясцовага ліхадзея і, так бы мовіць, бальшавіка з падпаскаў, але пра тое, чым абумоўлена разбуральная існасць яго характару, не здагадваўся, і яму шкада рабілася як гэтага пасланніка Сатурна, нікчэмнага сваёй місіяй у жыцці, так і замардаваных ім людзей. Уражвала сувязь нейкай дробнай кузуркі з Сусветам... Што значыла нарадзіцца, не выбіраючы часу, акурат пад тым Данікавым градусам! Але ж, мусіць, такое ўжо незямное чалавечае наканаванне і Плюнгер не супраціўляўся яму, наадварот, знайшоў поле дзейнасці, што патурала ўсім ганебным чалавечым схільнасцям.

У гэтыя дні найчасцей, чым калі, сталі прыгадвацца пчолы. Як ён ім услугоўваў! Як шкадаваў іх... Бог павінен паставіць чалавеку ў заслугу клопат пра пчол, як што іхні рой — найлепшае, што выштукавана Творцам... І няхай выбачаюць гаспадару Пятру вучоныя, але ён ведае: філасофскі камень, які яны не адно стагоддзе безвынікова шукаюць, каб ашчаслівіць грамадства, захоўваецца менавіта ў пчалінай супольнасці, яе ладзе і складзе жыцця.

Страта пасекі абярнулася для яго глыбокай скрухай і нэндзай. Няйначай, страціў чалавек цывілізацыю ў гэтым своеасаблівым свеце, абмежаваным і неабдымным, невымяральна глыбокім, у свеце, які ён за колькі дзесяцігоддзяў выбудаваў. Самахоць... Таму для яго па тым надарэнні на пасецы і паблякла неба з аднаго краю і прытупілася цікаўнасць да жыцця ўвогуле.

Уважаючы на неверагодную і тым не менш зусім рэальную пагрозу, нехта з атачэння Даніка, а менавіта Мікіта Калілец прапануе ўцякаць, адцураўшыся цяпер і таго, што ў яго засталося і без чаго ён наогул ужо не бачыў сэнсу жыцця. Чалавек без радзіны, без свайго асяроддзя — рыба, выкінутая на бераг у непагадзь. Але ж у Пятра хопіць сіл, каб застацца ў сваім асяроддзі, хопіць духу авалодаць сабой — не пабегчы напалоханым зайцам куды вочы глядзяць. У былыя часы, калі ён быў яшчэ юнаком і вывучаў латынь у прыватнай гімназіі ў Пінску, гэта гучала так: Sint ut sunt aut non sint, што значыла: няхай усё застаецца так, як ёсць, або зусім не будзе! І ў гэтым ягоная, так бы мовіць, ступа і пазіцыя.

Удзень, пынячы зноў розныя гаспадарчыя справы, у якіх асноўным клопатам было кармленне скаціны і пярнатых — курэй ды гусей, гаспадар Пятро раз-пораз прыгадваў малітвы, мяркуючы, што імі льга прыцягнуць да сябе ўвагу духаў святых, а тыя ўжо дастануць да Бога.

Праца ды марознае паветра спрыялі здаровай чалавечай утоме, супакаенню і замірэнню душы, і от у такім заміраным стане ён павячэраў на кухні, за шыхаваным Аксінняй сталом і, падзякаваўшы ёй, сваёй гаспадыні, padаўся да дзятвы — адведаў малечу на адной і на другой палавінах дома, як гэта і раней рабіў, пажадаў усім добрай ночы і пайшоў адпачываць у свой куток. Аксіння легла пазней. Толькі спаць ёй наўрад ці давялося. Здаецца, яна яшчэ і заснуць не паспела, як у цішы, у мораку зімовай начы пачало штось нараджацца, варушыцца, прыцягваць яе ўвагу нарастаючым з вуліцы паскрыпваннем снегу пад нагамі невядома якіх мясцовых бадзяг або падарожных... Ды ўжо і галасы чуліся, хоць разабраць, хто і што гаварыў, няможна было.

Неўзабаве ў дзверы загрукалі; дзверы цяпер не браліся на зашчапку знутры і латругі іх лёгка адкрылі.

— Го! А пакояў тут — на ўсе бакі! — пачулася з кухні пад лёгкі шоргат валёнак — голас барытоннага ладу, хрыплаваты, чужы.

І — другі голас, танчэйшы, падпяваючы першаму:

— Як тыя паны жывуць!..

Толькі не паспела Аксіння накінуць на плечы кафтан і выйсці да начных гасцей, як ягамосці пачалі грукаць прыкладамі аб падлогу:

— Пад’ё-ом!..

Аксіння запаліла лучыну і, стараючыся захаваць спакой, спытала:

— Хто вы?.. Чаго сярод ночы бушуеце?

— Мы партызаны...

— То што вам ад нас трэба?

— Нам гаспадара Пятра Рамановіча, — паведаміў барытон.

— І сына яго — Паўла — да кучы! — патрабавальна дадаў тэнар.

— Навошта яны вам? — анепакоеная, Аксіння павярнулася была, каб ісці ў спальню за сваім чалавекам, але той сам вырас у дзвярах — сухаваты, сівы, у белых споднiках, — ён з’явіўся і нядобра бліснуў вачыма на гасцей:

— Якая патрэба ва мне?

— Мы не будзем тлумачыць! Нам загадана прывесці вас туды, куды загадана.

— А чый гэта загад? — кінуў Паўлюк, зацягваючы тужэй пояс у штанах, ён выйшаў з бакавых дзвярэй разам з Зосяй...

— Мы не будзем весці балачку, — паўтарыў барытон і стральнуў вокам у Пятра: — Апранацца буш альбо пойдзеш у споднiках?

Пятро зразумеў, што тут не самі па сабе партызаны, а выканаўцы нечай нядобрай волі і іх задача спачатку вывесці іх з хаты... А потым што? І, як грукат нейкай чужой калясніцы, у галаве пранёсся малюнак, пададзены яму суседам Фёдарам Малыцькам... Ягоны сенны воз на пакрытым ільдом возеры, заснежаным, сонным... Яго дaганяе ў санным вазку Мікіта Калілец: «Перадай свайму суседу Пятру Пісарчуку, што Данік хоча яго забіць! Ды толькі маімі словамі перадай!» Тое цяпер з новай сілай ушылася, уплішчылася ў свядомасць Пятра: у хаце пасланцы смерці!..

З абмерлай душой, няйначай не на сваіх, як бы набітых драўлянай тырсой нагах, Пятро падаўся ўглыб хаты апранацца і неўзабаве зноў вярнуўся сюды, анепакоена-разгублены, бледны. От у гэты міг ён конча паверыў у смяротную небяспеку і ўцёк бы ад незнаёмых яму тут бандытаў, калі б льга было ўцячы. А да гэтага моманту ўсё не верылася, што ён камусьці стаіць упоперак дарогі, замінае, і што той, каторы выбіваецца на шырокую камуністычную дарогу, во гэтак ноччу прышле за ім сваіх вояў, каб забралі яго...

— А Паўлюка за што? — кінуў ён нягучна барытону ў паўшубку, твар якога для яго цяпер дваіўся і ўспрымаўся размытай поўняй: — Дзяцей асіроціце...

Свёкравы словы пачула Зося і, рыдаючы, кінулася на шыю свайму чалавеку:

— Куды... куды?... За што?..

— Не плач, — супакойваў яе Паўлюк, спрабуючы ўсміхнуцца і паказаць тым самым усю недарэчнасць іхняга арышту. — Хто-ніхто блытае сваіх з ворагам... Разбяруцца дый адпусцяць. Злыдні, разі іх у качарыжку!

Трывожылася Аксіння, дый Ганна адчула нядобрае, а Маня, з якой сон выдзьмула мігам, бы дым з расчыненага насцеж пакоя, сунула ногі ў дзявочыя валёнкі, сарвала з вешалкі нейкую апранаху:

— Дзедусь! І я з табой...

Ёй заступіў дарогу да дзвярэй камлюкаваты, надзелены тэнарам:

— Куды?.. Раней бацькі не спяшайся ў пекла!

Хата анямела, асірацела, нягледзячы на ўсхліпы, на плач жанчын, а, можа, акурат таму. Ніхто не ведаў ні прычыны, ні мэты арышту Пісарчукоў, Пятра і Паўлюка, таму, як заўсёды ў крытычны момант, у душах жыло спадзяванне на лепшае: авось іх дапытаюць і адпусцяць дадому... Сапраўды!

На вуліцы да партызан, якія вывелі іх з хаты, далучыліся яшчэ трое — тры постаці вызначаліся ў цьмяным святле, калі можна было назваць святлом тое, што сеялася на зямлю з вышыняў зорнага неба, аквамарынавага колеру, трапяткога, чыстага, якое сям-там выглядвала ў прагалы кучавых аблокаў; каб не белы снег, які адбіваў і бытта ўзмацняў тыя ніцыя промні, было б зусім цёмна.

Валадары становішча і іх арыштанты ішлі адзін за адным па натоптанным шарану вуліцы: паперадзе — той барытон, за ім — Пятро, за Пятром — ягоны сын Паўлюк, потым — жвавы тэнар з вінтоўкай напагатове і астатнія, яны валакліся з некаторым адрывам ад начнога канвоя. Калі паварочвалі з Гары ў завулак, Пятро азірнуўся. Вочы, прывыклыя да цемры, разгледзелі, што на тых трох — твараў не відна, што іхнія твары хаваліся пад покрывам масак, сшытых па тыпу каўпакоў з вузкімі проразямі для вачэй. І ледзь ён гэта згледзеў ды ўцяміў, што за намысел за маскамі, як сэрца ў яго ўжо зусім абмерла — не было сумненняў: іх вядуць на расстрэл!

Але чаму ж канваіры — барытон і тэнар — без масак, а астатнія ў масках? А таму, — падказала думка думцы, — што гэтыя, пэўна, з нейкіх аддаленых вёсак, а тыя — свае, мотальскія, — напялілі маскі, каб іх ніхто не мог апазнаць.

І зноў на сэрца нахлынула гарачая хваля — сэрца адышло, ачулася і паскорыла бег, кроў стукала ў скроні; гэта канец, гэта канец!.. На нейкі момант уявіліся добрай памяці Раман Скірмунт з Парэчча і сусед Абко. З імі, пэўна, была такая ж расправа. І хто яе чыніць? Хто вынішчае сумленных людзей?.. Пытанне, якое ўзнікала перад ім неаднойчы, зноў патрабавала тэрміновага адказу — мо ў апошні раз. Паўлюк у хаце вырак сваё ўлюбёнае: «Злыдні, разі іх у качарыжку!» Проста, трапна і дасціпна сказана: «...разі іх у качарыжку!», як што «качарыжка» тут —

аснова, скажам, спажыўная храпка, на якой завязваецца качан і развіваецца лісце.

Тады дзе тая аснова, дзе жыццядайная храпка ў гэтай навалачы — бандытаў ды злыдняў? Божа літасцівы! Хіба ж ты не бачыш, што Пятро з роду Рамановічаў — самы шчыры твой паслугач, прыхільнік, вучань, гаспадар — чалавек разумны і на гэтых зламыснікаў не крыўдуе, бо не ў іх прычына падзей; чынячы зло, забіваючы яго самога і такіх, як ён, яны, паганцы, не ведаюць, што робяць, бо робяць тое, чаго патрабуе ад іх камуністычны светапогляд і камуністычная псіхалогія, прышчэпленая ім па злому намыслу. Яны зруйнавалі гуманнае хрысціянскае вучэнне Хрыста, і, можа, «храпку» як вузел прычын, пабі яго пярун, варта шукаць у цянётах Талмуда і Торы? Адтуль зыходзіць разбуральная энергія і прага панаваная над светам. Ці ж не так? — пытаў Пятро сам у сябе. — Чаму гэта Гітлер не абмежаваў сваю працу вынішчэннем наплоджанай скрозь, і асабліва ў Расеі, заразы камунізму?.. З яго стала б... Відавочна, таму і не адбылося таго, чаго чакалі ў Беларусі многія і чакаў Барыс, сын ягоны. Пераблытаўшы ўсе карты, Адольф Гітлер зблытаў і сваю. Таму і гаспадарaць тут злыдні, абараняючы прынцыпы гета для народаў СССР, з ягонымі жорсткімі камуністычнымі лагерамі і турмамі, з песнямі над целамі сваіх ахвяраў.

Не, свет яшчэ не перавярнуўся, але ж ён нахіліўся да прорвы і падаўся туды, сцякае крывёю. Рамановічы паймелі адтэрміноўку амаль на тры гады. Дзякуючы Гітлеру... Добра і тое...Божа! Ты не пачуў малітвы святара Раздзялоўскага, і, мусіць, таму, што ён прасіў аб замірэнні варожых бакоў. А ці можна разлічваць на літасць, на замірэнне таго, хто не мае сваіх ні волі, ні розуму і хто выконвае адно волю, выконвае настаўленне, наканаванне сіл, з якімі, бадай, нялёгка справіцца і табе, Усявышняму, бо за тымі сіламі — д'ябал. Даруй, Госпадзі, за сумненне ў тваіх здольнасцях і магчымасцях, але, калі мне наканавана ў гэтую часіну памерці, я малю цябе і прашу ўсіх святых духаў — не пакіньце маю сям'ю і не пакіньце сям'ю майго сына Паўлюка, які, сапучы, крочыць да куляў разам са мной. Аслані, Госпадзі, і ўнучку маю Мар'ю сваёю рукой, аслані ўсіх, хто блізкі мне па крыві і сваяцкіх адносінах, хто хрышчоны, хто верай і помыслам аддадзены табе, — аслані іх усіх у жыцці і дай ім добры лад і добрую долю.

Ужо без мяне. Бо і за тое, што я столькі пажыў і не ўчыніў шкоды нікому, што я пацешыўся дзецьмі і ўнукамі, дзякуй табе...

Здаецца, у гэтых разважаннях пад рыпенне снегу, у гэтым руху ў няведамае Пятро авалодаў сваім духам і розумам і зрабіўся спакойным. Божа літасцівы, чаму гэта не розум і добры чын, а палка і чужынская ласка выпалі на долю беларусу?

Зрэшты, іх, арыштантаў, ужо прывялі...

Яны стаялі на аселіцы, непадалёку ад высокага крыжа, абвітага белымі ручнікамі. Тут сыходзіліся рукавы дарог... Згодна з вераваннямі, гэтыя крыжы ставіліся ў нейкіх адметных або памятных кропках і павінны былі ахоўваць жыхароў і іх паселішчы ад улады злога духу.

Амаль адначасова з Пісарчукамі на гэты невялічкі пляц выйшла і яшчэ адна група. Пад канвоем сюды прывялі Паўла і Мікалая Міховічаў, якія былі з Рамановічамі ў двайным або перакрыжаваным сваяцтве.

— Хлопцы, і — вас?.. Ліха матары, — ці то спытаў без патрэбы, ці адзначыў непрыемна ўражаны гаспадар Пятро.

— І нас... І вас... А чаго прыскепаліся? — азваўся Павел Міховіч, былы прыяцель і таварыш Даніка.

— Маўча-аць! — нягучна, з пагрозлівым шыпеннем скамандавала адна з масак.

— Нешта мы ў Бога цяля з'елі, — не зважаючы на папярэджанне зазначыў Паўлюк.

— Нічога дрэннага мы ім не ўчынілі, — як для самога сябе патлумачыў Мікалай Міховіч, які за ваенным часам уступіў у сваё паўналецце.

— Коля, а вось зачытаюць нам прыгавор чорных масак і тады ўсім стане зразумелай наша віна.

Сказаў гэта Паўлюк Рамановіч, напэўна, з іранічнай усмешкай і тут жа адчуў тычок прыкладам у спіну.

— Сукі!..

— Стаць у шарэ-энгу, праклятая пятая калона!

— Сукі! Нездарма ж хаваеце свае морды пад чорнымі маскамі.

— Маўчаць!

— Баіцеся праведнага праваслаўнага люду?..

— Зняць кажухі!..

Пятро стаяў плячом к плячу з сынам Паўлюком і сватам Паўлам, па-вулічнаму — Антошкам, да якога туліў-

ся ягоны брат Мікола. Таго біла нервовая дрыготка, ажно чуваць было, як ляскочуць зубы.

— Не трацце марна слоў, — параіў Пятро хлопцам, беручы Мікалая пад руку і ставячы бліжэй да сябе. — Лепей падумайце пра Бога. Калі зоркі свецяць, значыць і жыццё будзе! Дабро і міласць Гасподняя будуць жыць. Нелюдзі ж не далі нам нават памаліцца!..

— Го! Чаго захацеў! — гэта — другая маска: — Хопіць таго, што на Гітлера разам з Барысам колькі год маліўся.

— Цяпер на тым свеце ўжо паспрабуеце стварыць самапомач! Ха-ха...

У нервова-аблудлівым і баязлівым смяшку, нават у тым напаміне пра пятую калону Пятру чулася штосьці даволі знаёмае, і ён прыгадаў: гаспадара гэтай маскі ў пару яго маладосці звалі падсвістычам... Ліха матары!

Чорныя маскі ўскінулі вінтоўкі і ў поцемку сталі цэліцца. Поплеч з імі паўстаў і чацвёрты кат у масцы і таксама браў арыштаваных на мушку.

— За супрацоўніцтва з гітлераўскімі акупантамі... — пачаў абвяшчаць хіжы прыгавор той, што хадзіў у падсвістычах...

— Сукі! — выгукнуў Пятроў сын Паўлюк. — Разі вас у качарыжку!

— Плі!..

Кароткі залп, імгненныя вогністыя ўспышкі і разам адчуванне вострага болю і мяккага бязвольнага падзення ў бездань. Востры боль — бы ад джала пчалы... Ён толькі кальнуў, і ўсё нутро расслабілася.

Угары ярка ззялі зоркі, і на іх насоўвалася цьмяная воблачная каламуць. Зоркі аддаляліся, і, напэўна, таму ўзмацнялася ўражанне ягонага незямнога падзення. Зрэшты, Пятро хутка ўсвядоміў, што ляжыць на зямлі і пад рукой — крохкі снег... Нехта стогне. Да памяці, урэшце, дайшло: нагле стралялі ў яго... І от тут яшчэ жывую Пісарчукову істоту ахапіў жах: ён памірае!..

Напружваючы апошнія сілы, Пятро падцягнуў да сябе ацяжалелую нагу, неяк уперся ёй у зямную цвердзь і павярнуўся на бок, затым — на жывот... Не ведаючы, ці ёсць які-небудзь ратунак у ягоным становішчы, ён пачаў разгортваць рукамі снег і паўзці. Вынік быў нікчэмны, як што пры звышчалавечых высілках адпоўз усяго на дватры крокі. Больш, здаецца, не мог. Якраз тут на яго і наваліліся злыдні. Каленам, няйначай, упёршыся ў спіну,

заламалі яму рукі назад, угору і пачалі круціць. Ён не чуў хрусту ў ключыцах, толькі нясцерпны боль сцяў паранение і абвялае цела.

— Вы... вы... вылюдкі! — разам са стогнам ледзь вымавіў ён. — Праклятыя вы...

Смяротная стомленасць апанавала ім, сіл больш не ставала трымацца, і ён неўзабаве заснуў.

У дзяка Аляксандра Раздзялоўскага, які даводзіўся стрыечным братам айцу Георгію, жонка ў тую ноч прахапілася ад моцнага ўзрушэння і трывогі. Прысніліся Марыі абразы, праўда, не тыя што заўжды віселі на покуці, стаялі на падстаўцы, а адзін з абразоў на сцяне ў святліцы. На белым-белай сцяне ў акуратнай багетавай рамцы месціўся святы Мікола Дзівоснік, і, праходзячы міма, гаспадыня Марыя кінула позірк на рамку ды раптам спынілася, нічога не цямячы. З іконы на яе пазіраў не святы Мікола, Божы абраннік, а выліты гаспадар Пятро Рамановіч.

— Эвой? — няйначай вырвалася ў яе з грудзей, бо такім вялікім было ўтрапенне.

Ікона тым часам пахіснулася, як ад землятрусу, дый — упала.. Дзячысе вусцішна зрабілася — нядобры знак! І яна з хваляваннем ужо чакала ранку, каб даведацца, ці не здарылася што-небудзь дрэннае ў сядзібе Пісарчукоў.

А там не было сну. Там для ўсіх была доўгая рабінавая ноч. Калі ж морак пачаў рассейвацца, саступаючы сваё месца ціхаму марознаму досвітку, у сядзібу Пісарчукоў, абліваючыся слязьмі, прыбегла сваха Параскева Міховіч.

— Людзі добрыя! Што дзеецца?! Забілі і вашых, і маіх, Мікалая і Паўла, — ад гора хістаючыся сярод кухні, яна дала волю галашэнню, жалю.

Але ў хаце нікога не было, усе пахаваліся. Тады яна пайшла шукаць Пісарчуковых па суседскіх сядзібах. Нарэшце, знайшла... Радзіна вярнулася ў сваю хату.

Аксіння падала Парасцы ўслончык і сама села побач. З усіх пакояў чуліся воклічы невыказнай жальбы і адчаю.

— Дзе ж яны?

— А там, на Луцэ, непадалёку ад нашага млына. Ляжаць, галубочкі, ляжаць, віцязі. Бездыханны-я-я-ой! Царства ім нябеснае...

— Цяпер няхай светласць векавечная свеціць кожнаму з іх!

— Ой-е-ёй! Асірацела ж наша хата...
— Ах, дзедусь-дзедусь, чаму ты не ўзяў мяне з сабой?
— Ганя, супакой, уцеш Мар'ю!
— Прабачце, што я прынесла вам такую чорную вестку, — Параскева хусткай выцерла слёзы.
— Ды ўжо ж... Раздзелім мы з табой гора... Адно вялікае гора — на ўсіх.
Сваццproperly падхапілася:
— Пайду... А то праседжу Божы лад! Ай-я-яй... Гэта ж столькі турбот, каб аддаць ім апошнюю даніну, — яна ўзялася за ручку дзвярэй.
— Пачакай, Параска, — звярнулася да сваццí Аксіння: — Ці не ўзяла б ты з сабою Мар'ю? Бо, чаго добрага, бандыты яшчэ раз прыпхнуцца сюды.
— Ай і праўда! — падтрымала свякруху Ганна. — Манька, дзе ты?
Маня ўжо апраналася ў зімняе...
Яны выйшлі.
З усходу сонца яшчэ не паказвалася, але ў ягоных промнях пачыналі падфарбоўвацца ў залацісты і пунсовы колер бакі і закрайкі слаіста-кучавых аблокаў, дзякуючы чаму ў небе стваралася рэльефная прастора, аб'ёмная, шмат'ярусная. Зачынаўся дзень.
Пакуль ішлі па верхняй вуліцы і завулках, ногі Мані яшчэ слухаліся, а як толькі паказаліся млын і аселіца з рэдкімі хатамі, якія разам утваралі частку Моталя, вядомую тутэйшаму люду, як Лука, — яе ногі заўпарціліся. Яны наліваліся цяжарам і дранцвелі, бы ў старой бабулі, — кроў стыла і адмаўлялася пульсаваць па жылах. Маню ўразіла, як шырока быў вытаптаны снег з чырвонымі лапікамі крыві ўздоўж і ўпоперак. І на гэтым снежным крывяным прасціродле ляжаў яе дзед Пятро, без верхняй апраткі і без чобатаў. Рукі ў яго былі ненатуральна адкінуты. Высокі лоб, адкрыты і думны, пабялеў на марозе, вусны сцяты, вусы пакрыліся інеем, на твары — адбітак перадсмяротнай мукі, напружанай і тужлівай. Ён годна прыняў смерць, без ляманту і адчаю. Але Маня глядзела на кроў на снезе скрозь і шкадавала, што дзед доўга мучыўся. Яна пераадольвала страх у сабе перад гэтым блізкім, родным і конча амярцвелым целам.
— Дзедусь! — рынулася да яго на грудзі і закруціла галавой: — Няма дзедуся. Ай-я-яй!

Слёзы сыпаліся на твар нябожчыка, але іх не хапала, каб вярнуць яму душу, падняць на ногі.

— Ах, дзедусь-дзедусь! — скрушліва паўтарала, нібы заклінаючы гэтымі словамі свой лёс і свой шлях у жыццё.

Баба Параска ўзяла яе пад руку і адцягнула ад дзеда. І тады Маня ўбачыла Паўла Міховіча. Ён ляжаў тварам угору, малады, спакойны і зусім не страшны. Мусіць, толькі год прайшоў, як ён ажаніўся і — на табе!.. Эх, Павел! Эх і лёс напаткаў усю нашу радзіну!

Дзядзька Паўлюк, таксама як і дзед Пятро, пакінуў нямала чырвоных плям на снязе. Ён ляжаў ніцма, адной шчакой да зямлі. Бледны, затое з выразнай іроніяй на твары, гладкім і чыстым. Іронія Паўлюка, няйначай, перадавала ўсім і Мані ў спадчыну — крытычны пагляд на ўсё тое, што робіцца наўкола, у так званым жыцці.

Мікалай Міховіч, а калі прасцей — Коля, напэўна ўцякаў ад бандытаў, бо яго цела ляжала воддаль у лужы крыві. Падышоўшы бліжэй, Маня ўбачыла ў яго на грудзях пад белай вышыванай кашуляй, акурат з яе вышыўкай, адкрытую рану — як бы яго дзеўбанула нейкая гіганцкая драпежная птушка. Пазней мужыкі скажуць, што гэта рана ад разрыўной кулі.

Маня нічога не памятала і амаль ні на што не рэагавала. Баба Параска прывяла яе ў сваю хату, дзе іх чакала Насця, нявестка, жонка Паўла, не меўшая твару на сабе, з грудным дзіцём, — прывяла і ўлажыла яе на ложак.

Але ж спакойна паляжаць і паплакаць ёй і тут не выпадала, як што неўзабаве прывезлі ў хату нябожчыкаў Паўла і Міколу, і пачаў збірацца люд — найперш тыя, каму рупіла памагчы Праскеве і Насці справіць хаўтуры.

Хтосьці, а хто — Маня неўзабаве і забыла — дапамог ёй узграбсціся з ложка і па скрыпучай ад снегу вуліцы завёў да дзяка Аляксандра Раздзялоўскага. Дзяк Аляксандр і гаспадыня Марыя былі дома, яны прынялі нябогу ласкава і болесна. Яны таварышавалі з Пісарчукамі і ведалі Рамавічанку з дзіцячых гадоў, часта сустракалі дзяўчынку ў царкве, слухалі, як гожа яна спявае ў царкоўным хоры, а яны акурат сумавалі, больш за тое, у іх была жалоба — сынок Шура не перанёс захворванне на тыф, які мучыў яго тае восені, — адышоў, адляцеў анёлам.

Дзячыха Марыя пасадзіла Маню на канапку і першым чынам распавяла ёй пра начное надарэнне з іконай Міколы Дзівосніка, пра ўтрапенне, якое перажыла ў сне.

— Гэта знак таго, — сцвярджала дзячыха, выціраючы хусцінкай слёзы, а слёзы ў яе нагортваліся ад жалю да ўсіх і да самое сябе, — чуеш, Манька, знак таго, што святыя духі паставіліся да твайго дзядулі неабыякава і забралі яго да сябе.

Раманавічанка кіўнула, паказваючы тым самым сваё разуменне, і праз слёзы, ад якіх двaілася ўваччу, паглядзела на абраз Міколы Дзівосніка і на іншыя іконы, а іх было шмат. Яна хацела спытаць, чаму ж святыя духі і богі, чые абразы намаляваны на дошках, не пакінулі ее дзеда Пятра пажыць яшчэ трохі і чаму не абаранілі яго, калі злыдні, пярэваратні ў масках чынілі над ім здзек, выкручвалі рукі... Толькі ж дзявочая сарамлівасць і сціпласць не дазволілі ёй бянтэжыць людзей добрых сваімі пытаннямі, балазе ў іх пакоі было даволі ўтульна — чыста, цёпла, пахла адметным сялянскім духам жытла. На вокнах, зацягнутых карункавымі фіранкамі, стаялі ў гаршках, чакаючы свайго часу, каб расцвісці, герані.

Жыхары мястэчка былі моцна ўзрушаны новай чорнай весткай — забойствам такіх прыстойных і паважаных людзей, якімі былі Пісарчукі, Пятро і Паўлюк, швагры Барыса і Паўлюка — Павел і Мікалай Міховічы.

Мала таго, дык у наступную ноч партызаны забілі яшчэ і Сямёна Шкутача, мужыка, які жыў на Луцэ, на Кузюравай вуліцы. І яго — немавед за што. На памяці людской аднаўляліся і іншыя ахвяры партызанскай вольніцы — хоць бы вынішчэнне сям'і капітана Калінічэнкі... А з вёсак Закалле, Варатыцк і Аперава даходзілі чуткі і таго мудрэй. Там ад рук партызан гарэлі дамы і сядзібы разам з сем'ямі, старымі, жанчынамі, дзецьмі... І людзі жахаліся, не бачачы розніцы між азвярэлымі, калі іх дражнілі, гітлераўцамі і мясцовымі «змагарамі за народную волю, долю ды справядлівасць». Людзі адчувалі яўную сувязь таго, што тварылася, з чырвоным тэрорам, з падзеямі 1939 года, калі, пры адыходзе палякаў і набліжэнні саветаў дзейнічаў Данік Плюнгер са сваёй крыважэрнай хеўрай. Увогуле тэрор вяршыўся пры розных носьбітах улады і сілы, пры розных асобах і абставінах ужо пяць гадоў; вядома, калі не лічыць польскіх паноў, якія таксама практыкавалі на ўціску.

У жыхароў ужо ў пячонках сядзелі дабрамыснікі, дабрадзеі, усялякія ўладары і ўлады, нават «свае», савецкія, «самыя лепшыя», з іх галодным морам і лагерамі.

У праваслаўнага люду даўно наспяваў маўклівы пратэст, і цяпер у сувязі з новымі забойствамі ён мацнеў, абарочваючыся асаблівым дакорам, асуджэннем ды гневам, які хавалі і які тым не менш праяўляўся ў небывала халодных адносінах маталян да сваіх лясных ваяроў, а яны зноў гаспадарылі тут. Многія местачкоўцы не хацелі ў іх бок і глядзець. Адчужэння землякоў да сябе і сваіх паплечнікаў не мог не заўважыць і Плюнгер. Разважаючы над прычынамі такога пахаладання адносін у Моталі, ён, горды, натарчывы, адчайны, не стаў шукаць памылак у сваіх дзеяннях, наадварот, каб застрахавацца, папрасіў штабных грамацеяў знайсці больш праўдападобнае і пераканаўчае абгрунтаванне ўчыненым забойствам. Непасрэдна Іллюку Дубовічу належала скласці і падаць камандзіру партызанскага атрада на зацвярджэнне заднім чыслом матывацыю забойства Пісарчуковай «здрадніцкай хеўры».

## 20

Дні заходзілі за ночы, а Маня Раманавічанка, здаецца, і не заўважала ніякіх зменаў у часе — для яе, пасля смерці дзеда і дзядзькоў, час ператварыўся ў адну суцэльную паласу смутку, жальбы, адрынутасці, дзе не было месца ні сну, ні жыццёваму клёку. Ёй нават дзіўным рабілася, калі нехта са староннiх з той ці іншай нагоды жартаваў, смяяўся. Яна забыла, што ёсць смех — смех — як праява настрою і што настрой можа адпавядаць яму, бо інакш свет зачэрх бы.

Над усім палягаў страх. Страх усяліўся цяпер у душу Раманавічанкі, пачуваючыся там даволі ўпэўнена. Невыпадкова — партызаны-шэльмы раз-пораз паднаўлялі яго, нарошчвалі, нагастралі.

Пасля таго, як у клопатах і зноў жа ў страху пахавалі светлай памяці нябожчыкаў, радзіна сабралася ў Пісарчукоў, каб пасядзець разам ды сказаць пра іх добрыя словы. Толькі ж не паспелі нашы хрысціяне сесці за стол, як без стуку, без дазволу дзверы рвануў на сябе ўжо знаёмы па начных падзеях барытон.

— Дык вось вы і сабраліся разам, — канстатаваў ён.

— А ўжо ж... Толькі вас тут не хапала.

З гэтым барытонам быў і другі экіпіраваны гіцаль, гундосы, але затое з трафейным нямецкім аўтаматам, які надаваў яму пыхі.

— Вырадкі кулацкія! — нядобра кінуў ён, уважаючы на запытальна-нямыя позіркі напалоханых дзяцей.

— Дзеці — як дзеці... З сям'і, якую вы тае начы раскулачылі, пазбавіўшы бацькі і дзеда, — адрэагавала Аксіння; яна таксама была агаломшаная горам, але-ткі засталася нязломленаю.

Не слухаючы яе, аўтаматчык прайшоў у адзін пакой, потым у другі — трэці, зазірнуў у камору. Вярнуўся на палавіну, дзе жыла сям'я Барыса.

Ганна асланіла сабой дзяцей, якія сядзелі на ложку.

— Гы-гы! — нібы рагатнуў ён. — Не чакалі?.. Чакалі, пэўна, ды не нас. Гы-гы!.. А дзе той? — уставіўся шклянымі вачыма на Ганну, зблажэлую, змораную і сярдзітую.

— Не ведаю... Не вем нат, да каго такі інтарэс.

— А вы? — бандыт паспрабаваў адпіхнуць Ганну. — Вы, воўчае сямя, ведаеце, дзе ваш бацька?!

Усе, Маня, Волька, а заадно і Ганна, іхняя маці, пераляканіся і нарабілі піску; піск, мусіць, падзейнічаў на бандыта, што ўсталёўваў тут цішу, пакору, як выклік, і ён ашчэрыўся, наставіў на іх, зусім безабаронных, аўтамат.

— А-а-яй! Ратуйце!..

З вуліцы пачуўшы, хвала Богу, аказаўся на крык даўні прыяцель нябожчыка Пятра Пісарчука партызан Павел Ашурка. Ён своечасова паклаў на плячо аўтаматчыка руку:

— Не трэба! Пакінь іх...

І той адступіўся. Адно, быццам выпускаючы з сябе злую пару або даказваючы баявое адмысловае ўмельства, стрэліў угору... Барытон, выходзячы з другога пакоя з валіскай напакаванага мужчынскага адзення, толькі прысвіснуў.

У дзень пахавання, нягледзячы на жалобу, партызаны навірочваліся ў сядзібу Пісарчукоў пачасту, і тады да Ганны дайшло, што яны палічылі б за ўдачу сустрэць тут і злапаць самога Барыса. Дарэмна, як што Барыс быў далёка.

Добрыя людзі, карыстаючыся, напэўна, паслугамі нямецкай камендатуры ў Янове, паслалі Барысу Рамановічу ў Кёнігсберг тэлеграму аб страшным надарэнні ўдома, у ягонай сям'і.

Не ведалі, праўда, калі і як адгукнецца, чым і як праявіць сябе ён, сын і бацька, брат і швагер для тых, чыю смерць аплакваў увесь Моталь, толькі рабіў гэта моўчкі, баючыся нават прыйсці, аддаць апошнюю даніну павагі нябожчыкам... Барысу потым раскажуць, як цяжка было

знайсці мужыкоў, каб выкапаць магілу і зрабіць усё як мае быць, як вымагалі таго традыцыйныя хаўтуры, — баяліся... Аксінні ж, каб пахаваць забітых, патрабавалася яшчэ ўзяць дазвол у партызанскай камендатуры, у Мікіты Калільца...

— Я вельмі шкадую, што так здарылася, — сказаў няшчаснай Аксінні Калілец. — А да забойства я не меў дачынення. Наадварот, хацеў прадухіліць няшчасце...

Ён бытта адчуваў сваю віну перад Аксінняй і, выдаючы ёй дазвол на пахаванне, выціснуў з сябе кароткія і незакончаныя фразы:

— Шкада... Шкада. Хіба не было ў Пятра магчымасці, як ухавацца? Я ж казаў... Я папярэджваў. Ён мог бы... Шкада. Цяпер — пухам зямля ім усім!

Больш не ведалі ў сядзібе Пісарчукоў, ад каго і якой спагады чакаць, толькі ў адным не было сумненняў: ад партызан трэба хавацца! Таму Маня з Волькай колькі дзён бавіліся ў хаце Германкі, дзе было трое сваіх дзяцей і сярод іх тыя Раманавічанкі былі менш прыкметнымі. Маніна маці таксама хавалася, прабаўляючы ночы ў чыёйсьці клуні. І Зося з малымі — па розных сядзібах. Адна Аксіння заставалася ў сваім доме, лічачы, што не было б вялікай бяды, каб бандыты і яе адправілі наўздагон чалавеку, з якім яна век звекавала і без якога ў яе душы — бы ў хаце, з якой нячысцікі вынеслі печ. Няўтульна, студзёна... Акурат тое ж адчувала і Маня.

Тыдзень прайшоў і яшчэ трохі, калі Барыс паведаміў, што ў хуткім часе прыедзе ў Яноў; наказаў Ганне і маці Аксінні, каб збіраліся ды з дапамогай надзейных людзей, якіх ён назваў, пад покрывам ночы прабіраліся туды ж і чакалі яго.

Вестка прымусіла ўсю радзіну і яе сяброў з палёгкай уздыхнуць, яна несла няшчасным шанц пазбавіцца ад няпэўнасці, тугі, страху, ад усяго, што ціснула, бы камень, на душу.

У той дзень, калі ўжо добра сцямнела, да Мані з Волькай прыйшла іхняя маці; яна павяла іх living рознымі вулкамі і завулкамі кудысьці на ўскраек Моталя, на Луг, дзе было ўмоўлена чакаць праважатых. Сядзелі ў чужой пуні на саломе і перашэптваліся, квола і напружана. Чаканне рабілася доўгім. Нарэшце, пачулія крокі, і да іх прыйшлі Іван Дзямковіч і Міша Ксёнда, па голасе і рухах Маня здагадвалася, што гэта маладыя і, пэўна, добра вядомыя

бацьку людзі, якіх Ганна-маці гэтаксама ведала. Яны прынеслі белыя прасціраллы — кожнаму па адным. З гэтымі хлопцамі былі і іншыя ўцекачы, у тым ліку ўся сям'я Івана Дзямковіча. Купка ладная набіралася. Амаль ва ўсіх за спіной — хатулі. Некаторыя з малымі дзецьмі. Яны накінулі на сябе прасціраллы і адзін за адным ціхенька падаліся на выселкі... Ішлі перш агародамі, перасеклі знаёмы Мані па яблынях агарод Міховічаў. Неўзабаве ж гэты караван прыпыніў свой ход.

Ноч была нязорная; праўда, воблачную высь аднекуль падсвечваў месячык, і гэта святло, падаючы на белы снег на зямлі, рабіла прастору таемна-празрыстай.

Воддаль узвышаўся сілуэт ветраное мельніцы.

— Вось тут, — засведчыў Іван Дзямковіч, — іх расстрэльвалі. На гэтым месцы ляжаў Паўлюк, там — ягоны бацька Пятро, колькі крокаў ад Паўлюка во сюды — Павел Міховіч. А Мікалай хацеў уцячы, толькі разрыўная куля насцігла — я вам пакажу, дзе...

Маня адвярнулася ад гэтай мясціны, да яе зноў вярталіся жах, адчай, і сілы ніклі, штосьці здрадліва трымцела ў каленках — ледзь утрымлівала сябе на нагах. Мані здаваўся неабачлівым і жорсткім учынак гэтых маладых людзей, якія вялі іх у ноч ды спыніліся на крыжовай дарозе. Толькі маладым, здаровым, тым больш староннім людзям гэта мясціна здавалася найзначнай, бадай, гістарычнай і вартай таго, каб пакінуць яе ў памяці людской. З другога боку, прыпынак мог азначаць і апошні зірк, развітанне з акрываўленай роднай зямлёй, як што ніводзін з гэтай купкі тутэйшых не меў надзеі калі-небудзь вярнуцца сюды, на мотальскія ляды, пад покрыва роднага неба.

Ішлі далей. У нейкі момант Маня азірнулася — мо, каб пераканацца, што мінулае не пляцецца ўслед за ёю, за імі, за гэтымі шчырымі, спахвацістымі, але не заўжды абачлівымі людзьмі.

На белым аснежаным абшары Моталь вызначаўся няпэўнымі цьмянымі абрысамі, гіганцкаю купінай, шырокаю чорнаю плямай, і там, у гэтай цьмянасці, Раманавічанка паспрабавала ўявіць сабе дзеда; ён не хацеў паўставаць у яе ўяўленні мёртвым, і тым не менш, мястэчка ўзвышалася над месцам, дзе яго пахавалі, чорнаю надмагільнаю грудай.

Раманавічанка была спустошаная і ні пра што больш не шкадавала, нічога не хацела ведаць, разам з тым паду-

малася, як добра, што ў Моталі няма сабак — іх пабілі яшчэ энкавэдысты, каб нечакана, па-зладзейску падпаўзаць і абрушвацца на сонныя людскія сядзібы. Сабакі, калі б яны заставаліся, не дазволілі б таксама і ім, адрынутым, непрыкметна, бязгучна сабрацца і выйсці з мястэчка.

Ішлі далей. Абміналі вёскі, дзе была небяспека наткнуцца на партызанскі дазор. Ішлі абводнымі, заснежанымі і ледзь прыкметнымі ўначы сцяжынамі ды, здавалася, найчасцей па цаліку, пракладваючы ў снежным скрыпучым шарпаку выразны след, баразну...

Спіна ў Мані ўмакрэла, паветра пры невялікім марозіку ўдыхалася з прыемнасцю і асалодай, але ж яно не напаляла цела, кроў, душу кіслародам у той меры, у якой патрэбна было, таму ўзмацнялася стома. Амаль кожную гадзіну спыняліся для адпачынку, калі толькі льга было лічыць за адпачынак кароткія прыпынкі на снезе, у полі, у лесе. Праўда, хлопцы выкарыстоўвалі іх дзеля таго, каб падбадзёрыць адзін аднаго і іншых цёплым словам, бяскрыўдным жартам.

Прайшлі Замошша, пакідалі ўбаку за сабой Дружылавічы, калі, пры пераходзе цераз невялікую рачулку — мусіць, яна была прытокам Неслухі ў басейне Піны, — лёд пад Маняй трэснуў.

— Ой, мама-ачка! — усклікнула яна, правальваючыся нагамі пад лёд; боты напоўніліся халоднай вадой.

Хтосьці падаў ёй руку. Хлюпаючы, прайшла колькі крокаў, прысела, разулася. Міша Ксёнда, адарваўшы ад свайго прасцірадла невялікі кавалак крамніны, прапанаваў ёй, каб ногі ўхутала ў сухое.

Ёй была прыемнай тая ўвага. Па нейкай аналогіі прыгадаўся эпізод, калі ў царкве адпявалі яе дзеда Пятра Пісарчука, і яна страціла прытомнасць, упала пасярод боскага храма, білася, як рыбіна аб лёд... Тады яе падхапіла з падлогі бабуля Аксіння. Акрамя сваіх, на адпяванне ў царкву ніхто больш не прыйшоў — баяліся партызан, як баяцца і яны, уцекачы, цяпер староннягa вока.

Цяпер — няхай улічыць Бог — Маня ў другі раз прыняла воднае хрышчэнне...

Далей рухаліся, чуйна ўслухоўваючыся ў прастору і ўзіраючыся ў розныя цьмяныя кропкі. У адным месцы той жа Ксёнда, які ішоў першым, спыніў сваіх пешаходаў і падаў каманду прылегчы на снег. Наперадзе варушыліся нейкія постаці, і ў жаху, што да іх набліжаюцца парты-

заны, Ганна пачала давіцца ад плачу. На шчасце, у той купцы былі нейкія іншыя начныя бадзягі — прайшлі і іх не заўважылі.

Перад Яновам небяспека ўзрастала — партызаны кантралявалі шляхі і, па чутках, расстрэльвалі ўсіх, хто цягнуўся з Моталя або іншых паселішчаў у Яноў. Важна было абмінуць мажлівыя дазоры. І, дзякаваць Богу, яны крадком прайшлі астатні кавалак шляху ды на досвітку дапалі да запаветнага прытулку ў горадзе.

У Янове, як ні ў чым не бывала, гаспадарыла нямецкая камендатура, яна цяпер абапіралася ў асноўным на агнявую моц мадзьяраў, і цывільны люд, нягледзячы на няпэўнасць далейшага лёсу, жыў за спіной у тых параўнаўча спакойна, як і ў Моталі раней, калі там стаялі мадзьяры.

Уцекачы спыніліся ў хаце, у якой да вайны жылі яўрэі і куды пазней перасяліўся з Замошша солтыс Іван Бушкевіч; ён даводзіўся аўдавелай Аксінні нават родзічам. У яго была прыгожая і разам з тым зычлівая жонка.

— О-о, як то добра, што вы прыйшлі! — лагодна сустрэла яна ўцекачоў.

Па кутках будынка стаялі драўляныя ложкі з матрацамі, набітымі сенам; а ў адным з пакояў побач з ложкам — яшчэ і палаці з дошак, негабляваных і голых.

Нейкім чынам размясціліся. Хто-ніхто да раніцы паспеў нават звесці павекі. Маня Раманавічанка, абяссонеўшая за тыдзень чорных падзей, знерваваная, амаль стрыпянелая ад страшэннай стомы ў Моталі і ў гэтай дарозе, спала, як пасля маку. Яе не будзілі нават, калі прыехаў бацька — Барыс Рамановіч, і Ганна-маці, з дапамогай зычлівай Бушкевічыхі, прыгатавала сякі-такі сняданак ды запрасіла Барыса і малодшую дачку Вольку за стол.

Пры новай у такіх выключных абставінах сустрэчы з Барысам, паглядным і трохі насупленым, заклапочаным чалавекам сваім, Ганна не магла стрымаць слёз. Цяпер побач з ім яна, бадай, пачувала сябе шчаслівай.

Волька ж, трымаючы ў руках бліскучую шакаладку, сядзела за сталом, зачараваная і сцішаная. Яна адвыкла ад бацькі і ўважліва разглядала яго, відаць, мала чаго цямячы.

Барыс, ветліва ўсміхаючыся, узяў малую да сябе на каленцы:

— Нязвычна?.. Ты цяпер не прызнаеш гэтага дзядзьку за бацьку?

Волька панурылася.

— Нічога, — сказаў ён і цмокнуў Вольку ў шчаку, — абвыкнеш.

«Абвыкнеш». На гэтым слове і абудзілася Маня і ўспрыняла вабны мужчынскі голас як родны. Расплюшчыла вочы — так і ёсць, бацька, сядзіць у цывільным... Яна пацягнулася, выводзячы няпэўныя гукі і прыцягваючы да сябе ўвагу, саскочыла з палацей.

— Татка... Адкуль узяўся?..

І не паспеў бацька абняць амаль дарослую сваю дачку, як у Мані паліліся слёзы мутнымі, засланяючымі зрок раўчукамі — гарачыя, буйныя, не было як іх суняць.

Яна рыдала, нічога не гаворачы, і ён нічога не казаў пра напаткаўшае іх гора. Бо не было тых слоў, каб выказаць ўсё набалелае.

— Мар'я, сядай з намі за стол, — паклікала маці.

І перш чым падысці да стала, яна старанна вымыла твар ад слёз і наліплага поту.

...Прыезду ж Барыса чакала не толькі радзіна. У Янове, апроч Бушкевічаў, сабралася нямала іншых уцекачоў, якія ратаваліся і наважваліся выехаць далей ад родных мясцін. Сярод іх былі сем'і Раманчука, былога гміннага пісара, ды Шыка, Марцінкевіча... Барыс як бачыш аказаўся ў прыязным і дружным атачэнні. Усе заходзілі да яго ў пакойчык з нарамі ў кутку, гаманілі, прапаноўвалі свае паслугі, дзяліліся, хто іх меў, харчовымі прыпасамі. Бавіўся тут і недабіты ў Аперава Данікам Рыгор Кардаш.

Ганна радавалася, гледзячы на свайго чалавека як на Хрыста-выбавіцеля, і трывожылася, калі ён хадзіў у камендатуру замаўляць вагоны для свайго мотальскага кагала, хадзіў і доўга не вяртаўся. А ўвечары Барыс наогул знік.

Яму карцела пабываць на магіле ў бацькі, пастаяць, падумаць журботную думу, развітацца. Балазе спаўнялася акурат дзевяць дзён па ягонай з Паўлюком смерці.

Падарожжу Барыса паспрыяла мясцовая паліцыя. Яго падкінулі на службовай паліцэйскай машыне ў Замошша. Прычым, каб абмінуць магчымую партызанскую заставу ў Дружылавічах, паехалі на Дастоева. Там дарога была яшчэ свабоднай. Спыніліся пад Замошшам на хутары былога солтыса Бушкевіча. Адсюль да Моталя — рукой падаць.

Накінуўшы на плечы маскхалат, Барыс дзе па дарозе, дзе ўзбоч дарогі, без усялякіх прыгод дапяў да ўскрайку

мястэчка. Каля ветранога млына Міховічаў ён спыніўся, зняў з сябе маскхалат, развязаў рэчавы мяшок, дастаў адтуль жаночае адзенне, шырокую спадніцу, шэрую світку з чырвонымі закарвышамі на рукавах, цёплую хустку... Увабраўся ў жаночае, загарнуў пусты рэчавы мяшок у маскхалат і пакінуў ля млына. Агледзеўся, уздыхнуў, няйначай, з палёгкай, як што ўсё пакуль ішло па плану, і падаўся, паджгаў па родных вуліцах да яшчэ больш роднай Гары. Рэдкія стрэчныя глядзелі на бой-бабу раўнадушна. У адпаведнасці з абставінамі гэтага падарожжа ў арсенале ягоных сродкаў асабістай бяспекі, апроч жаночага адзення, было яшчэ два пісталеты. І таму ён пачуваў сябе вольна. Патрапіўшы на сваю вуліцу, не стаў заходзіць адразу ў бацькоўскі дом, каб не выклікаць лішніх падазрэнняў у таемных вачэй. Прайшоў міма і завярнуў у двор Мацвея Мацуля, які, па словах Ганны, узваліў у трагічныя дні на сябе асноўны клопат у пахаванні нябожчыкаў, Пятра і Паўла. Дый пасля — Зосіны дзеці нейкі час паймелі прыют у ягонай сям'і.

Барыс нямоцна, але настойліва пагрукаў у дзверы — не выключана, што ў хаце ўжо спалі, бо святла не было, але ж цяпер не заўсёды святло і запальвалі...

— Хто там?..

І зноў нягучна, ды выразна Барыс прамовіў:

— Я, дзядзька, Пятроў сын...

Нямала азадачаны, якога Пятра і які сын раптам з'явіўся, Мацвей адкінуў на дзвярах у сенях зашчапку. Калі ж перад ім з цемры вырасла постаць жанчыны, у яго і дых заняло:

— Га?.. Божа! Пярэварацень!..

— Не палохайцеся. Не зважайце на мой убор... Гэта я, Барыс.

— Не чакаў, агонь яго выкуры! — абрадаваўся Мацвей. — Заходзь, Барысок, госцем будзеш.

— Дзякуй... Але ж, не заходзячы, хачу спытаць, дзядзька Мацвей: можа, мы адразу на могілкі сходзім?

— Можна і гэтак... Гм... Пачакай, я кажушыну на плечы накіну.

І неўзабаве Мацвей вёў маўклівую мажную маладзіцу ў паношанай світцы між радамі магіл. Яму не трэба было доўга шукаць тую адзіную, якая Барыса цікавіла. Спыніліся каля новага драўлянага крыжа з гурбачкаю зямлі пад снегам — шырэйшаю гурбачкаю, чым усе астатнія.

— Тут, — нягучна падаў Мацвей, аднак жа ў голасе ягоным чулася прастора груднай клеткі. — Зямля яшчэ як след не прасела...

Барыс выстрадана ўздыхнуў і ўслед за ім уздыхнулі ўгары дрэвы, заварушылася вецце. Мацвей тым часам адышоў убок.

Маўчаў ды не вытрымаў маўчання далей гэты закамуфляваны, мужны і знаходлівы чалавек.

— Бацька, я тут, — сказаў па-сыноўняму ўтрапёна і шчыра, нібы падаючы сігнал бацьку і чакаючы, што ён выйдзе сюды з дамавіны для гутаркі.

— Тата, ты мне не адказваеш... Павер, мне балюча ўсведамляць, што ты пакінуў белы свет, і што я, твой сын, спрычыніўся да гэтага. Прабач, — ён апусціўся на калена, — даруй... Калі я крыўдзіў цябе — прымі гэта як пакаянне сыноўняе. У маёй душы заўжды быў гонар за цябе. Перакананы, каб на зямлі ўсе былі такімі, як ты, — не было б між людзьмі свар, вялікіх канфліктаў, войн і іншай халеры. Каб усе беларусы былі такімі кемлівымі і адукаванымі гаспадарамі, як ты, то мы хутка ўсвядомілі б, што ёсць наша Бацькаўшчына. Ты і маці далі мне не толькі жыццё, але і ўяўленне: што ёсць дабро і ў чым яго годнасць ды сіла. Я зярнятка ад твайго коласа... Праклящце! Толькі праклящце, як таўро, мае ляжаць на краіне, якая нішчыць хлебаробаў і сейбітаў — такіх людзей, як ты, тата. Я быў згодзен з табой ва ўсім, але ж не прымаю цярплівасці і не магу даравацць нашым ворагам, якія дабрату нашу прымаюць за неразвітасць і ходзяць літаральна ў нас па галовах. Гэта з-за іх у нас няма долі. Мы стогнем пад іхнімі нагамі. Праклящце ўсім варварам з захаду і ўсходу!

Даруй мне і ты, Паўлюк. — доўжыў Барыс. — Мне часам не па душы былі твае думкі, колкія, аголеныя да святой прастаты. Мір праху твайму!

Ваш дух, братка і тата, заўжды будзе з намі і ў нас, якія жыць засталіся. Ваш дух будзе павялічваць нашы сілы. Яшчэ раз — пухам зямля!

Ён узняўся і пакланіўся шырокай магіле. Павярнуўся. Пайшоў прэч. Мацвей, аказаўшыся поруч, ціха прамовіў:

— Барыс...

Постаць мажнай маладзіцы спынілася.

— Вось тут, — праваднік павёў рукою ўбок: — Усяго два крокі ад нас — Міховічы, Павел і Коля.

Барыс падышоў да іхняга крыжа, пастаяў ўсё ў той жа скрусе і горкім роздуме. Затым, звяртаючыся да Мацвея, прамовіў:

— Маладыя... Рассыпаныя... Амаль невядомыя... Нікім, бадай, не сабраныя. Такія мы па ўсёй Беларусі. А чаму б нам і не жыць, як людзі? Шкада... Не ўсе, далёка не ўсе ў нас ведаюць, за што варта аддаць сваё жыццё. І ворагі страляюць па нас, як па курапатках у жыце.

— А дабрэнныя ж хлопцы былі! — уздыхнуў сугучна яму і Мацвей.

— Былі! — рэзка і незразумела для Мацвея кінуў Барыс, як апошняе палена ў печ. — Былі!.. Няхай цяпер ім зямля пухам будзе!

Агародамі ён прайшоў да сваёй асірацелай сядзібы. Самотны, як што Мацвея адправіў дадому. У хаце адное з вокан падалося ружовым — бытта водсвет смаляка падаў на яго. Дзверы былі зачыненымі на зашчапку, і ён пальцамі ціхенька пабарабаніў па шкле.

— Хто там? — Аксіння ўжо па асцярожным або таемным стуку адчула, што на вуліцы хтосьці са сваіх. Але яна не магла паверыць у Барысаў голас, нават калі ён сказаў:

— Гэта я, мама, — Барыс...

Адчыніла і — дзіва! Сапраўды ён, хоць і ў бабскім уборы.

— Сыночак, — яна прытулілася да яго: — Ой, як свет перавярнуўся!

— Не плач, мама, я ж ведаю, ты наплакалася. Але размова сур'ёзная, а мяне там недзе будуць чакаць, часу вобмаль. Ганя з дочкамі, Зося з большымі сваімі і ўсе нашы — у Янове, дабраліся ў тую ноч. Дарэмна з імі і ты не пайшла.

— Не, сынку... Ратавацца — не, больш сіл і жадання няма. Я хачу быць пахаванай тут.

— Мама! — усклікнуў нягучна Барыс. — Здурэла?.. А табе ж яшчэ жыць трэба! Давай так... Акрыяеш крыху — я па цябе прыеду, забяру ў Польшчу, дзе спакайней і дзе ты будзеш разам з усімі. А далей — Бог бацька!

— Хіба што так... А цяпер няможна. Дай мне перавесці дух. Дый дабро ёсць у нас. Мы з бацькам-нябожчыкам, што больш каштоўнае закапалі. То хоць бы ўзяць ды людзям на спажытак аддаць.

— Я цябе не няволю, мама...

Няма што па гэтай сустрэчы з сынам Барысам Аксіння стала больш асцярожнаю, таму як выразна адчула: на свеце, апроч скрухі, ёсць яшчэ і жыццё, толькі яно магчыма для яе сына, нявестак і ўнукаў... І ёй захацелася быць разам з імі. Таму яна пакінула сваю хату, сядзібу сваю, дзе голасу пеўня не засталося.

Колькі тыдняў тулялася яна па чужых кутках, пунях, свірнах, хавалася ў свацці Параскевы. Іншыя ў хату яе баяліся пускаць. Жыла ўвогуле на ласкавым хлебе, не раўнуючы, як сабака ў вялікі пост.

Толькі калі зноў добра прыгрэла сонейка і гаспадары ўзяліся ладаваць у гародах градкі, не вытрымала Аксіння і вярнулася двору. Зямля з вясновым угрэвам нейк дапамагала ёй акрыяць.

...Па дарозе назад Барыс ізноў завінуў да млына, знайшоў там свой скрутак і скінуў з сябе жаночы ўбор.

Адыходзячы, бадай што, удальцом да Бушкевічавага хутара і пакідаючы Моталь усё далей і далей за спіной, ён адчуваў у душы светлы сум і задавальненне ад выкананага перад нябожчыкамі абавязку. Але ж да рытуальных пачуццяў дамешвалася яшчэ кропля чагосьці няўлоўнага: ці то ўсведамленне пазбытага і незваротнага, ці думка, якая патрабавала акрэсленасці, але не акрэслівалася і таму непакоіла.

Снег тым часам лёгка рыпеў у яго пад нагамі. Над галавой у вышыні бухмаціліся сырыя і рыхлыя воблакі — у паветры пачала адчувацца адліга.

Пад Замошшам Барыс узяў бліжэй да лесу і ішоў цераз поле, дзе калісьці Ганна разам з іншымі маладзіцамі жала жыта, а ён вазіў ім абед і ўсе жанкі горача і артыстычна наўздзіў чысцілі яго за Хвілюсіху... Хто б мог падумаць тады, што ён будзе красціся па гэтым жа палетку, бы злодзей.

Родная, вызнаная да драбніц зямля была літасцівай да яго, паколькі ён жыў на выгнанні, але тут яму, свядомаму, адукаванаму, апантанаму стваральнай энергіяй чалавеку, месца зусім не было. Але толькі не гэтай зямлі ў тым віна, не ў ёй і прычына.

Там недзе ў франтавым грымотным дыме выспявала тое, чаго ён зусім не хацеў: вяртанне сюды крыважэрнага камунізму... Зямлю, бадай, вызваляць ад фашыстаў, але ці магчыма вызваленне Беларусі ад той ці іншай брыдоты, калі яна, пракаветная Беларусь, ужо подаўна вызвалена ад

самое сябе... Неяк здарылася так... Але ж, гэта, бадай, і ёсць тое, што яго непакоіла і непакоіць. Яно акрэслівалася ўсё больш выразна. Ягонай зямлі, яго мілай Бацькаўшчыне трэба вярнуць былую душу і веліч,аднавіць самую ў сабе, што пакуль немагчыма. І пакуль немагчымае не стане магчымым, ён будзе выгнаннікам.

Такі, бадай, прысуд лёсу.

## 21

Свет, у якім цяпер праводзіла дні і ночы Раманавічанка Маня, быў як бы сплюснуты, як прыціснуты аблокамі да самай зямлі; фронт недзе там рваў гэтыя аблокі, аднаўляючы чыстае неба, але неба паўставала ўжо выразна чырвоным ад рупнасці энкавэдыстаў, ад пырскаў крыві...

Вагоны, у якіх размясціліся маталяне, зваліся таварнымі, і яна ведала, што якраз у такіх вагонах да вайны вывозілі спецперасяленцаў ды вязняў — па розных прычынах і без дайпрычыны зняволеных грамадзян, чула, што зімой яны часам акачурваліся ад холаду і голаду па дарозе на Урал і за Урал, і іх тады, заледзянелых, проста выграбалі з вагонаў пад адхон, пакідаючы ўзбоч палатна чыгункі; у яе жылах стыла кроў ад уяўлення такога здзеку... Дый уявіць падобнае дзікунства было цяжка. Улады ж СССР дэкляравалі там ладаванне самага гуманнага і справядлівага ў свеце грамадства!.. Адно не ведала Маня, як навучыцца ёй разумець дарослых людзей.

Бы нядобрага наканавання, Раманавічанка баялася таварных вагонаў. Барыс, пераканаўшыся ў гэтым з папярэдніх сямейных размоў, супакойваў дачку:

— Не журыся, цурка, не будзе зімна. Дадуць жа нам не голыя вагоны, а цяплушкі, у якіх салдат перавозяць.

Заладаваліся яны на станцыі на трэці дзень, як пачаліся зборы, чаканкі. Акурат пасля лёгкай адлігі, калі ў паветры закружылася снежная каламуць.

Ад снегу, які ліп да твару, чапляўся за валасы, бровы і лез назолай у вочы, хацелася схавацца, і вагон ужо даваў хоць які-ніякі прытулак. Маня ж неўзабаве знайшла, што і нары, з насцеленай на іх залацістай саломай, — не самае горшае з дасягненняў на транспарце, але ж ні з чым не параўнальныя, прыязныя, добрыя пачуцці да сябе выклікала ва ўсіх чыгунная печка — напэўна, дзякуючы ёй, і назвалі вагон цяплушкай.

Знаходзячыся ў стане дэпрэсіі, Раманавічанка мала ўвагі надавала таму, хто едзе ў адным з імі вагоне, што гавора, ёй дастаткова было адчуваць супакой, які быў разліты на твары маці і Волькі таксама — з яе ставала ўжо і таго, што ў Янове яны пакінулі кватэру Бушкевічаў, дзе Манюнябогу пастаянна раздражняла сваёй лагодай і вясёлым смяшком, а то і рогатам гаспадыня Марыя. Зрэшты, і Бушкевічы разам з імі пакідалі Яноў, толькі ехалі яны, пэўна, у другім вагоне.

Маня пераймала супакой свайго атачэння, але ж тым сумніўным пакуль супакоем не магла зацягнуцца рваная рана ў душы. Яна ніколі, бадай, і не зацягнецца. Разам з тым прыемна было засяродзіцца на нечым староннім, крыху адпачыць. Такую магчымасць даваў Мані вагон з яго рытмічным перастукам колаў на стыках рэек: та-тах, та-тах... Яна ўяўляла сабе палатно пад вагонам і тыя цяжкія колы, што каціліся, а рэйкі ціхім гудам гулі ды адлічвалі гоні: та-тах, та-тах... Зважай, маўляў, на нашых; лёгшы плячом да пляча, мы ўтвараем шлях, што завецца чыгункай!

Добра... Але ж цяпер яна куды лепей адчувала сябе, чым усе апошнія тыдні, асабліва па крывавай трагедыі, жорсткай і скрушлівай. Цяпер і горыч, і сум той, і страх той, адчай — усё-ўсёнькае застанецца там... Цягнік імчыць, і з кожнай гоняй усё далей ад смерці, цягнік вывозіць яе з пекла. Наперадзе — новыя, неспазнаныя і нязведаныя абшары... Адно прыгадваліся словы, якімі перакідваліся мужыкі ля вагона перад загрузкай:

— Ай, мяцеліца! У такую пагоду толькі дома сядзець ды ўмінаць гарачыя бліны за абедзве шчакі.

— Го, яшчэ і за абедзве шчакі!..

— Круціць, аднак... Глядзі, каб у цьмянай шэрані, не тут будзь сказана, партызаны цягнік пад адхон не спусцілі.

— Ціпун табе на язык! Цьфу-цьфу-цьфу...

Маня адразу не дабрала сэнсу ў староннім размове — ёй здавалася, што ўсе партызаны засталіся там, у Мотале, куды больш звароту не будзе. Толькі, апроч мотальскіх бандытаў, ёй неўзабаве прыгадаліся і тыя трое малойцаў з партызанскага злучэння Чарнышова... Яны кватэравалі ў іх, і з імі яна разам спявала «Кацюшу», праўда, тады быў яшчэ і чацвёрты — валаваты Мэндаль, уцякач, купец, перакладчык, з якім дзед Пятро вадзіў дружбу. Дзе яны цяпер?.. Іх злучэнне, у якім налічвалася мо тысяча вояў,

пайшло на захад, пад Брэст... Ці далей? То, можа, яны і цікуюць зараз недзе каля чыгуначнага палатна, па якім бяжыць Манін цягнік? А, дачакаўшыся, спусцяць яго ў снежныя гурбы, ды так, што ён з разгону не раз перакуліцца.

Яе скаланула ад неспакойных і страшных подумак. Дармо... Не варта думаць пра гэта. Яны і не ведаюць, што ў цягніку, у звычайнай салдацкай цяплушцы, паклаўшы свой паўкажушак пад галаў, едзе тое дзяўчо, што дапамагала ім сваім альтам спяваць савецкія песні, — едзе Маня... Пры бацьках. І разам з тым конча асірацелая, няшчасная, няўцешная... От, каб раптам з імі сустрэцца! Каб сустрэліся яны з Маняй... Пра што яна распавяла б ім?.. Пакідае свой родны кут... Такі багаты на водар, на фарбы, такі шчодры на ўсялякія дарункі зямлі, леса, возера. І, уласна, сядзібы... Ахарошаны рукамі яе дзеда, маці, усяе радзіны... Пакідае, бо бандыты вынішчаюць найлепшых людзей. А тых, што маюць застацца, пагоняць у калгасы, каб ставіць іх потым у плуг заместа скаціны... Пакідае, бадай-ткі, усіх, але ёй асабліва балюча ад растання з сяброўкамі.

Ды што ж гэта ўсё азначае? Няўжо яна сапраўды родную зямлю пакідае і ніколі больш не вернецца, нават на магілку свайго дзеда? Ах, дзедусь-дзедусь! Слёз не хапае... І чаму гэта нам з табой прыдалася такая зямля-гаротніца? Не, скажаш?..

«Та-тах, так-так...» — замест дзедавага адказу даносілася з-пад вагона.

Сцесненую прастору ў вагоне абмацвала сваім няпэўным святлом капцілка. Маня ляжала на саломе, прыкрытай зверху радном. У верхняй вопратцы... Каля невялічкага зашклёнага ваконца...

Печка-буржуйка апраўдвала бацькавы словы, якімі ён супакойваў яе: «Не журыся, не будзе зімна...»

Цяпер, уважаючы на металічны шум, скрып і скрыгат чыгункі, усе размаўлялі на кароткай адлегласці, падстаўляючы для пэўнасці вушы адзін аднаму.

Злёгку пахла жарам, дакладней, абпаленым каменным вуглём, і пагойдвала, пакалыхвала...

Раманавічанка неўзабаве апынулася дома, дакладней, не дома, а ў мотальскай царкве. Царква радавала светлай высознай прасторай. Там панаваў урачысты настрой. З Царскіх варот выйшаў бацюшка Георгій. Ён памахваў кадзілам, сіняваты дымок ад якога разносіў незвычайны

для царквы пах каменнага вугалю. Бацюшка прагаварыў патрэбныя словы, пасля чаго на кліpace загучаў хор. А людзі стаялі і слухалі, слухалі ды час ад часу хрысціліся.

«Внуши, Боже, молитву мою, и не презри моления моего. Вонми ми, и услыши мя...»

Слухаў таксама царкоўныя спевы і яе дзед Пятро Пісарчук. Ён глядзеў Мані ў вочы і часам лагодна, узрушана, спаважна ківаў ёй, маўляў, так-так, так і трэба, яму падабалася.

Потым з Царскіх варот выйшаў не бацюшка, а ўжо нехта іншы... Выйшаў малады чалавек пэўным чынам знаёмы Мані. Ён нават не выйшаў, як, напрыклад, выходзіў айцец Георгій, а толькі адчыніў Царскія вароты, і Маня ўбачыла калючы дрот, за якім той стаяў.

Хор на кліpace прыціх, анямеў. Тым часам абрoслы шчэццю малады чалавек загаварыў журліва і томна, рэчытатывам:

Забраны ў астрог мы з забранага краю,
Узяты за краты з асірочаных хат.
Для нас пачалася часіна ліхая,
Мой бедны, мой родны, пакрыўджаны брат.

Жыве наш народ, бы гарох пры дарозе,
Прасвету не бачыць у гэтым жыцці,
Учора на працы, сёння ў астрозе,
А заўтра на пусткі ў выгнанне ісці...

Дзед Пятро тройчы перахрысціўся, а Мані ўявілася шырокая будоўля ваеннага аэрадрома пад Моладавам і лагер для вязняў... Яна разам з маці і цёткай Зосяй перадаюць зняволеным пакункі з хлебам, скаромным, гароднінай, іншымі хатнімі прыпасамі. Яны, гэтыя благаслаўлёныя чынніцы, пэўна, разумеюць, што за лагерным калючым дротам сядзяць іхнія скрыўджаныя браты, што з вязняў чыніцца здзек там, у лагеры, а з іх — дома; толькі ж і яны заўтра могуць раздзяліць лёс выгнанніц, апынуцца за калючым дротам.

На зямлі забранай Бацькаўшчыны пануюць жахлівыя парадкі...

І зноў паспрабаваў падаць свой каларатурны голас царкоўны хор. Ён узносіў хрысціянскую жальбу да неба, і Манін голас, уплятаючыся ў іншыя галасы, сягаў высока, звінеў і спакваля аціхаў, уступаў, урэшце, месца гучанню медзі.

Імчыць цягнік скрозь туманы балот;
Вагоны бягуць чарадою;
Адзаду застаўся купнік і чарот;
А сум?.. Сум няўмольна са мною*

Гэта ўжо новы голас. Маня не адразу і прыкмеціла, як з Царскіх варот выйшаў і спыніўся каля багамольнага люду высокі русявы юнак, падобны да Рамана з таго партызанскага злучэння, якое праз Моталь перадыслацыравалася на захад, каб «горла фрыцам перахапіць»...

Мінаюць загоны, мінаюць лясы,
Азёраў крышатальныя хвалі...
О, колькі змагання маўклівай красы
Палескія нетры схавалі!

Юнак уздыхнуў і, моўчкі аглядаючы прыхаджан, прайшоў і стаў бліжэй да кліраса.

Часам стане сумна дужа...
Каб развеяць гэты сум,
Паплыву я, мілы дружа,
На чаўне шчаслівых дум.

Паплыву я у краіну,
Шчасця поўную й красы,
Каб спяваць, а сум свой кінуць
На сухія верасы.

Напэўна, ён адчуў на сабе напружаны, пільны позірк Мані, таму знайшоў яе сваімі вачыма і ледзь прыкметна ўсміхнуўся, пакланіўся кліpасу, пакланіўся люду, які стаяў побач, і знік.

У сценах высокага храма ўтварылася нешта накшталт публічнага дыспуту або канцэрта. Маня ліхаманкава думала, што б яна магла прачытаць. Ды тут з Царскіх варот паволі выйшаў чарнявы дзяцюк, усмешліва-іранічны, з пранізлівым позіркам шэрых вачэй. Ён улавіў скрушліва-сумны настрой натоўпу, акурат як тады, калі Манін бацька прамаўляў з паперці местачкоўцам пра ўтварэнне беларускай самапомачы ды пра неабходнасць далейшай барацьбы за самакіраванне і аднаўленне беларускай дзяржаўнасці (за спіною ў фашыстаў). Толькі мала што з таго ўжо і цяміла Маня... Рэчытатыў чарнявага, а яго, здаецца,

---

* Тут і далей гучаць вершы паэтаў-эмігрантаў Алеся Змагара, Янкі Золака, Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя, а ў пралогу — Лявона Эміліта.

звалі Рыгорам, і ранейшы маналог яе бацькі Барыса ўсведамляліся як штосьці адзінае цэлае:

Зямля ў агні. Гарачыня.
Сусвету — не дыхнуць.
Пякельнай лавы не суняць,
Крыві струменіць муць.

Зямлі, зямлі гаспадары —
на дзвюх, на дзвюх нагах
сусвету скарбы і дары
у пекла топчуць. Жах.

«Хадзі сюды, хадзі сюды!
мне кажуць. — У паход
мы рушым. Выведзем з бяды
радзіму і народ».

Адзін: «Вазьмі, вазьмі — ці меў? —
вінтоўку — новы стыль...»
Я ўзяў. Я ўвесь акамянеў —
гнілы, крывы кастыль.

Другі: «Вось келіх у мяне,
пітво ў ім змагароў.
Вазьмі!» — Я ўзяў, зірнуў: на дне —
людскія слёзы, кроў.

А трэці: «Змогся? Супачынь!
Прыляж на ложак наш».
Я лёг. Прачнуўся уначы —
Не ложак, а труна.

І ля мяне, і ля труны —
і векі, і цвікі...
Ідуць яны, ідуць яны —
шкілеты... мерцвякі...

Рыгор скончыў чытаць і, паволі падышоўшы да хору, узяў Маню за руку і вывеў на сярэдзіну царквы. Маня збянтэжылася, яна адчувала, як гарачая кроў шыбанула ёй у твар, і спрабавала суняць хваляванне.

«Та-тах, та-тах» — даносіліся гулкія ўдары з ейных грудзей, і не ведала, не ўсведамляла яна, што гэтак б'юцца, стукочуць пад імклівымі коламі рэйкі.

З Царскіх варот на гэты раз высунуўся трэці знаёмец — чарнявы плячысты Васіль, ён стаў поплеч з ёй. Маня

добра памятала, як яны, чарнышоўцы, павячэраўшы за дзедавым шырокім сталом, дружна абмяркоўвалі, што будуць рабіць з Гітлерам, калі дастануць яго, ведзьмака, з бункера... У Васіля цяпер, зрэшты, выгляд быў больш засяроджаны і нават замаркочаны. Няйначай, гэтак ён выглядаў бы, калі б злавілі Гітлера, а ён зноў уцёк.

Васіль і Раманавічанка паглядзелі адзін на аднаго, і ён кіўнуў ёй, маўляў: чытай... Яна любіла чытаць гэты просты і рытмічны верш:

Граюць гуслі-самагуды,
Песня скаргаў з струнаў рвецца.
То — бы родзіць сны-прычуды,
То адразу абарвецца...

То нясецца стогнам смутным
Над паснулымі лясамі,
То знікае дзесь нячутка
За вазёраў паясамі...

Толькі ні Царскіх варот больш не было, ні царквы — усё кудысь знікла, а як — Маня не заўважыла нават. Цяпер перад ёй сядзеў дзед — за сталом у сваім доме, побач з ім — Волька. Сапраўдны праведнік з унучкай... Улучыўшы момант, Волька залепятала, сапучы:

Вечар... Сонца занікае,
Кроў зары бляднее, тае,
Тае ў небе, на зямлі.
Дрэвы-мары ў гушчары...

Маня, прыгадала, што Волька не першы раз ужо шчэміцца ў размову дарослых, і таму яна з дакорам паглядзела на сястру. Абедзве змоўклі, а дзед усміхнуўся ў вусы ды перавёў позірк на свайго былога начлежніка Васіля: што ён мае сказаць?

— Гэта вам на развітанне, — мовіў Васіль. — Калі далёка заеду і не вярнуся, — успамінаць будзеце.

Лясы. Узгоркі. Паплавы.
Блакіт нябёсаў. Сінь азёраў...
Далёка вы, далёка вы,
радзімы блізкія прасторы!

А дні сярод палёў чужых
спяляць пасевы залатыя.
Пайдзі, прыслухайся да іх:
шумяць пасевы, ды не тыя.

Шумяць. У даль палёў зірні:
яшчэ далей — палі радзімы.
Плывуць крывёй над імі дні
і плыць сягаюць над чужымі.

Знішчэнне там, дзе іхні след.
Сваім, чужым — адно. Дзе ж дзецца?
Куды ні глянь — вялікі свет,
а чалавек не мае месца.

Да свядомасці Мані дайшло: яна едзе ў цягніку і цяплушка набіта людзьмі — усе яны ратуюцца ад смерці ў гэтым руху на захад. Але ж уражанне ад сустрэчы з дзедам і тымі чарнышоўцамі, якіх ведала, ад спеваў на кліраce і паэтычнага дыспуту было настолькі свежым і вострым, што ёй да болю захацелася вярнуцца назад туды — у сон. Дзівіла хараство пабачанага, пачутага, перажытага, дармо што ў сне... Дзівіла, чаму з вуснаў чарнышоўскіх дзецюкоў прагучалі, бадай, неўласцівыя ім журботныя і нават гнятлівыя матывы скаргі на лёс. Увогуле — дзівосы на калёсах!

Яе бацька Барыс, седзячы ў паўзмроку на цурбаку каля печкі (яму, бадай, не было дзе прылегчы), гутарыў з маладым чалавекам аб літаратурным занятку. Маня ўскінулася на ўзлакоткі і нагастрыла слых.

— Мяне, як і багата каго, — казаў бацька, — дзівіць здольнасць звычайнага, здавалася б, чалавека складаць вершы. Я ў свае маладыя гады схільны быў адмачыць вясёлую штуку, здзівіць выдумкай, хітрасцю — толькі не вершам. Вершы не ішлі, хоць часам і спрабаваў знайсці нейкую рыфму, чуеш... Цяпер я заўважаю шмат досціпу, душы і нават бляску ў вершах Геніюш, Арсенневай...

— Тут, бадай, патрэбна своеасаблівае чуццё моўнага ладу, строю слова. Толькі гэта ўжо даецца адтуль, — юнак ткнуў пальцам угору, дзе ляжала Маня. — Патрэбен адмысловы нюх, чуццё гукаў, бачанне фарбаў... Нехта з маіх бацькоў або продкаў мог бы таксама выйсці ў паэты. Я так думаю... Бо ў нашай сям'і любілі ёмістае слоўка, трапны выраз, прымаўку.

— Але ж не кожны адораны тварыць...

— Так... Як і не кожын, хто мае стрэльбу, ходзіць на паляванне. Патрэбна, каб закарцела...

— На паляванне мусіць ісці згаладалы...

— Ха-ха, — чамусьці засмяяўся суразмоўца бацькі. — Не заўсёды...

Ён сядзеў таксама на цурбаку. У профіль да Мані, і яна бачыла яго роўны, точаны нос, абрысы чыстага лба і чуб, навісаючы стрэшкай над гэтым вольным ілбом. Лагодныя вусны юнака момант варушыліся ў крыху паблажлівай, як падалося Мані, усмешцы; і, захапіўшы калена ў сашчэпленыя далоні, ён адкінуў галаў назад, прыплюшчыў вочы. Вусны яго прамаўлялі:

Ужо тры дні, ужо тры дні
не меў скарынкі хлеба ў роце.
Не кормяць вершы больш ані,
няма й граша ў папернай псоце.

Дзівак паэта, ну й дзівак,
хацеў насыціцца ён вершам!
Пісаў, пісаў, цяпер — жабрак,
сярод галодных — самы першы.

Чаму, навошта, для каго
глуміў паперу, чэрняй мазаў?
Сам ні ў ваду, і ні ў агонь,
ні ў муляры, ні ў вадалазы.

Няўжо такі жыцця закон,
о Муза, строгая багіня?
Спрытнейшы — хай бяздарны ён —
жыве, менш спрытны — здольны — гіне.

Маўчалі бацька і, вядома ж, Маня, маўчаў сам паэт. Нехта хроп у кутку, і якаясь кабета — ці не Зося? — жахаючыся, выгуквала спрасоння асобныя словы. Цягнуўся і біў у нос смурод ад вядра, куды хадзілі пры пільнай патрэбе. Дармо... У гэтым чалавечым смуродлівым атачэнні сядзеў, пры распаленай печцы, лагодны і жывы, высакародны і мужны, бы рыцар пагоні, паэт. І з ім была радасць чароўнага слова. Яны ехалі і везлі ў свет сваю скруху...

Цягнік прыкметна збаўляў хуткасць і, паскрыпваючы тармазнымі калодкамі ды ляскаючы буферамі, уцягваў сваё велізарнае цела на станцыю, дзе, пэўна, планаваўся прыпынак.

— Варшава! — нечакана кінуў нейкі дзяцюк зверху, чыё месца было блізка да столі і закратаванага акна.

І Маня зазірнула ў сваё акенца, але за мільганнем вагонаў на паралельным пуці станцыі нічога не ўбачыла, відаць, вакзал быў з другога боку.

— Варшава? Нех бэндзе пахвалёны, шапка сіня верх зялёны! — няйначай, такім манерам прывітаўся з месцам Варшава другі голас, які хутчэй за ўсё належаў Мішу Ксёнду, сыну мотальскага солтыса.

У вагоне пачалося ажыўленне, але ўвага Мані па-ранейшаму была прыкута да бацькі і яго суразмоўцы. Той схамянуўся, пачуўшы паведамленне аб прыбыцці ў Варшаву, і пацягнуў да сябе зацёрты да дзірак рэчавы мяшок, які стаяў ўзбоч цурбака на падлозе. Паэт затым ветліва зблізу паглядзеў у твар яе бацькі, расчырванелы ад печкі, абуджаны ад цнатлівай бяседы.

— Дзякуй вам, спадар Барыс — узяўшы ў вагон, вы зрабілі мне такую паслугу! Ды шчэ і аздобілі ласкавай гутаркай гэты начны мружлівы шлях...

— Не варта падзякі, Альфрэд...

— Дальбог, у жыцці вам наканавана высакародная місія! Я рады за вас.

— Не варта, дружа...

Яны разам усталі, як што цягнік прыпыніўся, і Барыс пайшоў адчыняць дзверы вагона. Альфрэд удыхнуў свежага, настоенага на марозе і станцыйным куродыме паветра і саскочыў на заснежаны грунт. Шапка звалілася, упала на снег, ён падхапіў яе і ўскінуў угору:

— Бывайце здаровы!

— Поспеху! — гукнуў яму ўслед Барыс.

— Тата а тата! — тут жа анепакоена і патрабавальна паклікала Маня Барыса і, калі ён падышоў і нахіліў да яе галаў, спытала: — Хто гэта размаўляў з табой і чытаў вершы?

— Альфрэд...

Барыса ўразілі яе вялізныя вочы, збалелыя, скрушлівыя, прагныя да моманту, яны свяціліся ліхтарамі на бледным і ўвогуле спакутаваным твары. Яму перадалося даччыно хваляванне, але ж ён не ведаў глыбіняў яго і не адчуваў выбуховай унутранай сілы. Адно патлумачыў:

— Альфрэд — койданаўскі салавей. Ты спала, калі мы стаялі ў Брэсце і ён папрасіўся да нас у вагон. Яму вадзіла хутчэй у Варшаву патрапіць. Адсюль ён потым, верагодна, сігане ў Кракаў. Па справах беларусаў... Даручэнне Беларускай Цэнтральнай Рады выконвае.

— Дык ён не ўцякач?..

— Не-е, Маня... Ён неўзабаве вернецца ў Менск, там рыхтуецца Другі кангрэс беларусаў.

— Тата, а ён быў адзін?..

— Як?..— бацька не зразумеў яе.

— Калі ў Брэсце падсеў, з ім больш не было паэтаў?

— Не было... Мар'я, чаму ты пра іншых пытаеш?

— Веш, тата... Мне, мусіць, розум здрадзіў. Я памяшалася і не ведаю, ці то быў сон, ці ўсё на яве?

— Супакойся, Мар'я, і ты больш чаго зразумееш.

— Я ўсё раскажу, тата... Была царква, і я... У хоры спявала... А потым такое пайшло! З Царскіх варот паказаўся не бацюшка, а вязень, якому на лётнішчы мы з мамкай і цётухнай Зосяй харчы перадавалі. Ён чытаў верш, мо помніш: «Забраныя мы з забранага краю»?.. Затым пачалі з'яўляцца іншыя. Як бы нават партызаны, але не мотальскія. І яны чыталі вершы. Хор спяваў. Дзед глядзеў на мяне і суцяшальна, лагодна гэтакківаў мне. Падбадзёрваў. Потым ужо не ў царкве, а дома... Перад дзедам, перад жывым дзедам — я і Волька, мы і яшчэ адзін — партызан-чарнышовец... Зноў вершы... Новыя вершы... О, як тыя вершы гучалі! Неверагодна, аднак, каб іх упадабалі партызаны. Проста дзіва... Я чытала верш Арсеневай. З кніжкі, якую ты прывёз. Расплюшчыла вочы — нібыта прачнулася. Не-е? Ляжу... Усведамляю, што я ні дома, ні ў царкве, а тута, тута. У душным вагоне. І вядзе рэй гэты паэт. Слухаю... Зноўку — верш! Такі ж, як і тыя... Божа! Адкуль тут паэту ўзяцца?.. Адкуль — узяліся тыя? Жыццё і сон перапляліся. І ці то я жыву, ці бачу сны аб жыцці? — Манін твар перакасіла грымаса болю і на вочы нагарнуліся слёзы; яна зарыдала наўсхліп: — Ах, дзедусь-дзедусь!.. Марна ўсё... Быў бы ты з намі, і ўсё было б добра.

Барыс разгубіўся ад наплыву жальбы і слёз Мар'і, ён паклаў ёй на галаў сваю мяккую руку, паспрабаваў суцешыць:

— Не трэба... Не трэба, дочка... Супакойся... Паэты сніліся — гэта добра.

Ён не ўмеў суцяшаць, але ж тут на падмогу яму прыйшла Ганна:

— Што з табою, дачушка? — рогам хусткі яна выцерла слёзы: — Слязьмі гора не загодзіш! Устань, выйдзі надвор. Там ужо дзень і мяцеліца сунялася.

— Я паляжу, — супакойваючыся, адказала Маня.

— Ну адпачні яшчэ, а мы з Волькай выйдзем, бо яшчэ ж ехаць далёка.

Маня засталася на месцы, яна старалася глыбока і роўна дыхаць, каб авалодаць сабой.

Ад дзвярэй жа данеслася матчына пытанне:

— Барыс, а хто ж ён, той паэт, што расстроіў яе?

— Ганя, гэта ж не ён расстроіў, а — вершы, нудзьга... І яшчэ: яна дзеда прысніла... Жальба агарнула душу. А паэт — што паэт? Такі ж чалавек, як і мы. Яму, дарэчы, дваццаць два гады. Настаўнік... З Менску... Актывіст мясцовай самапомачы... У трыццаць сёмым годзе бальшавікі забралі бацькоў, асіраціўшы малых дзяцей... Усё — як ва ўсіх, хто дбае пра Беларусь, пра Бацькаўшчыну.

Барыс на нейкі час пакінуў цягнік, а потым вярнуўся з чужымі — з прадстаўнікамі Чырвонага Крыжа, якія, зазірнуўшы ў вагоны, пазначылі штось у паперах і выдалі бежанцам прадукты — сухі паёк. Маня хуценька злезла з нар, накінула на плечы паўкажушак і выглянула ў шырока расчыненыя дзверы. Маці гаманіла з Зосяй і іншымі жанчынамі каля другога вагона. Яна заўважыла Маню і абрадавана памахала рукой.

А Бушкевіч схадзіў на вакзал і прынёс вядро кіпеню.

Бежанцы ладавалі сняданак, і Маня, спусціўшыся па прыступках лесвічкі ўніз, да сваіх, адчула, што яна зноў стаіць на зямлі.

## 22

Моталь гарэў. З нетраў мястэчка ўгору шугала полымя. Шырокай паласой. З дымам, іскрамі, гарам. З прыглушаным енкам людзей, пераважна старых, якія не здолелі выбрацца з хат. З жудасным мыканнем, рыкам кароў, з піскам больш дробнай скаціны, якую нехта не здагадаўся ці не паспеў выгнаць з хлява.

Гарэў Моталь, і не ставала дужых, спраўных, спрытных людзей — мужыкоў, каб бараніць яго ад пажара. А тыя, каго не хапала, назіралі за страшным вогнішчам зводдаль, з-па-над возера, з боку Тышкавіч, дзе на ўзбалотку быў разбіты іхні лагер. Адтуль партызаны нікога не выпускалі.

Чалавечае сэрца баліць, калі гараць птушыныя гнёзды. А тут гарэлі не гнёзды, а сялібы людскія, і востры жаль,

скруха, жуда спавівалі сэрцы ўсіх, хто жагнаючыся, назіраў за гэтай карцінай.

А наракаў люд на лёс нялітасцівы, наракаў на чужынцаў паганых і на сваіх, што зваліся мсціўцамі, — усе былі вінаватыя ў гэтай спапяляючай жыццёвую прастору вайне.

У лютым — сакавіку, пачуваючы сваю сілу і веліч ад перавагі над немцамі, пра што сведчыла занятае імі мястэчка, партызаны пралілі нямала жаночых слёз, гарачых і горкіх, тым, што ўсчалі выкалупваць з сем'яў мужчын ад 17 да 40 гадоў, — усіх начыста. Пры гэтым нікога з партызанскіх уладароў не цікавіла, як, скажам, фашыстаў раней, — халасты той ці іншы альбо жанаты, які ў прызыўніка стан здароўя, ці здольны ён насіць стрэльбу і гэтак далей. Партызаны стваралі запас моцы — мацавалі хрыбетнік Чырвонай Арміі, наважваліся гэта зрабіць.

Яны, праўда, не абцяжарвалі сябе лішне тлумачэннямі, што да чаго, і таму, калі сабралі квет лепшых мужчын мястэчка ў ацалелую школу, куды немцы зганялі яўрэяў, каб потым іх ліквідаваць, між зняверанага люду пайшла пагалоска, што і гэтых будуць расстрэльваць. А што ж у тым нeверагоднага?.. Расстралялі ж братоў Паўла і Міколу Міховічаў. Расстралялі Пятра і Паўла Пісарчукоў. Расстралялі капітана Калінічэнку разам з сям'ёй і шмат каго яшчэ загубілі. То чым гэтыя лепшыя за тых?.. І не суняць было жалю, калі сабралі іх. З боку жанок, мацярок, сясцёр і нявест, слёзы раўчукамі ліліся.

Толькі, калі пастроілі, камандзір партызанскага чыну Данік Плюнгер, трымаючы сябе, як той пан ці бог вайны Марс перад чарговым паходам, патлумачыў мэту іхняга збору. Ахарактарызаваўшы становішча на савецка-германскім фронце, ён давёў пра патрэбы Чырвонай Арміі ў жывой сіле, затым перадаў слова засланым сюды чырвонаармейцам, і тыя казалі пра важнасць абароны савецкай Радзімы ды перамогі над ворагам.

Удакладніўшы спісы, па якіх сабралася ажно паўтары сотні чалавек, прызыўнікоў адпусцілі дадому — усяго на шэсць гадзін, для збораў у дарогу; а потым сабралі і пагналі даўгім ломаным строем па шляху на Тышкавічы і далей, у лес, ва ўрочышча Мінічы. Блізу партызанскага лагера, закладзенага Плюнгерам раней, навабранцам паказалі дамоўку на бліжэйшы час — роўнае заснежанае поле. І добра, што прызыўнікі былі ўзброеныя піламі, ся-

керамі, рыдлёўкамі. Маючы добрыя рукі да працы, яны падзялілі яе між сабой, і адны пачалі разграбаць снег, дзяўбаць мёрзлую зямлю, другія — валіць сухастоіны, пілаваць і калоць дрэвы на сцены, на столь для падземных палацаў. Кожную зямлянку асталёўвалі двума выхадамі, як што месцілася ў кожнай па дзве дружыны, а разам — сорак чалавек, ды рабілі яшчэ адну меншую — штабную зямлянку. У якасці печаў ставілі жалезныя бочкі.

Усё было зладавана чын па чыну, нават адштукавалі кухню, з якой прызыўнікі атрымлівалі не багатую на скаромнае, але гарачую страву. Днём жа арда апалчэнцаў — словамі іх саміх — праходзіла вайсковую муштру, знаёмілася, чым пахне і што важыць вінтоўка, вучылася перадольваць на аснежанай паласе штучна ўзведзеныя перашкоды.

За працай нававбранцам не было сумна, а было прыкра ад таго, што іх, няўзброеных, збіраліся кінуць у бой з немцамі, каб яны здабылі там сабе зброю. Жартавалі нявесела: адно, можа, рана татарам на Русь ісці?

Дружыны будучых ваяроў узначальвалі засаб больш спрактыкаваныя мужыкі з ліку тых, што пабывалі ў войску, пераважна польскім. На іх і ляжаў абавязак не даваць сумаваць байцам, прымушаць іх думаць не пра сябе, а пра Радзіму — СССР, што мотальскай косці нязвычным і нязручным было, але ж на тым без усялякіх хістанняў настойвалі вайсковыя ўпаўнаважаныя, дарадцы, якія заўжды дэфілявалі ў чырвонаармейскай форме ўдвух, калі не лічыць камандзіра Плюнгера, гэтага Бога ці Д'ябла мініцкіх балот.

Правай рукой у Даніка, пэўна, быў Кірыла Пампуля, з мясцовых, які спанатрыўся быў бойка чытаць савецкія зводкі з фронту і загады, напісаныя з той ці іншай прычыны камандзірам Плюнгерам.

На жаль, салдату і ў полі няволя — не ўсім падабалася муштра, цяжка было да яе прывыкаць, таму, чаго граху таіць, па начах на першым часе сумавалі многія. Па доме, па сябрах, па сваіх маладзіцах, па дзецях... І з таго боку, варта зазначыць, у сум упадала часам тая ці іншая спадарыня, абрабаваная плюнгераўцамі. Глыбокі сум і жаль вёў яе ў партызанскую камендатуру, каб перадаць скрушлівы ліст у лагер або паплакаць, пажаліцца, папрасіць спаважнага, чыннага, як здавалася, каменданта Мікіту Калільца вярнуць дадому яе чалавека.

Калілец, дарэчы, уважліва слухаў усіх ды не ўсё мог зрабіць і таму мала чаго каму абяцаў. Адно ўразіла неяк Мікіту жальба маладой маталянкі Паўліны Менюк: у другі раз пазбаўляюць яе шчасця-долі... То ў 1939 годзе, перад прыходам Чырвонай Арміі, свае свавольнікі забілі мужа Аляксея Бушкевіча. Прайшло два гады, і да яе, нябогі, пачаў хінуцца Міхась Мацюкевіч, хата якога стаяла па той жа вуліцы Вішнявецкай, напроці іхняга дома. Маці Мішы рана памерла, таму па-вулічнаму яго звалі Сіратой. Гэта быў спакойны і людзяны хлопец, у яго і ў Паўліны з'явілася тое, што родніць зазвычай, што прыцягвае, бы магнітам, адно да аднаго. Яна зацяжарала. Міхась у свае 27 год рашыў ажаніцца, практычна — забраць, перавесці цераз вуліцу Паўліну ў свой дом. Але толькі волі яму не даў старэйшы брат Рыгор, і не столькі Рыгор, колькі Рыгорыха, братава жонка. Яны паўсталі супраць свядомага Мішынага выбару, і ён разгубіўся. Якраз у гэты момант яго і прызначылі дружыновым у лагер навабранцаў у Мінічах.

Паўліна прыходзіла ў жах ад думкі, што яе кавалер не вернецца, не павянчаецца з ёй, і тады на яе душу ляжа цяжар няпэўнасці — грахаводнасці, няўцешнасці і яна будзе пачуваць сябе чужой ў сваім асяроддзі. Што ж тады за лёс будзе ў яе і яе дзіцяці, калі дзіця звяжа рукі?.. Малінавая чырвань пакрывала яе па-дзявочаму вабны твар, і, пераадолеўшы сваю нерашучасць, яна распавяла дабрадзею-каменданту пра жыццё і пра тое, якія меліся быць у яе непярэліўкі.

Прыгода, пры ўсёй сваёй нягеглівасці, мела канкрэтную яркую афарбоўку.

— На што ж ты, драны лапаць, разлічвала, калі вайна кругом? — задаў Калілец непатрэбнае і разам скрушлівае для яе пытанне.

Ды яна нічога і цяміць не цяміла і не рабіла ніякіх разлікаў... Дый ці магчымы тыя разлікі, калі душа ахоплена полымем спапяляючай жарсці, калі тонеш у абдымках кахання, любові?

— Даруйце... Я, пэўна, дурная, не ведаю...

Яе шчырасць і неабароненасць кранулі Мікіту, балазе ён не пазбыўся яшчэ ўспамінаў і пра сваю маладосць.

— Я перагавару з Багданам, — сказаў ён, — але ж за поспех перамоў не ручаюся.

Камандзір Данік Плюнгер з'явіўся ў Моталі назаўтра. Камендант Калілец меў для яго надзвычай важную на-

віну: у накірунку Моталя з захаду рухаецца частка слыннага партызанскага злучэння Сідара Каўпака, а менавіта рэйдавая брыгада пад камандаваннем Вяршыгары. Яна ідзе з-па-над Віслы, дзе спраўна крышыла варожыя тылы, здабывала розную карысную інфармацыю ды сеяла паніку ў варожым стане. Цяпер ёй патрэбен быў адпачынак, і са штаба брыгады імя Свярдлова, куды ўваходзіў партызанскі атрад Баравіка, паступіў загад: тэрмінова вызваліць Моталь ад сваіх партызанаў і прыняць каўпакаўцаў дзеля адпачынку і падмацавання.

Данік выслухаў Калільца і, знайшоўшы пацвярджэнне таму рапарту ў нешматслоўнай паперчыне, перададзенай пасыльным, пачаў аддаваць неабходныя загады сваім аддзелам і штабу. Нікому не хацелася вяртацца ў лясны лагер, ды служба — не дружба, а салдат — ваўку брат.

Калі ж Данік аддаў усе загады і гатовы быў перадыхнуць, роўна як Бог на сёмы дзень тварэння жыцця на зямлі, да яго зноў падышоў камендант Калілец:

— Да мяне са сваім сорамам звярнулася адна дурніца. Кавалер...

— Хто ён? — пругка спытаў, бы шчоўкнуў затворам, баявы камандзір Плюнгер.

— Міхаіл Мацюкевіч, які ў цябе ў лагеры дружыну ўзначальвае.

— Дык што ж яна хоча?

— Каб ты адпусціў яе Мішу. Каб яны павянчаліся... Дзела маладое.

— І астатніх — туды ж? Распусціць па бабах?.. Не! Вайна, знаеце...

Ён пайшоў, куды яму і вадзіла, ды спыніўся і павярнуўся на адных абцасах: усмешка варухнула ягоныя бровы:

— Бля... От каб баб у салдаты бралі, то б і з іх людзі былі! Рыхтуй, дзядзька Мікіта, лепш медыцыну для Каўпака! Нябось, параненых у іх будзе шмат.

— Я ўсё зраблю, што ў нашых сілах.

Каўпакаўцы ўвайшлі ў мястэчка надвечар наступнага дня, і, ведаючы, што «чужыя» партызаны лепшыя ад сваіх, жыхары мястэчка без боязі выходзілі ім насустрач, а некаторыя адразу ж выносілі і хлеб, малако. Перадавалі перш-наперш параненым, якія сядзелі або ляжалі ў вазках. І не было праблемы іх раскватараваць. Па адной версіі, яны адпачывалі два дні, па другой, — два тыдні, як што

былі дужа змораныя. Па іхніх слядах, аднак, валачыліся зграямі нямецкія воі.

Данік Плюнгер трымаў падкрэслена строгую дысцыпліну ў лагеры навабранцаў, да якой было цяжка прывыкнуць, асабліва тым, у каго яшчэ вусы не пачалі расці, а былі ж і такія, і ў іх ліку — Янка Кульбеда, былы прыяцель Пісарчукоў. Ды размова ў нас цяпер не пра яго.

Надарылася тое, што на вячэрняй паверцы не далічыліся двух апалчэнцаў. То былі юнакі з аддаленай вёскі Варатыцк. Партызаны неўзабаве перанялі іх і вярнулі ў лагер.

Раніца па тым надарэнні пачалася звычайна — з пружыністага пад'ёму і аблівання халоднай вадой на двары. Было хмарна, туман злізваў снег. Сваёй чарадой прайшлі сняданак, заняткі, інфармацыйная шарварка Кірылы Пампулі. Затым — па абедзенным часе — усіх пастроілі ў чатырохкутнік з адкрытым бокам на поўнач.

На адкрыты бок акурат вывелі ўцекачоў — маладзенькіх напалоханых хлопцаў, у іх былі звязаны рукі. А ногі дрыжалі ў каленях...

Яшчэ да гэтага пастраення ў карэ, пачуўшы тое-сёе з вуснаў штабных і здагадаўшыся, якім манерам падзеі будуць далей разгортвацца, дружыновы Міхаіл Мацюкевіч расшукаў Плюнгера ў штабной зямлянцы.

— Таварыш камандзір, дазвольце звярнуцца з запытаннем...

— Якое яшчэ пытанне ў цябе?

— Наконт гэтых двух... За іхні ўчынак кару, прашу прабачэння, трэба меншую, бо яны несвядома гэта зрабілі. Хрыстос дакляраваў такім дараваць.

— Глядзіце, які добры! — кіўнуў камандзір чырвонаармейцам, што сядзелі за сталом. — Хрыстосік? Або адвакат? Проста — як з неба спусціўся і гатовы тут за камандзіра загады аддаваць, — у голасе Плюнгера загучалі ўжо пагрозліва-скрыпучыя ноткі.

— Не-е... Даруйце, — апаўшым голасам доўжыў і ўжо нібы апраўдваўся дружыновы: — Тут без мяне, канешне, ёсць каму загадваць. Я ж толькі пра тое, што яны хрысціяне. Яны не ведалі, што робяць. Зрэшты, які закон яны парушылі? Якую клятву?.. Прысягі ж, пэўна, яшчэ не прымалі...

— Спыніць размову! — тонам загада выдаў Данік, і нават пры слабым святле лямпы відаць было, як ён зра-

біўся барвовым: — За такія размовы я і цябе магу... бля, па галоўцы не пагладзіць. Несвядомы, кажаш, учынак зрабілі... А ты, святоша, свядома ці несвядома зрабіў дзіця Паўліне, га? Ідзі!.. Ідзі ў строй і ў думках пакайся.

Міхаіл Мацюкевіч выскачыў са штабной зямлянкі, бы ашпараны, ён шкадаваў ужо, што па сваёй ахвоце сунуўся туды.

Данік выйшаў таксама. Агледзеўшы прыціхлы строй будучых ваяроў, ён сказаў кароткую, але яркую, узвышана-пагрозлівую прамову, пасля якой скамандаваў на «Зважай!» Арда выцягнулася ў струнку, і тады штабны пісар Пампуля зачытаў загад, згодна з якім... Жах агарнуў душы змушаных слухачоў, а Янка Кульбеда ажно здранцвеў і, здаецца, зусім перастаў дыхаць. Дружыновы Міхаіл Мацюкевіч, адганяючы злых духаў, перахрысціўся. Вядома, тыя, што стаялі насупраць са звязанымі рукамі, спалатнелі, бо ніколі яшчэ ў жыцці ім не даводзілася ісці на такую адказную справу — паміраць.

— Агонь! — падаў камандзір Плюнгер.

І аўтаматчык Зміцёр Крышыліных у момант пусціў адну, потым другую чаргу, і хлопцы, падкошаныя кулямі, пахіліліся, ссунуліся на зямлю. Без пары, без ладу зрэзаныя парасткі.

А каўпакаўцы, пазбягаючы адкрытага бою з праціўнікам, які пераўзыходзіў іх па агнявой сіле і моцы, пільна сачылі за варожай пагоняй. Атрымаўшы вестку, што з Янова ў бок Моталя на бронемашынах рухаецца варожы атрад ды яшчэ з гарматамі ў агульнай калоне, яны тэрмінова наладавалі абоз і пусцілі яго ў забалочана-лясныя нетры; самі, праверыўшы экіпіроўку адзін аднаго, рушылі следам — цераз мост, за Ясельду, ды па лесе — ад Тышкавіч да вёскі Клятная. У паходзе, дарэчы, ім неаднойчы даводзілася расчышчаць сабе шлях ад бандэраўцаў — фашыстоўскіх паслугачоў, якія раз-пораз наладжвалі засады.

У Плюнгера з каўпакаўцамі, пэўна, была дамоўленасць, што ён прыкрые іх адыход. Таму, калі апошнія калоны партызан Вяршыгары маршам прайшлі па масту цераз Ясельду, на мост з боку Тышкавіч памкнулася разведаддзяленне, ачоленае Платонам Мацукевічам, мужыком зайздроснай паставы і сілы, а таксама 2-я рота атрада баравікоўцаў-плюнгераўцаў. Яе павёў у

Моталь сам Данік. Патрабавалася выставіць партызанскі заслон перад Моталем.

А там яшчэ, напэўна, не было варожага войска, і шлях быў адкрыты. Платону Мацукевічу, аднак, на пачатку паходу настрой сапсаваў эпізод з Іллюком Дубовічам, які лічыўся ў яго як не правай рукой. Калі рухаліся па масту кароткімі перабежкамі, непадалёку раздаўся стрэл з вінтоўкі. Невядома было, хто і адкуль страляе, а таварыш Дубовіч, мігам перамахнуўшы пярыла, даў нырца з вышыні не меней дзесяці метраў — лёд на Ясельдзе ўжо схлынуў.

Выстралы больш не паўтараліся, толькі Платон адчуў вялікую прыкрасць у душы, бо невядома было, бегчы далей або кінуцца ратаваць баязліўца — чаго добрага, яшчэ захлынецца, бы шчанюк, у халоднай вадзе. І, вылаяўшыся, ён загадаў аднаму з разведчыкаў паназіраць за тапельцам Дубовічам, ці выграбецца ён з вады, а з іншымі шпарка пакрочыў далей.

Увогуле Платон Мацукевіч лічыў, што заслон трэ было выстаўляць не ў Моталі, а на лініі Ясельды, як што водная перашкода ў вайскоўцаў заўжды была рубяжом абароны. Але ж у Платона ніхто не пытаўся.

У Моталь увайшлі своечасова, гэта значыць, раней за немцаў, і Данік распарадзіўся выставіць кулямёты на паўднёва-заходніх ускраінах мястэчка, на Лузе, на Муравятніцы, як што немцы меліся ісці з Замошша і Упірава, абмінаючы Цобскія горы.

Кулямёты ўзору Дзегцярова партызаны пачалі ўсцягваць на стрэхі пуняў і хлявоў. Але, мяркуючы па рэакцыі на гэтыя дзеянні мясцовых стратэгаў — дзядоў дый бабуль, жахліва бяздумным выглядала тое, бо, як вядома, драўляныя сцены хат і хлявоў, не гаворачы ўжо пра саламяныя стрэхі, гараць, бы порах.

І што ні тлумачылі разважлівыя жыхары партызанам, пачынаючы ад радавых кулямётчыкаў і канчаючы статуяпадобным Данікам Плюнгерам, камандзірам, ніхто іх слухаць не хацеў. Загад не абмяркоўваецца, чуеце, няхай ракі назад поўзаюць, а не партызаны.

Параскева Міховіч, тая, узброіўшыся граблямі, што тырчалі з-пад страхі, прагнала кулямётчыкаў са сваёй сядзібы.

— А ліха на вас, чэрці! Сыноў пастралялі — за што? Яны не хацелі ісці ў вашу банду? Нелюдзі! — дакараючы, галасіла яна. — Цяпер, нябось, і на хату наклічаце пагі-

бель... Прэч! Прэч, каб вочы мае вас не бачылі, каб вашы дзеці ў вас уцехі не мелі!

Невядома чаму, але партызаны ўважылі на пратэст кабеты і, як пабітыя, папляліся з двара.

А можа, суседняя пуня была больш зручнай для кулямёта?..

Выправіўшы іх, Параскева парадавалася кропляй-кропелькай уласнай годнасці, якую сумела-ткі абараніць з граблямі ў руках. Але ж перамога над нягеглымі ваярамі цётку мала цешыла. Ёй боязна было заставацца адной у сваёй хаце, уважаючы на тое, што неўзабаве пачнецца страляніна і мо сапраўдная вайна. Таму яна навесіла на дзверы замок і, спора перабіраючы нагамі, пакаціла на Гару да сваёй свацці Аксінні, таксама самотнай. У іх адной і другой цяпер было раўнаважна вялікае гора, і яны ім жылі, як жылі раней сямейнымі ўцехамі. Адно чорная паласа прайшла іх агародамі.

Не паспела, аднак, замружаная думкамі Параскева прайсці туды па вуліцах, няўсцеленых ходнікамі, па сырой зямлі, дзе там-сям яшчэ нават ліпелі ледзяшы, што засталіся ад зімовых гурб, як цішыню рванула ды стала траскатаць так, што неба палезла кавалкамі. Прыгадваліся акурат такога кшталту стрэлы, калі немцы на лядах знішчалі яўрэяў.

Параскева подбежкі, нібы стрэламі тымі стукала ёй у спіну, дастала парогу — дзвярэй пісарчуковай хаты і ў роспачы ўвалілася ў кухню.

— Ай, Ксення-Ксеннячка, мая ты галубка, што там зноў робіцца! Анціхрысты гэтыя неба на кавалкі рвуць, між сабой дзеляць!

Аксіння, пачуўшы зводдаль раскацістую страляніну, пачала хадзіць-кідацца з кута ў куток, бы птушка, пасаджаная ў клетку; а як у дзверы загрукала свацц框я, прысела на лаву, свая — не свая, знервавана-бледная, узрушаная, не мовячы, не абзываючыся на словы Параскі. Яна ведала, што з мястэчка партызаны-каўпакаўцы ўцяклі, шасцёра нават у яе кватэравала, і што ўслед за імі сюды прыйдуць немцы, але не чакала бою ў мястэчку.

— Не талан, не талан Моталю і маталянам, — нарэшце прамовіла яна. — Яшчэ каб не свае шкурадзёры...

— А то ж бо!..

Стрэлы тым часам пачасціліся. Немцы, напэўна, прынялі кулямётныя чэргі з дахаў сялянскіх сядзіб як адзна-

ку прысутнасці рэйдавай брыгады Вяршыгары ў Моталі. Яны разгарнулі свае баявыя парадкі ўва фронт і пайшлі ў наступ. Пяхоту падтрымліваў кулямётны агонь з панцыраў, грукацелі воддаль гарматы. І неўзабаве мотальскія кулямётчыкі загавелі душой, праўда, адзін іхні разлік збег. Збегла з Моталя і 2-я рота на чале з Данікам Плюнгерам. За мастом, аддыхаўшыся, яны зноў адчулі сябе пэўна.

Да выканання свайго абавязку прыступіў цяпер ар'ергард Вяршыгары, які прыкрываў адступленне. Байцы шпурлялі ўсцяж маста звязкі гранат з гаручай сумессю. Гранаты ўзрываліся, а мост — нібы загавораны — не хацеў гарэць, хоць і быў драўляны. І тады каўпакаўцам на дапамогу прыйшоў Мікіта Калілец, камендант партызанскага чыну. Ён загадаў партызанам завезці на мост і скінуць на дошкі воз саломы. Салому газай палілі і запусцілі ў яе чырвонага пеўня.

Той нумар са спалам удаўся.

А ў Моталі ўжо гарэлі двары, прычым запалалі спачатку тыя, дзе сядзелі нашы кулямётчыкі, а за імі і іншыя. Калі стральба сціхла і чуваць былі толькі асобныя стрэлы, Аксіння звярнула ўвагу Параскі на нейкі дзіўны гул. То, пэўна, уваходзілі ў мястэчка нямецкія панцыры. Але ж да гулу матораў нешта яшчэ дамешвалася ці перабівала яго. Цікаўнасць вывела кабет на вуліцу. Алярм! Шумела, шугаючы, полымя на Муравятніцы і вуліцы Калільскай, шугала ўскрай Гары, нема крычалі людзі і жывёла, — сваццi адчулі, як іх б'е ліхаманка.

— Ксеннячка, там, пэўна, і Лука гарыць! А я ж кароўку не выпусціла... Ох, кароўка ж мая!..Ксення, я... я туды пабягу.

— Куды ты, дурная! — ухваціла сваццю за рукаў шэрай світкі і спыніла. — Шукаць смерці не трэба, яна сама цябе знойдзе!

— Ай-я-яй! Па-жывому ж гарыць!..

— Не талан... Не-не, бач, глядзець немагчыма. Жах! Каб не нашы анціхрысты. Гэта ж яны сюды зазвалі вайну. І абяздолее люд. Няхай на іх немач! Каб не разжыліся яны, каб не разбуліся, каб яны па белым свеце не хадзілі, каб яны не бачылі ні света, ні сонца, як не бачыць іх, адышоўшы ў сыру зямельку, Пятро.

Сваццi абліваліся слязьмі і неўзабаве адчулі, што ў іх сухія слёзы, што болей сіл не стае глядзець на пекла і думаць пра людзей: ці не лепшага яны варты?.. Але ж адкуль яно будзе лепшае, калі самі яны тое і спараджаюць?

Рухі людзей, калі толькі можна было іх згледзець на вуліцах, у сядзібах, падаваліся разгубленымі, адрынута-мітуслівымі. Ступалі яны з аглядкай, каб не дастаць незнарок нямецкую кулю за тым ці іншым вуглом. Шмат людзей збіралася ў завулках Папоўшчыны. Адразу ж прыйшла пагалоска: немцы, уварваўшыся ў шале ў мястэчка, паляць сядзібы і губяць багата якіх жыхароў! Так было сапраўды, як што па закону вайны яны мелі страляць у партызанаў. Але ж дзе тыя партызаны? Дзе шайз бандэ? Ну, калі сранай банды няма або яна хаваецца за спінамі мірных жыхароў, душу можна адвесці і на расстрэле заложнікаў.

Уцягнуўшы галаў у плечы, шпарка крочыў па вуліцы сусед Аксінні — Хведар Малыцька. Аглядваючыся, ці не ўвязаліся за ім чужынцы, ён прыпыніўся ля кабет.

— На рыначнай плошчы , — паведаміў, — панцыры з крыжамі стаяць. Аўтаматчыкі прачэсваюць вуліцы.

Аксіння, быццам і не чула таго. Яна яшчэ раз кінула позірк на слупы агню і дыму:

— Гарыць жа, як на дурное... Божа літасцівы!..

— Ой, гарыць свацейка, ой, гарыць! — сутаргава скрывіла вусны Параскева.

— Каб не выгарала ўсё мястэчка!..

Купка жыхароў прабегла адтуль, з боку пажарышча сюды, дзе пры возеры жылі святары.

— Гара гарыць! Гара занялася агнём, — у роспачы паведалі ўцекачы.

— Ох бацюхны, ах матухны мае! Да нас дойдзе...

— Дарэчы, — падаў Малыцька: — Разам з немцамі прыджгалі тры мясцовыя паліцыянты. Яны і помсцяцца... Бегаюць з каністрамі па вуліцах, выбіраюць і падпальваюць партызанскія хаты.

— Як жа?.. Ці можна без качагараў у пекле?.. Каб такая варажнеча ды сярод сваіх людзей!..

— Бацюшка казаў: усё ад таго, што на Бога сталі забываць, — згадала Параскева.

— Мажа і так... Праўда, невядома яшчэ, каго Бог больш упадабаў: нас або гітлераўцаў? — Малыцька выплюнуў на зямлю акурак і расцёр нагой. — А, можа, ён больш упадабаў шэльму Сталіна? Не?.. Прычына варажнечы ў тым, што нашы людзі стаяць па розныя бакі...

— Хведар! — раптам паклікала Малыцьку, выглянуўшы са свайго двара, жонка; яна, як і ўсе, была напалохана

пажарам і пакінула непрыкрытым капец на гародзе, а мелася ж перабіраць бульбу.

— Я іду! — супакоіў яе чалавек. — Адно дадам для вас, шаноўныя свацці, па сакрэце... Не выключана, што тыя розныя бакі, адзін і другі, не нашы — для нас яны ваабшчэ чужыя. Таму і б'юцца брат з братам, не ведаючы, хто з кім і за што.

Аксінні падалося, што яна зразумела думку, якую ўзяўся давесці Малыцька, — штосьці падобнае раней даводзіў ёй і Барыс. Аксінні прыгадаліся сынавы словы: «Шчасце беларуса ва ўладзе над самім сабой»... Мо, калі б беларусы служылі сваёй Бацькаўшчыне, ды мелі ўладу сваю, і не было б той дураты, той варожасці, ліха на яе.

— От, каб аказаўся Барыс, — зазначыла ўголас Аксіння. — Тваё, Хведар, показкі ён прызнаў бы, напэўна...

Але тыя словы Аксінні ўжо патанулі ў людскім галасе і пошуме — узбуджаны натоўп местачкоўцаў, які сабраўся ў завулках Папоўшчыны, высыпаў на Гару ды падаўся ў іх бок; наперадзе, трымаючы вялізны крыж у руках, ішоў бацюшка Георгій Раздзялоўскі, у вольным руху, падаючы, пераліваліся складкі ягонай рызы; ён жагнаў крыжом, пэўна, тое, што адкрывалася зроку наперадзе: клубы густога дыму, высокія грывы агню над паселішчам, смурод гары, што вецер ужо даносіў сюды. Час ад часу чуваць былі стрэлы. Жанчыны енчылі, ойча тварыў малітву:

— Госпадзі літасцівы, Госпадзі міласэрны, адвядзі кару ад нявіннага і дабрачыннага люду, ад пакорлівых і ціхамірных рабоў тваіх. Госпадзі, Уладыка нябесны! Утаймуй пажар, упакор сэрцы ворагаў нашых, пралі сваю мілату на Моталь.

Аксіння з Параскевай, Малыцька з жонкай, якая зноў выйшла з сядзібы, далучыліся да натоўпу; адвольна ўтвораны хросны ход мінуў усяго некалькі сядзіб Гары-вуліцы, калі наперадзе, набліжаючыся, заварушылася купка нямецкіх аўтаматчыкаў і паліцаяў з каністрамі.

Толькі бацюшка не спыніўся, і яго поступ, ягоны выраз твару, суровага і як бы адрынутага ад мірской мітрэнгі, выяўляў рашучасць.

— Госпадзі літасцівы, Госпадзі міласэрны, адвядзі агонь ад паселішча, дай мір і спакой рабам тваім маталянам. Да асвеціцца імя тваё, да будзе вечным царства тваё! У імя Айца і Сына і Святога Духа. Амін. Госпадзі...

Карнікі спыніліся ўсяго ў некалькіх метрах ад святара, і хросны ход замёр, як укопаны.

— Вас іст дас? — звярнуўся немец. — Зінт зі бандытэн?..

— Найн... Госпадзі, наш лёс у руках тваіх, — айцец Георгій асланіўся ад чужынцаў крыжом. — Прэч насланнё! З намі хросная сіла. Божа, пакінь нам волю нашу і наша жыццё!

Утаймоўваючы разгарачанае дыханне, чужынцы здзіўлена, утрапёна, разгублена глядзелі ў натоўп, ачолены святаром, і на яго самога. Урэшце, унтэрафіцэр павярнуўся і скамандаваў астатнім:

— Хорт міт брант аух! Цурук...*

Да ночы гарэла, за поўнач усё яшчэ тлела, на раніцу курылася і моцна смярдзела паленым. Самая шчыльная ў засяленні частка мястэчка была вынішчана — дзе-нідзе ўзвышаліся толькі ацалелыя пуні, скляпы, нават хлявы, калі ў сядзібах яны стаялі на водшыбе. І пасля пякельнай ночы, якая шмат каго асіраціла ці пакінула без даху над галавой, маталяне паціху ажывалі, вылазілі, выпаўзалі, выходзілі на вуліцу, як п’яныя. Але ж дарэмнымі былі іх спадзяванні на канец жахлівага явішча, бо немцы з дапамогай паліцыянтаў пачалі выганяць людзей з сядзіб ды гуртаваць іх на скрыжаванні вуліц Запылінай і Вялешкут. Ставілі на калені, каб аўтаматчыкам зручна было наглядаць за імі.

Не давядзі, Госпадзі, у прышласці яшчэ каму-небудзь перажыць такое. Але ж, не перажыўшы, яно цяжка і ўявіць сабе, што адчувалі тады ў душах сваіх жыхары мястэчка і што адчувала на той момант Аксіння. Атупелая ад жахлівых відовішчаў ды перажыванняў, яна цягнулася туды, куды зганялі ўсіх, — на крыжовае месца. Ёй у цесным кагале, бадай, усё роўна было, што далей рабіць будуць з людзьмі, і з ёй асабіста... Адзінае, пра што шкадавала цяпер, — няма яе сына Барыса. Бо толькі ён, Барыс, каб прыехаў, зрабіў бы ўсё як мае быць; ён выцягнуў бы яе з пекла, што ўтварылася ў Моталі.

На душы ў Аксінні па смерці яе чалавека Пятра было рознае. Была роспач, калі ёй не хацелася жыць і яна не баялася смерці. А потым, калі ачомалася трохі, на думку легла іншае: спяшацца на стрэчу з Пятром на тым свеце не варта, як што ні ён, Пятро, ні сын Паўлюк, не пажадалі б ёй хуткай смерці, наадварот... Аксіння па-новаму ацаніла жыццё. А цяпер, калі Моталь запалаў і чэрці доўжылі

---

* Спыніце падпальваць! Назад...

ў ім свой крывавы баль, яна зноў была гатова адцурацца гэтага свету. Ды неяк паціху ў свядомасць кабеты прасачылася думка: мусіць, у яе, змучанай, змардаванай, ёсць яшчэ шанц для паратунку... Гэта — лісток, пакінуты ёй Барысам. Нешта накшталт пропуска, эвой! Калі ж лісток спраўдзіць... Стане тое ці не? Але варта праверыць.

Яе рука намацала ў кішэньцы жаночага гарсета запаветную паперчыну, і нябога фізічна адчула, як прыбываюць да яе з нейкіх глыбіняў свежыя сілы. Яна ўзнялася з каленяў, наструнілася і гэтак жалезнай маўклівай, не тут будзь сказана, статуяй, з цупка пастаўленай галавой, пашыбавала да галоўнага начальніка, які, таксама наструнена, але з іншай нагоды, дэфіляваў у бліскучых афіцэрскіх ботах перад паніклым натоўпам.

— Вас хайст дас? — спыніўся ён.

— Пане начальнік, гэрр афіцэр! — пачала яна тлумачэнне: — Майн сын... майн зоон — Кенігсберг. Фэрштэйн?.. Я... Я... Іх іст муттэр. Ферштэйн?.. Іх нах Яноў...

Начальнік узяў працягнутую яму паперчыну і, прачытаўшы, перадаў яе свайму памочніку, пры гэтым тлумачачы штосьці. Закончылася размова між немцамі зразумелымі для Аксінні словамі:

— Фэрштэйн?

— Яволь!

І афіцэр павярнуўся да яе:

— Гут, матка!

Памочнік кіўнуў ёй, каб яна ішла за ім, і яна пайшла, адчуваючы, як цяжар звальваецца з яе плячэй і праходзіць утрупянеласць, як са статуі яна зноў ператвараецца ў жанчыну; падумалася: калі Бог дасць ёй выбрацца адсюль, як добра будзе недзе ў свеце расшукаць унучку Мар'ю, гэту любіміцу дзедаву, і разам з ёй, каханай, паплакаць, успамінаючы ўсё, што было, што пражыта ў Моталі.

Афіцэр жа, усё яшчэ дэфілюючы, час ад часу даставаў з вузкай кішэнькі галіфэ гадзіннік на срэбраным ланцужку, які блішчаў на сонцы, і кідаў вокам туды. Відавочным было, што ён кагосьці чакае, што нехта ці нешта замінае яму выканаць свой свяшчэнны абавязак перад фюрэрам — перастраляць усіх, хто быў разам з бандытамі, якія любяць называць сябе партызанамі, — усю гэту шваль у рыззі — шайзэ шваль, якая не ўмее нават на каленях стаяць перад воінамі Трэцяга рэйха, а спаўзае з каленяў на задніцу...

Прайшло не меней за гадзіну часу. Немавед як і ад чаго плакалі дзеці. Нямецкія ваяры прыгналі на залітую сонцам пляцоўку пры скрыжаванні вуліц яшчэ партыю напалоханых да смерці жыхароў, якія, напэўна, хаваліся па сваіх сядзібах. Афіцэр, карыстаючыся паслугамі немца-перакладчыка, прымусіў усіх устаць і зноў апусціцца на калені. У гэты ж момант загудзеў матор машыны, якая прыпынілася ўзбоч натоўпу, і з яе вылез таўстаматы чын у вайсковай форме. Амаль поплеч з ім паўстаў ад'ютант, а за імі — адразу ніхто і не разгледзеў — двое ў штацкім. Афіцэр шпарка падышоў да прыехаўшага, выцягнуўся ў струнку і адрапартаваў наконт сваёй перамогі ў баі за Моталь і сабраных тут, на пляцоўцы, людзей, якія, як падаваў ён, разам з бандытамі трымалі абарону.

Вышэйшы чын слухаў даклад баявога афіцэра і ківаў: гут, гут... Але ж да яго неўзабаве наблізіўся спаважны і станісты чалавек у цывільным. Ён штосьці пачаў даводзіць вышэйшаму чыну, паказваючы на людзей, якія стаялі на каленях і глядзелі на іх, затаіўшы дыханне. І зноў гэты чын ківаў і пагаджаўся: гут, гут... Нарэшце, на ломанай рускай мове перакладчык абвясціў люду памілаванне, а разам даў і параду: калі вы, маўляў, не хочаце больш цярпець прынуку, гвалт, здзек мясцовых камуністаў і іхняй шайз бандэ, запісвайцеся на выезд у Нямеччыну; там усім здаровым людзям месца хопіць, там забяспечаны будуць прытулак і праца.

Параскева выбралася з натоўпу і падышла да чалавека ў цывільным плашчы, які глядзеў паверх галоў у натоўп, яўна кагосьці шукаючы. Вочы яе не падманулі, і яна зведала новае вострае хваляванне ды радасць:

— Калі ж ты прыехаў, зяцёк?

Ён аслупянеў ад яе голасу, але ж у наступны момант зрабіў крок кабеце насустрач, і яны абняліся.

Так Барыс сустрэўся са сваёй цешчай Параскевай. Але ж ён шукаў тут не яе, а перш-наперш іншую.

— Я рад, што сустрэў вас... А дзе ж мая мама?

— Яе адпусцілі, Барыска. Нейкі немец павёў яе... Дзякуй, што ты з намі і абараніў нас. Яна ж... Можа, яна цяпер дома... Барыс, — у запалых і заплаканых вачах кабеты ўсхамянулася цікаўнасць, — а дзе ж цяпер Ганя з дзецьмі, дзе Зося?..

— У Памажанах, у маёнтку нашага кума Юргенсона. Гэта прыкладна сто пяцьдзесят кіламетраў за Варшаву.

— То і дзякаваць Богу!

— Я і вас туды забяру, і Зосіна немаўлятка, якое засталося, і тых, хто з ім бавіцца. Калі пажадаюць, канешне.

Каля іх утварылася шчыльная купка цікаўных. Ува ўсіх, калі шчыра, была золь на душы, і, тым не менш, некаторыя з іх, як цешча і сваццця Барысава — Параскева, усміхаліся, праз слёзы. Гэта паказвала, наколькі магутныя ў чалавеку здаровы пачатак і прага жыцця.

— Шаноўныя грамадзяне, суродзічы! — звярнуўся Барыс Рамановіч да знявернанага конча люду, які яшчэ не паспеў разысціся.— Пасля пажару цяжкое гора ў вас, цяжкія выпрабаванні, і няма чым суцешыць. Адно скажу, саветы, калі прыйдуць, не прынясуць вам палёгкі, і калгасы не накормяць, і энкавэдысты не ўсцелюць шоўкам вам шлях у Сібір. Няма ў літвіна добрае долі. Але ж найбольш свядомыя і адважныя сыны Бацькаўшчыны спрабуюць сабе гэту долю здабыць. У Менску дзейнічае Беларуская Цэнтральная Рада, якая выконвае ў пэўнай меры функцыі ўрада, а цяпер ствараюцца батальёны Беларускай Краёвай Абароны. За сваю зямлю, за Беларусь нам належыць дружна змагацца. Бразтове, зямлю належыць бараніць як ад тых, што ідуць з усходу, так і ад тых, — Барыс агледзеўся, ці не стаяць блізка немцы, — што прыйшлі з захаду.

— Правільна, — пачуўся прыглушаны голас суседа Хведара Малыцькі.

— Аднак нам, бітым, паленым, не да гумару! — падаў нехта.

— А — чаму? — запярэчыла раптам бойкая Алена Германка, ды так, нібыта ёй і належала арганізаваць батальён. — За адных паваявалі, за другіх — галавы склалі. А за сябе? Кішка тонкая?..

На большасці твараў ляжаў выраз адрынутасці, разгубленасці і адчаю. Барыс не збіраўся весці з народам дэбаты. Люд рассейваўся. Чуліся асобныя ўсхліпы і галашэнні. Хтосьці кінуў з выклікам:

— Вунь там, пад Тышкавічамі, наш батальён!

— Дармо, — энергічна адказаў Барыс, — і там, і тут — скрозь наш брат-нявольнік. Адно прашу мець на ўвазе: са мной з Драгічына прыехаў таварыш, — ён назваў імя і паказаў на незнаёмца ў цывільным, які стаяў воддаль; той пакланіўся. — Гэты чалавек фарміруе аддзел Беларускай Краёвай Абароны. Хто пажадае — калі ласка... У яго, дарэчы, больш дакладная інфармацыя.

Параскева праводзіла Барыса ў сядзібу Пісарчукоў. Толькі пры думцы, што яны вось-вось расчыняць дзверы

хаты, дзе зусім нядаўна жыло тры сям'і, а цяпер, апроч Аксінні, — анікога, і яе сядзіба хаўтурная, ёй рабілася непамысна горка, балюча — маліла Бога, каб даў сіл зладзіць з сабой, захаваць раўнавагу. Вой, каб гэтак парушыць свет, у якім яна дагэтуль жыла!

Разам з імі ішоў да сваёй хаты і Малыцька.

— Пятровіч, — паважліва казаў ён, звяртаючыся да Барыса. — Я слухаў цябе і тады, тры гады назад, у царкве, і цяпер. На мой мужыцкі розум... гм, як сказаць? — марудзячы, ён уздыхнуў. — Калі не стаць па зямлі хадзіць — дык яно ў самы раз: святая праўда ў словах! А практычна — мы прыціснутыя.

— Я ведаю... На нашых целах балююць.

— Галавы не ўзняць! Які ж Гітлер дазволіць нам мець сваё войска?

— А Гітлеру ўжо не да нас...

— То, скажы, дзе возьмеш зброю?

— З Берліна абяцаюць дваццаць тысяч вінтовак.

— Дапусцім... Значыць, зноў мы ад Гітлера залежныя. Вінтовак не хапае і тым, хто ў партызанах... Вунь пад Тышкавічамі сядзяць таксама хлопцы без зброі... Мяркую, многія з іх узялі б з тваіх рук вінтоўкі. Але ж супраць нас усё адно чырвоныя панцыры ды кацюшы папруць.

Барыс нейкі момант маўчаў, раздумваючы, а затым прамовіў:

— Калі б народ паўстаў... З народам нічога не зробяць. Па народу з кацюш не будуць паліць.

— Народ у нас дваякі...

— Залаты народ, скажу табе. Толькі расколаты, і частка яго апалячана, частка ўведзена ў зман камуністамі... Я і сам раней у камуністах хадзіў, таму ведаю.

На гэта Малыцька ўжо не знайшоў, што адказаць, таму перавёў размову на іншае:

— Пятровіч, я мужык, з якіх там недзе ствараюць калгасы. Я не багата жыў да вайны. Жыў сваім розумам. У калгас, аднак, не хачу... Скажы мне, дзе, на якіх сабаках раней гэты камунізм быў выпрабаваны?

— Не ведаю, Хведар... Мусіць, нас выбралі за падвопытных псоў.

— І я так думаю...

Барыс не застаў сваю маці дома і кінуўся да немцаў у росшук. Немцы паведамілі, што фрау, якую ён шукае, пе-

рапраўлена дзве гадзіны таму ў Яноў. Калі ён ехаў сюды, яны, бадай, размінуліся... Барыс супакоіўся, ведаючы, дзе спыніцца яго маці ў Янове, і яшчэ суткі правёў у бацькоўскім доме, праўда, толькі начуючы. Днём разам з драгічынскім сваім хаўруснікам ездзіў па вёсках, дзе прапагандавалі мэты і задачы стварэння Беларускай Краёвай Абароны. Сёй-той запісваўся. Толькі многія сяляне зноў жа ківалі на лагер пад Тышкавічамі, дзе праходзілі муштру і бавілі час найбольш дужыя мужыкі з мясцовых.

Затым Барыс падаўся ў Яноў, каб залагодзіць там адпраўку людзей на Захад. Ён зноў вярнуўся ў Моталь у вербную нядзелю на пачатку мая, калі нямецкае камандаванне, сцягнуўшы свае ўдарныя сілы, пачало блакаду партызанскай зоны. Немцы з мінамётаў абстрэльвалі лагер у Мінавіцкіх балотах, і там пачалася паніка. Пераканаўшыся, што штаб разам з камандзірам Багданам Плюнгерам знік і не было ніякіх распараджэнняў і ніякіх перашкод для руху, навабранцы спакваля рассейваліся. Амаль усе яны вярнуліся да сваіх хат, балазе немцы іх не чапалі. Для іх, патэнцыяльных ваяроў, найбольшая небяспека цяпер была ад сваіх, ад гэтак званых абаронцаў ад нямяцка-фашысцкай няволі... Людзі пачувалі сябе як бы ў двайным палоне. А яшчэ свежае папялішча ў Моталі прыгнечвала душу...

Хто хацеў жыць, шукаў выйсця з цянётаў.

Цяпер нікога больш не здзіўляла, што ў красавіку і першай палове мая новая партыя маталянаў — ажно за 200 чалавек! — падалася ў Германію, так бы мовіць, у стан ворага. Хто ахвотна, а хто па прымусу, якога можна было б і пазбегнуць. Прычым, далёка не кожын з іх меў якінебудзь грэх перад людзьмі або партызанамі, каб уцякаць ад іхняга праследу.

Янка Кульбеда, вучань адмысловага пасечніка, няхай таму пухам зямля будзе, сустрэў ягонага сына Барыса Рамановіча блізка царквы і, трохі саромеючыся, папрасіў дапамагчы яму выехаць з Моталя туды, куды цяпер, сказаў, багата хто едзе. Ён зазначыў, што быў у добрых, надзвычай добрых адносінах з ягоным бацькам Пятром Пісарчуком... Запнуўся ды пра сяброўства з Маняй нічога не сказаў. Барыс назваў сваіх людзей у Янове, да якіх з гэтым клопатам хлопцу варта звярнуцца.

Паехаў Янка на фурманцы, разам са сваімі бацькамі. Дабраліся яны да Памажан, а там у маёнтку пана Юргенсона, дзе аселі Пісарчуковы, ужо не было месца, і ім, нябо-

гам, не пазбаўленым цярпення, мужнасці і адчаю, належала ехаць далей.

А што зробіш, калі чужына грэла болей за Бацькаўшчыну, за краіну, якую гаўляйтэр Кубэ называў імглістым геаграфічным паняццем па прычыне нізкай нацыянальнай свядомасці.

Зрэшты, гэтак — на самым пачатку, але ж нездарма, і тыя акалічнасці нейкім чынам характарызавалі нашу мосць ды пралівалі святло на змардаваную душу народа.

Маня шкадавала аб ад'ездзе сям'і Янкі з Памажан і з гэтай прычыны адчувала лёгкі сум і трывогу.

## 23

Эшалон бамбілі.

У гэтым цягніку Барыс Рамановіч ехаў з Кёнігсберга ў Менск на Другі Усебеларускі Кангрэс, які прызначаўся на 27 чэрвеня.

Савецкія бамбавозы пачалі пікіраваць на эшалон пры набліжэнні яго да Івацэвіч, а ў тым саставе былі пасажырскія і бальшыня таварных вагонаў з боепрыпасамі, людзі...

Многія спалі...

Ачнуўся Барыс перш-наперш ад рэзкага надрыўнага гудка паравоза, якім машыніст, напэўна, папярэджваў насельнікаў вагонаў аб небяспецы дый сабе смелаты паддаваў.

Амаль адначасна ў дзікай непамернай грымоце накаціліся самалёты. Яны праляцелі каля чыгуначнага палатна ўслед за цягнікам, прымушаючы дрыжаць не толькі шкліны ў вокнах, але і ўсё ўсярэдзіне чалавека. Яны заходзілі, пэўна, на другі круг, каб бамбіць.

Усе, хто бавіў ноч у вагоне, паўскоквалі са сваіх месцаў, замітусіліся ў трывозе, у разгубленасці, чуліся асобныя воклічы:

— Майн Гот!.. Шайзэ!.. Аллес капут...

Пасажыры пачувалі сябе, як у адмысловай пастцы на колах, якую прэ ў апраметную.

Большасць пасажыраў, пераважна ваенных, прыліпла да вокнаў, каб бачыць, што робіцца.

Высока ў небе, у промнях ранішняга сонца, адліваючы белым металам, кружыла звяно савецкіх знішчальнікаў; і, пэўна, таму бамбавозы пад іх прыкрыццём дзейнічалі спакойна і ўпэўнена. Яны разгарнуліся і зноў пайшлі на

цягнік, зноў заскрыгатала ў паветры. Цягнік, пускаючы пару ў свісток, імчаўся і роў як недарэзаны бык. Урэшце цямячы, што не вылузнецца, ён пачаў прытармажваць.

Цяжка вухнула ад разрыва бомбы, раз і другі, цягнік ускаланула так, што Барыс ледзьве ўтрымаўся за поручні. Ён прыліп да іх. Мускулы і сухажыллі напяліся, камянеючы. Яшчэ дзве бомбы, скінутыя другім бамбавозам, рванууўшы, перакулілі ўсялякае чалавечае ўяўленне аб верху і нізе, кропках апоры і асабістай бяспецы. Усё закружылася ў бесперапынным, здавалася, гуле, надсадным, пранізлівым, у грымотах ды грукаце, у трэску ды скрыгаце — алярм, алярм!.. Вагон, у якім ехаў Барыс, страсянула, камячачы, прыўзняло, пахістала і кінула, бадай, плашмя. Што было змогі ён трымаўся, каб змякчыць удар, толькі ж чыёсьці мяккае і цяжкое, бы мех з гарохам, цела навалілася на яго, адарвала ад поручняў... Барыс моцна выцяўся галавой аб нейкі цвёрды прадмет або выступ у абшыўцы вагона. Момант ён ляжаў нерухома, слухаючы аглушальныя ўзрывы снарадаў. Ён знаходзіў адно, што яго душа ў пятках сядзіць, і радаваўся, што пакуль яшчэ чуе боль і можа ўсведамляць сабе гэта.

Аднак варта было яму пераканацца ў сваёй жыццяздольнасці, як прыйшло ўсведамленне таго, што мяшок з гарохам на ім — нежывое цела афіцэра Хельмута Бокля, з якім яны ехалі ў гэтым купэ.

Барыс адкрыў вочы, якія трымаў чамусьці заплюшчанымі, магчыма, ад страху і болю, — у разбітае акно зверху глядзела высокае неба, блакітнае, падсмужанае чырванню. Больш не чуваць было блізкіх выбухаў, затое не спыняўся нябесны больш тонкі, чым у бамбавозаў, гул і аднекуль зводдаль страчылі кулямёты, няйначай, завязаўся паветраны бой. Стагналі параненыя...

Пераадольваючы востры боль, Барыс паспрабаваў ссунуць з сябе акрываўленае цела Хельмута і ўстаць на ногі. Пры кожным руху скрыпела бітае шкло.

Калі ён узгробся і, знайшоўшы выступ у скрынцы вагона, стаў нагой на яго — галава аказалася на ўзроўні вакна. Карціна, якую ўбачыў ён, уразіла з новай сілай. Разбітыя і параскіданыя вагоны... Разбітае чыгуначнае палатно. Адно толькі ў ягонай пазіцыі не відно было паравоза.

У небе гуло. Нямецкія лёгкакрылыя знішчальнікі, мусіць, узняліся ў паветра, каб абараніць станцыю ад налёту савецкіх бамбардзіроўшчыкаў. Але ж тыя, што прык-

рывалі свае бамбавозы, са спрытам маланкі абрынуліся ўніз. Нямецкім знішчальнікам, трымаючым у прыцэле савецкія бамбавозы, не хапіла, можа, нейкай долі хвіліны, каб развярнуцца і выйсці з-пад удару. Таму адзін з іх задыміў і коса пайшоў да зямлі, а астатнія два палічылі за лепшае не рызыкаваць і, памяняўшы курс, растварыліся ў небе.

У Івацэвічы Барыс трапіў апоўдні. Ад таго ранішняга надарэння ў яго на галаве, акурат над вухам, застаўся гузак з запечанай у валасах крывёю, балела спіна. Толькі ж ён пачуваў сябе ў цэлым нядрэнна і нават меў гаркава-прыўзняты настрой як чалавек, які меў шчасце прайсці праз жывы або, дакладней, мяртвячы агонь. А галоўнае — застацца жывым. Бо той ці іншы асколак мог цюкнуць не Боклю ў скронь, а яму, і тады памінай, Барыска, як звалі.

Ад служачых станцыі ён даведаўся, што ў гэтую ноч у другім кутку Беларусі, на перагоне Паставы—Варапаева акаўцы — прадстаўнікі Арміі Краёвай — узарвалі цягнік з аддзелам Беларускай Краёвай Абароны, які ішоў на Менск для ўдзелу ў нейкім Кангрэсе, і быў бой. У чыгуначнікаў — свая сувязь... Ад іх Барыс пачуў таксама, што ў ноч на 20 чэрвеня па ўсёй Беларусі партызаны правялі акцыю «Рэйкавая вайна». Яна задала нямецкім акупантам шмат клопатаў, бо многія цягнікі перасталі хадзіць. Але ні служачыя станцыі, ні, тым больш, Барыс не ведалі сапраўднай карціны страт, якія былі значнымі, як што лясныя воі адразу ўзарвалі сорак тысяч рэек, чым парушылі перавозкі праціўніка і работу аператыўнага тылу. У Беларусі на гэты час дзейнічала 150 партызанскіх брыгад і каля паўсотні асобных атрадаў, і яны, пры зброі і ў прадчуванні хуткай перамогі, уяўлялі рэальную сілу.

Барыс прыгадваў, што якраз 20 чэрвеня, калі тут рвалі рэйкі, ён на пасяджэнні Кёнігсбергскага аддзялення Беларускай Народнай Самапомачы абмяркоўваў з сябрамі тэкст складзенай ім прывітальнай тэлеграмы Другому Усебеларускаму Кангрэсу. Тэлеграму вырашылі паслаць загадзя, паколькі не было пэўнасці, што вылучаныя імі чатыры дэлегаты патрапяць на гэты кангрэс. Адправілі яе 22 чэрвеня, у гадавіну вайны з СССР, а на наступны дзень нямецкае радыё перадала вестку аб наступленні Чырвонай Арміі на розных участках фронта. Такім чынам, у адзіны ланцуг цяпер спалучаліся і рэйкавая вайна, і контрнаступленне пасля той акцыі партызанаў, і бамбардзіроўка эшалона пад Івацэвічамі...

Надвечар Барысу ўдалося сесці на зборны састаў, які ішоў з Івацэвіч на Менск. Ужо ўладкаваўшыся ў абшарпаным плацкартным вагоне, ён думаў пра нарастанне моцы савецкай арміі і пра тое цяпер сумніўнае для яго процістаянне, якое, бадай, штучна хацелі наладзіць бальшавікам кіраўнікі Беларускай Цэнтральнай Рады, ачоленай прафесарам Радаславам Астроўскім. У тэрміновым парадку тут стваралі батальёны Беларускай Краёвай Абароны як нацыянальнае войска. Барысу прыгадваліся словы суседа-мотальца Фёдара Малыцькі: «Супраць нас усё адно чырвоныя панцыры ды кацюшы папруць». Так... Папруць танкі і самалёты. А 20 тысяч вінтовак, абяцаных у Берліне, немцы надта марудліва перадавалі. Дый што яны, тыя вінтоўкі, значаць?..

«Дармо... Батальёны Беларускай Краёвай Абароны, мусіць-такі, патрэбны, — дапускаў Барыс, — для пэўных палітычных мэтаў... Як і сам Кангрэс. Іначай навошта было б беларусам яго склікаць?»

Ён правёў у цягніку на Менск рэшту дня і ноч. Дарога на гэты раз была больш спакойная, удалося трохі паспаць. Пасля ашаламляльна трывожнай нагрузкі на нервовую сістэму і лёгкай кантузіі ён уздрыгваў у сне. Тым не менш, зранку пачуваў сябе здавальняюча; а гэтым ранкам а восьмай гадзіне акурат і пачынаўся кангрэс. Ён праходзіў у памяшканні гарадскога драматычнага тэатра, будынак якога стаяў у засені дрэў Цэнтральнага сквера, у цэнтры горада, панылага і страшнага ад разбурэнняў.

Распытаўшы ў мясцовых жыхароў дарогу туды, Барыс Рамановіч пайшоў па Камендацкай вуліцы, злёгку прыспешваючы сябе, бо, мяркуючы па часе, кангрэс ужо пачаўся.

...Глыбокая чашападобная зала тэатра са шматлікімі ложамі і белай падковай балкона была запоўнена роем людзей, пераважна мужчын у строгіх касцюмах, пад гальштукамі, і жанчын у больш кідкіх уборах — нярэдка лёгкіх яркіх сукенках ды белых блузках, аздобленых беларускім нацыянальным арнаментам.

Сціпла, проста, хораша была ўбрана і сцэна тэатра. Састаўленыя адзін да аднаго сталы, за якімі сядзеў прэзідыум Кангрэсу, пакрылі белым палотнішчам, і яно спадала долу са сталоў. Задні фон аздабляўся шырокай заслонай, якая імітавала звісаючыя зверху ўніз беларускія арнаментаваныя ручнікі. Белым матэрыялам у рэльефныя вер-

тыкальныя складкі абшылі трыбуну. Трыбуна мела невялікі пярэдні выступ, і па ім сцякала адметная чырвоная паласа.

У зале панаваў урачысты настрой; ім поўнілася нават цішыня, у якой чынны люд слухаў прамоўцу. Гэты настрой нейкім чынам ахапіў і Барыса; праўда, не знайшоўшы сабе месца ў партэры, паломнік з Кёнігсберга пэўны час бавіўся ў праходзе ля дзвярэй у купцы іншых прыпозненых дэлегатаў. У нейкі момант Барыс краем вока заўважыў ківок — не ківок, а нават узмах рукі, і яму падалося, што нехта махнуў яму, клічучы да сябе.

Ён падаўся корпусам у той бок і ўпёрся вачыма ў пагляд чалавека, які махаў. Малады, у вайсковай форме БКА, з бел-чырвона-белымі пятліцамі і Ярылавымі крыжыкамі, як і тыя, што сядзелі з ім поплеч. Аднак гэты, хударлявы і жылаваты, бы касой пацягнуў па ім сваім вострым позіркам. Барыс сумеўся. Выйшла памылка — ніхто не клікаў яго. Магчыма, пасля рабінавых начэй у цягніку, у яго пачаліся галюцынацыі. Але ж той, вастравокі, зноў як ні ў чым не бывала, склаў рукі крыж-накрыж, прыўзняўся і пагойдаў імі ў паветры. Барыс глянуў на сцэну, куды, мусіць, пасылаў свой знак, свой жэст малады афіцэр; адтуль адказаў яму адно лёгкім нахілам галавы кашчавы, спаважны брунет у веку.

Няма што кантужаны, Барыс неўзабаве прыгледзеў свабоднае месца ў ложы на супрацьлеглым баку залы — выйшаў у гнуты падковай калідор і, паблукаўшы трохі, шчасліва патрапіў туды.

— Ці можна? — спытаў ён дазволу заняць свабоднае месца.

— Проша пану.

Ягоным суседам аказаўся нейкі службовец, лагодны, іранічна-ўсмешлівы і бяскрыўдны з выгляду чалавек гадоў сарака. На ім хораша ляжаў цывільны цёмна-шэры касцюм.

— Сяргей, — назваўся ён, — дапытліва гледзячы ў твар незнаёмцу.

— Барыс...

— Адкуль?

— З Кёнігсберга.

— Ого!.. Адзін?

— Некалькі нас, але мы ехалі розна.

— На трыбуне — Кіпель, — паведаміў ён. — Паслухаем...

Зала стала аціхлай, як вымерла. З уступным словам выступаў гаспадар Яўхім Кіпель, камлюкаваты, лабасты, з адзнакамі мужнасці на твары чалавек, абраны дэлегатамі прэзідэнтам Кангрэсу.

— *Браты-дэлегаты!* — *пачаў ён.* — *Я вельмі дзякую вам за той гонар, які вы мне зрабілі, але адначасна мушу зазначыць, што гісторыя на ўсіх нас усклала ганаровыя і вельмі цяжкія задачы. На ўсім свеце ідзе вайна, вырашаецца лёс народаў на доўгія гады. Беларусь цяпер не можа заставацца бяздзейнай.*

*Ад нашага імя дазваляюць сабе гаварыць крамлёўскія заправілы, яны там вызначаюць апекуноў, якія ўжо рыхтуюць шыбеніцы нашаму народу. На нашы землі прэтэндуюць польскія паны. І вось таму ў гэты час мы павінны голасна сказаць усяму свету, хто мы і чаго мы хочам?*

Зала ўзарвалася бурнымі воплескамі. Многія дэлегаты асабіста ведалі Кіпеля. Лёсам сваім ён як бы ўвасабляў тое характарнае, што меў і насіў у душы кожны з іх, найбольш адметных прадстаўнікоў народа. У перапынак, дарэчы, і Барыс больш дазнаецца пра Кіпеля. Ён, краязнаўца, біяхімік, разгортваў сваю шматгранную дзейнасць у БССР: настаўнічаў у Менску, рабіў дацэнтам Белдзяржуніверсітэта, быў навуковым супрацоўнікам Беларускай акадэміі навук і супрацоўнікам літаратурнага часопіса «Полымя», напісаў падручнікі, друкаваў навуковыя працы, арганізаваў патрыятычна-асветніцкі «Клуб беларускай моладзі» і прыкладна такую ж па духу «Беларускую Хатку». У ліку іншых прымаў удзел у заснаванні Беларускага краязнаўчага аб'яднання «Пазнай свой край», браў удзел у працы тэрміналагічнай камісіі пры акадэміі навук. Палітыкай не займаўся, але і без яе хапіла, каб у 1930 годзе яго як «нацдэма» выдалілі ў ссылку ў Нолінск на пяць гадоў. Па адбыцці ссылкі арыштавалі зноў і ўпяклі на пяць гадоў у Байкала-Амурскі канцэнтрацыйны лагер. А як адбыў паняволенне, яму не дазволілі жыць ні ў Беларусі, ні наогул у буйных гарадах. Толькі вайна адкрыла яму шлях на радзіму, дзе ён уздыхнуў з палёгкай. Прыкладна такія ж нягоды і турэмны здзек, прыгадваў Барыс, перажыў за Польшчай і Юрый Сабалеўскі, цяпер кіраўнік беларускай адміністрацыі ў Баранавічах.

А Яўхім Кіпель далей ладаваў працу аддзела навукі ў Беларускай Цэнтральнай Радзе, створанай прафесарам Астроўскім.

*— Браты-дэлегаты! Першы раз за апошнія стагоддзі беларускі народ меў магчымасць вольна сабрацца тут, у Менску, у гэтых жа мурах драматычнага тэатра, дваццаць шэсць гадоў таму.*

*Гэта быў Першы Усебеларускі Кангрэс. Ён выбраў Раду Кангрэса, якая ў 1918 годзе 25 сакавіка вынесла свае агністыя пастановы аб лёсе Беларусі і беларускага народа. Не спадабаліся тыя пастановы ды захады да суверэнітэту бальшавікам, яны разагналі Першы Кангрэс і на працягу чвэрткі стагоддзя аблівалі яго статутныя граматы не толькі памыямі і граззю, а нават крывёю лепшых сыноў нашага народа.*

*У часе свайго панавання на Беларусі бальшавікі таксама склікалі своеасаблівыя ўсебеларускія з'езды... На першых бальшавіцкіх з'ездах, між тым, было адсоткаў шэсцьдзесят небеларусаў, там былі расейцы, жыды і палякі, а яны ўсе разам не складаюць і пятнаццаці працэнтаў насельніцтва Беларусі. Ужо па гэтым адным тыя з'езды не могуць уважацца за народнае прадстаўніцтва.*

*Апрача таго, бальшавіцкія з'езды займаліся не развязваннем нацыянальных пытанняў, а служылі шырмаю для знішчэння ўсяго самабытнага. Бальшавікі народнае прадстаўніцтва зусім не прымалі пад увагу і ніколі не ставілі прынцыповых пытанняў на з'ездах.*

*Аднак, нагадаўшы аб Першым Усебеларускім Кангрэсе,* — доўжыў спадар Кіпель, — *нам належыць успомніць і тых, хто склікаў той Кангрэс. Гэта былі шчырыя сыны нашай Бацькаўшчыны, да іх належаць: Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі, Рак-Міхайлоўскі, Раман Скірмунт, Іван Серада, Вацлаў Іваноўскі, Язэп Сушынскі, Браніслаў Тарашкевіч і шмат, і шмат іншых. Іх ужо зараз няма сярод жывых, іх бальшавікі або замучылі ў турмах, на катарзе, або забілі з-за вугла. Я прапаную, — сказаў старшыня Кангрэса, — ушанаваць іхнюю памяць і памяць усіх тых, хто загінуў за Бацькаўшчыну, уставаннем і хвілінай маўчання.*

Цішыня скончылася і, апускаючыся зноў у крэсла, Барыс выразна ўздыхнуў, але ж гэта было не столькі водгулле стомы, не — пры пераліку прозвішчаў раптам адчуў: не ўся праўда гаворыцца Кіпелем. Больш за тое, і гава-

рыць яе на гэтым кангрэсе не выпадае. Калі б можна было, то гаспадар Кіпель сярод прозвішчаў шматлікіх ахвяраў адным з першых, пэўна, назваў бы і ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, замардаванага гітлераўцамі акурат за палымяную дзейнасць, за прагу да адраджэння беларускай дзяржаўнасці.

— Што гэтак скрушліва? — спытаў пра ўздых Барысаў сусед, пакуль старшыня Кангрэса Кіпель закругляў сваё ўступнае слова і масціў шлях другому прамоўцу.

— Гм... Тое-сёе прыйшло на ўспамін, — адказаў ён. — Гадлеўскі на пачатку вайны так шчыра, заўзята рассцілаўся перад немцамі, выступаючы з прамовамі па радыё, называў іх вызваліцелямі... Яны ж яго і забілі. І калі сёння ў гэтай зале не асмеліліся памянуць добрым словам Гадлеўскага, то ягоная трагедыя — сімвал нашай агульнай трагедыі.

— Так... Аднак гэты сімвал навіс над нашай калыскаю, яшчэ калі нас не было. Заўжды вісеў і вісіць.

Сяргей, чулася, быў разняволены ў думках, умеў падтрымаць гутарку і, вядома ж, не менш за любога тут валодаў сітуацыяй, асэнсаваннем яе, таму Барысу было цікава перакінуцца з ім словам, другім...

Ён спытаў:

— Адкуль жа ты, Сяргей, будзеш?

— З-пад кур, сын петуховы, — усміхнуўся той, ды гэтак, быццам падарыў Барысу вычарпальны адказ. — А ўвогуле я з тутэйшых і працую ў беларускай адміністрацыі. Прозвішча маё Розмысл. Я афіцэр штаба.

— Дзякуй, я то і чую, што ты дасведчаны чалавек. Зрэшты, мабыць, мы з табой аднагодкі...

У гэты момант, аднак, абвясцілі даклад старшыні БЦР Радаслава Астроўскага, і на трыбуну выйшаў якраз той кашчавы брунет, які адказваў згодным кіўком галавы на няпэўны жэст з залы маладога вайскоўца. Дэлегаты Кангрэсу сустрэлі брунета воплескамі.

Барыс Рамановіч пэўны час не мог засяродзіцца на дакладзе і сядзеў пад уражаннем новага знаёмства і пакуль незавершанай гутаркі з Розмыслам. «Васцёр на язык», — падумалася. Пры гэтым Барысу прыгадаўся ягоны брат нябожчык Паўлюк. Бадай, у іх шмат агульнага ў характары, у імкненні падцяць думкай думку, паспаборнічаць у дасціпнасці. І тыя ж ямачкі па краях вуснаў, а ў позірку вясёлы бляск, жывы, прыязны. У гэтага яшчэ, праўда, пучкі

тонкіх зморшчынак каля вачэй, тонкі, іранічна завостраны нос ды адпаведна яму тонкія храшчыкі вушэй, трохі натапыраных... Увогуле ў Розмысла твар больш інтэлігентны, постаць, праўда, драбнейшая, і таму знешне ў іх з Паўлюком мала таго падабенства.

Далей болей Рамановіч паціху ўслухоўваўся ў новы тэмбр голасу, які даносіўся з трыбуны:

— *Права на жыццё, дадзенае чалавеку Богам, не павінна адбірацца ніякім гвалтам, ніякаю брутальнаю сілаю.*

«Але ж», — пагадзіўся Барыс. Пра гэта, між іншым, неаднойчы пераканаўча даводзіў у спрэчках і Пятро Пісарчук, ягоны бацька...

— *Можна пры помачы фізічнае сілы чыніць гвалт і несправядлівасць, можна пэўны час здзекавацца і крыўдзіць нявінных, але рана ці позна праўда перамагае і справядлівасць запаноўвае ўсеўладна.*

Паважаны прамоўца, як і ягоны папярэднік спадар Кіпель, рабіў гістарычны экскурс. Цяпер ён абмалёўваў становішча беларусаў пасля Першага Усебеларускага Кангрэсу:

— *Больш ганебнага і брутальнага акту ў адносінах да беларускага народа, як Рыжскі трактат, прыняты нашымі ворагамі ў 1920 годзе, не знае культурны свет. Жывое цела Беларусі было літаральна разрэзана крывавую мяжою. І чвэртку веку народны арганізм слабеў, гібеў, а ў дадатак да зробленага, яму наносіліся яшчэ не менш цяжкія крывавыя раны, з аднаго боку і з другога боку. Ліквідацыя Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады на захадзе ды крывавая расправа з так званай нацдэмаўшчынай на ўсходзе амаль дашчэнту пазбавілі наш народ сілы. Ён паволі канаў...*

*Здавалася, што ўжо няма ніякага ратунку,* — даводзіў старшыня Рады Астроўскі. — *Але вось у некалькі дзён лопнулі ліхія польскія і расейска-бальшавіцкія абручы, лопнулі дасюль здавалася непераможныя сілы, і народ крыху падужэў, раны пачалі загойвацца, ён становіцца на ногі.* (Бурныя воплескі.) *Выздараўленне працякала, праўда, пры неспрыяльных абставінах. Навокал было полымя ваеннага пажару, трашчалі кулямёты і білі гарматы. Акрыяў народ не столькі целам, колькі духам. Сілы варочаліся памалу. Пачалася адбудова знішчанага краю. Дасягненні даволі значныя. Бачачы, што можна жыць не горш, чым пры былых гаспадарах, людзі добраахвотна*

*пачалі брацца за зброю, каб дзейна змагацца за вызваленне Беларусі ад сталінскіх бандытаў і партызан, абдураных камуністычнаю прапагандаю. Акцыя барацьбы з рабаваннем настолькі пашыралася, што паўстала неабходнасць канцэнтрацыі ўсіх разрозненых сілаў, якія жадаюць змагацца за Бацькаўшчыну.*

*Утварэнне Беларускай Цэнтральнай Рады на базе Камітэта Даверу з улікам вопыту Беларускай Народнай Самапомачы,* — даводзіў Радаслаў Астроўскі, — *адбылося 24 снежня 1943 года, у той момант, калі амаль уся тэрыторыя Беларусі была апанавана бандамі рознага колеру, якія білі ды рабавалі наш народ, палілі сёлы і вёскі, паралізавалі эканамічнае і грамадскае жыццё. Заходзіла патрэба паклікаць усё насельніцтва да змагання супраць ворагаў, і дзеля гэтага 10 сакавіка я выдаў загад аб пакліканні пэўнай колькасці гадавікоў у Беларускую Краёвую Абарону.*

— Перапрашаю, — паўшэптам дасведчаны сусед звярнуўся да Барыса: — Калі апруселы пан не супраць, прапаную выйсці пакурыць. А пра збройныя сілы я не горш за дакладчыка раскажу.

## 24

Барыс не курыў, а калі надаралася, толькі за кампанію паліў цыгарэту. Тым не менш, ён ахвотна выйшаў разам з Розмыслам у калідор. Прайшлі ў буфет, дзе пілі каву і яшчэ бліжэй пазнаёміліся.

— Па-першае, табе як арыйцу з балцкіх далёкіх берагоў, — з падначкай даводзіў Барысу яго новы прыяцель, — адкрыта скажу: нішто тут у нас не рабілася і не робіцца без блаславення Міністэрства ўсходніх абшараў, карацей — ОМі, і ўвогуле нямецкіх улад. Таму перш, чым нашаму пану Астроўскаму дазволілі падпісаць загад аб утварэнні Беларускай Краёвай Абароны, загад падпісаў гаўляйтар Готберг, які, у адрозненне ад нябожчыка Кубэ больш строга, ды проста па-сабачы адсочвае інтарэсы Трэцяга рэйха. І, вядома ж, Готберг падпісаў загад пасля дазволу, атрыманага з Берліна.

Але ж сказанае мной не азначае, — доўжыў Розмысл, — што мы прывязаны кароткай вяроўчынай да Готберга і не маем ні думак сваіх, ні памкненняў. Ты, браце, прыгадаў Гадлеўскага, і я запаважаў цябе з гэтага моманту. Сапраўды, гэта высокіх патрыятычных памкненняў, адчайны

і трагічны таварыш. Толькі ж ці ведаеш ты наступнае? Пераканаўшыся ў абмане з боку фашыстаў, Гадлеўскі ў сорак другім годзе актывізаваў падпольную дзейнасць створанай ім жа раней Беларускай незалежніцкай партыі — БНП. Службы СД панюхалі тое-сёе і інкрымінавалі яму халодны да немцаў настрой. Але ж, паміраючы, ксёндз Гадлеўскі нікога не выдаў. Царства яму нябеснае!

— Я за гонар лічу сядзець тут і слухаць афіцэра зброй-ных сіл Беларусі, — у тон Сяргею Розмыслу сказаў Барыс Рамановіч, адпіваючы каву з кубка. — Калі ласка, шаноў-ны, працягвай, мне вельмі цікава.

— У палітычных гульнях бывае: тыя, хто зверху, ба-чаць лішніх людзей. Дык вось, СД і СС паказаўся лішнім ксёндз Гадлеўскі. Дзіўна, але ў ім чамусьці не меў патрэ-бы і спадар Ермачэнка, былы кіраўнік беларускай адміні-страцыі. Той, мусіць, улавіў адчужэнне Гадлеўскага да нем-цаў, што не ў нос было... Ермачэнка не выспеў для неза-лежнай палітыкі і баяўся яе.

— А неўзабаве для СД і СС, — апавядаў з уласцівым яму дасціпам Сяргей Розмысл, — аказаўся лішнім свой жа, арыец, вярхоўны правіцель Беларусі — гаўляйтар Кубэ, ён замінаў ім праводзіць чыста фашыстоўскую вынішчальную палітыку. І яго неўзабаве прыбралі. Яны ж... Рукамі, так бы мовіць, савецкіх падпольшчыц.

— Што вы кажаце?

Цішыню штосьці парушыла, як бы аддалены гром...

— Чуеш? — кіўнуў Розмысл за вакно. — Кананада гарматаў чуваць. Фронт блізка...

— А я тут ужо як бы абстрэляны верабей, — памацаў Барыс шнар на галаве. — Пабываў пад бамбёжкай...

Розмысл уздыхнуў, але ж у вачах не згаслі жывая цеплыня і мудрая дасведчанасць:

— Дык вось... Лішнім аказаўся і прафесар Вацлаў Іваноўскі, бурмістр горада Менска. Мала, што бурмістр, дык ён яшчэ ўзначальваў і Камітэт Даверу, быў акурат за бацьку для беларускай адміністрацыі. Інертнасць ці што не падабаліся Готбергу... А да ўсяго, Камітэт Даверу і асабіста спадар Іваноўскі заміналі прафесару Астроўскаму. Астроўскі раней быў выціснуты з Менска і да восені мінулага года ладаваў беларускія справы ў прыфрантавым Смаленску. Толькі ў кастрычніку перабраўся ў Баранавічы. Дарэчы, разам з нямецкім генералітэтам цэнтральнага адрэзка фронта... Астроўскі прадставіў гаўляйтэру Гот-

бергу праграму стварэння беларускага самакіравання — БЦР. Готбергу імпэт Астроўскага, пэўна, быў больш па душы, чым кансерватыўная абачлівасць кіраўніка Камітэта Даверу Іваноўскага. Камітэт прапаноўвалася рэфармаваць у пастаянна дзеючую раду. І абодвум — беларусу і немцу — цяпер замінаў гэты шэльма прафесар Іваноўскі. Лішні чалавек на шахматнай дошцы... І яго прыбралі. Ля-ля, — Сяргей Розмысл пастукаў костачкамі пальцаў па стале: — Гэта між намі, Барыс?

— Пэўна!

— Радаслаў Астроўскі — энергічны, кемлівы, рашучы і хітры чалавек. Удзельнік першага Кангрэсу... І тут на маіх вачах пачалася яго бурная дзейнасць — барацьба, якую ён павёў на два, а мо і на тры бакі. З пачатку гэтага года, напрыклад, Астроўскі распачаў небывалую, скажу больш, ашаламляльную прапаганду сярод беларускага насельніцтва. Гаворка ішла пра дасягненні ў галіне гаспадарання, сацыяльнага забеспячэння, пра развіццё адукацыі і культуры на акупаваных немцамі абшарах. Як палітычная дамінанта і залог далейшых поспехаў малюецца дзейнасць краёвага органа ўлады — БЦР. Пры гэтым раскрываюцца здольныя захапіць нацыянальна-адраджэнцкія перспектывы. Рабіўся настойлівы зварот да савецкіх партызанаў вяртацца з лесу дадому. Усё гэта рабіла ўплыў на людзей і не пакідала абыякавым пана Готберга. У супрацьлегласць сваім ранейшым меркаванням ён пачаў называць беларускі народ фанатычным ворагам бальшавізму, хоць гэта, мабыць, і не зусім дакладна, калі ўзяць увогуле... Багата людзей «непахісных»: ні туды, ні сюды! Іх зразумець не цяжка.

Готберг прадставіў у ОМі праект стварэння на Беларусі ў бліжэйшыя месяцы антыпартызанскага фарміравання Kampfgruppe von Gottberg, і таму Беларуская Краёвая Абарона акурат адпавядала ягонай задуме.

І вось Радаслаў, пасля прапагандысцкай кампаніі, абвяшчае ад імя БЦР мабілізацыю і збірае адразу не 10 тысяч патрэбных Готбергу стральцоў, а 40 тысяч, у асноўным добраахвотнікаў. Гітлераўская ваяўнічая імперыя гэтым фактам моцна была ўражана. А ў Радаслава сваё ў галаве...

— Мы збіралі добраахвотнікаў на Піншчыне, — падаў Барыс. — Праўда, там гэткіх было мала.

— Лагічна... Піншчына пакуль не ўваходзіць у Генеральную беларускую акругу. На Піншчыне афіцыйна не праводзілася мабілізацыя дый прапаганды тае не было.

— Ну — так, сапраўды... Але ж у вас не мабілізацыя — легенда!

— Гм... Я не кажу пра цяжкасці. А яны — і ў матэрыяльным забеспячэнні і забеспячэнні зброяй, мы ж на пайцы, на ласкавым хлебе ў немцаў... На шэсць-сем ваяроў прыпадае адна вінтоўка!

У барацьбе з партызанамі, праўда, Краёвая Абарона амаль не праявіла сябе. Не апраўдаліся спадзяванні Готберга. Затое... затое, — Сяргей зноў пабарабаніў пальцамі, памаўчаў, глянуў па баках, ці няма надта цікаўных людзей за суседнімі столікамі, і перавёў позірк на гадзіннік: — Пойдзем... У калідоры табе дaскажу. Чуеш?.. Створаная Вінцэнтам Гадлеўскім Беларуская незалежніцкая партыя павінна была якраз у гэты дзень Кангрэсу, сёння...

Паўза... Яны стаялі ў калідоры адзін супраць аднаго і дапытліва глядзелі ў твар, Розмысл — Барысу, Барыс — Сяргею Розмыслу...

— Братка, павер, але калі пачуеш, — забудзь, як што вайна яшчэ не скончылася... На сённяшні дзень было запланавана паўстанне ў Менску супраць немцаў.

— Што я чую, Сяргей?! — Рамановіч як не аслупянеў ад той навіны.

— Дакладна... Падрыхтоўка вялася да апошняга моманту. Спачатку Радаслаў, праўда, адгаворваў Родзьку і ягоных паплечнікаў па БНП ад гэтай задумы. Толькі, пераканаўшыся ў іхняй рашучасці, пагадзіўся... Паўстанне павінны былі ўзняць батальёны Беларускай Краёвай Абароны, баёўкі БНП з рэгіёнаў, а да іх — паводле іхняй задумы — далучылася б беларуская паліцыя, а потым — не выключана — і партызаны. Толькі да адкрыцця Кангрэсу нам не ўдалося сцягнуць свае сілы. У Наваградку, напрыклад, эскадрону Барыса Рагулі немцы адмовілі ў транспарце. А пры выездзе на Менск аддзела Віктара Сікоры з Пастаў, палякі з Арміі Краёвай падарвалі цягнік. Пасля бою група вымушана была вярнуцца назад.

— Я чуў пра гэта ад чыгуначнікаў, — падаў Барыс.

— Тое ж і ў іншых... Адзін за адным выяўляліся неспрыяльныя фактары. А тут і блізкі фронт, і варожасць палякаў. Таму Кангрэс пачынаўся, а канчатковага рашэн-

ня аб паўстанні яшчэ не было. Такі быў момант! Ты, можа, заўважыў рух у зале, у кутку, дзе сядзелі вайскоўцы?

— Так... Там адзін з іх, склаўшы рукі крыжам, уздымаў іх угору.

— Бачыш... То і быў Усевалад Родзька. Малады, упраўны... 15-м батальёнам камандуе. Галава партыі незалежнікаў... Пасля бурных дэбатаў у ЦК БНП ён падаў знак аб адмене паўстання. Я сам, дагэтуль сядзеў, як на іголках. І многія ў зале... А калі б не адмянілі — знакам «X» стала б імітацыя выбуху каля сцэны. Другі Усебеларускі Кангрэс, у выпадку ўдачы з паўстаннем, абвясціў бы факт існавання Беларускай Народнай Рэспублікі! На жаль, канчатковай мэце Кангрэсу, як і ўсёй шматгадовай дзейнасці барацьбітоў беларусаў, не наканавана было збыцца.

— А — чаму? Зрэшты, Сяргей, прабач за нясціпласць...

— Ды сакрэта няма: я ж сказаў, імклівае контрнаступленне савецкіх войскаў сарвала нашы планы. Мы не паспелі б разгарнуць свае сілы. Дальбог... Таму і задачы Кангрэсу звужаны: палітычна прадэкляраваць тое, што мы ёсць беларусы.

Барыс падаў Розмыслу руку:

— Сяргей, дзякуй за тое, што ты мне адкрыў. Да канца дзён сваіх памятаць буду!

І яны зноў пайшлі туды, дзе сядзелі.

А з трыбуны ўсё яшчэ прамаўляў Радаслаў Астроўскі. Яго даклад, напэўна, блізіўся да канца і размова ішла пра дасягнутае і пра наспелае ў галіне адукацыі і культуры:

*— З рэарганізацыяй школьніцтва выплыла патрэба перагляду і нават стварэння новых праграмаў і падручнікаў, моцна папсутых бальшавікамі...*

*— У будучым школьным годзе рэарганізуюцца прафесійныя школы і адчыняюцца новыя, у тым ліку — Інжынерна-металургічны інстытут, Юрыдычна-адміністрацыйная акадэмія, Ветэрынарны інстытут і гуманістычны факультэт у Педагагічным інстытуце.*

Барыс няўцямна паглядзеў на Розмысла: «Як? Якім чынам?.. Адкуль такая ўпэўненасць наконт наступнага года, калі ў дзверы грукае фронт?!» — усё гэта можна было прачытаць у ягоным доўгім і неспакойным паглядзе. Сяргей зразумеў, што збянтэжыла «арыйца з балтаў», і адказаў яму на вуха:

— Даклад падрыхтаваны ў разліку на паўстанне, а значыць і больш працяглае ўтрыманне ўлады, а зыходзіць са

статус-кво. Цяпер гэта і дэкларацыя і шырма — разам, як мае быць... Фэрштэйн?..

Барыс кіўнуў. Але ж не праходзіла адчуванне, што яго разыгрываюць. Апроч таго, пасля кавы на дваіх мазгі свідравала думка: а што было б, які лёс спасціг бы нацыянальны рух і народ Беларусі, калі б удалося ўзняць паўстанне супраць гітлераўцаў?

Пры ўсё той жа няпэўнасці гонар і трывога разам палягалі ў ягонай душы — за людзей, якія бавілі час у жыццёвым, так бы мовіць, тэатры. Разам з тым ён яскрава ўсведамляў сабе, што на якія б рашучыя і рызыкоўныя крокі нацыяналісты ні пайшлі, іх шлях заўжды будзе і ягоным шляхам. Іншага яму проста не дадзена.

— *Асобнае месца ў працы Беларускае Самапомачы,* — казаў тым часам Радаслаў Астроўскі, — *займала дапамога Беларускаму медычнаму інстытуту ў Нова-Вілейцы. Усяго выдзелена дапамогі (з 1 снежня 1943 года па 20 чэрвеня 1944 года) на суму 470760 рублёў, у тым ліку на выплаты стыпендыяў — 144900 рублёў і на дапамогу абуткам 185100 рублёў.*

— *За справаздачны перыяд аднаўлена праца Менскага драматычнага тэатра, ідзе падрыхтоўка да адчынення акруговых прафесійных тэатраў у Баранавічах, Навагрудку і Слуцку. Адчынены народныя бібліятэкі ў Менску і іншых гарадах Беларусі. Зладжаны чатыры выстаўкі беларускіх мастакоў.*

— *Беларускімі кампазітарамі напісана і ўлучана ў рэпертуар звыш 60 музычных твораў, сярод іх балет А. Туранкова «У лясным гушчары». Працягваюць або завяршаюць працу: кампазітар М. Шчаглоў над беларускай аперэтай «З выраю» на лібрэта Н. Арсенневай, кампазітар М. Равенскі — над аперэтай «Залёты» на лібрэта Дуніна-Марцінкевіча, кампазітар М. Іваноў — над дзіцячай операй «Мухамор»; піша сімфанічную паэму М. Самохін, здадзены ў друк «Зборнік дзіцячых беларускіх песняў і гульняў», «Зборнік патрыятычных беларускіх песняў» і г. д.*

— *Беларускімі паэтамі і пісьменнікамі,* — інфармаваў дакладчык, — *напісана шмат новых апавяданняў, навэлаў, паэмаў і вершаў. Зроблена шмат перакладаў твораў сусветных мастакоў слова. Выдадзены зборнікі вершаў Наталлі Арсенневай — «Сягоння», Тодара Лебяды — «Песні выгнання», слуцкіх паэтаў — «Паэты Случчыны», паэма «Рагнеда» Л. Случаніна. Аднаўлена выданне*

*зачыненага бальшавікамі часопіса «Узвышша». Праз радыёстанцыі Менск і Баранавічы гучыць кожын тыдзень да паўсотні музычна-літаратурных і іншых перадачаў.*

Барысу прыгадвалася тое, што ён бачыў ў Баранавічах, калі ездзіў туды, і ў ягоным сэрцы зноў варухнулася пачуццё гонару і гордасці: як багата робяць для душы творцы, мастакі, майстры сваёй справы, няма што ў іх карткі на хлеб і нішчымніца, а дух вольны, здаровы! Творыць і жыве, жыве і творыць народ.

— *Навуковым аддзелам Беларускай Цэнтральнай Рады, дзе ладаваў працу Яўхім Кіпель, таксама выканана нямала чаго,* — дакладваў Астроўскі.

— *За ўвесь час існавання навуковы аддзел склаў 21 падручнік для сярэдніх і пачатковых школаў, беларуска-нямецкі слоўнік. Перагледжана і часткова распрацавана тэрміналёгія па хіміі, гісторыі, псіхалогіі, фізіцы і іншых дысцыплінах. Напісаны артыкулы па эканоміцы Беларусі, па нацыянальных пытаннях і філасофіі. Навуковым аддзелам арганізуецца майстэрня па вырабу прыладаў і дапаможнікаў для фізічных кабінетаў.*

Зрабіўшы высновы наконт дзеяздольнасці Рады, прафесар Астроўскі заявіў аб складанні сваіх прэзідэнцкіх паўнамоцтваў, і зала ўзарвалася воплескамі больш чым у дзве тысячы рук, чуліся воклічы: «Няхай жыве вольная і незалежная Беларусь!»

Распачыналіся запланаваныя спрэчкі па дакладзе, які ўсе ўхвалялі і пасля трох выступоўцаў — Ясюка, Дзямідава, Кіпеля — Кангрэс прыступіў да працэдуры выбараў Прэзідэнта і Рады, абраў мандатную і іншыя камісіі. Тут жа загучалі прывітанні Кангрэсу, і, зразумела, у першую чаргу быў зачытаны ліст, які меў мемарыяльна-дэкларацыйны змест і пах новаімперскім нафталінам:

*«Вітаю 2-гі Усебеларускі Кангрэс і веру, што беларускі народ рашуча, супольна з народам нямецкім будзе змагацца супраць бальшавіцкай небяспекі за вызваленне Еўропы і што ён узмоцніць і аддасць дзеля гэтае мэты ўсе свае сілы...*

*Фон Готберг, Генеральны камісар, Групэнфюрэр СС, генерал-лейтэнант».*

Зразумелым Барысу было і тое, што Кангрэс прыняў змест ліста з адказам фон Готбергу, які адпавядаў прывітанню.

— Ёсць такая пагаворка, — зазначыў Сяргей Розмысл з гэтай нагоды: «З ваўкамі жыць — па воўчы выць». Не?.. Не, не падыходзіць, паколькі нашаму Радаславу ўсё яшчэ даводзіцца хадзіць у лісавай шкуры.

Барыс засмяяўся. Яму прыгадалася пагалоска аб здрадзе Радаслава Астроўскага беларускаму руху ў канцы 20-х гадоў.

Тым часам чыталі ягоную тэлеграму:

*«Знаходзячыся на чужыне, мы пільна сочым за працай над адбудовай беларускага нацыянальнага жыцця ды барацьбой за вольнасць нашай Бацькаўшчыны. Мы ўпэўнены ў канчатковай перамозе...»*

Калі ж на сцэну для прывітання ўзнялася група Саюза беларускай моладзі і з вуснаў кіраўнікоў Міхаіла Ганько і Надзеі Абрамавай паліліся палымяныя словы, ад якіх у Барыса ажно ў душы зашчымела, Розмысл у захапленні зазначыў:

— Вось дзе наш духоўны патэнцыял! Больш масавай, жывой, энергічнай, дадам, і патрыятычнай арганізацыі ў Беларусі няма. Усе выдатна ведаюць гісторыю, карыстаюцца беларускай мовай, і нямецкай, вядома. Уласная прыгожая уніформа з эмблемамі, палітычныя заняткі, культурна-асветная дзейнасць, вайсковая выпраўка, летнія лагеры і беларускія вайсковыя маршы, якіх на Беларусі даўно ўжо ніхто не чуў, нарэшце, экскурсіі ў Германію — усё гэта, як магнітам, цягне новых сяброў у Саюз беларускай моладзі. У дакладзе Астроўскага гэта, праўда, не знайшло належнага адлюстравання. А за час утварэння і працы БЦР колькасць сяброў СБМ падвоілася і на гэты момант набліжаецца да ста тысяч.

— Вось гэта чын! — усклікнуў Барыс у прыемным здзіўленні.

— Сіла! — пагадзіўся афіцэр БКА і дадаў: — На жаль, не кожнаму знаходзіцца варты занятак. Бадай, толькі пагэтаму з тыдзень назад у Германію добраахвотна і арганізавана выехала пяць тысяч юнакоў, уяўляеш? — пяць тысяч сяброў саюза. Толькі з Глыбоцкай акругі — дзве тысячы чалавек, багата з Баранавіцкай... Паехалі вучыцца і працаваць у дапаможных службах авіякампаніі Люфтвафэ.

Го, як багата пра жыццё ў акупаванай Беларусі не ведаў Барыс! А галоўнае: для яго святам было сядзець у шырокай раскошнай зале і ўтрапёна слухаць, як усе гаво-

рацъ на беларускай мове. Свабодна і вольна. Хораша, і даткліва! Нідзе ў жыцці з гэтакім явішчам ён не сутыкаўся. А ў мове яго дзяцінства і пазнейшых мотальскіх гадоў было шмат мешаніны, як заўжды ў моўным памежжы.

І тут як бы ў абарону ягоных гордых думак пра мову і народ Беларусі павёў паглыбленую гутарку юрыст, віцэпрэзідэнт Цэнтральнай Рады Мікалай Шкялёнак; зводдаль віднелася адно яго цемя, адкрытае, голае і акуляры на носе.

З собскіх навуковых пазіцый, апелюючы да фактаў гісторыі і міжнароднага права, Шкялёнак разгледзеў расейскапольскія дагаворы і крыніцы прэтэнзій гэтых дзяржаў, урадаў Варшавы і бальшавіцкай Масквы на Беларусь. *«Галоўны аргумент, якім яны карыстаюцца ў сваіх захопніцкіх планах,* — даводзіў ён, — *бадай выказаны яшчэ маскоўскім князем Іванам III. Гэта: супольнасць веры ў беларусаў і маскалёў, або, з другога боку, — у нашых апалячаных грамадзян і палякаў... Ва ўсіх уніях, заключаных з Польшчай, мы не паступіліся незалежнасцю. А Рыжскі польска-расейскі трактат, прыняты за спіною беларусаў, не што іншае, як бандыцкая змова і толькі».*

— *Дэлегаты і дэлегаткі Кангрэса!* — падсумоўваў сказанае спадар Шкялёнак: — *Мы зрабілі гэты выбег у гісторыю дачыненняў Беларусі з Масквою і Польшчаю не дзеля таго, каб пры нагодзе супакоіць нашу цікаўнасць, як гэтыя дачыненні складваліся ў мінуўшчыне. Нашай мэтай было высветліць, што ў аснове маскоўска-польскіх прэтэнзіяў да Беларусі заўсёды ляжала толькі прага захопніцтва, а не якоесь там права, што спосаб, якім яны па чарзе няволілі Беларусь, быў гвалт...*

У працяг гэтай тэмы выступіў з рэфератам і Аўген Калубовіч, кіраўнік аддзела культуры ў Цэнтральнай Радзе, яшчэ малады, гожа вылеплены, мяркуючы па тонкіх і правільных рысах твару, адухоўлены сын Айчыны. Ён цікава даводзіў пра асаблівасці моманту, пра яго адказнасць і раскрыў карціну суверэнных, з дазволу сказаць, адносін у СССР. Раздзелы яго трактата мелі прадметныя і яскравыя загалоўкі: «БССР — маскоўская фікцыя дзяржаўнасці», «Беларусь — калонія Масквы», «Бальшавіцкія абяцанкі, а рэальнасць?», «Нішчэнне сялянства, работніцтва і інтэлігенцыі», «Разгром беларускай культуры», «Разбурэнне цэркваў і нішчэнне духавенства» ды «Вывады».

Розмысл і Рамановіч з аднолькавай увагай слухалі яго. Аднак слухаць было сумна, жахліва і крыўдна. Паўставала пытанне: з якога цемрашальнага веку гэтыя вандалы і як яны апынуліся сярод цывілізаваных народаў? У Розмысла на іх не хапала іроніі, а гумару і пагатоў:

— Агонь іх выкуры...

— *Палітыка Масквы,* — мовіў Аўген Калубовіч, — *зрабіла вялікую шкоду беларускай культуры і мастацтву. Яна абапіралася на зацемкі самога Сталіна, які на з'ездзе бальшавіцкай партыі ў 1930 годзе сказаў: для поспеху ў камуністычным поступе «трэба даць нацыянальным культурам разгарнуцца... каб стварыць умовы для зліцця іх у адну агульную культуру з адной агульнай мовай».*

*І, каб наблізіць вырашэнне гэтай бальшавіцкай задачы, у 1933 годзе спецыяльнаю пастановаю ўрада БССР быў зрэфармаваны беларускі правапіс. Развіццё нашай мовы схілялася ў бок мовы расейскае...*

Барыс узяў суседа за руку:

— У мяне самога ў маладосці былі зацемкі ў мазгах. Я так захапляўся Леніным, Сталіным... Будзённым, напрыклад. А мой бацька, наадварот, іх ненавідзеў, ён захапляўся дзёрзкасцю атамана Махно. Перад самай вайной Сталін з нейкай нагоды прысніўся яму. Ён прачнуўся ў жаху. Забаўляючыся, той хацеў падпаліць на бацьку адзенне.

— Ха-ха... Няўжо? — здзівіўся Сяргей і праз нейкі момант дадаў: — Канешне... У Крамлі да гэтай вайны не хапала вясёлых прыгод.

— *Бальшавікі,* — доўжыў Калубовіч, — *знішчылі нацыянальныя навуковыя кадры і пачалі арыштоўваць беларускіх пісьменнікаў: Дубоўку, Пушчу, Зарэцкага, Дудара, Жылку, Гарэцкага, Кляшторнага, Чарота, Мрыя, Шушкевіча — усяго каля 90 чалавек, і ўсе яны былі або расстраляны, або замучаны ў турмах, або выгнаны ў далёкі Сібір.*

*Кнігі арыштаваных і тых, што чакалі толькі на сваю чаргу, былі забароненыя да чытання і масава нішчыліся. У нашы рукі трапіў гэтак званы «Зводны кантрольны спіс выданняў Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, якія спісаны ў макулатуру». У гэтым сакрэтным дакуменце, датаваным 1935 годам, 125 старонак друкаванага тэксту. Там пералічаны 1778 назоваў кніг і часопісаў, агульным накладам кругла ў 12 мільёнаў асобнікаў, якія падлягалі неадкладнаму знішчэнню. Нам вядомы і яшчэ дзесяткі спісаў, датаваных 1936 годам. Спісанню падлягала*

*пераважна беларуская мастацкая і навуковая літаратура.*

*Гэтакім чынам разгорталіся бальшавікі і ў галіне беларускага малярства, жывапісу. Арыштаваўшы Чарняўскага, Даркевіча, Змудзінскага і іншых, украўшы найдаражэйшы скарб нашага беларускага мастацтва і рэлігіі — крыж святой Ефрасінні Полацкай, выкінуўшы ў падвал Менскага гістарычнага музея бюст класіка беларускай паэзіі Максіма Багдановіча, яны загадалі беларускім мастакам маляваць і ляпіць партрэты і бюсты бальшавісцкіх правадыроў ды асвятляць у сваіх творах «шчаслівае і заможнае калгаснае жыццё».*

*Тое ж самае яны ўчынілі і ў музыцы, а таксама тэатры... Забаранілі спяваць свае прыгожыя народныя песні, насіць беларускую нацыянальную вопратку ды святкаваць народныя святы — Каляды, Вялікдзень, Купалле...*

*Яны разграмілі таксама беларускую асвету, забаранілі выдаваць краязнаўчы часопіс «Наш край», у школах выкладанне пачалі пераводзіць на расейскую мову і наклалі забарону на вывучэнне гісторыі і геаграфіі Беларусі.*

*— Ці ж можам мы пасля ўсяго гэтага чакаць ад іх ласкі?* — пытаўся спадар Аўген Калубовіч, і ў згодзе з імківалі галовамі ўсе дэлегаты Кангрэсу, ківалі і Барыс Рамановіч і Розмысл... — *Не! Прага да волі,* — заяўляў прамоўца, — *наш сцяг, і мы не маем права яму здрадзіць. Мы змушаны ставіць пытанне аб разрыве з Масквою. Уласна, пытанне ў прынцыпе было вырашана Радаю БНР у векапомным акце за 25 сакавіка 1918 года. Але наш народ яшчэ дагэтуль не сказаў свайго апошняга слова. Кангрэс павінен прызнаць, што створаная Масквой бутафорская беларуская дзяржаўнасць — БССР ёсць ад пачатку і да канца дрэнна замаскаваная фікцыя. Я прапаную Кангрэсу заявіць урадам і народам усіх краінаў аб уневажэнні маскоўскага голасу ў беларускіх справах.*

*— Да разрыву з Масквой клічуць нас косці загубленых ёю 1800 тысяч найлепшых сыноў нашага народа. Да гэтага клічуць нас пралітыя ёю рэкі слёз і крыві. Кожная кропля гэтай нявіннай крыві пякучым агнём гарыць у нашых сэрцах і кліча да помсты...*

І сапраўды Барыс адчуў пры гэтых словах у душы святое, можна сказаць, узбурэнне пачуццяў.

*— Гэтага патрабуюць ад нас нават камяні ад разбураных бальшавікамі нашых святыняў і помнікаў.*

*Няхай жа памяць крывавага бальшавіцкага панавання ў нашым краі зарасце чартапалохам і крапівою!* — заклінаў Калубовіч: — *Слава вольнай Беларусі і яе народу!*

Барыс ніколі не чуў такіх бурных і несціханых воплескаў з воклічамі людзей, апанаваных найвышэйшымі грамадзянскімі пачуццямі.

Нарэшце, зала аціхла, дэлегаты з палёгкай уздыхнулі; у абвешчаны перапынак публіка знялася з месцаў і ператварылася ў рухомы рой у шырокім вуллі, дзе чалавекі снавалі — хто куды віда.

— Пойдзем, — прапанаваў Барысу Розмысл, — я пазнаёмлю цябе з Радаславам, бо потым, як зачыняць Кангрэс, не да таго будзе.

Яны прабіваліся да падмосткаў тэатра з пэўнымі цяжкасцямі і, вядома ж, радасным узрушэннем, як што сустракалі ў штурханіне знаёмых, і Барыс паспеў ужо горача пацісnуць руку Юрыю Сабалеўскаму — павіншаваў яго з поспехам, які быў адзначаны прэзідэнтам БЦР, і доктару Язэпу Малецкаму руку пацісnуў, даведаўся між іншым, што ён цяпер не ў Баранавічах, а прадстаўляе БЦР у Вілейскай акрузе. Абняўся з паэтам Альфрэдам — Алесем Салаўём, з якім колькі месяцаў таму ехалі ў цяплушцы з Брэста да Варшавы... Здалёк павітаўся з Андрэем Мацукевічам і яшчэ двума сваімі калегамі, дэлегатамі з Кёнігсберга...

Яны з Сяргеем узышлі на зырка асветленую электрыкай сцэну, прабіліся да Астроўскага, чалавека, бадай, сярэдняга веку, гожай выпраўкі, чарнявага, у цёмным касцюме ў палоску, пад гальштукам. Кідаліся ў вочы яго акуратна прычасаныя валасы і напружаныя складкі на чыстым думным ілбе. Адметнымі былі і правільнай формы нос і выразна акрэсленыя, яшчэ не высмяглыя вусны. Ён паглядзеў на Рамановіча шырока адкрытымі цёмнымі вачыма, і той адчуў на сабе прытомлены, але чэпкі і пранiклівы позірк.

— Спадар Радаслаў, — звярнуўся Розмысл да прэзідэнта Рады прафесара Астроўскага. — Калі дазволіце, прадстаўлю вам кіраўніка Беларускай Народнай Самапомачы ў Кёнігсбергу спадара Рамановіча.

Астроўскі працягнуў яму руку, вітаючыся.

— Барыс, — назваў пры гэтым сваё імя дэлегат Рамановіч.

— Я чуў і ведаю пра вас і вашу дзейнасць. Дзякуй, што прыехалі. А як жа склалася дарога?

— Ліхая дарога! З бамбёжкаю... Я ж толькі гузаком аддзелаўся, а магло б быць і горай.

— То «горай» яшчэ прыйдзе да нас, не тут будзь сказана, — Астроўскі прагна, як здавалася, паглядзеў Барысу ў вочы і ўсмешка кранула кончыкі ягоных вуснаў. — Не ўдалося нам схапіць Бога за бараду. Неспрыяльна сітуацыя склалася. Не дамовіліся мы з польскім урадам у Лондане аб сумесных дзеяннях нашай Краёвай Абароны з аддзеламі Арміі Краёвай за незалежнасць абедзвюх краін. Паны-ліхадзеі, на жаль, яшчэ не адмовіліся ад састарэлых катэгорый мыслення і паставілі за ўмову двухбаковага саюза падпарадкаванне Беларусі Польшчы. Крэтыны амбітныя! — ён як не вылаяўся. — І таму, калі б нашым нацыянальным батальёнам давялося ў баях адступаць, — не хапіла б абшараў для манеўру. Альбо манеўр быў бы зведзены да памераў мышалоўкі.

— Зразумеў? — спытаўся са значэннем Сяргей Розмысл, відавочна, наводзячы Барыса на думку пра адмененае паўстанне...

Шчыра кажучы, Барыс не ўсё і нават далёка не ўсё разумеў у патаемных планах кіраўнікоў нацыянальнага руху ды іх міждзяржаўнай палітыцы, але кіўнуў галавой, паказваючы, што досыць тлумачыць, што ён лёгка абыдзецца і сваім разуменнем, якое ўжо ёсць — няможна ж любому і кожнаму адкрываць свае карты.

— Аднак, што далей будзе? Фронт так блізка, — скрушліва нагадаў Барыс Рамановіч.

Яго непакоілі задачы бліжэйшага дня.

— Барыс... — разгубленасць на момант мільганула ў вачах прафесара Астроўскага, і, уняўшы яе, Радаслаў звярнуўся да дэлегата: — Без панікі, браце, але, скажу адкрыта: мы мусім бегчы на захад. Так... Пра небяспеку сустрэчы з чырвонымі ўсе ведаюць, і кожны будзе рашаць за сябе. Таму я раю, шаноўны, як мага хутчэй вяртацца туды, адкуль ты прыехаў, каб на свае рукі прымаць нашых бежанцаў.

— Дык мы ж гэта і робім! Прычым — даўно.

— Я ведаю... Дзякуй. Але яны пойдуць лавінай...

— Мы ладзім першую дапамогу, варым суп, раздаём харчы, мыем, апранаем у свежае, калі хто вашывы, шукаем для ўсіх, дзе прыткнуцца, нават жэнім.

— Таму табе нельга затрымлівацца. Для цябе — гэта задача нумар адзін!

— Добра...

— А задачай нумар два — не страчваць сувязь ні з кім са сваіх людзей, былых ваеннапалонных, бо не выключана, што мы іх яшчэ паклічам.

Бадзёрасць і ўсмешка Радаслава Астроўскага прыўздымалі настрой.

— Фэрштэйн, герр прэзідэнт! — надаючы сваім словам гумарыстычнае адценне, адказаў Барыс. — Я, калі заўгодна, магу зрабіць спробу выехаць нават зараз. Толькі пагутару яшчэ з тым-сім з дэлегатаў.

— Едзь!

— Бадай што... Калі партызаны не заблакіруюць шлях.

Астроўскі, узяўшы Барыса пад руку, адвёў у цішэйшы куток сцэны.

— А ведаеш, браце, шаноўны Барыс, чарцей сапраўды распладзілася — не зайсці за куст па патрэбе! Сумны жарт, але ж... Скажу табе, я сам ахвотна пайшоў бы ў партызаны, калі б пасля перамогі гарантавалі мне незалежнасць нашай краіны.

Рамановіч выбраў паўзу ў размове і сказаў:

— Мяне дзівіць, як багата ў нас такіх от людзей. Разумных і добрых. Сардэчных і шчырых. Высакародных і таленавітых, ды самаахвярных... Я адтуль вунь, — паказаў на ложы збоку, — глядзеў у залу і думаў: ды гэта ж тыя, каго бальшавікі не дасталі, не ўходалі. Каго польскія паны не зламілі ў турмах. І да каго чарга не дайшла ў эсэсаўцаў...

— Недабіты інтэлект нацыі? — падхапіў думку Астроўскі. Выдатна!

— Так... І ў вас, зазначу, цікавы ход думкі. Я таксама пайшоў бы разам з вамі ў касіянеры.

— А-а... Толькі гэта — між намі?

— Яволь. Я цаню ваш давер.

— Ну што ж... Сяргей! Сева! — паклікаў ён службоўцаў, Розмысла і Усевалада Родзевіча, свайго ад'ютанта, апошні быў у вайсковай форме БКА: — Пойдзем разам, паабедаем.

Яны ішлі цераз апусцелую ў перапынак залу і неслі перад сабой, бадай, кожын свой гонар.

Толькі, куды б яны не ішлі і пра што б ні думалі, ні гаварылі, усіх іх цяпер у хранічным шокавым напружанні трымала водгулле фронта.

## 25

На сцяне прасторнага пакоя ціха варушыўся стары насценны гадзіннік і чуліся таемныя, ніколькі нікому не падуладныя крокі часу: цік-так, цік-так... Гэты час адкрываў і цягнуў за сабой мноства розных падзей, з якіх адна, шырокая, непадуладная, палягала над светам: вайна!.. Супакойвала тое, што татка вырваў яе, Маню, і яе радзіну з пекла ды знайшоў для іх аціхлы куток. Яны жылі ў маёнтку пана Юргенсона, у доме для прыслугі, у гэтакім шырокім пакоі, дзе месцілася пяць пакрытых лахманамі ложкаў. Загнаныя, паціху адыходзілі, збіраліся з думкамі, хоць часткова набывалі нейкі сірочы спакой. Працавалі — Маня ў агародзе пры маёнтку, цётка Зося даглядала курэй, а ўсе астатнія — у полі... Але ж фронт, няма што нябачны, далёкі, не стаяў на месцы, і гэта ляжала на дне душы прыглушанаю трывогай. Фронт, бы стыхія, бы драпежны звер, каціўся на захад, у «іхнім» кірунку. Праўда, Маню, перш-наперш непакоіў не фронт, якога яна ніколі не бачыла, а лавіна бальшавікоў, саветчыкаў, энкавэдыстаў, — лавіна чырвонай нечысці, што падпірала фронт з таго боку і каціла за ім услед.

Зрэшты, часам яна была зусім раўнадушная да ўсяго, што рабілася блізка або далей ад яе, бо тут разам з ёй не было ні яе любімага дзеда, ні шаноўных дзядзькоў Паўлюка, Паўла, Мікалая, ні тых, пра каго яны клапаціліся, пасылаючы ў казахскія стэпы пасылкі, не было саміх чулівых клопатаў, не было і таго дома, у якім Маня, пры ўдзеле радзіны, ладавала пасылкі, не было школьных сябровак Марыі Васілевічанкі, Ганны Кульбеды і, тым больш, трагічна замардаванай Насці... У яе жыцці бытта ўтварылася расколіна, якая сягала глыбока ў самую душу. І ў душы, падобна, цэлы свет распаўся надвое, прычым, адна частка знікла... Пэўна, тое ж адчуваў бы чалавек, калі б у яго нехта адчыкрыжыў частку цела, напрыклад, спіну, пакінуўшы адкрытым і параненым сэрца...

Цік-так, цік-так... Супакоўваў і нагастраў яе слых гадзіннік. Праз доўгі час, пакуль яна, знерухомеўшы, ляжала пад коўдрай у ложку, пачуліся крокі: то, скончыўшы працу ў полі, паспяшала да яе маці. Яна ўвайшла ў пакой:

— Як ты, доню, сябе пачуваеш?.. Не лепей?

— Не-е, — варухнула галавой на зрэбнай падушцы (з мешкавіны, набітай сенам) Маня. — У баку баліць.

— А есці хочацца?
— Не-е...
— Можа, хочаш на вуліцу выйсці?
— Не-е...
— Не расстрайвайся, — папрасіла Ганна, бачачы, як у куточках Маніных вачэй збіраюцца слёзы. — Паляжы... Я рукі памыю...

А затым і бабулі, Аксіння і Параскева, вярнуўшыся з поля, падыходзілі да Манінага ложка і цікавіліся яе здароўем. Волька, тая села на ложах у нагах хворай сястры і, пагойдваючы сваімі запыленымі нагамі, слухала, што гавораць дарослыя. А яны охалі і ахалі, гледзячы на змарнелую, з бледнымі шчокамі ды сінюшнымі вуснамі дзяціну, шкадавалі, што ні сталага доктара няма, ні сапраўдных лекаў... Пан Юргенсон колькі дзён назад запрасіў у маёнтак нейкага праезджага фельдчара — у памятым брылі, аброслага шчэццю, пры гальштуку, і той, паслухаўшы Маню, спытаў, ці не прастуджвалася яна і як даўно ў яе пачаўся кашаль. Ён сказаў Ганне:

— Яўнага запалення лёгкіх у вашай цуркі няма. Калі ж запаленне і было, то прайшло альбо праходзіць. А болі ў баку паказваюць на пашкоджанне плеўры. Лячыце плеўрыт...

— Паночку, — апярэдзіла нявестку ў роспытах баба Аксіння, — а чым жа плеўрыт залагодзіць?

— Гм... — радыкальных лекаў, на жаль, не параю, таму што іх няма. Калі знойдзеце гарчычнікі, — наляпіце на хворы бок. Ногі парце ў цёплай вадзе з гарчыцай... Давайце хворай піць адвар аўса з малаком, пашукайце мёд, сталетнік і ўвогуле тое, што ведаеце, што карысна пры прастудных захворваннях. Добра карміце... Старайцеся, каб, крый Божа, не перайшло ў сухоты. Давідзэння!..

З таго, што параіў гэты доктар, мотальскім маркотніцам удалося знайсці толькі авёс і малако, праўда, прыкупілі яшчэ залацістую галушку масла ў фунт вагою, брусок сала, балазе Аксінні ўдалося вывезці з сядзібы як адзіны каштоўны скарб невялікую жменю залатых манет, якія старанна хавалі дома разам з Пятром-нябожчыкам, Маніным павадыром. Цяпер уцякачкі карысталіся скарбам у самых вострых выпадках, калі толькі каго апануе хвароба.

Памыўшы рукі на кухні, Ганна адчыніла кладоўку і набрала ў глыбокую міску груш, якіх расстаралася гэтымі

днямі. Паляк, гаспадар бліжэйшага хутара, каля якога яны з Зосяй капалі бульбу, ласкава запрасіў іх у свой сад, і там сёстры смакавалі садавіну ды, спатыкаючыся на кожным польскім слове, якіх амаль не ведалі, бянтэжліва рагочучы, дзякавалі пану гаспадару за шчодрасць, за ласку. Вяртаючыся з працы ў полі, яны прынеслі ў маёнтак па паўмяшка садовых груш, невялікіх, але выспелых, жаўтлявых, салодкіх.

Апаласнуўшы грушы ў місцы і сцадзіўшы ваду, Ганна прынесла іх у агульны пакой і прапанавала першым парадкам занямоглай дачцэ, а потым і ўсім дзецям і дарослым:

— Ешце, пакуль вячэру зварым.

Маня, узяўшы грушы, прыгадала камічны расказ мацеры і цёткі Зосі пра тую гутарку з гаспадаром хутара ды міжволі ўсміхнулася. Калі яна была здаровая, то гэта было ейным клопатам размаўляць з палякамі па-польску; іх мову яна ведала са школы і нярэдка выступала ў сям'і ў ролі перакладчыцы.

Цяпер, як толькі яна заставалася ў пакоі адна, да болю ў баку дадаваўся яшчэ і перажыты ў Моталі страх, ён прымушаў яе скаланацца ўсім целам, як скаланаецца чалавечына ад моцнай аскоміны на зубах. Толькі ўжо ў таварным вагоне, у цяплушцы, у тым смуродным скопішчы, пры ўсіх нязручнасцях, яна ўпершыню адчула сябе шчасліваю, бо ведала, што ні сёння, ні заўтра яе не заб'юць.

А тут Мані яшчэ лацвей было. Праўда, з нейкага часу яе душу азмрочвала крыўда. Улетку яе татка Барыс Рамановіч даставіў і раскватэраваў у Памажанах новы тур уцекачоў, з якіх Мікалай Марціновіч стаў намеснікам упраўляючага маёнтка, а яго зяць Косця Прадун разам з іншымі пачаў працаваць у агародзе пры маёнтку, дзе праца была значна лягчэйшаю; яе ж, 14-гадовую дзяўчынку, выціснулі з агарода ў поле, на праполку, жніво, копку бульбы... Працаваць у полі нароўні з дарослымі ёй было цяжка, балелі рукі, ногі, спіна, і яна з горыччу думала пра няўдзячнасць людскую: «Цябе ж мой тата прывёз сюды — вырataваў, то чаму ж ты ягонай непаўналетняй дачцэ не спагадаеш?»

І гэтую крыўду яна выказала бацьку, калі той заехаў да іх у Памажаны, вяртаючыся ў Кёнігсберг з Другога Усебеларускага Кангрэсу, праведзенага ў Менску. Яе здзівіла бацькава спакойная рэакцыя на гэты выпадак:

— Вучыся, дочухна, любой працы — у жыцці спатрэбіцца.

Ён, пэўна, лічыў нетактоўным умешвацца ў лад, у парадак, які без яго ўсталяваўся ў маёнтку. Але ж, без усялякіх сумненняў, да таго спрычыніліся і іншыя акалічнасці. Перад уцекачом Марцінкевічам Манін бацька, напрыклад, павінен быў адчуваць «віну». За свавольства ў Янове. «Свавольства» ж адкрылася для Мані з наступнае рэплікі:

— Бачыш, — казаў бацька, — спадар Марцінкевіч не можа мне даравапь, што я, насуперак яго волі і жаданню, вывез з Янова сюды разам з ім і ягоную жонку — яна жыла з малой у вёсцы пад Яновам. Не хацеў ён іх бачыць... Толькі ж забраць яе вельмі прасіла яго старэйшая дачка Надзя, жонка Косці Прадуна...

Раманавічанка, праўду сказаць, не ўсё тады разумела ў дачыненнях дарослых. Адно ёй па душы была міратворчая чыннасць бацькі, які, выконваючы гэту сваю высокую місію ў Польшчы і Германіі, аднойчы ўзяў і яе, Маню, з сабой у «камандзіроўку». Ехалі чыгункай на поўдзень ад Памажан, пакідаючы ўзбоч верставыя слупы і паселішчы, дарэчы, не надта разбураныя. Барысу Рамановічу належала нейк аднавіць і палагодзіць сямейныя адносіны пані Юргенсон з панам Юргенсонам, як што той упадабаў сабе пакаёўку і цешыўся з ёй, а яна, пані, банкрутавала ў шале, выкліканым рэўнасцю, нарэшце, мусіла пакінуць юрлівага суджанага ды з'ехаць да сваіх бацькоў-палякаў у Лодзь.

Жалю варта, але Маня не прысутнічала пры далікатных перамовах бацькі-міратворцы з пакрыўджанай пані, праўда, калі меркаваць па тым, што пані неўзабаве вярнулася ў маёнтак, а пакаёўку-спакусніцу Барыс перадыслакаваў ажно ў Кёнігсберг, тая пасрэдніцкая акцыя бацьку ўдалася.

Разам з тым Барыса ўсхвалявала жальба, дайшоўшая сюды ад палячкі, якую ён у ліку іншых уцекачоў даставіў з Янова і пасяліў у сям'і беларуса ў невялікай вёсачцы, вярстах у пяці ад Памажан. І ўсе, хто чуў пра гэту гісторыю, дзівіліся з таго гаспадара: як гэта патомны, шчыры беларус можа крыўдзіць польку?

Барыс расшукаў у памажанцаў ровар, сеў на яго і пакаціў туды, дзе людзі не маглі знайсці згоды. Вярнуўся неўзабаве задаволены: памірыў іх... А што там было — па асобных бацькавых рэпліках Мані цяжка было скласці сабе ўяўленне.

Толькі ж, як вярнуўся міратворац Барыс з той вёскі, да маёнтка падкаціў на ровары каржакаваты яздок з агніста-рыжай барадой, шырокай, трохі нават аздобленай сівымі паскамі.

— Тута жыве Барыс Рамановіч? — спытаў ён у Мані, якая ў той момант стаяла каля брамы ў двары і, жмурачыся ад сонца, разглядвала бараду і лысы чэрап госця.

— Тута...

Штосьці ў абліччы і голасе ягамосця падалося знаёмым, але Маня не магла прыгадаць адразу, хто ён такі.

— Скажы ему, пенькне паненка, жэ его хцяў бы забачыць пан Клямка.

— Добжа... — яна ў момант знікла з ягоных вачэй.

І Барыс неўзабаве выйшаў з будынка ў суправаджэнні Мані.

— О-о, каго я бачу! Сто гадоў пану Клямку!

Яны прывіталіся. Барыс прапанаваў госцю прысесці на лаўку пад ліпаю; у яе развесістых і пушыстых ад квету галінах утрапёна гулі і вызвоньвалі пчолы; разліваўся ў паветры густы ліпавы водар, адмыслова мядовы...

— Я чуў, — сказаў Барыс, — што вы ў Памажанах... Сем-восем гадоў прайшло, як мы ў апошні раз бачыліся, а ўжо, здаецца, цэлая вечнасць. Мой бацька-нябожчык гаспадар Пісарчук, даваў вам адрас пана Юргенсона, калі вы ўцякалі. Ён казаў мне пра гэта...

— Як... нябожчык?.. Гаспадар Пятро Пісарчук?.. — пан Клямка, надуўшы тоўстыя шчокі, вырачыў вочы і пахітаў галавой: — Эге-ге! Свет на шмат збяднеў ад гэтай жорсткай вайны. Я, здаецца, казаў табе: на такіх людзях, як Пісарчукі і Скірмунты, свет трымаецца, дакладней, трымаўся.

— А ў вас як жыццё! Чым бавіцеся? Нябось, спрыту ў пана не паменшала, хоць і сівее барада.

— Х-хех, жыццё — не мёд! Жыву, як дзядоўнік пры дарозе: за кожнага чапляюся, зазываю ў свой бар. Аднак ад бразгату посуду застаюцца памыі, толькі памыі!

— Не прыбядняйцеся...

— Свента Марыя ў сведкі!

— Нейкая справа да мяне прывяла?

— Цікаўнасць, — адказала рудая барада, паглядзеўшы на Маню, якая шыла штосьці, седзячы на зэдліку паблізу, хаваць, праўда, ад яе не было чаго: — Пачуў, што ты ў Памажанах і, галоўнае, прыехаў, адтуль, дзе грукоча фронт.

— Так, сапраўды.

— Ці дакоціцца ён да нас?

— У мяне на гэты конт няма ніякіх сумненняў. Чырвоная Армія гераічна змагаецца, і гэта грозная сіла. У бальшавікоў ужо ёсць дамова з Альянтамі —Англіяй, ЗША — аб поўным разгроме фашыстоўскай Германіі.

— Вой! — нервова ўсклікнула Маня, яна ўкалола палец іголкай.

— А што ж будзе з намі, палякамі?

— Я не прарок... Пакуль, як ёсць, жывіце...

— А потым?

— Баіцеся?.. Пане Клямка, даўно было, у мае маладыя гады. Я быў камуністам. І жыў цудоўнымі думкамі аб магчымай прышласці. Я чакаў яе. Я прывозіў вам на продаж мёд, слухаў вас і гатовы быў спрачацца з вамі, як, дарэчы, і са Скірмунтам, але не рабіў гэтага, а толькі назіраў за тым, што вас непакоіць, збіраў ведамкі. Я ўважаў на словы бацькі, брата і ўцекачоў з СССР... Я слухаў іх і думаў, думаў, пакуль не зразумеў: з камунізмам у БССР і далей на ўсход штосьці не тое творыцца; вызваленне Усходніх Крэсаў ад вашага панства, далучэнне іх да БССР, далейшыя падзеі там, у Беларусі, пацвердзілі гэта. А «непераможная» Польшча, якая прагла ў свой час вайны з Германіяй, каб перамагчы яе, у некалькі дзён аказалася пад ботам у Гітлера. Я трапіў у палон і за колькі год пранікся павагай да немцаў. Я паверыў ім, калі яны дакляравалі вызваленне маёй Бацькаўшчыны ад бальшавікоў. А потым і ў іх расчараваўся і зразумеў урэшце: грамадства, якое было ў маіх марах, не пабудуеш ні з бальшавікамі, ні з фашыстамі ніколі, нідзе, бо і тыя і другія — разбуральнікі, ліхадзеі, захопнікі, — у іх рукі па локаць у крыві. Цьфу! — ён адагнаў мошку, якая лезла ў твар. — Выбачайце, пане Клямка, але ж я не гэта хацеў вам сказаць, таму яшчэ раз перапрашаю. Скажу адно: з польскай мосцю, з польскай пыхай кашы беларусу таксама не зварыць. Горка гэта ўсведамляць, але...

— Што здарылася?! — узварухнуўся, пацягнуў паветра пляскатым носам купец Клямка.

— Вы чулі пра сваю Армію Краёву?

— Ну так, ёсць гэтакая нябачная армія. Можа, яна і ўяўляе пэўную сілу.

— Так, яна ўяўляе пэўную сілу. Дапусцім... Толькі беларусы шукалі ў яе кіраўніцтва падтрымкі, каб разам

выступіць супраць агульнага ворага — за незалежнасць сваіх краін. Уяўляеце?..

— І — што?..

— Ваша панства, якое засела ў Лондане, ставіць умову: поўнае падпарадкаванне беларусаў палякамі пасля вайны! Крэтыны!.. Чаму ж вы, палякі, робіцеся крэтынамі, га? Адкажыце, пане дабрадзею.

— Не я... Не ўсе, пся крэў! — Клямка ўскочыў на ногі і яшчэ больш пачырванеў. — Я што? Купіў — прадаў, і ўся мая дзейнасць!

— Ге-э, у Лондане польскія купцы не па вас! Яны народ купіць схільны. За бясцэнак! Беларускім народам і яго тэрыторыяй, між іншым, не першае дзесяцігоддзе гандлюють! Вар'яты! І калі, калі ў вашай гжэчнай крыві суцішыцца клёк? Хцівы, драпежны...

— Пане Барыс! Вы мяне абражаеце і абражаеце разам з маім народам, пся крэў!.. Няможна так! Я хацеў запрасіць вас у госці, а вы знерваваны, вы затканы злом.

— Хіба, пане Клямка?.. А вам вядома, што на абшарах Беларусі аддзелы Арміі Краёвай ніяк не маглі вызначыцца, з кім ваяваць? Нярэдка замест немцаў або бальшавікоў, пры патуранні немца, вынішчалі беларусаў. У Лідскай акрузе, напрыклад, учынілі жорсткі масавы тэрор!

— Спадар Барыс, я не заслужыў вашых абраз. Я пратэстую!

— Эвой... Як хочаце, — Манін бацька вяла махнуў рукой і, калі рудая барада павярнула да ровара ды пакрочыла прэч, звярнуўся да яе, Мані, уласна: — Абрыдла мне, дочка, усялякая дыпламатыя. Люблю шчырасць. А свет пашкоджаны бацылай захопніцтва і звар'яцеў. Няма каму ўважыць на права, на волю беларусаў і іншых народаў, падумаць пра лёс чалавецтва ўвогуле. Скажы, хіба ты разлічвала жыць у такім свеце?

— Не-е, — Маня ўсміхнулася, уражаная тым, што бацька размаўляе з ёй як з дарослай; гэта для яе было, бадай, новым.

— Чэрчыль і Рузвельт доўга думалі, якое месца належыць ім у гэтых падзеях. Нарэшце, высадзілі ў Францыі свае войскі і адкрылі другі фронт. Яны разам са Сталіным раструшчаць Трэці рэйх, як гняздо пачвар, увенчанае свастыкай. Тады другое, прагнае чырвонае зло яшчэ больш распаўзецца па свеце. Га? Ці змірацца з ім альянты? Ці змірыцца беларускі ўрад у эміграцыі з акупаван-

нем сваёй краіны? Што рабіць? На што нам яшчэ спадзявацца?..

Барыс Рамановіч так і не адказаў на апошняе пытанне, а яно ж закранала як не кожную клетачку ў маладым арганізме дачкі і зноў выклікала няпэўнасць і страх сваёй безвыходнасцю. Дармо, Барыс пагладзіў дачку па галоўцы:

— Не сумуй, Мар'я, і май на ўвазе: тваё жыццё — працяг жыцця твайго дзеда.

Ён сказаў мудрыя словы, якія яна як след асэнсуе потым. Толькі ж яго параду — не сумаваць — яна не магла выканаць, і, лежачы ў ложку нямоглая, перабірала ў памяці малюнкі тых дзён, калі адчула сябе хвораю. Яна не магла адмовіцца ад думкі, што хвароба прыскепалася да яе ў полі, калі, абліваючыся потам, яна капала бульбу, насіла цяжкія кашы, нярэдка расхрыстаная, і яе абдаваў сыры асенні вецер, а то яшчэ прамакала наскрозь ад дажджу... Вядома, пры кожнай такой нягодзе яна з крыўдай згадвала тых дзецюкоў, Марцінкевіча і яго зяця Косцю, якія выпхнулі яе з прысядзібнанага агарода ў поле, і дзівілася бацьку, яго спакою... Дарэчы, Барыс нядоўга заставаўся ў маёнтку, як што пры вызваленні Украіны і Беларусі ад немцаў, казаў, багата людзей, нязгодных з савецкім рэжымам, рушылі на захад, і многім патрэбна была яго дапамога, і ён здольны быў яе аказаць.

Між тым, праходзілі тыдні, адзін за адным. І вось у адну з асенніх начэй Маня адчула палёгку — роўна дыхала, адрынута спала, на сухі лес кудысь адышлі болі ў баку. Яна рада была свайму выздараўленню.

Астатак восені і новая зіма, на шчасце, не абяцалі ў маёнтку ніякіх перамен. Цяпер, праўда, высветлілася, як дарэчы былі мяшкі з воўнаю, якія яны прыхапілі пры ад'ездзе з Янова.

Не ставала цёплага адзення, і ўсе маладзіцы кінуліся прасці воўну, а Маня — вязаць з шарсцяных нітак усім швэдры. І такою ўдарнаю ў яе была праца, што яшчэ не развіднее, а яна ўжо набірае петлі.

У гэтых клопатах і прайшла зіма, не столькі сцюдзёная, колькі спустошаная і панылая, у аднастайных колерах. Праўда, была і заўсёдная радасць ад яркіх, светлых, цёплых, жыццядайных і вабных промняў сонца, калі яно прабівалася праз туман, суцемкі альбо выглядвала з-за хмараў.

Адно заўважыла Маня, ніякія светлыя і яркія дні не ўплываюць на стан душы бабы Аксінні. І не было таго дня, каб, адварочваючыся ад сваіх або хаваючыся кудынебудзь, Аксіння не аплаквала свайго чалавека Пятра і Паўлюка-сына. І ніхто і ніщто ўжо не магло суцешыць яе, — слёзы сыпаліся самі сабой.

Горкі камяк крыўды, жальбы і адчаю падкатваў таксама і да Манінага горла, і тады ўжо яна, як і баба Аксіння, хавала свой твар, каб не паказваць слёз. Нагодай мог быць успамін не абавязкова пра дзеда Пятра, пра сяброўак, а нават пра Лельку, кошку, пакінутую на сядзібе, — дзе яна цяпер, які ў яе лёс? А памяць пра дзеда панавала над усім.

З надыходам вясны Маніна постаць, няўрокам кажучы, пачала яшчэ больш харашэць, дзявочыя формы акругліваліся, і швэдар улежна і гожа абцягваў цнатлівыя грудкі, з якімі яна нават не ведала, што і рабіць, ці то саромецца іх, ці радавацца. Аднекуль паціху з'яўлялася ды выспявала ў ёй раней прыхаваная самавітасць, і позірк цёмных вачэй рабіўся доўгім, засяроджаным, выпакутавана ўнікліва. Пры гэтым яна ўсё больш усведамляла сабе, што жыццё мае багата чаго ёю пакуль яшчэ не ацэненага, не вызнанага душой, сэрцам не асвоенага, і таму цікавасць да жыцця ў яе, пасля кароткага заняпаду, спакваля абуджалася і ўзрастала.

## 26

Адтэрміноўка пераследу злым лёсам для Мані Рамановічанкі і для яе радзіны заканчвалася, як што фронт, даўно пракаціўшыся вогненным валам цераз усю Беларусь, а яшчэ раней — Украіну, дастаў гарады Львоў, Брэст і пайшоў на Кракаў, Варшаву... Па апошніх звестках, сталіца палякаў таксама была занята чырвонымі і шмат на якіх адрэзках яны фарсіравалі Віслу. Неба над Памажанамі ўсё часцей поўнілася надрыўна трывожным і агідным гулам савецкіх матораў. Нярэдка з шашы даносіліся бомбавыя выбухі, татахкалі ўгары кулямёты. Нямецкія абозы, франтавыя аддзелы і часці, каб пазбегнуць страт ад знішчальнага агню з паветра, лічылі за лепшае адступаць па начах, а днём адпачываць і бавіць час у разнастайных укрыццях і сховах, для якіх заўжды быў прыдатным лес.

Адчай ахопліваў тых, хто не жадаў больш на свае вочы бачыць чырвоных, ані іхняга вызвалення, ані допытаў эн-

кавэдыстаў, не гаворачы ўжо пра Сібір. І новым віхурным ветрам неўзабаве адарвала ад зямлі, узняло, кінула на шлях, закруціла па гразкіх дарожных абочынах, панесла ў заходнім кірунку, далей і далей ад грукату і франтавых кананад плойму ўсялякага люду: палякаў, немцаў, беларусаў, зрэшты, большасць палякаў заставалася на месцы, пры сваіх сядзібах, хутарах, вёсках, і чакала чырвоных, спадзеючыся на вызваленне сваёй вячыстай зямлі з-пад нямецкага каванага бота.

Неўзабаве ж і наша Раманавічанка аказалася ў новым, хаатычным, варушлівым, нервова наструненым ды апанаваным страхам людскім вадавароце. І яе больш не радавала сонейка, якое прыгравала, не цешыла траўка, што вытыркалася неяк слабым зяленівам на ўзлобку ды паказвала на хуткае абуджэнне прыроды. Яе нішто не радавала, паколькі не сёння-заўтра магла засланіцца і знікнуць для яе свабода, прастора і воля.

Савецкія войскі наступалі імкліва, і немцы, не жадаючы атрымаць удар з флангаў ды трапіць у акружэнне, у шырокі мяшок пад Коневам, прыспешвалі самі сябе. Яны ўжо з вечара расчышчалі гасцінец, раскідвалі па абочынах уцекачоў, якія рухаліся, хто на фурманках, хто пеша, многія неслі клункі за спіной, цягнулі кайстры, нагадваючы пры такой экіпіроўцы жабракоў. Немцы распіхвалі шчыльны гуж цывільных, вызваляючы шлях, і грукаталі па ім коламі і гусеніцамі крытых аўтамабіляў, цягачоў, гармат, іншай баявой тэхнікі.

Маня ішла то паперадзе сваёй радзіны, то ўслед пялялася. Яна не памятала нават, хто і што з іх ухапіў у той паніцы, калі аднекуль на брычцы вярнуўся ў свой маёнтак пан Юргенсон, анепакоены, імклівы ў рухах. Ён папрасіў спадара Марцінкевіча абвясціць усім жыхарам маёнтка, што праз дзве-тры гадзіны ў Памажанах могуць з'явіцца перадавыя часці Чырвонай Арміі.

Збор быў нядоўгім. Лахі пад пахі ды бягом.

Маня з радзінай былі ўжо ў дарозе і, абцяжараныя вандзэлкамі, хатулямі, стараліся роўна дыхаць, ашчаджаючы свае сілы, калі міма іх на знаёмай брычцы праехаў той жа пан Юргенсон, строгі, зацяты — здавалася, ён нікога не бачыць наперадзе, а па баках і пагатоў.

Пан, пэўна, ведаў, куды едзе. А што ведалі яны, якіх гнаў дзікі, бадай, жывёльны страх быць знішчанымі? Што іх чакала ў канцы дарогі?

Ці чакала іх дамоўка?..

Ці новы панскі маёнтак з шырокім пакоем і ложкамі?

Ці ласка на чужой ім зямлі?..

Ці ўвогуле нейкі дах, нейкае неба без грукату, нейкі спакой?..

Безумоўна, падаць руку ім у гэтай новай адмыслова ўтворанай пастцы, пакуль яе не закрылі, мог адзін чалавек — Барыс Рамановіч, іх выбавіцель з Моталя, але ж ён далёка адсюль, ён, уласна, і не ведае, у якой яны сітуацыі, да таго ж, у яго там, відаць, свае гарачыя справы...

Недзе апоўдні яшчэ адна прыгода была, і яна да глыбіні душы ўсхвалявала Маню. Па сярэдзіне шашы, пакінутай для праезду транспарту, ехала фурманка на гумавых колах. На яе паказала маці.

— Глядзі, доню, нашы хлопцы едуць!

— Ой!..

Сапраўды, на возе сядзелі мотальскія ўцекачы, якія жылі разам з імі ў маёнтку Юргенсона, — Дзямковіч Іван, браты Сцяпан і Іван Міховічы ды маладзіца, якую звалі Кулькай...

— Мамка! Ах...

Агорнутая адчаем ад блізкага сутыкнення з чырвонымі, Маня не доўга думала, каб не кінуцца за фурманкай. У некалькі скокаў дагнала яе і ўхапілася рукой за драбінку. Але ж тыя, на возе, пагналі каня хутчэй і адзін з іх — каторы? — расчапіў яе пальцы і скінуў руку з драбінкі.

І гэта было так жахліва — як здрада таварыскасці і зямляцкім пачуццям, як чэрствасць замест спачування да яе, дзяўчыны, абраза юначай годнасці. Яна плакала, як ніколі, гарачымі слязьмі. І ёй згадваўся страшны для яе цяпер Моталь. Адкуль такая нявыхаванасць і жорсткасць, урэшце няўдзячнасць да яе ў мотальскіх дзяцюкоў? Хіба не ейны бацька вырваў іх з Янова?.. У памяці паўставала зноў тое, як летась выпхнулі яе ў поле з запаветнага агарода пры маёнтку...

Яна аплаквала цяпер не толькі сябе, свае жыццёвыя паразы, няўдачы. Яна аплаквала ўжо ўсе шматлікія ахвяры, якія мела яе мястэчка з-за такіх вось, як гэтыя самалюбівыя і жорсткія людзі. І тых аплаквала, якія ў 39-м, не ведаючы за што, гінулі. І тых, што пазней былі знішчаны савецкімі бандытамі, — як яе дзед Пятро, дзядзькі, і яе сяброўка Насця...

— Не плач, Мар'я, — супакойвала яе маці. — Жуда — бядзе не помач.

— А яна, дочка, і рада б не плакаць, — зазначыла на гэта Параскева. — Ды ў яе ж слёзы самі льюцца, як і ў Аксінні.

Маня пры ўпамінанні Аксінні, адолеўшы сум, усміхнулася: сапраўды, у яе, як у чуллівай бабулі, праз лад шчодрыя слёзы, можа, таму што яна дачасна састарылася.

Ноччу, калі дзеці ўжо зусім валіліся з ног, яны крыху пераспалі ў гумне пры закінутым хутары за мястэчкам Брноў, блізу шашы. Балазе там для пасцеляў знайшлося трохі саломы, а раніцай зноў, калываючыся з боку на бок, разам з малымі выпаўзалі, каб уліцца ў людскую плынь.

Перад новым паходам, мэты якому ніяк нельга было дабраць, Аксіння перахрысцілася і, уважаючы на гул і грукат у небе, сказала:

— Не так хутка прыждаць дабра, як ліха.

— Не кажы, сваццейка, — падтрымала яе Параскева. — Ліха як прычэпіцца — ого! Ты ў вір галавой, а яно за табой!

Абедзьве бабулі і Зося, мяняючыся, па чарзе неслі Зосіна малое — бялянку Ганначку, астатнія ж Зосіны дзеці разам з Манінай сятрычкай Волькай ішлі самі.

— Манька, э-гей, чуеш? — энергічна паклікала Зося: — То ж мо і добра, што ты не паехала з хлопцамі на кані? Хоць нам дапаможаш, калі спатрэбіцца, пшэкаць з тутэйшымі пшэкамі.

— Памагу...

Штосьці няпэўнае, штосьці стлелае было ў голасе Мані.

— Памагу, — сказала яна. — Толькі на фурманцы я хутчэй бы дастала Германіі, а там, магчыма, і свайго бацьку знайшла б.

— Не журыся, Барыс — такі бацька, што сам цябе знойдзе.

— Вайна ж...

— І на вайне нехта шчасце мае.

Аксіння, тая несла з сабой свае пэўныя думы, і яны прымушалі яе штораз уздыхаць:

— Шырокія вароты на той свет, ды, на жаль, адтуль няма выйсця.

— А можа і ёсць выйсце, толькі ніхто не хоча вяртацца, — Зося злёгку пацвельвала са слоў свякрухі: — Можа, там для ўсіх рай.

— Няхай бы...

І падала свой голас Параскева:

— Усе мы там будзем, але — лепей пазней.

Падыходзілі да вёскі Лесіна. У гэты ж дзень па шляху і па іншых дарогах і сцежках, ігнаруючы небяспеку з паветра, пацягнуліся змардаваныя нямецкія ваяры. У перамежку з імі адступалі цывільныя. І тут аднекуль з пярэдніх шэрагаў уцекачоў пранёсся зычны лямант уздоўж бясконцай хаатычнай і размаітай калоны:

— Чолгі! Савецкія чолгі!

На скрыжаванне дарог у вёсцы Лесіна выходзіла калона савецкіх танкаў, яны рухаліся з Коніна на Торунь.

Ведамка — як удар грому.

Страшная паніка ахапіла людзей, якія імкнуліся на захад. Яна, паніка, магутным віхрам прайшла па жывым людскім целе калоны, раскідваючы яе ва ўсе бакі. І беглі бегма хто куды. Маня кінулася прэч ад сваёй радзіны. Думка, што зараз пачнуць правяраць дакументы ды высвятляць, хто, чый, адкуль, палохала яе больш за ўсё, і, адарваўшыся ад сваіх, ёй хацелася згубіцца ў масе незнаёмых людзей, забыць на сваю сям'ю, на сваю радзіму, каб жыць. Як ніколі і нідзе ў гэтым хаасе пульсавала жаданне, білася думка зрабіць нешта такое, каб жыць. Жыць! Жыць!.. Ёй прагна хацелася жыць і дзеля гэтага яна гатова была адрачыся нават ад роднай маці, ад усяго, назвацца палячкай, урэшце...

Калона танкаў прайшла, натужны гул сціх, і зноў па шашы пацякла маса людзей. Цяпер ужо ў адным і другім накірунках. Маня слаба памятала, куды ёй трэба ісці, і ступала па зямлі як не сваімі нагамі. У поле яе зроку трапіў гіцаль у нямецкім мундзіры, пакамечаным, заношаным, запыленым; ён ішоў па поплаве амаль побач з ёй і, бы той пан Юргенсон, што даваў цягу на брычцы, не звяртаў аніякай увагі ні на кога, ні на што ў свеце. Поступ у чужынца быў цяжкі, ён ледзьве валок ногі, і гэта пры тым, што грудзі ўпрыгожвалі баявыя адзнакі — крыжы — і быў адметным стары шнар на шчацэ, непаголенай, бруднай.

Раманавічанцы падалося штосьці знаёмае ў абліччы немца, і яна зазірнула глыбей яму ў твар: авохці мне! Жахнулася дзяўчына, як што пагляд вачэй у чужынца быў адсутным, знябытым, зусім нерухомым і, бадай, нават мёртвым... Ні даць, ні ўзяць поплеч з ёю крочыў мярцвяк!.. А быў жа ён гожым кавалерыстам Гансам; даўно, на пачатку бліц-крыга... Маня як урасла ў зямлю і моцна

прыціснула рукі да грудзей. Стаяла ашаломленая, нібы на яе мёртвымі вачыма паглядзела сама Германія, вялікая краіна, што назвала сябе Трэцім рэйхам. І аднекуль з глыбіняў дзявочага ўсведамлення ўсплыло ды аформілася ў выразную думку адно чужынскае слова: «Капут!» Так, капут быў усяму, што ішло раней адтуль разам з кавалерыстым ваяром, а ён жа меўся пасля сваёй перамогі ўзяць яе, раннюю дзяўчынку, у нямецкую сям'ю ў якасці прыслугі. Капут быў Гансу, капут — грозным гітлераўскім войскам, капут — фашыстоўскай Германіі, а разам і яе, Маніным, спадзяванням на паратунак ад бальшавіцкай сваволі, ад тэрору ды здзеку — капут. Капкан зачыняўся.

Аднак над усім палягала яе ўзрушэнне — ад сустрэчы з гэтым змярцвелым і адрынутым Гансам. І адсюль штуршком — які жах! – неадольнае і моцнае памкненне падзяліцца сваёй навіной... З кім? Ага... І, адкінуўшы растрапаныя валасы з твару за плечы, Маня шпарка пабегла шукаць радзіну, пакінутую недзе на тлумнай і роспачнай шашы, на шляху, які цяпер больш нікуды не вёў.

## Эпілог

На тое бяздолле — словам народным — пятух не пяяў, пятух не пяяў, гусак не крычаў.

Толькі слёзы сям'і, знябытай, пазбаўленай сталай мужчынскай падтрымкі.

Слёзы светлыя і непраглядныя разам, афарбаваныя смуткам, тугою нязбытнай, якая — бадай — на ўсё жыццё.

Спыніліся Пісарчуковы ў нейкім фальварку пад Слесінам. Фальварак належаў немцу-перасяленцу. Перасяленец уцёк, і яны занялі адзін з вольных пакояў. У суседнім пакоі тым часам атабарыўся паляк з сям'ёй і, мусібыць, яму там цесна было, таму ён данёс у савецкую камендатуру, якая асталявалася ў Клечаве, што побач з ім жывуць уцекачы — «рускія».

Адтуль неўзабаве прыехаў нейкі чын у вайсковым і наладзіў допыт: хто такія, адкуль, чаму ўцякалі? І — дзе, каму служылі іхнія мужыкі?..

Само сабой выйшла так, што за старшую ў гэтай купцы жанок з дзецьмі аказалася Ганна; яна і адказвала на плойму грубых, з'едлівых, брудных, мацерных слоў савецкага чына, якога ўважалі за палітрука. Маня жахалася і плакала ў роспачы — так няўдала ўсё абярнулася.

Праз колькі дзён жаночы кагал, апроч бабуль, праўда, выклікалі ў Клечаў, і камендант узяў ад Ганны, Зосі, Хрысці, Ядзі распіскі, што праз тыдзень яны гуртам з'явяцца сюды з усімі сваімі рэчамі; маўляў, на чыгуначную станцыю будзе пададзены спецыяльны вагон, і іх адправяць туды, у Саюз, адкуль яны прыехалі. Божа праведны! Ці ж трэба тлумачыць, што ў душы маталянак Саюз цяпер асацыіраваўся з халодным Сібірам?

Але ж разам з імі быў хлопчык — Янка Бушкевіч, аднагодак Марыі. У тым несусветным алярму і гармідары, калі нашы героі, сарваўшыся з Памажан, беглі па шля-

хах і дарогах на захад, далей і далей, каб уратавацца, Янка згубіў сваіх бацькоў і ўвязаўся за Пісарчуковай радзінай.

Ці ж не Божы промысел быў у прыгодзе той?.. Бацька Янкі шукаў свайго сына і акурат у гадзіну роспачы Пісарчуковых з'явіўся ў іхнім фальварку. Ён трымаў у руках бел-чырвона-белы сцяг на кароткім дрэўку, яркі, відны здалёку, нёс як сімвал Бацькаўшчыны, каб зводдаль людзі бачылі, хто ён і з кім яму палягае мець якія-ніякія стасункі.

Маладзіцы абступілі Бушкевіча, як тое дзіва, і ў радасці гатовы былі яго расцалаваць. Нават Янка свайму бацьку не так радаваўся, як яны Бушкевічу. І — не дарэмна. Дамовіліся аб паратунку... Таму ён з сынам пайшоў, каб неўзабаве вярнуцца, і не прымусіў сябе доўга чакаць. Прыехаў апоўначы на кані, і яны перанеслі і ўпарадкавалі на возе майно, якое было, і — дай Божа ногі!

Спыніліся подалек ад вялікіх дарог у нейкай здзічэлай будыніне пры лясным абшары, хмурным, густым. Новая іх хароміна напалову была свінушнікам, напалову — чалавечым жытлом. Паляк па прозвішчы Чыж, а гэта ён даваў Бушкевічу для начной перавозкі каня, цяпер перахоўваў разбухлую сям'ю беларусаў, і бабуля Аксіння за такія паслугі прапанавала дабрадзею залатыя манеты, але той адмовіўся. Ён параіў Пісарчуковай зборні памяняць прозвішчы і ў хуткім часе дапамог ім гэта зрабіць. Рамановіч Мані давялося перажыць круты і сарамяжлівы момант: перад чыннай асобай суддзі прысягала дзяўчына, што прозвішча ў яе Раманоўская і што мела яна нарадзіцца ў... годзе, які трохі розніўся з яе годам. Сорам і страх агортвалі яе душу, кроў бунтавала ад галавы да пятак.

Аднак напружанне неўзабаве апала. Закансьпіраваная гэтакім чынам душа, яна разам з цёткай Зосяй і сяброўкай сям'і па няшчасці — Хрысцяй уладкаваліся працаваць на цукровы завод, а туды — сем кіламетраў хады ад іхняга хутара. Толькі Манінай маці, па прычыне новай цяжарнасці пад гэты час, не выпадала быць у адной хеўры з імі. Затое Ганна з малой дачкой Волькай і бабулямі Аксінняй і Параскевай абжывалі хутар ды прылеглую да яго зямлю. Зрэшты, Ганна рабіла яшчэ ў лясной школцы (непадалёку ад Кшышкі), дзе вырошчвалі сажанцы дрэў.

На цукраварні, куды пайшла Маня, дзякаваць Богу, улічвалі яе ўзрост, і таму першы год яна працавала, так бы

мовіць, служанкай у канторы — прыбірала, падавала пану дырэктару на стол суп або гарбату.

На другі ж год дзяўчына вяла ўлік на цукровай вытворчасці, а затым ёй спадобілася стаць лабаранткай, што было яшчэ больш па душы. Летам нярэдка рабіла ў полі разам з цёткамі. Увогуле, плялося штосьці цікавае — жыццё спакваля быццам вяртала даўгі; разам з тым у чужым краі жылося невыносна цяжка — не толькі па прычыне нястачы, адчувальнага голаду. Вайна паспрыяла больш глыбокаму самавыяўленню пачуццяў, і цяпер дабро і зло выступалі выразней, натуральна, аголена, прычым, нахабная сіла раз-пораз брала верх над розумам. Маня па-юнаму свежа, абвострана ўспрымала чэрствасць людскую, абразы ды крыўды.

З боку тых, каго яе бацька Барыс выбавіў з маючага быць пагрозлівага мяшка ў Моталі пад час наступу чырвоных, па-ранейшаму ніякіх знакаў увагі да іхняй сям'і, ніякай падтрымкі, хоць бы маральнай, а некаторыя ж з гэтых людзей ужо ўладкаваліся на чужыне і пачалі жыць добра.

На псіхіку знямоглай жменькі Пісарчуковай радзіны балюча ўздзейнічалі новыя прыкрыя непаразуменні і няўдачы. Ну адкуль бы ўзяцца і выпаўзці на іх жыццёвы шлях нейкай Божчысе?!

Божчыха — сварлівая жонка Божкі, а яны пасяліліся па суседству, забараніла Пісарчукам браць ваду з агульнай студні, і таму яны мусілі цягацца з вёдрамі далёка, да возера.

А потым яшчэ, у давяршэнне розных сямейных крыўд і абраз, Хрысця, так, Хрысця, тая самая прыгрэтая імі ў вандроўных нягодах перастарэлая дзеўка, пачала зламыснічаць і кпіць з Манінай маці, карыстаючыся яе безабароннасцю, яе становішчам пакінутай жонкі, абцяжаранай дзецьмі нябогі-жабрачкі; маўляў, бачыш, кім ты цяпер стала, а кім была за Барысам!..

Напэўна, ад сваіх уласных, ад собскіх няўдач з замужжам, якое невядома дзе яшчэ будзе і ці будзе наогул, Хрысця ператварылася ў ханыгу, у дэмана і, паддаючыся сваім хцівым пачуццям, спрабавала нават біць Ганну.

Сям'я жыла ў нейкім замкнёным задушлівым асяроддзі, і, няйначай, таму, як толькі надаралася вольная часіна, Маня збягала ў лес. Лес як ніколі раней быў за сябра, бо ўважліва слухаў маркотніцу і нікому не выдаваў яе тайнаў. Моўчкі, спагадліва або з лёгкім зажураным по-

шумам ён прымаў гарачыя дзявочыя слёзы. Кшышка.. Кшышка, бадай, нітавалася з Моталем, і Мані не хацелася жыць, не было куды кінуцца. У царкву, дакладней, касцёл яна перастала хадзіць, бо сэрца не вытрымлівала ад горычы ўспамінаў, — млела, ссоўваючыся на падлогу.

І прыйшло Раманавічанцы на розум, што ў жыцці трэба мець парадак у думках і ўласную волю. Каб выйсці з цяжкіх, з неспрыяльных жыццёвых абставін, трэба прасці і доўжыць, доўжыць і вытрымліваць лінію, узятую ёй у сядзібе дзеда Пятра, дый наканаваную дзедам. Таму і пайшла яна да настаўніка. Для бадзёрасці, праўда, папрасіла маці схадзіць разам з ёю.

Па тым часе акурат у пакінутых Раманавічанкай мотальскіх і іншых палескіх абшарах, лясах і балотах, разгортвалі сваю дзейнасць «бульбашы» — групы і групоўкі партызанскага кшталту, якія мсціліся цяпер не гітлераўцам, а савецкай уладзе, што прыйшла на змену фашыстоўскаму акупацыйнаму рэжыму і ўкараняла дзяржаўны прыгон; бульбашы вынішчалі мясцовыя партыйныя кадры, дарэчы, некаторыя Данікавы галаварэзы таксама запісваліся ў іх лік...

Толькі народжаныя ў Моталі малады Багдан Плюнгер і сталага веку Хаім Вайцман — наколькі неадназначныя, непадобныя, настолькі і далёкія адзін ад аднаго яе землякі, шукалі, як найлепей выкарыстаць тое, што дала ім і свету перамога над гітлераўскай Германіяй; адсюль камандзір партызанскае вольніцы Плюнгер церабіў сабе кар'еру ў палескім партакратычным асяродку, а спадар Вайцман, вывучаны кагальным чэдарам, пінскімі і, урэшце, заходнімі вучэльнямі, беручы багата вышэй ад Даніка, стварaў у Палестыне дзяржаву Ізраіль, каб зрабіць яшчэ больш трывалым падмурак яўрэйскай нацыянальна-геапалітычнай ідэі. Тут, бадай, Мэндаль і ўсклікнуў бы: «Азохунвэй!»

Вось толькі дробная, думная, мройлівая маталянка Маня рупілася ў няпэўнай жыццёвай прасторы.

З настаўнікам, чалавекам няпэўнага веку, схуднелым, але дужа ахвочым да гаманы, дамовіліся, што ён падрыхтуе яе да здачы іспытаў за сем класаў школы. Плата — 22 кіло цукру. «То добжа!» — мовілі маталянкі.

І ўсялякім манерам, пры лучыне, а то і пры месячыку, шчыравала яна над сшыткамі і старонкамі кніг. Праз пэўны час, дастаўшы гонару і прыбраўшыся ў простую льняную спадніцу і кофту, пафарбаваную адварам чырвоных буракоў, Раманавічанка, пры падтрымцы дзядзькі

Бушкевіча, стала шукаць удачы ў горадзе Піле, дзе спынілася колькі сем'яў уцекачоў з Беларусі, у тым ліку і з Моталя; туды ж яшчэ раней пераехаў і іх прыяцель паляк Чыж. А Чыж — ого! — працаваў на гэты момант дырэктарам сярэдняй камерцыйнай школы, інакш кажучы — тэхнікума. Лёс нібыта рабіўся зусім міласцівым для Мані — у яе ўжо не было ніякіх праблем з паступленнем, хоць яе мройлівая душа і брала высака, прасіла чагосьці больш рамантычнага — спецыялізацыі па нейкай лётнай, чуеце, справе. Дармо... Скончыла эканамічную школу з чырвоным дыпломам, мала таго, за гэты ж час незнарок прычаравала да сябе яшчэ і пагляднага хлопца, важнага кавалера, які прысылаў паштоўкі і, мнучы траву пад яе вакном, напяваў ёй польскія рамансы і модныя тады неапалітанскія серэнады, а працаваў спакуснік Збышак, па сканчэнні гэтай жа школы, дырэктарам мясцовага бульбаперапрацоўчага прадпрыемства. Добра ведаючы Збышака Велагурскага і шануючы Маню, педагогі вучэльні, праўда, засцерагалі яе ад дзёрзкага і апраметнага каханка:

— Кавалер ён хвацкі, але добрым мужам не будзе — ніц... Ветру ў доме не ўтрымаеш. Зазнаеш з ім ліха. Не бяры, дзеўчына, шлюбу са Збышакам!..

Для больш поўнай карціны, праўда, варта зазначыць, што ў гожай і руплівай Раманавічанкі, якая пачынала красаваць, шукалі прыхільнасці і ласкі таксама «свае», гэта значыць беларускія хлопцы, але ж, бадай, падсвядома яна імкнулася адысці як мага далей ад укрыжаванай радзімы, ад усяго, што з ёй нітавалася або хоць бы нагадвала пра яе, — балюча рабілася. Няйначай, таму і аддала перавагу Збышаку.

І яшчэ адзін немалаважны момант. Раманавічанка зрабіла прафесійны выбар, і — зрабіла яго тады, калі, здавалася, ужо не было выбару. Па завяршэнні вучэльні яе накіравалі працаваць эканамістам у марскую школу; прызначэнне насіла абавязковы характар. Толькі ж цяпер, калі яна спрабавала ўявіць сабе сваё жыццё, замружана залатое, цнатлівае, дбайнае, ды пры папяровай працы ў канторы, ёй рабілася вусцішна. Сама не ведала чаму, толькі перспектыва канторскай службы нібы ставіла крыж на яе жыццёвым імпэце, і мроілася ёй нешта больш захапляючае і хвалюючае — праца ў грамадзе, з грамадой, помач люду — адным словам, тое, што арганічна спалучалася б з яе адкрытай, спагадлівай душой, з прыродным талентам. Адно ў пана дырэктара, у Чыжа — вельмі паважанага ёй чалаве-

ка — вочы на лоб палезлі, калі яна папрасіла даць ёй рэкамендацыю для паступлення ў вышэйшую медычную школу. Ён не пажадаў з ёй нават размаўляць на гэту згубную для справы, якой ён займаўся, тэму .

І, тым не менш, атрымаўшы дыплом, Раманавічанка паехала ў Познань. Прыёмная камісія медычнай школы схільна была залічыць яе, уладальніцу чырвонага дыплома, без уступных іспытаў, але ж рэктар распарадзіўся інакш. І ў лічаныя дні, што заставаліся да іспытаў, Маня накінулася на паўзабытыя ўжо вучэбнікі па біялогіі і хіміі; спатрэбіліся ёй, дарэчы, і веды па марксізму-ленінізму, а ў эканамічнай школе па бальшавіцкай навуцы яна таксама мела поспех. Здала і — па-сту-піла, эвой!

Пры яе залічэнні ў студэнты-медыкі адзін з членаў прыёмнай камісіі выйшаў услед за ёй у калідор і давяральным тонам спытаўся:

— Панна Марыя, скажыце, а дзе ж ваш бацька?

— Ніц не вем, — адказала яна. — Пайшоў на вайну і не вярнуўся.

У гэтым была праўда і адначасова мана; яе заўжды ў жар кідала ад падобных пытанняў.

Ды, урэшце, пачаліся заняткі ў медычнай школе. Цяпер Раманавічанка марыла стаць хірургам. Не выпадала, аднак, ёй выйсці ў хірургі — бракавала ці то фізічнай, ці душэўна-нервовай асновы, яна млела, прысутнічаючы на аперацыі. Таму нешчаслівіцы заставалася пайсці ў тэрапеўты.

Ды марна таксама — тэрапеўтам стаць ужо не мог дазволіць сваёй абранніцы Збышак. Раўніўцу здавалася, што абследаванне хворых, асабліва мужчын, — занятак не варты прыгожай і вабнай асобы, якой яму падавалася жонка з яе імпэтам і шчырасцю... Таму спадарыні Марыі давялося ісці ў педыятры, пра што потым, праўда, яна не пашкадуе.

Наогул Збышак лічыў, што ягонай жонцы працаваць не мае сэнсу, нават па сканчэнні вышэйшай медычнай школы — дастаткова, маўляў, таго, што ён мае працу і цалкам забяспечыць сям'ю, а Марыі ўжо на трэцім курсе бусел кінуў у прыпал дзіцё — назвалі Юрэкам, а па трэцім годзе ад нараджэння Юрэка з'явілася і цурка — Эліз, або Ліза. Сям'я ледзьве канцы з канцамі зводзіла.

Гадаваць дый выхоўваць дзяцей Марыі дапамагала яе маці Ганна і нястомная ў жыцці Аксіння — бабуля. Яны жылі цяпер у Вагрэўцу, непадалёку ад Познані, дзе купілі

сядзібу з невялікім кавалкам зямлі. Грошы на такую рахубу пераслаў Ганне яе чалавек, Рамановіч, з Амерыкі.

Марыя працавала і працавала заўзята; не магла не шчыраваць, як што доктарства прыносіла ёй не залішне клопатаў, прафесійных пакутаў, дый, насуперак ім, яно надавала адчуванне сапраўднага жыцця, радавала ўсведамленнем справы гожай, сардэчнай і вартаснай, як і споўненага абавязку на людзях. І ў лічаныя гады, па заканчэнні высокай вучэльні, Раманавічанка атрымала адмысловае прызнанне ў калег і насельніцтва.

Яна працавала ўжо галоўным павятовым педыятрам у Ходцежы, гарадку між Пілай і Познанню, калі міністр аховы здароўя Польшчы, наведаўшы гэты куток, уручыў ёй Ганаровую Грамату, якой адзначаліся яе, дакторкі Велагурскай, асабістыя заслугі ў ахове здароўя насельніцтва краіны. О, Моталь! О, дзедусь!..

Як і заўжды ў хвіліны вялікага ўзрушэння і радасці, з ёю побач паўставаў яе дзедусь Пятро. Ён стаяў перад ёй і ўсміхаўся гэтак жа добра, прыязна і адначасова заахвочваюча, як тады ў царкве, калі яна спявала на клірасе ў хоры.

Баючыся, што ёй авалодае слабасць і яна страціць прытомнасць, Марыя бянтэжліва падзякавала пану міністру за ўзнагароду і паспяшалася на сваё месца ў зале, дзе праходзіў сход. Зрок засцілі слёзы, і ад іх усе твары ўдзельнікаў сходу выдавалі размытымі, толькі твар яе дзеда і ягоная прыязная ўсмешка ўспрымаліся асязальна, выразна.

— Ах, дзедусь, дзедусь!..

На тыя гады вучобы Раманавічанкі ў медычнай школе прыпалі буйныя студэнцкія хваляванні ў Познані. Штуршком да іх паслужыла тэатральная пастаноўка драмы Адама Міцкевіча «Дзяды», якая выклікала прыток патрыятычных пачуццяў у моладзі. А сапраўднай прычынай бунтарства было, як вядома, каланіяльнае становішча Польшчы і ўціск яе з боку савецкай імперыі.

Маня, сэрца якой сціналася пры адным успаміне пра мотальскія выпрабаванні і пакуты, вельмі спачувала маладым палякам, іх бунтарскаму духу. Яна мела апаску, што павязаныя з бальшавікамі нягоды не скончыліся для яе таксама, балазе бацька, застаўшыся жыць у ЗША, прысылаў ім з мацi не толькі грошы, але і пасылкі; дарэчы, ладаваў, падпісваў і пускаў цераз акіян пасылкі не толькі ім — таксама ў Моталь, у Тышкавічы — хворым на сухоты землякам, але ж туды скрынкі з лекамі не даходзілі, пра што ён выказваў шкадаванне ў сваіх лістах.

Больш за тое, каб спыніць буйны грамадзянскі імпэт свайго земляка за акіянам, паплечнікі Плюнгера, калі не ён сам, пачалі «паказваць», што ў асобе Барыса Рамановіча яны маюць зацятага ворага народа, які пры адступленні немцаў з Моталя мсціўся партызанам і спаліў, чуеце, спаліў палавіну мястэчка!

Нейкія патаемныя савецкія службы, няйначай, пачыналі шукаць Барысаву сям'ю і вяліся роспыты. У Пісарчуковай радзіны ў Польшчы не было пэўнасці, што ў тую ці іншую ноч не прыйдуць да іх, небарак, і не арыштуюць. Аксіння па-ранейшаму хавала ад дзяцей і ўнукаў свае горкія пякучыя слёзы.

Для дакторкі Марыі тым часам пачаліся і іншыя нягоды. Яе чалавек Збышак Велагурскі, з якім яны напачатку як бы зліліся ў адно цэлае, і гэта цэлае было таемным і велічным, бадай, незямным, — яе Збышак пачаў папікаць яе, што яна шмат працуе і наогул невядома дзе і колькі часу бавіць. Разам з тым ён дазваляў сабе вольнасці і ўвогуле жыў сваім жыццём. Таму на іхнім адзіным і велічным, як здавалася, мацерыку кахання з'явіліся трэшчыны, і частка зямлі з-пад ног у Марыі пачала спакваля адыходзіць. На абарону нявесткі паўстала была пані Велагурская, і тады Збышак, каб нейтралізаваць сваю маці, пайшоў на ўчынак не варты мужчыны. Ён выдаў гордай палячцы тайну Маніпага паходжання (з сялянскага беларускага роду!), і ў пані ў сярэдзіне як штосьці абарвалася.

— Мужычка! — абразліва крычала яна.

Было ад чаго напалохацца Апалоніі Велагурскай, як што стагоддзямі ў душах польскіх паноў сядзела пагарда да «хлопаў» і «мужыкоў» з беларускіх абшараў, чым абумоўліваліся прыніжэнне, уціск. Прынамсі, стары пан Велагурскі колькі дзесяцігоддзяў таму быў заўзятым ваяром, і ў паходах на ўсход за інтарэсы Вялікай Польшчы стаў кавалерам ажно трынаццаці баявых узнагарод, ордэнаў і медалёў, атрыманых ад Пілсудскага. Было чым сям'і ганарыцца!

А ў Марыі і Збышака звадкі, нарэшце, скончыліся разводам, хоць бацькі мужа такі былі на яе баку. І давялося дасціпнай Пісарчуковай унучцы шукаць іншы жыццёвы мацярык, у простым і пераносным сэнсах. Выпадак таму паспрыяў...

Яе маці Ганна нечакана атрымала нядобрую вестку з Чыкага ад свайго колішняга чалавека Барыса Рамановi-

ча; ён там цяжка хварэў і прасіў, пры набліжэнні смерці, каб яго наведала каторая з дачок.

І тады радзіна кінулася з сумам-жальбой абмяркоўваць ведамку, шукаючы, каго ж пасланць за акіян. Вольгу?.. Сястра Марыі Вольга да гэтага часу ўжо займела сваю сям'ю; яна, дарэчы, вывучылася на інжынера-хіміка, жыла і працавала ў горадзе Улацлавеку — там на буйным хімічным прадпрыемстве за дырэктара быў яе чалавек Генрык Барабаш. Толькі ж пакідаць сям'ю, хоць бы часова, ёй не хацелася.

Тым больш не адчувала ў тым падарожжы за акіян вялікай патрэбы малодшая сястра Галіна, якая ўступіла ў жыццё настаўніцай, мела шмат дзявочага спрыту, задзёру, была рагатухай. І яна мецiла таксама неўзабаве абжыць свой мацярык, разам з Бенядыктам Нейманам, слаўным увогуле маладым чалавекам, які працаваў майстрам вытворчага навучання ў школе.

Абедзьве сёстры страшыліся як вялікай дарогі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, так і чужой мовы на тамтэйшым кантыненце, дый, што казаць, бацьку мала ведалі і не так шанавалі. А Марыя, дзяжурачы ў бальніцы, штораз сутыкалася з цяжка хворымі, углядалася ў іх спакутаваныя твары, дзе жыцця заставалася адзіны драбок, і ўяўленне падавала ёй воблік таго, роднага ёй Барыса Рамановіча, чалавека, які заўжды ўмеў валодаць сабой і быў надзелены як моцнай паставай, так і сілай чалавечага духу. Яна не магла дапусціць — нават у думках, — што бацька ляжыць самотны дзесьці ў шпіталі ды з тварам, як у гэтых пакутнікаў, на мяжы жыцця і смерці. Доктар Марыя Велагурская выбягала з палаты ў калідор і слязьмі абліваліся. Яна ведала, што бацька яе працаваў на хімічным прадпрыемстве па вырабу гумы, варыў гуму, а ўмовы працы былі цяжкімі, і таму ён мог заўчасна надарваць сваё здароўе.

У душы Марыі з дзіцячых гадоў заставаўся куточак, дзе месціліся добрыя пачуцці да бацькі. Там былі і павага, і ўдзячнасць, і захапленне ім, і шкадоба за ягоныя пралікі, няўдачы. Пачуццё роднасці з ім ніяк не згасала, наадварот, умацоўвалася дзякуючы падтрымцы, якую ён аказваў усёй сям'і ў Польшчы — пасылкі прыходзілі сістэматычна і багата што значылі для Марыі і яе сясцёр-нявест, якія мелі вялікую патрэбу ва ўборах. Урэшце, даведаўшыся ад Марыі пра яе развод з мужам і бліжэйшыя сямейныя клопаты, Барыс прыслаў ёй пяць тысяч долараў на

будаўніцтва свайго дамка-катэджа ў Познані, дзе акурат для яе намаўлялася праца ў вышэйшай медычнай школе, якую яна скончыла.

Марыя ні на хвіліну не страчвала пачуцця свайго абавязку перад бацькам, які на далёкай чужыне ляжаў спрацаваны і хворы. Самотны. Не прыдбаўшы ні той вольнай Бацькаўшчыны, пра якую марыў, ні павагі і памяці ў сэрцах людзей, сярод якіх жыў і пра якіх клапаціўся. Зрэшты, ён быў сынам сваёй зямлі, і на той сваёй, на мотальскай, менавіта зямлі яго паважалі датуль, меркавала яна, пакуль камуністы не сцерлі ў людзях усё чалавечае і не ператварылі Моталь у Галгофу.

Марыя старалася не думаць пра нязжытую драму і трагедыю, як стараліся не думаць і маці яе, і бабуля, прынамсі, ніхто з іх у голас не гаварыў пра мястэчка, якое засталося ляжаць магільнай плітой над забітымі.

У дарогу за акіян Марыя ўзяла з сабой вялізны букет кветак — для бацькі, і з імі ў журботна ўрачыстым настроі прыехала ў шпіталь. З хваляваннем пераступіла парог палаты, у якой павінна была адбыцца сустрэча, і бацька адразу яе пазнаў. Нягледзячы на параліч, ён не страціў мовы і загаварыў з ёй, як калісь у Мотале, на палескаятвяжскім сваім дыялекце, і яна паспрабавала яго падтрымаць, але тут раптам высветлілася, што яна не ў стане выцягнуць з сябе словы, ад якіх адвыкла, і таму на момант разгубілася. Барыс перайшоў у гутарцы з ёй на польскую мову.

Ён з захапленнем глядзеў на яе, даўным-даўно не бачаную, дарослую, налітую маладой мацярынскай энергіяй, пагляднаю, зграбную, вольную ў рухах, прыгадваў Маню ў Мотале і пазней — па вайне — чвэртку стагоддзя таму. Дзве розныя постаці, якія аб'ядноўваў мяккі дапытлівы позірк. Несумненна, у асобе ягонай дачкі найлепшым чынам спалучаліся радзінны дух, душа і цела. Гэта была далікатная і абаяльная жанчына, што стала сапраўдным доктарам. Калі так, калі гэткія дочкі ў яго, Рамановіч, бадай, можа быць задаволены сабой і сваім шлюбам з Ганнай, дый ягоная барацьба за дабро не прайграная.

Вочы ў Барыса Рамановіча выдавалі зажурана стомленымі. Хіба толькі ад успамінаў і гордых думак пра Маню і астатніх дачок яны павільготнелі. З твару бацька яе мала змяніўся, хоць складкі скуры на падбародку і ўзбоч носа ды на пераносіцы сталі больш рэльефнымі; не падабалася ёй адно, што скура набыла матава друзлае, як не жаўтля-

вае адценне. Валасы на скронях — чыстае срэбра, і не было ўжо тых валасоў вышэй, на макаўцы.

Яго цікавіла, як і што там, у Польшчы, дзе рупіліся, зжывалі гады пакінутыя ім маці, жонка і дзеці; далей Польшчы, праўда, ні тэм, ні геаграфічнай прасторы яны не кранали. Увогуле, падсвядомасць абводзіла іх вакол таго, што было балючым і невытлумачальным, ды з часам апала, залегла на дно і ляжала там, у душы, дрымучым цяжарам.

З гутарак, якія Марыя вяла ў тыя дні з бацькам, яна выразна адчула, што ягоная жыццядзейнасць мела глыбокі водападзел: там, адкуль цяпер яна, маталянка, з'явілася, была Еўропа, а тут — Амерыка; там для яго было жыццё, ва ўяўленні Марыі — Жыццё, поўнае мрояў, высокіх памкненняў, трывог, заляцанняў, удач ды, можа, прыкрых пралікаў, а тут — праца, і больш анічога, — яе вялікасць Праца, шчырая і знясільваючая, дзеля самасцвярджэння сябе ў не менш велічным — дапамозе сваім, дапамозе радзіне ў Еўропе. О-кей! Ён бачыў у гэтым свой просты-найпросты, натуральны і найзначны чалавечы абавязак, таму, аддадзены яму, заставаўся самотны, нават не заводзіў другую сям'ю.

Зрэшты, была ў Рамановіча спроба паяднаць-такі лёсы: свой — з лёсам іншай прыхільнай асобы, амерыканкі, а тая паставіла ўмову: забыць на Еўропу, на Польшчу, на Моталь — на ўсіх, адцурацца клопату — пакаваць і адпраўляць за мора-акіян пасылкі... У Барыса тады быў выбар: так ці інакш... І ён вырашыў не здраджваць сабе і, тым больш, сваёй радзіне; напэўна, таму ўжо на смяротным ложку гэты адчайнага досціпу маталянін, а цяпер аскабалак былога, дужага сына зямлі той, прычакаў хвіліну найвышэйшай справядлівасці і трыумфу душы: праз Марыю, старэйшую і таму больш відную і самавітую дачку, з ім пэўным чынам паяднелася раскіданая радзіна, паядналіся берагі Жыцця і Працы.

У Амерыцы ж Марыі наўдзіў добра спалася. Так, як на гэтым кантыненце, яна даўно не спала; за хвалістым морам, жывым, многавёрстым, душа яе вызвалілася, бадай, ад татальнага страху, ад подумак, што яна на прыцэле, што не сёння — заўтра, не днём дык ноччу, па яе прыйдуць, каб арыштаваць... Прычыны ніхто тлумачыць не стане.

І, можна лічыць, з блаславення роднага бацькі Марыя засталася жыць пры ім — і пасля яго — у Амерыцы.

Але толькі ж насуперак ягонай перасцярозе, яна возьме другі шлюб з чыкагскім маталянінам, які жыў па суседству з Рамановічам ды колькі год хадзіў у халасцяках. Бацька лічыў яго нядобрым чалавекам.

І от з Чыкага яны пераедуць жыць у Піцбург штата Пенсільванія, дзе Марыя Дзямковіч (памяняла прозвішча) уладкуецца працаваць урачом. Зрэшты, перш чым уладкавацца, ёй спатрэбіцца прыкласці найвялікшыя намаганні душы і ўвесь досціп свой, каб падрыхтавацца і па-новаму прайсці іспыты за ўвесь курс амерыканскай вышэйшай школы. Але ж яна мела шчасце і не ўпершыню пачувала сябе пераможцай.

Жыццё наладжвалася і бурылася адначасова. На сутыку 60—70-х гадоў амаль разам з бацькам на той свет у Польшчы адышлі бабуля Аксіння і бабуля Параскева. Дый самой Марыі ў Амерыцы дарожка не скрозь дываном сцялілася. На жаль, спраўдзілася перасцярога бацькі — Барыса — новы муж мала радаваў — на яго часам штосьці находзіла, і ён набываў агрэсіўнасць, рабіўся няўцямным, чванлівым. Чашу цярпення Марыі перапоўніў выпадак, калі гэты слаўны і мілы ўвогуле чалавек шпурнуў у яе настольную лямпу — параніў, і, ратуючыся, яна выскачыла з дому на вуліцу ў адных пантофлях. Ішла ўзімку па знаёмай заледзянелай вуліцы і завулках да сваёй сяброўкі, абражаная, скрыўджаная, хаваючы руку, з якой на снег а шарай гадзіне капала кроў. Кроў на снезе... Эх, дзедусь, дзедусь! Як мог ты пражыць жыццё, ніколі так і не ўзвысіўшы голас на бабцю?..

Марыя не скардзілася высокаму духу, дакладней, пакліканаму вобразу дзеда Пятра, не, — нават праз гэтакі час і на такой адлегласці яна захаплялася ім, сваім дзедам, і слёзы любові, замілавання ды жалю скочваліся і цяклі па халодных шчаках.

З таго дня або вечара ў Марыі Дзямковіч толькі таго і засталося ад другога, так бы мовіць, транзітнага мужа, што прозвішча.

Яна купіла частку мураванай хароміны ў іншым сектары Піцбурга і выклікала да сябе з Польшчы дачку Эліз. Мела поспех на службе, у педыятрыі, і неўзабаве набыла статус сямейнага доктара. Ёй у рукі ішлі добрыя грошы, і яна, па прыкладзе бацькі, відаць, не шкадавала ні часу, ні сродкаў на пасылкі. Яна іх слала ў Польшчу, дзе заставаліся маці Ганна, сын Юрэк і багата хто са сваякоў. Забыўшыся на крыўды, падтрымлівала падарункамі і сваю бы-

лую свякруху пані Велагурскую, а таксама занямоглага сына Хрысці, якую ў свой час лічыла ханыгай і больш — больш за тое... У добрым намеры сваім, у шчодрасці сталай яна, праўда, лічыла сябе пераемніцай бабулі-нябожчыцы Аксінні, а таксама маці. Гэта яны — Аксіння і Ганна — у Маніным дзяцінстве давалі ёй у рукі збанок з малаком і, ціха, лагодна называючы знаёмае прозвішча, казалі: «Занясі, Манька, можа, яны маюць патрэбу...» І Маня ганарылася даручэннем дарослых, як і сваёй добрай місіяй. Адтуль штосьці сягала сюды, варушылася ў сённяшнім дні, яднала ўчынкі двух-трох пакаленняў.

І гэтак, забіраючы з панядзелка на аўторак, з аднаго тыдня на другі, ішлі гады. Пра Моталь доктар Марыя ўспамінала, бадай, толькі тады, калі ў яе было вялікае ўзрушэнне... Ёй вельмі хацелася падзяліцца сваёй радасцю, удачай або нават журбой з тым, чуеце, любімым чалавекам, сваім заступнікам, настаўнікам, сябрам, — дзедам Пятром. Аднак, прыгадваючы ягоны канец, не магла стрымаць слёзы.

У Злучаных Штатах Амерыкі зачапілася за жыццёвую глебу і пусціла карані ніштаватая эміграцыя з Беларусі, і — як першую ластаўку жывой і порсткай нацыянальнай самасвядомасці ў XX стагоддзі — беларусы падтрымлівалі кіраўніцтва Рады БНР у эміграцыі, перыядычна збіраліся на з’езды, прынамсі, ведалі ўжо, дзе хто з іх жыве, пра што дбае, якую мае думку, апінію. У кожнага з іх складвалася свая біяграфія, але толькі для многіх людскіх біяграфій быў характэрны адзіны лёсавызначальны зрэз: непрыняцце таго, што ў грымотным агні валачылася з усходу.

У горадзе Балтымор, а гэта непадалёк ад Вашынгтона, жыў, між іншым, беларус Васіль Мельяновіч, жывы, наколькі круглы і з таго грузнаваты, настолькі і энергічны чалавек, прыкладна яе, Марыінага веку. Ён узначальваў беларускае крыло правячай у ЗША Рэспубліканскай партыі і быў вядомы ў асяроддзі сенатараў як дасціпны і спанатраны ў грамадскім жыцці прадстаўнік беларускай дыяспары. Пры знаёмтве з зямлячкай Васіль Мельяновіч аднечага зрабіў экскурс у мінулае і распавёў Марыі, як у ягонай вёсцы, недзе таксама на Брэстчыне, энкавэдысты хціва, бы тыя ваўкалакі, вынішчалі сабак, каб потым крадком выкарчоўваць і губіць заможныя сем’і. І тады, слухаючы Мельяновіча, Марыя дзіву далася: як усё супадае з тым, што ёй давялося перажыць! Значыць, гэтак рабілася скрозь.

Успамін яшчэ раз ускалыхнуў у душы жанчыны тое, да чаго ёй дакранацца не хацелася. У Амерыцы яе любімым выслоўем стане: «Калі не можаш памяняць абставіны, змяні свае адносіны да іх». Вось толькі з памяццю сваёй Дзямковіч нічога зрабіць не магла.

Аднойчы доктару Марыі патэлефанавала сястра Кульбеды, таго мотальскага, прыгадаем, хлапчука-гімназіста, у якога ў дзяцінстве Раманавічанка была ўлюбёная. Яго сястра жыла акурат у Піцбургу, а сам Іван — у Кліўлендзе штата Агайя, гэта значыць, па суседству; ён час ад часу прыязджаў да сястры ў Піцбург, і Марыя не магла адмовіць ім у сустрэчы, але, каб не адчуваць вострага, хоць і ўдаўнелага, болю, маркоты, прасіла іх пра Моталь нічога ёй не гаварыць. А Кульбеда — ага! — на эміграцыі зрабіўся прафесійным фатографам і, поўны гордых пачуццяў, ездзіў на доўгай, бы крэйсер, шыкоўнай машыне «Лінкольн», праўда, яна была ўжо не новая.

Яны зрэдку сустракаліся як сябры, пілі каву, абменьваліся навінамі; а час неўзабаве пацягнуў нізку падзей зусім нечаканых. Увагу Марыі прыцягнулі тэлеперадачы пра перабудову ў Савецкай Расеі, у СССР... Было цікава паслухаць, як што на парадак дня ставіліся зусім чалавечыя задачы. Яшчэ большую цікавасць і, напэўна, трывогу ў доктара Марыі выклікалі ведамкі адтуль пра аварыю на Чарнобылькай АЭС, а потым — пра путч гэкачэпістаў. І ўжо зусім неверагоднае: нарэшце! — нарэшце СССР, той самы СССР, дзе камуністы папілі столькі чалавечай крыві, рухнуў!

Спакваля вярталіся думкі туды, на родную для яе глебу, на Беларусь і ў Брэсцкае Палессе, у Моталь: а што там цяпер робіцца?.. Але ж, праўду казаць, на гэтым яна лішне не засяроджвалася.

Аднойчы Ваня Кульбеда патэлефанаваў ёй і, сам таму радуючыся, падаў навіну: у Кліўленд прыбілася спадарыня Вацлава Вярбоўская — не то журналіст, не то рэжысёр тэлебачання з Менску — яна асталявалася ў ягонай кватэры. Пытанні, пытанні... І што, браце, з гэтага вынікае?.. Вярбоўская ж асвойталася, вывучыла за пэўны час беларускі асяродак у горадзе Кліўлендзе і цяпер просіць яго навязаць ёй сустрэчу ў Піцбургу з маталянкай Дзямковіч. А на якое ліха яна ёй?..

Марыю раптоўна як токам працяла — ад непакою, трывогі. Яна нікога не хацела бачыць адтуль, з краіны, пахаванай для яе назаўжды. Так яму, свайму земляку, і адка-

зала тое, чаго ён не хацеў... Але ж Кульбеда не ўспрыняў яе словы ўсур'ёз і праз тыдзень тэлефануе, маўляў, ён разам з Вацлавай вяртаецца з Нью-Ёрка ў Кліўленд, і па дарозе, акурат цераз Піцбург, яны маюць намер заехаць да яе; сказаў — як звязаў. Адмаўляць ім у візіце ўжо было б нетактоўна, і Марыя прыняла нежаданых гасцей.

Знешне спадарыня Вацлава аказалася самой ветлівасцю. Прыязная, гаваркая, інфармаваная пра падзеі на тым баку акіяна, яна, як каскад цёплых пачуццяў, свежых думак, мрояў, ідэй, летуценняў, абрынулася на Дзямковіч, і тут штосьці адбылося, штосьці скранулася з мулкага месца, і акурат з гэтага моманту душа Марыі, прыхопленая калісьці мотальскім зазімкам, паступова пачала адтайваць.

Доктара Марыю з яе адмыслова прачулым сэрцам зацікавіла медыка-экалагічная сітуацыя ў Беларусі пасля чарнобыльскай катастрофы, і яна пачала назапашваць медыкаменты і пакаваць паціху пасылкі туды. Перадавала іх такому ж рупліўцу, беларусу Сяргею Карніловічу з Кліўленда, які збіраў і перапраўляў гуманітарную дапамогу ў Беларусь. І, дбаючы пра пацярпелых людзей на радзіме, яна зноў спакваля набывала радзіму.

Але толькі пасля перажытых пакут на Бацькаўшчыне, гэта быў учынак добрай, рэдкай, шчырай душы.

Смеласць і мужнасць спатрэбяцца Марыі Дзямковіч, каб неўзабаве самой наведаць Беларусь і роднае мястэчка Моталь.

У Мінску, сталіцы Беларусі, яна перадасць дзіцячай чацвёртай бальніцы і іншым медычным установам багата лекаў, а потым, наведаўшы клініку Інстытута радыяцыйнай медыцыны і кардыялогіі знойдзе праблемы, каб далей засяродзіцца на іх вырашэнні, аказваць таму з-за акіяна падтрымку. Яна выступіць ініцыятарам супрацоўніцтва піцбуржскіх дактароў, вучоных з беларускімі калегамі, яны разам з доктарам Томасам Фолі заснуюць у Піцбургу дабрачынную арганізацыю «Belarusian-American Child Care Inc.»

Па прыездзе ж у Моталь Марыя адчула сапраўдны шок, які тут, у эпілогу, цяжка і вытлумачыць. Вядома, радавалі сустрэчы са стрыечнымі сёстрамі, у постацях якіх цяпер цяжка было і прызнаць ранейшых дзяўчынак, — гэта ж ім яна разам з дзедам і бабай пакавала пасылкі ў далёкую далеч. Праз колькі год пасля вайны яны вярнуліся з казахскіх стэпаў на Бацькаўшчыну... Апроч іх, у Мothalі яна сустрэлася са многімі сваякамі, суседзямі — жывымі,

хоць і састарэлымі, з нязменна кашчавай, высокай, трывалай Аленай Германкай, са школьнымі сяброўкамі Марыяй Васілевіч — яна жыла цяпер ў Пінску, рабіла швачкай, і Ганнай Кульбедай, якая прыехала да яе на сустрэчу з Закалля. Ганна мела добры розум, шчодрае сэрца. Яна звекавала свой век цялятніцай на калгаснай ферме і з таго мела ўцеху.

Марыя радавалася ўсім ды раздавала гасцінцы і — сам-насам, у нейкім кутку — долары, падбірала лекі, смяялася, выцірала светлыя і журботныя слёзы, аднак глыбей — у душы, застыглай, спакутаванай, — як паралізавала пачуцці, і мо таму ў шокавым стане на магілцы дзеда яна нічога больш не адчула. Не адчула нічога і на дзедавай або радзіннай сядзібе, дзе на месцы будынка вызначалася роўная, свежая і пакуль не парослая нават травой пляцоўка. Тож мясцовыя ўлады, вышкаленыя камуністамі, прачуўшы, што на гэтую сядзібу нібыта меціць прыехаць «амерыканка» — дачка Барыса Рамановіча, — даручылі механізаванай брыгадзе разбурыць пусты мур Пісарчука, хоць ён нікому і не замінаў. А раней жа, у цяжкія пасляваенныя гады ў ім размяшчаўся дзіцячы прытулак, затым пэўны час жылі настаўнікі.

І не без падстаў, напэўна, куеўдзіўся страх у душы Марыі — нехта ж з фанатаў драпежнага і пабуранага нядаўна рэжыму мог выстраліць у «амерыканку» на вуліцы або кінуць палку... Так падказвала госці яе інтуіцыя; можа, памылкова — хто скажа? Данік Плюнгер, праўда, зжываў свой век, пакінуўшы камандныя пракамуністычныя вышыні ў Брэсце, і там ягоны побыт улагоджвалі да апошніх дзён не страціўшая сваёй мілавіднасці Юлька Жупанка, а таксама чырвонае скірмунтаўскае золата ў сервантах, — прагны век, прагны метал... Толькі ж гэта ўжо было па-за полем зроку Пісарчуковай унучкі.

Нарэшце, у Піцбургу, дзе яна працавала, надышоў час і ёй развітвацца з лекарскай службай, афарміцца на пенсію. Марыя Дзямковіч, каб не сумаваць залішне, купіла мальберт, пендзлі, фарбы... І першыя ж заняткі жывапісам паказалі ёй і яе блізкім, знаёмым, што яна мае пэўныя шанцы на поспех. Ды толькі ж ці магла заўжды руплівая і чулая-прачулая пані Марыя адрынуцца ад справы, якой раней служыла, ад сваіх ранейшых сувязяў, сяброў, партнёраў дзеля актыўнага ўдзелу ў жыцці, дзеля помачы людзям, сваім і чужым? Не, двойчы, тройчы — не!

Таму дома яе пакоі па-ранейшаму будуць ператварацца ў склады лекаў, розных сродкаў санітарыі, адзення... Дзесяткі і сотні пакункаў спакуе для добрых людзей. Медычная апаратура і медыкаменты пойдуць адсюль таксама ў Мотальскую бальніцу... Да прэзідэнта ЗША і кангрэсменаў дойдзе, каб звярнуць іх увагу на чарнобыльскую бяду-злыбяду і заручыцца іхняй падтрымкай, спагадай да Беларусі. Эліз цяпер будзе толькі дзівіцца, гледзячы на сваю варушлівую маці. І мамчын няўрымслівы дух, імпэт, скіраваны на ахвяраванне, бескарыслівае служэнне людзям, не-не дый захопіць яе таксама, і яна час ад часу набывае і прыносіць у дом тыя ці іншыя рэчы: «Мам, глядзі, якая прыгажосць і як танна я купіла! Бяры, нехта дзякуй скажа!».

Эліз скончыць сваё навучанне ды стане адмысловым спецыялістам па электронных тэхналогіях, возьме шлюб з перспектыўным дзелавым чалавекам, годным амерыканцам. Праўда, жыць яны будуць ужо не ў Піцбургу, як што спатоленая працай доктар Марыя набудзе па сходнай цане сядзібу ў 20 кіламетрах ад Вашынгтона, і ўсе яны разам асталююцца ў дамку ў два паверхі са светлымі вокнамі і ўмаяваным лужком, што прылягацьме да яго. Тут неяк па-новаму ўжо будзе цешыць і радаваць маталянку Марыю ўнучка Стэфанія, — прапраўнучка дзеда Пятра, а яе ўнучка, юная, гожая амерыканка... Такое тут разгалінаванне.

Ці прачытае малеча Стэфанія калі-небудзь гэты раман? І ці будзе ведаць яна, што ў яе бабулі Мэры — Марыі, калі яны разам каля дому ўзімку таптаді белы снег, лёгкі, пушысты, надараліся цяжкія прывіды: перад ёй ляжаў без прытомнасці ахалонуты ўжо святы чалавек, таму ўсё нутро яе сціналася ад жалю і болю.

А што яшчэ будзе азмрочваць жыццё Марыі ў новым доме пад Вашынгтонам, дык гэта ўсведамленне таго, што на радзіме яе, у краіне, якая ў вадавароце падзей закружылася і пайшла-пабрыла насупраць плыні часу, так нічога ні ў чым і не змянілася. Ніхто не даходзіць пакуль мінулага, не робіць высноў, няма каму ў нечым нядобрым, аспідным звініцца, і, па гэтай адмысловай прычыне, — што было, зноў можа грымотнай хмарай найсці.

Цяжка жыць без гонару за сваё котлішча, за сваю зганьбаваную Бацькаўшчыну. Але ж, нягледзячы на ўсё, цягне яе сюды з неадольнаю сілаю, і, бытта вырваная з цела душа, яна сумуе па сваім адвечным — па Беларусі. Сум, праўда, як і хмарнасць, сплывае, і на чыстым абсягу ў душы ўста-

лёўваецца надзея: усё будзе добра — будзе добра, бо вернецца ўрэшце натуральная хада падзей, прыйдуць новыя людзі — іх генная, іх гістарычная памяць ды чыстыя высакародныя подумкі дазволяць уратаваць Беларусь.

Надзея лучыцца з марай, і Мэры... Марыя... Маня бачыць зямлю, якую басанож таптала ў дзяцінстве і з якой пайшлі літвіны, яе дзед — дзяды, яе прадзеды, што ўтварылі супольнасць, народ, — бачыць гэту зямлю ў атачэнні нашчадкаў заможнай, шчаслівай.

То жыцьме ж краіна!

## ЗМЕСТ

**Якавенка В.**

Я 47 Надлом. Раман. / Васіль Якавенка. — Мн.: «Беллітфонд», 2003. — 528 с. («Беларускі гістарычны раман»).

**ISBN 985-6576-05-9**

Раман «Надлом» — твор псіхалагічны, жывы, увабраў у сябе шмат падзей і багата чаго закранае. Ён прысвечаны драме і трагедыі беларускага нацыянальнага адраджэння, неаднаразовыя спробы якога былі ў XX стагоддзі. Сярод персанажаў твора шмат рэальных гістарычных асоб, якім собіла аказацца ў віры эпахальных падзей.

У цэнтры ўвагі аўтара радзіна Пятра Пісарчука, жыхара заходнебеларускага мястэчка Моталь. Менавіта праз яго сям'ю, яго сыноў і ўнучку Марыю раскрываецца пакручасты лёс пакаленняў.

Праўдзівасць, навізна і выразнасць мастацкага палатна прымушаюць думаць, што аўтар самахоць ідзе па цаліку і ўздымае скібы, якіх ніхто з яго папярэднікаў, бадай, яшчэ не кранаў.

**УДК 882.6-31**
**ББК 84 (4 Беи) 6**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Якавенка** Васіль Цімафеевіч

Надлом

Раман

Рэдактар М. Кенька
Мастак М. Казлоў
Тэхнічны рэдактар Г. Сармант
Карэктары В. Балвановіч, Н. Дзянісава
Набор і вёрстка Л. Ваўчок

Падпісана да друку з дыяпазітываў заказчыка 4.02.2003.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Афсетны друк.
Гарнітура SchoolBook. Ум. друк. 27,72 арк.
Ул.-выд. 26,34 арк. Наклад 1000 асобнікаў. Зак. 2827.

ГА «Беллітфонд».
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5. Ліцэнзія ЛВ № 364 ад 03.02.1999 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

